ББК 84 Бел7
Б 81

Для старэйшага школьнага ўзросту

Мастак А. М. Кашкурэвіч

Один из героев нового романа писательницы Таисии Бондарь пытается создать портрет просветительницы XII столетия Ефросиньи Полоцкой. В романе постепенно создается картина сложной, полной драматизма жизни далекого XII столетия, события которой благодаря излюбленному автором приему ретроспекции определенным образом сливаются с размышлениями, чувствами и делами наших современников.

$$Б\frac{4803120201-112}{М\ 307(03)-89}47-89$$

ISBN 5-7880-0177-3 

**Няма ў цябе, чалавек,**
**нічога, апроч душы!**

***Піфагор Самоскі***

# I

— Алё! Рэстаўрацыйныя майстэрні? Барыса Суляціча... Няма? Не падкажаце, дзе яго можна папытаць? У Полацк збіраўся? Дзякуй. Не казаў, калі вернецца? А каардынаты якія-небудзь... Што ж, бывайце здаровы!

— Міжгорад? Полацк мне патрэбны. Тэрмінова. Угу. Які там нумар, не ведаю. Гарвыканком! Так, гарвыканком, галоўнага архітэктара... Позна? А-а-а! Прабачце, дзяўчаты.

Не павярнуўшыся на стук занадта рэзка апушчанай тэлефоннай трубкі, Глеб ідзе да кніжнай паліцы: павінна ж было ў яго быць што якое па Старажытнай Русі! Мала-многа, а што якое знойдзецца, няйначай, каб даказаць... Рукі ліхаманкава перабіраюць кнігі, позірк скача з пераплёту на пераплёт — усё не тое. Не тое!

— Чаго ты мітусішся, стары? Што ты хочаш мне даказаць?— лена пацягваючыся ў крэсле і крыху ў нос, павольна вымаўляючы словы, звяртаецца да яго раздабрэлы і не па гадах модна — мадэрнова, як сёння кажуць,— апрануты мужчына: у шасці-сямі месцах перашчыкнутыя маланкамі джынсы і гэтакі ж джынсавы брыль, які хвіліну назад прыкрываў шырокую, праз увесь чэрап, плешыну, а зараз, зморшчаны, ляжаў на калене, высока вытыркнутым над нізкім столікам пабач, шчытна прылеглая да цела кашуля са шматлікімі металічнымі зашпількамі скураная куртка з усялякі-

мі кішэнямі і кішэнькамі казалі за тое, што іх гаспадар належаў да творчай інтэлігенцыі, а запаволены і крыху ў нос «пранонс» — удакладняў: належаў даўно і таго-сяго ў жыцці ўжо дамогся. Справядлівасць вымагае сказаць і пра твар яго, няхай сабе нічым і не адметны, але даволі выразны: круглашчокі, з маленькімі, вечна прыжмуранымі вочкамі і тлустым бясформенным носам, але твар Кіцына (а гэта ён, вядомы на кінастудыі рэжысёр Місь Кіцын, сядзеў у Глебавым пакоі) Глеба не цікавіў, таму на дэталях можна не спыняцца.

— Што ты можаш мне даказаць?— гэтак жа абыякава ўдакладніў Місь сваё пытанне і паказаў Глебу на крэсла.

Глеб, паслухмяна адмахнуўшыся ад свайго намеру знайсці патрэбную кнігу тут жа, у гэта ж імгненне, падсунуў крэсла нагой і прымасціўся на крайку яго.

— Ты не разумееш, Місь. Для мяне гэта — пытанне гонару. Пытанне жыцця, калі хочаш.

— Божухна, бацюхна...— забыўшыся на свой «пранонс», вылаяўся той.— Гэта — работа, стары. Работа! Сцэнарый ёсць. Яго трэба дацягнуць. І ўсё. І не блытай божы дар з яешняй.

— З якой яшчэ яешняй?

— З дыетычнай, чорт вазьмі.

— Пайшоў ты...— агрызнуўся Глеб.— Я табе як сябру, а ты...

— А што — я? Д'яблу бацькам даводжуся?— перакінуў той нагу, нацягнуўшы свой джынсавы брыль на другое калена.— І я табе тое скажу, што і Дубец, хоць і не хадзіў ніколі ў рэдактарах. Адзінаццатае... няхай дванаццатае стагоддзе... Занадта аддаленыя ад нас часы, каб спрачацца аб гэтым сур'ёзна. Ужо ж, гісторыя ўяўляе цікавасць для кінематографа: каса, зборы... Не духам, як кажуць... Але ж якраз гэтага, стары, ты і не ўлічыў, не хочаш улічваць.

— Не хачу! — адрэзаў Глеб.— Абрыдла, разумееш? Ведама ж, мэта: гісторыю гэткім сучасным баевікоммюзіклам зняць! Звон мяча, чары з мёдам, паляванне на зубра, красунь паланянак усім падавай! І смерць! — мноства эфектных смярцей дзесьці ў глыбіні сцэны, у такой глыбіні, каб і ўспрымаліся як старыя выцвілыя дэкарацыі, наноў афарбаваныя крывёй... Ну, не! Досыць. Сыты я па горла пылам гэтых дэкарацый. Я — чалавек — хачу ўбачыць, пазнаць чалавека, брата свайго, на далёкіх скрыжалях гісторыі. Я, бяспамятны, хачу нарэшце ўспомніць даўно мінулае, знайсці ў ім свае карані. І свае пакуты. І свае спадзяванні. Няхай сабе ўсё, чым валодаю,— вера ў сваю задуму, першую, вартую чаго-небудзь задуму.

— Брава! — тэатральна звёў колькі раз бязгучна далоні Кіцын.— Брава, стары. Ты, я гляджу, у героі тутэйшыя меціш. А мне, прабач, не герой патрэбен, а сцэнарый. Сцэнарый, па якім можа быць зняты фільм. Мой фільм, стары. І калі ты вычарпаў сябе і шукаеш лекі ад духоўнага малакроўя...

— Гэта ў мяне — духоўнае малакроўе?! — упіўся пазногцямі ў крэсла Глеб, спрабуючы заглынуць крыўду.— Гэта я — вычарпаў сябе? Ды я яшчэ і не чэрпаў з душы, яшчэ нічога не зрабіў так, як мог і павінен быў бы. Не зрабіў, бо скрозь, як уплішчыўся ў гэту справу, на ўсіх змушаны быў азірацца. «Тут трэба падцягнуць, стары... Гэтак не пойдзе. Не, стары, хто ж гэта сыграе?» І — падцягваў, падыгрываў! Ляпіў ролі для таго, для другога, для трэцяга... Збрыдзеў сам сабе, разумееш?

Абурэнне паціху саступала злосці, і гэта суцяшала: калі злосць пякла, тузала, мучыла, то потым абавязкова выльецца ў работу, у літары, у словы, якія кінуцца ў наступны злосны наступ на даўно задуманае, на, здавалася, даўно знойдзенае для сябе. Для сябе і для

мастацтва, што б там ні казалі Кіцын і яму падобныя. Рэжысёр, ты ж разумееш! Сааўтар!

Абурэнне паціху саступала злосці, злосць астуджвала словы, і як гэта ні дзіўна, нават супакойвала. Вось жа і сядзеў ужо Глеб не на крайку крэсла, а свабодна, мякка прыхінуўшыся да яго спінкі і ў лёгкай позе закінуўшы нага на нагу, вось ужо і блакітна-шэрыя колцы цыгарэтнага дыму не засцілі больш позірк, а ціха пагойдваліся над ім і раставалі ў паветры, пакідаючы знаёмы, звыкла гаркаваты пах.

Знешне спакойным, нават абыякавым заставаўся і Кіцын, толькі вочкі зусім схаваліся ў прыжмуры, толькі пульхныя пальцы, як не выціскаючыся з трох шырокіх пярсцёнкаў, злёгку ўздрыгвалі на напятай каленам макаўцы брыля.

Канечне, і адзін і другі маглі б і не стрымліваць сваіх пачуццяў — тады б як не ўсе словы вылілася ў звыклую для любога вуха лаянку, але абодва былі ўсё ж людзьмі зацікаўленымі адзін у адным і таму маўчалі.

Міг-другі — і гаворка пачалася спачатку.

— Сцэнарый у гэткім выглядзе не можа быць прыняты, стары,— з паблажлівай усмешкаю першы азваўся Міська.— І ты гэта ведаеш не горш за мяне. Не было ў гераіні выразнай любоўнай лініі, кажаш? Прыдумай. Зрабі яе выразнай. Усе мы па пояс людзі. І хто будзе глядзець фільм, у якім гераіня адно перапісвае старыя кнігі і разважае пра свой род, а? Хто? За сцяной у восемсот — восемсот гадоў, стары, падкрэсліваю! — пустыня. Мёртвая пустыня, якую нам належыць ажывіць. Ажывіць, а не штосьці там вытлумачваць.

— Гісторыя для цябе — пустыня? — ледзь утрымаў сябе ў крэсле і ў рамках гаворкі Глеб.

— Гісторыя не вытлумачвае ні прыроды, якая існавала значна раней да яе, ні хараства, якое на ўзровень, калі не на ўсе некалькі ўзроўняў, вышэй. І таму

адвергла, адпрэчыла іх. І таму бясплодная, як пустыня. Гэта азбучная ісціна, стары.

— Што ж. Хай так. Але ж як і ад пустыні, так і ад гісторыі мы не можам адвярнуцца. Мы жывём з імі. Мы павінны лічыцца з іх сілай. З сілай! А сіла — толькі ў жывых. Пустыня? Хай так. Але ж і пустыня не мёртвая. Не мне табе казаць, Місь. Хіба ты не ступаў на яе рухомы, сыпучы пясок, хіба не захлынаўся яе спякотным дыханнем, не імкнуўся ўцячы ад яе ашаламляльна блізкіх, жывых міражоў? А гісторыя? Колькі босых, проставалосых ідэй, вучэнняў, вераванняў, прароцтваў блукае па яе сцежках, асветленых адной адзінай паходняй, а то і не асветленых, так, усляпую, пакуль не натыкнуцца да таго, хто не адпіхне, хто паспрабуе зразумець.

— І што ж? Пры чым тут кінематограф? — нецярпліва тузануўся ў крэсле Кіцын, але «прононс» застаўся па-ранейшаму інтэлігентным.— У цябе, стары, канкрэтная сітуацыя, канкрэтная, задужа канкрэтная гераіня: магчыма, гэта і перашкаджае...

— Каму перашкаджае?— не стрымаўся Глеб.— Табе?

— Сцэнарый патрабуе дапрацоўкі. Прабач, стары, але ні да якой іншай думкі сёння мы не дойдзем,— нацягнуў свой брыль той і падняўся.— Думаю, ты і сам разумееш, што пакуль што ўсё гэта,— сагнутым пальцам пастукаў ён па стосе папер,— не кінематаграфічна. Трэба пра акцёраў падумаць.

— Пра акцёраў?— падняўся і Глеб.— А чаму я павінен думаць пра акцёраў? Я — разам з акцёрамі, разам з табой, рэжысёрам,— хачу думаць над гісторыяй свайго роду, свайго народа і знайсці сваё месца ў ёй, у гісторыі. Думаць. І тым супрацьстаяць таму страшнаму, незваротнаму, што можа абрынуцца на ўсіх нас.

— Ну-ну-ну!— развітальна паляпаў яго па плячы

Місь.— Думай-думай, стары. Але сцэнарый мне патрэбен цераз месяц. Не пазней.

Памкнуўся ўслед за ім і Глеб, але яго запыніў тэлефонны званок.

— Ева? Не, чаму? Табе здалося. Я рад. Толькі я працую... Я сам табе пазваню! Калі? Не ведаю. Праз пару гадзін. Ці мо праз пяць хвілін...

Ён непрыязна зірнуў на тэлефонны апарат, адсунуў яго далей і паспрабаваў вярнуцца да сваіх разважанняў, аднавіць іх рэчышча. Але Місь пайшоў, і думкі як згаслі. Пацёр пальцамі скроні і рашуча накіраваўся на кухню гатаваць каву.

Першы ж глыток, пасля якога на губах застаўся прыемна гаркавы прысмак, прынёс палёгку. Проста — трэба ўсё пачаць спачатку. Парваць не адной рукой рэжысёра пакрамсаныя шматкі сцэнарыя і пачаць спачатку. Наноў. Усё наноў! Адкінуць аспрэчаныя сумненні і ісці праз сябе — праз сваё. Заўсёды былі два роды, два тыпы людзей. Адзін, шматлюдны, да якога адносяцца тыя, хто можа жыць і жыве толькі пэўным момантам, толькі сваім жыццём, без мінулага, без продкаў, з'яўляючыся вернымі, надзейнымі звеннямі таго ланцуга, які мы называем то часам, то вечнасцю,— і няма ў іх ні страху, ні цікавасці да таго, што так страшна саслізгваюць у бязмежжа, у бязмежнасць, і пачатак і канец гэтага ланцуга. Другі ж, малы, складаюць людзі мары, сузірання, здзіўлення сабе і свету, якія прагнуць растварыцца, знікнуць у вечнасці, пакінуўшы нашчадкам сваё імя, і разам з тым не могуць не тужыць, не жалкаваць аб усім тым, што дазволена кожнаму, што поўна чаруючай прывабнасці жывога, існага... Іх, другіх, не так многа — адзінкі. Але гэта зусім не азначае, што не за імі, не ў іх — праўда. Вось хоць бы і яго, Глебаву, гераіню ўзяць...

— Ат, чорт! Я ж сказаў... Я працую. Пра-цу-ю!

Кінуўшы трубку, Глеб адключыў тэлефон і нервова

пацёр кончыкамі пальцаў скроні. Потым як згадаў, што хацеў зрабіць, і адным узмахам рукі змёў са століка на падлогу ўсе паперы. Гэтага здалося недастаткова. Тады ён зграб, скамячыў спісаныя, скрэмзаныя аркушы ў адзін камяк, занёс і ўціснуў яго ў вядро са смеццем. Пастаяў з хвіліну над вядром, сілячыся ўспомніць яшчэ штосьці важнае, штосьці неабходнае ў гэты момант, і толькі рэзка ўзмахнуў рукой — як адсек усе сумненні разам. Трэба было пачынаць спачатку. Наноў.

«Вецер, зляцелы на горад нечакана і немаведама адкуль, трапіў у яго каменную пастку і шалёна кідаецца на сцены дамоў, б'ецца ў вокны, прыкрытыя аканіцамі, у цяжкія дубовыя дзверы — свіст, гул, бразгат, шалёныя завыванні заглушаюць усе гукі. Быццам і няма ніякіх гукаў, апроч гэтага гулу, апроч гэтага свісту. Вулачкі, то шырэйшыя — бліжэй да Святой Сафіі і замчышча, то вузкія і пакручастыя — бліжэй да вала, як вымерлі, ператварыўшыся ў бурныя патокі ветру, пранізліва-ледзянога паветра, якое не пагойдваецца, не цячэ, а ў імклівым, нястрымным кіпені ляціць, ірвецца, каб праз колькі парываў там, дзе ўзвышаецца гордая будыніна сабора, са стогнам разбіцца аб яго тоўстыя муры і злоснымі, але ўжо бяссільнымі ўсплёскамі рассыпацца, не дастаўшы залатога крыжа.

Цёмная, чорная дзвінская вада. У яе страшным, пабітым, паколатым хвалямі люстры на міг-другі трывожна скалыхнецца светлы адбітак сабора, і зноў сыходзіцца над ім чорная тоўшча вады, і чорная тоўшча паветра, наўсцяж да самага небасхілу.

Ні душы на ўвесь горад. Ні агеньчыка. Бо калі і асвяцілі гараджане сваё жытло — хто запаліўшы свечку бліжэй да абразоў, хто запаліўшы лучыну бліжэй да прыткнутай да сцяны прасніцы, то гэтак баязліва, хаваючыся,— як ад праклёну неба, хаваючыся ад лютай непагоды за вокнамі, што святло нідзе не прабіва-

лася з аконных шчылін. Людзі баяліся. Баяліся і маліліся хто як умеў і ведаў, каб не пайшла Дзвіной вада вялікая з мора і не затапіла ваколіцы, не затапіла людзей, і дамы іх, і гумны іх, як чатыры леты таму, калі адышоў князь Барыс і неба гора на іх зямлю наслала. Усё ж да таго ішло: цямрэча яшчэ па дню, шалёная віхура, свіст і завыванні яе.

Асмеліўся б, здаецца, хто-небудзь высунуць зараз на вуліцу нос, а тым больш выйсці, ступіць насустрач гэтаму шалёнаму кіпенню,— жахнуўся б і надвор'ю і сваёй смеласці. Кроку не зрабіць, каб не трэба было прабіваць, ламаць ледзяны націск ветру, павекі не разляпіць, каб зірнуць, каб разгледзець, за што ўчапіцца, як захінуцца.

Жах, жуда яшчэ ўзрасталі, калі з-за тоўшчы змроку, з-за хмар выслізгваў раптоўна сплюснуты, вышчарблены, раз'едзены ржой холаду месяц і цьмяным, мёртвым сваім ззяннем на міг заліваў пусты горад. Мёртвы зараз горад, бо нідзе нішто жывое...

Месяц, задзьмуты новым шалёным павевам ветру, зноў цьмяна выблісквае, выдзіраецца з хмары і застывае, пачынае круглець і наліваца яркасцю: паўз самыя сцены па адной з вулачак, якая вядзе ўніз ад Святой Сафіі да манастыра, прадзіраецца праз вецер хтосьці невялічкі, слабы — вецер раз-пораз адкідвае яго ад адной сцяны да другой, хтосьці мужны, моцны целам і духам — вецер усё ж не можа загарадзіць яму дарогу і крок за крокам прапускае яго, адпускае. Калі яшчэ раз выблісквае ў разрыве хмары месяц і якраз у гэты момант вецер расхінае, вырываючы з моцна сашчэпленых рук цёмнае карзно, падобнае на сутану з нагалоўнікам, загадка перастае быць загадкай: гэта — маладая князёўна, дванаццацігадовая дачка князя Георгія Усяславіча Прадслава...»

Глеб падхапіўся з крэсла, матлянуўся на кухню, невідушчым позіркам агледзеў стол, падаконне, шукаючы цыгарэты і запалкі. Згадаў, што яны там жа, у пакоі, у попельніцы, якую ён ставіў на падлогу, побач з крэслам, і вярнуўся. Вярнуўся ўжо няспешна: рухі яго спакваля і незаўважна запавольваліся, пакуль не аціхлі за якіх паўкрокv ад крэсла, ад століка і раскіданых на ім аркушаў паперы, спісаных яго буйным, парывістым почыркам. Мінула хвіліна-другая. Калі чыркнула і ўспыхнула запалка і глыбока ўдыхнуты цыгарэтны дым нечакана перасеў у горле, вырываючыся кашлем, думкі Глеба былі далёка.

Вецер яшчэ мацней, ён гоніць,з бразгатам валачэ па бярвеннях вулічнага насцілу ўсё, што мог сарваць, адарваць, зрушыць, і Прадслава прасоўваецца насустрач яго патоку павольна. Ёй часам здаецца, што цэлая вечнасць мінае — мінула ўжо — з той мінуты, як яна выслізнула за дзверы. З самага першага кроку змагаецца яна з непагаддзю і са страхам, бо хоць і не перастае маліцца ўсявышняму, хоць і верыць, што робіць угодную яму справу, а страху да канца пазбыцца не можа: не-не і ўздрыгвае ўсім целам, дрогкім, стомленым, не-не і азірнецца назад, на Сафію, тройчы перахрысціцца, прашэпча: «Не пакінė бо гасподзь наш праведнага...» Няма спалоху ў яе вачах, толькі сэрца зрэдчас сцінаецца, ператвараецца ў халодны камячок болю: непагадзь гэта, віхура гэта — кара за тое, што няма міру сярод людзей, за грахі іх...

Гоніць ад сябе страх Прадслава, гоніць згадкі пра сон, убачаны напярэдадні, а ці ж ільга яго адагнаць, калі ў сне гэткая ж навала на горад абрынулася, як зараз, і яшчэ большая: вада вялікая па Дзвіне наўстырч пайшла, землі шырока ўкруг затапіла — плач і стогны адусюль чуліся, нават трывожны гул званоў іх не заглушаў. Званар, глухі Ясь, званіцу не пакідаў, а ўслед

за павадкам новая бяда ўжо стаяла пад сценамі Полацка: восем князёў на чале сваіх дружын гораду пагражалі, крывавай сечы прагнулі. І палілася кроў, і запалалі дамы, і сярод папялішчаў на плошчы разрабаванага горада моўчкі, без малітвы, стаяў гарадскі люд, калі паўз натоўп яго ішлі князі, увесь род Усяславічаў, высланы пераможцам Мсціславам з земляў іхніх родавых. Толькі званы гулі...

— З-за грахоў нашых адвярнуўся ад нас гасподзь і пушчае на нас гнеў ярасці сваёй, а ці то віхураю, ці то полымем, ці то іншай караю, пакуль не звернемся ўсім сэрцам да яго, адзін аднаго дабратой лечачы, і літасць божая на нас не ўпадзе,— здранцвелымі вуснамі зноў і зноў прамаўляе Прадслава, адганяючы ад сябе страшныя прывіды жорсткіх трох вояў, быццам ільга іх адагнаць: не ў сне гэта адбывалася, а чатыры леты таму — сон толькі вярнуў згадкі, падштурхнуўшы яе рашучасць, яе рашэнне. Манастыр стане яе домам, у каменнай галубніцы Святой Сафіі яна паселіцца, як будзе на тое міласць біскупа полацкага, каб маліцца за ўсіх людзей, каб за ўсю зямлю сваю пакутную маліцца ўсявышняму.

Новы парыў ветру адкідвае яе да сцяны, яна сцінаецца, чакаючы ўдару, але плячо нечакана ўпіраецца ў штосьці мяккае. Што гэта вазок скамарохаў, што на яго яна ў цемрадзі натыкнулася, Прадслава здагадваецца не адразу, а калі здагадваецца, правёўшы даланёй па старым, збітым сукне і разглядзеўшы крыху правей цяжкую постаць каня, які ціснецца да агароджы, зусім па-дзіцячы радуецца: гэта ж, відаць, дайшла яна, а перастрэла пры канцы дарогі тых скамарохаў, якія пацяшалі гараджан у дзень звароту ў Полацк Усяславічаў — чаго толькі яны ўтрох не выраблялі на плошчы пад вясёлыя ўдары бубна! Асабліва самы малаРослы з іх, з бубнам у руках і званочкамі на высокай вастраканечнай шапцы.

— Хто там? Каго там носіць у гэткую непагадзь? — праз свіст ветру чуе Прадслава чыёсьці непрыязнае і прастуджанае (як певень у горле засеў) і хоча шмыгнуць міма, не адазваўшыся: грэх ужо ў тым, што спынілася і радасць у сэрцы адчула, згадаўшы іх скокі на гарадской плошчы, але чыясьці дужая рука ловіць край яе накідкі і падцягвае бліжэй да рассунутай запоны.— Чаго трэба?

— Навошта ж грубым воклічам спыняць праходжага, як няма ў тым патрэбы? Маліцца ў такую мінуту ўсявышняму душа павінна.

— Мнішка? — выпускае яе карзно гаспадар вазка.— Ідзі, божая душа, маліся. І за нас памаліся, гаротных. Мы сваю малітву ля ног госпада са смехам людскім перамешваем, бо і любой душы, а найперш душы беднага чалавека, адпачыць ад божых слоў трэба зрэдчас. А ты ідзі, ідзі. Мо праводзіць?

Бляклае месячнае святло вырывае з цемры шэрую суконную запону, скамечаную ў жмені мужчыны, яго самога, захутанага ў якуюсь занадта пярэстую пасцілку, твар яго, без бялілаў і кармінных разводаў, вельмі ўжо маршчыністы і суровы, і побач... побач з ім цікаўны тварык дзяўчынкі з белымі хвалістымі валасамі, рассыпанымі па плячах.

— Князёўна?! — пазнае скамарох Прадславу і смешна, аднымі плячамі і галавой, кланяецца.— Адна? Тут — у гэткую непагадзь?

— Мне ў манастыр. Бывайце! Жывіце з мірам,— заспяшалася Прадслава і, не пачуўшы, адчуўшы, што той выбраўся з вазка і памкнуўся следам, павярнула галаву.— Не хадзіце за мной.

Чамусьці была ўпэўнена, што ён паслухае — праз новы націск шалёнага ветру і зноў пагусцелы змрок пачуе і паслухае. «Жывіце з мірам!» — яшчэ раз жадае ім у думках, раптам пацяплелых і цяпер ужо зусім бясстрашных, і быццам зноў на міг бачыць цікаўны

тварык дзяўчынкі з белымі хвалістымі валасамі, рассыпанымі па плячах, і стомленай, якойсьці хворай усмешкай. Пад высокай востраканечнай шапкай са званочкамі гэта ўсмешка была іншай...

Удары більніцы ў манастырскую браму з-за свісту ветру яна і сама не пачула і таму яшчэ і яшчэ раз стукае, хрысцячыся і прыпадаючы лбом да халодных дубовых дошак. Яшчэ і яшчэ раз. Калі брама прачыняецца і парыў ветру тушыць полымя каганца ў руцэ немаладой (адно гэта і паспявае яна заўважыць) манахіні ці мо брамніцы, Прадслава таропка абзываецца:

— Прашу даць мне прытулак у манастыры і правадзіць да маці-ігуменні, укленчыць перад якой я прагну ўсёй сілай душы маёй.

І з палёгкай уздыхае, пачуўшы ў адказ:

— Хто б ты ні была, сястра, уваходзь і памаліся нашаму заступніку, бо не мы, а ён дае табе прытулак у манастыры, як любому, хто не закрывае сваё сэрца ад бога і слова божага.

Яны ідуць доўгім калідорам, у канцы якога цьмяна свеціцца толькі нешырокая палоска святла з-пад няшчытна прычыненых дзвярэй, і манахіня колькі раз нягучна, крыху расцягваючы словы, прамаўляе: «Асцярожней, сястра». Прадслава кожны раз схіляе галаву і шэпча, шэпча, хоць вусны яе моцна сціснуты: „Vita, dulcedo, et spes nostra salve, Adte, clamanus, excules filti Evae, Adte suspiramus gementes et flentes...“ І зноў: «Жыццё, насалода і надзея наша, слаўся. Да цябе мы гукаем, адпрэчаныя сыны Евы. Па табе смуткуем, галосячы і плачучы...» Не змагла б растлумачыць, чаму загучалі ў ёй раптам словы гэтай лацінскай малітвы, хутчэй не да бога, а да жыцця звернутыя, ды яна і не ўсведамляе гэтага адразу, бо як толькі ўсведамляе — малітоўным рухам падносіць да лба руку.

— Асцярожней, сястра. Праходзь. Укленчы перад маці-ігуменняй!

А Прадслава ўжо стаіць на каленях: ледзь парог пераступіла — ногі звялі, калені падкасіліся, галава да самай падлогі ў нізкім паклоне схілілася.

— Устань, сястра, і скажы, што прывяло цябе ў манастыр,— ласкава звяртаецца да яе ігуменне.

— Любоў да бога і людзей прывяла, маці-ігумення. Пастрыг хачу прыняць, вашага дазволу на тое прашу,— падымае да яе твар Прадслава, па-ранейшаму на каленях, з прыціснутымі да грудзей рукамі, і бачыць, як здзіўлена паўзуць угару шырокія бровы ігуменні, у свеце — князёўны Раманавай: прызнала яе! Прызнала — і здзівілася, і злякалася: жэстам адпусціла манахіню, міг-другі маўчала — ці то словы патрэбныя падшуквала, ці то малілася, і потым загадала дзяўчынцы ўстаць, падысці бліжэй.

— Князь Георгій пра тое ведаць не ведае, ці не так, дзіця маё? І двух тыдняў не мінула, як воляй усявышняга, з вялікай ласкі ягонай полацкая зямля вярнула князёў сваіх, сярод іх бацьку твайго, князя Георгія, а ты хочаш пакінуць свет, пакінуць бацьку і, адпрэчыўшы даччын абавязак свой, застацца ў сценах манастыра?

— Хіба не ўсе мы — рабы ўсявышняга, уладыкі нашага, маці-ігумення? Хіба грэх у тым, што любіш бацькоў і дзядоў сваіх, але вышэй за гэту любоў ставіш любоў да бога, бо толькі ў гэтай любові бачыш паратунак для душы сваёй і кожнай — усіх, хто жыве на зямлі?

— Не пра грэх кажу я, Прадслава, а пра зямны, даччын абавязак твой. Весткі аб розуме, які выказваеш ты ў вучобе і тлумачэнні пісанняў і кніг розных, да манастыра даўно дакаціліся. Але ў вестках тых — нямала і пра дабрату тваю, пра хараство тваё дзявочае. Хараство, якое многіх слынных князёў на любоў прывяло да бацькі твайго, князя Георгія...

— Калі вы гэта ведаеце, маці-ігумення, то ведаеце і іншае — тое, што з малых гадоў, адчуўшы ў сэрцы сваім любоў да ўсявышняга, збіраю я ў ім, у сэрцы, думкі дабрачынныя гэтак жа руплiва, як пчала мёд у соты. Адчуўшы сілу слова божага і прыняўшы яго ў жытніцу душы сваёй, адно бачу, аднаго хачу: стаць нявестай Хрыстовай і да смерці служыць яму і людзям.

— Служыць богу і людзям можна і па-за сценамі манастыра, дзіця маё, служыць тым, што кожным учынкам сваім, кожнай справай выказваць дабрату сваю і пакору,— мякка, з непрыхаваным смуткам прамаўляе ігумення, узіраючыся ў рашучы, крануты ірдзенем тварык Прадславы.

— Дзве сцежкі, маці-ігумення, сэрцу майму адкрытыя: ці выказаць пакору бацькам і, будучы прасватанай за аднаго з князёў, цярпліва несці ношу долі сваёй зямной, ці выбраць служэнне богу і слову божаму і на алтар яго прынесці любоў сваю, сілу душы сваёй. Любоўю сваёй хачу я зло і няверʼе выкараняць, словам божым хачу мір зямлі гэтай вымаліць. Праведныя ж бо і па смерці будуць жыць, як Саламон у прыпавесцях сваіх мовіць: праведніцы вечна жывуць і ад госпада ўзнагарода іх.

— Гордасць у табе гаворыць, Прадслава, гордасць, якую ў сценах манастыра і выказваць грэх. Гасподзь сам гукае да сябе тых, каго вылучае з усіх. А ты маладая...

Прадслава з палкасцю, хаваючы твар у складзеных малітоўна руках, укленчвае перад ігуменняй:

— Прабач, маці-ігумення, гордасць маю і словы мае неразумныя. Але хіба памылілася маё сэрца, пачуўшы кліч усявышняга ў тым, што воляю сваёю вярнуў ён полацкай зямлі князёў яе, што бацьку майго, князя Георгія, вярнуў? Хіба не ў служэнні яму — мой, даччын, абавязак?

— Ды будзе так,— мовіць расчуленая ігумення і

кладзе руку на схіленую галоўку маладой князёўны.— Бачыць бог, што я ўсё зрабіла, каб не гневаўся потым князь Георгій. Устань, сястра. Прыйдзе час — з імем Ефрасінні ўступіш ты ў манастыр...

Спачатку Глеб ніяк не можа ўразумець, што перапыніла яго думкі: не адразу, не раптам вярнуўся ён да рэальнасці, у вечар, які, здаецца, скаланалі рэзкія, занадта гучныя ў пакоі званкі. Калі ж пачуў званок, то кінуўся перш да тэлефона, не ўспомніўшы, што адключыў яго, і толькі потым даўмеўся: званілі ў дзверы. Пабег, адшчоўкнуў аўтаматычны замок — у дзвярах стаяла немаладая, захутаная ў лёгкі плашч жанчына.

— Вам тэлеграма. Трэці раз прыходжу. Званю, званю...

— Тут распісацца?— перапыняе ён яе незадаволенае бурчанне.

— Тут. І час пазначце. Трыццаць пяць хвілін на дванаццатую.

— Дзякуй,— хаваецца Глеб за дзвярамі, не адводзячы позірку ад шэрага, згорнутага і склеенага белай папяровай істужкай, шматка тэлеграмы.

Разарваў склейку, уздрыгнуў, прачытаўшы: «Памёр бацька. Прыязджай. Мама».

— Мама!!

## II

З прыадчыненага акна пацягнула халадком, халодным начным паветрам. Ледзь чутна рыпнулі дзверы — ззаду, за спіной: ці то ціха, нячутна, баючыся парушыць бязгучча гэтых хвілін, увайшоў хтосьці ў хату, ці то скразняк забаўляўся... Ефрасіння пакратала плячамі, падалася паправіць рукой чорную хустку, якая нервова, занадта туга завязаная пад падбародкам,

душыла яе,— і як забылася на свой рух. Рука на момант павісла ў паветры і потым цяжка ўпала на калені. І застыла так, на каленях, раз-другі бяссільна шкрабануўшы па спадніцы. Цішыня стала яшчэ гусцейшай. Такой густой, што нават святло электрычнай лямпачкі, жоўтае і калючае, не прабівала яе да дна — да падлогі, засланай саматканымі ходнікамі, і толькі самы край гэтага чорна-жоўтага мроіва — ззаду, за спіной — прыўздымала і пагойдвала халоднае дыханне ветрыку, дыханне ночы.

Тое, што зараз была глыбокая ноч, што змагліся і аціхлі ў ёй першыя горкія думкі і трэба было адно сядзець у ціхай жалобе ля труны, ля свайго гора, і перабіраць у душы пражытае, адбалелае і неадбалелае, было для яе палёгкай, роздыхам перад цяжкім заўтрашнім днём, калі прыедуць сыны, калі прыйдуць людзі. Людзі падыходзілі і сёння, маўчалі побач з ёй, ці што казалі, ці што рабілі па хаце, па гаспадарцы, але сёння Ефрасіння была не з імі, была адна, сама ў сабе, і ніхто, ніводзін з тых, хто падыходзіў, не мог аблегчыць цяжар, які абваліўся на яе, прыгнечваў, скоўваў душу. Душа... Так і здавалася, што толькі і чакала яна, душа, гэтай горкай часіны, каб зварухнуцца, нагадаць пра сябе і потым ужо ні на імгненне не аддаваць улады: балець, тузаць Ефрасінню — то агаляць якісь забытыя ўжо згадкі, то ўцягваць у глыбокую, запоўненую агнём, якімсьці сляпучым бляскам бездань невядомага, то скручваць усё перабытае і неперабытае ёю ў адзін балючы, крывавы вузел, які не разарваць, не рассекчы, які ёй, абломваючы пазногці і крывавячы пальцы, трэба будзе развязваць. Калі? Яна не ведала. Яна не думала пра гэта. Ды калі б і думала, то, пэўна, не разабралася б зараз у сваіх адчуваннях. Штосьці сышлося ў гэтым жалобным дні, у ёй, Ефрасінні,— быццам зніклі раптам межы часу, межы памяці, і адчувала яна тое, што не магла вы-

тлумачыць, і бачыла тое, пра што толькі незнарок на імгненне падумалася.

Адганяла гэтыя дзіўныя думкі, зноў і зноў імкнулася думаць пра мужа, пра Івана, які быў так блізка, побач, і якога ўжо не было ні на гэтым свеце, ні на тым... Не, ён яшчэ быў, ляжаў у труне, незнаёма спакойны, сцішаны — толькі гэта быў ужо не ён, бо не сыпаў, як звычайна, словамі, не ўсміхаўся, не пакашліваў, хаваючы ў кашаль так ніколі і не вымаўленыя ўголас прызнанні, не тупаў па хаце, не дыхаў. Гэта было самае непераадольнае: не дыхаў. Усё вакол жыло, дыхала — і фікус у кутку, і фіранкі на акне, і ноч за акном,— а Іван адышоў, пакінуўшы па сабе толькі цела сваё, схуднелае апошнім часам і зараз прыбранае ва ўсё новае, няношанае, ды яе, Ефрасінніну, жалобу. «Паплач! — прасіла яе Наста Верчына.— Загаласі, як усе бабы галосяць, палягчэе...» А як скажаш, як растлумачыш, хоць бы і Насці, што не ішлі слёзы, не ішлі галашэнні, бо душа слязьмі аблівалася — не яго, Івана, не смерць яго аплакваючы, а жыццё, з ім пражытае, якое мінула і адыходзіла. Шчаслівае, нешчаслівае было жыццё — жыццё! І чым яго змераеш, як ніводная мерка не падыдзе. Ніхто не можа назваць сябе шчаслівым раней смерці. А потым... Потым іншы хто скажа. Калі скажа. Калі будзе каму сказаць.

З акна цягнула халадком, п'янлівым пахам абуджанай, адхуканай і адагрэтай сонцам для новага цвіцення зямлі — і гэты пах, як толькі Ефрасіння ўсведамляла яго, міжволі трывожыў: вясна! Вясна і... смерць у хаце... за крок які... якраз насупраць... Пэўна ж, не смерці, не яе прысутнасці, а яе няўмольнасці злякалася душа. Злякалася і тузала Ефрасінню: то агаляла якіясь забытыя ўжо згадкі, то спапяляла іх і сябе, у якімсьці раптоўным парыве, у яркім сляпучым бліску, каб зноў набухаць болем і ім, болем, адраджацца. Штосьці сышлося ў гэтым пазбытым сілы дні, у ёй,

Ефрасінні,— быццам зніклі раптам межы часу, межы памяці і яна апынулася ў акружэнні сваіх і чужых сцежак, сваіх і чужых згадак — на скразняку гадоў, пражытых ёю і іншымі, мноствам іншых людзей з незнаёмай, невядомай яе радзіны. Вось і знямела яна, дзівячыся, вось і ўслухвалася ў сябе, у душу сваю, адчуваючы тое, што не магла вытлумачыць, бачачы тое, чаго ніколі не бачыла, чаго не помніла: то раптам аграмадную, ад края да края, прастору вады, няйначай мора, бо вунь жа па вадзе, як качкі, адна за адной доўгім ланцужком плылі вялікія лодкі пад ветрыламі, белымі з чырвонымі сонцамі на іх, то хвалі высокай травы, а потым высокай вады, што беглі, злізваючы бераг і сосны на беразе... Якія лодкі? Якія хвалі?

А перад вачамі ўжо ўставаў дзіўны, як на карцінках з сынавых вучоных кніжак, горад, абнесены сцяной і вадой пад самую сцяну — і нічога ў тым горадзе нельга было разгледзець за стромкімі і магутнымі, як прышпіленымі да неба залатымі крыжамі, саборамі і цэрквамі: густы, халодны звон са шматлікіх званіц напаўняў паветра, пагойдваў, разгойдваў яго — холадам цягнула адтуль... Адкуль? Ефрасіння зябка пакратала плячамі, памкнулася паправіць рукой чорную хустку, якая нервова, занадта туга завязаная пад падбародкам, душыла яе,— і як забылася на свой рух.

Шолах пачуўся за спіной, і амаль адразу за ім — гучныя, занадта гучныя, каб быць шчырымі, словы малітвы: Яўхіміха, свякруха яе, зноў загундосіла сваё, лыпнуўшы соннымі вачамі і згадаўшы, чаго засталася тут, у Ефрасіннінай хаце, нанач. Не заплакала па сыну, прысунуўшыся яшчэ па дню, і слязінкі не выблiснула ў халодных, блякла-жоўтых вачах яе — толькі малілася. Ды яшчэ жалкавала, што за папом няма каго паслаць за сорак вёрст.

Сумная ўсмешка кранула сцятыя губы Ефрасінні: вось папа́ ўжо яна б не пусціла ў хату, не! — хай чыё

іншае грэшнае жыццё адпявае, а Іванава... Іванава жыццё ў ёй застанецца, покуль жывой будзе. І Яўхіміха з гэтым нічога не паробіць, колькі б ні малілася, колькі б ні згадвала пра пакуты Хрыста ўкрыжаванага. На крыж узвялі, распнулі... Колькі чалавек за жыццё церпіць і сцерпіць, а, здараецца, так нічыёй любові і не дачакаецца, так добрага слова і не пачуе. А прагнуў жа і любові і слова добрага — прагнуў, а і любоў і словы былі да пустога неба, заслоненага крыжам, звернуты.

Думкі абудзілі ў душы старую непрыязнасць да свякрухі, што як раней, пакідаючы дзяцей на далёкую сваячку, крывую і вечна злосную Вольку, па багамоллях цягалася, так зараз цягалася па хатах, па людзях, на якіх абвальвалася нечакана гора ці хвароба якая невылечная, і гундосіла свае малітвы, блытаючы, пераstaўляючы і прапускаючы словы. Хто выправоджваў яе, памянуўшы брыдкім словам усіх дурняў, згодных і ў касмічных палётах бачыць божы промысел, а хто, прыгнечаны горам ці хваробай, і выслухоўваў, слухаў — хутчэй так, на ўсялякі выпадак, ці проста таму, што была побач і жалкавала аб ім жывая душа, няхай нават і такая ўсохлая і наскрозь ілжывая, як у Яўхіміхі. У горы чалавеку аднаму цяжка, не кожны гора вытрывае, а Яўхіміха скрозь тут як тут...

І казала ж неаднойчы Ефрасіння Пятровічу, каб паўшчуваў, пастрашыў чым бабу,— старшыню сельсавета ўсё ж выслухала б яна, дзе дзелася. Дык не, не сабраўся той. Нагадвала — адмахнуўся, адгаварыўся тым, што ёй, Ефрасінні, перадавой калгасніцы, зручней, маўляў, сустрэцца са свякрухай ці праз мужа паўплываць на яе, а яму не да таго, не да багаслоўскіх спрэчак, адным словам... Вось і соўгалася Яўхіміха (а то яна нявестку паслухала б!) з хаты ў хату, вось і гундосіла то пра літасць божую, то пра кару яго за грахі людскія. Нават да яе, Ефрасінні, колькі разоў падкочвалася і, выбраўшы хвіліну горкую, у веру сваю пера-

маньвала, жыццё вечнае абяцала... Служка богава знайшлася!

«Сціхніце!» — хацелася ёй крыкнуць цераз плячо, а губы сціскаліся ўсё балючэй: іх ужо і не відаць было на сцягнутым да маршчыністага не па гадах ілба, зацененага хусткай, твары — адна балючая, злёгку хвалістая і падобная на толькі што зарубцаваную рану лінія рота.

— Сціхніце! — нават прашаптала яна ці мо гэта толькі здалося ёй, бо вось жа ўжо не малітву Яўхіміхі чула яна, а матчын бяссілы голас, і ўсё хацела разабраць, што казала мама, і ўсё ўслухвалася ў гэты голас і ў вусціш за ім.

І раптоўна знікла цішыня, адно ўспыхнула напачатку зацягнутымі чорным густым дымам бліскамі полымя — і загарэлася, затрашчала ўсё вакол: гумно іхняе, крытае саломай, хата іхняя, і суседняя, і далей... Уся вёска гарэла! І шчаміліся людзі адзін да аднаго, невялічкай купкай згрудзіўшыся непадалёку, за якіх дзесяць-дванаццаць крокаў.

— Паночак, злітуйся! Ёй жа і трынаццаці гадкоў няма, не мінула. Дзіця яна горкае. Богам прашу, дзецьмі вашымі, як ёсць у вас, заклінаю! Малая яна, неразумная, пакоры не ведае...

— А нянавісць — ведае?! — адпіхвае жанчыну, што ўкленчыла перад ім, тупаносым ботам худы, высокі, з глюгаватым носам немец.

«Бач, і мову вывучыў, заваёўнік!» — гідліва думае Ефрасіння (страху перад ім чамусьці няма) і цягне, цягне маці за рукаў світкі, каб паднялася з каленяў, каб не прасіла за яе: уся вёска пазірае на іх, а гэты вылюдак яшчэ і ўсміхаецца.

— Добра, матка. Маліся. Ты і яна,— тыцнуў пальцам у бок дзяўчынкі,— маліцеся! Як пачуе бог вашы малітвы і дасць знак — жыць будзеце.

І ўсміхаецца. Крыва неяк. Зверху.

Маці адсунулася, адпаўзла ад яго бота, тузанула Ефрасінню раз і другі раз, зашаптала:

— Кленчы побач са мной. Кленчы, чуеш? Заб'е ж, не пашкадуе! А ты адно губамі варушы, за мной паўтарай, дачушка. Чуеш. Апамятайся...

Яна тузала дзяўчынку, з адчаем і маленнем пазірала на яе цераз плячо і шаптала, шаптала:

— Мяне заб'юць — нічога. Я пажыла, нічога... А ты ж яшчэ толькі ў сваю пару ўбіраешся. Заб'юць жа, не пашкадуюць!

— Ну-у!! — завішчаў немец, перайшоўшы на гнеўны фальцэт.— Доўга мне яшчэ чакаць?

— Іж есі на небесі...— заспяшалася, залапатала маці, не паварочваючыся да яго, па-ранейшаму не адрываючы пагляду ад дачкі.

— Ну-у! — віскнуў той другі раз.

Скалыхнуўся і аціх ззаду натоўп. Бразнуў зняты катам з пляча аўтамат. Жанчына падхапілася, кінулася да дачкі, вырашыўшы сілком паставіць яе побач з сабой на калені і тым уратаваць. Уратаваць...

Кароткая аўтаматная чарга патанула ў гуле спалоханых галасоў і ўсхліпаў, і Ефрасіння адчула, як гняце, уціскае яе ў пясок цяжкое матчына цела і па твары, ад ілба наўскос, сцякае на шыю штосьці гарачае, ліпкае...

Яна задыхалася. Шурпатымі нягнуткімі пальцамі тузала вузел, якім была сцягнута хустка, а той усё не паддаваўся, і здавалася, яшчэ міг-другі — і захлынецца сэрца задушлівай гарачынёй, зможанае, спыненае непасільным напружаннем. Рванула хустку з галавы, уздыхнула на поўныя грудзі. Яшчэ. І яшчэ. Трохі адпусціла: стала лягчэй дыхаць, знікла адчуванне невыноснага цяжару, ціску, не распаўзаўся больш, не рос галаўны боль, аціхлі, супакоіліся рукі. У наступны момант яна ўжо лёгка развязала ссунутую на шыю

хустку, кінула яе на калені і пачала папраўляць рассыпаныя з-пад грабянца валасы.

— Чаго гэта ты прыгладжваць косы ноччу, ля труны, уздумала? — як ударыла яе ў спіну.

Уздрыгнула ад нечаканасці — Яўхіміха, няйначай, за кожным рухам сочыць! — і ўсё ж працягвала няспешна скручваць у жгут, заколваць грабянцом валасы. Закалола. Прыкрыла галаву хусткай, счапіўшы яе ражкі адным лёгкім вузельчыкам, выпрасталася, развінула плечы. Але не павярнулася да свякрухі — не хацела змушаць сябе, і па-ранейшаму застылая, нерухомая, сядзела спіной да яе і да парога, да ночы за парогам, якая незаўважна для яе пачынала ўжо святлець.

— Гасподзь адзіны і ўсемагутны ўсё бачыць, усіх судзіць,— не стрывала Яўхіміха.— Ты, нябось, думаеш, Ефрасіннечка, што калі ў актывісткі запісалася ды медалі табе на грудзі за гэта начапілі, дык і пра душу трэба забыць думаць? Не-е, галуба, медалямі не адкупішся, колькі іх ні чапляй.

— Што вы такое кажаце? — ціха азвалася Ефрасіння.— Сын ваш у труне, а вы...

— Сын? Сына гасподзь прыбраў, за грахоўнае жыццё яго,— ці ж магу я гневацца?

— Паплакалі б.

— Паплачу, як выносіць будуць, а як жа. Ведаю, калі трэба заплакаць, не раўняючы з кім іншым. За папом не паслалі, дык сама я малітву над сынам прачытаю: хрышчоны ж Ваня мой. Хоць скрозь у царкву не хадзіў, а благачэсць прымаў — як хрысціяніна адпець трэба.

— Хаваць яго я з сынамі буду,— перапыніла яе, не хаваючы непрыязнасці, Ефрасіння.

— А як жа, Ефрасіннечка, а як жа! Дык і я не хто збоку, не дзесятая вада на кісялі, а матка Ванева: каб і хацелі вы, то і змусамі мяне не адгоніце. І па законах

Хрыстовых, і па сённяшніх законах мне — першае слова. А як жа!

Ефрасіння не адазвалася. Яна сілілася не слухаць злёгку прыцішаны, саладжава-ліпкі голас свякрухі: скрозь жа не сказаць, каб дужа мірыліся, але і не сварыліся — былі і засталіся чужымі, чаго ж зараз, у хвіліну гэткую, душу вярэдзіць?

А тая не сунімалася:

— Вядома ж, бога ў душы няма — што з яе спытаеш! А я так скажу, Ефрасіннечка, што не работу табе трэба было глядзець, а мужа — няхай прыме гасподзь душу яго! Мужа, Ваню майго. Кабель ён быў, канечне, прасці госпадзі, гэткі, як і бацька ягоны, але ж не крывы, не гарбаты. Вучоны, як па цяперашнім часе: грашыма ў калгасе заведваў, пакуль пад суд з-за бабы не трапіў... А прылашчы яго, падкаціся ты да яго лішні раз з пяшчотай і пакорай — мо б і не пабег да Гэлінай спадніцы. А як жа.

— Што вы такое кажаце? — прыціснула да грудзей сашчэпленыя рукі Ефрасіння.— Што вы кажаце?!

— А што кажу? Тое і кажу, што ўсе кажуць, галуба,— мармытнуўшы колькі слоў малітвы, працягвала тая.— Сытых вачэй на свеце няма. Няма, галуба. А ты за работай свету божага скрозь не бачыла, усюды першай быць хацела: і ў полі, і ў гародзе — ні сябе, ні дзяцей сваіх не шкадавала. Пакуль управішся, было, дык ногі не трымалі — дзе ўжо мужыка ўлашчваць! А мужык — ён і ёсць мужык: не ў аднаго грэшнае цела душу з'ела! І мой Ваня добрым бабадурам быў, падушка пад галавою ў яго не круцілася, не... А то ты не ведала! Хоць і тое: як няма бога ў душы, дык і ласкі божае не прычакаеш.

— Вы б хоць бога не паміналі, гэтакае мовячы.

— Чаму ж, Ефрасіннечка? Усё ад бога. Усё. І што жонка пад мужам павінна хадзіць, яшчэ дзяды нашы ведалі. І іхнія дзяды, і далей, аж да стварэння свету.

А як жа! Бог літасцівы, ён усякі грэх чалавеку даруе, калі чалавек раскаецца. Ды і тое — без сораму твару не зносіш: маладосць — буйносць.

Вось гляджу на вас, цяперашніх, і дзіўлюся: хто за хваробаю, хто за работаю хаваецца, а ў мужчын, як вядома, анахімскі нораў: блюсціся не могуць — хто да распусты, хто да гарэлкі прызвычаіўся. Збяруцца, вып'юць самі сабе, увесь свет у гамонцы па слову перабяруць, а трапіцца якая вяхотка-бессаромніца... Мо і грэх гэткае казаць над нябожчыкам, ды бог мне даруе: не пра мяне — пра цябе гаворка, Ефрасіннечка. Хто б іншы хваліў цябе, руплівасць тваю ў рабоце калгаснай, а я не ўхвалю, не! Ні Ваню майму ты, галуба, шчасця не прынесла, ні сабе яго не здабыла. Дзяцей падняла, павывучвала, дык па цяперашнім часе гэта не навіна: і разумным і дурням дарога адкрытая. Хто хоча, хто не хоча — усіх вучаць, усіх ад зямлі лёгкім хлебам зманьваюць. А з кім век дажываць будзеш?

— Сціхніце. Не ўводзьце ў грэх,— ледзь стрымлівала гнеўнае абурэнне Ефрасіння.— Гора нас звяло гэтаю ноччу. Гора паважайце, як мяне не паважаеце.

— І маё гэта гора — хай прыме гасподзь душу сына майго Вані! — не прамаўляла ўжо, а сіпела Яўхіміха.— Але і гора я прымаю, як гасподзь вучыў, з пакорай і з малітвай. А нам калі пагаманіць, як не зараз, сон ад вачэй адганяючы? Сіратой ты за Ванем маім пражыла, Ефрасіннечка, удовай застаешся, як я, няйначай, калі ж нам і пагаманіць? Гэта потым адвернешся і плюнеш, а зараз у час гора нашага агульнага...

— Няма ў нас нічога агульнага,— ціха прамовіла жанчына.

— Як няма, Ефрасіннечка? А Ваня мой? За маім жа Ванем ты жыццё сваё бабіна пражыла, прысушыўшы яго змоладу. Ды прысушыць прысушыла, а ад спадніц чужых не адвадзіла: які быў грахаводнікам, такім і памёр — хай даруе яму гасподзь наш збавіцель! У свет

з дому не падаўся, а і дома шчасця небагата меў. Гэтак скажу.

— Не вам наша шчасце ўзважваць,— так і не павярнулася да Яўхіміхі Ефрасіння, зябка пацепваючы плячамі і стомлена ўзіраючыся ў цёмнае акно за трубою.— І бога памінаючы на кожным слове, праведніцай не стаць. Праведна жыць трэба.

— Дак мо ты сябе праведнай лічыш, Ефрасіннечка, за тое, што за работаю свету божага не бачыла? — сіпела ззаду старая, зрэдку, звычайна, калі памінала бога, узвышаючы голас.— Ці мо за тое, што чуць не чула таго, пра што ўся вёска гула, пакойнага Ваню майго — хай даруе яму за ўсё гасподзь наш! — асуджаючы? Усё ты чула, галуба. За ўсё ў цябе сэрца крывёй аблівалася, але ж табе скрозь ва ўсім першай быць муляла. Першай, і ўсё тут. Нават любоў сваю на ўвесь свет не пасаромелася выставіць: люблю, маўляў, людцы, грахаводніка свайго, усё дарую яму... Дзеці бацьку асудзілі, а ты і дзяцей на сваё перагнула. І ўсё чаму? Не з пакоры, не! З гордасці. З гордасці, галуба, якая ўжо сама па сабе ёсць грэх. Вялікі грэх перад господам...

Яўхіміха гаварыла і гаварыла, хоць Ефрасіння даўно перастала ўслухвацца ў яе поўныя прыхаванай, а то і не прыхаванай зласлівасці словы, і чула толькі ціхае пагойдванне паветра вакол ды глыбокі няўцямны гул, які накочваўся аднекуль знутры, з душы, высокімі гарачымі хвалямі. Няйначай, відаць, як у тым ніколі не бачаным і чамусьці згаданым крыху раней моры, што несла да берага вялікія лодкі пад ветрыламі... Яна разумела, што гэта, хутчэй за ўсё, стома, змога душэўная навалілася і пахіствала яе, разумела, што трэба было трываць, не паддавацца ёй ні зараз, ні потым, калі прыедуць сыны, калі прыйдуць людзі, і не магла. У той момант не магла. Абаперлася абедзвюма рукамі на крэсла, дапамагаючы аслабеламу целу, і паднялася. Не пахіснулася, хоць і паплыло раптам усё перад вача-

мі, не зірнула ў бок Яўхіміхі, што застыла на паўслове з разяўленым шчарбатым ротам, і ступіла крок, другі, трэці. Рухі вярнулі ёй сілу, вярнулі ўстойлівасць, і праз якія паўхвіліны ўжо, шчытна прычыніўшы за сабой дзверы ў сенцы, яна стаяла на ганку, удыхала свежае начное паветра, падстаўляючы майскаму ветрыку гарачы твар.

Усе думкі зніклі. Яна стаяла на невысокім сваім ганку, на самым крайку ночы — злева, над цёмнай сцяной лесу, што пачынаўся адразу за гародам, шырокай палосаю святлела ўжо неба — і нічога, як здавалася ёй зараз, не было ў цэлым свеце, апроч гэтага края ночы, апроч неба над ёй, глыбокага, бяздоннага: нават рэдкія буйныя зоркі не набліжалі дно гэтай спрадвечнай і таямнічай прорвы. Усе думкі зніклі, уцягнутыя цішынёй, уцягнутыя высокай безданню, і адчуванне жыцця, свайго і навакольнага, было для Ефрасінні ў адным — у дыханні, цяжкім, ненатольным, узахлёб. Яна дыхала і не магла надыхацца, не магла ачуняць і разам з паветрам глытнуць веснавога халадку, веснавой сілы, каб жыць далей, каб проста жыць далей. Слёзы цяклі ў яе па твары, але яна не заўважала іх...

## III

Калі на яго ціхае, няўпэўненае: «Салют, Ева. Не разбудзіў?» адказаў незнаёмы дзявочы голас, Глеб здзівіўся. Калі б яшчэ мужчынскі...

— 65-80-12? Я не памыліўся? — паспяшаўся ён удакладніць.

— Евы няма. Яна затрымалася на студыі.

— А-а-а,— іранічна працягнуў ён, зіркнуўшы на гадзіннік, які паказваў час апоўначы...— А вы хто? Не дамушніца часам, што ў яе кватэры...

— Я сястра яе,— рашуча і, па ўсім відаць, незадаволена абарвала дзяўчына гаворку.

Глеб пакруціў у руцэ трубку і, націснуўшы на рычажок, зноў набраў добра знаёмы нумар.

— У Евы няма сястры,— сказаў, не чакаючы водгуку, быццам гаворка не перапынялася.— І ніколі не было.

— У яе іх нават дзве, малады чалавек. І вы перашкаджаеце...

— Стоп, стоп, стоп! Давайце дамовімся: вы называеце сябе — я паспрабую вам паверыць і больш не турбую. Згода? Я — Глеб Суляціч. Вы?

— Ах, дык вы, значыцца, Глеб? Ну, дык вось, каб вы наперад ведалі, у Евы дзве сястры: старэйшая, Галіна, у Гомелі, і я, Святлана, у Мінску... У інтэрнаце. Задаволены?

— А?..

— Добрай ночы.

У трубцы запікала, і Глеб, паклаўшы яе на месца, зноў зірнуў на гадзіннік: першая электрычка на Пухавічы — амаль праз шэсць гадзін, спаць класціся — сну ні ў адным воку, а калі сон з'явіцца, будзе позна ўкладвацца. Працаваць, закапацца ў кнігі? Адно званы ў душы гудуць... Сядзець аднаму, сам-насам са сваімі думкамі — з глузду да раніцы з'едзе. Не, не! Яму трэба было ехаць, ісці куды-небудзь зараз — і ён (не першы раз за вечар) пашкадаваў, што Барыс у Полацку.

Ева? Заставалася Ева? На момант мільганула згадка пра тую... пра сястру яе, з якой толькі што размаўляў, але ён папросту адмахнуўся: зараз яму было ўсё роўна. Кепска было.

Сарваў з вешака куртку, шчоўкнуў выключальнікам, прымкнуў дзверы і праз хвіліну з асалодай удыхаў начное паветра, нецярпліва махаючы кожнаму легкавіку. І вось ужо ззялі, плылі насустрач агні праспекта, вось ужо разам са скрыпам тармазоў бразнулі за ім дзверцы, і ён лёгка, пераскокваючы цераз адну, а то і

дзве прыступкі, узбягаў па лесвіцы на трэці паверх. Пацягнуўся да званка, прыгадаў, што ключ — у кішэні, і памкнуўся да дзвярэй.

— Ева, гэта я! — гукнуў і знарок шумна зашчоўкнуў замок.

Здалося, што ў пакоі хтосьці нягучна ўскрыкнуў, але, напэўна, толькі здалося, бо ніхто не адгукнуўся, а калі ён павесіў побач з высокім, на паўсцяны, люстэркам сваю куртку і павярнуўся, ступіў з прыхожай у пакой і знерухомеў, здзіўлены, разгублены: перад ім, гнеўна пабліскваючы вялікімі і цёмнымі, як слівы, вачамі, стаяла, няйначай, сама вясна. Хвалістыя, даўгія, ледзь не ў пояс, валасы, рассыпаныя па плячах і аголеных руках, былі незвычайнага, попельнага колеру, і твар, чысты авал яго, акаймаваны імі, жыў, свяціўся іх няяркім, прыглушаным святлом: абмахваліся пушыстымі вейкамі вочы, моршчыўся, як перад смехам або перад плачам, зграбны носік, крывіліся, трымцелі пакрыўджаныя вусны.

— Ты не Вясна, ты — Святлана? Угадаў? — не даў дзяўчыне апамятацца Глеб.— Я не напалохаў цябе?

— Як... як вы смееце? Як вы ўвайшлі? — паморшчылася на яго словы дзяўчына, і Глеб убачыў, як горача зардзеліся ў яе шчокі.

— Але ж гэта так проста! Ева дала мне ключ, вось ён! — бразнуў ён ключамі.— І я прыйшоў пазнаёміцца з яе сястрой.

— У гадзіну ночы?!

Святлана, відаць, узяла сябе ў рукі (пытанне прагучала з добра чутнай іроніяй) — і гэта Глебу спадабалася. Ен з прыемнасцю, прыслухваючыся да салодкага казытання дзесьці каля сэрца, назіраў за дзяўчынай. І калі яна спакойным, нават крыху пагардлівым рухам адкінула з пляча валасы, засмяяўся.

— Вось зараз можна прызнаць сястру Евы: той жа рух падбародка — убок і ўгору. Давайце знаёміцца.

— Яшчэ чаго! — павяла плячом Святлана і адышла да стала, на якім былі раскладзены сшыткі, падручнікі, розныя паперы і паперкі.

— Але ж мы ўжо знаёмы. Ты — Святлана, я — Глеб. Гучыць, па-мойму.

Яна не адазвалася. Уціснулася з нагамі ў крэсла і заглыбілася ў свае паперы. Хутчэй зрабіла выгляд, што заглыбілася, што прапанаваная ёй вось так знянацку, сярод ночы, сітуацыя пакінула яе не проста спакойнай — абыякавай.

— Цэлы год... больш года ведаю Еву і не думаў, што ў яе ёсць такая прыгожая сястра. А мо яна знарок хавала гэта ад мяне, а? — адсунуў крэсла на колькі крокаў, асядлаў яго і паспрабаваў аднавіць гаворку Глеб, быццам зразумеўшы і пагадзіўшыся з тым, што гаворка выльецца ў маналог, выцягнуў блакнот з алоўкам і спакойна працягваў: — Ева — свабодная ад усіх, у тым ліку і ад мяне, а я... Пан сам над сабою ды сваёю душою: радуюся сам з сабой, плачу сам над сабой, пытаюся дазволу сам у сябе... Сумна. Калі б яшчэ рукі і думкі штодня можна было заняць, дык дзе там! Спачатку рукі па дзявочых плячах засумуюць, потым думкі праз натоўп — у пошуку адзінага, адзіна любага твару — прадзіраюцца, а работа чакае. З халодным сэрцам да яе і падступіцца нельга. Не прыме... У цябе такое не здараецца?

— Не хочаш размаўляць, грэбуеш, што ж! Я разумею,— працягваў ён.— Уламаўся ў кватэру рослы, прыгожы, як Лель, і крышачку сумнаваты мужчына... Хто іншы на тваім месцы лямант бы ўчыніў, а ты малайчына. Ігнаруеш, і ўсё тут. Вылузвайся, маўляў, расказвай казкі — усе вы аднолькавыя... Лагічна, у нечым нават правільна. А куды дзецца? Вы ж усе ад нас аднаго і таго ж чакаеце: закатвай вочы, лапачы што заўгодна пра каханне і дзявочае хараство, лашчы пацалункамі, пакуль на вугаль не перагарыш, а рукам волі

не давай. Дзікунства, адным словам. Адно рукі і ўмеюць ляпіць хараство, ляпіць па-сапраўднаму.

Чарговы раз Глеб, паслухмяны алоўку, зірнуў на дзяўчыну і змоўк, зноў уражаны цёмным, бяздонным яе паглядам: у шырока раскрытых вачах яе пялёхкаліся здзіўленне, і разгубленасць, і страх, і яшчэ штосьці незразумелае, што нагадвала баязлівую цікавасць,— не адрываючыся, сачыла Святлана за яго хуткай, дакладнай рукой.

— Ты працуй, не зважай,— усміхнуўся.— Мне трэба нечым заняць рукі. І потым... Потым я забяру цябе, твой воблік, з сабой.

— Але ж я...— ледзь чутна адгукнулася Святлана і не дагаварыла, аціхла, сцяўшыся ў крэсле.

У цішыні, якая раптоўна ўсталёўвалася ў пакоі, было чуваць, як рухаецца алoвак па паперы. Міг. Другі. За акном — далёка — вуркатаў матор. Вуркатанне набліжалася, і вось заскрыгаталі тармазы. Зусім побач. Унізе.

— Выключым на мінутку святло? — сунуў блакнот у кішэню і падняўся Глеб, каб, не чакаючы Святланінай згоды, пстрыкнуць выключальнікам.

— Ну, знаеце! — памкнулася тая да лямпы, саскочыўшы з крэсла.

Глеб — сама пяшчота! — мякка перахапіў яе руку і чамусьці шэптам сказаў:

— Я проста хачу табе тое-сёе паказаць. Давай бліжэй да акна. Ну ж, смялей!

Святлана ўпіралася, але ўсё ж услед за ім ступіла да акна, зірнула ўніз і ўбачыла светлыя «Жыгулі» і даўгалыгага, худога — нават у паралонавай куртцы ён быў плоскі — мужчыну, які адчыніў дзверцы і падаў руку жанчыне... Еве! Яе капялюш з шырокімі краямі і доўгі, да зямлі, паласаты шалік не пазнаць у першае ж імгненне было немагчыма.

— Ну і што? — пакасілася яна на Глеба, які гэтак

жа, як і раней, мякка, але моцна трымаў яе за руку.

— Ну і што! — паўтарыў ён, хоць у гэты момант той, даўгалыгі, абняў Еву і, перагнуўшыся папалам, упіўся ў яе вусны.

Святлана не паспела адказаць, бо ў тое ж імгненне Глеб кароткім, нейкім адчайным рухам прыгарнуў яе да сябе і пацалаваў. Раз і другі. Апамятаўшыся, яна свабоднай рукой наводмах з усяе сілы ўдарыла яго па шчацэ знізу ўверх, зноў замахнулася, зноў адчула гарачыя Глебавы вусны — іх набліжэнне, іх мяккі дотык...

Дзверы пад'езда, калі ён бокам праціснуўся ў іх, не зарыпелі.

Тыя, двое, ўсё яшчэ абдымаліся. «Юная грэшніца і стары распуснік!» — нечакана абыякава падумаў ён і падняў вочы на знаёмае акно: акно свяцілася. Зглынуў уздых, спакойна абмінуў парачку і спыніўся ля машыны. Ля машыны Дубца — гэту паскуду, галоўнага рэдактара кінастудыі, Глеб пазнаў яшчэ там, наверсе. «Дзвюх жонак і сакратаркі яму мала, а самога калі распрануць...» Думка мільганула і згінула раней, чым ён адчуў прыкрасць.

Павярнуўся ісці, але, перш чым адысціся ад машыны, прасунуў руку над апушчаным шклом і націснуў на сігнал. Ззаду, за спіной, піскнула Ева, закашляўся, быццам пацалункам падавіўся, яе праважаты, але ён не павярнуў галавы. Крокі яго былі цвёрдыя, упэўненыя.

— Глеб! Глеб, пачакай,— гукнула Ева.

Ён не павярнуў галавы. Ён ужо не чуў яе воклічу.

Князь Георгій у пакой уваходзіць імкліва — ледзь паспявае нахіліць у дзвярах галаву, і тут жа, згледзеўшы побач з ігуменняй дачку ў адзенні мнішкі, у гордым гневе распрамляецца і робіць колькі рашучых крокаў да яе.

— Ці ты гэта, Прадслава? Ці магла дачка мая, Прадслава, адказаць на клопат мой, на любоў маю непакорай і пакінуць сцены дома майго не спытаўшы дазволу?

— Ты не ўспомніў бога, князь Георгій, увайшоўшы ў манастыр, не перажагнаў сябе крыжам,— нахмурылася ігумення.

— Прабач, ігумення,— таропка перахрысціўся той, пакасіўся на распяцце на сцяне насупраць.— Гнеў асляпіў мяне, няйначай.

— Гнеў ты павінен быў пакінуць за парогам манастыра, князь Георгій, каб не ўгнявіць адзінага ўладыку нашага, госпада: яго воляй Усяславічы вярнуліся на зямлю полацкую, госпаду трэба дзякаваць, у малітвах, звернутых да яго.

— Грэшны, маці-ігумення,— схіляе ён галаву, усяго на адно імгненне схіляе.— І ўсё ж дазволь з дачкой гаварыць, з Прадславай.

— Прадславай звалі мяне ў вашым доме, князь-бацька, тут, у манастыры,— Ефрасіння я.

— Ефрасіння? Еф-ра-сіння?! — зіркае ён то на дачку, то на старую ігуменню.— Ты хочаш сказаць...

— З гэтага часу і да веку для ўсіх людзей і для вас, князь-бацька, буду я служкаю божаю Ефрасінняю, буду маліцца за вас і зямлю нашу, і ды будзе на тое благаславенне ваша.

— Ці ты гэта гаворыш са мной, Прадслава? Ці дачка ты мне, калі выракаешся імя свайго і абавязку свайго, змушаючы мяне, князя Георгія, парушыць слова, дадзенае таму, хто пасватаўся да цябе і зрабіў бы цябе княгіняй? — адступае той на крок, узіраючыся ў дачку з недаўменнем і трывогаю.

Прадслава... Ефрасіння стаіць перад ім гэтак жа горда, як і ён, ускінуўшы галаву. Адно тварык збялелы і ў вачах, апроч рашучасці, апроч непрымірымай, бунтоўнай сілы,— балючыя, гарачыя іскаркі: вось ён

стаіць перад ёю, малодшы ■ Усяславічаў, бацька яе, у водсвеце былой родавай славы — і ўся яго слава ў тым, і няма ў яго ўлады ні над людзьмі, ні нават над ёю, дачкою яго. А яна... яна хоча ўлады над людзьмі, хоча большай славы — вечнай! — такой, якую толькі зможа падняць з дапамогаю слова божага. Шкада бацьку — болем твар яго перакасіла, пастарэў ён неяк адразу,— але дарога ў яе свая. Яна сама выбрала сваю дарогу і ў тым толькі вінавата перад бацькам.

— Ці дачка ты мне? — мовіць князь, не хаваючы болю (нават гнеў адступіў перад гэтым болем).— Ці дачка ты мне, як няма пакоры ў тваім сэрцы?

— Хіба пакора, з якой я хачу служыць богу і святой справе божай, не гаворыць пра маю пакору таму, каму я абавязана нараджэннем сваім? Хіба ганьбу роду свайму я прынесла, прынёсшы сэрца сваё на алтар веры? Замуж аддаць дачку — богу ўгодная справа, так, ды хіба не больш угоднае богу тое, што яму, усявышняму, аддаеце вы сваю дачку?

— Слухай, князь Георгій, слухай! — падымае пагляд на распяцце і пачынае шаптаць малітву ігумення.

— За князем вы хацелі мяне бачыць, воляй бацькоўскай да шлюбу мяне рыхтавалі, але не журботы мужа, а журботу свету хачу я лячыць, дабрачыннасць людскую ўслаўляючы, богу і людзям служыць. Калі можаце за гэта папрок мне кінуць, на каленях прыму яго.

Маўчыць князь Георгій, бровы што мядзведзі ляжаць: вырасла без яго дачка, не ведаў ён яе такую, не памятае. З пакораю да яго гаворыць, а ў позірку — не дзявочая гордасць, разумна, з годнасцю сваё даводзіць, а пальцамі, незаўважна для сябе, паветра нервова камечыць, прыгожая, а прыгажосць сваю калі і ўсведамляе, то ўсяго як перашкоду.

— Ці ж мне вам казаць гэта, князь-бацька! Дагэтуль полацкую зямлю ў хрысціянскім свеце называюць краем валхаванняў і д'ябальскіх чараў, гняздоўем

д'ябальскай погані, над якім вісіць праклящце неба, абрушваючыся на людзей то адной, то другой пошасцю — то павадкам, то паморкам. Дагэтуль палохае палачан стары прыпамін таго, як па гарадскіх вуліцах сярод ночы чуліся стогны жудасныя, іржанне конскае над гулкім пошчакам вострых капытоў, калі завалодвала горадам д'ябальская сіла. Няхай ніхто з гараджан на свае вочы не бачыў, што тады адбывалася, але ж кожны, хто з цікаўнасці ці з патрэбы якой выходзіў на вуліцу або толькі высоўваўся за браму, у хуткім часе паміраў ад рукі д'ябла. Сярод стогнаў, крыкаў і ржання погані рознай паміраў полацкі люд. Ледзь не штолета. Быццам цэлае войска д'яблаў, нябачнае для людскіх вачэй, скакала па нашай зямлі на конях сваіх, пакідаючы пасля сябе чорныя, мёртвыя сляды. Не-не і вяртаецца яно, гэта войска, несучы новы паморак, апярэджваючы новае нашэсце варожых рацей. Мала маліліся мы! Малым ахвяравалі ўсявышняму!

— Што ж, люд слабы і легкаверны, і патрэбна яму часта дапамога вялікай душы ў важныя і рашучыя моманты гісторыі нашай. Але ж табе доля і тое і не тое рыхтавала, дачка. Я, бацька твой, на іншае спадзяваўся. На іншае, вартае дачкі, унучкі, праўнучкі патомных князёў полацкіх...— усё яшчэ чапляецца ён за звыклыя спадчынныя повязі, хоць і адчуў ужо не адчужэнне — адлегласць пэўную паміж сабой і дзяўчынкай.

— За грахі князёў бог зямлю карае! — апускае вочы на малітоўна складзеныя рукі Прадслава.

— За грахі?!

— Што, апроч рэчак крыві людской, апроч пажараў і сытага крыку гругання над шляхамі, касцьмі засеянымі, прынеслі міжусобныя бойкі, князь-бацька? Няма лета, каб не гарэлі прадмесці Полацка, каб воі ці то князя Чарнігаўскага, ці то князя Пераяслаўскага, ці то князя Кіеўскага не павыразалі скаціну і чалядзінаў на сотні міль вакол. Вось пра што я.

Хмурыцца князь Георгій: не дзявочая справа пра бойкі і крывавыя набегі разважаць — не адказаў бы на гэткія словы, ды старая ігуменння маўчання яго не зразумее... Вось і задумваецца ён, падзеі даўнія і нядаўнія перабіраючы.

— Пра любоў тваю да навукі, пра розум твой, Прадслава, даўно людзі з захапленнем кажуць. І я неаднойчы ў тым пераконваўся, гамонячы з табой. Як і зараз, няйначай. Вось і не вазьму ў галаву, чаму пра кроў пралітую ты згадваеш, а пра тое, за што яна лілася і льецца, маўчыш. Ці ж туга па залатому сталу кіеўскаму дружыны палачан уздымала і вяла на сечу? Ці ж гнеў княжай помсты адвагу ў сэрцах вояў полацкіх абуджаў? Вольную зямлю сваю князі са сваімі дружынамі адстойвалі. Няма ў тым граху, дачка,— межы княства родавага свайго бараніць.

— У той час як бацька Усяслава, дзед ваш Брачыслаў, больш за два дзесяткі год выконваў ролю простага паладзіна Яраслава, у той час як адзін з сыноў Усяслава, ваш брат Давыд, заносіў разам з Яраславічамі братазабойны меч над галавой Глеба Мінскага, а другі яго сын, ваш брат Рагвалод, шэсць летаў таму, пакорна прыняў полацкае княжэнне як міластыню з рук Мсціслава, а чатыры леты таму, сярод жахаў разгрому і папялішчаў, палачане паўсталі супраць сына Усяслава, вашага брата Давыда, і, сабраўшыся на веча вялікае, выгналі яго, і прыйшлі да Мсціслава, і прасілі яго да сябе князем, і стварыў волю іх Мсціслаў, выслаўшы ўсіх Усяславічаў з зямлі полацкай, вы, князь-бацька, гаворыце пра неад'емныя правы вашы, пра магчымую незалежнасць земляў ад больш магутных і жорсткіх уладык?

— Адзіны ўладыка над намі — гасподзь наш, ды будзе ён літасцівы да людзей і зямлі нашай! — уставіла сваё ігуменння, і Прадслава, гэтак жа, як і яна, перахрысцілася.

— Полацкая зямля,— не зважаў на словы ігуменні князь Георгій,— шчытным паўкругам ахопленая з трох бакоў, стала межавай цераспалосіцай паміж наўгародскімі , чарнігаўскімі і смаленскімі ўладаннямі кіеўскага стала, барацьба за яе межы — немінучая. Крыві зашмат ліецца? Згодны. Але ж і слава за полацкімі князямі ідзе.

Ледзь прыкметная зморшчына пазначылася на пераноссі Прадславы — збегліся яе тонкія, дугамі выгнутыя бровы, пацямнеў, глыбейшым стаў позірк сініх вачэй.

— Што зрабілі, што паспелі зрабіць яны, магуты роду нашага, раней за нас і жэнячыся, і пасягаючы на княжы стол, і княжачы? Не вечнае жыццё іх — цякло і мінула, і слава іх згінула, развеялася як прах, няйначай. А калі жанкі, было, узяўшы мужчынскую моцу, ішлі ўслед за жаніхом сваім Хрыстом, імёны іх і на нябёсах напісаны. Усякая ж іншая слава ёсць прах і попел і як дым разыходзіцца.

— Слухай, князь Георгій, слухай! — зноў, перапыняючы сваю нястомную малітву і апускаючы долу вочы, мовіць ігуменн я.

— Нявестай Хрыстовай наракла я сябе, князь-бацька, і ды будзе на тое ваша благаславенне! — з бледным тварам і палкім, палаючым позіркам кленчыць Прадслава перад бацькам.— Пажыўшы ў манастыры, буду прасіць біскупа, правялебнага Іллю, які трымае прастол Святой Сафіі ў Полацку, мовіць мне знаходзіцца ў каменнай галубніцы царквы Святой Сафіі. Як будзе на тое яго воля, не будзе больш пакорнай служкі божай...

Маўчанне павісае ў пакоі. Нават ігуменн я не шэпча больш словы малітвы, пахіснуўшыся і адступіўшы ад сцяны, ад распяцця: ні раней, ні тут, у манастыры, не бачыла, не ведала яна гэткай чыстай душы, гэткай чысціні і рашучай перакананасці, а перад імі ж была дзяўчынка — дзіця, па сутнасці!

Князь Георгій, міжволі глыбока ўражаны, крануты словамі дачкі і яе чыстым, поўным веры ў яго княжае і бацькоўскае вялікадушша жэстам, ступае да дачкі, асцярожна, пяшчотна бярэ ў шырокія далоні свае яе галоўку, прыўздымае, углядваецца ў бледны твар: святло сыходзіла ад яго, і ў ім, у гэтым святле, бруіўся насустрач позірку князя сіні, зіхотка-сіні позірк дачкі...

Глеб стаіў дыханне — здавалася, не дыхаў, баючыся нават дыханнем скрануць, разбіць ясны, яркі адбітак на вадзе: у цёмнай аправе парослага першай вясновай травой берага ззяў незнаёмы, незнаёма-прыгожы дзявочы твар. Сінія, валошкавыя вочы, акаймаваныя доўгімі пушыстымі вейкамі, чысты высокі лоб над тонкімі, дугамі выгнутымі бровамі і прамы, правільнай формы нос, не кранутыя ўсмешкай яркія прыпухліны вуснаў і цвёрды, нягледзячы на акругласць, падбародак — ён не мог сказаць, што менавіта надавала гэтаму твару непаўторнасць, непаўторнае хараство, і таму пільна ўзіраўся ў яго, недзе ў глыбіні душы разумеючы, што ўяўленне, па-свойму абагаціўшы бачанае, паўтарае выяву маладой манахіні на адной ■ фрэсак Спаса-Ефрасіннеўскай царквы ў Полацку. Тая гэта была і не тая манахіня. Чым даўжэй, чым больш пільна ўзіраўся ў адбітак Глеб, тым больш размываўся той, мяняючыся, набываючы іншыя рысы, здавалася, нават знаёмыя, вельмі знаёмыя...

Здрыгануўся Глеб і зноў знерухомеў, калі пазнаў у новым уяўленым партрэце на вадзе, на паверхні свіслацкай затокі матчын твар. Усяго на адно кароткае імгненне твар манахіні ўявіўся яму матчыным тварам, але і гэтага імгнення хапіла, каб адчуў Глеб усю глыбіню сваёй несвоечасовай задуменнасці, усю сваю адасобленасць ад таго, што здарылася і чакала яго прысутнасці, яго ўдзелу. Гора не ўсведамлялася. Пякло ў грудзях, і ўсё. Ды яшчэ раз-пораз выплывала, калы-

халася над усім, над мітуснёй яго, недарэчнай у такую ноч, чорнае, балючае: «Ма-ма...»

Дзве гадзіны блукаў ён па начным горадзе, час быў ісці дадому, час пераключаць думкі на клопат гэтага канкрэтнага дня — яго чакала маці. Яго, Глеба, і Барыса, якому яшчэ трэба было адбіць тэлеграму ў Полацк.

## IV

— Віктар Уладзіміравіч, я таму і прыйшоў у гарвыканком, што ў вас усе паўнамоцтвы ўлады. Пытанні, якія я стаўлю, трэба вырашаць. І вырашаць неадкладна.

— Не перабольшваеце, Барыс Іванавіч? — прыжмурвае вочы, усміхаючыся на палкасць вучонага, Залатніцкі.— Стаялі ж гэтыя муры колькі стагоддзяў, у адзін-два дні не рассыплюцца. А?

— У адзін-два дні, кажаце? Ды толькі наш інстытут ужо на працягу шасці гадоў ставіць пытанне аб неабходнасці рэстаўрацыі будынка. Шэсць гадоў б'ёмся, даказваючы ва ўсіх інстанцыях відочнае! З разуменнем усюды ставіліся, не скажу,— неспакойна пакручваўся ў крэсле Барыс.— Часта нават пагаджаліся: так, трэба, час наспеў... Але далей гэтага — не ішло. Выдаткаваць патрэбную суму магчымасці не знаходзілася. Вось і вы, Віктар Уладзіміравіч, зараз скажаце: ёсць больш важныя аб'екты, жыллё злачынна марудна будуем, цеплацэнтралі ў горадзе няма... Так? Але ж і я, прашу прабачэння, не пра свой уласны курнік клапачуся. Гэтае храмавае збудаванне — веха гісторыі, нашай з вамі гісторыі.

— Усё так. Згодны, Барыс Іванавіч. Згодны і разумею. Але ж і вы зразумейце, што гаворка ідзе не пра дзесяць — пятнаццаць тысяч выдаткаў, а пра суму непараўнальна большую, пра суму, якую ні вы, ні я — на вялікі жаль! — з кішэні не выкладзем. Ды чаго там!

Гораду — сваімі сродкамі не абысціся: ёсць план забудовы яго, ёсць фінплан, нарэшце, якi нашы з вамі пражэкты не ўлічвае.

— Пра-жэк-ты?! — захлынуўся абурэннем Барыс.— Вы, мэр аднаго з самых старажытных на Русі гарадоў, клопат па захаванню яго сусветна вядомых архітэктурных помнікаў называеце «пражэктамі»? Баюся, што я змарнаваў час, расказваючы вам пра значэнне і каштоўнасць,— так, так, і каштоўнасць іх. Баюся...

— Ну-ну-ну, Барыс Іванавіч! Навошта гэтак хвалявацца? Навошта гарачку пароць? Я бяру назад гэта слова — вы занадта літаральна яго зразумелі! Я нават гатоў прынесці свае прабачэнні, калі так недарэчна пакрыўдзіў вас. Меў жа я на ўвазе толькі адно: любыя планы павінны быць забяспечаны фінансава, у іншым выпадку яны — невырашальныя. Разумееце?

Залатніцкі тлумачыў без усмешкі, незадаволены сабой і гэтаю гаворкаю з вучоным, з доктарам навук, у якой ён зусім не бачыў сэнсу. Пагаворацъ і разыдуцца: яго, старшыню выканкома, чакала нарада з будаўнікамі, доктара гэтага — яго кабінет у сталіцы і новы рукапіс пра чорт ведае якія часы на гэтай зямлі. «Мэр аднаго з самых старажытных на Русі гарадоў...» Гэта толькі прагучала прыгожа: нават да абласнога цэнтра было часам не дапяць, і калі б не Наваполацк з яго хімічным камбінатам побач...

— А вы ставілі перад фінансавымі органамі гэта пытанне? — перапыніў яго разважанні воклiч Суляціча.

— Мы раіліся...

— Раіліся?! — падхапіўся вучоны і, стрымліваючы сябе, зрабіў відочна аграмаднае намаганне і зноў апусціўся — упаў! — у крэсла: відаць было, што ў ім ішла барацьба, што ён пакутна шукаў больш спакойныя, больш разважлівыя словы і не знаходзіў.— Мне думаец-

ца, Віктар Уладзіміравіч, што гарвыканком мог бы заняць больш акрэсленую і рашучую пазіцыю. Геній нашых продкаў для некаторых на сённяшні дзень, мажліва, і пусты гук, але няхай не пра іх, не пра продкаў, а пра нашчадкаў дбаць мы павінны! Новая культура вырастае толькі з усяго здабытага народам за доўгія вякі сваёй гісторыі. Гэта аксіёма. Гэта адно з марксісцкіх палажэнняў, і не вам, Віктар Уладзіміравіч, пра гэта нагадваць.

— Мы раіліся ў вобласці,— як і не пачуўшы прыхаваных раздражнёных нотак у голасе вучонага, прадоўжыў сваю думку Залатніцкі,— і нам абяцалі звярнуцца з нашымі выкладкамі ў адпаведныя міністэрствы. На маю думку, гэта даволі акрэсленая пазіцыя гарадскіх улад, Барыс Іванавіч. Калі б і ваш інстытут, і вы, Барыс Іванавіч, са свайго боку больш настойліва шукалі вырашэння праблемы, і немалой для горада, падобнага нашаму, праблемы, то агульнымі намаганнямі мы, глядзі б, і зрушылі-такі справу... Прабачце.

Ён пацягнуўся да тэлефоннай трубкі, па ходу запісаўшы штосьці на лістку адкрытага блакнота.

— Да. Я ж прасіў... Што-небудзь тэрміновае? Што? — пачаў пакручваць ручку ў пальцах Віктар Уладзіміравіч, пакасіўшыся на госця.— Добра. Значыцца, так. Пазваніце ў аэрапорт, закажыце білет. Мы зараз заканчваем.

— Але, Віктар Уладзіміравіч! — тузануўся ў крэсле Барыс.— Гаворка ж не закончана.

— Бачыце, дарагі Барыс Іванавіч... Тут з'явіліся новыя, нечаканыя абставіны.

— Што-небудзь здарылася? Вас тэрмінова выклікаюць?

Залатніцкі падняўся і рушыў да вучонага, абмінаючы стол. Падняўся і той, зразумеўшы, што аўдыенцыя на сёння і сапраўды закончана, і ў рэзкім, нецярплівым

руху яго чыталася прыкрае: яшчэ адна гаворка ўпустую!

— Бачыце, Барыс Іванавіч... Там прынеслі тэлеграму. На ваша імя,— не знайшоў ніякіх мякчэйшых слоў старшыня гарвыканкома.

— З інстытута?

— Не,— павярнуўшыся, націснуў ён на рычажок сувязі з прыёмнай.— Зайдзіце, Клава Назараўна.

Барыс нічога не разумеў. Ён запіхваў у партфель раскладзеныя ім напярэдадні на стале паперы і дакументы, зіркаў на старшыню выканкома, які раптоўна страціў усю сваю пыху і таптаўся ля яго, чакаючы сакратарку,— ледзь тая ўвайшла, павярнуўся да яе і таропка запытаў:

— З білетам высветлілі?

— Усё зроблена, Віктар Уладзіміравіч. Першы рэйс праз гадзіну, білет заказаны. Тэлеграма вось...

— Да-да. Дзякуй, Клава Назараўна,— узяў лісток тэлеграмы Залатніцкі.

— Гэта мне тэлеграма? — раптам захваляваўся Барыс.— Што-небудзь здарылася?

— Самалёт праз гадзіну... Білет вам заказаны. Вы можаце карыстацца маёй машынай,— падаў той яму тэлеграму і тут жа дадаў: — Прыміце мае шчырыя спачуванні, Барыс Іванавіч.

Тэлеграма паведамляла: «Памёр бацька. Адразу выязджай. Глеб». «Толькі Глеб ведаў, куды, на які адрас трэба было адбіць тэлеграму сюды ў Полацк»,— неяк зусім недарэчы падумаў Барыс.

— Унізе вас чакае машына. Паверце...

— Да-да,— замітусіўся ён: падхапіў і тут жа ўпусціў на падлогу партфель, кінуўся падымаць яго і ўпусціў шматок тэлеграмы, перакідваў партфель з рукі ў руку, сілячыся ўспомніць, што ён яшчэ не зрабіў, і ўспомніў — перакінуў партфель у левую руку, правую

падаў Залатніцкаму.— Дзякуй. Спадзяюся, мы з вамі дагаворым... Іншым разам.

— Канечне, канечне, Барыс Іванавіч. Мы са свайго боку...

Словы ўжо нічога не значылі.

Шлях дадому быў няблізкі, узніклы неспакой ніяк не ўваходзіў у берагі канкрэтных думак пра бацькаву смерць, пра звязаны з гэтым жалобны абрад і тое, што патрабавалася ў сувязі з ім ад яго, Барыса, старэйшага ў сям'і. Вядома, усё неабходнае зробяць суседзі: пакуль жывыя ў вёсцы старыя людзі, жывая і памяць пра дзедаўскія звычаі, пра ўсё, што тычыцца нараджэння, жыцця і смерці чалавечай,— не адзін, дык другі падказваў, як раней было, як лепей, не адзін, дык другі пасабляў. Гэта спакон веку вялося. І не гэта хвалявала. А тады што?

Жыццё — колькі існавала яно на зямлі — заўсёды азначала больш, чым век аднаго асобнага чалавека: чалавечы век — каму ўжо які выпадаў, а жыццё доўжылася столькі, колькі і памяць людская не ведала, і ўбірала ў сябе ўсё, і ніколі не было ў ім выразнай — ды і не выразнай! — мяжы паміж мінулым, цяперашнім і будучым. У іх, сённяшніх, ажывалі гены далёкіх, невядомых продкаў, штосьці з таго, што адкрывалі яны сёння ці адкрыюць толькі заўтра, было вядома шмат стагоддзяў назад, за ідэі, якія толькі-толькі нарадзіліся або нават толькі нараджаліся, змагалася, укладваючы ў людзей свой клопат, сваю трывогу, будучыня. І так ва ўсім. Чалавек — тое, на што яны былі асуджаны, гэта так: мала гэта ці многа, Барыс не ўзяўся б адказаць. Адзінае, што скрозь заставалася,— усведамляць сябе, асобу ў сабе не як штосьці супрацьлеглае свету, а як малую частачку яго, вялікага і неўміручага. Адзінае? Ці мо яшчэ што ёсць? Для нечага ж імкнуцца людзі пакінуць па сабе памяць!

## V

У гэты дзень зацвіў бэз. У гронках набухлых п'янлівай вясновай сілай пупышак з'явіліся першыя, не вельмі дружныя кветачкі, якія нагадвалі, калі прыгледзецца, срэбна-ліловыя крыжыкі — вясёлыя, духмяныя крыжыкі пялёсткаў. Не адзін Глеб азіраўся на адразу пасвятлелы, святочны куст бэзу на рагу хаты, калі ўжо вынеслі труну і жалобная працэсія накіравалася да правулку, які вёў у поле і цераз поле да ўзвышша, дзе, колькі стаяла Сінча, хавала яна сваіх мёртвых.

— Што там? — нават запытаўся Барыс.— Забыліся што?

— Бэз зацвіў.

— Бэз? — з трывогай зірнуў той на брата.

— Бацька яго некалі садзіў.

Барыс перасмыкнуў плячамі і больш не абзываўся. Мернымі, крыху запаволенымі, як таго патрабавала мінута, крокамі ішлі яны побач, плячо ў плячо, абодва рослыя, шыракаплечыя, русавалосыя, абодва нечым нагадвалі бацьку, і ўсё ж — хутчэй матчыны сыны, а значыць, багацейшыя на цэлы род, на род ратаяў і майстроў-рэзчыкаў. Яшчэ прадзед іх, Ігнацій Смык, выразаў з цэльнага кавалка ўляжалага, сухога дубу крыж з распятым на ім сынам чалавечым — не для царквы выразаў, для дарогі: распытаўшы людзей, і сёння, напэўна, можна было знайсці колькі тых крыжоў, абвязаных парудзелымі ад часу і непагадзі ручнікамі, дзесьці ў баку ад збітых, пакрытых асфальтам бальшакоў. А мо і не знайшліся б тыя ўжо? Які з іх сам падгніў, пахіліўся і быў спалены разам з іншай царкоўнай старызнай у часы, калі бяздумна знішчаліся храмы і з храмамі — усё, што засталося ў спадчыну ад былых стагоддзяў, іншы ж калі нават і ацалеў, то быў вырваны з зямлі якім-небудзь «аматарам» старажытнасці і стаў здабычай шашалю ці волкасці дзесьці

на цёмным гарышчы або ў набітым розным ламаччам гаражы.

Сын чалавечы, распяты на сваёй пакуце — у сучасным, па-сучаснаму набітым старым і новым ламаччам гаражы... Іронія часу! Адно што, згадваючы пра гэта, нельга было выцiснуць нават горкай усмешкі: бога няма і не было, але ж пакута чалавечая — была! І была для кожнага. У кожным. Толькі ў душу пільна зазірнуць... Хто-хто, а прадзед Ігнацій добра гэта ведаў. Пакуль полымем душа яго не ўзялася ў набітай людзьмі і падпаленай фашыстамі хаце, згадваў сыноў сваіх, Пятра, Веніяміна, Вінцэся і Івана, якіх забрала вайна, і Маланню, меньшанькую сваю, застрэленую над дачкою, сагнанаю потым, пазней, некуды ў нямеччыну. Пакуль душа полымем не ўзялася, згадваў. Не бога, а іх, дзяцей сваіх і ўнукаў страчаных. Лягчэй памёр бы, каб ведаў, што жывой застанецца ўнучка яго, Ефрасіння, што дабярэцца, дойдзе яна да Полацка, уцёкшы з разбамблёнага цягніка і хаваючыся па лясах і балотах. Дойдзе, сустрэне вызваленне разам з горадам, апусцелым, чужым...

Наперад ніхто нічога не ведае. Ефрасіння не ведала, чым прыцягваў яе ў тыя дні горад, чаму, хоць у лесе было зацішней, абарваная, здзічэлая за доўгія месяцы бадзяння і пастаяннага голаду, ішла яна на стрэлы, на шалёны рык гармат. Адно і ўспомніць потым, як ужо ў суцемках пераходзіла сцюдзёную Палату і раптам здалося, што непадалёку, за якія два-тры крокі, пагойдваўся на вадзе крыж, зроблены дзедам,— яна ўжо ступіла да яго і, злякнуўшыся (мо гэта чалавек забіты пагойдваўся!), кінулася да берага, да кустоўя.

Ноч перабыла ў вербніку, а раніцою, калі, пасмялеўшы, выглянула яна са свае сховы, а потым і выбралася з яе, убачыла пабіты варонкамі (магілы ж, няйначай, павыдзірала!) стары могільнік, і за ім храм. Цалюткі. Нават крыж зіхацеў на фоне дымнага, нібы бруднага,

ранішняга неба. Рушыла туды. Нікога не сустрэла. Праціснулася ў шчыліну дзвярэй. Спярша нічога не ўбачыла: у храме, невялікім, цесным, панаваў паўзмрок, і трэба было, каб вочы звыкліся з ім. Агледзелася: чатыры масіўныя слупы-калоны падтрымлівалі арчатыя скляпенні купала, яшчэ два гэткія ж слупы падпіралі каменныя хоры, якія выступалі ледзь не на сярэдзіну храма. І ўсё гэта доўжылася, імкнулася ўгору, хаваючыся там, у змроку,— сэрца сціналася ад адчування нейкай таямніцы, закладзенай у самім будынку ці занесенай сюды пазней...

— Есць тут хто? — запыталася яна шэптам, і словы, узмоцненыя акустыкаю пустога храма, вярнуліся гулкім рэхам.

Міжволі адступіла Ефрасіння да калоны, прыпала да яе, спалохана азіраючыся вакол. Колькі прастаяла так, не ўсведамляла. Калі з натужным рыпеннем адчыніліся дзверы і хтосьці спытаў па-хлапечы звонка: «Хто такая?», яе як варам аблілі: свой! хтосьці са сваіх!

А той ужо наблізіўся, нахіліўся да яе.

— Ты хто такая? А?

— Ефрасіння,— выціскае яна з сябе, спрабуючы стрымаць калатун і саромеючыся яго.

— Полацкая? — усміхаецца.

— Чаму? Азярынскія мы. Трыццаць вёрст будзе...

— І тое, што ў храме Ефрасінні Полацкай уратавалася, не ведаеш?

— Не... Што ў храме, ведаю,— расшчапіла, нарэшце, Ефрасіння рукі і, павярнуўшыся, прыслані лася да слупа спіной.

— Спаса-Ефрасіннеўская царква гэта, зямлячка. Так што ў самы раз, калі і цябе Ефрасінняй назвалі,— хуткім, спрактыкаваным позіркам агледзеў той пусты храм, адышоўся і павярнуўся ісці.— Іван я, Іван Суляціч. Авось сустрэнемся. Жывы застануся — сустрэнемся. Гонім жа немца, гонім, зямлячка!

— Гэтак жа імкліва, як убег, ён і выбег, і цяпер ужо Ефрасіння выразна чула гул машын з бальшака, галасы і ледзь чутныя — відаць, далёка, ад царквы,— стрэлы.

— Гэ-э-эй! — не закрычала, зашаптала яна, аблізнуўшы сухія, гарачыя губы, зашаптала кудысьці ўгору, у змрок, ледзь падсвечаны вузенькімі прадаўгаватымі вокнамі.— Ты, каго няма! Я магу ўжо не хавацца ад людзей, магу вярнуцца дамоў... дамоў...

Хлынулі, затапілі яе шэпт слёзы — не было ў Ефрасінні больш дома, нікога не было больш: ні таты, ні мамы, ні братоў — усіх вайна забрала. Усіх забрала, а яе жыццю пакінула. Жыць яна павінна была, а як?

За ўсе доўгія месяцы, за тры гады пасля смерці маці ўпершыню плакала Ефрасіння, доўга плакала, перш уголас, няўцешна, потым бязгучна,— горкімі, балючымі ўсхліпамі. Калі аціхлі і слёзы і ўсхліпы, заўважыла, што цераз усходняе акенца зазірала ў царкву сонца і яркі, каляровы водбліск яго ляжаў на размаляванай калісьці сцяне. Там і зараз значылася якаясьці выява, бляклая, праўда, і перш чым выйсці ў двор і затым на вуліцу, Ефрасіння вырашыла прыгледзецца, наколькі можна было ў паўзмроку, да сцен, бо нават на слупе, пры якім яна стаяла, быў чыйсьці партрэт. Святой, няйначай, якой-небудзь. Ці манашкі. Бляклы, напалову сцёрты партрэт, а і так было відаць, што прыгожая манашка. Мо гэта і была тая Ефрасіння Полацкая, пра якую Іван згадваў? Павольна рушыла яна ўздоўж сцяны, мала што разгледзела, але за колькі крокаў ад дзвярэй знайшла ў сцяне ўваход: каменныя прыступкі вялі кудысьці ўгору, туды, дзе цьмяна свяцілася паваротка, і былі зусім вузкія, як аднаму чалавеку прайсці.

Штосьці падштурхвала Ефрасінню, штосьці цягнула яе ў гэты вузкі праход, быццам і сапраўды ў тым, што яна трапіла ў гэты храм на золку, быў нейкі прыхаваны сэнс. Ступіла на першую прыступку. Потым на другую,

на трэцюю. Рух уцягваў. Касы слупок цьмянага святла адтуль, куды паварочвала лесвіца, набліжаўся. І вось ужо Ефрасіння падымалася насустрач святлу, і з кожным крокам, з кожнай новай прыступкай праход святлеў. Святлеў, пакуль не вывеў на залітую сонцам невялікую, у чатыры-пяць крокаў, пляцоўку, што збоку ўтварала каменны выступ хораў, а напрасткі пераходзіла ў келлю, зробленую ў форме крыжа, адзін канец якога быў тым вузкім прадаўгаватым акенцам, адкуль ліло свае промні сонца.

Пакасілася на ўрэзаную ў сцяну каменную лаўку, ступіла ў келлю, падышла да акна. І, ледзь не ўскрыкнуўшы, спалоханым рухам прыкрыла даланёю рот: з акна адкрываўся такі неабдымны далягляд, што здзіўленне, захапленне, нават страх, зліўшыся разам, у адно, як прыгнялі яе, уціскаючы ў камяні. Спачатку прыгнялі, а потым рыўком падштурхнулі да самага акна, і яна ўпілася позіркам удалячынь, у спакутаваную за гады вайны і ўсё ж такую прыгожую зямлю сваю — пазнавала і не пазнавала дарогі, пералескі, раку... Быццам адразу, разам убачыла Ефрасіння ўсю Полаччыну: і маленства сваё — далёка ў былым, за вайной, і сталасць сваю — дзесьці ў сонечнай лагчыне, за лесам, за няблізкім яшчэ днём перамогі, там, дзе знойдзе яе Іван... Як усё спалучала далеч!

...Глеб крыху падаўся да брата, плячом крануўся яго пляча, і стала крыху лягчэй: пра гэту, першую яе сустрэчу з будучым мужам, з іх бацькам, расказвала калісьці маці ім абодвум.

Павольна рухалася калгасная машына з апушчанымі бартамі і ад таго нейкая куцая, хоць на пасланых поперак кузава тканых дарожках стаяла крыху прыўзнятая труна, і з абодвух бакоў, быццам падтрымліваючы ці то яе, ці то штучныя, купленыя на станцыі вянкі, сядзелі згорбленая Яўхіміха і балюча, неяк

надламана выпрастаная Ефрасіння. Моўчкі або ціха перагаворваючыся ішлі следам людзі. Удовая Наста Верчына, суседка і сяброўка Ефрасінні, стрыечныя сёстры Іванавы Алена і Ніна з Запярыння, стары Аўдзей Пустадомак, які мянушку сваю заслужыў яшчэ змоладу і так і пражыў з ёй, скардзячыся скрозь на ўсё і ўсіх (ён і зараз скардзіўся на свае хваробы чырванашчокай маладайцы Ганне Штыхавай, забягаючы ўвесь час на крок наперад і зазіраючы той у твар), нямая Вулька са сваім сынам, што не-не і адыходзіўся ўбок, убачыўшы якую казюрку, Ігнат Ступін і Стась Каргач з рамонтных майстэрняў, дзе працаваў апошнія гады Іван, чатыры мясцовыя музыкі на чале з кульгавым Ромкам са сваімі не вельмі паслухмянымі ў іх руках трубамі і вялікім, так што Мішу Верчынага з-за яго было не разгледзець, барабанам... Глеб згадваў усіх, хто прыйшоў праводзіць бацьку, перабіраў знаёмыя прозвішчы ці вясковыя мянушкі, якія часта замянялі іх, лёгка аднаўляючы ў памяці твары, манеры трымацца і гаварыць: на вачах старэйшых з іх ён рос, як і ўсе яны, добра ведаў не вельмі ўрадлівыя калгасныя палеткі і цяжкую вясковую працу. Згадваў, перабіраў згадкі — толькі б адцягнуць позірк ад балюча выпрастанай, нерухомай матчынай постаці над трунoй, бо міжволі падступалі слёзы, каб не бліснуць, не выбліснуць, а так і згаснуць дзесьці глыбока ў душы, пакідаючы там горкі, непрыемны прысмак.

— Ты на колькі затрымаешся дома, Барыс?

— Яшчэ з дзень пабуду.

— Гаворка ёсць. Мне твая дапамога патрэбна.

— Пагамонім. Хай усё скончыцца...— уздыхнуў той.— Маму шкада. Пераехаў бы да яе, ды што мне, гісторыку, тут рабіць. У Сінчы нават дзесяцігодку прыкрылі: вучыцца няма каму.

Глеб не адазваўся. Чамусьці зачапілі братавы словы. І праўда была ў іх, у словах яго, ды нейкая вельмі

ўжо крыўдная праўда: яны, дзеці вёскі, прагнулі вучыцца, а павывучваліся, каб стаць ёй, вёсцы, чужымі? Калі б яшчэ на агранома ці хоць бы на інжынера вывучыліся, а то — доктар гістарычных навук Барыс Суляціч альбо ён, Глеб,— мастак, які хоча напісаць — з крыві і плоці, хай сабе і сваёй уласнай, аднавіць далёкія падзеі, аднавіць каранёвыя повязі паміж шматлікімі людскімі пакаленнямі. Жыў жа, жыве — апошні год як мінімум,— у іншым часе, у іншых, дзедаўскіх яшчэ мясцінах: маці родам адтуль...

Званы Сафіі... Калі абуджаўся вялікі звон і густы, чысты гул яго падымаўся над саборам а сямі вярхах, а сямі купалах, і ўслед за ім, на адно імгненне апярэджваючы наступную магутную хвалю працяглага, трывожна-ўрачыстага гуку, праз спалоханы пошум крылаў узляталі ў паветра бязважкія чародкі галубоў, усё аціхала, усё нерухомела і ў Полацку і ў яго ваколіцах уверх і ўніз па Дзвіне. І вось ужо адгукаліся іншыя, меншыя званы, адгукаліся, здавалася, бязладна, таропка, быццам даганяючы гук, і вось ужо іх пявучае бомканне злівалася ў нястрымнае, неабдымнае гучанне прасторы і ўсе позіркі міжволі звярталіся да неба, яснага, бязвоблачнага, ці ад краю да краю ахінутага рудой, пад колер зямлі, хмарай, і ў кожнай жывой душы, страпянуўшыся, білі крыламі трывога і радасць — няўцямная трывога і няўцямная радасць. І ў гэтых трывозе і радасці, што складалі адно цэлае — самую душу чалавечую, было столькі таемнага, незразумела ўзвышанага, што і бязлетны немысель, і багабойлівы стары адчувалі сваю бяссільнасць, сваю безабароннасць перад небам і часам, які то ўслаўлялі, то адпявалі званы Сафіі.

Званы... Галоўны, самы вялікі і самы гучны з іх, быў прывезены Усяславам з Новагорада пасля вялікай крыві і вялікага агню, якімі той паход палачан

адзначаны ў летапісах,— мо таму такім трывожным быў яго чысты гук, яго гнеўны гул, што незлічонае мноства крывічскіх вояў — з аднаго і з другога боку — склалі галовы ў барацьбе за яго, бо кожны палаў рэўнасцю заступіць месца паўшага і бязлітасна папіхаў нагою труп свайго брата, каб толькі адпомсціць за смерць яго. Мо таму. А мо і з іншай, больш простай і не менш жорсткай, прычыны той, што быў адліты ён некалі знакамітымі майстрамі, якіх, шчодра адарыўшы, асляпілі па загаду князя, каб не маглі яны адліць яшчэ адзін звон з гэткім жа голасам, як у новагародскага, з гэткім жа ці яшчэ зычнейшым. І вось ужо больш паўстагоддзя гучаў ён над Полацкам, над Дзвіной, ці то пачынаючы і потым вянчаючы малітоўную песню ўсіх званоў горада ў дні вялікіх святаў і дні вялікіх страт, ці то ў гордым адзіноцтве ўзвышаючы голас і роўнымі, размерана гулкімі ўдарамі склікаючы гараджан на веча. Не было яму роўнага ажно да самага Кіева, услухвалася ў яго звон Кіеўская Сафія.

А ўжо як услухваўся ў яго люд полацкі, як слухала яго Ефрасіння! Здавалася, душа яе ўзлятала з галубінай чарадой над купаламі сабора і станавілася самой бязмежнай прасторай над імі, і над горадам, і над усёй зямлёй радзімай. Здавалася, не ўздыхі слоў, а ўзмахі крыл падымалі тую прастору ўсё вышэй і вышэй, скрозь патокі святла і патокі вышынных вятроў, і гарачую малітву яе, нявесты Хрыстовай, чула неба, чула і прымала, і ўхваляла за адрачэнне ад мук і радасцей зямных бога дзеля...

— Бога дзеля адракаюся я ад долі сваёй зямной, ад патрэб і ўцех плоці сваёй слабой, і ды будзе на тым благаславенне божае! — які ўжо раз паўтарае Ефрасіння ў цішыні келлі, у глухой цішыні каменнай галубніцы Святой Сафіі, і ў адказ на словы яе, на малітоўныя рухі яе, уздрыгвае раз-пораз агеньчык лампады, і ледзь чутнае водгулле яе прыглушанага і ўсё ж па-дзявочы

звонкага голасу доўга аціхае дзесьці ў скляпеннях: як закляцце — гэтыя словы, як напамінак пра сон, пра вешчы сон — гэта водгулле.

Сярод кніг, у няспыннай, нястомнай працы мінаюць дні, тыдні: толькі тады, калі рука не трымае сціло, а галава хіліцца ніжэй і ніжэй, каб надламаць плечы і ўпасці на стол, на старонкі рукапісу, дазваляе сабе Ефрасіння забыцца ў кароткім сне. І то — перш доўга моліцца, зноў і зноў выпрабоўваючы сваю сілу, сваю волю. І кароткі сон яе звычайна здаровы, моцны — ні былыя заняткі, ні былыя сцежкі маладой князёўны не збрыдзяцца, не патурбуюць яго.

А мінулай ноччу прывід Ефрасінні быў: неба яе пляча крылом сваім лёгкім кранулася... Пэўна, знак гэта быў божы. Адстаіць яна ўсе малітвы, укленчыўшы перад крыжам, і пойдзе да правялебнага Іллі, біскупа полацкага, спавядацца ў тым. Няхай толькі аціхне бомканне званоў, няхай аціхнуць думкі.

Думкі... Шмат яна, перапісваючы кнігі старыя, а то і свае мроі, як выпадала, перадумала ў адзіноцтве, сам-насам з сабой, за той час, як пасялілася з дазволу біскупа ў Сафіі, у галубніцы яе. Ледзь што не ўсю гісторыю слыннага роду свайго — да князёўны Рагнеды, паланянкі і жонкі Уладзіміра, князя Новагародскага і Кіеўскага, і бацькі яе, Рагвалода, які паў ад мяча Уладзіміра, у думках аднавіла — па запісах летапісцаў полацкіх аднавіла, па паданнях і песнях, што жылі ў народзе. Уладзімірам Ясным Сонейкам таго велічалі, а ці не з тых часоў, ці не той крыўды княжаму дому і зямлі полацкай пайшлі, пачаліся паміж роднаснымі плямёнамі і княствамі валкі і пажары, адзін ад аднаго страшнейшыя?

Усё ж братнія плямёны засялялі землі далёка вакол, а якое стагоддзе не было паміж імі міру і згоды: кожны князь межы княства свайго прагнуў пашырыць, а найбольш князі кіеўскія, каб багацеў іхні род, каб

услаўлены былі іх паходы песнятворцамі дружыннымі. Што ж, песні гучалі, лілася людская кроў, і палалі толькі-толькі адбудаваныя двары і замчышчы, і бралі на шчыт безабаронных жанчын і дзяцей воі, не пакідаючы ў зваяваных паселішчах ні былінкі, ні чалядзіна... Докуль магло гэта прадаўжацца? Докуль будуць шукаць князі сілы і вольнасці?

Вось і дзеда яе, Ефрасінні, узяць, Усяслава — Усяслава Чарадзея, як дагэтуль яго завуць: слава ягоная далёка сягнула, і ўсё слава паходная, у жорсткіх сечах здабытая. А ёй думалася, што ў іншым яго слава і яго сіла — у тым, што ні срэбных грыўняў, ні залатых не шкадаваў ён і з усіх земляў прылеглых сабраў майстроў, рэзчыкаў па камені, плінфатворцаў-ганчароў, ліцейшчыкаў, каб узвялі яны па плану дойлідаў сабор а сямі вярхах — Святую Сафію Полацкую, што не толькі пра веру і царкву дбаў, будучы глыбока набожным і богабойлівым, а і пра асвету ў народзе сваім. Гэта — слава яго, а не тое, што мог з дружынай сваёй зваяваць і спаліць Навагорад ці Смаленск, за здраду князям помсцячы: не князям ён помсціў, не ім гора прыносіў, а люду славянскаму. А тыя, у сваю чаргу, агонь і смерць на землі полацкія неслі... Не-не! Праз вайну згоды і шчасця не знойдзеш. І ён, Усяслаў, не знаходзіў. Хоць і нарадзіўся ў сарочцы, і хадзіў, па расказах, з чароўным навязам на галаве, хоць і магут быў, якіх мала, а і ён не знаходзіў. Сабор Святой Сафіі, пры ім будаваны, стаіць, і ў бомканне званоў яго Кіеўская Сафія ўслухваецца, а тое, за што змагаўся Усяслаў, ужо сынамі ягонымі страчана, хоць і яны, сыны яго, вадзілі дружыны супраць князёў суседскіх і дальніх.

Не-не! Усе ж благачэсць прынялі, усе да аднаго бога з малітвай звяртаюцца: хай бог, хай слова божае навучыць люд і князёў іх міралюбству і цярплівай любові да братоў сваіх! Яна, Ефрасіння, служыць гэ-

таму будзе да смерці самай. Гэтаму і яшчэ таму, каб расла слава кніжнікаў зямлі полацкай, і дойлідаў, і майстроў-рэзчыкаў, і плінфатворцаў-ганчароў яе, каб любы заморскі госць у любы з часоў падзівіўся на справу рук іхніх, на багацце душаў іхніх.

Магутныя князі ў Кіеве адзін аднаго змяняюць, на працягу доўгіх стагоддзяў мячы ў похвы не ўкладваюць, то на межах княства ваюючы, то да чарговага братазабойства рыхтуючыся, а самастойнасць, самабытнасць палачан, нават пераможаных, нават васаламі Яраславічаў названых,— у тым, што дух іх нязломны. Чужыя князі падоўгу ў Полацку не сядзелі, і гэта шмат аб чым сведчыць. Але і гэта не галоўнае. Што па колькасці храмаў божых, што па колькасці кніг рукапісных, у іх сабраных, Полацк ніводнаму стольнаму гораду не ўступаў. І майстры яго, люд рамесніцкі ніколі ні перад якім госцем з далёкіх земляў прыніжана не білі паклоны: работа іх, вырабы іх за іх гаварылі, майстэрства іх паказвалі, славу іх і не адно славу майстроў залатых і сярэбраных спраў далёка несучы. І каб развіваліся рамёствы і край багацеў, каб гандаль шырыўся і навукі да людзей шлях знаходзілі, каб храмы божыя талент, дух народны ў стагоддзях услаўлялі, мір зямлі полацкай патрэбен. Мір, дараваны богам і словам божым з вуснаў праведнікаў... І з яе, Ефрасінні, вуснаў, калі будзе на тое воля божая сёння і надалей...

Думкі згасалі — згаслі ў раптоўнай цішыні разам з апошнімі пераззвонамі званоў. Ціха стала. Так ціха, што здавалася, вушы пазакладвала: ні гуку, ні шолаху. І калі пачуліся чыесьці цяжкія, гулкія крокі на каменных усходцах, сэрца Ефрасінні сцялася — не страхам, прадчуваннем нечаканым узрушанае: з весткай ішлі да яе, з навіной. Дзіўны сон бачыла, вешчы, відаць, сон, бо вось жа... вось жа пасланец па яе ішоў біскупскі.

Рыпнулі дзверы. Яна па-ранейшаму, як і ў час малітвы, на каленях перад крыжом мукі гасподняй, не павярнулася — толькі спружна знерухомела, дзеравянеючы, спіна, толькі пальцы рук, моцна сашчэпленыя, бялець пачалі.

— Біскуп, правялебны Ілля, кліча цябе, сястра Ефрасіння. Паспяшайся, скончыўшы малітву сваю,— ціха прагучалі словы айца Лаўрэнція, і міжволі ледзь заўважна ўздрыгнулі плечы Ефрасінні.

І ледзь аддаліліся, аціхлі ў каменным бязгуччы крокі, паднялася, падалася позіркам узрушаным, усім пругкім целам да лампады, да абраза і тут жа асадзіла сябе, стрымала свой гарачы імпэт. Тройчы перахрысцілася, адбіваючы паклоны, і падцяла губы, і няспешна, але рашуча распрастала плечы, быццам прыняла на іх цяжар, цяжкую, не па плячах, ношу.

— Гатова сэрца маё, божа, гатова,— прамовіла, і ступіла да дзвярэй, і прычыніла за сабой дзверы.

І калі ўступіла яна ў рызніцу і павярнуліся да яе правялебны Ілля і князь Георгій, бацька яе, са сваім братам князем Барысам, прыгожы твар Ефрасінні быў спакойны: ні ценю ўзрушэння нядаўняга не было на ім — нібыта ўжо ведала яна тое, пра што скажа зараз біскуп у прысутнасці двух князёў полацкіх, двух Усяславічаў.

— Падыдзі, дзіця маё,— гукнуў той, і пры набліжэнні Ефрасінні падняў руку для благаслаўлення, і благаславіў яе адпаведна моманту больш урачыста, чым рабіў гэта звычайна, і даў знак падняцца і выслухаць, што мовіць ён.

У глыбокай цішыні, якая наступіла, гучнымі, занадта гучнымі здаліся словы:

— Се аддаю Ефрасінні месца Усядзержца Спаса, ды па маім жываце ніхто не пасудзіць майго даяння!

Стукнулі аб падлогу каленкі Ефрасінні, укленчылі перад біскупам князь Георгій і князь Барыс...

— Асцярожней, мама! — кінуўся да адкрытага борта машыны, якая тузанулася ў калдобіне, пад'ехаўшы ўжо да могілак, Барыс.

Страпянуўся, невідушча зрабіў колькі крокаў на яго голас Глеб.

Злёгку замітусіліся, шукаючы кожны сваё, вызначанае жалобным абрадам месца, людзі.

Дзень пахіліўся на вечар.

За агароджай, ля самай крайняй з магіл, на якой трухлеў стары дубовы крыж, цвіў бэз — першыя, толькі ўранку абуджаныя сонцам першыя яго гронкі.

## VI

І пахавалі і памянулі Івана як водзіцца. Прамоў на магіле ніхто не казаў. Мо каб прыехаў хто з франтавых сяброў яго, то і сказаў што пра вайну, пра юнага байца і бой за Варшаву, за які той, васемнаццацігадовы, быў узнагароджаны салдацкім ордэнам. А як не было нікога,і так абышлося. Сінецкія ўсе ведалі Івана розным — усё жыццё таго, лічы, на вачах ва ўсёй вёскі прайшло. І заслугі Іванавы і грахі яго змоладу да сівых валасоў добра помніліся, але і заслугі гэткія і грахі, мо трохі больш прыхаваныя, не напаказ, як у Івана, былі ў Сінчы ледзь што не ў кожнага яго равесніка — не фронт, дык партызаншчына за плячамі, не маладымі, дык у сталы век увабраўшыся, пеўнямі ля жанок паходжвалі мужчыны — што ж тут казаць! Памёр заўчасна? Дык тут жа не вымераеш. І ад чужога не ўхопіш. Як выпала. На колькі сілы хапіла. Што тут скажаш!

Паплакала Ефрасіння каля сыноў (ні на хвіліну не адпусцілі яны яе з абдымкаў: адзін адыходзіўся — другі быў побач), загаласіла па нябожчыку, выціраючы ражком хусткі сухія вочы, Яўхіміха, пашмыгалі насамі бабы. Гэта ўжо як водзіцца. Праўда, Яўхіміха памкну-

лася малебен самадзейны ўчыніць, рукі ўгору ўскінуўшы — гэткай прарочыцай — службу замест папа справіць, але яе адцяснілі, каб не брала грэх на душу, не ўводзіла ў зман неба і людзей,— яна і супакоілася. І, крыўду сваю паказваючы, рота больш не адкрыла. І ледзь толькі памянулі Івана, сышла з хаты. Падцяла сухія губы і пайшла, не развітаўшыся ні з Ефрасінняй, ні з кім іншым. Людзі бачылі, але ніхто нічога не сказаў ёй услед. Дабрыню яе і любоў да нявесткі ведалі... Пайшла і пайшла. Хутка і ўсе разышліся: памінкі — не вяселле. Пасядзелі, выпілі па чарцы за памінанне душы Іванавай, пагаманілі, кожны сваё разуменне моманту Ефрасінні выказаўшы, і разышліся: вечарэла, кожнага гаспадарка чакала, клопаты звыклыя. Ад клопату, ад гаспадаркі куды дзенешся!

У клопатах ды справах па хаце і па двары і той дзень мінуў, і наступны ў вечар убіраўся. Сыны прайсціся па вёсцы захацелі, а да яе, Ефрасінні, Наста забегла. Высокая, сухажылая, у цёмнай шарсцяной хустцы, у цёмнай, зашмальцаванай па баках і на грудзях скураной камізэльцы і бумазейнай, невызначальнага ўжо даўно колеру кофце пад камізэлькай, з караткаватых рукавоў якой вытыркаліся сухія, па-мужчынску шырокія ў касці, жылістыя рукі, яна нагадвала худога вясенняга грака з добрым, заўсёды нейкім вінаватым позіркам.

Вось і зараз яна вінавата зірнула на суседку.

— Управілася ці памагчы чым? А, Ефрасіння? — і не дачакаўшыся адказу, схавала, нібыта мерзла, рукі пад пахі звыклым, не па-жаночы суровым жэстам.— Калі што, гукнула б. З самёханькаю ахвотаю я. Балазе нам цераз гарод толькі. Усёй хады — цераз колькі баразён пераступіць.

— Сядзь, Наста, пасядзі. А то ты са сваім не наўпраўлялася!

— Дык работы той — век не пераробіш, як ні завіхайся. Нічога, як што якое, і пачакае трохі,— усё гэтак

жа зябка сцяўшыся, прысела тая на лаўку ля стала.— На цябе во зірнуць захацела. А як пасядзіш побач, дык і пагамонім, часу ў вечара ўрваўшы.

— Пасяджу, чаму ж! — выцерла аб хвартух рукі Ефрасіння і, зняўшы яго, павесіла на балванец ля печы.

Падсунула табурэтку да стала, якраз насупраць суседкі, села, упусціла рукі на калені. Памаўчала, нібыта разглядваючы іх.

— Пуста стала ў хаце, Наста,— паскардзілася.

— Авоінькі! Пуста! Сыны дома — ад цябе не адыходзілі, лічы, усе гэтыя дні, а ты кажаш...

— Сыны паедуць,— перапыніла Ефрасіння яе знарачыта вясёлы вокліч.— Паедуць, як жа: у іх сваё жыццё, свой клопат, а я тут свой век дажываць буду. Хата вось гэта, куды прывёз мяне некалі Іван, і я — удзвюх.

«Твой вось Міша пры табе»,— ледзь не сарвалася ў яе з языка, ледзь утрымала яна недарэчныя словы, аб якіх тут жа пашкадавала б: Міша Насцін быў як не ў сабе, змалку яшчэ, і хоць цяслярнічаў патроху ў брыгадзе, а часцей у клубе, ля Ромкі Саўчынага аціраўся ці з хеўрай ягонай па вяселлях і пахаваннях гойсаў з вёскі ў вёску — музы́ка! А ўся му́зыка, што ў велькі барабан бухаў. Сорак год хутка, а ўсё пры Насці: ні сям'і не завёў, ні гаспадаркай не займаўся. Наста пачне выгаворваць — за шапку і ў клуб... Не, што б там хто ні казаў пра яе, Ефрасінніна, шчасце, сынамі бог яе не пакрыўдзіў: адзін перад адным стаўляй — што ростам, што сілай, што прыгажосцю ўдаліся. Абодва — у бацьку, у Івана...

— А мо і праўда паслухаць сыноў дый рашыцца, падацца ў горад да каторага з іх, да Глебкі ці да Барыса?

Сказала, быццам уголас падумала, а Наста ўскінулася, стукнула абедзвюма рукамі па каленях, нахіліўшыся над сталом — цераз стол — усім тулавам.

— Во-во! Барыняй на старасці год пажывеш! Паркеты, польскія шкапчыкі ў кухні, дываны, ды не якіясь там, а пярсіцкія, ванны, усе ў кафлі размаляванай... Са́ма пажыць! Пахаджвай ды пыл сурвэткай змахвай з аднаго шкапчыка на другі. А ўжо ж! І думаць няма чаго. Едзь. Едзь, суседачка, едзь, Ефрасінька, а ўсё, што тут, само за табой рушыць. І хата за табой услед пойдзе, і падворак, і гарод, і поле калгаснае, якое ўрабляць няма каму. Пойдуць, дзіва што! З самёхенькаю ахвотаю.

— Чаго ты ўсхадзілася? Ці ж я ўжо кінула ўсё? Сказала, бо сыны цярэбяць. Угаворваюць. Ды і тое, што ніводнай роднай душы пасля Івана не застаецца...

Наста насупілася. Зноў зябка абхапіла сябе рукамі, ледзь чутна, пад нос сабе буркнула:

— Пэўне ж, мы ўжо для цябе няродныя: я, Марфа, Галена...

Збянтэжылі Ефрасінню яе словы, сорам шчокі лёгкім ірдзенем крануў: як кепска было, як гора цярпела з Іванам і без Івана, дзяцей гадуючы, дык тады да людзей гарнулася, да Насты, а тут сказала, як выраклася. Нядобра сказала. Бы з Яўхімішыных слоў што якое паўтарыла, пацвердзіла. А і ў душы ж не было — карэнне сваё і дзяцей адсюль вырываць: памрэ, то тады як хочуць, як схочуць дзеці. А пакуль жывая, пакуль працаваць магла,— тут яе месца. Калісьці доля так распарадзілася, а зараз Ефрасіння сама ўсяму гаспадыня: і хаце сваёй, і гароду, і полю калгаснаму. І воля яе ў тым.

Думкі супакоілі. Нічога яна, як бачна, вырашаць не будзе: ні сённяшнім, ні ўчарашнім днём — жыццём усё даўно вырашана. Гэта смерць Іванава спакой у душы яе парушыла, гэта холад дзён, так пакутна пераўжытых ёю, словы выстудзіў. Наста разумела — зразумее! — бо вось жа хоць і насупілася, адчуўшы крыўду ў словах яе, а не падхапілася, не пайшла з хаты — моўчкі, прываліўшыся спіной да сцяны, пазірала на яе, сваё штосьці

думала і пазірала, грэла Ефрасінню сваім нетутэйшым, як сама казала, цёмна-карым позіркам.

— Куды, у які такі вабны свет мне кідацца ад вас, ад зямлі? Куды, га? — не вытрымала гэтага позірку, мяккага дакору ў ім Ефрасіння і апусціла вочы, і нейкі час пакручвала ў пальцах кутасы абруса, пільна ўзіраючыся ў свае рухі. Потым падняла галаву, сумна, не хаваючы горычы, усміхнулася.— Які ўжо асцюкаваты, горкі хлеб елі пасля вайны, і доўга яшчэ пасля вайны, а ва ўцёкі ніхто не кінуўся. Зараз жа, калі і хлеб, і да хлеба — штодня на стале, і грэх быў бы ад зямлі адступіцца.

— Той-сёй і раней збег бы, Ефрасіння, з самёханькаю ахвотаю збег бы, калі б даведку мог ад калгаса атрымаць. А то ты таго не ведаеш! А ўжо як волю далі, то маладыя ўраз разляцеліся лепшай жыткі шукаць. Хто да вучобы, хто да заводскай працы ад гудка да гудка, а хто і да распусты прызвычаіўся. Ведама ж, у горадзе ніхто, апроч міліцыянера, не спыніць. Ды і тое... Дзеўкі спадніцы да пупа паадразалі, каб нічый позірк, божа збаў, не абмінуць. Глядзіш — хвароба якая і прычапілася. З самёханькаю ахвотаю. І лячыць няма чым, бо дзягі старыя павыкідалі.

— Бурчыш, Наста. Не нам жа з табой за маладымі ганяцца. У нас сваё, у іх сваё.

— З таго і пайшло, што дзялілі мы, дзялілі — і перадзялілі, нам — нягоды, праца ад цямна да цямна, клопат пра зямлю, каб радзіла, каб не згібела, а ім — гулі ды міні ўсякія. Ні вучыцца, ні працаваць — не пра тваіх сыноў кажучы, Ефрасіння,— не хочуць. І не скажы каторай! Губкі надзьме і адвернецца. Вунь і Марфіну ўзяць, Рэню. Прыедзе, сумку напакуе, а то і дзве, грошай узяць у маці не пасаромеецца (а каб жа згадала, як дастаюцца яны, тыя грошы!), а паўз хлеў ідзе — пальчыкамі нос прытрымвае: як жа, смярдзіць ёй ужо. Адзікалонам матка не спырскала, дачушку ў госці чакаю-

чы... Цьфу! Занадта ў с... дзьмулі змалку, вось што я табе скажу. Занадта шчасця для дзяцей хацелі, а на тое, што шчасце гультая — век на чыім-небудзь карку сядзець, забыліся. Вось зараз з самёханькаю ахвотаю каркі і чухаем. І зрабілі б што — позна.

— Не ўсе ж гэткія, Наста.

— Мо і не ўсе,— недаверліва пахітала галавой тая.— Ды тое, што на вачах, вочы коле. Усе, хоць бы і старшыню нашага ўзяць, Фадзеіча, моладзь лаюць, а я скажу: мы вінаватыя. Мы ўсе, Ефрасіння, старыя. Як ні крутані: чаго хацелі, таго дамагліся. Не гнуць спіны нашы дзеці ў полі ў пагоду і ў непагадзь, гной не месяць на ферме, чыгуны пудовыя не цягаюць у печ ды з печы, каб скаціна была накормлена, дровы і сена не здабываюць, каб не мерзнуць і слоік малака выпіць... Іншай, лепшай долі мы ім жадалі. А якая яна — лепшая? Менш зрабіць, больш прыдбаць? А на кім жа зямля стаяць будзе? Вось ты больш, як я, вучаная, скажы: на кім усё трымацца будзе, як мы перамром, а?

— На іх і будзе, Наста.

— Думаеш, паразумнеюць? Думаеш, упрагуцца ў работу, датуль прывыкнуўшы хітрыкамі, дурыкамі рознымі жыць, то ад бацькоў, то ад дзяржавы што якое ўварваўшы? Ой, баюся я! Згадай хоць бы і штогодніх гарадскіх памочнікаў: у горадзе зарплата ім ідзе, тут кормім іх, малаком поім, у поле і з поля возім, а колькі пасля іх мы, бабы, перагрэбваем. Добра б мех, два мяхі бульбы ў зямлі пакінулі, а то ж вазамі возім, калі ўпраўляемся да маразоў. І тут рук няма, не хапае, і збоку рукі — не рукі.

Ефрасіння не знайшлася, што сказаць. Колькі год ужо звеннявой жанкі яе выбіраюць, а з году ў год не лягчэй, а цяжэй упраўляюцца: каб пенсіянеркі не дапамагалі, не выходзілі, то не тое што лічбы свае не выканалі б па калгасу, а і бульбу і гародніну ў зямлі пагнаілі б. Праўду Наста казала. Толькі часам і праў-

да — не ўсё, бо трэба ведаць, што з ёй рабіць, з гэтай праўдай, каб яна не проста тым, што ўсе бачаць і ведаюць, была і заставалася, а каб жыццё рухала, каб надзеі людскія спраўджвала.

— Маўчыш? — зноў азвалася Наста.— Ды і што тут казаць? І я загаварыла, бо Марфа за дзень душу сваімі скаргамі развярэдзіла: Рэні ейнай машыну закарцела купіць, дык нічога лепшага не ўдумала, як матцы прапанаваць карову прадаць: грошай, маўляў, не стае... А як не стае, як не зарабілі, чаго замахвацца, чаго з маткі жылы цягнуць? Чаго, запытацца? Цэлы горад машын, аўтобусаў, метро вунь, па тэлевізары казалі, маюцца будаваць, а ёй, бач, са сваім Уладзікам ва ўласнай машыне закарцела пакатацца! Не прыехалі, нябось, не пасобілі матцы бульбу пасадзіць, прыедуць, як будзе што ў торбу пакласці, а карову маці — прадай! Прадай і з самёханькаю ахвотаю па людзях хадзі са жбанком, купляй, каб які крупнік забяліць. Не, Ефрасіння, не будзе толку. Не будзе. Каровы прадамо, хаты пакідайма, а малако з вадасцёкаў замест ржавай вады не пабяжыць і бульбу з-пад асфальту не ўкапаеш — за конаўку малака трэба і травы накасіць, і гной памясіць, і пад карову, як той казаў, ведаць, з якога боку падлезці. Тэхніку далі, а каму ля той тэхнікі хадзіць? Аўдзею старому? Хведару Галасу, што ходзіць п'яны, смэркі над губой павесіўшы? Ці мо мне з маімі пальцамі павыкручванымі?

— Не ўсюды ж так, як у нас, Наста.

— Адно і суцяшае, што мо не ўсюды. Але ж гэтак спрадвек: там добра, дзе нас няма. А нам з табой, дзеўка, тут з самёханькаю ахвотаю дажываць. Тут, у Сінчы. Разам з ёй, Сінчой, як гэтак далей пойдзе...

— Ну-у-у, мы з табой яшчэ пажывём,— кранулася яе рукі, што бяссільна, нерухома ляжала на абрусе, Ефрасіння.— Пажывём! А пакуль жыць будзем, і вёска не памрэ.

— Ды ўжо ж,— нявесела ўсміхнулася тая.— Твае калі едуць?

— Заўтра. Барыс — заўтра, а Глеб яшчэ не надумаўся,— схавала вочы, прыкрыла іх павекамі Ефрасіння.— Усяго ж тры дні даюць. Хоць бы і з такога выпадку.

Яна змоўкла. Цяпер ужо маўчалі ўдзвёх, адгарадзіўшыся адна ад адной апушчанымі павекамі. Думалі кожная пра сваё. Наста — пра сына, які зноў сышоў з дому, бо ў суседняй, праз лес, Вялені нехта з Ромкавых сваякоў дачку замуж аддаваў, пра работу, што чакае яе рук, а перарobленая, ледзь толькі Наста сядзе, не запальваючы святла, ля прыадчыненага ў вечар акна, абернецца стомай, звыклым гудам у спіне і ў плячах. Ефрасіння ж — каторы раз за сёння — згадала Івана, яго высокую, нават гадамі не прыгорбленую постаць, яго ўсмешлівае: «палачанка Ефрасіння», калі яна зрэдку знаходзіла-такі ў душы папрок і не магла, хоць бы лёгкай усмешкай, змякчыць яго горыч. «Ну, усё, захадзілася палачанка Ефрасіння! — казаў раз, і другі, і ледзь толькі сходзіла ў яго з твару ўсмешка, падымаў рукі ўгору: — Грэшны, каюся. Грэшны, прашу літасці!» — «Вось так заўсёды»,— бурчала яна ў адказ, але і злосць і горыч кудысьці знікалі, даючы ёй дыхаць, і вяртаўся звыклы, падсвечаны той ягонай усмешкай спакой.

— Гэткай дробязі хапала, каб адчуць, што ўсё добра, што ўсё па-ранейшаму,— быццам дзівячыся згадцы, растлумачыла Насці.

— Ты пра што гэта? — зірнула тая запытальна.

— Івана свайго згадала, хай зямля яму будзе пухам...

— А-а-а,— працягнула Наста і зноў зябка сцялася, прывалілася спіной да сцяны.

— Шмат аб чым гугніла, сіпела мне свякруха над труной сынавай, за жыццё маё, за руплівасць маю мне Іванавым жыццём папікаючы, а таго не ведала, што,

як бы ні было, што б ні здарылася, і маё і Іванава шчасце тут, у гэтай хаце, жыло. У самоце часам, у слязах... Дык ці бывае яно іншае, а, Наста?

— Ты ў мяне пытаеш? Сорак зім хутка, сяброўка, з той зімы, калі Міколу майго паліцаі ўпільнавалі і, са спіны зайшоўшы, застрэлілі. Недалёка ад хаты ўжо, у алешніку. Яго застрэлілі, а я ў крыку, у слязах Мішу свайго нарадзіла, у дзевятнаццаць свае аўдавелая... Год і пажыла за ім, за сваім Міколам, ледзь што не з першых дзён вайны з ім разведзеная: крадком, па начах зрэдку бачыліся... Такое яно, бабіна шчасце, ці іншае, хто ж яго ведае! Іншага ў мяне не было. Ты ж бачыла. Слёз маіх не бачыла, дык і нікому я іх не паказвала: плач не плач, а жыць трэба было. У сабе сілу не знайшла б — ніхто б мне яе не даў. Вось і шукала ў сабе, вось і ўпраўлялася скрозь і за сябе і за Міколу свайго. З самёханькаю ахвотаю. Такое яно, маё шчасце... Ды што я табе...

Наста памкнулася ўстаць і як наткнулася на вінаваты, разгублены позірк суседкі, забалелі, няйначай, Ефрасінні яе словы, хоць і ведала ўсё пра яе — не ад Насты, праўда, ад іншых ведала,— ды вось ведаць ведала, а ўсё сваім засланялася, то сваёй радасцю, то сваёй бядою. Старэйшая, дужэйшая з іх дзвюх была Наста, не хацела яна, здавалася, нічыйго спачування, нічыёй помачы. Дзе трэба, каб мужчына плячо падставіў, а жанкі ўтрох браліся, Наста адхінала іх і станавілася сама, адна. Яшчэ і зараз, у свае гады. Вось і выходзіла, што ўсе скрозь у ёй апору бачылі. І Ефрасіння. Таму і пазірала вінавата, таму слоў, патрэбных у гэтую мінуту, не знаходзіла.

А Наста ўжо адмякла і сядзела, быццам перастала нарэшце мерзнуць і сагрэлася, свабадней, шырока раскінутымі рукамі злёгку абапіраючыся на край стала, каб праз момант звесці іх, усплёснуць гучна далонямі:

— Божухна, як загула калісьці ўся вёска, калі Іван, лепшы сінецкі танцор і весялун, прывёз цябе, худзенькую, малую, у адной паркалёвай сукеначцы! Гэткае птушаня з прыадкрытым ад здзіўлення роцікам! Яўхіміха перш як не тройчы вакол цябе з малітвай абышла — усё паверыць не магла, што гэткую нявестку займела,— суха, як кашлянула, рагатнула Наста, і вось ужо, згадаўшы пэўна, грузную, паўнагрудую Яўхіміху з малітвай у вечна скрыўленым набок роце, зарагатала ў поўны голас, адкрыта і весела, зрэдку ледзь заўважна ўздрыгваючы і пахістваючыся.— Але ж ты і драбнюткая была, чыста дзіця. Здавалася, вядро з вадой падымеш — пераломішся. А падымала ж!

Наста адсмяялася, супакоілася. Схіліўшы галаву, зазірала Ефрасінні ў твар. А тая і не хавала ўсмешкі: усё, да той паркалёвай сукеначкі ў цёмныя гарохі, прыгадалася — і двор са старым рыпучым жураўлём у кутку яго, на мяжы з вуліцай, і рудыя яблыневыя лісты, зачэрпнутыя вядром (яблыня стаяла ледзь не над самым калодзежам), і адмытыя шыбкі вокнаў, у якіх адбівалася высокае асенняе неба з ярка-сінімі прарывамі, і першыя спечаныя ёй бlow ханы хлеба, што не вельмі ўдаліся... Галоўнае ж — Іван! Ва ўсім, за ўсім — высокая, зграбная Іванава постаць, яго валошкавыя, усмешлівыя вочы.

Падымаў яе на руках і кружыў, кружыў па двары, пакуль не ўскіпала ўгары неба, яго густая сінеча. Заплюшчвалася Ефрасіння, моцна сціскала павекі, каб не знікнуць, не растварыцца ў гэтай сінечы, каб усёй істотай сваёй адчуваць дужыя Іванавы рукі, а адчувала — на твары, на вуснах, на моцна сціснутых павеках — гарачыя Іванавы вусны. Цягнулася, прыпадала да іх — і растваралася, знікала ў кружэнні, усё ж знікала, растваралася...

— Мілуецеся? Ну-ну! Работа вас чакаць будзе! —

перапыніў імгненне сіплы, саладжава-ліпкі голас свякрухі.

Спружна сцінаецца, спрабуе вырвацца, выслізнуць з Іванавага абдымку Ефрасіння, а той мацней, шчытней горне яе да грудзей, адно што разгінаецца і паварочвае ў матчын бок галаву.

— У нас, маці, не раўняючы, врэмя ёсць. Управімся.

— Врэ-мя! Вы чулі? Ды пры гэткай бязврэміцы хто б іншы прыкупіў часу, а ты, прасці госпадзі, з дзеўкай у двары, на вачах ва ўсёй вёскі мілошчы правіш. Цьфу!

Быццам на яе, на Ефрасінню, плюе Яўхіміха — яшчэ больш сцінаецца тая, прыкрывае твар далонню, не могучы вырвацца з рук Іванавых, стаць на ногі. Слёзы закіпаюць у вачах, міг-другі — і расплачацца ўголас.

— Не з дзеўкай, а з жонкай,— адчуў яшчэ непралітыя яе слёзы Іван і на вачах у маці пацалаваў далонь, якой яна прыкрыла твар.— І вось што запомні, маці: мной камандаваць ніхто дома не будзе. І ты не будзеш.

Цвёрда, спакойна, па-ранейшаму горнучы Ефрасінню да грудзей, вымавіў і адвярнуўся, ступіў да парога. І зноў выбліснула для яе з-пад ссунутай крыху далоні яркае валошкавае неба, каб праз колькі шырокіх Іванавых крокаў, ужо ў хаце, зліцца з гарачым Іванавым позіркам і знікнуць, растварыцца ў ёй, Ефрасінні...

— Старасць адчуваем, што маладосць згадваем, а, Ефрасіння? — гукнула яе Наста, выпростваючыся і хаваючы пад пахі рукі.— А да старасці нас з табой Фадзеіч не падпусціць, куды там! Заўтра ўсіх збірае капусту садзіць: расада перастойвае.

— Дзіва што перастойвае,— адазвалася Ефрасіння.— Вясна ж сёлета на рэдкасць. Цёплая. Сонечная. Ажно не верыцца...

У што не верыцца, ці ў тое, што зарана гэтак цёпла сёлета, ці ў тое, што два дні ўсяго як Івана пахавала, а вясне радуецца, удакладняць не стала: з Настай і па-

маўчаць было — тая ўсё разумела, а работа заўтрашняя заўтра і рабіцца будзе. Работа звыклая. Што пра яе галаву біць асабліва? Пойдуць і зробяць. Заўтра дацямна не скончаць — яшчэ дзень будзе. Гэту работу зробяць — іншая набяжыць. Вясну ж не спыніш.

З ціхай, спакойнай задуменнасцю на тварах, адпачываючы пасля нялёгкага, звычайнага, як азірнуцца, будзённага дня, сядзелі жанчыны па абодва бакі стала, накрытага простым ільняным абрусам, і думкі іх, не сутыкаючыся, не чапляючы адна адну, плылі кожная сваім рэчышчам у аднолькава далёкія гады іх маладосці. І прычынай таму была вясна за вокнамі, вясна на сотні, на тысячы кіламетраў вакол, па ўсёй зямлі, на якой у тыя самыя імгненні людзі нараджаліся і паміралі, смяяліся, плакалі, і цалавалі шчаслівых жанчын, і стралялі па калонах мірных дэманстрантаў... Уявіць усё было немагчыма. Ды яны нічога і не ўяўлялі, думаючы пра сваё, удыхалі пахкае веснавое паветра, адпачывалі перад новым днём, перад новымі клопатамі.

Жыццё працягвалася.

Адцвітала яшчэ адна вясна...

## VII

Вясна? Ну і што? Ну і няхай усё ідзе ў рост, цвіце, буяе, красуе, ціўкае, ценькае! На тое і прачынаецца прырода, каб кожная зёлка і краска, усе пташыны і дрэвы, глынуўшы цяпла, ажылі, пацягнуліся да сонца, прашархацелі ці праспявалі сваю ноту ў вечным гімне ўсявышняму і жыццю, ім дараванаму, і аціхлі, і нават згадкі пра іх радасны хор асыпаліся на халодную, размытую дажджамі зямлю пялёсткамі ці лісцем, пёркамі ці журботным курлыканнем. Усяму свой час. Ва ўсякага імгнення — сваё хараство. Бо вось жа яно надыходзіць, імгненне, радуе вока, знаходзіць шчымлівы водгук у душы, а яго ўжо змяняе наступнае, каб

гэтак жа хутка і бясследна адысці, саступіць месца новаму. Кароткія — імгненні вечнага жыцця! Кароткія і непадуладныя ні сумоце, ні радасці зямной. Сонечнае цяпло змываецца дажджамі, дажджы ўмярзаюць у хмары, хмары белымі завеямі кружаць над скаваным маразамі абшарам, снежныя сумёты ўбіраюць, удыхаюць сонечнае цяпло і, падтайваючы, пояць, адпойваюць лагчыны і рачулкі, бярэзнікі і імшарыны, у высокіх травах і густазялёных шатах дрэў падрастае, дужэе вецер, каб, набраўшы моцы, высушыць і стаптаць травы, вызалаціць і абарваць лісце... Вечная — змена аднаго імгнення другім, адной пары года другой.

І не павінен здзіўляцца гэтаму чалавек, не павінен жадаць іншых, яму падуладных змен, бо і ў ім, у чалавеку,— тая ж залежнасць ад адзінай волі, ад адзіных для ўсяго жывога законаў: з зярнятка любові прарастае новае жыццё, з няўцямнага крыку немаўляці — першае выразнае слова, з голаду — прага росту, з сілы — прага любові. Вечная — змена людскіх пакаленняў, і кожнаму суджана стаць адным маленькім звяном у гэтым руху, у гэтым рухомым ланцугу. Кожнаму, апроч тых, хто духу свайму служыць. Моцныя духам — вырываюцца, падымаюцца над паўсядзённасцю і жывуць нават пасля сваёй смерці.

— Вясна? Ну і няхай! Што таму, хто дыхае горнім паветрам недасяжнага, хто думае пра вечнасць, а не пра сіюмінутную радасць быцця свайго зямнога, тая ці іншая пара года? — зноў і зноў пераконвала Ефрасіння сястру.— Што было суджана князем, бацькам нашым, мне, тое і цябе чакае, Гардзіслава: муж роду княжага, багатыя пакоі цямніцы, звярынымі скурамі, дыванамі ды броннію, залатой разьбой аздобленай, пакаёўкі ва ўслужэнні, родавыя мукі ва ўгоду князю...

— І богу, Прадслава,— нясмела азвалася тая.— Гэта ж бог хацеў, каб у муках жанчына раджала, род чалавечы прадаўжаючы.

— Для ўсіх — так, хацеў, за асалоду начэй любоўных, за ўцехі плоці ненасытнай, за палкасць і нястрыманасць караючы. Але ж тое для ўсіх, не для абранніц сваіх, якіх ён у храмы і манастыры збірае, каб наблізіць да слова свайго. І да ўлады сваёй. Бо таму, хто ў нястомнай працы над кнігай, над навукай ні дзён, ні гадоў не шкадуе, таямніца ўлады над людзьмі адкрываецца.

— Улады над людзьмі, Прадслава? Але ж гэта — княжая ўлада, дараваная нам ужо імем адным, родам нашым, родам Усяславічаў,— не зразумела Гардзіслава.

— Пра іншае я, сястра,— павярнулася да Гардзіславы Ефрасіння, і ў глыбокім яе позірку калыхнулася халоднае сіняе ззянне.— Княжая ўлада — зямная ўлада. Князя, хоць бы ён быў і з роду Усяславічаў, палачане самі над сабой ставяць, на вялікае веча сабраўшыся: угодны ім і богу князь — будзе правіць, не — маўчаннем у высылку праводзяць і іншага князем над сабой прызнаюць. Прыкладаў таму шмат, і ў нас яны на памяці. А ўлада божым словам — вечная. Бо не жыццём чалавечым праведнік распараджаецца, а душой. Душой, Гардзіслава, думкамі і пачуццямі яго. Хто ж валодае думкамі і пачуццямі людзей, той валодае людзьмі. Да скону. І нават пасля смерці сваёй. Разумееш?

— Не... Не зусім. Гэта калі ў святыя пасля запішуць?

— Як дзіця, няйначай, ты разважаеш,— міжволі ўсміхнулася Ефрасіння.— У святыя не запісваюць: гэтак бы кожны, хто мог, сябе ці сваяка свайго да святых прыпісаў! Не, сястра, святое жыццё ў вучэнні і ў працы нястомнай на карысць людзям трэба пражыць, каб кожнаму слову з вуснаў тваіх верылі, каб знайшліся па смерці і вучні і паслядоўнікі, якія славу тваю, уладу тваю далей панясуць.

— Наш род — род слынных князёў полацкіх. Слава іх...

— Іх! — усхвалявана перапыніла яна сястру, і халоднае сіняе ззянне з позірку яе выплеснулася, здаецца, на траву.— У тым жа ўсё і ёсць, што іх слава — іх, а не наша!

— Ты славы шукаеш, Прадслава? Славы і ўлады над людзьмі? — са страхам і захапленнем пазірала на яе Гардзіслава, дзівячыся і палкай рашучасці сястры, і палкаму хараству яе, і словам — найбольш словам яе, гарачым, рэзкім, рашучым.

— Ведаеш,— нахілілася, наблізіла твар, твар у твар зашаптала Ефрасіння,— магчыма, калі б нарадзілася я князем, іншага шляху шукала б. Напэўна шукала б. Каб памерацца сілай з Яраславічамі, каб славу былую айчыне сваёй вярнуць.

— І не збаялася б? — гэтак жа шэптам спытала Гардзіслава.

— Я?! Я не збаялася б. Сабрала б дружыны, богу памаліўшыся...

Згадаўшы бога, усвядоміўшы ўсю грахоўнасць думак і слоў сваіх, адкінулася, перахрысцілася — раз, і другі, і трэці. Твар яе, мо таму што прыкрыла павекамі палкі, бясстрашны позірк, пацямнеў, але голас, калі зноў загаварыла яна да сястры, быў, як і раней, узрушаны — толькі яшчэ больш, да жорсткіх нотак, цвёрды, рашучы:

— Я не збаялася б таго шляху, пра які казала, як не збаялася таго, які выбрала. Выбрала ж адзіны, магчымы для жанчыны роду нашага і буду маліцца ўсявышняму, каб даў мне сілы прайсці ім. Мне і табе, сястра, калі ўздумаеш ты пайсці за мной, калі схочаш быць са мной побач.

— Але ж князь-бацька...

— Князь Георгій не разумее, што, каб родавае дрэва стаяла са стагоддзя ў стагоддзе непахісна, цвёрда, яно

павінна цягнуцца, расці ўгору, а не ўшыркі,— угору, адным магутным камлём, каб нават цень ад яго быў выразна-рэзкі, пагрозлівы.

— Але ж князь-бацька...

— Князь Георгій,— зноў перапыніла яе Ефрасіння,— забывае, што род наш быў аслаблены яшчэ ў часы Рагвалода, калі дружыны варажскіх вояў, якія прывёў Уладзімір, вытапталі, пакрылі папялішчамі полацкую зямлю і пад самы корань абсеклі дрэва магутнага роду нашага — адна галіна ацалела... І ці ж не ўсіх князёўнаў полацкіх напаткаў потым лёс Рагнеды? І жылі, і паміралі на чужбіне, ні ўлады, ні славы не займеўшы, князям, мужам сваім дагаджаючы. Ты гэткай долі для сябе жадаеш? Ты гэтага хочаш, Гардзіслава?

— Я... Я смеласці ў сабе не знаходжу,—зардзелася тая, і апусціла вочы, і чакала, што засмяецца Ефрасіння, баязліўкай, не вартай імя свайго і роду свайго, назаве і ніколі больш не стане пакідаць сцены манастыра, каб прайсціся, пагаманіць з ёй.

А Ефрасіння падсела бліжэй, абняла сястру, прыгарнула да пляча: зусім дзіцем была тая ў свае чатырнаццаць гадоў — худзенькая, танкарукая, з ружовым пушком на шчоках,— ужо ў далёкія землі прасватаная, як яна, Ефрасіння, няйначай, у свой час. Не разумеў князь Георгій, бацька іх, што, каб родавае дрэва стаяла са стагоддзя ў стагоддзе непахісна, цвёрда, яно павінна расці ўгору, а не ўшыркі. Угору — усё глыбей каранямі ў родную зямлю ўрастаючы.

— Не здзівіла ты мяне, Гардзіслава, пра страх свой сказаўшы. Не для ўсіх, а для гордых і мужных — той шлях, на які я, сястра твая, цябе клічу,— горнучы да сябе Гардзіславу, мовіла: — Думаеш, я бязбоязна ступіла ў ноч, у буру, дом, бацькоў, цябе пакінуўшы? Думаеш, у маёй душы страху не было? Ды я кроку не ступіла, каб не азірнуцца, каб з малітвай да ўсявышняга не звярнуцца, на Сафію, як на абраз гасподні,

хрысцячыся. І тое, што славы, што ўлады над людзьмі, над іх душамі прагла і прагну, бог мне дарує, бо сілу ў сабе чую большую, чымсьці жанчыне мець дазволена, і ўсю сілу гэту я богаўгодным справам аддаю, на карысць люду полацкаму і ў славу яго, бога, адзінага на ўсе хрысціянскія землі. І табе тое кажу: баяцца бойся, а крок гэты, як чуеш сілу ў сабе, зрабі. І прыме ахвяру тваю гасподзь, і дарує табе волю тваю князь-бацька.

— Думаеш, дарує?

— Перакакана. Мне ж дараваў.

— Ты — зусім іншае, Прадслава. Пра тваю волю і твае поспехі ў навуках розных даўно ведалі і гаварылі. Сам біскуп полацкі табе павагу выказаў. А я... Мне да цябе не дацягнуцца.

— Дацягнуцца? Што ты такое кажаш, сястра? Мы побач будзем, поруч пойдзем. Слава наша — у адмаўленні ад усяго, што душу з плоццю нашай слабою скоўвае, улада над людзьмі — не ў страху і пакоры іх, а ў пакаянні і любові іх.

— Любові? — страпянулася Гардзіслава.— Ты кажаш: любові?

— І ў любові іх. Чаму гэта здзіўляе цябе? — больш пільна, больш уважліва ўглядваецца ў сястру Ефрасіння, не зразумеўшы яе раптоўнага хваляванне.— Любая ўлада трымаецца ці на страху, ці на любові. На любові — заўсёды мацнейшая.

— Не пра ўладу я,— збянтэжылася тая.

— Тады пра што?

Лёгкі цень адчужэння калыхнуўся над імі, і тут жа падалі яны адна адной рукі і, мякка, пяшчотна сашчапіўшы іх, разам заўсміхаліся. Ефрасіння пацягнула сястру да сябе, прыхінулася лбом да яе лба, як у маленстве, папракаючы за недавер. Потым, не выпускаючы яе рук, рэзка адхінулася.

— Ты не верыш мне, не верыш! Але сама памыслі: хіба не прагай любові — любові вялікай, жыватвор-

най — жывы чалавек? Не можа і ніколі не зможа ён наталіць гэту прагу, абярнуць яе любоўю плоцкай у часе жаніхоўства ці ў часе шлюбу, бо наталяючы плоць, душу не насыціш. А і душа ж свайго патрабуе, нельга ёй, душы, у гэтым праве адмовіць: ідалам з Перуновай світы яна раней пакланялася, да бога, да Хрыста ўсемагутнага, гукае зараз. Да неба, да бога гукае, а і тут, на зямлі, любіць, абагаўляць ёй кагосьці трэба. Кагосьці праведнага, чыстага перад людзьмі і богам. Каб не паддацца адчаю. Каб сцярпець, змагчы сваю долю зямную, цяжкую. Слова божае — і любое! — тады сілу мае, калі вуснамі праведніка мовіцца, калі жыццём праведным пацвярджаецца. Саграшыла б я супраць ісціны, скажы я гэта іначай.

— Але ж царква карае адступнікаў! — вырываецца ў Гардзіславы.

— Не царква, а гасподзь наш карае, сястра,— хмурыцца Ефрасіння.— Карае тых, у чыёй душы няма любові і памерла вера. Грэх асуджаць гэта, жыць жа ў манашастве можна і так, каб пры выпадку адвесці ад неразумнага кару і тым пакараць, бо паселіцца з таго часу ў душы яго сумненне, а сумненне — гэтаксама зярнятка з жытніцы божай. Таго, з чыіх рук кару прымае, чалавек не палюбіць, таму ж, чыя літасць яго кранецца, скарыцца міжволі. Вось таму і ўлада таго, хто бліжняму грэх яго даруе, хто аддае бліжняму любоў сваю,— бязмежная: любы натоўп расступіцца, любы злодзей у ногі пакloніцца, мацяркі дзяцей для благаславення паднясуць. Вось пра што я, сястра, казала, вось чаму зноў і зноў паўтару, што ўлада над людзьмі — не адно ў страху і пакоры іх, а ў пакаянні і любові іх. Цяпер ты разумееш?

Не адказвае Гардзіслава. Апускае галаву, схіляецца, тыцкаецца ў Ефрасінніны рукі — бязгучна варушацца яе вусны, зрэдчас уздрыгваюць ад дотыку сястрынога позірку худзенькія плечы. Захапленне, страх, мука,

нейкая гарачкавая, хворая радасць, глыбокі смутак і зноў шчырае, ледзь не малітоўнае захапленне... Пачуцці цесняцца ў ёй, выштурхваючы адно аднаго з такой — да злоснага непрыняцця — непрыязнасцю, так бязладна і рашуча, што, здаецца, вось-вось разарвецца сэрца: Гардзіслава хацела б пайсці за сястрой, у манастыр, і не хацела б, гатова ахвяраваць ёй і богу ўсім, што складала дасюль жыццё яе, і прагне іншага — іншага шчасця, іншага лёсу. І не можа зрабіць выбар, сказаць: «Згодна. Іду з табою» або: «Не, іншы шлях чакае мяне, Ефрасіння». Заўважае, што нават у думках назвала Прадславу Ефрасінняй і яшчэ балючэй сцінаецца, шчытней прыхінаецца да яе рук. Словы малітвы, якія ў поўны голас, спакойна, не зварухнуўшыся, вымаўляе над ёю Ефрасіння, не супакойваюць, а робяць бяссілай, бездапаможнай. Быццам яна, Гардзіслава, становіцца меншай і меншай, зусім маленькай — ужо ў далонях сястры ўмяшчаецца! — і драбнеюць, аціхаюць, а потым і зусім знікаюць усе пачуцці. І воля знікае. Бо калі Ефрасіння намерваецца ўстаць і перш мякка адымае рукі, прыўздымаючы мокры ад слёз яе твар, Гардзіслава пакорна распрамляецца і, услед за ёю, падымаецца з зямлі, малітоўным рухам падносіць да лба дрогкую руку.

— Што ж, пойдзем! — як штосьці даўно вызначанае, мовіць да яе Ефрасіння і першай ступае на сцежку, што, светлаю стужкаю сцелючыся ўздоўж Палаты, вядзе да манастыра.

— Ты хацеў пагаманіць, Глеб. Што-небудзь па жаночай лініі? — перапыніў Барыс працяглае, пакуль ішлі вясковай вуліцай, зрэдку вітаючыся ці на вітанне адказваючы, маўчанне.— Мо жаніцца надумаўся і парада спатрэбілася?

— Жаніцца?! — нават не зразумеў напачатку той.— З чаго ты гэта раптам?

Яны запыніліся ля старой, галінастай, даўно распушанай ужо вярбы, нахіленай над дарогай, і з лёгкім недаўменнем пазіралі адзін на аднаго: Глеб — яшчэ ў палоне сваіх думак і вобразаў, імі навеяных, Барыс — поўны незразумелага, невыказнага смутку ці то з прычыны жалобы, якая панавала ўсе гэтыя дні ў хаце, ці то з прычыны свайго ад'езду і той гаворкі з маці, якую яны адклалі да вечара. Колькі імгненняў, перш чым уразумелі яны ўсю камічнасць сваіх недарэчна-недаўменных поз і позіркаў. Засмяяўся Глеб, рагатнуў у адказ Барыс, і вось ужо абодва, адчуўшы раптоўную палёгку, адчуўшы прыліў новай сілы, залівіста рагаталі, быццам толькі зараз і наноў усвядомілі маладую сваю існасць, гэты майскі адвячорак, асветлены блакітна-ружовымі водсветамі захаду, роднасць сваю з ім і ўсім навакольным светам: кожны рух звязваў, спалучаў іх з зямлёю, з прыродай, з прастораю, што кудысьці плыла, сплывала, ляцела паўз іх, астуджваючы твары і рукі. І гэты рух, гэты нябачны і амаль не адчувальны лёт паўз і скрозь іх і былі тою сілаю, якой поўніліся іх сэрцы, якую яны ўдыхалі, пілі з паветрам.

Дзіўныя для далёка не юнакоў — мужчын дваццаці дзевяці і трыццаці шасці гадоў — адчуванні! Па меншай меры, іх зразумеў бы ў гэты момант не кожны. Хоць, здаецца, чаму здзіўляцца? Не можа ж душа чалавечая, сцінаючыся, мярцвеючы ад болю, такой і застацца на ўсе гады наперад: змярцвелае — адмірае, жывое — жыць хоча.

— Пойдзем да сажалкі,— адсмяяўся, нарэшце, Глеб.— Гаворка сур'ёзная, за колькі хвілін не ўправімся. А там...

— «Там і вецер буйны не гуляе, там і сонца краснае не ззяе, там не блішча ясная зарніца. І прыносіш ты туды, вадзіца, важкі сум ад сэрца Кацярыны...»

— Ефрасінні!

— Чаму? У Багдановіча...

— Прабач, Барыс,— абняў брата за плечы Глеб,— што ў думках, тое на языку. Міжволі зляцела.

— Ты пра маму?

— Не. Зараз — не. Далёкую праправабабку Ефрасінню Полацкую згадаў.

— З чаго б раптам? — нязлосна пакпіў той.— Цябе ж і тваю кантору яшчэ нядаўна праблема мініспадніц хвалявала. Што ні фільм, то праз увесь экран — ножкі дзвюма тонкімі сцяблінамі: тук-тук... тук-тук... Так і сачы, каб сэрца за імі паспявала!

— Барыс!

— Усё. Змоўк. Натапырваю вушы. Згараю ад цікаўнасці. Давай выкладвай.

Глеб маўчаў. Ступаў поруч — крок у крок — і маўчаў.

Марудна цягнуліся хвіліны. Адна. Другая. Яны мінулі крайнюю, Галаса Хведара, хату і, не даходзячы да фермы, звярнулі ўлева, паўз агарод, паўз жэрдкі, якія пазначалі мяжу яго і ўпіраліся ў алешнік, у лес. Потым уздоўж алешніку, добра выбітай сцежкай, пашыбавалі да сажалкі. Круглую, як вока, яе было яшчэ не відаць, але яны добра бачылі высокую, пашчапаную маланкай вярбу, якая стаяла над самаю вадой, над старым драўляным мастком на замшэлых, месцамі падгнілых па́лях,— хады той: якіх трыццаць — сорак крокаў! Летась, калі не пазалетась, былі, але што тут магло змяніцца? Лес? Удзірванелая, гразкая толькі пасля добрай залевы, лугавіна? Невялікая, укруга ледзь не напалову зарослая аерам, сажалка? Немаведама калі збудаваны дубовы масток, які зараз, праз колькі год, ледзь дацягваўся да вады?

— Ты не пакрыўдзіўся? — крануўся Глебавага пляча Барыс.— Што маўчыш?

— Малінаўку слухаю.

— Малінаўку? — здзівіўся той і прыслухаўся: у лёгкім шолаху алешніку танула водгулле іх крокаў,

дзесьці, праз двароў пяць-шэсць, брахаў сабака, а малінаўка... Ценькала, высвіствала якаясь пташына ў кустоўі...

— Часам прыходзіць у галаву: я — смяротны сярод вечнага гэтага хараства, смяротны і памру,— сумна зазначыў Глеб.— А ўсё будзе жыць: зямля, лясы і азёры на ёй, сцежкі і аблачыны, травы і птушкі.

— І людзі.

— І людзі,— азірнуўся той.— Калі перамогуць недавер і страх адно перад адным і не знішчаць сябе разам з усім гэтым.

Ён спыніўся, павёў рукой услед за позіркам. Спыніўся і Барыс, аглядаючы наўколле, знаёмае, роднае да болю. Яны прыйшлі ўжо: старая вярба, з-за якой выблісквала цёмная вясновая вада, была побач — у засені яе заспеў іх ціхі смутак гэтых імгненняў.

— Я што хацеў,— ступіўшы да сажалкі, сказаў Глеб.— Ведаў па гісторыі не хапае, а гістарычны фільм задумаў. Ды чаго там задумаў! — нашуся з ім другі год. Двойчы сцэнарый перарабляў, па трэцяму разу пайшоў. Адчуваю, што ключ да задуманага знайшоў, а што вытанцоўваецца, не ведаю.

— З кім з гісторыкаў раіўся? — спыніўся побач і павярнуўся да яго Барыс.

— З табой вось раюся.

— За трэцім разам узяўшыся? А на якім, прабач, матэрыяле працуем, калі гэта не прафесійны сакрэт?

— На матэрыяле дванаццатага стагоддзя,— быццам не заўважыў Глеб яго ўсмешкі,— узяўшы за аснову «Жыціе святой Ефрасінні».

— Ты сур'ёзна, Глеб?

— Сур'ёзна. Мажліва, упершыню ў жыцці гэтак сур'ёзна.

Барыс, які гатовы быў рассмяяцца, стрымаўся, пільна паглядзеў на брата, нахмурыўся.

— Спадзяюся, ты не хочаш сказаць, што колькі

густа перасыпаных малітвамі старонак «Жыція...» далі табе матэрыял для падобнай работы? Ці мо і ты, па прыкладу іншых, вырашыў пацешыць гледачоў за кошт гісторыі і гістарычнай праўды? Звон мячоў, чары з мёдам, паляванне на зубра...

— Не!

— Тады я слухаю. Сядзем? — паказаў на хісткую, збітую з некалькіх палак лаўку непадалёку да мастка і сам, перш доўга і асцярожна прымерваючыся, апусціўся на яе.— Я слухаю, Глеб.

— На кінастудыі чакаюць сцэнарый касавага фільма, ты ведаеш, пра што я... І я спачатку глядзеў на яго як на забаўку. Як на цікавую, грашовую забаўку. Прапанавалі — пагадзіўся, з рэжысёрам усё абгаварыў і прыступіў, як кажуць. Звон мячоў, чары з мёдам, паляванне на зубра... Усё ўключыў у сцэнарны план, усё, што ад мяне патрабавалася, і пайшоў у акадэмічную бібліятэку. Пайшоў не столькі матэрыял вышукваць, колькі якія-небудзь адну-дзве падпоркі пад сваю задуму знайсці. Таму да цябе не звярнуўся: ніякіх асаблівых перашкод або нявысветленых таямніц не прадбачылася. Здавалася, чаго там! Пачытаю сёе-тое, пагартаю колькі старых кніг з гравюрамі, што якое і дома знойдзецца... Сюжэт вядомы, штампаў хапае, уяўленне астатняе падкажа! Гэткія былі разважанні.

— Дылетанцтва пагубіць мастацтва, усё да таго ідзе,— уставіў сваё Барыс, назіраючы за тварам брата, які стаяў перад ім, то прыўздымаючыся на насках туфляў, то зноў апускаючыся — у такт узмахам рукі.

— Што? — не зразумеў ці мо не пачуў Глеб.

— Я — пра дылетанцтва.

— А-а-а! Давай, давай, пакусвай. Яшчэ паўгода таму гэтай гаворкі не ўзнікла б, не магло б узнікнуць. Не знаю, што адбылося за гэтыя паўгода. Штосьці балець пачало, мучыць. Чым больш задумваўся, тым больш балела. Лёгкасці, лёгкага пабразгвання слоў са-

ромецца пачаў. Зноў у бібліятэку пайшоў, у кнігі закапаўся. Выходзіла: не так ужо мала даследавана, не так ужо мала дайшло да нас,— лянота, нецікаўнасць наша паміж намі і продкамі сцен настаўляла. Выходзіла: усе мы, як сарваныя ветрам лісткі са спадчыннага родавага дрэва — куды каго занесла, таму і не ўсведамляем сябе нашчадкамі вялікай культуры.

— «Яны глядзелі і не бачылі, яны слухалі і не чулі...»

— Магчыма. Ды я не пра гэта.

— Чаму ж? Думаю, якраз пра гэта. Слепата — не ад ляноты і нецікаўнасці, Глеб,— о, калі б толькі ляноту трэба было адолець! Слепата пра іншае сведчыць — пра страту нацыянальнай памяці, як ні горка, як ні балюча вымаўляць гэткае: даўно глыбей, чым на стагоддзе, не зазіраем, а было ж, мінула не адно стагоддзе — тысячагоддзем, калі не тысячагоддзямі памяць вымяраецца.

— Пачакай, Барыс. Ты канстатуеш, сцвярджаеш, а я разабрацца хачу,— сашчапіў рукі на грудзях, быццам утрымваючы іх ад залішне рэзкіх рухаў, Глеб і аціх, знерухомеў: толькі па тым, як сышліся шырокія, густыя бровы яго і лёгка, ледзь прыкметна ўздрыгвалі куточкі вуснаў, можна было бачыць, што ён хвалюецца.— Чаму мне, інтэлігенту, у мае дваццаць дзевяць гадоў, здзіўляючыся сабе самому і выпадку, які прымусіў мяне зрабіць гэта, даводзіцца ўпершыню адгортваць старонкі мінулага? Чаму тое, што павінен ведаць кожны школьнік, не ведаюць нават тыя, хто займаецца, хто прызваны займацца культурай? Чаму, як мы маглі адрэчыць усё, з чаго мы выраслі, без чаго нас не было б?

— Бачыш, Глеб,— рыўком, рашуча падняўся Барыс і, не зірнуўшы на брата, абмінуў яго, падышоў да вады, да прыбярэжнай палоскі аеру,— людзям уласціва забываць. На пэўны час ці назаўсёды. Калі мэта жыц-

ця — задавальненне яго патрэб, вельмі хутка пачынае здавацца лішнім усё астатняе: адметнасць роду свайго, гонар, гордасць за зможанае і зробленае ім, туга па няздзейсненым, жаданне памножыць духоўны скарб, здабыты продкамі... Мне працягваць пералік?

Ён зябка перасмыкнуў плячамі і не павярнуўся на ўзрушаны голас Глеба, калі той загаварыў. Хутчэй за ўсё, папросту не чуў яго. Бо калі павярнуўся, неяк нязграбна правёўшы рукой па твары, няўцямна перапытаў:

— Ты што-небудзь казаў, Глеб?

— Я кажу: тады атрымліваецца, што ты не верыш... што ты сумняваешся...

— Я разважаю,— перапыніў яго той.— Пакутна, як і належыць чалавеку, разважаю пра сэнс чалавечага жыцця. Хачу зразумець сябе і тых, хто не можа адбіцца ад пытанняў, накшталт: куды гэта мы спяшаемся, куды імчымся? Навошта нам спатрэбілася асвойваць космас і тым самым рассоўваць межы невядомага і пацвярджаць бяссіласць, бездапаможнасць чалавека? Хіба прадонне, якое звеку страшыла людства, не становіцца з нашай дапамогай яшчэ больш безнадзейным? Чаму столькі часу і столькі крыві патрабуецца для таго, каб вынайсці чалавечае шчасце? Як бачыш, ніводнае пытанне не закранае гісторыі, ніводзін з яе ўрокаў не спатрэбіўся. Нібыта гэта толькі нашы пытанні.

— Гэта — вечныя пытанні,— ціха азваўся Глеб.— Колькі слоў, колькі пакаленняў памянялася, а трывога — тая ж, што ў любым стагоддзі, што і ў дванаццатым... Адно што не кожнага яна дзейнічаць прымушае, мала каго...

Барыс здзіўлена, з якімсьці радасным здзіўленнем, углядаўся ў брата. Убачыўшы ж, што той заўважыў гэта, паклаў рукі яму на плечы, мякка хітнуў ад сябе і потым да сябе.

— Пасталеў, Глебка, памацярэў. Ніхто з панталыку не саб'е — не дасіся.

— Не дамся,— усміхнуўся ён у адказ, быццам раптоўна адчуўшы, што тут ён — меншы, малодшы.

— Так нас, кніжнікаў, так нас, гультаёў! Дасюль гісторыю краю свайго напісаць не можам. Столькі дысертацый напісана і абаронена, што можна было б сцены акадэміі імі выклеіць, а абараніць памяць нашу ад нашай прагі сіюмінутных даброт жыццёвых не можам. Нават не спрабуем.

— Попел на галаву сыпаць пачынаеш?

— Сыплю. Грэшны, братка. Далей сваёй тэмы, як і ўсе, носа не сую.

Абодва ўсміхаліся, жартаўліва папікаючы адзін аднаго. Абодва думалі пра далёкае мінулае, лёгка адштурхнуўшыся ад сказанага, і ўсміхаліся: Глеб — таму, што адкрывалася яго думкам удалечыні. Барыс — таму, што зглядзеў на сцежцы мінулага яшчэ адну паходню, паходню брата.

(Марна мы баімся свайго ўяўлення, якое адно пранікае за межы часу. І за межы існага жыцця... Не сённяшнім днём, не ўчарашнім, якім — за даўнасцю і не скажаш, што ні чалавек быў, то магут. З чым ростам ні мераўся, усяму ўпоравень даводзіўся — і дрэву высознаму, і каменю-гары, і гары да аблокаў, з чым сілай ні мераўся, усё яго сіла брала верх — і над ветрам буйным, і над плынню рачной, і над пушчай звярынай. Не знаходзячы, куды дзець сваю сілу, рэкі яны з месца на месца ганялі, пакуль тыя не пачалі змеямі ў зямлю запаўзаць і знікаць. Горы пароды наварочвалі, што сонца тыднямі з-за іх не было відаць. Раскідвалі па зямлі вялізныя камяні, межы дня шукаючы. Было, набяруць камянёў, па валу кожны, шыбануць угору, дык гэткі свіст і гул стаяць — лісце ў дубровах асыпаецца. А як пойдуць барукацца ці біцца ды пачнуць іграць

дуб'ё, дык аж зямля стогне. Так павытоптваюць зямлю, так пааруць яе карчамі, што і год і два раны не зажываюць. Ведама, калі хто нікога не баіцца, калі над ім няма ніякага ўшчуну, то і да ліха недалёка. Дайшло да таго, што пачалі магуты губіць на зямлі ўсялякую жывёлу і ўсялякую расліну, а ў неба шыбаць і шыбаць каменне.

Не ведала адпачынку неразумная іх сіла — стагнала зямля, ашчэрвалася маланкамі неба, пагражаючы спапяліць і сябе і іх. Смяяліся на гэтыя пагрозы магуты, і аднойчы абрынуліся з неба на зямлю ўсе іх камяні, пашпурляныя ўгору, лопнула, раскалолася ў тым месцы зямля, і вырваўся з расколіны шалёны агонь. Перш чым распаўзціся па абодва бакі і знішчыць лясы і горы, камяні і іх, магутаў, асвяціў гэты агонь, нябачны раней, невядомы ім — ці вядомы і забыты — шлях: цёк, доўжыўся шлях з канца ў канец, колькі вока магло ўхапіць, і лёгка, ледзь кранаючыся апаленай зямлі босымі нагамі, ішла тым шляхам дзяўчына, амаль дзяўчынка, у кароткай светлай сукеначцы, з букетам рамонкаў у руках і загадкавай усмешкай на вуснах.

Знерухомелі магуты, абмерлі, да рэзі ў вачах узіраючыся ў дзяўчыну, якая набліжалася... А яна — на вачах — мянялася: ужо не танюткая дзяўчына, у кароткай сукеначцы, а мажная, высакагрудая маладзіца, паклаўшы рукі на вялікі акруглы жывот свой, павольна ступала тым шляхам, услухваючыся ў свае крокі, услухваючыся ў новае жыццё, якое яна несла ў сабе.

Па калені ў зямлю ўраслі магуты, сілячыся зразумець сэнс раптоўна ўбачанага ці ўяўленага імі: здавалася, яны ведалі, разумелі калісьці гэты сэнс, а потым забыліся на яго і страцілі яго... А жанчына набліжалася, і яны не пазнавалі ў ёй тую высакагрудую маладзіцу, цяжарную жыццём,— яна быццам усохла, зморшчылася: цень смерці ляжаў у яе на твары і смут-

кам, горкім смуткам за сябе і за іх, магутаў, якія былі некалі людзьмі, слязіліся яе выцвілыя вочы.

Апошняе, што ўбачылі яны: у шалёным полымі білася аграмадная чорная птушка, апошняе, што пачулі,— мёртвы жалезны нейкі голас: «Зямля і неба адвернуцца ад вас...»)

— Не ведаю, ці змагу падняць гэткі пласт часу, а адступіцца ўжо не магу,— адвярнуўся ад Барыса, ад яго ўсмешкі Глеб.— Дзе браць вопыт, сілу?

— Ну-у! — крануўся лбом яго пляча той.— Вопыту набярэшся ў часе работы, а сілу? Сіла — там, дзе вера. Як верыш...

— Веру, веру, Барыска!

— На тым і стой. Не мінуламу наша праца — і наша памяць — патрэбна, а будучаму.

## VIII

— Будучае — за такімі, як я, Вера. Да-да-да! Ты марна ўсміхаешся. Заўтра, як ніколі, спатрэбяцца цвярозыя, дзелавыя людзі. Людзі, якія ведаюць, чаго яны хочуць, чаго дамагаюцца ад жыцця.

— Гэта ўсе ведаюць.

— Усе? Думаеш, усе? — надзьмуў ружовыя складкі шчок, перш чым выціснуць з тонкіх чуйных губ вузкую, пагардлівую ўсмешку Верын праважаты. І вось усмешка праціснулася, пачала распаўзацца, расцягвацца па яго твары, і твар здаўся яшчэ больш халодным і адчужаным, чым імгненне раней.— Адкуль жа тады столькі незадаволеных, хворых, няшчасных і няшчасненькіх? Да-да-да, адкуль?

— Не ўсё ад чалавека залежыць,— перасмыкнула плячамі Вера, якой не хацелася спрачацца, якую стаміла доўгая, тлумная вячэра ў рэстаране, дзе ўсе мужчы-

ны нечым нагадвалі Якава, а ўсе жанчыны... усе жанчыны, як і яна, Вера, іх утрыманак.

Думка, мільгануўшы, чамусьці абразіла. Мо таму, што ўпершыню так выразна прагучала, так выразна пазначыла мяжу, якой Вера была цяпер адгароджана ад мінулага, ад нядаўняга свайго мінулага, дзе ўсё было інакш. Прасцей. Цяплей. І бядней (трэба было быць справядлівай да Якава).

— У-сё!

— Што — усё? — не зразумела яна, ужо забыўшыся на іх гаворку.

— Усё залежыць ад чалавека. Да-да-да, Вера, усё! Ці амаль усё. Заўсёды ёсць з чаго выбіраць. Трэба толькі не паленавацца абвесці прапанаванае позіркам і выбраць. Правільна выбраць. Патрэбную рэч. Патрэбнага чалавека. Патрэбныя сувязі. Патрэбныя словы.

— Ты так і мяне выбраў?

— Ве... Ве-ра! — запнуўся той, усяго на адно імгненне, бо тут жа зноў раздзьмуў шчокі і ўсміхнуўся.— Удар ніжэй пояса, Вера Данілаўна. Мы ж пра жыццё, пра патрэбы і магчымасці чалавека. Навошта ж так звужаць пытанне?

— Ты лічыш: правільна выбраў? — настойвала яна.

— Ты думаеш інакш? — спыніўся, павярнуў яе да сябе Якаў, спрабуючы ў цьмяным святле вулічных ліхтароў разгледзець чорцікаў у яе зялёных вачах.— Штонебудзь здарылася? Хтосьці закрануў цябе грубым словам? Ці так... капрызы каралевы?

— Капрызы? — прыўзнялася на насочках туфляў Вера і лёгкім узмахам рук ссунула крыху набок яго капялюш, міг-другі паўзіралася і растлумачыла: — Так больш да моманту. У твары менеЙ сур'ёзнасці. І мне падабаецца.

— Ты не адказала.

— Калі б стаць развядзёнкай, азначала стаць каралевай, сям'я страціла б сваё значэнне назаўсёды.

— Ты не адказала, Вера.

— Я стамілася, Якаў. Стамілася ад люстраў, ад пазіркаў, ад страў і тостаў, ад салодзенькіх кампліментаў твайго лавачніка...

— Міхаіла Львовіча?

— Твайго лавачніка,— зноў прыўзнялася яна на насочках туфляў,— які ўсё падносіў маю руку да губ і ўнюхваўся ў яе, як у ...

— Міхаіл Львовіч — патрэбны чалавек, Вера. Чалавек з універмага. Я неаднойчы прасіў цябе — да-да-да, прасіў цябе не зважаць на яго пазіркі і яго... прынюхванні, як ты кажаш. Ад цябе ж і напраўду фіялкамі пахне,— аберуч ўзяўшы Верын твар, пацалаваў яе раз і другі Якаў.— Яму, яго бяссілай страсці паспачуваць трэба: нам жа з гэтага сёе-тое перападае.

— Ты хочаш сказаць...

— Я хачу сказаць, што каралеву не павінны цікавіць такія дробязі,— падняў ён каўнер Верынага плашчыка і, паправіўшы свой капялюш, узяў яе пад руку.— Не шкадуеш, што не ўзялі таксі?

Вера хітнула галавой і паслухмяна прыгарнулася да яго пляча. Ісці было недалёка. Ісці побач з Якавам, нягледзячы на лёгкую непрыязнасць да яго, узніклую пасля рэстараннага застолля, было прыемна: высокі, падкрэслена строга (плашч, капялюш, касцюм хоць і імпартныя, але вытрыманы ў строгім класічным стылі) апрануты, прыгожы, ён, як казала Верына маці, быў ёй да пары — на іх усюды азіраліся, іх праводзілі зайздроснымі позіркамі, нават у рэстаранах, дзе збіралася своеасаблівая публіка. Хоць, мажліва, толькі ў рэстаранах... У горадзе, на гарадскіх вуліцах, ніхто ні да каго асабліва не прыглядваўся: спешка, адчужанасць, заклапочанасць... Мо таму Якаў любіў вадзіць яе ў дарагія рэстараны, у пампезна набітыя дарагімі рэчамі

кватэры сваіх знаёмцаў. Там, у адкрытай вячэрняй сукенцы, перашчыкнутай срэбраным паяском і аздобленай двума-трыма дарагімі каменьчыкамі, Вера прыкоўвала позіркі ўсіх прысутных, часам, як у гэты вечар, ёй пачынала здавацца, што Якаў выхваляўся ёю, як самаю каштоўнаю сваёю рэччу — і недзе глыбока ў душы абуджаўся пратэст, занадта кволы, каб выклікаць жаданне штосьці змяніць, і ўсё ж занадта адчувальны, каб здолець схаваць яго ад Якава.

Яны ішлі паўз цьмяныя вітрыны сонных магазінаў, раз-пораз, нягледзячы на даволі позні час, размінаючыся з тым, хто, як і яны, няспешна нёс дадому цёплы майскі вечар — нёс хутчэй падсвядома, пад грузам звыкла будзённых думак і клопатаў. Як і яны... Па-маладому хінуліся яны адно да аднаго, а думалі кожны пра сваё. Якаў — пра вечар, праведзены з карысцю («Толькі Вера можа наіўна верыць, што мне прыемна паіць гэтых кабаноў з партфелямі!»), Вера — пра сваю ўсё большую залежнасць ад Якава («Ён нават не здагадваецца, што я вяду не сваю ролю!»). Што да карысці, то яна, пэўна, была: будматэрыялы для дачы Міхаілу Львовічу былі паабяцаны, Міхаіл Львовіч пяць імпартных скураных паліто выдасць, як дамоўлена, у выніку студэнцкі білет на восень сыну Соф'і Феакцістаўны будзе забяспечаны, ну, а Клаўдзія Віктараўна... Што ж да Верынай ролі, то выбрала яна яе калісьці сама. З дапамогай Майкі Кіцынай, сяброўкі, але сама. І яе гэта была роля ці не яе, вызначаць было позна. Яе! — калі не адмовілася адразу, калі парушыла ўсё, чым жыла раней. А лёгкае шкадаванне зрэдку...

Цікавым было іх знаёмства. Барыс быў заняты, і Вера прыйшла да Кіцыных адна. Уся засыпаная снегам (на вуліцы мяло), з вялікім букетам руж, разгорнутым яшчэ за дзвярамі, яна, раптоўна зніякавелая, знямелая, стаяла перад незнаёмцам і, як школьніца, чырванела.

— Майка! — гукнуў той, не зводзячы з Веры пагляду.— Ідзі дапамагай!

Майка ў карункавым, какетліва павязаным паверх бліскучага касцюма, што шчытна аблягаў яе фігурку, шаліку ўбегла ў прыхожую, цмокнула, выгнуўшы, як котка, спіну, Веру ў шчаку, на момант патанула тварам у ружах.

— Дзякуй, зайчык. Вы не знаёмы? — крутанулася ў бок мужчыны.— Гэта Якаў Януаравіч Шпак, журналіст і бізнесмэн. Для сяброў — Яша-цудатворца. Дазваляю табе, Верачка, прысвоіць яго на гэты вечар. Хаця не... Ну, ды вы самі разберацеся!!

Яна знікла гэтак жа імкліва, як і ўбегла, смех яе звінеў ужо дзесьці ў гасцінай, аддзеленай адсюль двума пакоямі.

— Што ж гэта я сапраўды? Вы дазволіце? — ступіў да Веры Якаў, усміхаючыся.

Рухі яго былі цяпер упэўненыя. Прымаючы ад Веры шапку, так далікатна, так непасрэдна пацалаваў ёй руку, што ўпершыню (здаралася падобнае нячаста і заўсёды Веры было ў такія хвіліны не па сабе) яна не адчула няёмкасці. Наадварот. Быццам успомніла, што яна жанчына, і жанчына прыгожая, і парадавалася ў душы таму, што добра прадумала свой убор і нават, вырваўшыся на гадзіну з бібліятэкі, прычасалася ў цырульні на праспекце.

— Прабачце, я не адразу паверыў, што вы мне не прымроіліся. Я не веру ў цуды. А тут раптам цуд: снег, ружы, усмешка... Вы дазволіце? — хуткім, дакладным рухам змахнуў ён сняжынкі ў яе з валасоў, з локана над ілбом.— Вось люстэрка. Не смею вам больш перашкаджаць.

— Пачакайце!

— Да? — зірнуў ён запытальна, з гатоўнасцю прыпыняючыся і паварочваючыся да яе.

— Мне не патрэбна люстэрка. Мне...

— Увесь да вашых паслуг,— ступіў да Веры Якаў, і узяўшы яе руку, павольна паднёс да губ.

— Не-не! — спалохалася раптам Вера.— Гэта проста капрыз. Не зважайце, калі ласка. Гэта капрыз...

— Каралевам уласцівы капрызы,— схіліў той галаву і адпусціў яе руку.— Загадвайце!

— Вы ідзіце! Ідзіце, Якаў... Я зараз.

Яна паднесла да шчок далоні: шчокі гарэлі. Павярнулася да люстэрка, гарэў, глыбокім зялёным святлом адсвечваў позірк, прыглушаючы ззяннем нават яркасць вогненна-рыжых яе валасоў. Папpавіла прычоску. Паспрабавала ўсміхнуцца свайму адбітку. Атрымалася. І пачала супакойвацца. Яшчэ два-тры намаганні — і можна было ісці да Майчыных гасцей. Цяпер можна было.

— Ды гэта толькі мода на настальгію,— пачула яна яшчэ здалёк голас гаспадара.— Мода, стары. Усяго толькі мода. Хто б гэта на самай справе хацеў вярнуцца ў адно з мінулых стагоддзяў ці хоць бы на адно-два дзесяцігоддзі назад? Хто б гэта пабег сёння ў горача любімую — на словах, стары, на словах! — вёску? Ты? Я? Майка? Хто? Ды мы так ураслі ў свой час, што нас бульдозерам не скалупнеш. А ўсё туды ж: ах, прырода! ах, прарадзіма! ах, шчасліўцы продкі!

Вера затрымалася ў дзвярах, каб сваім з'яўленнем не перапыніць гаворку.

— А ў чым, запытацца, яны гэткія ўжо шчасліўцы? У тым, што мяса елі рукамі? Што нават са шляхты мала хто ведаў адукацыю? У тым, што жонка выбіралася адпаведна саслоўю? Што, калі меў, любую з прыгонных можна было (перапрашаю дам за недалікатныя словы!) пакласці ў сваю пасцель ці ў капу свежага сена?

— Місь! — засмяялася Майка.— Не ўводзь дам у спакусу!

Вера ўвайшла ў зручны момант — усе смяяліся,

жартавалі, перабіваючы адзін аднаго і звон бакалаў, да дзвярэй павярнуўся толькі Якаў. Карыстаючыся момантам, яна адразу ўзяла з шыкоўна сервіраванага «а ля фуршэ» століка бакал і, канечне ж, апярэдзіла воклічы ў свой адрас:

— За здароўе імянінніцы і яе гасцей!

— Самы час!

— Майка, расці вялікая!

— У мінулае стагоддзе мы цябе не адпусцім...

З бакалам у руцэ Вера пайшла да нагледжанага яшчэ ў дзвярах крэсла — ля акна, пад таршэрам, за тры-чатыры крокі ад кушэткі, дзе панавала Майка,— пацалавала ў шчаку сяброўку, якая паднялася насустрач, падставіла шчаку Місю, які палічыў сваім абавязкам...

— Для тых, хто не знаёмы: Вера, Верачка Данілаўна! — абвясціў Місь, дапамагаючы ёй уладкавацца ў крэсле.— Ей — пытанне, над якім усе мы б'ёмся ўжо добрай паўгадзіны: ці варта чалавека далёкае яго мінулае?

— Ты хацеў спытаць: ці варты чалавек свайго мінулага?

— Брава! — заўсміхаўся Місь і з акцёрскім паклонам адышоўся.— Адказ прыняты.

— Ну, які ж гэта адказ, мілачка? — азвалася шыракагрудая, шыракатварая жанчына ў сіняй аксамітавай сукенцы да падлогі, якая нагадвала Веры не каго іншага, як Кацярыну II.— Чалавек можа быць не варты сваёй будучыні, а ўжо мінулага... чым бы гэта я ўгнявіла сёння бабку? Тым, што замест андарака на мне шытая ў Парыжы сукенка?

— Думаючы пра душу, я неяк не падумала пра сукенку,— адпіла з бакала Вера, заўважыўшы, як трывожна бліснулі вочы Якава, калі ён адвёў ад яе позірк і нахіліўся да Клаўдзіі Віктараўны.

— Верачка! Клаўдзія Віктараўна! — ускочыла,

прайшлася па пакоі Майка.— Жанчыны не павінны паддавацца ўплыву гаспадара. Сёння Місь перадаў усе правы мне, і я... Я прапаную музыку! Гэта ў наступным пакоі. Клаўдзія Віктараўна! Верачка! Мужчыны, запрашайце...

Адразу трое схілілі галаву перад Клаўдзіяй Віктараўнай: Якаў, які занадта таропка падняўся, сухі, даўгалыгі Міканор Іванавіч ( з кінастудыі, адзін з начальнікаў — прыгадала Вера) і гаспадар дома: відная, відаць, была птушка!

— Дзякуй. Перавага заўсёды ў гаспадара дома,— паднялася тая насустрач Місю.

Вера апусціла вочы, адпіла яшчэ глыток віна, не зірнуўшы на Якава, які прайшоў пакой і стаяў перад ёй, паднялася, ледзь толькі пачула нягучнае: «Вас можна?» «Ён зараз абдыме мяне, і я прапала!» — мільганула ў яе думка, але знешне спакойна ўзяла яна яго пад руку, прайшла ў другі пакой, усміхнулася на кароткі насцярожаны позірк Клаўдзіі Віктараўны і, даючы сябе абняць, паклала руку на плячо партнёра. Музыка ахінула яе, адгарадзіла ад усіх астатніх, нават ад Якава. Не, яна помніла, кожнай тканкай адчувала яго дотык, яго блізкасць, і ўсё ж... усё ж паміж імі была музыка.

Ніводнага разу не падняла Вера вачэй, ніводнага разу не сустрэлася з Якавам позіркам. Нават тады, калі ён ціха, амаль нячутна шапнуў: «Вы не пакрыўдзіцеся на мяне, калі я не змагу... калі я не падыду да вас увесь вечар?», яна толькі пакратала плячамі...

— Я мала бываю з сынам.

— Віною — нашы частыя сустрэчы?

Яны ўжо прыйшлі. Міналі невялічкі (з дзесятак старых таполяў) скверык, за якім у глыбіні двара ў старым пяціпавярховым будынку было іх заўсёднае прыстанішча — кватэра Верынай маці, якая хоць і не з'язджа-

лася з дачкой, жыла ў яе, прыглядвала за адзінаццацігадовым унукам, тым самым патураючы дачцэ: Якава яна цаніла высока. Ды і як было не цаніць, калі ў іх завяліся дарагія рэчы, а «прыстанішча» было дагледжана і мэблявана так, што аднапакаеўка стала нагадваць маленькі раёк: даўгаворсавыя дываны, мудрагелістыя свяцільнікі, мяккая круглая канапа з мноствам мяккіх круглых падушачак, японскі відэамагнітафон з наборам касет...

— Ве-ра! Мы прыйшлі,— абняў яе за плечы Якаў.— Да-да-да, прыйшлі. І ты не хочаш, каб я падняўся. Так?

— Не,— схавала яна твар у яго на грудзях, каб схаваць раптоўную роспач, і адразу патанула ў абдымку, у пяшчоце, якая нахлынула, закружыла, адарвала яе ад зямлі.

— Ты не проста каралева, ты — м а я каралева. Чуеш? — шаптаў Якаў, горнучы яе да сябе.— Мая, мая, мая!

І вось ужо бразгае ключ, вось ужо ўспыхвае мяккае святло лямпы ў прыхожай: яны — дома, яны адгароджаны старымі тоўстымі сценамі ад вечара, ад горада, ад свету і ад яго трывог і сумненняў. Яны — ўдваіх!

У Веры яшчэ мільгае абрывак думкі пра сына, пра якуюсь сваю віну перад ім, але і гэты абрывак знікае, растае ў цяпле дома, у цяпле мужчынскага позірку, які зараз непрыхавана, адкрыта шчаслівы: такога Якава яна палюбіла, да самазабыцця любіла, даруючы ўсё-ўсё, што ніколі нікому іншаму не даравала б.

— Каралева дазволіць мне?

У белай кашулі з расшпіленым каўняром, у позе вечна закаханага, апусціўшыся перад ёю на калені, Якаў выглядаў эфектна. І ён гэта ведаў. Абняўшы Верын стан, на момант прыпаў да яе, потым падняў галаву — твар — позірк! — і ціха, не хаваючы гарачага бляску ў позірку, выдыхнуў:

— Я не магу нічога змяніць... Ты не гоніш мяне? Ты не прагоніш мяне, праўда?

## IX

Змен патрабавала ўсё. І найперш — адносіны паміж манастыром і дваром княжым: не даянні, не падачкі царкве патрэбны, а ахвяраванні. Немалыя ахвяраванні, каб узвесці новы храм божы, варты Святой Сафіі, які б не адно справу і імя Ефрасінні, а і славу Полацка і люду яго ўвекавечыў. А яшчэ ж і паслужыў бы гэтай справе і гэтае славе.

Улада князям богам даецца — не з рук у рукі, а з пакалення ў пакаленне. І як не будзе пакоры ў сэрцах людскіх, як не будзе любові да бога і страху перад судом яго, не будзе страху і перад караю княжай... Не ўсе князі тое разумеюць, што да бога хітрыкамі не падступішся і люд любіць сябе не змусіш: і любоў людскую, і справядлівасць усявышняга заслужыць трэба. Сваёй любоўю да сыноў зямлі полацкай, сваёй справядлівасцю заслужыць.

Гаварыла пра гэта Ефрасіння з біскупам, дазвол ад біскупа атрымала звярнуцца да князёў — да бацькі, князя Георгія, і да князя Барыса — з просьбай пасобіць ёй і манастыру, ёй даверанаму. Шчодрыя ахвяраванні князёў патрэбны, каб распачаць задуманае. А што акупіцца ўсё з цягам часу, нялёгка будзе давесці. Ды ўжо ж як-небудзь з божай помаччу... Не ў адным святым пісанні казана: прасіце і будзе вам дадзена, шукайце і знойдзеце, стукайце і адчыняць вам; бо кожны, хто просіць, атрымлівае, і хто шукае — знаходзіць, і хто стукае, таму адчыняюць...

Ды і не размова з князямі і іх дарадцамі Ефрасінню хвалявала: слухалі мужы і яе словы, тыя, што мовіла, і калі хацелі яны слухаць і калі не хацелі,— не проста ж князёўна, дачка князя Георгія да іх мовіла, а ўладная, нягледзячы на маладосць сваю, ігуменння, чый

голас і ў далёкай Візантыі вылучалі. Паслухаюць уладыкі. А не паслухаюць — іншы шлях знойдзецца. Яшчэ адну княжую дачку, Звеніславу, князёўну Барысаўну, прывядзе яна ў манастыр — дары яе манастыру будуць непамерна большыя, чым княжыя ахвяраванні: не пасмее князь Барыс даць за дачкою пасаг небагаты.

Не, не гэта хвалявала Ефрасінню. Быў іншы, большы клопат. Біскуп трывогу мітрапаліта Кіеўскага выказаў. Сказаў: мала дбаюць яны пра сілу царквы, калі язычніцтва не выкараняюць, калі капішчы Перуна дагэтуль люд збіраюць на шабаш. Сказаў: мала дапамагло шчыраванне Барыса Усяславіча, па загаду якога скрозь на валунах каменных, на ідалах язычніцкіх крыжы павыбівалі імем яго. На зямлі полацкай любую вярсту ў любы бок валуны каменныя пазначаюць, курганоў менш, чым валуноў — дзе ж іх усе знойдзеш! Не валуны трэба шукаць, сказаў, а тых, хто ім пакланяецца, не згадаўшы бога, уладыку нашага...

Звыкла паражагнаўшы лоб, на Святую Сафію вочы падняўшы, Ефрасіння міжволі паскорыла крокі: дзень дагараў на залатым крыжы Сафійскім, тонкімі сонечнымі ніцямі сцякаючы па купалах уніз, долу, на падмерзлы, прыцярушаны снегам груд узгорка і яшчэ ніжэй — па крутым абрывістым беразе ў Дзвіну. Дзвіна — увесь час леваруч яна была ад Ефрасінні — яшчэ не стала (маразы тыдня не трымаліся), але ўжо закружылася, паплыла з вадой шуга, утвараючы першыя крохкія льдзіны. Ледзь толькі падганяла, падкручвала іх плынь бліжэй да берага, ільдзіны крышыліся, налівалі адна да адной і да вузкай ледзяной паласы ўздоўж іх руху. Тыя ж, што плылі па быстрыне, толькі зрэдку пакручваліся, набываючы амаль правільна акруглую форму, і здавалася, што гэта не льдзіны, а рукатворныя, дзівосна-белыя вяночкі пагойдвае цёмная дзвінская вада — дзесяткі, сотні вяночкаў!

Відовішча было проста казачна прыгожае, і Ефрасіння толькі намаганнем волі раз-пораз адрывала ад яго позірк, каб не паддацца чарам Дзвіны, чарам гэтага сонечнага снежаньскага адвячорка. Яе чакала справа, справа нялёгкая.

Набліжаючыся да дзядзінца, яна яшчэ здалёк убачыла натоўп — жывую, рухомую пляміну, якая паступова, з кожным новым крокам расла і набывала больш выразныя абрысы: штосьці там адбывалася, люд вірыў — натоўп то сцінаўся, то зноў адступаўся. Ефрасіння ўжо чула гул галасоў, гул хутчэй вясёлы (як пры выступленнях скамарохаў), чым трывожны, і ўсё ж, трывога, лёгкі цень яе лёг на яе твар: неспакойна было ў Полацку, здараліся дні, калі бунтам гарадскога люду пахла, і толькі малітва біскупа, звернутая да людзінаў, стрымлівала гатовы ўспыхнуць бунт. «Трэба множыць, мацаваць сілу царквы!» — мільганула ў яе даўняе, трывожнае.

Між тым гул натоўпу распадаўся на асобныя галасы — Ефрасіння выразна чула ўжо некаторыя воклічы.

— Цела яе не адзін цівун паспытаў, а туды ж — адбіваецца!

— Зрывай з яе лахманы, ад іх за вярсту цвіллю нясе...

— Бога ўспомніце, хрысціяне!..

— Да бога далёка...

— Гэтакай крануцца грэх!

— Розуму няма, а пад бокам згадзілася б.

— Няўжо Анэля чым не дагадзіла? Гы-гы-гы!

— Дайце ж зірнуць, дайце ж...

— Кажуць: яна шаляніцай стала пасля таго, як уся дружына княжая з ёй пазабаўлялася.

— Дайце ж вокам кінуць!

— Куды прэш? Цыцкі не нюхаў!

— Цішэй! Здаецца, ігуменне...

— Ефрасіння! Ефрасіння! — зашархацела яе імя на вуснах тых, хто быў ззаду і, заўважыўшы яе, падштурхваў пярэдніх, а тыя — яшчэ пярэдніх і яшчэ...

Люд — хто неахвотна, хто спалохана — расступаўся, даючы дарогу Ефрасінні, прапускаючы яе ўперад, у цэнтр утворанага натоўпам шчытнага кола, дзе на зямлі, на прыцярушаным снегам драўляным насціле варушыўся брудны, там-сям прыкрыты рыззём камячок цела. Ні рук, ні галавы не было відаць. Не адразу Ефрасіння зразумела, што перад ёю — дзяўчына, жанчына, якая сцялася ў балючы камячок, ад воч, ад слоў, а мо і ад удараў раззлаваных нечым гараджан, прыкрыўшы задраным, ірваным сваім андараком галаву, стогн свой, падобны на бяссільны рык звярыны.

— На бога забыліся, браты і сёстры, што істоту жывую з абліччам гэткім жа, як і ў кожнага з вас, нагамі піхаеце,— крануўшы нашыйны крыж свой, звярнулася Ефрасіння да натоўпу.— Нават калі вінная ў чым раба гэта перад стольным Полацкам і яго гараджанамі, судзіць яе трэба па законах вольнага горада і па законах божых. Правільна я кажу, палачане?

— Праўда твая, маці-ігуменння,— адвярнуўся, бліснуўшы вачамі, пласкагруды барадач, які ніяк не мог схаваць свае пачырванелыя ад холаду, сціснутыя ў кулакі рукі.

— Скажыце мне, палачане, ці ёсць віна на гэтай няшчаснай?

— Гэта Еўка, маці-ігуменння. Шаляніца Еўка, што прыцяглася аднекуль здалёк і бунтуе розумы сваімі песенькамі,— растлумачыў жаночы голас з натоўпу, з гушчы яго, так што зразумець, хто казаў, было цяжка.

— Пе-сенькамі? — перапытала Ефрасіння, няспешна перахрысцілася крыжам, быццам увесь набеглы на галас люд перахрысціла, і апусціла пагляд долу, туды, дзе з-пад рукі, адкрыўшы адно вока, спалоханым звярком зіркала на яе шаляніца.— Устань, сястра. Устань і

падымі вочы душы тваёй на крыж мукі гасподняй: гасподзь даруе табе людскую міласэрнасць...

— А ты папрасі яе песеньку спець, ігуменняя,— злосным смяшком перапыніў яе хтосьці з чалядзінаў, безыменны, як і ўвесь натоўп перад ёю.

— Таго, каго бог карае, людзі шкадуюць,— павярнулася на голас Ефрасіння.— У гэтай няшчаснай бог розум адабраў, каб не ўсведамляла яна свайго няшчасця і на жыццё не пасягнула. Нягожа палачанам быць жорсткімі да бяссілага і бездапаможнага. Што, каб з чыёю сястрою, каб з чыёю дачкою гэткае здарылася? І тады б пабілі камянямі?

Адступіў, падаўся назад натоўп. Ці то ад слоў яе, ці то таму, што падымалася, блытаючыся ў сваіх лахманах, Еўка: вочы яе гарэлі, губы варушыліся — вось ужо стала льга разабраць яе няўцямнае мармытанне. Шаптала — як малілася:

— Завея шлях заснежыць — хавайся ад травы: жывы жывога цешыць, пакуль давер жывы, пакуль давер жывы...

Усяго і было ад малітвы — шэпт гэты нягучны.

— Слухай, ігуменняя, слухай! — прасіпеў хтосьці ззаду, і гэты раз голас здаўся Ефрасінні знаёмым.

А Еўка тым часам агладзіла свой андарак; сцягнула рукой разарваную на грудзях сарочку (хутчэй ад холаду, які высініў яе скуру) і пайшла ўздоўж людской сцяны, па крузе, ад позірку да позірку, пайшла лёгкаю хадою, прытанцоўваючы, прытупваючы зраненымі босымі нагамі па падмерзлым насціле.

— Гукне, прывабіць згуба — кладзі на сэрца лёд: жывы жывому любы, пакуль не згоркне мёд, пакуль не згоркне мёд... Прастора птаха злепіць — скідай былое з плеч: жывы жывога церпіць, пакуль чакае меч, пакуль чакае меч... Прадасць адна са згадак — ад сну свайго бяжы: жывы жывому рады, пакуль ён на крыжы, пакуль ён на крыжы...— не пела, працяжна прамаўля-

ла яна словы, пахітваючыся і прытанцоўваючы — адзін круг, другі, трэці! — Бядзе бяду давешваць, кроў льецца па крыві... Жывы жывога церпіць, пакуль адчай жывы, пакуль адчай жывы...

Усе пазіралі на ігуменню. Моўчкі. Насцярожана. Ефрасіння адчувала гэта, хоць не зводзіла вачэй з Еўкі, пазнаўшы ў ёй белавалосую дачку заезджага скамароха,— пяць гадоў таму бачыла яна яе ў будзе ў буру, а пазнала. Жалем зайшлося сэрца: дзіця небяспечных, неаднойчы палітых крывёй дарог, яна і ў вар'яцтве сваім помніла небяспеку і кроў. Свае словы ці чужыя паўтарала — не было ў словах хворага агню.

Рашуча заступіла Еўцы шлях Ефрасіння. Выпрастала руку з крыжам на ўзроўні яе твару, і як толькі ўпёрся Еўчын позірк у крыж, павольна павяла яго крыжам — за крыжам! — угору.

— Усявышні бачыць тваё гора, сястра. Маліся! Маліся — і палягчэе ў цябе на душы, і злітуюцца людзі, міласэрнасць сваю табе выказваючы. Укленчы перад крыжам мукі гасподняй — і словы малітвы цябе знойдуць, душа твая ачысціцца ад скверны.

І павяла крыжам уніз. І ўсё, што адбылося ў наступны момант, глыбока ўразіла гараджан: стукнулі аб насціл Еўчыны каленкі, упала яна лбом да ног ігуменні, раз і другі пакланілася, словы малітвы пацяклі з яе вуснаў, пацяклі свабодна, нязмушана... Знямеў натоўп, яшчэ на колькі крокаў падаўся назад: верылі і не верылі людзіны сіле Ефрасінні, сіле слова яе. А яна, ускінуўшы галаву, узіралася кудысьці паверх натоўпу, кудысьці далёка: ці то ў далёкае мінулае, ці то ў далёкую будучыню...

— А ты як глядзіш на ўсё, Глебка? Глеб!

— Да, мама,— вярнуў Глеб думкі з далёкага мінулага, здзіўлена ўтаропіўся ў колькі змаляваных ліст-

коў перад сабой: мама, Барыс... даволі ўдала ўхопленыя жэсты...

— Ды ён не чуў нічога з таго, пра што мы гаманілі,— нервова барабаніў па лаўцы пальцамі Барыс.

— Запрацаваўся,— вінавата ўсміхнуўся той.— Дурная звычка, ма, ты прабач. Ты штосьці спытала?

— Пры чым тут Глеб, мама? Ён проста не ў курсе.

— Як? Глеб не ведае, што брат яго застаўся без сям'і? Што сын брата, яго пляменнік, расце без бацькі? — ціха, амаль нячутна азвалася Ефрасіння, і яе моцна сашчэпленыя пальцы балюча ўздрыгнулі.

— Ты толькі не хвалюйся, мама! — падскочыў да яе Глеб, абняў, прыхінуўся да плячэй.— Ты не хвалюйся! Так выйшла. Так жыццё распарадзілася. На жаль, нічога нельга паправіць. І невядома яшчэ, хто ў выйгрышы.

— Што ты, што ты, Глебка! Дзіця ж у іх. Валодзік. Куды ж Валодзіка? Хто яму бацькам будзе?

— Барыс і будзе,— адышоўся той да акна і вярнуўся назад, да стала, да сваіх малюнкаў.— Закон ёсць, ма, і ім, законам, усё агаворана. Усё.

— Ужо ж, сэрца сёння нікому не патрэбна,— яшчэ цішэй сказала Ефрасіння.— Вы як не мае сыны, дзеці...

— Ды спаскудзела яго Вера, загуляла яшчэ замужам будучы!

— Глеб!

— Я знаю, што кажу.

— Ты не маеш права гэта казаць!

— Я не маю права рабіць выгляд, што нічога не ведаў. Даўно трэба было сказаць. Адразу. Не казаў, бо ўжо тады нічым не мог дапамагчы. Ні табе, ні Веры, якая скруцілася з прайдзісветам.

— З прай-дзі-светам?! Адкуль ты ўзяў...— падхапіўся з лаўкі Барыс і, перахапіўшы трывожны матчын позірк, у якім блішчалі слёзы, асунуўся назад.— До, Глеб. Сёння гэта ўжо не мае значэння.

Маўчанне, узнікшы, пачало цяжэць: густое, ліпкае яго мроіва калыхалася нізка над сталом, над лісткамі паперы, дзе, па волі Глебавага алоўка, рухаліся, размаўлялі, узрушана ўслухваліся ў сказанае Ефрасіння з сынам, з Барысам. Жывыя атрымаліся малюнкі. Чым больш узіраўся ў іх Глеб, тым больш выразна адчуваў якуюсь сваю неправату. Неправату ці мо нават віну. Маўчаў столькі часу, а зараз, калі і так душа ў кожнага разрывалася, мазануў сваім дзёгцем...

— Вы як не мае сыны, дзеці.

Глебу здалося, што маці паўтарыла гэта з папрокам, але Ефрасіння маўчала. Неяк па-старэчы ўгнулася над сталом і маўчала. Не іх яна зараз бачыла — дакладней: бачыла іх малых, белагаловых, з кавалкамі макухі, якія прывёз ім са станцыі Іван, у руках. І сябе — побач, маладую, упэўненую ў сваім і іхнім шчасці. І блізка не ўяўляла тады, кім стануць, як вырастуць і вывучацца, сыны яе, а тое, што вырастуць яны ў любові і стануць шчаслівымі, ведала, пэўна, зараней. Кроў і слёзы, гора і нястачы былі ў мінулым, у яе і Іванавым мінулым, і няхай не яны з Іванам, столькі зведаўшы і перацярпеўшы разам з людзьмі, з усім людам, няхай дзеці іх павінны былі пражыць іншае, лепшае жыццё — але ж гэта іншае, лепшае жыццё абавязкова павінна было настаць, не магло не настаць, бо для нечага ж яны цярпелі, для нечага змагаліся і перамагалі. Смерць перамагалі. І холад. І гора, што з магіл і не з магіл прарастала. Балючымі згадкамі прарастала. Жахлівымі снамі. І не дзіва. Столькі костачак у зямлі парылася: зямля нярэдка ўспухала. Што ж пра сэрцы людскія казаць! — не адно чорнай крывёю былога захлынулася...

Не першы раз Ефрасіння пра гэта думала — упершыню думала з гэткай скрухай. Цярпелі, з сіл выбіваліся, будавалі... А што выбудавалі? Усе, як скінуць вокам, вёскі, колькі ні латае іх прарэхі горад, старэюць, пусцеюць. Зямля ад недагляду запускаецца, радзіць не

хоча. Дзеці на бацькоў не азіраюцца, а ні таму, што іншымі, старэйшымі, прыдбана, ні таму, што самі робяць, рады не могуць даць. І шчасця, калі прыгледзецца, не дужа трымаюцца — таго шчасця, пра якое яны, бацькі іх, для іх марылі. Не трымаюцца. Быццам і не шчасце гэта зусім. А дзе тады шчасце? Што ж тады бачыла ў снах Ефрасіння, як не шчасце сыноў сваіх?

Маўчанне гняло, душыла, а словы не ішлі. Не было ў Ефрасінні слоў, якімі ад сына, ад сыноў — бо вось жа і ў Глеба аднекуль злосць — магла яна адвесці бяду. Якуюсь невядомую бяду, не названую дагэтуль, але страшную. Бо гэта ж сказаць лёгка, што сэрца нікому сёння не патрэбна, а жыць без сэрца — як?

Задумаліся Барыс з Глебам, слоў матчыных чакалі, а Ефрасіння маўчала. Углядалася ў іх, а бачыла — згадвала — іх малых, белагаловых, з кавалкамі макухі ў руках. Згадвала і зноў і зноў услухоўвалася ў думкі свае, а чула толькі трывогу. Выраслі сыны. І трывога вырасла, і не было куды схавацца ад гэтай трывогі.

«Чаго хацелі, таго дамагліся, Ефрасіння,— загучаў у ёй раптам Насцін голас.— Не гнуць спіны нашы дзеці ў пагоду і ў непагадзь, гной не месяць на ферме, чыгуны пудовыя не цягаюць у печ ды з печы, каб скаціна была накормлена, дровы і сена не здабываюць, каб не мерзнуць і слоік малака выпіць... Іншай, лепшай долі мы ім жадалі. А якая яна — лепшая?»

— Іншай, лепшай долі мы вам жадалі. А якая яна — лепшая? — амаль слова ў слова няўцямна паўтарыла яна апошнія словы і, усвядоміўшы гэта, таропкім рухам паднесла да губ ражок хвартуха, які толькі што ўзрушана камячыла ў пальцах.

— У кожнага яна свая, а лепшая, горшая...— нахіліўся да яе цераз стол Барыс.— Ты ў нас ёсць, мама, самая лепшая ў свеце! А з астатнім... з астатнім — мы самі, добра? Мы ж у цябе дарослыя, зусім ужо дарослыя.

Ён усміхнуўся. Змогшы, зглынуўшы горыч слоў і горыч працяглага, цяжкога маўчання, усміхнуўся, і нават Ефрасіння, колькі ні ўглядалася, не заўважыла, як балюча яму ўсміхацца.

— Мы ж у цябе не такія і кепскія, а? — падсеў бліжэй да брата Глеб і, абняўшы за плечы, падтрымаў яго ўсмешкай.

Цяпер яны ўжо абодва ўсміхаліся Ефрасінні, усміхаліся крыху вінавата, не ўмеючы разгладзіць сваімі ўсмешкамі зморшчынкі ў яе на твары, і Ефрасіння міжволі паддалася ледзь заўважнаму, дружнаму іх націску: вочы ў яе пацяплелі, ад сэрца трохі адлягло. Так ужо, відаць, атрымліваецца ў іх, як жыццё распарадзіцца. Не пражывеш жа яго, жыццё, за іх, і рукі свае не падставіш, калі не ўтрымаецца хто з сыноў на нагах. Выраслі. Даўно дарослыя. Не сёння заўтра сама ў іх апору шукаць будзе.

— Ма, не гэткія ўжо мы і кепскія ў цябе, а? Ну, скажы! — лашчыўся позіркам Глеб.

— Якія ўжо ні ёсць, а мае,— уздыхнула Ефрасіння, хаваючы ўсмешку.— Вячэраць што будзем?

## X

Вечар падкраўся неяк непрыкметна. Колькі хвілін таму ў акне гарэў яркі шматок заходняга неба і гарачая яго чырвань напаўняла пакой зіхатлівымі мяккімі водбліскамі, а тут раптам згасла, сшэрхла — усе паўтаны зніклі, утварыўшы суцемкі, і, здавалася, адразу загусла, пацяжэла паветра. Святлана нават плячамі пакратала, выбаўляючыся ад гэтага адчування. Паветра як паветра. Звычайная шэрань паўзмроку, якую можна адкінуць, уключыўшы лямпу, адну ці другую, над канапай.

Лямпу ўключаць не хацелася. Звечарэла і звечарэла. Трэба было даць адпачыць вачам, трэба было

ў думках, хоць бы эскізна, аднавіць перачытаны курс літаратуры, адасобіць галоўнае, вылучыўшы яго з таго патоку слоў, у якім яна боўталася з раніцы. Даты нараджэння і смерці, назвы сядзіб і маёнткаў, крытычныя разгляды сучаснікаў і нашчадкаў... Усё, што ў гаворцы пра літаратуру, пра літаратурны твор было, на думку Святланы, другарадным, ёй мусова — для экзаменатараў — трэба было запомніць, а галоўнае... Пра галоўнае ў яе на экзаменах ніхто не спытаецца (не першую сесію здавала!), можна было б і галаву не ламаць — хоць навошта тады галава?

Усміхнулася, згадаўшы цыбатага, увянчанага акулярамі Казіка Рогава — ягонае гэта было заўсёднае выслоўе: «Галаву можна і не ламаць, але навошта тады галава?», і зручней, з нагамі, умасціўшыся ў мяккім шырокім крэсле, памкнулася адагнаць згадку. Казік быў някепскі хлопец, разумнік, якіх мала: нярэдка заганяў у тупік сваімі дасведчанымі пытаннямі нават выкладчыкаў — «энцыклапедыя на тонкіх ножках», адным словам, але... Заўсёды чамусьці ўзнікала гэтае «але»!

Казік адкрыта вылучаў Святлану з усіх дзяўчат, адной ёй мог даць на вечар-другі томік Пастэрнака, ці Цвятаевай, ці Мандэльштама — каб у той жа вечар увесь інтэрнат войкаў і вохкаў над многімі ўпершыню прачытанымі радкамі, а на наступны вечар, вяртаючы кнігу, усміхнулася яму яна, Святлана. Ахматава, Пастэрнак, Цвятаева... Імёны, вядомыя не з падручнікаў, і, як яна разумела, найперш таму і прывабныя. Для большасці са студэнтак. Колькі раз чула ў адказ на сваё «чаму?»: «Як — чаму? Як — адкуль захапленне? Дык гэта ж — Ахматава! Ах-ма-та-ва!» Быццам гэта адказ. Ці хоць бы ў малой ступені тлумачэнне.

Тлумачэнне, напэўна, было. На зломе двух стагоддзяў узнікла магутная хваля, якая, перш чым знесці, змыць былое, прыўзняла яго, высвеціла так ярка, што

дзіўнае, дзівоснае святло тое дагэтуль не чэзне, дагэтуль хвалюе розумы і сэрцы. І будзь яе, Святланіна, воля, яна чытала б гэты курс вершамі. Вершамі ўсіх тых, хто тады жыў і пісаў, сумняваўся і знаходзіў новую сілу нават у сумненнях, пакутна шукаў ісціну і, знайшоўшы, адпрэчваў яе,— усіх, каго той час назваў сваімі паэтамі. І гэта было б толькі справядліва. Паэзія нічога не сцвярджае, яна — узвышае. Над побытам, над будзённасцю, над слабасцю ўзвышае. Кожнага, чыё сэрца адкрыта ёй, кожнага, хто імкнецца знайсці і знаходзіць яе не ў адным зборніку, дык у другім, не ў аднаго паэта, дык у другога. Як можна было вырашаць за ўсіх — вызначаць для ўсіх адны і тыя ж імёны, кнігі, творы, Святлана не разумела. З чужым, нават высокапрафесійным выбарам, яна ніколі не пагаджалася: чаму яна павінна хваліць тое, што хвалілі слынныя прафесары, любіць тое, што рэкамендавалі любіць падручнікі?

Яно, канечне: гэтак, пэўна, прасцей. Задумвацца не трэба. Нічога звыш чытаць не трэба. Засвоіш праграму, адкажаш згодна ёй на колькі пытанняў у экзаменацыйным білеце і — спецыяліст з вышэйшай адукацыяй. Поўны ажур, як кажа Ева. Завучаныя даты нараджэння і смерці, назвы сядзіб і маёнткаў, ацэнкі сучаснікаў і нашчадкаў асыплюцца адразу за парогам інстытута, і можна ўважыць сваё ўласнае сэрца... Можна. Толькі позна. Не атрымаецца. Ні ў кога ніколі не атрымлівалася: даў бы бог, як кажуць, з работай, што адразу наваліцца, управіцца. А побыт? Сям'я? Сябры?

Злавіўшы сябе на думках, далёкіх ад літаратуры і заўтрашняга экзамена (чорт ведае, куды разбрыдаліся думкі, ледзь адпускала іх на волю!), Святлана спахапілася. Саскочыла з крэсла. Пацягнулася, прыўзняўшыся на пальчыках. Тры-чатыры разы перагнулася, размінаючы паясніцу. Прайшлася. Прайшла на кухню і паставіла чайнік. «Інтарэсы народа, інтарэсы сацыялізма для Маякоўскага былі вышэй ад усяго, і той, хто

гэта не разумее, не здольны зразумець паэта...» — Мільгануў абрывак думкі, вычытанай у падручніку. Мільгануў і зачапіўся ў свядомасці: вышэй ад усяго... Ды ўжо ж, так яно, няйначай, і было. Але што складала гэтае «ўсё», не расказваў, не асмельваўся пазначыць ніводзін падручнік, хоць, мажліва, яно і вызначала вышыню адмаўлення і вышыню духоўнага подзвігу паэта.

Святлана аднавіла ў памяці неаднойчы перачытаныя старонкі, уздыхнула. Адказаць на экзамене яна адкажа, сабе адказаць было цяжэй: сягоння яна не адказала б. І таму паспрабавала пераключыць думкі на што іншае. Не дужа атрымалася. Тады пачала мармытаць першую, што прыгадалася, мелодыю, палезла ў буфет і, дастаўшы слоік варэння, зачэрпнула поўную лыжку...

— Ты чаго гэта без святла сядзіш? Свет, ты ёсць? — гукнула з прыхожай Ева.

— На кухні,— азвалася яна.

— А-а, значыцца, чай будзем зараз піць,— распраналася Ева: чуваць было, як упаў адзін боцік, потым другі.— Я на паўгадзінкі. Пераапрануцца толькі. Нечаканая камандзіроўка выпала. У Маскву.

— І з кім ты едзеш?

— З Міканорам. Ты не ведаеш яго: галоўны рэдактар кінастудыі...— уключыла святло, прышлэпаўшы басанож у кухню, Ева.— Сцэнарый зацвярджаецца.

— А ты пры чым?

— Я? Як заўсёды: зрабіць добрае ўражанне. Чаму б і не зрабіць, калі просяць? Чаму б і не праехацца ў сталіцу на дзяржаўны кошт?

— Гэта прафесія такая: рабіць добрае ўражанне? — разліла па кубках чай Святлана і, не падняўшы на сястру вачэй, пачала наразаць батон.

— Свет, не трэба, а?

— Я не разумею, як ты можаш, Ева!

— Так магу, як можацца,— цяжка, усім тулавам абаперлася на стол Ева, ашчаперыўшы дзвюма рукамі

густа пакрыты парфумай, стомлены зараз твар.— Жанчына, як бы ні жыла, што б ні зрабіла, скрозь у вінаватых будзе хадзіць. Скрозь. Хоць усёй віны часам, што жанчына. Ты яшчэ з гэтым сутыкнешся. І неаднойчы. Калі адразу не прымеш вызначаную табе ролю. Вартую жалю рольку.

— Якую рольку, Ева?

— Якую? Падсцілкі, падпоркі, апоры — заўваж: вечнай апоры! — называй гэта як хочаш, сутнасць тая ж. Цябе проста выкарыстаюць. Калі ж ты не патрапіш густу, настрою, самалюбству, сіле ці бяссіллю свайго ўладыкі, цябе проста кінуць. Адкінуць. Як скарыстаную і непатрэбную рэч. Як высмактаную дольку лімона. Высмактаная і выплюнутая долька лімона... Падабаецца роля?

— Цябе хтосьці пакрыўдзіў, Ева? — нахілілася, спрабуючы зазірнуць сястры ў вочы, Святлана.

— Мяне нельга пакрыўдзіць, зайка. Я занадта добра вывучыла не толькі сваю ролю, але і сваіх партнёраў. Ведаю, што ад каго можна ўзяць, і даўно не чакаю цуду. І таму не падманваюся,— падняла стомлены твар Ева і, убачыўшы спалох і боль у Святланіным позірку, ледзь прыкметна насупілася.— І табе не раю падманвацца. Прызнанні, каханні, расстанні... Гэта ўсё мінае. Міне. І жанчына застаецца са сваёй адзінотай. Ці са сваім дзіцем, калі ў яе не хапіла розуму не абзавесціся ім у часе сваіх наіўных спадзяванняў.

— Божа мой, Ева! Што ты такое кажаш? Што ты кажаш?

— Зайка, я на цэлых сем год старэйшая.

— Ну і што! — падсунулася тая да яе разам з табурэткай.— Ну і што! Цябе проста хтосьці пакрыўдзіў. Гэта пройдзе. Адбаліць. І зноў усё будзе добра. Вось убачыш.

Яна гладзіла Евіна плячо, яна з маленнем у голасе і ў позірку баранілася ад яе калючых, жорсткіх слоў тым,

што не верыла ім, не магла ім паверыць. І таму зноў і зноў спрабавала абвергнуць іх:

— У жыцці не ўсё гладка, гэта так. Дык на тое яно і жыццё, Ева. І нельга на яго гневацца, бо гнеў падае на таго, хто яго пускае ў сэрца. Гэтак мама казала заўсёды. Помніш? І правільна казала. Не адно ж крыўды выпадаюць чалавеку, здараюцца і радасныя мінуты, і шчаслівыя. Не адно ж няўдзячныя сэрцы ў людзей вакол — заўсёды знаходзіцца сэрца, у якім каханне...

— Святлана!

— Ну, ёсць жа каханне, Ева!

— Ружовы туман. Туман, які, ледзь толькі задзьме першы свежы ветрык, разыходзіцца,— павольна, быццам цэдзячы словы цераз зубы, сказала тая і лёгкімі, звыклымі рухамі пачала расціраць кончыкамі пальцаў скроні, быццам у яе балела галава і так яна спрабавала суцішыць боль.

— Ты вельмі змянілася,— уздыхнула Святлана і крыху адсунулася, разгубленым, няўклюдным узмахам рукі ледзь не зачапіўшы поўныя, ні ёй, ні Евай не кранутыя кубкі з чаем.— Ты мяне не слухаеш, не чуеш.

— Ніхто нікога сёння не чуе. І не таму, што не слухае, а таму, што адны і тыя ж словы кожны раз азначаюць рознае, кожны раз і для кожнага... Лічы, што я табе нічога не казала. Добра?

— Ты вельмі змянілася, Ева.

— Думаеш? — адпіла тая з кубка (чай быў халодны — астыў, пакуль яны гаманілі) і міжволі зморшчылася.— Проста, зайка, твой туман яшчэ з табой — вакол! — а мой ужо рассеяўся.

— Цябе хтосьці пакрыўдзіў. Гэты твой Глеб...

— Глеб? — блiснула на яе вачамі Ева.— Глеб калісьці прапаноўваў мне выйсці за яго замуж.

— І ты, канечне, адмовіла яму,— ледзь утрымала сябе на табурэтцы Святлана.

— Я засмяялася,— не здолела схаваць якуюсь

злосную прыкрасць у голасе тая.— Засмяялася і прапанавала яму застацца ў мяне да раніцы. Да раніцы, а не на ўсё жыццё.

— Але чаму, чаму Ева? — пачырванела Святлана.

— Ды ён зарабляў сто дзесяць рублёў у месяц, нейкую дзіцячую студыю ў Палацы камвольнага камбіната вёў. Нават за тыя два сцэнарыі, якія зляпіў для Міся Кіцына, сваю долю вырваць не змог. «Я не з-за грошай...» — растлумачыў. Бяссрэбранік, ты ж разумееш! Гэта ў наш час — не з-за грошай.

— Хіба гэта так ужо кепска? — апусціла вочы ў кубак з чаем Святлана.— Галоўнае: ён кахаў цябе.

— Можа, і кахаў. Але ж у каханне, як у сукенку, не ўлезеш, сукенка так і так трэба. Грошыкі тыя рэжысёр загроб і вокам не змаргнуў. Хто-хто, а Кіцын ведае, як імі распарадзіцца: у ягонай Майкі брыльянты ў вушах, і іншым што якое ад яго перападае.

— Ты хочаш сказаць, што і ты...

— Я хачу сказаць, што не пра тое мы з табой гаворым. Не пра тое. Не зразумееш ты мяне. Не разумееш.

Ева адкрыта злавала: забегла пераапрануцца, глынуць гарачага чаю, а ўлезла ў непатрэбную гаворку і дагаварылася да галаўнога болю. І Святлана пазірала на яе калі і не са страхам, дык са шкадаваннем і расчараваннем. І ведала ж яна: свае ілюзіі кожны сам разбівае, а не ўтрывала... Колькі тых ілюзій! І Святлана іх разаб'е і потым будзе таптацца па калючых сколках, як яна, Ева,— толькі ў яе яшчэ ёсць час, ёсць невялікі прамежак часу... «Можа, нікуды не ехаць?» — мільганула раптам, і Ева яшчэ больш спахмурнела: ехаць трэба было, Міканору не растлумачыш. Ды і тлумачыць не было чаго. Галава балела? Дзве таблеткі цытрамону і... Не задаволена? А чым, запытацца, не задаволена?

(Жылі-былі... Не, проста: жылі хлопец і дзяўчына,

Ян і Яніна. Жылі ў розных канцах вялікага горада, аблытанага правадамі і агнямі, размаляванага абскубанымі ліпамі і стракатымі машынамі. Жылі ў розных шматпавярховых камяніцах, якія аднолькава нагадвалі шэрыя шпакоўні. Жылі ў розных пакоях, якія былі аднолькава набіты цёмнай пыльнай мэбляй, аднолькава асвятляліся мігатліва-блакітнымі акенцамі тэлевізараў. Днямі, а мо і тыднямі ехалі хлопец і дзяўчына, Ян і Яніна, насустрач адно аднаму па бясконца доўгіх гарадскіх вуліцах праз патокі людзей і патокі машын, і сустрэчы іх былі кароткімі. Некалькіх позіркаў хапала ім, каб наглядзецца аднаму на аднаго, некалькіх імгненняў хапала, каб нагаварыцца, вымавіўшы, а то і не вымавіўшы, толькі адно слова. А міналі гэтыя імгненні — і зноў разводзілі іх вуліцы, аўтобусы, людскія патокі. І на месцы іх сустрэчы, дзе б яны ні сустракаліся, калі б гэта ні адбывалася — улетку ці зімою, прабіваўся праз асфальт, праз сцюжу кволы зялёны парастак. Прабіваўся, рос, дужэў, і калі хтосьці з гараджан, спяшаючыся і нікога і нічога вакол не заўважаючы, не раструшчваў яго сляпым, абутым па сезону ступаком, то на тонкай зялёнай сцяблінe распускалася дзівосна-яркая кветка. Усяго на некалькі імгненняў. Бо чалавек, які спяшаўся і нічога вакол не заўважаў, абавязкова знаходзіўся, і сляпы яго ступак трушчыў маленькі цуд.

І ў той жа момант з розных канцоў вялікага горада кідаліся насустрач адно аднаму хлопец і дзяўчына, Ян і Яніна. І марна ўтрымліваў іх горад, марна ўзводзіў на іх шляху патокі людзей і патокі машын. Яны — сустракаліся. І зноў кволы зялёны парастак прабіваў асфальт, прабіваў задуху ці сцюжу, і зноў распускалася дзівосна-яркая кветка, каб загінуць пад чыімсьці абыякавым сляпым ступаком і, гінучы, пагукаць, паклікаць закаханых.

І настаў дзень, калі хлопец і дзяўчына, Ян і Яніна, не захацелі расстацца, не захацелі разняць рукі,

і ў коле іх рук пачаў падымацца, расці зялёны парастак — падымацца, набухаць яркай пупышкай, з якой распусцілася дзівосная кветка. І чым даўжэй любаваліся ёю хлопец і дзяўчына, Ян і Яніна, тым ярчэй яна гарэла. Ужо і ноч на горад абвалілася, ужо і новы ранак зачмыхаў маторамі, заскрыгаў тармазамі, а кветка цвіла, гарэла.

І цвіла б яна вечна, калі б не стала шкада хлопцу і дзяўчыне, Яну і Яніне, гэтага маленькага свайго цуду, шкада пакідаць яго забруджанаму гораду. А стала шкада — і зламаў Ян кветку, падаў яе Яніне. І згінуў цуд: у руках дзяўчыны згасла, звяла кветка, у вачах дзяўчыны заблішчалі слёзы.

Цяпер хлопец і дзяўчына, Ян і Яніна, былі побач, не расставаліся, але нават слёзы не ажывілі, не змаглі ажывіць кветку. І ніколі болей не зацвітала яна ні для іх, ні для горада...)

Сучасная казка. Цяжка нават зразумець: шчаслівы ці няшчаслівы ў яе канец.

«Людзі жывуць у рэальным свеце, і ўсе іх сілы ідуць на тое, каб проста жыць»,— сцвярджаў адзін славуты амерыканец, што не верыў казкам. Не верыў не толькі сучасным казкам — не верыў нават казцы пра птушку-фенікс, якую, вырваўшы два-тры пяры, каб было чым змахваць пыл, адганяюць, праганяюць, і толькі праз шмат гадоў, перад самай смерцю, разумеюць, што абышліся так са сваёю душою.

Казку, канечне, шкада. На працягу столькіх стагоддзяў змахвае пыл з нашых уяўленняў і не заслужыла нават даверу!

— Вось бачыш, упершыню паспрабавала сыграць ролю старэйшай сястры і спроба атрымалася няўдалай. Ні чужыя ўрокі, ні чужыя памылкі нікога не вучаць. На жаль. Не ведаю, ці вернемся мы калі да гэтай гавор-

кі — хутчэй за ўсё вернемся! І мне не хацелася б, каб ты мяне асуджала.

— Ну, што ты! — разгублена памешвала і памешвала лыжачкай астылы чай Святлана.— Як я магу? Цябе проста пакрыўдзілі...

— Ніхто мяне не крыўдзіў. Запомні! Ніхто. Той, якая я ёсць, я хацела стаць і стала. Сама. І не шкадую. Ні аб чым не шкадую. Ты не зразумела. Ты можаш жыць інакш — калі зможаш! Мяне, майго, не чапай.

Ева правяла па шчоках дрогкімі далонямі і быццам сцерла імі якійсь нябачны цень: халодным святлом загарэліся вочы, разгладзіліся вакол вачэй і ў куточках вуснаў ледзь прыкметныя зморшчынкі — на прыгожым твары з'явілася заўсёдная ўпэўненасць, зніклі стома і раздражнёнасць. Спакойна, абыякава адсунула свой кубак і ўстала з-за стала. Зірнула на свой невялічкі, тонкай работы, наручны гадзіннік, пакратала плячыма, распрамляючыся і быццам вышэючы ростам, і кранулася тонкімі пальцамі з даўгімі прыгожымі пазногцямі пляча Святланы, якая сядзела разгубленая, зніякавелая.

— Мне час збірацца. Мы абавязкова дагаворым. Абавязкова. Толькі не сёння. Не зараз.

Святлана не адказала. Не скранулася з месца. Сядзела, утаропіўшыся ў цёмнае акно, зрэдку пакручвала на стале кубак з чаем, зрэдку праводзіла рукой па валасах, што былі зараз заплецены ў тоўстую касу, зрэдку, быццам прыгадаўшы раптам ад'езд сястры, услухвалася ў гукі, якія даносіліся з пакоя. Там пабразгвалі шуфлядкі шафы, шапацела папера, падалі на падлогу то грэбень, то заколкі. Пасля мармытання мелодыі моднага шлягера, якая ўся ўмяшчалася ў Евіна: «тара-тара-тара-рам», раптам чулася злоснае: «Ат, чорт!», і Святлана разумела, што тая падводзіла вейкі.

Зазвінеў тэлефон. Грымнула перакуленае крэсла.

— Гэта цябе, Святлана! — здзіўлена гукнула ёй Ева.

«Глеб!» — усхадзілася ў Святланы сэрца, і нават супакойлівая думка: «Ева пазнала б яго голас... Ён не пасмеў бы праз Еву...» не супакоіла. Паднялася, няпэўнымі крокамі прайшла ў пакой, чамусьці шчытна зачыніла за сабой дзверы ў кухню.

— Ка-ва-лер! — па-змоўніцку падміргнула ёй Ева з люстэрка, перад якім круцілася.

— Слухаю,— злосна буркнула ў трубку Святлана і тут жа зазлавала, занервавалася.— Ро-гаў? Ты яшчэ адкуль? Ты адкуль тэлефон дазнаўся? Адкуль тэлефон дазнаўся, пытаю? Інтуіцыя падказала... Ага. А тое, што трэба было дазволу папрасіць пазваніць, табе інтуіцыя не падказала? Дрэнна. Не... Не дачытала. Дачытваю. Усяго добрага!

— Сурова. Занадта сурова, зайка,— засмяялася на яе нервовае мармытанне Ева.— Хтосьці са студэнтаў?

— Ат! — адмахнулася Святлана.

— Правільна,— чмокнула яна яе ў шчаку.— Калі ён не сын прафесара ці хоць бы загадчыка прамтаварнай базы, няхай гуляе. Знойдзецца хтосьці даражэйшы.

— Зноў ты...

— Я — усё. Я пабегла. Глядзі тут!

Шарганулі «маланкі» на ботах, працокалі пад ранейшае, толькі больш вясёлае, «тара-тара-тара-рам» да дзвярэй абцасікі, бразнулі, зашчоўкваючыся, дзверы. І толькі тады, прыгадаўшы, што нават не спытала ў сястры, на колькі дзён тая ад'язджала, Святлана адчула ўсю трывожнасць пачутага, усю нязвыклую адчужанасць паміж імі, сёстрамі, у часе гаворкі. Не чулі, не разумелі адна адну, быццам былі і назаўсёды застануцца чужымі.

Адчуванне было непрыемнае. Святлана паспрабавала пазбыцца яго, прыгадаць што з былога, калі і яна і Ева жылі дома, у Варонічах, і, здаецца, да самазабыцця любілі сваю вёсачку, раку, буслоў ля ракі... Ева, невысокая, худзенькая, умела жыва паказваць, як асця-

рожна, быццам баючыся намачыць ногі, ходзяць па лугавіне буслы: высока ўскідвала збітую каленку, наструнъвала, падцінаючы пальцы, нагу і павольна да зайздрасці прыгожа ступала ў высокую траву. І тут жа, у тое ж імгненне, згінала, вострым вуглом вытыркала з-пад сабранай у жменю спаднічкі другое калена — і наступны крок быў гэткім жа прыгожым і дакладным. Падабенства было ва ўсім, у Евы нават шыя выцягвалася і галава, абматаная светлай касой, злёгку ўздрыгвала, падаючыся ўперад...

Згадка выклікала ўсмешку. Трывога крыху адступіла: пэўна, жыла ў Евінай душы якаясь зможаная і незабытая крыўда, вось і прарвалася яна ў словах. І не трэба зважаць на словы, не трэба надаваць ім значэнне большае, чым яны таго заслугоўвалі: жыццё заўсёды ставіла ўсё на сваё месца. Паставіць і тут. Міканор, Місь... Глеб... Урэшце, гэта Евіна справа!

Трывога адступіла. Яна не знікла, не, яна стаілася дзесьці непадалёку і чакала — зручнага моманту чакала, ці зручнай прычыны, ці проста новага павароту думкі. Ён пазначаўся ўжо, гэты новы паварот, думка паслухмяна рухалася ўслед за позіркам — Святлана, мажліва, упершыню так уважліва аглядала пакой сястры: ля дзвярэй, у пакрытай цёмным лакам рамцы — фотаэцюд аголенай жанчыны з адвернутым ад позіркаў тварам, далей — дарагая, арэхавага дрэва, прысценная шафа, дзе ў адзіна адкрытай зашклёнай секцыі было выстаўлена прыгожае чэшскае шкло, ля акна, збоку,— тэлевізар на адной ножцы, што нагадвала курыную, і на тэлевізары — вясёлы керамічны чорцік, насупраць шафы — складная канапа, прыкрытая пушыстым закарпацкім дываном, тут жа крэслы на калёсіках і на гэткіх жа калёсіках столік, завалены зараз яе, Святланінымі, паперамі і падручнікамі, над столікам, на сцяне — вялікі перакідны японкі каляндар... Нічога лішняга. Нічога, што вырывалася б з ансамбля — і ўсё,

як яна разумела, каштавала немалых грошай, за зарплату апаратчыцы ў студыі гуказапісу не набудзеш. «Мужчыны? Але ж тады...»

Што — тады, Святлана дадумваць не стала. Спалохалася. І, спалохаўшыся, міжволі заплюшчыла вочы. Каб ужо іншым, унутраным зрокам убачыць той, ля дзвярэй, фотаэцюд аголенай жанчыны з адвернутым ад позіркаў тварам і сцяцца: «Ева?!»

## XI

Аўтобус прыпыняўся ля Анэлінай хаты, якую пасля смерці ўдавы ў сына яе, Сцяпана, які працаваў у Асіповічах мулярам, адкупіў сельсавет, і цяпер, крыху падрамантаваная, ашаляваная, хата служыла крамай. Тут яшчэ задоўга да прыходу аўтобуса на ганку ці на мастку перад ім таўкліся, тупалі і тыя, каму трэба было ехаць, і тыя, хто прыходзіў у краму па якой патрэбе і спыняўся пагаманіць. Гамонка чулася і зараз. Няспешная, акураная дымам Аўдзеевай самакруткі, што перабіваў пах нават «Прымы», якую курылі ўсе астатнія, гамонка. Пра тое, пра гэта, пра ўсё патроху. Гэта ўжо як вялося спрадвеку. Бацькоў змянялі дзеці, дзяцей — іхнія дзеці, а клопаты былі ранейшыя, заўсёдныя: ці напоіць дождж у час зямельку, ці ўродзяць яблыкі, як гэтулькі цвету, ці будзе карысць ад чорт ведае якога па ліку старшыні, ці дасць брыгадзір каня абагнаць бульбу...

Глеб не ўслухваўся дужа. Вядомыя размовы! Бубніў, смокчучы цыгарку, у асноўным Аўдзей: ці то на брыгадзіра язык тачыў, ці то на хваробы свае, хутчэй за ўсё павыдумляныя, скардзіўся. Яго не пераслухаеш. Ды і іншыя — матчыны! — словы ўсё яшчэ смылелі ў ім, усё яшчэ пяклі: «Вы ж не забывайцеся на мяне, Глебка, прыязджайце зрэдчас. А то памру — і роднай рукі не будзе побач, каб вочы закрыць».

«Вы ж не забывайцеся...» Казала, быццам ведала іх мітуслівае гарадское жыццё. Быццам бачыла ўсе віры яго, у якія трапляў то адзін сын, то другі...

Глеб палез у кішэню па цыгарэту і ўздрыгнуў на гучны мужчынскі смех за спіной. Не азірнуўся. Прыслухаўся. Кхекаючы ледзь на кожным слове, расказваў Аўдзей:

— Вось вам, кхе, і Яўхіміха! Богу богава, як той казаў, а бабе бабіна, кхе. Раздабрэла на сваіх малітвах, а ўсё, кхе, слабых, змоглых шукае. Гэта я, гэць на яго, змоглы! Гэта мне трэба, кхе, паясніцу камячыць! Ды я, кхе, кхе, яшчэ і не гэткую падкамячу.

— Няўжо, дзядзька Аўдзей? — пад'ялдыкнуў Стась Карпач.— Няўжо з Яўхіміхай управіўся б?

— А ты ў яе, як той казаў, папытай. Папытай, галуба, як жа. Мо і не збрэша баба, кхе, кхе,— пагладжваў кепска паголены падбародак стары.— Не глядзі, кхе, што ў мяне скрозь хвароба хваробай корміцца, адной хваробы, гэць на яго, я ніколі не ведаў. Хто і маладзейшы, кхе, таго, што я, не паспытаў.

— Дык мо ты, дзядзька, і ёсць той сінецкі певень, ад якога нашы маладайкі нясуцца? — нечакана басам рагатнуў сухі, нягеглы з выгляду Стась, і зноў усе засмяяліся.— Тое і зірнуць: што ні байструк у вёсцы, то абавязкова нос гарбылём.

— Га-га-га, гы-гы-гы,— закалацілася вуліца.

— Чаго гэта вы захадзіліся? — выглянула з-за дзвярэй Ганна Штыхава і тут жа схавалася, бо словы сыпанулі шротам:

— Твае яблычкі Аўдзей прыгадвае!

— Хадзі сюды, Ганка, раскажам!

— Бач, матлянулася!

— Кожан — пан, як Іван.

— Захадзіліся, гэць на яго,— буркнуў Аўдзей і пачаў скручваць новую цыгарку.— Лепш бы агню даў каторы, кхе.

— Закурвайце,— ступіў да купкі мужчын, што ўсё ніяк не маглі адсмяяцца, Глеб і пстрыкнуў запальнічкай.

— Чуў, гэць на яго, як над старым пацяшаюцца? — прыкурыў і зацмокаў цыгаркай той.— Палец, кхе, пакажы...

— А ты пакажы, дзядзька! — рагатнуў Стась, але гэты раз яго не падтрымалі: ці то згадалі мужчыны пахаванне Івана (тры ж дні ўсяго і мінула), ці то прыйшла і адышла вясёлая хвіліна, і думкі іх вярнуліся ў звыклае кола вясковых патрэб і клопатаў.

— Як там у горадзе, трохі наладзілася з прадуктамі? — звярнуўся да Глеба Ігнат Ступін, каржакаваты, шыракаплечы вусач.

— Трохі наладзілася,— прапанаваў Глеб мужчынам цыгарэты са свайго пачка.

— Гэта ж мая Люба скардзілася: вечарам, пасля змены, у магазіне нічога не ўхопіш. Ні мяса, ні малака.

— Дзе ж яно будзе, гэць на яго, тое мяса і малако, як ля кароў няма каму хадзіць,— сплюнуў сабе пад ногі Аўдзей.— Не мне ж, як той казаў, іх сваімі хваробамі карміць. Кхе, кхе!

— Да, брат,— азваўся спахмурнелы Стась.— Гэтулькі народу адно прамовамі ды абяцаннямі не накорміш. Як ні паслухаеш, усё перавыконваем ды перавыконваем планы, а куды што дзяецца?

Закашляўся Аўдзей. Прыгадаўшы, што ішоў у краму, падаў кожнаму руку і адышоўся Ігнат. Змоўк, задумаўся Стась. Глеб, узіраючыся ў іх твары, глытаў дым і гэтае раптоўнае маўчанне і не знаходзіў, чым падтрымаць згаслую гаворку. Тлумачыць, куды што дзяецца? Ды гэтага, папраўдзе, і ён не ведаў. Ніколі не задумваўся. Бадзёра аджартавацца? Не аджартуецца, пэўна. Не тая гэта трывога, каб жартам ад яе адгарадзіцца...

— Гэта добра, што ты маўчыш, кхе,— кінуў Аўдзей цыгарку і ботам раструшчыў, уціснуў яе ў пясок.— Значыцца, разумееш, гэць на яго. Усё як ёсць разумееш.

— Ды не ўсё разумею, дзядзька Аўдзей, не ўсё! — вырвалася ў Глеба міжволі, і ён, зацягнуўшыся дымам раз, другі, прадоўжыў: — Гэткія памылкі былі, гэткай крывёй за памылкі сплочана, а ўсё ніяк іх не зможам, усё ніяк не навучымся гаспадарку сваю з розумам весці.

— Гаспадароў шмат, ядрона вош! — ціха вылаяўся Стась.— Ды вам што? Вы ў горадзе з'ясцё, не з'ясцё ў смак, а ўсё панамі жывяцё, каб лішні раз не нагнуцца, лішні раз рукі не запэцкаць: што не так зробіцца, потым недзе даробіцца... Цьфу!

Сплюнуўшы пад ногі колькі мацюкоў, Стась адвярнуўся і тым самым быццам скончыў гаворку. Гэтак бы яно, відаць, і было (Глеб не знайшоў, што на гэта адказаць), каб не зазлаваў раптам стары Аўдзей. Ён колькі імгненняў таптаўся, злосна пакашліваў, водзячы дрогкай рукой па падбародку, потым не стрываў:

— Тое, што ад нас далёка, гэць на яго, бачым, а ў сябе пад носам, кхе... Трактары, пасля таго як вы ў іх пакалупаецеся, глохнуць, як той казаў, кхе, кхе, а ты, Стась, брыдкімі словамі зямельку запляваць хочаш. Ты — брыдкімі словамі, Хведар Галас, гэць на яго,— п'янымі смэркамі...

— Чаго ты ўсхадзіўся, дзядзька? Ну, сказаў. Ну, вылаяўся. Дак ты ж за мяне маю работу не зробіш. Так? — азірнуўся той цераз плячо, пакасіўшыся перш на Глеба.

— Не зраблю, гэць на яго,— буркнуў Аўдзей, не зірнуўшы на таго, і змоўк.

Маўчаў і Глеб. Не было яму чаго казаць. І ён, як і стары Аўдзей, не замяніць Карпача ў рамонтных майстэрнях. І гэта не так засмучала, як бянтэжыла. Бянтэжыла сваёй непераканаўчасцю, і разам з тым — неаб-

вержнасцю: выходзіла, што Карпач, добры ці кепскі ён работнік,— незаменны. Незаменны на сваім месцы, як на іншым — хто іншы... Сёння, учора, заўчора — заўсёды! Заўсёды, ва ўсе часы ніводзін чалавек не мог замяніць каго іншага. Мог жыць за кошт іншага. Мог прадоўжыць яго справу ці нават памерці за яго. А замяніць, стаць на месца жывога ці мёртвага — не. Кожны, малы і вялікі, быў незаменны, жыў, пакуль жыў. А паміраў — і ўсё ягонае памірала з ім, у ім. Заставаўся сын — значыць, доўжыўся род, а чалавека не было. Не было больш, як няма больш іх бацькі — Івана Суляціча...

Згадаўшы бацьку, Глеб паспрабаваў аднавіць у памяці яго твар і не здолеў. Бачыў чамусьці сябе самога, свой шырокі твар у абрамленні капы русых валасоў, бачыў, бы ў люстэрку, і гэта было непрыемна. Нават крыху сорамна. І каб сцерці згадку, каб неяк адасобіцца ад сваіх думак, зноў закурыў і адышоўся да шляху. Стаяў. Курыў. Зірнуў у адзін канец, дзе праз адзінаццаць двароў стаяла іх хата, потым у другі канец, адкуль павінен быў прыйсці аўтобус. Аўтобус ужо ішоў. Міг, другі — і стала́ чуваць, як натужна гудзе яго старэнькі матор, як ляскаюць на кожнай выбоіне расхістаныя, паношаныя яго дзверцы. Хвіліна, другая — і вось ужо Глеб мосціцца на вузкай абшарпанай скураной лаўцы, узіраецца ў двары, што няспешна зрушыліся і пабеглі насустрач аўтобусу, у свой двор, які ўсё набліжаўся, набліжаючы невысокую, захутаную ў клятчатую хустку маці ля весніц, ля незачыненых весніц...

— Ойча наш, каторы ёсць у небе, свяцка імя тваё, прыйдзі валадарства тваё, будзь воля твая, як на небе, так і на зямлі,— малілася Ефрасіння перад храмам божым, перад Святой Сафіяй, на амбоне якой з'явіцца люду полацкаму новы біскуп, прысланы мітрапалітам Кіеўскім у Полацк — біскуп Козма, вядомы ў хрысціян-

скім свеце жыццём сваім праведным, і ўкленчыць, калі прызнае яго, перад ім люд полацкі, што сабраўся на веча.

— Хвала табе, божа наш, хвала табе. Прыйдзі і гаспадаруй у нас, і ачысці нас ад усякага благоцця, ды збаў, дабротны, душы нашы,— паўтарала за Ефрасінняй Гардзіслава, сястра яе, Еўпраксія ў манашастве, увесь час чуючы, як калышацца за спіной натоўп, як то нарастае, то цішэе ззаду гул галасоў, глухі гул, што быццам адцяняў бомканне званоў Сафіі, усіх званоў вялікага горада.

Недаўменне, цікаўнасць, страх і надзея сабралі гараджан на вялікай плошчы перад Святой Сафіяй. З аднаго боку да амбона ціснуліся манахі, быццам стрымліваючы нецярплівы натоўп купецкіх і рамесніцкіх радоў, з другога боку шчытным паўкругам, засланяючы бабровыя шапкі баяр, княжых саветнікаў, тоўпіліся вакол князёў княжыя ратнікі. Усе пытаюцца, ніхто не адказвае... І вось змаўкае вялікі вечавы звон, і, не чуючы яго ўрачыста-трывожнага гулу, аціхаюць званы на званіцах і іншых гасподніх храмаў — не моўкнуць, а менавіта аціхаюць: галасы іх адступаюць далей і далей, пакуль зусім не губляюцца ў нізкім адвячоркавым небе.

Хіснуўся і застыў натоўп, падаўшыся бліжэй да амбона, з сабора насустрач сотням цікаўных, насцярожаных позіркаў выйшлі двое: высокі, сухажылы пасланнік Кіеўскага мітрапаліта ў дарагім манашым адзенні з залатым крыжам на грудзях і граматай, замацаванай вялікай віслай пячаткай, у руцэ і значна ніжэйшы і круглейшы за яго — у гэткім жа, але больш простым адзенні, у круглай біскупскай шапачцы і з крыжам у руках, прыціснутых да грудзей.

— Волю мітрапаліта Кіеўскага явіць люду полацкаму пасланы я,— урачыста перахрысціўшы лоб і грудзі, пачаў пасланнік.— Дазвольце, палачане, зачытаць

вам грамату ўладыкі нашага, мітрапаліта Кіеўскага.

— Чытай!

— Даём дазвол! — загукала грамада.

Схіліў на момант галаву той перад вечам, перахрысціўся, зрываючы пячатку, і пачаў:

— «Гэтай граматай, з божай помаччу даводжу князям полацкім і ўсяму люду полацкаму, прыняўшаму благачэсць, што мной, мітрапалітам Кіеўскім, каму ўлада над усімі землямі славян дадзена госпадам нашым Іісусам Хрыстом, прызначаю правялебнага Козму біскупам полацкім і давяраю розуму яго і яго малітвам біскупства і прэстол Святой Сафіі Полацкай. Як будзе на тое воля госпада і воля палачан, верна будзе служыць ён царкве і людзям. На тым і шлю сваё благаслаўленне. Мітрапаліт Кіеўскі».

Моўчкі выслухалі гараджане пасланне са стольнага Кіева. І нават калі скончыў чытаць грамату імяніты пасланец вялікага горада і мітрапаліта, маўчалі яны. Ніхто не азваўся, ні згоды, ні нязгоды не выказаў. Стаялі. Чакалі. Насцярожана калыхалася цішыня над натоўпам, насцярожана ўзіраўся кожны ў прыезджых.

— Да цябе, люд полацкі, звяртаецца мітрапаліт. Твайго адказу чакаю я, яго пасланнік. Чакае твайго адказу правялебны Козма,— не выказаў здзіўлення пасланнік, толькі яшчэ раз на момант схіліў голаў перад запруджанай людам плошчай і потым павярнуўся — аднымі плячамі — да свайго спадарожніка.

— Няхай мовіць!

— Правялебнага Козму паслухаць хочам!

— Няхай мовіць слова да грамады,— пачуліся галасы.— Яго паслухаем.

Па-ранейшаму прыціскаючы крыж абедзвюма рукамі, ступіў наперад прысланы біскуп.

— Палачане! Калі вочы мае, у які канец горада вашага ні звернуты, паўсюдна бачаць залатыя крыжы велічных храмаў веры святой, калі плынь рачная, вада

дзвінская, люструючы сабор а сямі вярхах, а сямі купалах, быццам сведчыць пра той вялікі дзень, у які знакі ідалапаклонніцтва згінулі з шумам у цёмных яе хвалях, то не магу не згадаць, што воляй вялікага палачаніна князя Усяслава і рукамі слынных полацкіх майстроў узведзены тут, над Дзвіной, над горадам, сабор гэты.

— Добрыя словы!

— Зямлі нашай, роду нашаму павагу выказвае...— зашархацела і сціхла ў рамесніцкіх радах.

— Не магу не згадаць,— працягваў біскуп,— славу Полацка, здабытую не толькі ў паходах і пры абароне княства харобрымі княжымі дружынамі, але і ў працы ўсіх людзінаў, плён якой добра вядомы купцам полацкім і гасцям заморскім.

— Добра мовіць!

— Разуменне і павага ў яго словах! — пракацілася ў купецкіх радах і сярод княжых ратнікаў.

— Што ж найбольш цешыць маё сэрца — вера ў госпада нашага, у яго справядлівасць і літасць да зямлі гэтай, вера, якую бачу я ў вашых позірках, у вашых душах, палачане. Тая вера, у славу якой продкі вашы кроў пралівалі і на крыві і касцях — сярод іх нямала варожых касцей, касцей нягоднікаў! — храмы божыя ўзводзілі ў гарадах і тут, у стольным Полацку. Тая вера, якой ачышчаюцца душы людскія, перш чым устаць перад валадаром усявышнім, перад госпадам нашым.

— Хвала табе, божа наш, хвала...

— Прыйдзі і гаспадаруй і ачысці нас ад усякага благоцця...

— Збаў, дабротны, душы нашы...— азвалася словамі малітвы духавенства на чале з ігуменняй Ефрасінняй, і кожны, хто прыйшоў на веча, малітоўным рухам крануўся лба.

— Палачане! — узвысіў голас біскуп.— Высокая — улада князя, князёў полацкіх. Але яшчэ вышэйшая

ўлада неба, улада ўсявышняга, які вучыць нас жыць у згодзе, жыць помысламі высокімі ў славу яго і ў славу зямлі, ім дарованай. Гасподзь заўсёды з тымі, хто любоўю сваёй верна служыць айчыне і святой веры. Свабодныя духам продкі нашы на ўсе пагрозы адказвалі: «Ніхто ў сусвеце не зможа парабаціць нас, пакуль не выйдуць з карыстання мячы і стрэлы!» Добрыя хрысціяне сёння дададуць: «Ніхто не зможа парабаціць свабодны дух наш, пакуль ляжыць на нас благаслаўленне господняе!» Няхай жа вечна будзе благаслаўленне господняе зямлі полацкай і яе вольнаму люду. Амін.

— Хвала табе, божа наш, хвала! — адгукнулася грамада словамі малітвы.

Біскуп Козма падняў крыж, і ўсе, хто сабраўся на веча, адказваючы згодай прыняць яго ўладу над сабой, укленчылі перад крыжам, перад Святой Сафіей, прастол якой павінен быў Козма заняць згодна грамаце мітрапаліта кіеўскага і іх вечавага рашэння.

Абудзіўся, заспяваў вялікі Сафійскі звон, адазваліся яму званы на ўсіх званіцах Полацка да самага Сяльца, да сцен манастырскіх, і звонка-ўрачыстыя іх перамовы напоўнілі горад святочным узрушэннем. Не было нікога, хто б хаваўся ад яго ў жытле сваім, хто б не імкнуўся да дзядзінца і Святой Сафіі — званы ўслаўлялі новага біскупа і славу стольнага горада, які прыняў яго і яго ўладу. Надзеяй поўнілася кожнае сэрца, і хоць, як заўжды ў падобныя дні, перадушыцца, цiснучыся да сабора, дзе біскуп будзе правіць першую сваю службу, нямала люду, стрымліваць людскі паток ніхто не стаў: марная справа.

Гулі, спявалі званы. Гула, вірыла запоўненая гараджанамі плошча. Услухвалася, коцячы свае спакойныя, цёмныя воды, у гэты гул Дзвіна. Услухвалася ў яго ігуменя Ефрасіння — каля сваіх ног бачыла яна натоўп палачан, на яе, святую, былі скіраваны сотні, тысячы ўзрушаных позіркаў, поўных пакоры і любові. Разуме-

ла, што гэта ўяўленне гордасць, гордую сілу яе цешыць, а радасць у сэрцы змагчы не магла: выскоквала сэрца з грудзей на кожны ўдар вечавага звана на званіцы Сафіі. «Так будзе! Так будзе! Не сёння заўтра будзе!» — чулася ёй у святочным спеве меднагалосых званоў Полацка, і не магла яна змагчы радасці ў сэрцы.

«Люд часцей за ўсё слабы і легкадумны, яму патрэбна дапамога вялікай душы і ў дні важных і рашучых дзеянняў, і ў дні мнагатрудных будняў,— каторы раз паўтарыла ў думках Ефрасіння.— Вялікай душы і праведнай... Клятву дала я табе, божа, што, пакуль жывая, буду дбаць пра славу Полацка, буду звяртацца з тым да людзей. І няхай самы нікчэмны з іх асудзіць мяне, калі з прычыны страху майго ў рашучы дзень камяні гэтай плошчы перастануць гучаць пад нагамі, пад крокамі маімі, калі марна будуць шукаць у рашучы час мяне на гэтым амбоне позіркі гараджан, калі ў глухую поўнач згасне лампада ў маёй келлі і святло яе не будзе больш знакам таго, што я, Ефрасіння, працую, думаю пра люд і яго карысць, пра людскія душы і ачышчэнне іх. Клятву дала я табе, божа. Няхай будзе так».

Гудуць, спяваюць званы. Гудзе, вірыць запоўненая гараджанамі плошча. Услухваецца ў гэты гул Ефрасіння, а чуе ў ім услаўленне сваё, быццам гучназвонкія воклічы вітання і радасці сустракаюць і праводзяць яе паўсюдна, быццам толькі калі яна гаворыць да іх, маўчаць усе, а як змаўкае, усе мовіць свае слова хочуць, каб уславіць, каб узняць яе, святую горада Полацка, святую зямлі гэтай — і ўслаўляюць, і гавораць... Усвядоміўшы свае думкі, на момант злякнулася яна, перахрысцілася, вочы падняўшы, але толькі на момант. Бо ўжо ў наступны момант думкі вярнуліся і не здаліся Ефрасінні, як раней, гэткімі ўжо грахоўнымі.

— Вось і кажу. Усё ад таго, што кожан, трасца на яго, у першых хадзіць жадае, у першых, і ўсё тут.

А дзе ж набрацца на кожнага медалёў гэных ды ззяння люстраў? Дзе? Вось і кажу.

Глеб азірнуўся. Гаманілі двое: дзядок (гэта яго словы дайшлі да слыху) у цёплай не па сезону заечай шапцы і сіняй паралонавай куртцы, з-пад каўняра якой быў відаць няроўны край вязанага кімсьці з хатніх світэра, і маладая жанчына ў вохрыстым плашчыку з нагалоўнікам, у акаймоўцы якога ззяў рашучы, валявы твар — рашучасць яго падкрэслівалі густыя, зведзеныя над пераноссем бровы і вочы... Вочы былі чыстага стальнога колеру, праз які зрэдчас праступалі, каб тут жа згаснуць, халодныя мігатлівыя святлінкі. «З эмансіпіраваных!» — падказала Глебу думка, і ён не адмахнуўся ад яе, як рабіў звычайна, а паспрабаваў зразумець, чаму заўсёды ў падобных выпадках адчуваў прыкрасць. Прыкрасць за сябе. І за жанчыну. Чаму — прыкрасць? Адкуль? Ён жа і пісаў — хацеў напісаць! — пра Ефрасінню Полацкую, а эмансіпаткам далё-ё-ёка да гэтай няўрымслівай манахіні.

Ён яшчэ раз азірнуўся на жанчыну ў плашчыку і стаў прыслухвацца да размовы. У аўтобусе было нятлумна: бубніў штосьці сабе пад нос, відаць, добра выпіўшы перад тым, мужчына ў кутку на заднім сядзенні ды гэтыя двое ў яго за спіной нягучна гаманілі.

— Пра медалі гэта я так брахануў, можаш не зважаць. Да медалёў, як разумею, вам абаім яшчэ далёка.

— Ну, пра што ты такое кажаш, дзеда? Справа ж не ў тым...

— Як гэта не ў тым? Кожан верх хоча ўзяць, а як ёсць верх, дак і ніз нікуды не дзенеш: некаму ўнізе хадзіць трэба, у большай пакоры. Як зямля стаіць, скрозь жанчына ў крыўду гэта не брала і скаралася, а сягоння, няўрокам кажучы... Мо хіба сарвалася са свайго шляху зямля, што ўсё гэтак перамяшалася.

— Я і не ведала, дзеда, што ты ў мяне дамастроевец.

— Дамас... Хто, хто? Ты глядзі, трасца на яго, не згадаю, што ты мая ўнучка...— засоп пакрыўджана той.— Навывучвалі слоў! А хто дом дагледзіць? Хто дзяцей раджаць будзе, га? Ты вось скажы, калі дужа вучоная, адкуль дзеці возьмуцца, як вы ўсе ў навуку паскачаце, спадніцы паскідаўшы і ў штаны мужчынскія ўлезшы? Мо ў гэных... мо ў прабірках вырошчваць будзеце?

— Дзеда!

— Што — дзеда? Што — дзеда, трасца на яго? Я гэтаксама газеты чытаю. І вось што табе скажу: ад гумавых сэрцаў да гумавых людзей — колькі кароткіх крокаў усяго, а мо і адзін крок.

— Ды адкуль ты ўзяў пра гумавыя сэрцы? — засердзілася жанчына.

— Не гумавыя, дак пластмасавыя — адзін хрэн за другі не саладзейшы. Есць жа. Робяць жа. Вось і кажу. І ты не пырхай на дзеда, ты не на словы, ты ў корань глядзі. Там, у корані, усё правільна. І трывожуся я, ведаю чаго. Перш сэрца — гумавае яно ці якое, з сэрца пачынаецца, а потым ужо гні гэтага чалавека куды хочаш. Хоць улева, хоць управа. І ні дом яму не патрэбны, ні дзеці. Адно б люстру над галавой не патушылі.

— Якую люстру? — стомлена, быццам пагадзіўшыся ўсё выслухаць, усё даслухаць да канца, азвалася жанчына.

— Да гэную, што для пераможцаў запальваюць. Каб ззяла, няйначай німб у колішніх святых, цьфу, прасці госпадзі.

Жанчына ледзь заглынула гатовы пырснуць смех, і стары, відаць, адчуў, заўважыў:

— Смейся, смейся над родным дзедам. Толькі смех, трасца на яго, праўды не перакрые. Калі гэта было, што здаровы на галаву чалавек пішчом лез пакрасавацца перад іншымі і рукамі сваімі спрацаванымі хваліў-

ся? Га? Калі гэта было гэткае, ты мне скажы? А тут як ні ўключыш гэны тэлявізар, дак то даярка не бідонамі з малаком, а медалямі вызвоньвае, то токар, замест жалезак, словы пустыя абточвае. Навывучалі слоў! Во каб яшчэ можна было іх заместа булёну хлёбаць ды на плечы заместа апраткі ўсцягнуць, то ўсіх, трасца на яго, адразу пераплюнулі б. Гэта ўжо як піць даць. А на справе: то на плячах, то на с... дзіркі латаем. Хоць і наш калгас узяць.

— Дзеда, на нас людзі азіраюцца,— заўважыла Глебаў міжвольны рух жанчына.— А то дома не нагаварыўся?

— Дома... Надта вы мяне слухаеце дома! — забурчаў, прыцішыўшы голас, той.— Толькі і чуеш: «Ты б адпачыў, дзед! Ты б заснуў...» Засну. Высплюся яшчэ ў сырой зямельцы. Хацелася б, перш чым косткі мае старыя заграбуць пяском, што якое зразумець наперад. Як не ўбачыць, дак хоць зразумець, куды, у які кут вы жыццё жывое загоніце, што над сабой і зямлёй учыніце.

— Ну, чаму ж у кут? Навука б'ецца над тым, каб палепшыць жыццё, аблегчыць яго.

— Во, во! Я ж і кажу. Аблегчыць, каб яно, жыццё, і не адчувалася зусім. А як не адчуваецца, што ж тады шкадаваць? Само сабою тое на тое выйдзе — лёгкае, яно лёгка і выпетрае. Гахне дзе-небудзь трохі грамчэй — і ўзляціць усё ў паветра разам з вашай навукай.

— Ты што, супраць навукі, дзеда?

— Вось так цёнгле: так або не. Як не за, дак супраць... Я ж хачу, каб вы, трасца на яго, разабраліся. Я стары, ужо не разбяруся, а вы разбярыцеся. На тое вас і вучылі нашы мазалі.

Дзядок змоўк. Ці пакрыўдзіўся, ці мо змогся, растрэсены трохі аўтобуснай яздой. І Глеб пачуў, як з палёгкай уздыхнула жанчына. Ён і сам адчуў на нейкі момант палёгку. Мо таму, што прагучала ў словах старога штосьці балючае, штосьці трывожнае, віну за якое трэ-

ба было браць на сябе і яму, Глебу, хоць нібыта не да яго звернуты тыя словы і пачуў ён іх, можна сказаць, выпадкова.

Ён яшчэ раз азірнуўся, натыкнуўся на халодны позірк жанчыны і міжволі перасмыкнуў плячмі: позірк той яго адштурхваў, адгароджваў ад толькі што пачутага.

«Бач, калючка!» — нават зазлаваў ён у душы, хоць тут жа, праз імгненне-другое забыўся і на жанчыну, і на яе калючы позірк. Думаў пра свет, растрывожаны, няйначай, як вулей, пагрозай знішчэння ці самазнішчэння, пра тое, што часта не можа расчуць у гэтым трывожным гуле і свайго голасу, не тое каб да кожнага прыслухацца, кожнага зразумець. Вось і страчвае разуменне, парываючы нябачныя, неабходныя сувязі з людзьмі і светам. Вось і не адпускае, змушае зноў і зноў перабіраць дзедавы словы, прымерваючы да сябе, да свайго, віна, падсвядома адчутая ім за словамі старога віна — не яе, гэтай жанчыны, віна, а яго, Глебава. «Як ёсць верх, дык і ніз нікуды не дзенеш... Перш сэрца, гумавае ці якое,— з сэрца пачынаецца... Замест жалезак словы пустыя абточвае... Каб яшчэ можна было словы заместа булёну хлёбаць... Разбярыцеся... На тое вас і вучылі нашы мазалі...»

Балючы, трывожны дзедаў неспакой выплеснуўся і аціх (стары ўжо драмаў, ссунуўшы на вочы сваю заечую шапку), дакладней, не аціх, а быццам перадаўся Глебу, вярэдзіў таму душу, не даваў супакоіцца. Мама, дзядзька Аўдзей, Карпач, вось гэты дзядок незнаёмы аднекуль далей, з Запярыння, а мо і з Вомельна (аўтобус ішоў адтуль) — яны належалі гэтай зямлі, і зямля гэта належала ім. Повязь была моцная, непарыўная. Спрадвечная. Мо таму якаясь вельмі важная, жыццёва неабходная праўда была ў іх, у іх жыцці. Праўда, якую Глеб толькі адчуваў і назваць, вызначыць не мог. І няхай гэта была не ўся праўда — штосьці ж і яны ўзялі, дзеці і

ўнукі іх, няхай што якое (як дзедавы «гумавыя сэрцы») выглядала сягоння наіўным, усё ж нічога больш, ні грана гэтай зямной, ад зямлі, праўды страціць было нельга: страчана было ўжо і так зашмат. Страчана і страчвалася.

Дабрата, пяшчота, чалавечнасць, чалавечая індывідуальнасць... Неяк непрыкметна перамагала думка, быццам асобны чалавек у аграмадным свеце — нішто і можа дзеля агульнай карысці нішчыць прыроду, дзеля агульнай мэты растаптаць яго душу. Агульная карысць! Дзе яна? Якая? Хіба гэта не ўзаемазвязана: абяскроўліванне чалавекам прыроды, зямных нетраў — і яго духоўнае малакроўе?

Вось думалі, па сённяшні дзень думаем, што ў свеце няма вышэйшага розуму і мы ў гэтым свеце — жорстка падманутыя... Мо яно і так. Усемагутная будзённасць, усемагутны час прыгнечваюць нас, адрываючы, адасабляючы ад духоўных каранёў — і душа робіцца бяскрылаю, вялаю, губляе смак да жыцця, не ў сілах змагчы інерцыю, выслабаніцца з яе путаў. Ужо і апраўданні знаходзім: навошта мучыцца тым, што не ведаеш, як жыць, калі ведаеш (навучаны!), як зарабіць на жыццё? Навошта дамагацца будучыні, калі невядома, якой яна будзе і як здолеем мы яе ажыццявіць? Мінулае і будучае пранізваюць, паглынаюць адно аднаго, перамешваюцца, зрастаюцца — і няма ў гэтым руху, хаатычным і ніколі не падуладным, спакою: кожны куточак свету поўны канфліктаў, перанасычаны пакутай, зараджаны невыносным напружаннем. І мы... Мы задоўга верылі, што дабро заўсёды спараджае дабро...

Глеб прыгадваў выцвілыя вочы старога, які пад бразгат і парыпванне аўтобуса драмаў ззаду, у яго за спіной, думаў пра яго словы і пра свой прыезд дадому і адчуваў бяссіласць перад гэтымі думкамі, перад тым, што павінен быў рабіць і зрабіць, каб быць вартым іх шчымлівай, балючай праўды: ён жа амаль нічога —

калі быць шчырым: нічога! — на гэтай зямлі не зрабіў. Колькі дзесяткаў малюнкаў у папцы, пасля вучобы на сцэнарных курсах — два несамастойныя сцэнарыі і задума, вартая гістарычнага сюжэта... Мазалёў, як кажуць, з гэтага не нажывеш. Не нажыў. Што праўда, то праўда. Лёгка жыў, лёгка дыхаў. Мо таму, што маці ўсе гэтыя гады не разгіналася, што дзядок вось гэты за ўсіх і за яго, Глеба, непакоіўся, хацеў як не ўбачыць, дык зразумець, куды ідзе, куды зверне шлях, на ўзбочы якога ён застанецца.

Думкі адступалі і вярталіся, словы цішэлі і зноў будзілі ў ім трывогу, трывожнае чаканне нейкіх новых, невядомых слоў — і ціха наматвалася на думкі шаша, пагойдваючы перад павернутым да акна позіркам зялёныя вербы, шэра-зялёныя балацінкі, блакітна-шэрае палатно нябёсаў.

## XII

— Доктар гісторыі Суляціч? Добры дзень. З вамі гаворыць карэспандэнт Беларускага радыё Якаў Шпак. Вы, Барыс Іванавіч, далі згоду паразважаць пра сувязь часоў, эпох і пра нашу адказнасць за помнікі культуры, за культуру перад будучыняй. Я правільна фармулюю? Дзякуй. Сустрэцца з вамі і зрабіць запіс гаворкі даручана мне. Хацелася б сустрэцца ўжо сягоння, бо перадача — у плане наступнага тыдня. Як ад'язджаеце? Калі? Але ж ёсць яшчэ цэлыя дзве гадзіны! Перадача ў плане... Дзякуй. Праз пятнаццаць хвілін я буду ў вас. Другі паверх направа? Дзякуй, Барыс Іванавіч.

Якаў шумна, з палёгкай уздыхнуў, адсунуў апарат і ўтаропіўся ў чыстую старонку блакнота, дзе за колькі дзён не з'явілася ніводнага радка, ніводнага вартага чаго-небудзь пытання: усё думаў, што адаб'ецца ад задання, спіхне яго на каго іншага. Не адбіўся. Не спіх-

нуў. Гэты раз нічога не выйшла. Не тлумачыць жа было начальству, што Суляціч — былы муж яго цяперашняй каханкі што хоць яны і ведаць не ведалі адзін аднаго (Якаў усё зрабіў, каб іх сцежкі нідзе ніяк не сутыкнуліся), а ўсё ж было ў іх сустрэчы і гаворцы зараз штосьці недарэчнае. Непрыстойнае нават.

Можна было, канечне, плюнуць на ўсе гэтыя сумненні («Рассіропіўся, брат!»), тым больш што не так ужо яны, сумненні, і грызлі: адно, што зрэдку непрыемна-колкія мурашы варушыліся дзесьці на спіне... Ну, ды гэта дробязь. У нечым было нават цікава сустрэцца, зірнуць: гэты Суляціч нічога не ведаў пра яго, Якаў быў перакананы, і таму выйгрыш перад былым, законным, быў у яго, незаконнага. На ўсё астатняе можна было не зважаць. Прыстойна, не прыстойна... Хто сёння думаў пра падобныя рэчы? А і думаў! Для Якава жыццё было жыццём, работа — работай. Ён іх ніколі не змешваў. Мо таму, што работа не стала жыццём, нават часткай яго. Мо таму, што жыццё, якое ён упадабаў і з якім паспеў звыкнуцца, патрабавала значна большых сродкаў, чым магла забяспечыць яго прафесія рэпарцёра, нават калі б ён бегаў, як іншыя, вываліўшы язык на плячо з рэдакцыі ў рэдакцыю, ад стала да стала. Вось ён і не бегаў. Не лез туды, куды яго не прасілі, не ставіў пытанні там, дзе можна было абысціся без іх. Наогул, пераважна нічога не рабіў. Націскалі — здаваў свой мінімум, не націскалі — на іншых выязджаў: аднаго ў кафэ на абед запросіць, другога — другую! — цукеркамі пачастуе, трэцяга пахваліць пры начальстве... І яго — любілі. Так, так, без перабольшання — яго любілі супрацоўнікі. Як жа, душа калектыву. Гэткая пяшчотна-нахабная душа!

Вы ўсміхаецеся? Якаў ніколі не ўсміхаўся, калі гэтага не вымагала справа. А ў дадзеным выпадку — не вымагала. Трэба было запісаць за сабой машыну, знайсці Пятровіча, шафёра, папярэдзіць яго, што праз

дзесяць хвілін яны павінны былі быць у Акадэміі і, перш чым спусціцца да машыны, забегчы ў студыю запісу, да Зіначкі, каб праверыць старэнькі, ненадзейны «рэпарцёр». Мажліва, пайшло на гэта часу трохі больш, чым ён разлічваў, але праз дваццаць хвілін ён ужо ўзбягаў на лесвіцы на другі паверх, а яшчэ праз хвіліну адчыняў дзверы ў кабінет доктара гістарычных навук Б. І. Суляціча.

— Вы дазволіце?

— Заходзьце,— не павярнуўся да дзвярэй Барыс.— Я зараз... Адну мінутку... Прысаджвайцеся.

Якаў агледзеўся. Кабінет быў невялікі. Прысесці можна было толькі непадалёку ад стала на адно з трох крэслаў у пакоі, што ён і зрабіў, позірку асабліва не было за што зачапіцца, апроч прысутных, і ён стаў пазіраць на іх. Слізгануў позіркам па расплывістым, бясколерным твары дамы, якая чакала, пакуль Барыс падпіша паперы, утаропіўся ў доктара. Адзначыў, што той яшчэ нішто сабе, хоць і пачаў лысець, а касцюм яго быў з катэгорыі яўна не прэстыжнай — так, дабротны, стандартны касцюм, што азначала толькі адно: сувязі яго на людзей, вартых Клаўдзіі Віктараўны, не распаўсюджваліся. І ў гэтым, і ва ўсім астатнім — звычайны, першай выпечкі інтэлігент. Звычайны! — такім, як ён, не належаць вогненна-рыжыя красуні з асіным станам...

Агляд супакоіў Якава: былы законны быў нішто сабе, але побач з ім яўна прайграваў.

— Дзякуй, Соф'я Данілаўна,— падаў паперы жанчыне Суляціч і, правёўшы яе позіркам, павярнуўся да Якава: — Я слухаю вас.

— Прабачце, але гэта я прыехаў выслухаць і запісаць вас. Я з радыё. Званіў вам папярэдне,— падсеў той бліжэй да стала і, каб не пазіраць Барысу ў вочы, заняўся «рэпарцёрам».

— Баюся, што мала часу... У вас ёсць пытанні?

— Пытанне адно: у чым канкрэтна выяўляецца сувязь розных часоў, розных эпох?
— У чым? У пераемнасці, відаць.
— Падрабязней, калі ласка,— уключыў Якаў магнітафон і падняў вочы да ўзроўню стала, на якім доўгія хуткія пальцы субяседніка пакручвалі чорную венгерскую ручку.
— Сучаснасць — шырокае паняцце. Часам людзям здаецца, што яны ведаюць пра яе ўсё, бо належаць ёй, як яна належыць ім, часам жа яны адчуваюць, што паняцця гэтага ўвогуле не існуе, не можа існаваць, і падобнае адчуванне называюць адчуваннем гісторыі. Сённяшні будзень убірае ў сябе цэлыя напластаванні вякоў, і мы ў значна большай ступені, чым уяўляем, залежым ад памяці роду, народа. Калі б наша фантазія і наша праца пераўтваралі толькі тое, што назапашана пасля нашага нараджэння, няшмат мы змаглі б за сваё кароткае жыццё. Народ стварае сябе, ствараючы гісторыю. Чалавек стварае сябе, сцвярджаючы сваю прыналежнасць да народа.
— Вы лічыце, што сваю прыналежнасць да народа трэба сцвярджаць? — выкарыстаў Якаў кароткую паўзу ў развагах гісторыка і, відаць, не здолеў схаваць у голасе недаверлівай, іранічнай ноткі, бо той ускінуўся, уважліва зірнуў на яго і працягваў з большай цвёрдасцю, быццам тое, што адчуў у карэспандэнце апанента, дадало яму сілы і рашучасці.
— Безумоўна! І думаць іначай — азначае: памыляцца, Якаў...
— Якаў Януаравіч,— падказаў той.
— Так, так, гэта азначае, памыляцца, Якаў Януаравіч. Нацыянальная культура... Карані яе... Абавязак чалавека ў кожным з часоў... Можна было б вывесці і агульныя палажэнні, агульныя — для ўсіх. І ўсё ж, кожны чалавек — сам па сабе, сам у сабе вызначае межы разумення і адказнасці. Межы, якія адзіна і вызна-

юць яго прыналежнасць — ці да народа, ці, прабачце, да віду, да homo sapiens. Мы звыкла пра ўсіх разам, агулам, гаворым: народ, сынам жа народа час называе далёка не кожнага, далёка не кожнага з лепшых.

— Заўсёды існуе і штосьці сярэднеарыфметычнае,— на міг забыўся на магнітафон Якаў.— Існуе. Бо кожны, мне думаецца, і не можа стаць лепшым з лепшых — сынам, як вы кажаце.

— Можа. Можа, калі змусіць сябе расці — вырасці! Раней, не так ужо і далёка па часе, цяжкой, часта непасільнай працай аплачваўся кожны кавалак хлеба, кожная гадзіна сну, адпачынку — зараз мы з трывогай гаворым пра тое, што кавалак хлеба можна ўбачыць пад нагамі, а гадзіны адпачынку многія марнуюць за бутэлькай... Здавалася б, непадуладны ні сіле спрадвечнага эканамічнага прыняволення, ні сіле традыцый, чалавек павінен быў бы больш клапаціцца пра свой духоўны рост, больш высока ацэньваць духоўныя каштоўнасці: ад яго ж самога ва ўсё большай ступені пачынае залежаць яго лёс. Павінен быў бы... А гэтага чамусьці не здарылася. Чаму? Адказ можна і трэба шукаць не толькі ў сённяшняй рэчаіснасці, а і ў гістарычнай.

— Канечне,— спрабаваў зразумець ён штосьці на твары Якава,— ні адна эпоха не змагла адмяніць, раструшчыць у чалавеку чалавечнасць, прагу дабра, сорам, які часцей называюць сумленнем, захапленне прыгожым... Не змагла, хоць і ўзносіла, падымала часам і супрацьлеглае. Ды і ўзносіла, падымала не эпоха, а людзі, якія мелі сілу, вагу ў тую або іншую эпоху. Людзі...

Ён на момант задумаўся, пільна, быццам і не пазіраў на яго толькі што, зірнуў на Якава, які сядзеў, свабодна адкінуўшыся на спінку крэсла, і, каб не паказаць сваёй нецярплівасці, занадта ўважліва разглядваў якуюсьці плямінку на сцяне насупраць, потым цішэй, спакайней працягваў:

— Вось сёння шмат гаворыцца, што мы апынуліся перад праблемай выбару новых вартасных жыццёвых арыенціраў, новых каштоўнасцей... А можа, трэба шукаць не новыя каштоўнасці, трэба шукаць адказ на пытанне: што, якія каштоўнасці ўзносіць, падымае новы, наш час і за кошт чаго? Магчыма, гэтае «за кошт чаго?» — галоўнае. Бо часам ламаецца, трушчыцца ў чалавеку ўнутраны свет яго, духоўны свет яго, не сам па сабе — прычына, кошт заўсёды ёсць. Ці суадносіцца тое, што страчваецца, з тым, што набываецца? — вось пытанне, вось праблема для даследавання.

— Для даследавання гісторыка? — не стрымаўся і паспрабаваў скіраваць гаворку да гісторыі Якаў.

— І гісторыка. Гісторыя, Якаў Януаравіч,— не заўважаў яго незадаволенасці вучоны,— навука пра чалавека. Любое жыццё ўзяць, любога чалавека: яго сталенне — кошт гэтага сталення, станаўлення і ёсць, на маю думку, самая вызначальная прыкмета часу. Любога часу. І ўрокі гісторыі — заўсёды дарэчы, калі б мы ні схацелі прыгадаць іх. Шкада, што прыгадваем рэдка і памылкі паўтараюцца. Пераемнасць, пра якую я казаў, адказваючы на ваша пытанне, ажыццяўляецца не сама сабой, не механічна, лепшае з таго, што знойдзена, сцверджана папярэднікамі, не прышчэпіш новаму пакаленню, нават калі б гэта было магчымым: і лепшае і не лепшае перадаецца ад аднаго да другога, як кажуць, толькі з рук у рукі, толькі праз жывы, цёплы дотык рукі. І душы. І як няма такога жывога дотыку, такога прамога судакранання, сувязь паміж людзьмі (нават самымі блізкімі), як і паміж пакаленнямі, перарываецца. Можа перарвацца. І вопыт папярэднікаў не становіцца — не стане! — неабходным для новых і новых людзей. Гэта тычыцца і маральна-этычных норм і якасцей.

— Яны што, на вашу думку, у нечым парушаны?

— Сувязі? Сувязі між мінулым і намі? — не заўважыў Барыс памкнення свайго субяседніка запярэчыць

(той пра маральна-этычныя нормы пытаўся, а не пра сувязі).— Баюся, што ў пэўнай ступені парушаны. Да самага апошняга часу глыбей аднаго-двух стагоддзяў ні даследчыкі, ні мастакі не капалі, ды і гэтыя спробы былі ледзь не адзінкавыя. І гэта — сумнае сведчанне таго, што мы доўгі час свядома ўнікалі гістарычнага вопыту народа, багатых набыткаў яго культуры,—гісторыя ж краю вымяраецца не адным-двума стагоддзямі, на якія мы звыкла абапіраемся, а тысячагоддзем, калі не тысячагоддзямі. У славянства, у славянскіх плямёнаў — адны карані, і мы можам па праву ганарыцца тым, што такія магутныя, жыццястойкія парасткі прайшлі праз нашу глебу, што мужны, горды род наш, не вымерлы ў ліхалецці, не вынішчаны войнамі, не здратаваны нягодамі, сёння носіць імя беларускага народа. Не ўведаць, не ўразумець, які шлях ім пройдзены, колькі дзён, колькі гадоў на гэтым шляху заліта крывёй сыноў і дачок яго, колькі залатых зярнят (талентаў!) загінула пад коламі часу, бязлітаснага да прыгнечаных,— гэта не ўведаць, не ўразумець свайго прызначэння на зямлі.

Якаў не змог бы растлумачыць, чаму раздражняла яго тое, што казаў вучоны (для запланаванай перадачы ўсё было якраз дарэчы!),— хутчэй нават раздражняла не тое, што казаў, а — як казаў: палка, рашуча — з рашучасцю і пераканаўчасцю, не меншымі, чым у самога святога архангела, будзь ён у сапраўднасці і пажадай запісацца на радыё. Ды і тое, што ён — не толькі доктар навук, патрэбны для перадачы, а і былы Верын муж (гэта думка не адпускала Якава ні на хвіліну), не магло не падсвечваць усю гэту гаворку.

Стрымлівацца было ўсё цяжэй, не адным намаганнем волі змушаў і змусіў сябе Якаў маўчаць. І ўсміхацца. Ледзь прыкметна ўсміхацца ў гэты ўзрушаны, асветлены ўнутраным святлом і прыгожы зараз твар, хоць ён не падзяляў не толькі ўзрушэнне вучонага, але і яго

думкі. Пераемнасць... духоўны свет... прызначэнне на зямлі... Якаў ніколькі не саромеўся, што для яго, як і для большасці людзей, словы гэтыя былі толькі словамі. Звыклымі. Правільнымі. Нежывымі. Словамі! — безадносна да таго, што яны называлі. Яму і ў галаву не прыйшло б іх адвяргаць і адвергнуць (выхаванне, як кажуць, не тое), але і вышукваць у іх ці за імі якіясь каштоўнасці, неабходныя яму і грамадству, Якаў не стаў бы. Ён, будучы журналістам, чуў іх дзесяткі раз, дзесяткі раз сам карыстаўся імі, але словы і былі для яго словамі і да яго, Якава, мелі толькі ўскоснае — цераз яго прафесію — дачыненне. А каб гэткія, як у таго, хто сядзеў перад ім, радасць і пакута ў словах і за словамі...

— Хіба не важней сягоння канкрэтнай справай мацаваць нашы заваёвы, нашы дасягненні? — не надта выбіраў Якаў пытанне, заўважыўшы, што гісторык змоўк і чакае яго слова, і пытанне, відаць, прагучала неўпапад, бо густыя шырокія бровы таго ўзляцелі над здзіўленым паглядам перш, чым ён адказаў.

— Мы гаварылі пра гістарычную сувязь...

— Прабачце, гэта апошняе пытанне,— не пажадаў адступіць Якаў: касета круцілася ўжо ўхаластую, а таго, што тут нагаварыў доктар, хапіла б за вочы... Начальства, можна сказаць, улагоджана, што якое павінна было перапасці і яму, Якаву.

— Што ж, калі ласка. Пяць-сем мінут у нас яшчэ ёсць,— зверыўся той з гадзіннікам і нібыта згас раптам, адключыўся і ад сваіх думак і ад Якава з ягоным «рэпарцёрам»: немалады, стомлены чалавек, якому надакучылі і размова і субяседнік, сядзеў за сталом.— Канкрэтнай справай, кажаце? Канечне. Толькі канкрэтная справа ў кожнага свая і не абавязкова, як і ў нас з вамі, звязана з матэрыяльнай вытворчасцю. І гэта трэба ўлічваць. Ёсць рэчы, якія нельга матэрыялізаваць.

— Да прыкладу? — усміхнуўся Якаў.

— Да прыкладу, сумненні,— не ўсміхнуўся вучоны.— Сумненні ў сабе — у тым, ці так і ці тое робіш. Сумненні ў сабе і іншых — у тым, ці так усе мы жывём, ці заўсёды ўсведамляем, якія вартасці сапраўдныя, а якія падманныя, што маральна, а што амаральна. Іх нельга матэрыялізаваць, і ўсё ж часта якраз сумненні рухаюць прагрэс. Так што, Якаў Януаравіч, заўсёды павінен быць той, хто сумняваецца і шукае адказ. У сённяшнім дні ці ў далёкім мінулым.

— Вы адносіце сябе да тых, хто сумняваецца і шукае адказ? — усміхнуўся Якаў.

— Хацеў бы,— зноў не адказаў на яго ўсмешку той.— Гэта не менш канкрэтная справа, чым служыць росту свайго і агульнага дабрабыту. Так, не менш.

— Не баіцеся, што радыёслухачы вас не падтрымаюць?

— Не баюся. Магнітафонная плёнка даўно скончылася, а новую касету вы, Якаў Януаравіч, не заправілі,— падняўся Барыс і суха падаў карэспандэнту руку.— Мне пара. У мяне больш ні хвіліны часу.

Паціскаючы пададзеную руку, Якаў адчуў, што чырванее: недаацаніў доктара і сам у дурнях апынуўся («Рассіропіўся!»), а мог лёгка апынуцца і за дзвярмі.

— Прабачце... Я ўдзячны...— мармытнуў ён амаль злосна (быў злосны на сябе!) і, прыхапіўшы выключаны магнітафон, рушыў з кабінета.— Удалай паездкі вам!

Той, заняты ліхаманкавымі зборамі і тэлефонам, які зазваніў, не адказаў, кіўнуў у напрамку дзвярэй, бы паспеў ужо выкінуць з галавы і гэты візіт, і злёгку сканфужанага візіцёра, і Якаў змушаны быў яшчэ раз усміхнуцца — цяпер ужо самому сабе. Усміхнуўся («Знаёмства адбылося!»), прыкрыў дзверы і лёгкімі спружыністымі крокамі пайшоў доўгім калідорам да лесвіцы. Работу ён зрабіў, а тое, што не здолеў пасмяяцца... Пасмяяцца, урэшце, можна было з каго заўгодна.

На горшы выпадак, з самога сябе. Ды гэта — на горшы выпадак, не на гэты.

Хада супакоіла яго, і на вуліцу ў ясны сонечны поўдзень ён выбег гэткі ж бадзёры і ўпэўнены ў сабе, як і да гэтай сустрэчы. Як заўсёды.

## XIII

Дзяжурыў на студыі Слава Капчык, і зноў, як мінулы раз, усё засталося непрыбраным. Ледзь адвярнуўся Глеб, каб вызваліць для новых работ паліцу ў шкапе, як таго і след прастыў. Нават крэслы не саставіў да сцяны, не кажучы пра венік і швабру. «Дзіця сваіх бацькоў!» Да бацькі Глебу, пэўна ж, было не дабрацца, хоць Славу прывозіла і адвозіла дадому пасля заняткаў яго службовая машына, а вось Клаўдзіі Віктараўне пазваніць давядзецца: машына машынай, а дысцыпліна дысцыплінай.

Глеб, перш чым скласці ў папку, перабіраў завершаныя сёння ў групе кампазіцыі. Не ацэньваў — прыглядваўся, вызначаючы ў думках не столькі меру здольнасцей, колькі характары сваіх выхаванцаў. Гэта былі самыя прыемныя хвіліны ў яго рабоце пасля трох-чатырох гадзін напружаных, даволі тлумных заняткаў: дзіцячыя расказы ў фарбах і яго, Глебавы, малюнкі, у якіх ён імкнуўся ўхапіць, перадаць самае істотнае ў кожным з дзяцей, захопленых творчасцю, ляжалі побач — іх можна было суаднесці, параўнаць, спалучыць у адзін вобраз, у адну ўяўленую карціну. Вынікі часта былі самыя нечаканыя, бо і там і там, на адным аркушы і на другім, няхай па-рознаму, з рознай доляй творчага чуцця ды і проста ўмення, было перададзена не столькі свядома бачнае, калісьці ці тут жа ўбачанае, але і нябачнае, падсвядомае, што толькі занатаванае на паперы набывала пэўную акрэсленасць — як не называ-

лася, то пазначалася. І знаходзіць, выяўляць гэтыя крупінкі нябачнага было цікава.

Вось хоць бы і Славу гэтага ўзяць (Глеб вярнуўся да яго кампазіцыі і паклаў побач з ёй два сваіх эцюды, накіды) — не ўсё так адразу можна было зразумець у гэтым рослым, вялым, спешчаным залішняй бацькоўскай любоўю хлопчыку. З аднаго боку, вяласць — вялыя, запаволеныя жэсты і пагардлівы, знізу ўверх, паварот галавы, з другога — дапытлівасць, з якой узіраецца ў павернуты ім угору дном свет горада, адлучанага ад прыроды (угору дном — абсалютна дакладна, бо кампазіцыя пабудавана ў люстраной перспектыве і разглядаць яе трэба зверху ўніз). Пры ўсёй яго парадаксальнасці гэта ўсё ж сведчыла за творчасць, і, значыцца, нельга было адступацца, нельга было не паспрабаваць вырваць хлопчыка, мякка, далікатна паслабляючы ўплыў на яго бацькоў і той раскошы, якой яго змалку акружылі.

Пераклаў, уладкоўваючы ў папцы, яшчэ колькі работ. Затрымаўся на кампазіцыі, адной з самых яркіх і, відаць, самых цікавых — «Арэна. Старонка цыркавога жыцця». Угледзеўся і зноў здзівіўся непасрэднасці, раскаванай, нязмушанай адкрытасці дзіцячага бачання і ўяўлення. Уся плошча аркуша ледзь умясціла паясны партрэт клоуна ў высокай двухгорбай шапцы са званочкамі на канцах, які так шырока раскінуў, бездапаможным, пакрыўджаным жэстам выгнуў назад рукі, што яны замыкалі, замкнулі ў гэтым руху ўсю арэну. Арэну-твар. Таму што нябачны круг арэны займаў размаляваны і нават пад фарбамі разгублены твар скамароха, па якім з-пад наклееных доўгіх веікаў цяклі, пакідаючы каляровыя баразёнкі, слёзы. Сапраўдныя слёзы — пад сапраўдны смех публікі ў амфітэатры, які — увесь цалкам! — знаходзіўся ўверсе, над яго галавой, над шапкай, у прагале паміж яе двума гарбаносымі канцамі са званочкамі... Уражанне было такім

моцным, што на момант Глебу здалося, што ён чуе і баязлівы звон званочкаў, і вясёлы, бязлітасны сваёй весялосцю смех публікі.

Адклаў аркуш, зірнуў на свае эцюды. Дванаццацігадовая дзяўчынка з пушыстымі, рассыпанымі па плячах валасамі, адкінуўшы галоўку, узіралася ў штосьці, бачнае ёй адной — недаверлівая ўсмешка замерла ў яе на твары, стаілася, гатовая вось-вось успырхнуць і знікнуць...

Адпіхнутая ў грудзі, яна балюча чмякнулася аб зямлю, заўважыла, як здзіўлена глянуў на яе бацька (трэба ж было зрабіць кувырок цераз галаву і распластацца перад гледачамі, бразнуўшы званочкамі), і канчаткова разгубілася. Усе вакол смяяліся, смех не даваў ёй падняцца на ногі і прадоўжыць прадстаўленне: здавалася, што смяяліся не над яе роляй, а над ёй, разгубленай і няўклюднай. З усяго натоўпу бачыла яна толькі трох княжых вояў, нават аднаго з траіх — русавалосага магута, які смяяўся грамчэй ад усіх, і менавіта яго смех не магла падняць яна з зямлі.

— Падымайся! — сіпеў бацька і кружыўся, падскокваў вакол яе, ажыўляючы смех публікі дрогкім, вывернутым у яе бок пальцам.— Падымайся, праграму трэба закончыць.

А Еўка — бо, канечне ж, гэта толькі снілася Ефрасінні! — як прыстыла для зямлі, першы раз засаромеўшыся таго, што ў дуркаватай двухгорбай шапцы са званочкамі вытанцоўвала, выгіналася перад натоўпам. Яна нават не зварухнулся на бацькаў шэпт, толькі на шчоках, пакрытых тоўстым слоем румянаў і бяліл, з'явіліся слязіны, потым размытыя імі дзве каляровыя баразёнкі. Бацька цягнуў яе за рукі — рукі бязвольна падалі на зямлю, спрабаваў падняць, ухапіўшы ззаду, пад пахі,— цела выслізгвала і не слухалася. Разгневаны (хоць публіка прымала ўсё за чыстую манету і

надрывала жываты), ён спыніўся перад Еўкай і злосным, цяжкім позіркам загадаў устаць. І, змалку пакорная гэтаму позірку, яна пачала падымацца, мазанула даланёй па твары, змяшаўшы слёзы і фарбы, паспрабавала падскочыць, падбрыкнуць перад ім і натоўпам. Скрывілася ад болю і, крутанутая бацькам раз і другі, пачула яго злоснае: «Прэч!» Перш — слова, потым — штуршок у плечы. Спатыкнулася, ледзь не ўпала і пад смех натоўпу кінулася да буды і — паўз яе, за яе — з пляца, да рачулкі, якая была крокаў за трыста...

Шчокі гарэлі. Яна пырскала на іх рачною вадою, студзіла мокрымі далонямі і апякала далоні (русавалосы вой смяяўся грамчэй ад усіх!): так, нарадзілася і вырасла яна ў будзе скамарохаў, пасля матчынай прастуды і смерці працягвала ездзіць і выступаць з бацькам, і не было ў іх іншага заробку, і ніколі раней не прыходзіла ёй у галаву, што было ў тым штосьці крыўднае, што так горка штодня размалёўваць фарбамі твар і запіхваць свае густыя прыгожыя валасы пад шапку з блазенскімі званочкамі. Пацяшаць людзей было значна лепш, чым іх забіваць, неаднойчы казаў бацька. Можа, яно і так. Можа, і лепш. Ды толькі не тут, не так, не на вачах у русавалосага, які не прапусціў ніводнага прадстаўлення і заўсёды смяяўся грамчэй ад усіх.

Шчокі гарэлі, слёзы цяклі па шчоках, і яна выцірала іх сваімі густымі валасамі, не хочучы нават пазіраць у той бок, дзе за два крокі ад берага рачулкі, да якога яна прыбегла, валялася ў траве кінутая ёю шапка. Скамарохі! Яны з бацькам былі простыя скамарохі, чыё кароткае жыццё так і пройдзе на шляхах паміж гарадамі і селішчамі, паміж небяспекай варожага нападу і княжымі гневам ці міласцю — заўсёды паміж. Думка гэта, аднойчы зачапіўшы яе, стала неадчэпнай. Невыноснай. Няйначай, як сёння. Калі рупіла кінуць, растаптаць нагамі разам з двухгорбай шапкай са

званочкамі і сваё жыццё — сваё юнацтва, над якім пацяшаўся прагны да відовішчаў люд. І той вой з княжай дружыны...

— Пырскаючы на твар жывою вадою, размаляваны хлопец ператвараецца ў красуню дзяўчыну?

Не павярнуўшыся на голас, спалохалася. Адступіла на крок. Яшчэ на крок. Да самай вады. Далей не было як. Хоць яна чула, як набліжаецца той, хто да яе звярнуўся — хто ўведаў яе таямніцу і звяртаўся да яе.

— Навошта ж палохацца? Зван толькі зазірне ў юны твар і пойдзе сваёю дарогаю.

Голас гучаў ужо зусім блізка, за спіной, і Еўка, ніколі раней не чуўшы гэтага голасу, ведала, што ён належыць таму русавалосаму вою, ад чыйго смеху яна збегла з плошчы сюды, да рачулкі. Ведала, і трымцела, і баялася павярнуць галаву, зірнуць яму ў вочы і патануць у цёмным позірку. А той незаўважным, спрытным рухам счапіў у пальцах яе рассыпаныя па спіне валасы, раз-другі крутануў, наматваючы іх на руку, і мякка, але настойліва схіляў яе да сябе, каб зазірнуць у твар. Яна памкнулася прыкрыцца далонямі (на шчоках жа, відаць, яшчэ не высахлі слёзы), але той другой рукой перахапіў іх — і цяпер уся яна была ў яго ўладзе. Позіркі іх сустрэліся і адначасова затрымцелі.

— О-о, ды ты і сапраўды красуня! — выдыхнуў Зван і павёў рукой з наматанымі на яе валасамі, каб яшчэ больш наблізіць дзявочы твар.— Ты хто?

— Я... Я не знаю...— пралапатала яна, хапаючы паветра ротам: вусны яе, мо таму, што адчувалі набліжэнне хлапечых вуснаў, дрыжалі і крывіліся — яна і сапраўды не згадала б зараз свайго імя.

Да гэта, напэўна, не так і цікавіла воя, бо ён, не перапытаўшы, не здзівіўшыся на яе адказ, прагна ўпіўся пацалункам у яе дрогкія вусны, так што яна захлынулася на імгненне, абмякла ў яго руках і тут жа ўспыхнула ўся, тут жа забылася на свае страхі і на ўсё на

свеце, сама прылала да хлопца, сама шукала вуснамі яго вуснаў.

— Прыходзь сюды, як сцёмніцца,— адматаў з рукі яе валасы Зван і засмяяўся.— Прыйдзеш?

— Я... Я не знаю...— пралапатала яна, сцінаючыся перад яго смехам.

— Прыйдзеш. Я знаю,— прыўзняў ён пальцамі яе падбародак і, смеючыся, яшчэ раз пацалаваў.— Як сцёмніцца. І — без гэтага...

Пальцы яго пстрыкнулі ў паветры, на міг грэбліва крануўшыся скамарошага касцюма, і, быццам падагнаны гэтым рухам, ён павярнуўся і імкліва пайшоў уздоўж берага.

— Еў-ка! — гукаў здалёк бацька.— Еў-ка!

Яна ж Ефрасіння, а не Еўка,— мільганула раптам думка, і яна спалохана адмахнулася ад яе. Хто б яна ні была, гэта, урэшце, толькі снілася: бераг Друці, горад, у якім трэці дзень стаяла на пастоі княжая дружына, буда скамарохаў у завулку, непадалёку ад плошчы... Гэта толькі снілася! Бо вось жа — толькі што смяяўся побач з ёй русавалосы вой, а і хвіліны не прайшло, як сцёмніўся дзень, згас, і ёй трэба было зманіць бацьку і сабе, адысціся і згінуць у цемры, адысціся і не чуць, не слухаць, як гукаў ён яе: «Еў-ка!»

Цемра шчытна абступіла яе, асляпіла — не на шум рачулкі, на водар яе халадку ішла яна, спатыкаючыся і заміраючы праз кожныя пяць-шэсць крокаў. Заміраючы, каб паслухаць цішыню і ў ёй, у цішыні, за гулкімі ўдарамі свайго сэрца і бязладным салаўіным пошчакам расчуць яшчэ што якое: шорхат травы, крокі, шэпт... Нічога больш не было чуваць. Шалёна грукацела сэрца, лена перагукаліся салаўі. З-за іх нельга было нічога ўчуць.

Чорным бліскучым крылом страпянула, страпянулася побач рачулка: волкае паветра перамешвалася з водарам аеру і ледзь чутным плёскатам вады. Прымоўк-

лі салаўі. Міг, другі, трэці... Кожны міг жыў чаканнем: вось-вось павінны былі распусціцца на вадзе, а потым і высока над ёй і над вечарам зоркі... Еўка ўздрыгвала ад холаду, які ішоў ад ракі і студзіў босыя ногі. А мо і не ад холаду (звыклая ж была!), а ад прадчування чагосьці таямнічага, аграмаднага, як гэтыя імгненні перад з'яўленнем зорак, як гэтая раптоўная — пасля нястрымнага гулу і грукату ўзрушанага сэрца — цішыня ў ёй. Вось і баялася зварухнуцца, зрабіць крок бліжэй да вады або адступіцца — толькі ціха ўздрыгвала ўсім целам, толькі ціхай тугой узіралася ў чорную ваду, бы ў чорнае люстра свайго лёсу. Чакала. Баялася кожнага наступнага імгнення і чакала яго. Міг, другі, трэці... Зацеплілася і ўспыхнула на вадзе іскарка першай зоркі, раскалоўшы, пакалоўшы на тонкія бліскучыя зморшчынкі яе паверхню. Справа, у кустах чаромхі, што даўно адцвіла, азваўся салавей, яму адказаў другі, трэці — і рассыпаўся гулкі срэбраны пошчак, і пасыпаліся зверху ў ваду адна за адной зоркі.

Гарачыя, нецярплівыя рукі Звана абхапілі яе плечы, спаўзлі ніжэй, прагна і пяшчотна лепячы яе грудзі, іх дрогкі спалох,— яна не пачула яго набліжэння, як зараз не чула яго шэпту, і, паспрабаваўшы выслізнуць з яго рук, апынулася яшчэ бліжэй. Так блізка, што адчувала, як трымціць жылка ў яго на шыі дзесьці ля самага яе лба, як магутна, паглынаючы яе дыханне, паглынаючы, здаецца, самое жыццё яе, б'ецца яго сэрца. Так блізка, што захлынулася гэтай блізкасцю і, каб вярнуць дыханне, вярнуць сабе сябе, сваё бязважкае раптам цела, павінна была, саромеючыся і прагнучы гэтага адчування, адчуць, кожнай дрогкай тканкай сваёй адчуць бессаромную пяшчоту мужчынскіх рук, неадольна гарачую прагу іх сілы, іх волі. Скараючыся гэтай сіле і нічколькі не ўяўляючы, як адкажа яе цела на пытанні яго рук і вуснаў, скараючыся гэтай волі і не падазраючы, якую няведамую раней асалоду, якую му-

ку падорыць ёй яго раптоўная страсць, яна ўжо трымцела, яна ўжо (хоць пакуль што слепа і няўмела) адгукалася на кожны рух, на кожны пацалунак. Вырывалася, імкнулася вырвацца з абдымку — і гарнулася да Звана ўсё мацней, адхінала, выгінаючыся ў яго руках, твар — і сама шукала яго вусны. Сэрца яе казала адно, цела — другое. У сэрцы яшчэ жыў страх, у целе ўжо ўспыхнуў агонь...

Салаўіны пошчак узляцеў так высока, што стаў ледзь чутны, што зліўся са звонам і шолахам зорак, раскалыханых вячэрнім небам, голым, без адной хмурынкі небам,— чым бы яно магло прыкрыць яе, дзяўчыну, такую маленькую перад гэтай аграмаднай прасторай, такую кволую перад сваім аграмадным пачуццём? Паслухмяная нецярплівым рукам Звана, спаўзла з плячэй яе палатняная сарочка — матава выбліснулі побач з загарэлымі рукамі плечы, грудзі, белым ззяннем сцякалі ў траву ногі... Гэта падсвядома выхапіў позірк у самы апошні момант — перад тым як згаснуць у нясцерпным, зорным, няйначай, полымі і ўзысці потым, праз колькі доўгіх, здалося, вечных імгненняў над поўным мукі і шчасця стогнам...

Ефрасіння застагнала так гучна, што прахапілася. Паднялася. Бяссіла ссунулася з лавы. Спалохана агледзелася. У келлі было пуста — хто, апроч яе, мог бы тут знаходзіцца сярод ночы? Ціха патрэсквала ў куце перад абразом лампада, нячутна дыхала на падлозе, наўскос ад вузкага акенца, дарожка месячнага святла.

Перахрысцілася раз і другі. Бухнулася на калені перад абразом божай маці, пачала палка маліцца, каб стрымаць, каб змагчы дрогкі сверб ва ўсім целе, збуджаны грахоўным сном, збуджаны колішнім расказам пра Еўку і яе, Ефрасінніным, уяўленнем. Убачыла ў сне — а быццам сама перажыла, граху не збаяўшыся. Не, маліцца — маліцца яна будзе да раніцы, каб вымаліць

дараванне і вярнуць спакой, каб ніколі больш не згадаць гэтыя імгненні, не пажадаць іх, згадаўшы...

Узрушаны, усхваляваны намаляванай у думках карцінай, апалены холадам месячнага святла, якое нячутна дыхала на каменнай падлозе келлі, наўскос ад вузкага акенца (убачыцца ж такое!), Глеб таропка раскладваў па папках акварэлі дзяцей і свае малюнкі. Расклаў. Паклаў папкі ў шафу. Пазносіў і саставіў да сцяны крэслы. Пастаяў, азіраючыся, пасярэдзіне пакоя — вырашаў, як распарадзіцца сабой далей. Нічога не вырашыў. Думкі стомлена кружыліся вакол сну Ефрасінні, быццам гэта не ён намаляваў яго толькі што, а яна нашаптала сваёю палкаю малітваю і словы гэтай малітвы ўсё яшчэ гучалі дзесьці паблізу, зусім блізка.

Развёў і звёў рукі, замыкаючы ва ўзмаху нязвыклую, рэдкую тут, у студыі, цішыню, і пайшоў з пакоя. Пайшоў да лесвіцы, да століка дзяжурнай, на якім стаў тэлефон, а дзяжурная адышлася, і гэта, безумоўна, быў добры знак: ні ад каго не трэба было хаваць сваю няўпэўненасць.

Абапёрся, прысеў на краёк стала і, павярнуўшы да сябе апарат, набраў нумар. Слухаў і слухаў доўгія гудкі — не хацеў, не мог у гэту хвіліну паверыць, што там, у знаёмым пакоі на супрацьлеглым канцы горада, не было зараз нікога, што ніхто не адгукнецца на яго голас, на яго смутак. У апараце штосьці патрэсквала, але — праз гэта патрэскванне і цішыню за ім — гудкі ўпарта цягнуліся да другога жывога голасу, да жадання разумення. «Вось табе і добры знак!» — папікнуў невядома каго ў думках Глеб і ўжо намерыўся быў пакласці трубку, як у ёй штосьці азвалася: перарваліся гудкі і праз імгненне пачулася таропкае, занадта таропкае:

— Алё!

— Святлана, гэта я! Алё! — забыў ён павітацца і ра-

дасна закрычаў у трубку.— Гэта Глеб, Святлана! Думаў ужо, што цэлы горад вымер... Ты, напэўна, толькі з экзамена?

— Вы аглушылі мяне, Глеб. Добры дзень,— азвалася ціхім голасам Святлана.

— Прабачце... Прабач! Спалохаўся, што званю ў пустату, што ты ніколі не адзавешся, а тут — твой голас... Гэта ад радасці, чэ-слова. Ад радасці, што ты ўсё-ткі ёсць.

— Мяне не было. У мяне сапраўды быў экзамен, і я толькі што ўвайшла,— не ведала, як рэагаваць на яго радасць (і на яго словы) Святлана.

— З пяцёркай у кішэні!

— Чаму ў кішэні? — засмяялася.— У сумачцы. У заліковай кніжцы.

— Разумею. І прапаную маленькае свята — канцэрт у філармоніі. Віктар Трацякоў і сімфанічны аркестр. Як?

— І білеты ёсць? — няўпэўнена ўзрадавалася яна.

— Будуць.

— Вы думаеце дастаць іх сягоння, Глеб? Вы жартуеце! Тры тыдні таму білетаў не было.

— Не было, значыцца — будуць. Абавязкова будуць. Ты мне не верыш, Святлана?

— Есць моманты, калі абставіны...

— Я чакаю цябе ля філармоніі праз... праз паўтары гадзіны. Роўна ў васемнаццаць трыццаць. Згода?..

— Але ж...

— Да сустрэчы, Святлана. Свята абавязкова адбудзецца! — націснуў ён на рычажок і, паклаўшы трубку, заўсміхаўся насустрач дзяжурнай.— Усё, усё, усё, Ігнатаўна! Я пабег ужо. Я больш не буду займаць службовы тэлефон. Мяне ўжо няма. Шчасліва заставацца!

Крутануўся, тэатральным жэстам паказаў, што стол незаняты, і заспяшаўся да дзвярэй: паўтары гадзіны — нямнога, калі трэба даехаць ад камвольнага да цэнтра

і (хоць з дапамогай самога госпада бога) дастаць два білеты на канцэрт, два — у той час, як тры тыдні таму ўжо білетаў не было, ніводнага.

## XIV

(Дзіўна, што да нас з далёкіх часоў зараджэння гісторыі чалавецтва не дайшло ніводнага сведчання пра боль, шчасце і пакуту чалавека закаханага. Колькі наскальных малюнкаў ці пісьмёнаў ні згадвай, колькі выяў касцяных або гліняных пласцінак са знакамі старажытных пісцоў, адшуканых археолагамі, ні прaглядвай, колькі берасцяных грамат або старых пергаментаў ні вывучай, нідзе не адшукаеш і следу таго пачуцця, якім выжывала і выжывае душа чалавечая. Княжыя рахункі, пісьмы купцоў, запісы пра ўраджай, пра збаны і зброю, нататкі пра колькасць паланёных у часе чарговай сечы, запісы аб куплі-продажы зерня і віна, просьба да ўсемагутнага бога паспрыяць справе, а то і падману — гэта ёсць. А просьбы да другога сэрца чалавечага, а прызнання ў шчаслівым або пакутным пачуцці сваім — няма. Ці то таму, што ўсведамленне гэтага пачуцця прыйшло да людзей пазней, ці то таму, што любое пачуццё перамагала нязменная логіка жыцця, якое быццам знарок скрозь пацвельвалася і кпіла над імі, або заганяючы ў тупік, або высмейваючы.

Існуе паданне, што быў некалі сярод пісцоў той, хто вылучаўся не толькі мяккасцю сэрца, але і дарам прадбачання — вадзіў сцілом нястомна, і днём і ўначы: днём пісаў для справы — тое, што і іншыя, уначы запісваў свае размовы з зоркамі, з багамі і з любай сэрцу свайму дзяўчынай. Дзе ён браў тыя словы, ніхто не ведаў. Ведалі адно: калі ён выцягваў гліняныя пласцінкі з агню, у якім яны абпальваліся і цвярдзелі, частка пласцінак, якраз тая частка, што запісвалася ім уначы, ці рассыпалася ад першага ж дотыку ў парашок,

ці была гладкай, без адзінай драпінкі, і цёмнай — цямнейшай, чым усе астатнія. Не тое што слова — хоць бы знак які, хоць бы драпіна якая засталася! Пыталіся ў пісца — той усміхаўся: таямніца перастала б быць таямніцай, калі б адкрывалася кожнаму... Чаму ён усміхаўся? Гэта, напэўна, таксама таямніца. Раптам стаць відушчым — гэта б чалавека забіла, знішчыла.

І імя пісца і дар ягоны з цягам часу забыліся, а таямніца дагэтуль жыве, дагэтуль (асабліва па начах) вабіць тых, хто хацеў бы гаманіць з зоркамі, з багамі ці з любай сэрцу дзяўчынай. Дзіўна, што мы прагнем новых і новых сведчанняў пра гэтыя размовы. Нават калі не верым ім, гэтым сведчанням...)

Да ночы было яшчэ далёка. Шматок неба, які бачны быў Еве з гасцінічнага ложка, кожны міг ярчэў, цямнеў, наліваючыся медна-жоўтым, а потым чырвоным цяплом, і калі пазіраць на яго здалёк, з глыбіні пакоя, то і ўявіць было цяжка, што там, за акном, напрасткі цераз пралёт магістралі, на самым краі плошчы, усімі сваімі купаламі ўзлятаў у гэта густое вечаровае неба сабор Васілія Блажэннага.

Азваўся тэлефон. Тэлефон званіў і званіў: Міканор не верыў у Евіну адсутнасць і цярпліва чакаў, пакуль яна падыдзе, возьме трубку — чаго-чаго, а цярпення ў яго, калі гаворка заходзіла пра Еву, заўсёды хапала.

— Слухаю,— лена адазвалася, нарэшце, Ева, дацягнуўшыся да апарата, толькі б ён змоўк, не звінеў.— Ты, Міканор? Што здарылася?

— Мы ж хацелі спусціцца ў бар...— завуркатаў у трубку той, і Еве ўявілася, што ён зараз аблізваецца.— Ці мо ты перадумала? Тады я мог бы зазірнуць...

— Я не перадумала,— перапыніла яна яго не дужа ветліва і ўжо мякчэй, узяўшы сябе ў рукі, дадала: — Не хочаш жа ты пакінуць мяне галоднай, Мік?

— Ну, што ты! Я гатоў...

— Я буду гатова праз дзесяць мінут. Праз дзесяць!

Сказала і паклала трубку. І зноў адкінулася на падушку. Зноў перавяла позірк на яркі шматок неба за акном, паспрабавала прыгадаць, пра што толькі што сама з сабой развaжала. Не прыгадала. Не прыгадвалася. І яна — на фоне яркага, усё яшчэ яркага неба — стала разглядваць свае прыгожыя рукі, свае доўгія, зараз, на прасвет, мякка-ружовыя пальцы, злёгку павoдзячы імі, быццам пагладжваючы паветра, вечаровае, густое свячэнне паветра над сабой, над ложкам, над позіркам. У нейкі момант ёй здалося, што паветра рвецца пад яе пальцамі на тонкія, празрыста-залатыя ніткі і цячэ, струменіцца гэтымі яркімі ніткамі ўсё ўгору і ўгору, да столі,вышэй столі — цераз акно, у далёкае, амаль не рэальнае неба. Разумела, што гэта — гульня святла, не болей, а ўсё не магла суцішыць пальцы, апусціць рукі. Не магла прымусіць сябе адвярнуцца ад акна і падняцца з ложка. Нечым зачароўвала, зачаравала Еву гэтая гульня, утрымліваючы нават ад залішне рэзкага руху, ад залішне дакладнага намагання. А чым?

Міналі хвіліны, мянялася — праўда, ледзь бачна, ледзь заўважна — асвятленне: гусцелі, шэрхлі фарбы, прыглушаючы ззянне вечара, а Ева ўсё ўзіралася ў дрогкія нітачкі святла паміж пальцамі, усё гэтак жа нерухома, усё гэтак жа бяздумна, як і раней, узіралася ў свае пальцы, у свае рукі. Пачуўшы стук у дзверы, з лёгкім шкадаваннем узмахнула рукамі, разганяючы чары, і саскочыла з ложка. Усунула ногі ў туфлі на тонкіх абцасіках (хатніх пантофляў ніколі не прызнавала), калыхнуўшы клубамі, пацягнулася і пайшла да дзвярэй. Адкрыла. Какетлівым рухам захінула лёгкі пеньюар. Усміхнулася.

— Бачыш, як я шчыравала! Яшчэ нават не апранулася!

— Мне будзе прыемна, калі ты зробіш гэта пры мне,— пацягнуўся, схіліўся да яе доўгі, сухагруды Мі-

канор, ледзь толькі прычыніў за сабой дзверы, але Ева выпырхнула ў яго з рук з лёгкасцю пташыны, і ён расчаравана зморшчыўся.— Ты не хочаш са мной павітацца?

— Каторы раз на дню? — не павярнулася да яго Ева, бо якраз распраўляла на ложку шаўковую сваю сукенку, і той таропка, крадучыся, наблізіўся, крануўся яе спіны, павёў рукой уздоўж...

— Міканор! Не церпіцца? — абыякава адхінулася яна.— Так я ніколі не закончу зборы і...

— І мне давядзецца гэтаксама скідаць свой «фрак», апрануты з выпадку нашай святочнай вячэры,— паспрабаваў падыграць ёй Міканор і падыграў даволі ўдала.

— Святочнай? — павярнулася Ева, яўна зацікаўленая.— Хіба з нагоды таго, што прывезены фільм не прынялі? А, Мік? Ці ты можаш прапанаваць мне новае — толькі маё? — свята?

— Чаму б і не! Свята спакусніцы Евы... Гучыць?

— Не вельмі,— прайшлася перад ім тая, задумліва падшукваючы сваю назву, і, пэўне, нічога вартага не прыдумаўшы, не адшукаўшы, адмахнулася ад свайго намеру, хоць прыдумаць хацелася, бо нечакана выбліснула ў яе забытая згадка, далёкая згадка маленства.— Мне часам здаецца, што я зусім не вырасла з той пары, як была самай даўганогай дзяўчынкай у школе: цяпер, са свайго росту ніжэй сярэдняга і ўявіць страшна, а была ж, была некалі — адны доўгія ногі і на іх, як на сцяблінках, дзьмухавец галавы...

Яна рассмяялася, трасянула галавой, і на плячах рассыпаліся светлыя хвалістыя валасы.

— Цуд ператварэння жанчыны ў кветку,— недарэчна, не вельмі да месца выказаў Міканор сваё захапленне.

— У кветку? Ну, не-е...— смяялася Ева, ёй у гэты момант падабалася ўсё: і згадка маленства, і словы,

якімі яна яе выказала, і нават Міканорава шчырае захапленне.— У птушку! У птушку, Мік, глядзі!

Шыя ў Евы злёгку выцягнулася, галава ўздрыгнула і падалася крышачку наперад. Быццам баючыся замачыць ногі і на вачах ператвараючыся ў гарэзу дзяўчынку, яна высока ўскінула адно калена, наструніла, выцягваючы насок прыгожага туфля, нагу і павольна, надзіва прыгожа паставіла яе на дыван, ступіла ў напрамку да Міканора, які разгублена, дуркавата ўсміхаўся ёй насустрач. І тут жа, у тое ж імгненне, сагнула мяккім вуглом, вытыркнула з-пад сабранага ў жменю пеньюара другое калена — і наступны яе крок быў гэткім жа дакладным і грацыёзным. Толькі не на дыван апусціла Ева нагу, а на калена Міканора, быццам дражнячы яго — быццам напраўду спакушаючы. А той і так — і да таго — млеў у сваім крэсле, калі ж згледзеў паўаголеную Евіну нагу так блізка, што мог дацягнуцца вуснамі, на міг проста аслупянеў (нязвыклую дужа гульню прапанавала Ева!). На міг... Бо ўжо ў наступны міг рука яго спрытна паўзла ўверх, да прывабнага жаночага калена, твар патанаў у складках лёгкай тканіны...

— Ну-ну-ну! Не раскісай гэтак, Міканор! — ацверазіў яго насмешлівы вокліч Евы.— Табе б толькі свой імпэт цешыць. Нават згадкі маёй не шкада.

— Якая згадка, мілая, як у табе, у кожным тваім руху гэтулькі спакусы,— абедзвюма рукамі лашчыў ён яе калена, адкінуўшыся на спінку крэсла і дапамагаючы рукам вачамі.— Мо адмяніць заказ на столік у зале і папрасіць прынесці ўсё сюды?

— Яшчэ чаго! — вызваліла Ева нагу і нецярпліва, немаведама чаго злуючыся на сябе і на свайго («Старога ляшча!» — падказала злосць) старога паклонніка, захінула пеньюар...— І потым... Колькі разоў я прасіла цябе не называць мяне «мілая»? А?

— Не буду, не буду, Ева!

— А гэтае нежаданне правесці вечар у бары? Мо табе грошай шкада? — не сунімалася яна.— Дык ты так і скажы. Маўляў, на чорта той бар, як у кавалера адно жаданне: хутчэй да мяккай пасцелі дабрацца.

— Ты несправядлівая, Ева. Мы даўно маглі б спусціцца...

— Вось і цудоўненька. Вось і лады-ладкі. Вось мы ўжо і спускаемся. Міг-другі — і спускаемся.

Ева прагаворвала гэта па складах, расцягвала кожны склад у такт сваім звыкла дакладным рухам (і думкі не ўзнікла пайсці пераапрануцца ў ванную) — яна працягвала злавацца і ў злосці гэтай на зважала на Міканора, які нерухома, аслупянела сядзеў на ранейшым месцы і хлюпаў сваімі кароткімі выцвілымі вейкамі. Ды і чаму яна павінна была на яго зважаць? Урэшце, у кожнага з іх быў у гэтай камандзіроўцы свой інтарэс. Кожны хацеў атрымаць сваё. Яна — сваё, Міканор — сваё. Так ці інакш, мову агульную знойдуць. Не першы раз. Як-небудзь сыдуцца на адным, каб застацца кожны пры сваім. Яна — пры сваім, Міканор — пры сваім. Не «сюсюканні» ж яе слухаць ехаў той сюды з ёй. І ёй, Еве, яго «ахі» і »охі» да лямпачкі, як кажуць у не дужа інтэлігентных колах. Так што асабліва цырымоніцца... А што пагуляцца захацела, пакрасавацца перад старым, у тым і каялася: гасцінічная дакука, пэўна, адолела. Ды і вечаровае неба знаёмым здалося...

Неба за акном пацямнела: шэрыя згусткі яго збіваліся ў суцэльнае цёмнае месіва, і толькі на самым гарызонце, па краі яго, яшчэ свяцілася нешырокая вогненная палоска. Водсветы яе гарэлі на супрацьлеглай ад акна сцяне, паклеенай прыгожымі матавымі шпалерамі, і трывожнай здавалася ў гэтых водсветах напоўненая шархаценнем шоўку цішыня, што ўжо колькі доўгіх хвілін трымалася ў пакоі. Трывога гэта была ледзь заўважная, а ўсё ж і яна на нейкі час перадалася Еве. Папраўляючы валасы, яна застыла перад акном,

перад прыгожа-ўрачыстым краявідам знаёмай па стольскіх фота- і кіназдымках часткі Крамля, і ранейшая прыкрасць зварухнулася ў яе на дне душы, дзесьці на самым дне, зацененым шматлікімі загарадкамі звыклай абыякавасці, хутчэй за ўсё знешняй, агучанай глухімі воклічамі, накшталт: «ну, і што!», «падумаеш!..».

— Мік, табе не прыходзіла ў галаву, што паводзіны чалавека, свет ягонай душы,— як ёсць яна, душа, часцей, чым нам уяўляецца, звязаны з навакольным светам: з краявідам перад вачамі, з адухоўленымі нашымі рухамі рэчамі, прыгожымі або непрыгожымі рэчамі? — нечакана для самой сябе спытала, сказала ўголас Ева і міжволі сцішылася, сцялася ў чаканні адказу, нават валасы заколваць перастала.

— Цю-цю! Бач, куды ты хапіла! — прысвіснуў ад здзіўлення Міканор.— Такой жанчыне, як ты, шкодна пра гэткае думаць.

— Пра якое пра гэткае? — не павярнула яна галавы.

— Пра гэткае сур'ёзнае, што і філосафы ніяк пакуль што не вытлумачаць. Не бяруцца вытлумачваць.

— А ты, ты як вытлумачваеш? Табе ў галаву гэта прыходзіла?

— Ева, ты сур'ёзна? Калі я пачну прыгадваць, што мне прыходзіла або не прыходзіла ў галаву, ісці куды б то ні было будзе позна. Папярэджваю. Ды і наогул...

— Што наогул? — крутанулася, і, наблізіўшыся да яго ўшчытную, застыла яна перад ім.

— Ды і наогул,— падняўся пад яе паглядам Міканор і павольна, з недаўменнем, нават з прыхаванаю крыўдаю ў вачах, выпрастаўся ва ўвесь свой рост.— Не трэба забіваць прыгожую галоўку падобнымі пытаннямі. Звязаны, не звязаны... Якое гэта мае значэнне сёння? Зараз? Для нас с табой?

— Нешта ж і для нас з табой мае значэнне,— ледзь чутна адгукнулася Ева.

І тут жа паспрабавала рассмяяцца. Засмяялася. Праўда, трошкі, зусім трошкі ненатуральна. Але лёгкім рухам рук штучнасць гэту сцёрла — і вось ужо мякка абдымала яго за шыю, прыўздымаючыся на пальчыках, вось ужо капрызна надзімала губкі, вось ужо ўсмешліва прамаўляла:

— І чаму гэта мужчыны так баяцца гаманіць з жанкамі? Чаму ім абавязкова патрабуецца ад нас толькі самае малое, самае звычайнае? А? Пацалаваць — калі ласка, да сэрца прыгарнуць — заўсёды гатовы, як хвіліна такая надарыцца, адарыць — і на гэта разумення хапае... А выслухаць, а разабрацца ў нашых памкненнях і пакутах — божа збаў! А мы вас яшчэ і любіць за гэта павінны.

— Вам нічога іншага не застаецца, мілая,— асцярожна пацалаваў ён яе.— Нічога іншага. Павер майму вопыту.

— Мы ідзём? — паспрабавала Ева выслізнуць з яго рук, але Міканор не паслабіў абдымку, наадварот, заступіў ёй дарогу нагой, прагнучы як мага большай блізкасці, і ёй давялося двойчы яшчэ паўтараць: — Мы ідзём? Мы ідзём, Міканор?

— Мы ідзём,— нарэшце адарваўся той ад яе.— Толькі давай дамовімся: ніякіх пытанняў! Дома не ведаеш, куды ад іх дзецца, куды хавацца. А ў нас з табой — свята. Маленькае свята кахання.

— Маленькае свята кахання,— няўцямна паўтарыла яна ўслед за ім, радуючыся, што вечар усё-ткі не будзе сапсаваны, што зараз яны апынуцца ў бары сярод незнаёмых, гэткіх жа, як і яны, вольных на цэлы вечар людзей. І будзе гучаць ціхая музыка, і будзе струменіцца над музыкай цьмянае каляровае святло.— Маленькае свята кахання на фоне краявіду са знаёмай карцінкі календара.

— Якога календара, Ева?

— Гэта я так... Згадала адну карцінку... Ты не зважай, Мік. Ты часам не зважай на тое, што я кажу. І ўсё будзе цудоўненька. Як заўсёды. Як умеем толькі мы з табой... Зашпілі, калі ласка, каўнерык.

— Угу! — памкнуўся Міканор, не адпускаючы Еву ад сябе, паправіць яе каўнерык. Паправіў. Потым дастаў з кішэні пінжака невялікі карабок.— Вось, прымер! Спадзяюся, што хоць гэтым дагадзіў паненцы.

— О, Мік! — пацягнулася Ева яго пацалаваць — твар яе паружавеў, вочы пацяплелі, засвяціліся: падарунак быў шчодры і па-сапраўднаму ўзрадаваў яе.— Як ты здагадаўся пра даўняе маё жаданне? Я і марыць не марыла...

Міканор задаволена ўсміхаўся. Ён і не думаў адказваць: Ева, занятая сабою і прапанаванай бліскучай забаўкай, усё роўна не пачула б. Ды і не тлумачыць жа ёй, што, каб угадаць жаданне жанчыны, трэба проста колькі хвілін паназіраць за ёй у коле сяброўак-прыяцелек,— яны ж, пакуль не абмацаюць адна ў адной кофтачкі, сумачкі, завушніцы, ланцужкі, датуль не разыдуцца. Факт правераны. І потым... Потым, ведаючы жаданні адной з іх, цяжка памыліцца ў выпадку з другой: гэта толькі жаночая саманадзейнасць дазваляе кожнай з іх думаць пра сябе як пра асобу, індывідуальнасць.

— Дзякуй, Мік. Мне так да твару... Праўда? — адарвалася нарэшце ад люстэрка Ева.— Ты, няйначай, падслухаў маё жаданне!

— Калі хочаш прывязаць да сябе жанчыну, гаварылі мудрыя, надзень ёй на шыю дарагі бліскучы ланцужок,— усміхнуўся ён ёй насустрач.— З гадамі, якім і справы няма да твайго сэрца, поўнага ўсё яшчэ не растрачанай любові, мусіш прыслухоўвацца да такіх слоў.

## XV

— Калі хочаш убачыць жанчыну шчаслівай...

— Вы... Ты ўсё ж дастаў білеты, і мы патрапім на канцэрт? — зардзелася ад таго, што Глеб пацалаваў ёй руку, Святлана.

— Месца ў дырэктарскай ложы магу прапанаваць,— мякка, але настойліва пацягнуў ён яе за руку да ўвахода; Святлана на пятнаццаць мінут прыпазнілася, і ўсяго часу ў іх было — распрануцца і прайсці па ўсімі праўдамі і няпраўдамі выпрашаных у дырэктара філармоніі пропусках у ложу.

Нерашуча, быццам усё яшчэ не верыла ў рэальнасць свята, ступіла ўслед за ім дзяўчына. І вось яны, пераглядваючыся, усміхаючыся адно аднаму, ужо збягалі па каменных прыступках уніз, каб пакінуць у гардэробе лёгкую сваю апратку і, ледзь зазірнуўшы ў люстэрка (адно, каб правесці даланёй па валасах), падымаліся ў апусцелае ўжо фае: канцэрт пачынаўся праз адну-дзве хвіліны.

Калі яны прыйшлі да месца, Глеб убачыў, што ложа таксама перапоўнена і вольнае крэсла ў ёй усяго адно, у самым куточку направа ад дзвярэй. Ды і гэта было удачай, бо ці мала каму яшчэ мог падпісаць на сёння пропуск у залу дырэктар, а Глеб са Святланай з'явіліся літаральна ў апошнюю хвіліну.

Святлана (яна была ўсхваляваная і нават крышачку разгубленая) памкнулася прыўстаць, ледзь толькі Глеб усадзіў яе ў крэсла,— вачамі спытала: «Як жа ты?», але той толькі моўчкі прыклаў палец да вуснаў і праз галовы прысутных павёў позіркам на сцэну. Якраз у гэты момант грымнулі апладысменты, і Святлана, выцягваючы шыю, адвярнулася, падхопленая агульным парывам, пачала пляскаць у ладкі — па ўсім было відаць, што ў гэты момант яна забылася на Глеба, які прысланіўся да сцяны за крок ад яе і ўсё яшчэ пазіраў

не на вядомага скрыпача і аркестр у яго за спіной, а на расчырванелую, шчаслівую сваёй еднасцю з людзьмі, з музыкай, што вось-вось загучыць, зачаруе залу, дзяўчыну. Лёгкая, светлая ўсмешка асвяціла яго твар, лёгка, светла было ў яго на душы.

Аціхла, стаіла дыханне зала. Пакорны ўзмаху дырыжорскай палачкі, ціха ўступіў аркестр, і амаль тут жа над яго рокатам узляцела шчымліва-журботная меладыя скрыпкі. Скрыпічны канцэрт Дзмітрыя Шастаковіча, у якім так плача, так спявае скрыпка, ведучы сваю бліскучую партыю!

У шчымліва-журботных гуках, якія ўсё нарасталі, раслі, набіраючы тэмп і гучнасць, знікла, растварылася ўсё вакол...

У келлі калыхаўся блакітны паўзмрок. Ціха патрэсквала ў куце перад абразом лампада, нячутна дыхала на камянях, наўскос ад вузкага акенца, дарожка халоднага месячнага святла. Ефрасіння спала і ў сне бачыла гэту вузкую дарожку святла на каменнай падлозе: дарожка рухалася, распаўзалася ўшыркі і ўздоўж — і вось ужо не дарожка, а збітая конскімі капытамі дарога адбягала, уцякала ад яе. Хоць не! — дарога ўцякала ад бязладнага (то рысцой, то ўгалоп) конскага тупату, ад пагрозлівага рыпення расхістаных на кепскіх вясновых дарогах колаў, ад шалёнага бразгату так-сяк паскіданага ў буду гаспадарчага начыння. А яшчэ — ад крыку. Ад бясконцых воклічаў у ноч, у далеч, трывожна асветленую і глухую:

— Еў-ка-а!! Еўка, адгукні-іся-я! Еў-ка-а!

Воклічы тужліва ўзляталі, на міг падхлістваючы стомленага гэтай пагоняй каня, занадта старога і бяссілага, каб дагнаць княжых ратнікаў, і падалі, разбіваліся і на нейкі час паміралі, раставалі ў яркім месячным святле. Каб зноў — праз хрыпы каня і цяжкі муж-

чынскі стогн — узляцець у паветра, патрывожыць ноч і ўпасці, разбіцца аб залітую святлом дарогу, што ўсё шырэла, распаўзалася і хутка была ў шырыню пагляду старога Віта.

— Еў-ка-а!!!

У стракатым скамарошым уборы, з запэцканым бяліламі тварам і распатланымі сівымі валасамі, Віт нагадваў узброенага пугай вар'ята: ён то ўскокваў у поўны рост і, пахітваючыся, нахліствāў, гнаў свайго каняку — крыкам, воклічамі гнаў сябе ў ноч, у халодную блакітную яе глыбіню, то бяссіла падаў на куфэрак і на міг-другі змаўкаў: толькі глыбокі стогн лена, глуха варочаўся, перакочваўся ў яго ў грудзях. Ён не бачыў дарогі — дакладней, дарогай уяўлялася яму ўся лагчына, залітая месячным святлом, і ўсё часцей спатыкалася аб камень то адно, то другое кола, усё часцей балючым хрыпеннем адзываўся на вокличы старога скамароха яго конь.

Дзіўнае, дзікае гэта было відовішча: ярка асветленая поўняй камяністая лагчына з добра прыкметнай у траве паміж камянямі стужкай дарогі, поўная бразгату, скрыпу і стуку буда на расхістаных колах пасярэдзіне, пасярод гэтага ззяння, далёка ад дарогі, якая кружыла, апісваючы няроўныя кругі вакол якойсь нябачнай таямнічай кропкі. Здавалася, хтосьці смяяўся са старога Віта і, падчапіўшы доўгай ляйчынаю за аглоблю, скіроўваў каня па яго ж уласным следзе, і колькі Віт ні хвастаў яго, колькі ні гнаў яго, дарога бегла сама сабе, а вазок — сам сабе. Бязладнае, шалёнае гэта кружэнне завяршылася тым, што ўмомант, калі спыніўся зможаны, загнаны гняды і потым, падхліснуты крыкам і ўдарам ляйчыны, тузануўся, з апошняе моцы тузануў вазок раз, і другі, і трэці — не адолеўшы чарговы камень, сарвалася, хруснула кола, прыціснутае ўсім цяжарам буды, якая пахілілася і з новым натужным рыўком каня перакулілася ў траву. Заржаў, захрыпеў збіты з ног

конь. Застагнаў, падымаючыся з зямлі з абрыўкам старой ляйчыны ў руцэ, Віт...

Гэтак жа ярка свяціла поўня. Гэткім жа блакітным было ззянне паветра, травы, камянёў у траве. Гэтак жа па крузе, паўтараючы шлях каня, пайшоў зможаны сваім горам скамарох — і кропка ў цэнтры круга цяпер ужо была бачная: перакуленая буда, што служыла на працягу многіх год яму і сховам і жытлом, ад якой балючымі хвалямі разыходзіліся перадсмяротныя хрыпы гнядога.

Круг шырэў. Віт ішоў хутчэй і хутчэй. Спатыкаўся. Падаў і зноў падымаўся на ногі. І вось ужо, зрываючы дыханне, якое клекатаннем вырывалася з грудзей, бег у ярка асветленым коле лагчыны. Адзін круг, другі, трэці... Калі ён упаў і доўга не мог падняцца, яму самому здалося, што ноч прымала яго — прыняла, што боль адпускае і, як толькі адпусціць, прыйдзе палёгка. Віт ужо бачыў за які крок ад сябе сваю маленькую светлавалосую Еўку, сваю дачку, і адчуваў, што вось зараз, зараз ён падымецца, возьме яе за руку, і павядзе ў шырокі свет, і навучыць усяму, чаму яго навучыла жыццё, навучыць любіць жыццё і зямлю, на якой яна будзе жыць. Вось зараз ён толькі падымецца!

Гэтак жа ярка свяціла поўня. Гэткім жа блакітным было ззянне паветра, травы, камянёў у траве.

Мелодыя пасакаліі плакала голасам скрыпкі, і плач гэты ўяўляўся ўсясветным: так уладна панаваў ён над усім, так уладна змушаў кожнага ўслухоўвацца ў сваю душу, у вечны боль яе, у вечны яе покліч. А здавалася, усё патанала ў яркім месячным святле, што цякло, струменілася шырокай камяністай лагчынай паміж Друццю і Дняпром, перацякаючы ў хвалістую няроўную паласу дарогі, сцінаючыся ў вузкую палоску-стужку на каменнай падлозе келлі полацкай ігуменні Ефрасінні.

Музыка стагоддзяў — не, музыка душы чалавечай, што стагоддзямі прагнула вырвацца з палону кволага, грахоўнага цела! — лілася, месячным святлом уліва-лася ў начную келлю, у сон Ефрасінні, цяжкі, пакутны, і застывала ў ім блакітна-шэрымі глыбамі ночы. Яны раптам расколваліся, гэтыя глыбы, і з іх вырасталі доўгія невыразныя цені — цені вояў, п'яныя цені загу-лялых ратнікаў з княжай дружыны, што размясцілася нанач, на начлег у невялікім прыдарожным паселішчы, выселіўшы з лепшых хацін іх жыхароў і выглядаючы ў астатніх дварах годных для начнога загулу дзявок ці маладзіц. Але тыя, мусіць, пахаваліся, і воклічы п'яных ратнікаў натыкаліся адно на суровыя ці адкрыта злос-ныя позіркі тутэйшых мужчын, незадаволеных наездам князя людзінаў. І ўсё грамчэйшымі былі п'яныя воклі-чы, тут і там толькі і чулася абуранае:

— Зван усіх абышоў са сваёй скамарошкай!

— І князь змаўчаў, і мы маўчым...

— Салодкая, мусіць, дзеўка: піць з намі не стаў Зван! У кусты, няйначай, падаўся — зашыўся...

— Якога д'ябла ў кусты? У крайнім двары яны.

— Забраць у яго дзеўку, і ўвесь сказ! Не аднаму ж яму цешыцца! Забраць!!

Тут і там калыхаліся, зблiжаліся, счапляліся, мат-ляючыся з боку ў бок, цені. Невыразныя цені. Колькі ні ўзіралася ў іх пры яркім месячным святле Ефрасін-ня, яна не магла разгледзець ніводнага твару, не па-знавала ніводнага воя з княжага двара: твары нагад-валі цьмяныя расплывістыя пляміны — твараў не было! І ўсё ж яны — тое, што было замест іх,— набліжалі-ся, запаўнялі прастору паміж ёй, сцятай у балючы ка-мячок, і небам, якое на вачах сцiналася ў яркае, да рэзі белае, зіхоткае кола поўні. У яе мільганула думка: дзіўна, что гэтыя цені не засланялі ад яе гэта зіхоткае кола. Наадварот: чым бліжэй яны насоўваліся, тым ярчэй ззяла поўня. Еўка — бо, канечне ж, гэта Еўка,

а не яна, Ефрасіння! — адчувала, што слепне, аслепне, калі не прыкрые чым-небудзь вочы, калі не ўкрыецца ад неба. І ад гэтых жудасных ценяў.

— Мне страшна, Зван,— шаптала яна.— Мне страшна...

— Зван, мы прыйшлі!! Мы ўсе прыйшлі!! — пачулася з вуліцы, пачулася зусім выразна, быццам той, хто крыкнуў гэта, стаяў проста над імі.

Еўка ўчапілася ў свайго воя, у яго дужыя плечы, адчула, як уздрыгнулі, напружыліся яны на момант і тут жа абвялі пад яе далонямі, і спужалася. Дагэтуль яна верыла, што ён абароніць яе, схоча, а галоўнае — зможа абараніць ад кожнага, каму закарцела б пакрыўдзіць яе, дагэтуль яна не думала, што, абраўшы Звана, абрала страшны сваёй невядомасцю лёс і застанецца — можа застацца недзе на адной з дарог адна, сама са сваёй растаптанай любоўю. Мо нават і тут, адразу ж...

— Зван, мы прыйшлі забраць тваю дзеўку.

— Ты не памяняеш на дзеўку сваіх сяброў, Зван!

— Мы ўсе прыйшлі.

Цені ўжо абступілі іх, і цёмнае кола звужалася, сціскаючы поўню, выціскаючы з поўні белае, як малако, святло. Еўку пакідала сіла: як ні гарнулася яна да Звана, як ні чаплялася за яго — чаплялася ўжо за пустату. Зван быў яшчэ побач, яшчэ не скінуў яе рук са сваіх плячэй, але па ўсім адчувалася — рашыўся, па ўсім адчувалася, што ўжо аддаў яе гэтаму п'янаму натоўпу.

— Яна сама пайшла за мной...— адрываючы яе рукі ад сваіх плячэй, апраўдваўся ён перад кімсьці нябачным.

— Не-е! Не-е-е! — ірванулася да яго, услед за ім Еўка.— Я твая, Зван, я хачу быць толькі тваёй!

Яе адштурхнулі чыесьці рукі (мо гэта Зван адштурхнуў яе, і яна не пазнала ягоных рук?) — і яшчэ рукі, і яшчэ... Яны адштурхвалі яе і чапляліся за яе — рук было шмат, рукі цягнуліся ўсё бліжэй і ўсё больш

настойліва, рухомае кола іх сціскалася так хутка, што праз момант ёй не было куды адступаць, адступіцца: з яе здзіралі сарочку, яе цела прагна камячылі дзесяткі рук. Яна крычала — яна не гукала больш Звана, які даўно зліўся з гэтым п'яным натоўпам, а крычала, цягнула на адной жудаснай ноце:

— А-а-а!..

Ні прагных рук, ні твараў не бачыла Еўка — у вачах палаў, шалеў халодны белы агонь. У вачах. А потым у грудзях. А потым ва ўсім яе растузаным, стаптаным, растаптаным целе, якое бяссілым акрываўленым абрубкам уздрыгвала, сутаргава звівалася на крыжы яе рук.

— А-а-а...— згаслым крыкам усё выцякала з яе жуда, і гадзіну і другую гадзіну сцякала на ўскапаную ўкруг ботамі ратнікаў, пачарнелую зямлю.

Поўня згасала разам з гэтым крыкам, больш падобным на стогн, і згасла, знікла ў белым тумане світання. Здоўжылася, чакаючы ад'езду княжай дружыны, світанне, і шэрым, зацягнутым бляклымі аблокамі быў прычаканы ў паселішчы дзень. Павыводзіў дзень з прыціхлых зажураных хат людзінаў, усіх, як ёсць, і павёў вулічкай да крайняга двара, пасярод якога ляжала паўмёртвая Еўка, якая не чула ні перамоваў і рогату вояў, ні пошчаку конскіх капытоў, ні асцярожных крокаў напужаных пасялян, і чыіхсьці ўсхліпаў, і чыіхсьці праклёнаў, пасля таго як старая, апранутая ва ўсё чорнае, прыкрыла яе радном.

— А-а-а...— ледзь чутным ужо крыкам, хрыпеннем выцякала ў Еўкі з грудзей жуда — жыццё выцякала!

— А каб сонца не ўбачылі ліхадзеі тыя, што над маладым жыццём наздзекаваліся, каб не ўзышло яно, сонца, над іх шляхам... Каб вечна смылела ў іх душах гэта ноч, паглынаючы ўсе радасці іх і ўсе надзеі іх... Каб груганы гэтак ірвалі іх целы, як яны — бязвінную істоту гэту, і ніхто, ніводная душа не пашкадавала бязлітасных да жывога чалавека...— нягучнымі

праклёнамі старой, апранутай ва ўсё чорнае, пахістала люд, і позіркі іх, і дзень у іх позірках, і неба над днём, што так і не разгарэлася.

Прахапілася Ефрасіння ад таго, што ў старой гэтай, якая пасылала праклёны ўдалеч, прыкрытую халодным, зацягнутым аблокамі небам, пазнавала сябе, як раней — імгненне назад — пазнавала сябе ў згвалтаванай натоўпам княжых вояў Еўцы, з грудзей якой глухім згаслым стогнам выцякала жыццё... І гэта было страшна. Так страшна, што, і прачнуўшыся, усвядоміўшы, што ўсё гэта адбывалася ў сне, Ефрасіння нават малітвай доўга не магла адагнаць уяўленыя карціны, раз і другі раз выцірала халодны пот з ілба, а пот усё выступаў. І цела балела — па ўсім целе расцёкся незнаёмы пякучы боль, які круціў яе, скручваў, гнуў.

Адступілася Ефрасіння ад малітвы: караў яе гасподзь за яе грахоўныя думкі, за грахоўныя сны і, пакуль не зможа яна сваю плоць, пакуль не зможа боль, што ў ёй пасяліўся, не будзе спакою ў яе душы, не пачуе яе ўсявышні. Дрогкай рукою спусціла з плячэй сарочку, узяла цяжкі свой пасак скураны і, закусіўшы губу, каб не вырваўся стогн, хлістанула па плячы наўскос. Раз, другі, трэці. Яшчэ і яшчэ. Болем боль вымяраючы. Болем боль выпякаючы.

Шлях, які выбрала Ефрасіння для сябе і сясцёр сваіх, мужнасці, сілы патрабаваў. Бо як жа без гэтага ўзяць на сябе ўвесь грэх людскі і перад усявышнім адказваць за ўсё і ўсіх, а найперш — за тых, хто грашыў і граху свайго не адчуў. Пашкадаваць іх і палюбіць іх у граху іх вялікім павінна б яна, а не да праклёну людскога далучацца ў сне сваім, хоць бы і ў сне, бо і сон — працяг дня, поўнага турбот і малітваў. А як не стаў працягам, як расквеціў сон карціны граху, няхай сабе і чужога, на ей, на Ефрасінні, грэх — гасподзь ка-

рае тым, што адступіўся. І сама яна павінна сябе пакараць. Вось і карала...

Узяла ў манастыр шаляніцу Еўку, бо богу было так угодна: тое, што душа Еўчына толькі ў часе малітвы прачынаецца,— знак таго. Навошта ж сцежкі Еўчыны ў сне ёй, ігуменні, паўтараць? Навошта ж пакутныя згадкі варушыць? Чары месячнай ночы, месячнага святла не змагла доўгай малітвай адвесці — болем іх выпеча, балючымі рубцамі на целе сваім перакрэсліць Ефрасіння, каб дужэйшай за яго стаць, каб спакой душы вярнуць — спакой, які адзіна ачышчае душу.

Калі змаглася яна, калі асунулася на каменную падлогу і першыя словы вернутай з болем — цераз боль — малітвы задрыжалі на вуснах, разам са словамі пачула Ефрасіння дзівосную якуюсь музыку: ці то званы пелі недзе далёка-далёка, як не ў самім Кіеве, ці то птушкі аднекуль з-за сну вярталіся ў ранак... Музыка грамчэла. У гучным яе патоку патаналі — патанулі ўжо ўсе гукі, усе думкі, усе словы: за ёй нічога нельга было ўчуць, здавалася, яна рвалася з грудзей...

Калі хлынуў і заглушыў толькі што ўсяўладную музыку шквал апладысментаў, Глеб уздрыгнуў так моцна, што рух яго перадаўся некаму побач, ля самага яго пляча. Ён не адразу ўсвядоміў, што побач, злёгку прыпадаючы да яго пляча, стаяла Святлана, і, усвядоміўшы, памкнуўся сказаць што якое, папрасіць прабачэння: урэшце нельга ж так адключацца ад рэчаіснасці, хоць бы і ва ўладзе музыкі, але яна пахітала галавой, і такі выразны быў яе позірк, столькі разумення прачытаў у ім Глеб, што словы замерлі ў яго на губах. Ён абняў дзяўчыну за плечы. І тут жа адпусціў. І тут жа запляскаў у ладкі разам з іншымі, вырашыўшы, што пасля канцэрта раскажа ўсё Святлане. Усё-ўсё. І пра сябе. І пра свае думкі, у якіх пакутуе, моліцца, змагаецца, спрабуе зразумець сябе, убачыць свой працяг, далё-

кае дванаццатае стагоддзе. І пра няўрымслівую ігуменню, у якой тое ж імя, што і ў ягонай маці, і інакшы, зусім інакшы лёс. І пра каханне, якога баялася Ефрасіння, і ўжо адным тым была грэшная перад сваім богам. І пра каханне, якога так доўга чакаў ён, Глеб. Усё нейкім чынам сышлося ў ім, і ён хацеў і не мог — пакуль што не мог — зразумець, што яму з гэтым усім рабіць.

— Брава! Бра-ва!! — крыкнуў хтосьці глыбокім, добра пастаўленым голасам з балкона, і апладысменты ўспыхнулі з новай сілай.

На сцэне, за крок ад аркестрантаў, што ўсталі і гэтак сама віталі слыннага скрыпача, пастукваючы смычкамі аб пюпітры, крышачку разгублена ўсміхаўся Віктар Трацякоў, і ціха ўздрыгвала ў яго апушчанай руцэ змоўклая, анямелая скрыпка.

## XVI

«Добры дзень, дзеці, Барыс і Глеб! — старанна вывела на лістку ў клетку, вынутым з агульнага сшытка, які захоўвала ў шуфлядзе спецыяльна для такога выпадку, Ефрасіння і ўздыхнула: выпадку, па сутнасці, не было, так, засумавала па дзецях, па жывым голасе ў хаце, вось і пачала пісаць — загаманіла з імі.— Паведамляю, што жывая і здаровая, чаго і вам жадаю. Чаго і вам заўсёды жадаю».

Што пісаць далей, не ведала. Не пісаць жа, што сон ад яе адступіўся. З тых самых дзён, як былі яны дома і паехалі. Днём нічога. Днём клопату хапала, і дома, і ў калгасе. Гэтак, было, наробіцца, гэтак натаўчэцца — здавалася, адно каб галава падушкі кранулася... А ўтопчацца, прыляжа — хоць вочы зашывай! І падушка — мулкая, і цішыня — крохкая: абзывалася адна якая маснічына, а ёй чулася, што дом хадуном хадзіў, за гадзіннікам патрапляючы, вецер неасцярожна аканіцу

кратаў, а яна ўскоквала з ложка і кідалася да акна, бы толькі і чакала каго. Не было ж каго чакаць: калі б яны, дзеці яе, ехалі, то ўдзень, а Іван... Іван ні ўдзень ні ўначы не прыйдзе ўжо. У думкі прыходзіў, дык тое ж думкі, хоць і жыла Ефрасіння адно імі, думкамі сваімі.

Вось і зараз: села пісьмо сынам пісаць, а набеглі думкі — і пагубляліся ўсе словы. Не пісаць жа, што перадумала за гэтыя ночы ўсё сваё жыццё, віну якуюсь шукаючы. Сваю віну ці яшчэ чыю, пэўна не сказала б. Быў нехта на зямлі вінаваты, мо і яна, Ефрасіння, вінавата за ўсё, што не здзейснілася, не спраўдзілася, хоць самім жыццём было абяцана. Ей і кожнаму. Самім жыццём, якое мінала ўжо, абяцанкі абяцанкамі і пакідаючы. І быў у тым нейкі сэнс, безумоўна, быў, бо вось жа і дзяцей пагадавалі, і, разам з тым, аб нечым жа яна, Ефрасіння, шкадавала. Ды і не яна адна. І Наста, і Марфа вунь... А аб чым?

«Жыву я добра,— пачала Ефрасіння з новага радка.— Клопату хапае і калгасных спраў — рабіць не перарабіць. Ды як рукі занятыя, значыць, і справы, як і належыць ім, робяцца. Мо не так, як хацелася б: рук на ўсё не хапае. Але паціху робяцца. Старшыня бядуе, што вёска старэе, састарэла, лічы, а нам, бабам, дык і бедаваць дужа не выпадае: самі вас у свет, у лепшае жыццё выпраўлялі. Мо яно і лепшае...»

Ей раптам прыгадалася даўняя гаворка з Іванам. І той вечар, калі яна, гаворка, адбылася. Сена яны ў двор тады звезлі, адно і засталося — стажок за хлявом скідаць. Гэта ўжо як на новы дзень, бо пакуль прывезлі, падгарнулі трохі, далей ад брамы, пакуль чарку Стасю Карпачу паднеслі — за падмогу, за клопат ягоны, дык не тое што сцёмнілася,— зоркі высыпалі. Ды густа-густа! Якія большыя, якія дробненькія — як маку ўсё роўна. А вечар цёплы, пагодлівы. Надзіва. У хату ісці не хацелася. Хоць і гулі рукі, ногі ад утомы, а не хацелася. Стаялі з Іванам за колькі крокаў ад ганка, удыхалі

пах добра высахлага сена і на вячэру забыліся і на адпачынак.

— А што, Ефрасіння, як нам, маладосць пагукаўшы, каб пасвяціла, у сене гэту ноч пакачацца? — хаваючы ўсмешку, прапанаваў Іван.— Сена свежае, па-ахкае!

— Ты скажаш! — азвалася яна.— Зоркі вунь смяяцца будуць: дзяцей пагадавалі, а...

— Зоркі? А мы не зоркі лічыць будзем.

— А што? — міжволі паддалася Ефрасіння на яго жарт і пачырванела, няйначай як дзяўчо, балазе ў змроку, хай сабе і зорным, гэтага было не відаць.

— А вось зараз зразумееш,— падхапіў ён яе, як некалі, на рукі (Ефрасіння толькі войкнула) і, горнучы да сябе, кінуўся ў мяккую духмяную капу.

Травінкі прыемна калоліся, лезлі ў твар, набіваліся пад рукавы кофты, калыхаліся над ёй з усіх бакоў. Ефрасінні здавалася, што яна патанала ў гэтым калыханні, у гэтым колкім водары іх, і, калі б не ўсплываў, не выплываў з яго невыразны і ўсё ж да тонкай зморшчынкі ля вуснаў пазнавальны, родны Іванаў твар, то і патанула б: ніводнай зоркі не было відаць, ніводнага слова не знайшлося, каб адпрэчыць саланаваты ад поту Іванаў пацалунак,— як не адпрэчыць, то хоць зачапіцца за яго, утрымацца.

Ефрасінні здавалася, што яна ўвесь час шаптала мужава імя, але, пэўна ж, здавалася, бо ён не адгукаўся: ці то баяўся выпусціць з рук, хоць на міг адпусціць ад сябе і потым не адшукаць, ці то нічога, апроч гэтага сусветнага, поўнага зорак шолаху, не чуў, не мог у тую хвіліну расчуць. Ды і яна сябе не чула. Нічога не чула. Усе гукі ў нейкі момант зніклі. Толькі моцна — да галавакружэння — пахла сена. Побач быў Іванаў твар, і яна адпівала яго пацалункаў, каб не захлынуцца ў гэтых гарачых хвалях...

Калі пачалі астываць над імі зоркі, Ефрасіння, пачуўшы роўнае, соннае, як ёй здалося, дыханне мужа,

хацела падняцца: трэба было прынесці якую пасцілку з хаты ўкрыцца, але ледзь зварухнулася, зашабуршыла сухім сенам, Іван нягучна азваўся:

— Вось і другі сын пачаў прырастаць да горада. А ці добра гэта, Ефрасіння? А?

— Што ты гэта раптам, Іван? — спалохалася нечага яна.— Ты ж сам да вучобы іх скрозь падахвочваў. Ці забыўся?

— Падахвочваў.

— Вось я і кажу. Здольныя яны ў нас да вучобы, меншы за старэйшым цягнецца... А што ў горадзе, дык не за гарамі ж той горад. Паўтары гадзіны цягніком ад станцыі.

— Пра іншае я. Іншае ў галаве, Ефрасіння. Занадта лёгка яны з домам, з вёскай, з гэткімі вось начамі развітаюцца,— кашлянуў Іван.— Ні разумення, ні шкадавання ў вачах.

— Што ты, што ты, Іван! — замахала яна рукамі, спрабуючы сесці і яшчэ глыбей правальваючыся ў мяккае сена.— Што ты такое кажаш? Як гэта: ні рузумення, ні шкадавання? Ні грошай самі ніколі не папрасілі, ні горад ніколі не пахвалілі.

Іван маўчаў. І яго маўчанне трывожыла яшчэ мацней, чым яго словы. Быццам якраз гэта маўчанне даводзіла ёй якуюсь Іванаву праўду, толькі-толькі адчутую ім, мо яшчэ не выказаную, але адчутую ім, і праўда гэта нейкім чынам уставала паміж імі і дзецьмі, паміж імі і сынамі. А тут яшчэ ніяк не здолець падняцца, сесці і адчуць больш-менш супакойлівую ўстойлівасць, пэўнасць — і ў позе, і ў словах. «Маўчаць — лягчэй за ўсё. Пасля таго як растрывожыш другога словамі, маўчаць, пэўна ж, лягчэй»,— пакрыўджана падумалася ёй, і яна яшчэ з большым імпэтам пачала падграбаць пад сябе сена, каб займець цвярдзейшую апору,— зацерушыла колкімі травінкамі і сябе і Івана.

— Дапамог бы, чым усміхацца,— буркнула, упэўненая, што Іван пасміхаецца з яе высілкаў.

А той і праўда, відаць, усміхаецца, бо ў адказ на яе буркатню падсунуў руку, абняў за плечы, падаў, пацягнуў Ефрасінню бліжэй да сябе, да свайго пляча.

— Ці табе кепска побач за мной? — запытаўся.

І адмякла Ефрасіння ад яго пытання, ад яго голасу. Прыпала да дужага мужавага пляча, прыціхла, у маўчанне Івана, у маўчанне ночы ўслухваючыся. Трывога не адступіла, не. Мякчэйшая стала. Агульнай, адной на дваіх, і ад таго мякчэйшай. І думалася пра яе без крыўды на Івана: сказаў тое, што ўстрывожыла, забалела,— каму ж, як не ёй, Ефрасінні, і сказаць!

— Куды б ні закідала вайна, куды б ні зававлівала маладосць, а ўсё я гэту зямлю згадваў, гэты лапік яе паміж балотамі і лясамі,— нягучна загаварыў Іван, горнучы яе да сябе.— Ваяваў, вучыўся, гадзінамі, днямі ў пакоі, заваленым бухгалтарскімі паперамі, праседжваў, берагі дэбіту і крэдыту зводзячы, а ўсё помніў: на аграмаднай карце жыцця маё жыццё вось тут, на гэтым лапіку, прапісана. Не проста зямлю пад нагамі адчуваў — цвёрда ступаў па ёй, бо мая яна. Ужо і не ведаю чаму, а мая, спадчынная. І нідзе мне шчасця не будзе, апроч як тут. Разумееш? Нідзе, апроч як тут.

— Думаеш, адарве горад ад нас і Барыса і Глебку?

— Ад нас — нічога, Ефрасіннечка. Ад зямлі адрывае.

— Час, мусіць, гэткі,— уздыхнула.

— Час? Час заўсёды такі, якім яго людзі ствараюць. Перш — у душы, потым — у яве. Вось я і думаю: калі, як пачалі мы ствараць яго такім, якім ён праз дзесяцьпятнаццаць гадоў абернецца. А мо і не праз дзесяць-пятнаццаць гадоў, а ўжо абарочваецца, змушаючы задумвацца ўсё часцей...

— Мы — пачалі ствараць?! Ты кажаш: мы...

— І мы.

— Ды мы ж проста жылі, Іван. Жылі, працавалі, дзяцей гадавалі, шчасця ім хочучы.

— Бяда не ў тым, што шчасця дзецям хацелі і хочам. Бяда — перасталі верыць, што жыццё ў вёсцы некалі наладзіцца. Так, так, не верым! Паціху страцілі веру,— паўтарыў Іван, адчуўшы ў нецярплівым руху яе плячэй нязгоду.— Ды і не дзіва. Сама падумай. То коксагыз трэба было вырошчваць, то кукурузу, а лён сеяць перасталі, а грачыху з палёў звялі. Сады пазакладвалі, а ў тых садах ад недагляду бур'ян вышэй дрэў расце. Лугі, выпасы зааралі, а потым, каб карміць скаціну, галінкі ў лесе нарыхтоўваць пачалі... Яно, канечне, з галадухі не адно каровы галінкі будуць жаваць, і мы ж — мякіну ў хлеб дамешвалі. Але ж нельга ўвесь час на адчаі сваім паміж чыіхсьці абяцанняў таптацца: веру ж у лепшае жыццё, у выніку працы сваёй падтоптваем. Колькі старшынь ні мяняй, а як няма галоўнай лініі правільнай, то няма што толку чакаць. Гэтак я думаю.

— Дак мо памяняецца што, Іван. Паслухаць жа...

— Калі вушы чуюць адно, а вочы бачаць другое, ні аднаму, ні другому веры не будзе. Думаеш, ад цяжкасцей маладыя бягуць з вёскі?

— Хто іх ведае.

— Не ад цяжкасцей, не. У Сібіры, на будоўлях, не лягчэй даводзіцца, гэта як піць даць. А едуць. Будуюць. Бо перспектыву бачаць, бо павагу да сваёй працы адчуваюць. Во як яно, калі зірнуць не збоку.

— А мы чым вінаватыя, Іван? — павярнулася, голаў павярнула да яго, да цёмнага вастраносага яго профілю на фоне светлага неба Ефрасіння, і ў яе сцялася сэрца: такім далёкім, адгароджаным ад яе цэлым небам гэтым здаўся на момант Іван.— Ты, я... Мы чым вінаватыя, скажы.

— Нечым усё ж вінаватыя..

Іван памаўчаў, узіраючыся ў неба, у хітраспляцен-

ні зорак і іх промняў, і больш гучна, з раптоўнай горыччу ў голасе паўтарыў:

— Нечым усё ж вінаваты, Ефрасіння. І дзеці гэта адчулі. Адчуваюць... Анягож?

«Жыву я добра, дзеці»,— паспрабавала Ефрасіння прадоўжыць распачатае пісьмо і доўга ўчытвалася ў міжволі паўтораны сказ: згаданае толькі што — не адпускала і нібыта перакрэслівала гэтае яе «добра», а памяняй яна слова на іншае—гэтаксама няпраўда выйдзе, вось і выбірай. Уздыхнула. Паставіла кропку. Пачала пісаць далей. «Толькі думкі сумныя часам адольваюць. Вінаватыя мы з бацькам у нечым перад жыццём і перад вамі, а ў чым, мне і не зразумець, пэўна. Цяпер, адной, ужо, напэўна, не зразумець. Адно думаю: у нечым галоўным вінаватыя — у нечым, што ў душы вырастае...»

— З вуліцы відно: як урасла ўсё роўна ў стол... Дай, думаю, зазірну, пацікаўлюся,— загукала з парога, выціраючы ногі, Наста.— Пісьмо ад каторага сына прыйшло?

— Сама ўздумалася напісаць, а словы хоць абцугамі выцягвай,— адсунула недапісаны лісток Ефрасіння.— І так і гэтак падступаюся, а не дужа каб выходзіла.

— Гэта ў цябе каб не дужа выходзіла? Ды ты ж у нас граматнейшая ад усіх,— прайшла, села да стала Наста.— Дужа прыгожа хочаш мо.

— Якое там прыгожа! — адмахнулася.— Ці то сынам, ці то сабе хачу што якое з жыцця свайго растлумачыць.

— А бо! Што ў тваім — ці хоць і ў любым! — жыцці тлумачыць? Жывём і жывём. Як ёсць. Як выпала. Як павярнулася доляю ці нядоляю. Як ёсць, так і жывём. З самёханькаю ахвотаю.

— Вось і думаю: мо трэба было не так, як ёсць, а неяк іначай? А, Наста?

Спыталася Ефрасіння так ціха, так няўпэўнена, быццам не ў суседкі, якая, не хаваючы трывожнага недаўмення, утаропілася ў яе, а ў сябе пыталася і, спытаўшыся, не чакала нават, што тая адкажа, што ўсёткі — адкажа. Але Наста адказала. Не проста адказала — узвілася разам са сваімі словамі:

— Во, вы бачылі дурніцу! Чым галаву забівае! Так, не так... А за які «так» мы жыць маглі? За які «так» адступіцца ад таго, што выпала? Гэта цяпер лацвей узважаць усё ды памылкамі нейчымі вытлумачваць тое, што апусцела вёска, а колькі год мы ад бульбы да новай бульбы лебядой выжывалі? Колькі год вёскай, вясковым паходжаннем дзяцей нашых папікалі, перш чым апамяталіся крыху? Лацвей яно сёння развaжаць. Ат! Нездарма ж кажуць: і ў пекле абжывешся, то нічога... І сёння, як зірнуць, усяго хапае.

Яна змаглася. Словы сталі цішэць, а потым і зусім зніклі. Цяжар іх яшчэ адчуваўся — згорбленая імі і апусцілася Наста на лаўку, але ў позірку Насціным свяцілася ўжо шкадаванне: каму даводзіла? — разам жа гарбелі ўсе гэтыя гады і на калгасным агародзе і на сваім, адно мелі, адно елі...

— Калі б не цярпелі, не цягнулі, часам з сіл выбіваючыся, сённяшні дзень з галечы не выцягнулі б, яно так,— апусціла яна вочы на парэпаныя, цяжкія свае рукі і змоўкла.

— Тое і яно, Наста. Толькі мо задоўга цярпелі.

Сказала і спалохалася сваіх слоў Ефрасіння: звеннявая, член праўлення, а гэтак зараз развaжыла, што ўсе кругом вінаватымі выйшлі. І сама яна, і ўсе.

— А куды было дзецца, Ефрасіння? — не заўважыла яе спалоху тая.— Куды было кідацца ад хат, ад зямлі — ад памяці? Тут жа ўсё. І песні нашы. І магілы. А што цярпелі... Дык на цярпенні людскім, мусібыць,

свет стаіць. Наробішся, было, здэцца, склала б рукі на грудзях і не ўставала — вочы на свет глядзець не хочуць... Аж не. Паляжыш і ўстаеш. Турботы цярэбяць. Работа гукае.

Ефрасіння не абазвалася. Пазірала кудысьці паўз суседку — у добра звечарэлае акно, у негустое, размытае нябачным святлом неба, і ахінуты суцемкамі (святла не запальвалі) твар яе ледзь бачна свяціўся насустрач Насцінаму пагляду. Мінула колькі імгненняў, не перапыненых ніводным рухам, ніводным словам, і вось нечакана ўсхліпнула — ці мо Ефрасінні здалося, што ўсхліпнула,— Наста.

— Ты што, Наста? — кранулася яе рукі і, не пачуўшы адказу, паднялася, абышла стол, села побач Ефрасіння.— Ты што гэта, дзеўка, а?

— Маладосць успомніла, Міколу свайго,— падалася яна да Ефрасінні і як прыстыла да яе пляча.

— Гэта ж добра, што ўспомніла,— уздыхнула Ефрасіння.

Нічога больш адна адной не сказалі. Проста нейкі час моўчкі слухалі цішыню, свае ціхія думкі, каб разам, адначасова, страпянуцца, павярнуца да звечарэлага акна і прыгадаць недаробленыя на сёння справы.

— Заседзеліся!

— Добра пасядзелі. Як некалі, Наста, помніш?

Пстрыкнуў выключальнік. Хату, іх, сцішаных, размякчаных думкамі, асвяціла няяркая жоўтая лямпачка — і адразу зніклі чары шарай гадзіны, адразу наступіў вечар. Абедзве, выходзячы, уздыхнулі: наперадзе была доўгая бяссонная ноч, яшчэ адна ноч з назапашаных іх адзінотай...

Сцялася, слухаючы крокі жанчын па двары, паўз вокны, раптоўная цішыня ў хаце, на яе рух азваліся, гучней зацікалі ходзікі на сцяне. Ледзь чутна ў самым дальнім кутку рыпнула падлога, расхістаная яе дошка, быццам хто нябачны пераступіў з нагі на нагу, і ў ад-

каз спалохана міргануля лямпачка над сталом. Над засцеленым ільняным абрусам сталом, дзе, злёгку вылучаючыся на шараватым палатне, бялеў лісток недапісанага ў горад пісьма.

## XVII

«Вось як твае кнігі, Барыс, ці Глебавы малюнкі кратаю або ў руках трымаю, цяплее трохі на сэрцы: гэта ж вамі, маімі дзецьмі, зроблена, і ні я, ні бацька гэткага не здолелі б — не ўмелі, не навучаныя былі. А выйду з хаты, у двор, у агарод, услухаюся ў цішыню (на памяці ж яшчэ, што вечарамі ад песень ды ад гармонікаў звінела наваколле) — і да слёз шкада стане вёскі, вечароў яе аглухлых. Пакінутая яна, састарэлая і нікому не патрэбная. І папракнуць, здаецца, няма каго і, як яно будзе, не ўгледзець. Але неяк жа будзе.

Да нас тут днямі дзве дзяўчыны прыехалі песні збіраць. Ходзяць па хатах, дапытваюцца, просяць згадаць, што і як пелі даўней. Даўнейшае згадваецца, а як жа — не гэткае яно і даўняе! А сёння не пяе вёска. Не пяе больш. Спыталася ў тых дзяўчат, чаму? — плячмі пацiскаюць: не той час... Не той. А калі настане «той»?»

— Усё? — недаверліва азваўся Глеб, і Барысу пачулася, што голас у трубцы, абрываючы занадта працяглую паўзу, злёгку ўздрыгнуў.

— Мама просіць прыязджаць. Часцей. Сумуе...

Зноў узнікла паўза. Абодва маўчалі. Абодва прыгадалі бацьку, яго пахаванне, хоць думалі пра маці, пра словы яе, што балюча варочаліся ў кожнага з іх у грудзях. Барыс праз два дні мусіў ехаць да археолагаў у Гарадзішча, Глеба запрашалі на сцэнарную калегію, а ў суботу і нядзелю ў яго па раскладу былі заняткі ў студыі — тыдзень-другі ні Барыс, ні Глеб у вёску, да маці, вырвацца не маглі.

— Мо адпачынак — хоць бы дзён дзесяць правесці

сёлета дома? Збіраўся прыняць удзел у экспедыцыі, але... Вось ужо праўду кажуць: гадзіннік на сцяне, а час на спіне. Мо ты, Глеб, вальнейшы? — не хаваў Барыс надзеі.— Пісаць жа мог бы і дома, а? Я тут кнігі патрэбныя табе падабраў. Забяжы забяры, пакуль не з'ехаў... Як у цябе з адпачынкам складваецца?

— Яшчэ не думаў.

— На колькі дзён да мамы я за лета вырвуся, канечне. Ды тут іншае трэба, разумееш?

— Я заскочу заўтра. Абмяркуем.

— Пасля чатырох, Глеб.

— Угу. Пасля чатырох. Будзь!

Барыс з палёгкай уздыхнуў: Глеб, безумоўна, вальнейшы ў сваіх учынках — з часам у яго вальней. Вось і дамовяцца, надумаюць нешта. Найлепш было б забраць маці ў горад, да сябе, але ж у акадэмічную гасцініцу, няхай сабе і ў асобны, асабісты яго пакой у гасцініцы, яе не прывязеш. У Глебаву аднапакаёўку? Дык зноў жа — Глебаву... Не, не. Маці папросту не прыедзе, яна казала... І піша пра тое ж. Мо дарэмна ён, Барыс, так згушчае фарбы, так непакоіцца: усякая магіла травою зарастае. Часцей трэба наведвацца дадому, вось і ўсё. І Валодзіка неяк прывезці, каб нацешылася ўнукам...

Балюча прыкусіў губу, быццам спалохаўся раптоўнай думкі, затаптаўся ўкруг століка, на якім стаяў тэлефон. Ва-лодзік! Хутка паўгода міне, як не бачыў Валодзю,— званіў, цікавіўся, паслухмяна — у адказ на Верыну просьбу — не шукаў сустрэч з сынам, а гэта ж яго сын, яго, Барысаў, і ў сына — ён не спытаўся! Уражаны, спыніўся Барыс пасярод пакоя, знерухомеў, адно то сашчэпліваў, то расчапляў сухія пабялелыя пальцы і разгублена, вінавата ўсміхаўся — ці то згадцы пра сына, ці то згадцы пра Веру ўсміхаўся. Усмешка крывіла балюча зморшчаны твар і была задужа горкай, каб прынесці палёгку ці хоць крыху супакоіць: атрымлівалася, што разам з Верай аддаў...

Хруснулі балюча заламаныя пальцы, і вось ужо Барыс ліхаманкава абмацваў кішэні і, не знаходзячы таго, што шукаў, кінуўся да стала, высунуў адну, другую шуфляду, перытрос у іх паперы і паперкі, вось ужо трос, перабіраў папкі на стале: памятаецца, у яго быў фотаздымак. Быў і ёсць, пэўна. Толькі дзе?

— Ат, чорт! — вылаяў ён сябе ўголас.— І трэба ж такому...

Што — трэба, не дагаварыў. Згорблены раптоўнай стомай, апусціўся на крэсла, утаропіўся ў раскіданыя паперы, неяк мімаходзь, далёкай ад гэтай хвіліны свядомасцю, адзначыў, што так і не адправіў допіс у Міністэрства культуры пасля сваёй няўдалай паездкі ў Полацк. Потым вялым рухам рассунуў папкі і аблакаціўся на стол, падпёршы локцямі пацяжэлую, чужую галаву. Работа, работа! За работай не ўбачыў, калі, як страціў Веру, работа аддаліла, засланіла ад яго сына, а гэта ж яго, Барыса, сын. Яго сын! Гонкі, віхрасты, няйначай, клёнік. І што воласам, што тварам — яго, бацьку, прасачыў. А бацька...

Трэба было нешта рабіць. Трэба было тут жа мусова нешта рабіць.

— Ат, чорт! Як усё заблыталася!

Трэба было нешта... Думка тапталася на адным месцы і, калі нарэшце зрушылася, цьмяна, быццам неахвотна, выбліснула, то Барыс нават здзівіўся, што ўсё так проста, так натуральна і проста: сына можна ўбачыць у школьным двары, праводзіць яго пасля заняткаў дадому. Шмат, няшмат часу пабудуць разам, адзін ля аднаго, а ўсё пабудуць, пагамоняць. Не сёння заўтра заняткі ў школе заканчваюцца...

Таропка зіркнуў на гадзіннік: чвэрць на першую. Паспее. З паўгадзіны можна было нават перачакаць, перабыць тут, у інстытуце: занятак знойдзецца. Перачакае і пойдзе. Паспее. Галоўнае: супакоіцца і ўсё правільна разважыць. Ён і супакоіўся. Ён ужо спакойны.

Ён нават пачаў перакладваць, складваць у стос папкі, дакументы, хай сабе хутчэй па звычцы, хутчэй механічна, каб нечым заняць рукі, бо браў тое, што трапляла пад руку, і, не зірнуўшы на ярлычок з тлумачэннямі, клаў леваруч ад сябе.

Мінула колькі непрыемна доўгіх хвілін. Усе паперы былі складзены (даволі высокі стос іх узвышаўся на стале), усе шуфляды зачынены, і Барыс нейкі момант няўцямна ўзіраўся ў паліраваную паверхню стала, сілячыся ўспомніць, пра што ён думаў толькі напярэдадні. Пра неадасланы допіс у Міністэрства культуры? Пра запланаваную паездку да археолагаў? Колькі год займаецца гісторыка-археалагічнымі даследаваннямі аднаго з самых старажытных гарадоў усходніх славян, а кнігі пра Полацк, у якой быў бы абагулены ўвесь матэрыял раскопак, даследаванняў, разваг і навуковых абгрунтаванняў, усё яшчэ не напісаў. Усё яшчэ...

Падумалася пра гэта з горыччу: не паспявае. Вечная няўвязка з часам! Быццам час скрозь быў сам па сабе, а ён, Барыс, сам па сабе. І раней і зараз. Тлумачэнні, безумоўна, знайшліся б, ды што імі вытлумачыш? Не паспявае. Адна праца падштурхвала другую, адна паездка вымагала другой, а кніга ўсё чакала. Чакала цярпліва, як шмат хто чакаў яе, гэту кнігу.

Так, час скрозь быў сам па сабе — меў здольнасць цячы, перацякаць у неадступную бездань ззаду, недзе за спіной, здольнасць знікаць і нагадваць пра сваю ўладу нечакана, праз месяцы, а то і праз гады. Адно каб змусіць азірнуцца — і хоць бы здзівіцца, як не пашкадаваць, здзівіцца, што ніводнага разу ён, Барыс, здаецца, не падняў пагляду ад зямлі, ад камячкоў зямлі з пласту далёкага стагоддзя, якія рассыпаліся ў ягоных пальцах, перш чым ён разгадаў іх таямніцу, а бездань ззаду, за спіной, глыбела, расла і не адступалася. Калі ўгледзецца, то нават набліжалася, бліжэла кожны раз на які крок-другі. Ён, праўда, не вельмі ўглядаўся,

хоць халадок яе зрэдчас і чуў, адчуваў. І, адчуўшы, не тое каб уздрыгваў — злёгку сцінаўся: не паспявае! Нічога, здэцца, апроч работы, не мае, а і з работай не спраўляецца. Дзе ўжо тут з людзьмі разабрацца!

Раней, па маладосці, прасцей было — ўсё прасцейшым ўяўлялася: і ўчынкі людзей, і словы іх, і крыўды... «Кнігі кнігамі, сынок, а як бачыш слёзы ў вачах чалавека, утры іх, калі можаш, бо няма сярод людзей чужых»,— аднойчы, усяго толькі аднойчы папікнула яго маці, убачыўшы з кнігай у руках за пяць-шэсць крокаў ад старога кульгавага Хомкі, што, асядлаўшы лаўку, п'яна плакаў над сваімі спомінамі, і шмат аповядаў пра чалавечую мужнасць і чалавечую слабасць пачуў ён потым, як пасябравалі яны, хлапчукі, з Хомкам, і хто ведае, мо тыя яго расказы, сплятаючыся з бацькавымі ўспамінамі пра вайну, пра ваеннае ліхалецце, навучылі Барыса не адступацца ад вызначанай мэты, ад выбранай справы. «Будзь вучоным, як хочаш, а зямлі, роду свайго на зямлі не цурайся!» — аднойчы, усяго толькі аднойчы сказаў яму на дарогу бацька — і тая дарога прывяла яго ў сівую мінуўшчыну, адкуль бярэ пачатак гісторыя сярэднявечча, гісторыя роду яго. Гісторыя... Каб жа ўсё заўсёды было проста!

«Я разумею, каханне не можа абараніць ад жыцця, а жыццё патрабуе ад кожнага ўсё новых і новых высілкаў. І ўсё ж, выжываюць толькі каханнем...» — аднойчы, усяго толькі аднойчы запярэчыла яму Вера, калі ён даводзіў ёй пра важнасць, пра неадкладнасць чарговай доўгай адлучкі, і праз сем год, у тую хвіліну, калі яна прызналася, што пакахала другога, Барыс згадаў тыя словы і пакінуў свой дом. Ен не падумаў пра сына: ён кахаў Веру і помніў яе словы — ён думаў пра Веру.

Барыс думаў пра Веру і зараз, калі ішоў да сынавай школы, да сына,— згадалася раптам тая цёплая летняя раніца, калі ён у цеснай прыёмнай раддома чакаў абве-

сткі, раз-пораз ускокваючы і падыходзячы да залішне, як яму здавалася, спакойнай, занятай сваімі паперкамі сястры (тая адным узмахам вейкаў адсылала яго на месца), чакаў якой-небудзь весткі адтуль, з-за шчытна зачыненых дзвярэй. Калі дзверы адчыніліся і дзябёлая, ружовашчокая маладзіца ў белым халаце ступіла ў пакой, ён, Барыс, ужо стаяў перад ёю, са страхам і надзеяй пазіраў ёй у твар, лавіў кожны рух яе злёгку падфарбаваных вуснаў. Тая нешта казала — ён не чуў: так баяўся пачуць што кепскае, што не чуў яе слоў.

— Што? Што вы сказалі? — чапляючыся за імгненне схапіў сястру за руку, у якой бялела нейкая паперка.— Ужо вядома?

— Сын у вас. Сын. І з маці ягонай усё ў парадку,— адняла яна руку і злёгку ўзмахнула паперкай у яго перад носам.— Радавацца трэба, а то, бач, збялеў як палатно! Дачку хацеў, ці што? Сын у вас. Тры семсот. Галасісты.

— Сын... Праўда, сын? — не паверыў Барыс чаканай і ўсё ж такой нечаканай для яго радасці.— Сы-ын!!!

Радасць перамагла: не вокліч — крык вырваўся з грудзей, і маладзіца ў белым халаце засмяялася і са смехам прыклала палец да злёгку падфарбаваных вуснаў:

— Цс-с! Гэта ж раддом, а не стадыён.

Барыс разумеў, што гэта раддом, а не стадыён. Гэта ён разумеў. Але крык ірваўся з грудзей — яго цяжка было стрымаць, Барыс нават памкнуўся заціснуць яго рукой — прыклаў і прыціснуў да дрогкіх вуснаў далонь, ды ўсё ж, і нявымаўленая, радасць захліствала яго, кружыла. Ён не заўважыў, што кружыўся, тупаў вакол медсястры, вакол яе ціхага смеху, і калі смех змоўк, а яна звяла над пераноссем тонкія, вышчыпаныя бровы, збіраючыся спыніць, трохі ахаладзіць яго, Барыс апярэдзіў яе строгія словы, радасна ступіў да жанчыны і звонка расцалаваў яе ў ружовыя шчокі. І толькі потым

кінуўся ў дзверы. У дзвярах спахапіўся, згадаў, што не падзякаваў, павярнуўся на бягу:

— Дзякуй! Дзякуй, сястрычка!

— Цішэй, малады чалавек. Гэтак вы ўвесь медперсанал выведзеце са строю,— забурчаў, адступаючы ўбок, прыкрыты акулярамі і белай доктарскай шапачкай дзядок — урач, ці што? — і на словы прабачэння, якія сведчылі больш пра недаўменне Барыса, чым пра яго шкадаванне, толькі пахітаў галавой яму ўслед. Ён не разумеў, не зразумеў бы Барыса: у яго, у Барыса, нарадзіўся сын — першынец! — і, хоць бы ў гэтыя хвіліны, свет павінен быў з гэтым лічыцца. Павінен, і ўсё тут. Чалавек нарадзіўся — і ён, Барыс, меў да гэтага прамое дачыненне.

Абышоў, зазіраючы ў высокія вокны, раддом, вярнуўся да ўвахода, стаяў колькі хвілін, радасна вітаючыся з усімі, хто заходзіў у прыёмную ці выходзіў, потым згадаў, што не пазваніў, як абяцаў, цешчы, і рушыў з двара ў бок праспекта, дзе на рагу ля газетнага кіёска бялела будка тэлефона-аўтамата. На праспекце было малалюдна, і ён здзіўлена заўважыў, што горад толькі-толькі прачынаўся і яшчэ нічога не ведаў пра тое, што ў ім, у горадзе, нарадзіўся чалавек...

— У вас закурыць не знойдзецца?

— Гэта каму закурыць? Вам?!

Барыс недаўменна змераў позіркам дзвюх дзяўчын — зусім дзяўчынак яшчэ, нягледзячы на распушчаныя па плячах валасы і модныя, з мноствам кішэнек і пражак, штонікі-«бананы».

— Мо мы падаліся вам нежывымі? — паблажліва ўсміхнулася вышэйшая, тая, што з ярка-чырвонай сумачкай цераз плячо.

— Не-жывымі? Ды не,— нейкі момант разглядваў ён яе ўмела падфарбаваны твар.— Не тое каб... Просьба дужа нечаканая.

— Няма цыгарэт, ці што? Так і скажыце,— ад-

вярнулася, тузанула тую за руку яе сяброўка з вялікімі цёмнымі акулярамі над зграбным, зморшчаным зараз носікам.— А то вывернуў зенкі...

Апошняе яна буркнула ўжо цішэй, убок, але словы дайшлі да яго і непрыемна кальнулі, хоць калі задумацца, то Барыс і сам бы не адказаў, чаму раптам прыпыніўся і ўступіў у гаворку: ён жа не курыў. Ніколі не курыў. А тут дзяўчынкі зусім... З такой просьбай да незнаёмага... Косы парасплятали — і ў галаве, мабыць, няма, што кожнай некалі трэба стаць маці...

Думкі вялі Барыса далей, незаўважна ўцягваючы ў людскі вір, што бліжэй да ЦУМа і плошчы Якуба Коласа скручваўся ў тугі стракаты паток. Трэба было перайсці на цішэйшы, менш тлумны бок праспекта — да школы, дзе вучыўся Валодзя, заставалася якая сотня крокаў: адно плошчу абмінуць! — і Барыс скіраваўся да пераходу. Позірк звыкла-абыякава слізгаў па тварах, па сумках і пакунках у руках сустрэчных людзей, у асноўным жанчын, гэтак жа звыкла чапляўся за пяшчотную зеляніну бярозак, якія тут, пасярод тлумнай, забітай машынамі і людзьмі плошчы, павінны былі б уяўляць сапраўдны вясновы цуд — і ў тлуме, у штурханіне на аўтобусных прыпынках заставаліся амаль незаўважнымі. Іх, канечне, заўважалі — вось жа і Барыс пазіраў на іх! — але заўважалі хутчэй як дэкор, аздобу плошчы і помніка. Вясна... Прырода... Яны былі дзесьці далёка за горадам. Дзе заўгодна. Але ўжо ж не тут, у цэнтры сталічнага горада, куды з двух бакоў — з Камароўскага рынку і з вялікага універмага — выплёскваліся лавіны заклапочаных, затлумленых гулам і спешкай прыезджых (большасцю тут заўсёды таўкліся прыезджыя), ужо ж не тут.

Барыс часта абмінаў гэты раён і раней, апошнім жа часам і зусім у ім не бываў, хоць Акадэмія навук была ўсяго на два кварталы вышэй па праспекце. Чаму?

Патрэбы асаблівай не было, людскога тлуму ён не любіў, а яшчэ ж і Веры абяцаў...

«Дарэмна абяцаў!» — папракнуў ён сябе ў думках раз і другі, а потым паўтараў гэты папрок сабе да самай школы: стары, груваснкі будынак школы ўжо наступаў, навальваўся на Барыса ўсім сваім зарашэчаным квадратнымі вокнамі цяжарам. Барыс разумеў, што гэта толькі адчуванне, што гэта той цяжар, які ляжаў у яго на душы, прыгнечваў, і ўсё ж млелі ў каленях ногі, запавольваліся крокі. Калі ён быў тут? Два, тры леты таму? Хутчэй за ўсё ўсе пяць год мінула, а то і ўсе шэсць, што тут вучыўся Валодзя: усё неяк не выпадала, а на бацькоўскія сходы звычайна хадзіла Вера.

Вера, Вера, Вера! Нават зараз, калі Барыс ішоў да сына, перш бачыў перад сабой яе, Веру, і не толькі злосці, нянавісці да яе не знаходзіў у душы, не знаходзіў нават ранейшага болю, быццам боль пасля пахавання бацькі і тых дзён, што пабыў дома, пацішэў, прышэрх і незаўважна згас. Вось жа і на сустрэчу з сынам Барыс адважыўся і, каб не цяжар, які прыгнечваў з самага таго моманту, калі ён згадаў пра Валодзю, радасць, сапраўдная, забытая ім радасць прыналежнасці да жыцця, да шчасця, вырасшы і вырваўшыся, захліснула б і яго, і гэты дзень, першы з сонечных дзён сёлета — для яго, Барыса, першы. Каб не цяжар у душы — цяжар віны ці цяжар разумення сваёй віны перад сынам і перад Верай, напэўна, бо вось жа не было ў яго да Веры ні злосці, ні нянавісці. Нават ранейшага болю не было...

— Добра дзесяцікласнікам...

— А экзамены?

— Пець, пачакай, што скажу!

— Букет, Таня, трэба было паднесці не Юліі Віктараўне, а дырэктару. Я ж казала...

— Уф, і сонца сёння!

З ганка з воклічамі, са смехам і абрыўкамі толькі ім зразумелых гаворак пасыпаліся школьнікі ў адноль-

кава святочнай форме, і Барыс міжволі адступіў крыху ўбок, узіраючыся ў іх усё больш шчытны паток: баяўся як-небудзь прапусціць сына. У натоўпе былі і дарослыя — сяго-таго са школьнікаў суправаджалі бацькі, і ён здагадаўся, што ў школе свята, свята апошняга званка ці як яго яшчэ там называлі і сярод тых, хто прыйшоў на свята, магла быць Вера... На міг перапала дыханне. Але ўсяго на міг. Бо ўжо ў наступны міг над натоўпам, над усімі, хто спускаўся па лесвіцы, Барыс убачыў Веру, яе меднавалосую, акуратна прычасаную галаву, і не тое што супакоіўся — унутрана сцяўся, хаваючы нецярпенне, хаваючы нецярплівае напружанне, толькі рука непаслухмяна, няўцямна прыгладжвала парадзелы спераду віхор русых, як у сына, валасоў: побач з Верай, па-даросламу падтрымліваючы яе рукой, ішоў сын, трынаццацігадовы іх сын.

Адзін, другі крок зрабіў у іх бок Барыс і знерухомеў — знерухомеў, раптоўна ўбачыўшы яго, Валодзя, і Вера, якая штосьці якраз казала яму, не павароччваючыся, выпрасталася, балюча перасмыкнула плячмі. Недавер, недаверлівае чаканне ўдару чыталася ў яе позе, у яе ненатуральна выпрамленай постаці, і ў Барыса сцялася сэрца. Калі б не сынаў позірк, ён, напэўна, кінуўся б прэч, схаваўся ў натоўпе, за натоўпам: такой безабароннасці, такой бездапаможнасці (спіной, скурай адчула яна небяспеку) Барыс у Веры не ведаў, не падазраваў, але Валодзя са сваёй нерухомасці сачыў за кожным яго рухам, і Барыс непаслухмянымі нагамі зрабіў яшчэ колькі крокаў да іх.

Бясконцы паток школьнікаў, здавалася, разбіваўся ў гэтым падуладным аднаму руху віры аб нерухомыя, здранцвелыя тры іх постаці і абцякаў іх злева і справа. Зрэдку нават закранаў іх, але ні Вера, якая чаплялася позіркам за сына і так і не павярнула галавы, ні Валодзя, у якім яўна, відавочна змагаліся паміж сабой збянтэжанасць і радасць, ні Барыс (рука яго па-раней-

шаму рассеяна пагладжвала валасы ад залысіны ўгору) не заўважалі гэтага шумнага патоку. Яны былі зараз адным цэлым — цэлым, якое штоміг ірвалася, распадалася, рассыпалася і, сцягнутае позіркам Валодзі, зноў спалучалася ў адно... У адно, аграмаднае, як спадзяванне хлопчыка, чаканне, чаканне першага зруху, першага слова, што так шмат магло б вырашыць.

— Суляціч, ты чаго прыйшоў? — здалося, спіной, балючым рухам высока ўзнятых плеч спытала Вера.

— Ма-ма! — рэзка адняў руку, быццам апёкся аб яе словы, Валодзя.

— Я не магу без вас. Я жыць не магу без вас,— сказаў Барыс тое, што зусім не збіраўся казаць, ад чаго хаваўся ўсе гэтыя доўгія месяцы, і тут жа зразумеў: гэта нечаканае прызнанне вырвалася, бо ён сапраўды не мог, не зможа жыць без Веры і сына. А зразумеўшы, спалохаўся. Спалохаўся і памкнуўся хоць бы рукою крануцца Валодзі, адчуць яго наструнёнае зараз цела, адчуць яго разуменне і падтрымку. І адчуў: сын прыхінуўся да яго, гарачымі і крыху вільготнымі пальцамі сціснуў яго далонь.

Павольна паварочвалася — паварочвала высока ўскінутую галаву — да Барыса Вера, у вачах яе паблісквала недаўменне, недаўменная крыўда: ён жа, Барыс, абяцаў... абяцаў ёй... Але Барыс не пазіраў на яе, упершыню за ўсе гады, што Вера была побач, не пазіраў на яе. Ён углядаўся ў сына (як той падрос за гэты час!), ён адаграваўся цяплом, якое струменілася на яго з вачэй хлопчыка (як сарамліва і ў той жа час рашуча гарнуўся той да пляча!), ён не чакаў убачыць і ўбачыў у сыне, у яго позірку, тую ж тугу, якая спальвала і яго, Барыса,— тугу па разуменню, тугу па роднасці.

— Божа мой! — прашаптала, адступіўшы на крок, Вера, але шэпт яе патануў у тупаце, гуле крокаў і воклічаў: з высокіх дзвярэй усё выбягалі (як высы-

паліся) школьнікі, аднолькава святочна апранутыя, аднолькава ўзрушаныя і гаваркія.

— Божа мой! — з адчаем паўтарыла Вера і дрогкімі рукамі прыкрыла разгублены, спалатнелы твар.

## XVIII

Прагледзеўшы газету раз і другі, Глеб вымушаны быў пачаць зноў, за трэцім разам, перабіраць скупыя яе навіны: гаспадара кабінета не было, хто быў запрошаны сёння на савет, невядома — рэдакцыйная калегія збіралася марудна, усяго і было ў пакоі, што ён, Глеб, незнаёмы яму мужчына гадоў пяцідзесяці з даўгаватай грывай цёмных валасоў і непрыгожым шырокім тварам — хтосьці з пісьменнікаў, відаць, ды дзве рэдактаркі са студыі — Мая Барысаўна Юдава, дама строгая і з прэтэнзіямі, якія не баялася выстаўляць нават перад галоўным рэдактарам, і Соф'я Галавач, а мо Галаван, Глеб добра не помніў. Зазіраў Місь, але, павітаўшыся і зрабіўшы выгляд, што не зразумеў запытальнага позірку Глеба, знік, і з-за няшчытна прычыненых дзвярэй у калідор не было чуваць ні гуку.

Жанчыны ціха перагаворваліся ля акна, забыўшыся на кінутыя на крэсла паперы, незнаёмец заглыбіўся ў свае запісы і наўрад ці зважаў на каго: штосьці крэсліў, штосьці ўпісваў у блакнот, то рэзка ўскідваючы галаву — і тады валасы цёмным крылом узляталі і на імгненне рассыпаліся ў паветры, то апускаючы яе ўслед за няўцямным, адасобленым ад усяго вакол позіркам — і тады валасы абвісалі, зацяняючы твар. Глеб цішком назіраў за ім, бо ў газеце вычытаць што якое было ўсё ж цяжка: што ні нататка, то пра чарговыя дасягненні, што ні артыкул, то шаблонны, адной і той жа фарбай пісаны «сацыяльны» партрэт, што ні здымак, то ўсмешка ва ўсю паласу... Звыкла штучна. Звыкла нецікава. Мо таму, што ён праглядваў газету ўжо за трэцім

разам, з'явілася нават якаясь прыкрасць: працуем усё лепш і лепш, здабываем усё больш і больш, а дзе яны, тыя лепш і больш, спытаць няма ў каго. Газеты пра тое не пішуць. І марна, як на яго, Глеба, думку, не пішуць, бо калі людзі не знаходзяць тлумачэнняў у газеце, яны звяртаюцца па іншым адрасе, хоць бы і па самаму няпэўнаму: «адна баба сказала»...

Паспрабаваў засяродзіцца на той паласе, дзе ішлі навіны пра розныя падзеі ў свеце, і лена, зглынуўшы няпрошаную гарчынку ў думках, адзначыў, што і тут навін, па сутнасці, не было: выступленні супраць гонкі ядзерных узбраенняў і, нягледзячы на гэтыя выступленні, падрыхтоўка да размяшчэння амерыканскіх «першынгаў» ў Еўропе, пашырэнне агрэсіі Ізраіля на Бліжнім Усходзе і ўсебаковая падтрымка яе Злучанымі Штатамі, «палесцінскае» пытанне і бездапаможнасць у гэтым пытанні ААН... Мажліва, таму, што пісалася пра ўсё гэта такімі ж сухімі сцёртымі словамі, што і ўчора, і тыдзень, і год назад, страшныя, калі спраецыраваць іх у будучыню, падзеі не закраналі душы, успрымаліся як звычайная інфармацыя пра штосьці далёкае і безадноснае да гэтага дня, да яго, Глеба. Запыніўшыся на гэтай думцы, Глеб міжволі павёў плячамі, быццам страсаючы з плеч што цяжкое, нязручнае, і адклаў газету. Не яго розуму гэта былі пытанні, не яго кампетэнцыі.

«Во, во! — паддражніў сябе.— Харошая замена старога выслоўя: «мая хата з краю» — ні табе хвалявання, ні табе адказнасці».

Настрой псаваўся. Абрыдла пазіраць у газету. Абрыдла гэта чаканне невядома чаго ў задушлівым пакоі. Хвілін сорак прайшло, не менш — і час бы ўжо міністэрскім клеркам (Міканор жа менавіта іх сустракаў, няйначай) з'явіцца, уважыць публіку, а то, чаго добрага, да ядзернай чартаўшчыны можна дадумацца. Ен, Глеб, не ўмеў так, як гэты незнаёмец з блакнотам, адасобіцца ад рэальнасці: тройчы перачытаныя клішэ

падсвядома запалі ў душу і не тое каб задужа тузалі, але спакою пазбавілі. А тут яшчэ і невядомасць: чаго, запытацца, выклікалі? Новага варыянта сцэнарыя ў яго не было, а што тады збіраліся абмяркоўваць?

— Добры дзень, таварышы. Міхась Пятровіч, вам асабістае вітанне,— рушыў да стала паперадзе Міканора мала знаёмы Глебу інструктар Міністэрства культуры, але ні на яго, ні на астатніх Глеб ужо не зважаў. Міхась Пятровіч... Мо ён быў не хто іншы, як вядомы сваімі гістарычнамі раманамі пісьменнік Міхась Ляховіч?

Глеб не адводзіў ад яго вачэй: амаль няўлоўна, зрэдчас зрушваліся тонкія зморшчынкі ў куточках яго крыху грэбліва сцятага рота і, бы ў адказ на гэты рух, уздрыгвалі, ссоўваліся на скронь рассыпістыя яго валасы. Схіліўшы, крыху падаўшы ўперад галаву, сядзеў ён у крэсле звыкла ўпэўнена, раскавана, і толькі лёгкае паторгванне пляча, якое здавалася вышэйшым, выдавала неспакой рук, што сціскалі блакнот.

— Свет не такі, каб уладкавацца ў ім зручна? Што вы маеце на ўвазе, Міканор Іванавіч? — ледзь прыкметным узмахам рукі адкінуўшы са скроні валасы, падняў ён раптам галаву, і Глеб здзівіўся: атрымлівалася, што Ляховіч услухваўся ў гаворку і ўслухваўся ўважліва.

— Толькі тое, што, куды ні скіруй крок, заўсёды знойдзецца нехта, хто стане папярок дарогі... Вы ж разумееце, Міхась Пятровіч!

— Не ўсё разумею. Давайце па парадку. Сцэнарый быў зацверджаны Масквой. «Дабро» на пастаноўку атрымана. Паўгода, як завершаны здымкі фільма. Адбыліся першыя прагляды. Акрэсліліся розныя — супрацьлеглыя, як заўсёды здараецца,— пазіцыі ў адносінах да яго. І што?

— І фільм не зацверджаны. Два дні як я вярнуўся з Масквы...

— І што вы зрабілі за гэтыя два дні?

— Я?! — не зразумеў Міканор і зірнуў на прадстаўніка міністэрства, шукаючы падтрымкі ці мо апраўдваючыся.

— Наколькі мне вядома, галоўны рэдактар кінастудыі — вы, Міканор Іванавіч.

Ляховіч усміхаўся, але ўсміхаўся вяла, стомлена, і таму ўсмешка нікольні не змякчала выраз яго твару — адно позірк пасвятлеў, хоць гэта магло проста здавацца, бо твар быў упершыню адкрыты, адкрыта павернуты да ўсіх, хто сядзеў за сталом.

— Міканор Іванавіч дакладваў,— пасляшаўся адказаць на гэту ўсмешку прадстаўнік міністэрства (ён яўна пачуваў сябе няўтульна ва ўтульным Міканоравым крэсле, хоць яшчэ колькі хвілін таму, здавалася, узвышаўся над сталом).

— Не лішне было б і нам што якое паведаміць, апроч самога факта і сваіх шкадаванняў. А? — абвёў усіх прысутных позіркам Ляховіч і злёгку прыўзняў шырокія густыя бровы (невядомы хтосьці?), калі на міг затрымаўся на асобе Глеба.— Мо разам надумаем што.

— Матывы адмовы: фільм зроблены ў стылі фільмаў-жахаў — перагрувашчаны сцэнамі здзекаў над людзьмі, сцэнамі расправы і папахвае адчаем.

— Часта адчай спапяляў усё ў чалавеку і вакол яго... Вы, відаць, не помніце гады вайны, Міканор Іванавіч?

— Што я? Пры чым тут я? — заёрзаў той.— Я рабіў заўвагі да сцэнарыя і адносна пастаноўкі, але ж подпіс свой паставіў, нават сяго-таго ў міністэрстве пераканаў у магчымасці...

— Можа, трэба было пераконваць не ў магчымасці, а ў неабходнасці выхаду такога фільма сёння? —уставіў сваё, перапыняючы непераканаўчыя апраўданні Міканора, насуплены, злосны нават (відаць, папярэдне ў яго ўжо адбылася гаворка з ім) рэжысёр Іван Цяс-

люк.— Свет на мяжы ядзернай катастрофы, а ў кінематографе пануе прыпраўленая песенькамі мярцвячына. Накшталт: «Неплохо очень иметь три жены...» Гэтага, дазвольце спытаць, не хапае ў маім фільме? Дык ён жа пра іншае, гэты фільм. Пра каштоўнасць чалавечага жыцця. Кожнага жыцця! Пра бяздумнасць, якая нападобе бяздушша і параджае злачынства. Пра злачынства і злачынцаў перад нашым народам, перад усім чалавецтвам. Што больш актуальнае сёння? Што?

— Я прашу вас, Іван Назаравіч. Я вас вельмі прашу! — паморшчыўся інструктар.

— Не разумею вашай просьбы,— адрэзаў той.— Ні камітэт па кінематаграфіі, ні міністэрства не зацікаўлены ў сур'ёзных фільмах — іншай высновы зрабіць не магу.

— Іван Назаравіч! Ну, нельга ж так,— ажно прыўзняўся ў крэсле Міканор.— Пэўныя заўвагі, пэўныя папрокі, можна было б і прыняць, яны справядлівыя: у фільме, па сутнасці, няма перамогі...

— Мо ў часы, калі ўсе гавораць адзін паўз аднаго, для таго, каб цябе зразумелі, трэба ўсё разжоўваць неаднойчы, я не ведаю. Але даводзіцца. Нягледзячы на тое, што гаворка ідзе пра прапісныя ісціны. І ідзе даўно. Даўно, заўважце, Міканор Іванавіч, і бес-прадметна. Так, так, беспрадметна. Таму што гаворым, за колькі дзесяцігоддзяў прывыклі гаварыць пра народ — увогуле, пра перамогу — увогуле, пра перавагу нашага ладу жыцця — увогуле... Працягваць? А народ — гэта людзі. Розныя. З рознымі чалавечымі лёсамі. І з такімі, якія мы паказалі ў фільме. Балюча, трагічна паказалі, але хто можа аспрэчваць сёння іх лёсы, іх рэальныя — жахлівыя! — смерці?

У кабінеце стала ціха: не перашэптваліся больш жанчыны, не гартаў якіясь свае паперы Місь Кіцын, нават Міканор перастаў ёрзаць у крэсле. Глеб, пашкадаваўшы, што ў свой час не быў на праглядзе фільма

Цеслюка, зірнуў на Ляховіча: што той? Ляховіч, схіліўшыся над блакнотам, пісаў, і па тым, як спяшаўся запісаць штосьці па ходу гаворкі і ў той жа час баяўся прапусціць хоць слова таго, што казаў малады рэжысёр, як наструніўся, слухаючы, было відаць, што цікавасць яго вырасла. Ён нават выглядаў маладзейшым — так пасавала яму ўзрушэнне.

— Не веру,— рашуча працягваў Цяслюк,— ніколі не паверу, што фальшывымі словамі, як і фальшывай манетай, можна аплаціць хоць адзін пражыты дзень. Што ўжо казаць пра цэлы перыяд гісторыі! А азірнуцца... Плацілі. Не адзін год плацілі. І дагэтуль плацім, калі па шчырасці. Да якога ж часу, а, дакуль? Вось вы, Міканор Іванавіч, чыесьці словы паспяшаліся паўтарыць: няма, маўляў, перамогі... А што для вас, для вас асабіста, перамога ў той вайне? Хіба перамога не азначае таксама страту — страту непамерную, незваротную? Праз трыумфальную браму разам з жывымі прайшлі мільёны мёртвых, на святочных сцягах гарэлі водсветы мільёнаў пажарышчаў, гром святочных аркестраў не мог заглушыць, нават працішыць грому адшумелых баёў, у згадках пра слынныя бітвы дагэтуль гарчыць усведамленне таго, што яны, тыя бітвы, былі жудаснымі бойнямі.

— Не трэба так азмрочваць усё, таварыш Цяслюк. Вы малады...

— Вы таксама малады, прабачце, не ведаю ваша імя і імя па бацьку,— узмахам рукі быццам адгарадзіўшыся ад стала, рэзка павярнуў ён галаву ў бок інструктара.— Але ж маладосць — не апраўданне бяздумнасці.

— Мо ўсё-ткі не ўсё ў фільме атрымалася, Іван? Не ўсё, як думаў, як хацеў, а? — памкнуўся змякчыць гаворку Місь.

— Не ўсё. Хто кажа, што ўсё! Але ж фільм не пускаюць на экран, як ты ведаеш, не тады, калі не

ўсё атрымалася, а калі — не атрымалася. Калі фільм не атрымаўся.

— Фільм атрымаўся.

Гэта гучна, выразна прамовіў Ляхові — і ўсе галовы павярнуліся да яго. Разам.

— Фільм атрымаўся, і вы ўсе ведаеце гэта так жа добра, як я,— паклаўшы закрыты блакнот на стол перад сабой і гэтым рухам быццам пацвердзіўшы рашучую гатоўнасць прадоўжыць гаворку, паўтарыў ён яшчэ раз.— Можна было б згадаць тое аграмаднае — да агульнай нематы — узрушэнне, якое панавала ў зале сярод тых, хто прыйшоў на прагляд, можна было б прывесці колькі аўтарытэтных выказванняў, якія я чуў пасля прагляду, ды, на маю думку, няма ў тым вялікай патрэбы: усе мы людзі аўтарытэтныя, і, калі кожны скажа за сябе, скажа тое, што думае, карціна будзе дастаткова яснай. І для нас, і для міністэрства.

— У міністэрстве ёсць думка...

— Чыя? Думаю, мы можам пацікавіцца, чыя думка?

— Ну-у... Вы ж ведаеце...

— Не ведаю. Спадзяюся, што не міністра культуры: Сафрон Барысавіч, наколькі помню, фільма не глядзеў. А думка аднаго аддзела, няхай нават такога зацікаўленага, як ваш, яшчэ не думка міністэрства. Так што давайце дамовімся ні ўніз, ні ўверх, ні на кога не ківаць.

— З вашаю думкаю, Міхась Пятровіч, палічацца ў міністэрстве,— падсаладзіў кіслую міну Міканор.

— А з вашай?

Глеб усхвалявана сачыў за гаворкай. У душы яго ўзнікла шкадаванне, пакуль што безыменнае, неўсвядомленае да канца, і яно, гэта шкадаванне, змусіла Глеба больш пільна прыгледзецца да Цеслюка. Малады. Занадта малады. Калі б не разумны, засяроджаны твар, на якім двума цёмнымі гарачымі вугельчыкамі

выпраменьвалі нябачную, добра адчувальную энергію вочы, тут, сярод асоб самавітых, у большасці сваёй абцяжараных жывоцікамі і пачуццём уласнай годнасці, выглядаў бы чужым. Больш таго — выпадковым. Але ж вочы... Такі пагляд сустракаўся нячаста, перадаць яго на палатне, а тым больш на малюнку, было б немажліва, адзначыў гэта міжволі прафесійным зрокам. Але адзначыць адзначыў, а рука сама пацягнулася да алоўка, які заўсёды быў у кішэні разам з невялікім блакнотам.

— Вы дазволіце?— спытала, какетліва выставіўшы сагнуты палец з доўгім ярка пафарбаваным пазногцем, Юдава.— Я каратка.

Ярка-малінавы пазногаць шкрабануў напружаную цішыню, і тая адазвалася ледзь чутным звонам. Гэта задаволіла Юдаву: рука яе мякка апусцілася на стол, мякка лягла на пульхны стос ужо добра пацёртых аркушаў чыйгосьці сцэнарыя, мякка варухнулася там.

— У свой час шмат нараканняў — і справядлівых! — выклікаў сцэнарый фільма. Нават назва, першапачатковая назва, была, мякка кажучы, не наша. «Патрабуецца ахвяра»... Жахліва! Ды і трактоўка... Літаратурны твор, пакладзены ў аснову, даваў некалькі іншае асвятленне.

— Прабачце, а вы чыталі «літаратурны твор»?— паморшчыўся Ляховіч.— Апроч сцэнарыя?

— Жартуеце, Міхась Пятровіч? Я, рэдактар з дваццацігадовым стажам, не ведаю, што мне трэба чытаць?— падцяла вусны тая.

— Тады, калі ласка, ясней пра асвятленне... Мо мы чаго не заўважылі ў аповесці. Здараецца, ведаеце.

— У сцэнарыі, які Іван Пятровіч хоць і не заўсёды ахвотна, але ўсё ж дапрацоўваў і значна дапрацаваў, паглыблена і тым выпучана трагічнасць, ахвярнасць страшных ваенных гадоў. І сам па сабе гэты прыём дапушчальны. Але тыя сцэны, дзе карнікі распраў-

ляюцца з насельніцтвам (а гэта цэнтральныя сцэны фільма), больш чым страшныя. Ад іх патыхае — не-не, нават не адчаем! — паталогіяй: боль, пакуты, пакутны страх, які нагадвае жывёльны, дзікае музычнае суправаджэнне дзеянняў фашыстаў... Сэрцы ледзянеюць на гэткае глядзець!

— Дык для таго ж і здымалася, каб зачапіць, растрывожыць, прымусіць задумацца,— не стрымаўся і перапыніў яе манерна-самаўпэўненыя разважанні Цяслюк.

— Іван Назаравіч! — зноў чыркнула па паветры ярка-малінавым пазногцем тая.— Чалавек, як і чалавецтва, робіцца лепшым не ад ведання гісторыі ва ўсёй яе аголенай праўдзе, не ад вопыту, які чэрпае з яе ўрокаў, а ад дакладнага ўсведамлення мэты свайго існавання, ад усведамлення свайго прызначэння на зямлі.

— Я не перапыняў вас, Мая Барысаўна, толькі з павагі,— адкінуўся на спінку крэсла, звёўшы на грудзях рукі, Ляховіч.— Дзіўна, што можна думаць пра сваё — ці чужое — прызначэнне на зямлі, адпіхнуўшы веданне гісторыі, яе праўду і ўвесь той вопыт, які чалавецтва чэрпае з яе ўрокаў. Яшчэ больш дзіўна, што падобныя думкі выказваюцца ва ўстанове, якая па свайму статусу з'яўляецца творчай. І тое, што сёння не прысутнічае ніхто з камітэта...

— Чаму ж не прысутнічае? Пётр Апанасавіч Леўчык, намеснік старшыні камітэта па кінематаграфіі,— падняўся з крэсла, адсунутага да акна, невысокі галавасты мужчына ў шэрым касцюме і, ледзь толькі да яго, здаецца, нікім раней не заўважанага, павярнуліся, на момант схіліў галаву і сеў.— Перапрашаю тых, з кім не знаёмы, за інкогніта: хацелася паслухаць. Як бы збоку.

— Што ж, паслухайце! — прадоўжыў, кіўнуўшы, Ляховіч.— Мастацтва... Мінулае і будучыня працінаюць адно аднаго, суіснуюць побач, спалучаюцца і, нягледзячы на ўвесь уяўны спакой і ўладкаванасць

у прыватным, малым, палохаюць і сваёй складанасцю і сваёй крохкасцю. Палохаюць, а трэба, каб змушалі думаць, дзейнічаць. Вось для чаго мастацтва.

— Але ж гэта зусім не азначае, што трэба паказваць толькі жахлівае, толькі балючае! Ва ўсім павінна адчувацца веліч чалавека, веліч яго прызначэння на зямлі,— уставіў Міканор.

— На якой зямлі, начыненай ядзернаю зброяй?— не хаваючы іроніі, удакладніў Ляхові і, не дачакаўшыся адказу, прадоўжыў: — Мы ўсё ніяк не можам усвядоміць, што ходзім над прадоннем, па самым краі яго, і ў гэтае «мы» ўваходзяць не «я, ты, ён, яна...», а ўсё чалавецтва: адзін няпэўны, неабдуманы крок — і ўсё абваліцца ў апраметную. Усё і ўсе. З гэтым не пагаджаюцца ні сэрца, ні розум, і ўсё ж гэта так. Гэта страшней, чым так. Дык хіба можна сёння абвінавачваць мастака за тое, што ён адчувае трывогу мацней і імкнецца зрабіць яе ўсеагульнай? Хіба перабольшанне — паказ жахлівай смерці тысяч, дзесяткаў тысяч людзей у часе мінулай вайны, калі ў любы момант можа выбухнуць катастрофа, якая паглыне мільёны, мільярды жыццяў? Рэжысёр паставіў фільм, наблізіў, агаліў праўду факта, і гэта праўда змушае жывыя чалавечыя сэрцы ледзянець ад жаху — за што ж яго асуджаць? Хіба лепш рабіць выгляд, што не бачыш, як жывыя чалавечыя сэрцы заплываюць тлушчам спакою, спакойнай абыякавасці? Маўляў, навошта ўскладняць. Маўляў, за намі не прападзе — паспеем... А як не паспеем? Як прагледзім — усе разам, папярэдне таму, хто бачыў, хто спрабаваў гаварыць, рот заткнуўшы? Не першыня ж...

— Вас паслухаць, Міхась Пятровіч, дык выходзіць, Цяслюк зрабіў фільм, за які яго трэба тут жа лаўрамі ўвянчаць,— роблена рагатнула, патрафляючы начальству, Юдава.

— Лаўрамі час распарадзіцца, не пра лаўры гаворка, і сумна, што вы гэта не зразумелі. Думаю, ваша —

і не толькі ваша, як паказала сённяшняя сустрэча, неразуменне і ім, гэтым неразуменнем, выклíканая абыякавасць да лёсу фільма ў нечым і стварылі сённяшнюю сітуацыю.

— Пабойцеся бога, Міхась Пятровіч! — без асаблівага імпэту запярэчыў Міканор. — Фільм жа не зацвердзіла Масква. Масква, а не мы.

— А ў Маскве хто фільм прадстаўляў? Вы?

— Гэта не паўплывала на рашэнне, магу вас запэўніць.

— Шкада. А трэба было б, каб паўплывала.

— Каб пераканаць іншага, трэба быць пераканаiным у сваёй праваце самому, — сумна ўсміхнуўся Цяслюк.

— Вось вам, Іван Назаравіч, і будзе дадзена права пераканаць таварышаў з Масквы. Пры нашай падтрымцы, — падняўся Леўчык і, заўважыўшы, што Міканор ускочыў з-за стала следам, рукой паказаў яму, што ў тым не было патрэбы. — Прызначым новы прагляд — частка за часткай — з абмеркаваннем кожнай з іх, і будзем вельмі ўдзячны, калі вы, Міхась Пятровіч, зможаце прыйсці.

Ён кіўком галавы развітаўся і выйшаў, і колькі імгненняў над сталом, над ужо добра такі распаранымі ўдзельнікамі гаворкі вісела цішыня. Потым усе заварушыліся. Забубнілі, абмахваючыся аркушамі паперы, жанчыны. Схіліўся з бутэлькай мінеральнай вады да прадстаўніка міністэрства Міканор. Падкрэслена абыякава, ні на каго не пазіраючы, уціраўся хустачкай Місь Кіцын. Пакутліва наморшчыўшы маленькі лобік, пераглядаў спісаныя ім лісты пратакола Міканораў памочнік. Згроб у пяцярню блакнот і перасеў да Цеслюка Ляховіч — і Глеб, які пацягнуўся да іх позіркам, пачуў, як ён ціха загаварыў да маладога рэжысёра.

— Мяркую, мы прадоўжым пасяджэнне пасля невялікага перапынку, — павысіў голас Міканор. — Другое

пытанне кароткае. І не такое вострае. Вы гатовы, Глеб... Іванавіч?

Злавіўшы кароткі позірк Ляховіча і адчуваючы, што чырванее, Глеб перасмыкнуў плячыма.

## XIX

— Хто не задумваўся над тым, адкуль прыйшоў ён і куды знікне, чаму жывое жыццё, якім бы пакутным, якім бы шчаслівым яно ні выдалася, колькіх высілкаў ні каштавала б, не пакідае якога-небудзь значнага следу ў вечнасці, заўсёды чужой і абыякавай? А вось жа і задумваўся — ды зноў і зноў кідаўся ў кіпенне, мітушэнне стракатага, часцей вартага адно жалю, часта жудаснага, але шматфарбнага і, галоўнае, рэальнага жыцця. Жыццё скрозь паварочвала на сваё: зіму змяняла вясна, ноч саступала ранку, скалечаная маланкай, мёртвая вярба пускала новы парастак, каб праз год-другі, зазіраючы ў люстэрка Палаты, дзівіцца на свае завушніцы. Што ж чалавеку, якому сам бог наказваў: што зробіш — тое скарыстаеш, дзе зграшыш — там пакаешся? Чалавек слабы. І быў бы ён слабы адно перад небам, а то і перад самім сабой слабы: колькі раз тварыў сам не ведаў што, не чуючы рукі, волі ўсявышняга, не маючы сілы ці розуму апамятацца. І яна, Ефрасіння, паддаецца слабасці зрэдку, толькі зрэдку, бо ведае, помніць штохвіліну, што гэта не яна, смяротная, жыве на зямлі, а вечнасць жыве ў ёй, Хрыстос жыве ў ёй, пакуль жывая вера, пакуль імкнецца яна ўзвысіць дух свой. «Грэх бо вамі не валодае: не ёсць бо пад законам, а пад божаю ласкаю»,— вуснамі апостала Паўла моўлена, а і яна, Ефрасіння, паўтарае словы яго, думаючы над тым, што павінна зрабіць і зробіць за жыццё свае для сябе і для людзей.

Узвысіць дух свой — гэта запаведзь для кожнага: і для таго, хто жыве з богам у душы, і для таго, хто

бога не ведае, і яе, гэту запаведзь, адно давесці трэба да людзінаў — дзень і ноч трэба даводзіць: дзе малітвай, дзе прыкладам, а дзе і сілай, як іначай нельга, каб выкараніць ідалапаклонства,— дзеля іх жа карысці, дзеля карысці ўсёй грамады.

Княства полацкае, як і ўся Русь вялікая, даўно належыць да хрысціянскага свету, даўно валодае пісьменнасцю і любоўю да навук і рамёстваў, і каб перамог дух, моцны верою хрысціянскай, моцны вечнай прагаю ачышчэння, часам нябачнаю, непрыкметнаю ў чалавеку, а ўсё адно жывою, неперарможнаю, і кожнаму, хто абраны богам, хто слугуе яму і людству штодзённаю малітваю, штодзённаю працаю, трэба спрыяць таму. Не хлебам адзіным... Важна давесці, а як не давесці, дык убіць, уцямяшыць у галовы: не хлебам адзіным жывы чалавек, не хлебам адзіным! Вялікая праўда ў гэтых словах, на ўсе часы вялікая. Ей, гэтай праўдай, несмяротнае хрысціянскае вучэнне, яна, Ефрасіння, гэта з кніг, з пісанняў зразумела. Зразумела, хоча, каб і іншыя зразумелі, каб як мага больш людзей далучылася да перапісвання кніг, каб больш было кніг праведных і ў манастырах і ў пакоях княжых ды баярскіх. Найперш — у манастырах, што з'яўляюцца асяродкамі асветы, асяродкамі навук розных, каб з іх, з манастыроў, разыходзілася праўда. Праўда і вера...

Без хлеба не жыць чалавеку, гэта так, гэтага ні Ефрасіння, ніхто іншы ў гэтыя і любыя часы не аспрэчваў: нават чытаць страшна пра галодныя засушлівыя леты (у летапісах нямала такіх летаў згадваецца), калі люд сем'ямі ад галадухі мёр, калі цэлыя паселішчы вымiралі. Без хлеба нельга: на хлеб працуюць людзіны, колькі свет стаіць. І ўсё-ткі не раз, не два за век чалавечы паўторана: не хлебам адзіным... Бо было б інакшай, чалавек ад зямлі, ад сахі вачэй не падымаў бы, ні спеў птушыны, ні слова разумнае яго вуха і яго душы не кранулісе б, ні любоў, ні гнеў у яго сэрца жар не

ўдыхнулі б. Было б інача́й — сляпою, ірадскаю душа яго засталася б.

Не, адбяры ў людзей неабходнасць духоўнага ачышчэння — і пазбавіш чалавечае быццё і сэнсу і значэння, адбяры ж веру ў гэту неабходнасць — і парушыш усе яго маральныя ўстоі, прынізіш чалавека ў яго ўласных думках. Не адбіраць, не знішчаць трэба веру, а мацаваць, як ільга: ён прыйдзе, ён наступіць, час пераўтварэння свету, калі, як мовіць апостал Пётра, «будзе новая зямля, новае неба, у іх жа і жыве праўда».

Прыйдзе, наступіць той час (за гэта малілася Ефрасіння)— калі не будзе ні беднага, ні багатага, ні раба, ні пана, ні вернага, ні нявернага, калі ўсе людзі прызнаюць адзін у адным брата свайго і, падаўшы адзін аднаму рукі, утвораць адзін братні хор, і гэты хор будзе не той песняй несвядомай радасці і дзіцячай весялосці старога, жывёльнага і неадухоўленага людства, што мела асалоду ад усёй паўнаты жыцця на ўлонні прыроды, але ўрачыстым гімнам высокай, свядомай насалоды гарманічнай, сузіральнай, спакойнай, без гора і без радасці, без стогнаў зямной пакуты і без клікаў шалёнай весялосці, без хваляванняў страсцей і жаданняў. І каб прыйшоў гэты час, каб загучаў гэты гімн і дух не страціў сваёй сутнасці, ён, дух, павінен стаць уладай. Павінен стаць вярхоўнай уладай, вышэй ад улады княжай. Як? Калі? Гэтага Ефрасіння не ведала. Не ведала і імкнулася ўведаць. І таму шчыравала ў манастыры. І таму шукала падтрымку і ў біскупа, і ў мітрапаліта Кіеўскага, і ў самім Іерусаліме. Што ж, няхай і гаварыць, і тварыць імкнулася праўду, якую не ўсведамляла, але якой прагнула...

— Што ў цябе, сястра Малання?— бы толькі зараз заўважыла Ефрасіння мнішку на парозе сваёй келлі, хоць тая, схіліўшы галаў, пакорна чакала яе ўвагі ўжо колькі хвілін.— Якая патрэба прывяла цябе ў гэты час?

— Патрэбы няма, маці-ігуменя. Ты прасіла дакладаць, калі што неразумнае ўчую ад шаляніцы Еўкі ў сценах манастыра. З дакладам прыйшла.

— Прыйшла, дык дакладай. Я слухаю,— пільна, прыдзірліва агледзела яна маладзенькую служку Хрыстову (баярская дачка — пакоры цяжка навучаецца) і засталася задаволеная аглядам.— Зноў спявала Еўка?

— Спявала, маці-ігуменя. Адна. Сама з сабою. Калі трапезную прыбірала. Я прыпынілася, пачуўшы. Загад твой згадала і прыпынілася, паслухала.

— Не загад то быў, просьба, сястра Маланя. Просьба. З тым, каб не разыходзіліся па манастыры словы, хворай душою народжаныя.

— Але. Просьба, канечне. Прабач, маці-ігуменя. Тое і казаць хацела. Згадала тваю просьбу і спынілася, паслухала. Дзіўныя словы пачула.

— Якія ж гэта словы?

— Грэх паўтараць іх нябось, але памятаючы... Зараз... Я зараз,— сумелася пад пранізлівым позіркам Ефрасінні тая.— Я запомніла: песня то была, але песня, нечуваная ў нашым краі,— мусібыць, Еўка прывезла яе знекуль.

— Якая ж гэта песня?— не стрывала і больш настойліва перапыніла яе Ефрасіння.

— Пра сэрца. Вось: «Песня працята стралой — радасць не мае шчыта, болем, крывёю сцякло сэрца і — ўкруг чарната. Чорную даль спавілі чорныя стужкі дарог: чорную тушу зямлі ўсцягвае ноч на парог. Чутна, як стогнуць бары: мёртвае — боль аднавіў... Чорныя зоркі ўгары, чорныя зоркі ў крыві! Міг — і скуе немата, міг — і загіне любоў... Радасць не мае шчыта і — не заслоніш сабой...»

— Мёртвае — боль аднавіў?!

— Гэта Еўчыны словы, маці-ігуменя! Я запомніла...

— Як жа ты запомніла, сястра Malанння? З аднаго разу цяжка ўсё запомніць. Мо неаднойчы чула? — падняла на яе цяжкі пагляд Ефрасіння, хоць думкі яе былі далёка, і гэта былі гнеўныя думкі.

— Еўка колькі часу бязладна мармытала іх раз-пораз, вяртаючыся назад, да пачатку, быццам тут жа, у тыя хвіліны, і складваліся словы ў песню. А, мусібыць, усё ж прывезла іх знекуль, проста прыгадвала — вось і тапталася па трапезнай. Па словах гэтых грахоўных тапталася...

Наўрад ці чула Ефрасіння яе тлумачэнні: хто-хто, а яна ведала, што не магла Еўка ніадкуль прывезці свае песні — сама складала, няйначай, бо вось жа і бяда яе ў песнях чулася, але была бяда ўжо крыху іншай, быццам не толькі Еўчынай, быццам ператваралася пад уздзеяннем якойсь душэўнай сілы ў кранутую горыччу мелодыю. Занадта свецкую мелодыю, каб льга было ёю захапляцца, і ўсё ж мелодыю... Адкуль у гэтай нябогі падобныя словы і мелодыі? Яна ж і грамаце не вельмі навучана: чытаць па пісанаму можа, ды што чытала, што магла прачытаць, вырасшы, пражыўшы ўсё сваё свядомае жыццё ў вазку скамароха?!

З кнігамі, сярод кніг вырасла яна, княжая дачка, дзесяткі кніг, пісанняў розных не па аднаму разу перапісвала — у памяці магла аднавіць ледзь не любую старонку, сваімі словамі, сваім натхненнем не адну з іх (для сябе!) дапоўніўшы, дапаўняючы штораз. А каб так, як Еўка...

Рука звыклым малітоўным рухам слізганула да прыкрытага нагалоўнікам ілба (пра што яна, Ефрасіння, думае!), і, перахрысціўшыся раз, і другі, і трэці, ігумення са здзіўленнем заўважыла, што маладзенькая служка ўсё яшчэ ля дзвярэй і, падняўшы ўгору вочы і паўтарыўшы яе рух, пазірае на яе, чакае яшчэ якогась пытання.

— Ты дагэтуль не там, дзе ўсе іншыя, не шчыруеш

над пергаментам, сястра Маланння? Хіба я не адаслала цябе, выслухаўшы? — сурова звяла яна тонкія бровы.

— Я павінна была сказаць, маці-ігуменння, што ў трапезнай чакае цябе Іаан, манах з Барысаглебскага манастыра, кажа, што клікала...

— Цяпер ты ўсё сказала? Ці яшчэ што важнае, завучваючы Еўчыну песню, запамятавала?

— Цяпер усё...

— Ідзі. Скажы сястры Еўпраксіі, што звыш таго, што звычайна робіш, яшчэ тры старонкі святога пісання перапішаш, вячэрнюю ж малітву і за сябе і за Еўку, за ўратаванне душы яе, прачытаеш, каб адвадзіць думкі грахоўныя і словы грахоўныя і ад яе і ад цябе. Да Іаана ж зараз буду.

Мнішка не выйшла — выпырхнула з келлі, прысаромленая і словамі і тонам Ефрасінні, і Ефрасіння, счакаўшы міг-другі (гаворка да Іаана была сур'ёзная), скіравалася ў трапезную. Ідучы доўгім калідорам, прыгадала ўсё, што чула пра слыннага ў полацкім краі манаха,— звестак было няшмат, ды і тыя былі амаль неверагодныя: выходзіла, што не менш ста гадоў пражыў той на свеце і не менш дзесяці храмаў пабудаваў у розных гарадах, а яна пэўна ведала: не сёлета-летась мінула Іаану трыццаць гадоў, і быў ён у поўнай сіле, і мог здзейсніць тое, што яна задумала,— мо толькі ён адзін і мог... Ды гэтага яна яму не скажа! Што скажа?

Насустрач ёй падняўся з лавы зусім не магут, як чакалася,— малады манах з гордай княжай паставай і па-мужыцку вялікімі, дужымі (нават рукавы цёмнай світкі не прыкрывалі) рукамі. Падняўся, ступіў два-тры крокі і застыў, чамусьці (ці не яе маладосцю і хараством) здзіўлены.

— Вітаю цябе ў сценах нашага манастыра. Дзякуй, што прыйшоў, маю просьбу пачуўшы,— спынілася за

колькі крокаў ад яго Ефрасіння.— Гаворка доўгая, сядзем да стала.

— Як скажаш, ігумення,— схіліўшы галаву, не адвёў той позірку.— Уменне маё табе спатрэбілася, відаць. Што ж, табе гатоў слугаваць.

— Усе мы слугуем госпаду, Іаан. Гатоўнасці ж тваёй рада. Бо вялікую справу задумала: гэткі храм гасподні пабудаваць, каб стаяў ён вечна.

— Адзін камень вечны, ігумення. Плады ж рук нашых кволых...

— Рукі тады кволыя, калі кволаму служаць, Іаан. Пра цябе ж я чула як пра волата, якому ўсё пад сілу.

— Усё нікому са смертных не пад сілу, але што магу, тое магу. За тым і клікала, напэўна?

Смела адказваў манах, смела ў вочы ёй пазіраў, сеўшы насупраць, цераз стол, і гэта Ефрасінні, хоць і нахмурылася яна, падабалася. Малады, праўда, задужа Іаан, дык і яна ж, і дваццаці ёй не мінула, была ўжо настаяцельніцай манастыра святога Спаса: не гадамі чалавек слынны, а справамі, вось справай і праверыць яго. Зробіць храм Спаса — і яе і сябе ўславіць, а не...

— Задумала, як мовіла толькі што, гэткі храм гасподні — храм святога Спаса — пабудаваць, каб стаяў ён вечна, каб люд полацкі веліч духу яго ўславіў у стагоддзях — і моцай сваёй услаўляў і хараством пад стаць зямлі гэтай. Таму і не шукаю памочнікаў за марамі, што ведаю: не мог не нарадзіцца на зямлі гэткай майстра, якому пад сілу каменны цуд у славу госпаду і люду свайму ўзвесці. Тут, у манастыры, храм павінен устаць. Да дня святога Спаса.

— Да Спаса?! Жартаваць уздумала, ігумення?— адным ротам, куточкамі вуснаў (вочы засталіся насцярожанымі і холадна, сталёва пабліскалі) усміхнуўся Іаан.— Ці вядома яе ягамосці, што адно каб разлічыць...

— Мне вядома, што візантыйскія майстры могуць

а сем месяцаў храм узвесці. Дык што — у Візантыю, імператару адпісаць: прыйшлі, маўляў, сваіх майстроў, бо на ўвесь край полацкі не знойдзецца ніводнага, хто мог бы з імі супернічаць? Ці мо мітрапаліту паскардзіцца, што няма між братоў Хрыстовых пакоры і паслушэнства?— загневалася, узвысіла голас Ефрасіння: ці мо таму, што ўчула ў манаху сілу духу, большую за сваю, ці мо проста таму, што не бачыла іншага шляху, як угаварыць або прымусіць Іаана ўзяцца за справу, а прымусіць яго, відаць, было нельга, бо вось жа і ўсміхаўся ён на яе гнеў, і вочы ні разу не апусціў.

— Табе, ігуменння, мая пакора патрэбна ці маё ўмельства?

— І тое і другое. Без пакоры і ўмельства мала чаго варта.

— Звярніся ў Візантыю, да імператара, ігуменння,— падняўся, схаваў вочы, схіліўшы перад ёй галаву, Іаан.— Тое, што ты задумала, пакорнаму рабу божаму зрабіць не пад сілу.

— Сядзь, Іаан,— не загадала, папрасіла, прыцішваючы сэрца і словы свае, Ефрасіння.— Не гневаюся я, а думку думаю і з табою, майстрам, раюся. Па ўсім бачу: ёсць у табе сіла, а памочнікам маім стаць не хочаш. Мо што не так сказала — і ты не зразумеў.

— Я зразумеў: ты пакору шукаеш, ігуменння, ды таго не бачыш, што пакора спіну згінае, укленчыць перад дужэйшым змушае, а на каленях храм не збудуеш, ні за сем, ні за трыццаць поўняў.

— Сядзь,— паўтарыла яна.— І, без крыўды на мяне ці каго іншага, скажы, што табе спатрэбіцца, каб пабудаваць каменны гмах у форме крыжа, каб налета — на Спаса — стаяў у двары манастыра храм велічны, варты маёй задумы і твайго, Іаан, умельства?

Скараючыся мяккасці, мяккай спагадзе ў голасе яе, апусціўся Іаан на лаву, апусціў на стол дужыя рукі, якія, быццам трапятала ў іх увесь час прыхаваная сіла,

злёгку ўздрыгвалі і рухаліся. Паглыбеў, пасур'ёзнеў яго светлы пагляд, не адно цікавасць у ім засвяцілася: дзесьці глыбока, саграваючы халодную насцярожанасць сталёва-шэрых вачэй яго, выбліскваді цёплыя іскаркі разумення. Нават не разумення — ціхага захаплення, бо адчувалася, што словы Ефрасінні зрушылі ў ім штосьці, што ён ужо спрабаваў убачыць, узвесці ў думках гэты гмах у форме крыжа, і толькі яе, Ефрасінні, прысутнасць перашкаджала яму заглыбіцца ў разлікі.

— Невялікі, рухам ліній узнесены ўгору і ўвянчаны купалам, сабор павінен успрымацца белакаменным цудам над Палатой. Цяжкая ўмова, але не немагчымая, бо пра ўмельства твае наслухана, бо ў сілу тваю і ў сілу тых людзінаў, якім загадваць будзеш, веру. Цяжка стварыць цуд, а можна, Іаан. Прыклады таму ёсць. Адно Сафію, узведзеную пры княжэнні дзеда майго, вялікага князя Усяслава Чарадзея, прыгадай. Няўжо не хочаш з продкамі сілай памерацца? Няўжо адмовішся пакінуць людзям цуд, табой створаны?

— Але ж і Сафія не адразу будавалася,— задумліва ўзіраўся Іаан у Ефрасіннін твар, зараз разгарачаны, злёгку паружавелы і ад таго мякчэйшы, менш строгі, чым звычайна, чым заўсёды.— Дужа хутка, ігуменння, хочаш славу здабыць сабе і манастыру.

— І табе, Іаан,— паправіла Ефрасіння.— У стагоддзях будзе ўслаўлена імя творцы, сама ў летапіс твае імя ўпішу, як зробіш, як здолееш узвесці храм — перш выбудуеш яго ў душы сваёй, а потым з божай і з маёю помаччу паставіш у двары, насупраць брамы манастырскай. Ні золата, ні сілы не пашкадую, каб спрыяць рабоце, з усяго княства табе ў помач каменячосаў, муляраў і цесляў збяру, як згоду дасі, як вобраз сабора, варты задумы і волі маёй, знойдзеш.

— Вобраз знайду, ігуменне — ты ж ужо абмалявала яго з усім жарам душы сваёй!— вобраз сабора бачу ўжо.

Вось каменю, і добрага каменю, шмат спатрэбіцца. Дзе возьмеш?

— Гэта ўжо не твой клопат, Іаан. Скажы, ці бярэшся ўзвесці сабор, які задумала?

— Воля будзе мне ў выбары работнікаў і платы ім — бяруся!

— Воля?— звяла бровы Ефрасіння, тут жа заўважыла, як вярнулася насцярога да Іаана, і паспяшалася дадаць:— Воля майстра маёю воляю будзе падтрымана, абы справа пайшла, абы завяршыць справу ў час і з гонарам.

— Які тэрмін вызначаеш для падрыхтоўкі? Колькі часу ў мяне на тое, каб усё ўзважыць, разлічыць, занатаваць, вызначыўшы, што хочаш і што магчыма ў нашых умовах? Калі чакаць мяне будзеш?

— Чакаць не буду,— не паспела схаваць яна ўсмешку.— Сачыць за падрыхтоўкаю да вялікай талакі, камень завозіць буду. Ты ж, Іаан прыходзь, як толькі закончыш работу. Дня не хопіць, ночы прыхапі — часу ў нас мала.

Паднялася. Спакойна прасачыла за тым, як таропка, упершыню не здолеўшы схаваць хваляванне, устаў з лавы Іаан, як схіліў ён перад ёй галаву, развітваючыся, і пайшоў да дзвярэй. Пайшоў лёгкім спружыністым крокам, што так не адпавядаў ні яго сану, ні яго апратцы. «Малады дужа,— уздыхнула яму ўслед,— ды, дасць бог, справіцца... Не пісаць жа ў Візантыю! І на першае пасланне, у якім прашу зрабіць дар Полацку і дазволіць узяць прывезці адзін з трох знакамітых абразоў — ікону багародзіцы з Эфесу — няма адказу. Далёкі край — далёкая дарога!»

Яна зноў села да стала, спіною да яго, і, склаўшы рукі на каленях, узіралася доўга, усё больш хмурнеючы, цямнеючы тварам. Быццам там, за дзвярыма, была разгадка якойсь невядомай таямніцы, што цішком мучыла яе апошнім часам. Быццам там, за тоўстымі дубовымі

дзвярыма, услухваўся ў яе маўчанне хтосьці падобны на гэтага светлавалосага манаха, і падыдзі яна зараз да дзвярэй, адчыні іх — абрынецца пад нагамі бездань, і знікне ў той бездані ўсё, што яе акружала, што было яе жыццём. Адчыні яна іх...

— Не падводзь мяне, стары. Трэба атрымаць дазвол падступіцца да фільма, а якім макарам...

Глеб схамянуўся не ад голасу — ад дотыку цяжкой Місевай рукі, і зразумеў, што перапынак закончыўся.

— Я не разумею.

— Ты ўсё зразумееш, стары. Галоўнае, не лезь у бутэльку: сцэнарый нават не палова справы і ў ходзе работы ён яшчэ будзе сто разоў дапрацоўвацца. Так што не ў ім зачэпка.

— Мо ты наогул уздумаў без сцэнарыя абысціся? — пакпіў Глеб.— Без сцэнарыя яно прасцей: накручвай сцэны адна на адну.

— Таварышы! Таварышы!— падскочыў да іх Міканораў памочнік.— Усе ж чакаюць.

— Ідзём!— буркнуў Місь і, не зірнуўшы на Глеба, цішэй паўтарыў:— Не лезь у бутэльку, стары.

У пакоі было крыху больш свежага паветра, чым раней, і Глебу на міг здалося, што не будзе, не магло быць ніякага абмеркавання яго сцэнарыя ўвогуле, і ўсе вярнуліся ў пакой, каб скончыць распачатую гаворку. Проста, каб скончыць гаворку. Бо вось жа не было на стале перад Ляховічам яго блакнота, і прадстаўнік міністэрства знік, палічыўшы, відаць, што выканаў сваю місію, і Міканор паводзіў сябе спакайней.

— Пачынаем,— кіўнуў Міканор і адкінуўся на спінку крэсла.— Кіцын абмалюе становішча, і калі ўзнікнуць пытанні...

Місь не падняўся, толькі нахіліўся і абапёрся дзвюма рукамі на стол, тым самым быццам падкрэсліўшы

неафіцыйнасць гаворкі. Кашлянуў. Абвёў усіх хітравата-спакойным позіркам.

— Становішча абмалёўваць, прама скажу, ранавата. Гаворка нават не пра першы этап работы над фільмам — пра пачатковы. Дапрацоўваецца сцэнарый, папярэдне двойчы абмеркаваны. Паралельна шукаюцца рэжысёрскія рашэнні, ідзе прыкідка магчымага акцёрскага саставу. Мяркую, самы час прыняць фільм да пастаноўкі.

— Можа, вы ўсё ж скажаце, пра які фільм ідзе гаворка?— незадаволена, рэзкім рухам адкінуў валасы са скроні Ляхović.

— Хіба вы не ў курсе?— роблена, нават далонямі тэатральна па стале паляпаў ледзь чутна, здзівіўся той.— Гаворка пра гістарычны фільм, Міхась Пятровіч, які стаіць у плане. Папярэдняя і, на маю думку, удалая назва: «Спакуса».

Глеб нават прыўстаў ад здзіўлення: папярэдняя назва, па сцэнарыю, была «На скразняку вякоў...». А Місь, які безумоўна заўважыў гэты яго рух, паспяшаўся апярэдзіць яго рэакцыю і ўдакладніў:

— Назва, канечне, можа і памяняцца, але сам будучы фільм, вартасці сцэнарыя не выклікаюць сумнення. Па меншай меры, у мяне, рэжысёра. Думаю, і ў рэдактуры.

— Хто аўтар сцэнарыя? Вы?— павярнуўся да Глеба Ляховіч, і Глебу здалося, што і ў голасе яго, і ў позірку было больш непрыязнасці, чым цікавасці.— Зрабіце ласку, раскажыце пра сваю задуму.

— Фільм — на матэрыяле дванаццатага стагоддзя, адлік ідзе адтуль. Пры неабходнасці мы дадзім вам, Міхась Пятровіч, азнаёміцца са сцэнарыем. Пасля невялікай дапрацоўкі,— паспрабаваў утрымаць у сваіх руках гаворку Місь, настойваючы на ранейшым меркаванні, быццам пісьменнік звяртаўся да яго.

Ляховіч жа і вухам не павёў у яго бок. Бы і не чуў.

Чакаў, цяжкім дапытлівым позіркам свідруючы Глеба, і той сумеўся пад гэтым позіркам, пачаў падымацца і падняўся з цяжкасцю, быццам ціснула на плечы ношка: ні ўтрымаць, ні скінуць...

— Што ж вы, малады чалавек? Асмеліліся зачапіць уяўленнем далёкае, мала даследаванае стагоддзе і не маеце смеласці адстойваць і адстаяць сваю задуму?— неяк грэбліва, як здалося Глебу, падцяў Ляховіч куточкі вуснаў.— Ці вам усё роўна, з чые ласкі яна будзе прынята і здзейснена?

— Я забраў са студыі сцэнарый,— выдыхнуў Глеб і, не пазіраючы ў бок Міся, убачыў, як злосна счапіў той пальцы на калене, як выцягнуўся ў яго адразу згаслы твар.

— Вось нават як!

Глеб наважыўся растлумачыць свае словы, свой учынак, але толькі ўзмахнуў рукой, быццам адмахнуўся ад свайго намеру, і сеў.

Непрыязнасць Ляховіча змянілася цікавасцю — да Глеба ці да сітуацыі, цяжка было вызначыць па жывым цікаўным бляску ў вачах, хоць пазіраў ён на Глеба і, па ўсім відаць, вывучаў яго, зацікавіла яго хутчэй за ўсё яўна незапланаваная, раптоўная нязгода.

— У чым тут справа, Міканор Іванавіч?— не павярнуўся ён да Дубца, па-ранейшаму ўзіраючыся ў Глеба.— Прынцыповая нязгода ці мо толькі грашовая?

— Аўтар, Глеб Суляціч, не ўсюды ўлічвае задачы і сродкі кінематаграфіі, мы яму аб гэтым сказалі...

— Вы, таварыш Кіцын, заўсёды за іншых адказваеце?— зіркнуў на таго цераз плячо Ляховіч.

— Можна, я сам растлумачу?— азваўся Глеб, разумеючы, што не мае права перакладваць цяжар свайго рашэння на Міся: той і так ёрзаў у крэсле, спапяляючы яго кароткімі злоснымі паглядамі — штосьці ж задумваў правесці на калегіі!

— Зрабіце ласку, зрабіце ласку!— без асаблівага

імпэту адказаў Ляховіч і, чакаючы тлумачэння, адкінуўся на спінку крэсла, агледзеў усіх так, бы позіркам запрашаў паслухаць.

У Глеба заныла, засмылела штосьці ў грудзях, на колькі кароткіх імгненняў перахапіла дыханне, і таму словы вырваліся разам з глыбокім уздыхам.

— Не скажу за кінематаграфічныя сродкі і задачы, свая ж задача ўяўлялася яснай. Спачатку. Настолькі яснай, што прапанаваў сцэнарый студыі. Мажліва, толькі тут, пры рэдагаванні, калі ад мяне запатрабавалі спрасціць задуму, падагнаць яе пад добра выверанья меркі касавага фільма, зразумеў, што задума — кволая сама па сабе, што, падступаючыся да гістарычнага фільма, трэба глыбока асэнсаваць усю гісторыю свайго народа, увесь гістарычны шлях яго. Нават калі задумаў расказаць пра невялікі прамежак часу, пра лёс аднаго чалавека, пра лёс аднаго пошуку. Вось!

— Гісторык Суляціч ваш брат?

Глеб кіўнуў не расшчапляючы рота, зноў не хапала паветра — ці то ад задушлівай гарачыні, ці то ад хвалявання.

— Дванаццатае стагоддзе,— задумаўся (ці то проста, заўважыўшы стан Глеба, даваў яму магчымасць перадыхнуць) Ляховіч.— Чым жа зацікавіла яно вас? Княжымі міжусобіцамі? Першымі магутнымі парасткамі культуры, якую потым назавуць старaславянскай? Лёсам Ефрасінні Полацкай, неразгаданым гісторыкамі дагэтуль?

— Можа быць фільм,— сказаў, быццам падумаў уголас, Цяслюк.

— Дык чым жа?— кіўнуўшы на рэпліку таго, падбадзёрыў усхваляванага Глеба добразычлівым позіркам пісьменнік.

— Лёсам Ефрасінні, адной з самых адукаваных жанчын сваёй эпохі. Лёсам уладнай ігуменні, якую ўжо пры жыцці называлі святой, і пры ўсім гэтым яна —

проста жанчына, што не магла перамагчы і перамагла сваю зямную сутнасць. Дзеля мэты, якую свядома вызначыла. Дзеля славы роду свайго і краю свайго.

— Хацеў бы я бачыць, хто гэта будзе паўтары гадзіны глядзець фільм, у якім гераіня адно перапісвае старыя кнігі і разважае пра свядома пастаўленыя мэты! — буркнуў Місь, падсаджваючыся да абыякава сумнага Міканора.

— Да, да, думаць пра гледача мы абавязаны,— сцепануўся той.

— Перш за ўсё мы павінны думаць пра гістарычную і мастацкую праўду падзей, Міканор Іванавіч. Праўда і ўзрушыць гледача. І тут я цалкам на баку аўтара сцэнарыя.

— Вы ж не чыталі...

— Спадзяюся, што пачытаю. Так? — усміхнуўся ён перш Глебу, потым усім астатнім.— Вось тады, калі аўтар будзе гатовы аддаць нам на суд свой варыянт, мы і прадоўжым гаворку. Згодны?

— Згодны,— адгукнуўся Цяслюк, толькі ён.

Незадаволена перасмыкнуў плячыма Кіцын. Нахіліўся да яго, штосьці ціха даводзячы, Міканор. Ускочылі («Дык абмеркавання не будзе?») рэдактаркі. Памкнуўся дастаць насоўку і ўцерціся, сцерці хваляванне Глеб — і заўважыўшы, што да яго скіраваўся Ляховіч, таропка ўстаў яму насустрач.

## XX

Вечар апускаўся на зямлю ціха, бязважка: павольна, падобнае на прыхопленае агнём кола, паварочвалася на мяжы далягляду, чапляючы вяршкі ялін, сонца, ледзь чутна — трэба было запаволіць крокі, каб пачуць — сцякаў з прыдарожнага вішняку зусім палетняму ўжо цёплы ветрык, звыклыя для вуха і таму незаўважныя гукі перамешваліся з настоеным на квет-

кавых пахах святлом, духмянае паветра пілося лёгка, у асалоду. Праўда, Ефрасіння заўважала гэта хутчэй падсвядома: адно адбяры ў яе хто гэту прастору між лесам і лесам, гэта неба, заўсёды то ярка, то цьмяна асветленае яшчэ большай, яшчэ больш недасяжнаю вышынёю, гэту цішыню, напоеную звыклымі пахамі і гукамі, адчула б сябе Ефрасіння не тое што абкрадзенаю — ад жыцця адлучанаю. Ад жыцця, а не проста ад прыроды. Бо тут, сярод гэтых лясоў, пад гэтым небам, побач з гэтай цішынёю, ішло яе жыццё, навакольная прырода была часткаю яе, як яна — часткаю, маленькаю часцінкаю прыроды, усяго жывога, існага вакол. І гэта было так натуральна, так звыкла, што не змушала задумвацца, шукаць тлумачэнне спрадвечнай повязі яе з гэтаю зямлёю, з гэтым краем,— повязь была, і была адвеку, і была непарушнаю. Для яе, Ефрасінні, непарушнаю. Гэтай зямлі скрозь аддавала Ефрасіння сваю працу і — працаю — любоў, гэта зямля дары свае і — імі, дарамі гэтымі — жыццё аддавала Ефрасінні. Як і кожнаму, хто жыў надзённым клопатам зямным і марай убачыць лепшыя, яшчэ святлейшыя дні. І марай...

Вечар апускаўся на зямлю ціха — здаецца, лашчыўся да зямлі, і да яе, Ефрасінні, і Ефрасіння не спяшалася мінуць колькі тых двароў ад калгаснай канторы да сваёй хаты: кароў яшчэ не прыгналі, а іншыя справы маглі і пачакаць — не з гулянкі ішла, а з праўлення, пасля нялёгкай, прыпраўленай горыччу гаворкі пры раённым начальстве, і хацелася трохі аддыхацца, надыхацца цішынёй і вечаровым спакоем, астудзіць думкі. Хоць трохі астудзіць горкія думкі, бо, пэўна ж, ужо не хутка пазбавіцца іх,— неаднойчы давядзецца вяртацца да сказанага і да нясказанага, прыхаванага да часу ў душы. Хоць ёй, Ефрасінні, хоць Фадзеічу, як думае заставацца старшынёй, давядзецца вяртацца, бо была ж — пакуль жывыя, пакуль рукі падымаюцца — і гэта перспектыва, і гэта будучыня.

Яна так і сказала Фадзеічу: «ад нас усіх залежыць», на што той чамусьці неспадзявана пакрыўдзіўся. І нават схаваць сваёй крыўды не здолеў, сціраючы з твару балючую грымасу, буркнуў:

— А што загадаеш рабіць, Ефрасіння Данілаўна? Дзе, у чым мы з табой, па-твойму, не дапрацоўваем?

— Дзе? А сам не здагадваешся, старшынька?

— Не здагадваюся. Ужо ж, тыцні старшыню калгаса носам у тое, чаго ён за клопатам ды мітуснёй не бачыць, падзяліся во, з начальствам.

— Ні табе, ні мне, Фадзеіч, няма чаго з начальствам дзяліць: на адной зямлі жывём, агульным клопатам за яе, спакутаваную,— зачырванелася тая пад пільнымі, зацікаўленымі позіркамі ўсіх прысутных, але, пачаўшы, вырашыла даказаць — усё, што набалела, выказаць, і працягвала, цяпер ужо нават больш рашуча: — Рэдка заязджае начальства. Глядзець, відаць, няма на што. Адно на тое, як тры з паловай бабы спрабуюць полю рады даць. Дык жа нецікава на гэткае глядзець. Так я кажу? А на ўсё іншае мы самі даўно рукой махнулі: як ідзе, так і ідзе, як ёсць, так і будзе. Але ж не будзе, нічога не будзе, калі далей гэтак пойдзе!

— Нешта я не даўмеюся, пра што ты, Ефрасіння,— кашлянуў старшыня, пакасіўшыся на Доліна, інструктара райкома, які штосьці акуратна запісваў у блакнот.

— Ды пра школу я. Пра школу!

— А што,— падняў галаву ад блакнота Долін,— будынак не адпавядае? Не адрамантаваны?

— Чаго ж не адпавядае! Будынак як будынак. Новы, лічы,— растлумачыў яму, нахіліўшыся, Фадзеіч.

— Новы, лічы! — паўтарыла за ім Ефрасіння.— А хто, запытацца, ву́чыцца ў тым будынку, хто заўтра вучы́цца будзе, мы думалі? Хто праз год-другі пойдзе ў школу, як на ўсю вёску і двух дзесяткаў сем'яў з дзецьмі ўжо сёння не набіраецца? А? Закрываць школу давядзецца, старшыня. Вось я пра што. Старэе,

састарэла вёска, а мы збярэмся і ўсё пра планы гаворым. Пра планы, пра абавязацельствы розныя... А для каго ж — планы? Хто іх, гэтыя планы, калі выканае, як мы ўжо не ў сілах проста зямельку абрабіць як след? Вось я пра што.

Ніхто не адазваўся на яе словы, ніхто нічога не сказаў, і Ефрасіння адчула, як падымаецца ў ёй горыч, міг-другі — і выплеснецца. Апусціла галаву, стрымалася, стрымала гатовыя выплеснуцца горкія словы.

— А то вы самі не ведаеце,— дадала цішэй.

— Што вы прапануеце, таварыш?

Хтосьці ў кутку фыркнуў у кулак на яго недарэчнае «таварыш», заёрзаў на крэсле Фадзеіч.

— Я? Вы маёй зараз прапановы чакаеце? — нечакана зазлавала Ефрасіння, зглынуўшы набеглыя слёзы.— А чаму ўчора, заўчора, дзесяць год таму не пацікавіліся, што я, Ефрасіння, думаю? А я і тады думала, і тады казала: як не гаспадар на сваёй зямлі чалавек — зямля непатрэбнай яму стане. Казала, а як жа! Толькі хто слухаць хацеў? Адзін прыцыкне: супраць курсу, маўляў, выступаеш, цётка,— курс гэткі, а які — гэткі, калі пасля яго зямля пусцела і запускалася, не тлумачыў. Другі падтрымае нібыта: грамада — гаспадар земляў сваіх, маўляў, па статуту калгаснаму,— хто гэтага не ведае?— але ж нехта і кіраваць павінен... А я так скажу: не нехта павінен быў кіраваць, а гаспадар!— той, каго грамада гаспадаром прызнавала і прызначала.

— Перагінаеш, Данілаўна,— моршчыўся, як ад болю, старшыня, касячыся на інструктара, які ўсё штосьці запісваў.

— Перагнула б, ды няма як, няма куды ўжо,— агрызнулася тая, і ўсё ўслухоўвалася: мо абзавецца хто, пасобіць у гаворцы, але чула толькі, як зрэдчас рыпіць чыё-небудзь крэсла.— І табе, Фадзеіч, няма чаго на начальства азірацца: нас з табой хоць заўтра на пенсію, хоць сёння — мінуліся нашы страхі. Даўно мі-

нуліся. І не за сябе горка, а за ўсё, што сваім лічыла і лічу — за палеткі і фермы калгасныя. Усё думаю, што за намі застанецца. Ну, як нічога не застанецца? Раней сотку-дзве ад гарода чыйго адрэзаць — кара, пакаранне вялікае, а зараз не тое соткі, жывыя хаты лёгка кідаюць, у свет з'язджаюць... Дакуль жа будзем вочы закрываць, а? Дакуль кіраваць будзем, замест таго каб гаспадарыць навучыцца, дзядоў і прадзедаў прыгадаўшы?

— Што вы ўсё-такі прапануеце... Ефрасіння Данілаўна?— падняў вочы ад паперак Долін.— Што мне дакладаць у раёне?

— А тое і дакладайце, што паўсотні працаздольных у калгасе на сённяшні дзень не набярэцца, што справы нашы не наладзіць, колькі памагатых з гораду ні прысылай, бо каб даглядзець зямлю, трэба любіць яе — рукамі любіць, а не словамі. Не на словах, значыць.

— Так-такі і не наладзіць?— паспрабаваў госць змякчыць яе словы ўсмешкаю.— Ці не задужа скептычна глядзіце вы ў заўтрашні дзень? Планы партыі...

— Я не пра планы партыі казала, а пра нашы калгасныя справы і планы,— залішне рэзка перапыніла яго Ефрасіння, адчуваючы, як вяртаецца ранейшая злосць: такому што тлумач, што не тлумач — адна халера.— І калі б вы, таварыш Долін, і ўсе, хто ў начальстве ходзіць, цікавіліся не адно планамі і лічбамі, а і тым, як жывуць па вёсках, гэтакіх, як наша, людзі, пра што разважаюць, разагнуўшыся, чым адганяюць трывожныя думкі, то планы партыі выконваліся б куды больш спраўна. І не адно на словах, як у нас з вамі зараз.

— Данілаўна! Данілаўна!— застукаў далонёю па калене Фадзеіч.

— Што — Данілаўна? Я ўжо ўсё сказала,— адвярнулася яна ад яго і ад спахмурнелага Доліна, і ад усіх, хто быў у канторы і роту не адкрыў, каб падтрымаць яе ці, калі не падтрымаць, то хоць сваё — сваю

трывогу выказаць, бо вось жа гулі заўсёды, самі, без начальства, сабраўшыся, а тут як зарвала ўсім разам — адно старшыня ёрзаў...

«Ну, добра, Ганна Цітава змоўчала: іхняя ж, канторская яна, ад поля калгаснага ды ад кароўнікаў вокнамі праўлення адгароджаная,— з горыччу думала, ідучы вуліцай дадому.— Ну, зразумела, Стацэнка, аграном, не абазваўся — без году тыдзень, як кажуць, тут, новы чалавек, не тутэйшы. І Пятровіча, які вачэй ад стала не падняў на яе, папікнуць язык не паварочваецца: мог, вядома, сказаць што якое — ведае ж становішча, ды яго ж, не сакрэт, старшынёю сельсавецкім у раёне вылучалі... А Марфа? А Стась Карпач? Гэтыя ж, як і я, ад цямна да цямна тлумяцца. А і яны голасу не падалі...»

Згледзеўшы крокаў за трыццаць Карпача з веласіпедам, якога, відаць, запынілі на хвіліну жанкі, Ефрасіння пашкадавала, што не было мажлівасці прайсці паўз іх незаўважна: Наста ўжо ўгледзела яе, павярнулася і чакала. Павярнуўся і Карпач, каб тут жа кіўнуць жанчынам і ад'ехаць, і гэта змусіла Ефрасінню горка ўсміхнуцца: нялоўка, бачыш, стала, а там, у канторы... «Ну, ўсё, годзе! — як загадала сабе.— Ведама ж, думкамі свет перавернеш!»

— Карпач казаў, з самёханькаю ахвотаю падсыпала трохі начальству,— кранула яе за рукаў Наста, зазіраючы ў твар.

— А бо! Якое там начальства, як над ім больш начальнікаў, чым над намі! Прыехаў і паедзе. А нашае нам застанецца.

— І тое праўда, Ефрасіння. За нас ніхто нашае не зробіць, хоць упраўляемся, хоць не.

— З поля ў гарод, з гарода ў двор, з двара ў хлеў... А там і ў печы паліць трэба, бо золак у вокны заглядае! Скрозь адно,— падтакнула Насці Алена.— Гэта ж як

нам, бабам,— а маладым гэткае начорта! Каб яшчэ машыны якія.

— Вунь, не хочаш машыну? — павярнула галаву Наста.— Раве на ўсё сяло, гаспадара свайго дадому везучы. Цьфу, трасца!

Яны ўтрох ужо — і Наста, і Ефрасіння з Аленаю — моўчкі глядзелі, як, равучы, ляцеў з боку фермы вуліцаю даўно парудзелы ад гразі і недагляду трактар,— нават адышліся на ўзбочыну шасейкі, да самага вішняку, і то адна, то другая пахітвала галавою: трактар, што называецца, выпісваў васьмёркі, і добра, што на вуліцы не было нікога з малых...

Малога Вульчынага сына — на пяску, крокі за тры ад лаўкі, урослай у зямлю, згледзелі як не ўсе ўтрох разам, але згледзелі ў самы апошні момант.

— Стой! Стой, трасца на цябе!— ледзь чутна прасіпела Наста, страсаючы раптоўнае здранцвенне, і вось ужо крычала, на ўсю вуліцу разлягалася:— Сто-ой! Стой, трасца!

Імчаў, не разбіраючы дарогі, трактар. Бегла, кінуўшыся наперарэз яму, Ефрасіння. Біўся над ёю, над шасейкаю, над усёй спалохана прыціхлаю Сінчою шалёны Насцін крык:

— Стой! Стой, каму кажу!

Што змусіла Хведара Галаса рвануць рычаг тормазу — ці то пранізлівы крык гэты, ці то постаць Ефрасінні, якая матлянулася перад самымі коламі,— сказаць цяжка, але трактар, затросшыся і амаль развярнуўшыся поперак шасейкі, стаў, знерухомеў, і толькі надрыўнае вуркатанне матору ды выкаўтнутыя ім рваныя слупкі дыму нагадвалі пра яго магутную і нястрымную ў няўмелых руках сілу.

Не помнячы сябе, рванулася Ефрасіння ад трактара лявей, туды, дзе гуляўся ў пяску малы, хоць сэрцам чула ўжо: спазнілася, позна! І калі пагляд, бездапаможна слізгануўшы па ўзбочыне, крыху ўбаку,

на камянях (відаць, адкінула хлопчыка ўдарам), зачапіўся за няроўны чырвоны струменьчык, застагнала ад гора і ад сваёй бяссіласці перад гэтым горам. З цяжкасцю вырываючы з пяску (здавалася, ён паглыбеў і ўцягваў, зацягваў яе, як дрыгва) цяжкія, непаслухмяныя ногі, зрабіла крок, і яшчэ, і яшчэ — і як апамяталася: мо жывы малы! мо ён быў жывы!

— Алена, бяжы па фельчарку! Як каго хутчэйшага на ногі перастрэнеш, пашлі наперадзе, а я тут...

Наста гаварыла нягучна, а паветра звінела ад яе голасу, Ефрасінні на момант здалося, што яна глухне: звон у вушах рос, гучнеў — ужо і слоў Насціных не разабраць, ужо і матору не чутна. «Хоць бы білася сэрца ў малога! Хоць бы білася яшчэ!» — бязгучна варушыла яна вуснамі, апускаючыся на калені, хілячыся, нахіляючыся ўсё ніжэй і ніжэй. Вось ужо і вуха прыклала да запэцканай кашулькі. І слухала. Доўга слухала. І — нічога не чула. Нічога! Нават звон у вушах аціхаў і аціх — замерла, стаіла дыханне наўколле. Зусім, як яна, Ефрасіння. Толькі б учуць, ці б'ецца сэрца ў малога. Але ціха было ў таго ў грудзях, так ціха было ў ім і вакол яго, што зямля, напэўна, чула, як прасочваўся ў пясок паміж камянёў тоненькі струменьчык крыві. Ефрасіння ж нічога не чула! Нічога! Нават свайго запаленага дыхання. Нават сваё непрытомнае сэрца... Разагнулася. Хітнулася з боку на бок. Раз і другі раз. Ашчаперыла рукамі галаву і хіталася, няўцямна пагойдвалася з боку на бок.

Адусюль, устрывожаныя Насціным крыкам, збягаліся да трактара людзі, і Наста, не адводзячы позірку ад балюча згорбленай Ефрасінніной спіны, усё крычала ім насустрач — у прагал вуліцы — у вечаровую прастору:

— Дажыліся, трасца! Дачакаліся! Спярша глядзелі, як трактарысты, п'янымі смэркамі абвешаныя, куранят з самёханькаю ахвотаю душылі коламі, а зараз, а сён-

ня — сёння зірніце! Дзіця загубіў, душагуб! Дзіцятка задушыў, трасца! Людзі, што ж гэта робіцца? Што ж гэта дзеецца, людзі добрыя? Куды мы глядзім? Дзяцей душагубы не бачаць, вочы пазаліваўшы... Дажыліся! Дачакаліся-а!

— А каб жа горам-полымем узялася гарэлка гэтая, як з-за яе свету ўжо не бачаць людзі!— далучыўся да Насты хтосьці з жанок.— Каб у горла яна не пайшла больш нікому!

— Дзе трактарыст, маць яго?..— трос Насту за плячо, падбегшы, Ігнат Ступін.— Дзе трактарыст, пытаюся?

Тая не павярнулася. Гэтак жа, як і раней, сачыла спалоханым паглядам за размернымі, жудаснымі ў гэтай сваёй размернасці рухамі Ефрасінні і не павярнулася. Адно што перастала крычаць — змаглася, відаць, і толькі паўтарала, слабым, згаслым голасам, амаль паўшэптам:

—Людзі, што ж гэта робіцца? Людзі...

— Ат! З гэтымі бабамі!— адступіўся Ігнат і, абапіраючыся на кола, рвануў на сябе дзверцы кабіны.

З дзверцаў — яму пад ногі —ываліўся, як мяшок, Хведар: п'яны, ён заснуў, ледзь толькі спыніўся трактар, і цяпер, бразнуўшыся аб зямлю, не прачнуўся, пацепаў у сне сваімі абслюняўленымі губамі і засоп, як бы і не было нічога.

Людскі гурт, адхіснуўшыся спярша ад нечаканасці, насцярожана, пагрозліва падступаўся бліжэй і бліжэй — кола вузела. Калі Ігнат, які палез у кабіну, каб выключыць матор, высунуўся і хацеў саскочыць,— унізе, вакруга, былі бабы, іх паркалёўкі шчытна, адна да адной, пакалыхваліся над распасцёртым Хведарам.

— Бабы! Гэ-эй, бабы! Не ўздумайцеся самасуд учыніць,— гукнуў, але яго вокліч патануў у нечалавечым, жывёльным крыку нямой Вулькі, што ляцела са свайго двара сюды, да сына:

— А-а-а-э-э! А-а-а-э-э!!

Гэта і паслужыла, відаць, сігналам. Першай матлянулася да Хведара, быццам апрытомнеўшы раптоўна, Наста — ухапіла яго за каўнер курткі, рванула на сябе, адной-другой аплявухай спрабавала прывесці таго да розуму.

— Душагуб! Прадзяры вочы і глянь, што нарабіў, трасца! Прадзяры вочы, душа з цябе вон!

— А-а-а-э-э!— ледзяніў сэрцы Вульчын крык.

— Бабы, ахалыньце, маць вашу!— надрываўся Ігнат.— У міліцыю яго, у міліцыю...

— Душагуб! Дзіця загубіў за гарэлку!

Разгневаныя, раззлаваныя якойсь тупою безвыходнасцю сваёю жанкі таўклі, лупцавалі Хведара, які прачнуўся-такі і, лыпаючы чырвонымі вачыма, не мог расшаломаць, дзе ён і што з ім,— круціўся, угінаў галаву ў плечы, бараніўся рукамі і п'яным, бязладным: «Вы чо? Вы чо, га?»

За колькі крокаў ад іх, ашчаперыўшы дзвюма рукамі галаву, хіталася, калыхалася з боку на бок, быццам аглухлая, анямелая ў гэтыя хвіліны Ефрасіння.

## XXI

(Жыццё... Зернетка жыцця, што мільярды год прарастала з пылінкі сусвету, з агню, закаванага ў ядро гэтай пылінкі, з гарачай лавы агню, які расцякаўся, застываў, уздыбліваўся, ствараючы ўсё новыя і новыя формы жывой, рухомай, самім рухам адухоўленай матэрыі, каб яшчэ праз мільярды год, удыхнуты ў дужую, прыгожую сваёй адпаведнасцю суровай прыродзе, істоту, выбухнуць словам. Першым разумным словам. Якім? Яно магло быць любым: Агонь — Зямля — Вада — Жыта... Разам са словам — ім, словам, вырваны з цемры невядомасці!— нарадзіўся чалавек. Нарадзіўся, каб з году ў год, з веку ў век дабірацца, дакопвацца

да сваёй сутнасці, неспазнанай, неразгаданай ні адразу, ні потым. Каб дакопвацца да схаванай ад яго ісціны. З году ў год. З веку ў век. Прыстасоўваючыся да кароткага чалавечага жыцця.

Не такога і кароткага, калі азірнуцца, калі хоць бы з паўдарогі азірнуцца: зацвіталі і, адцвіўшы, затоптваліся у восеньскую гразь вёсны, разбухалі ад дажджоў і ўмярзалі ў свой бег рэкі, адляталі і, дагнаныя холадам, гінулі на ляту птушкі, павоем, трыпутнікам зарасталі і зноў пракладваліся вузкія, у адзін след, сцежкі — з двара ў двор, з лёсу ў лёс.

Чаму? Навошта?— пытаешся ты ў сябе, і ў таго, хто побач, і ў таго, каго ўжо няма. Пытаешся, таму што павінен жа быць адказ,— для нечага ж ты нарадзіўся і жывеш, пакутуеш, для нечага прыйшоў і знікаеш. І знікаеш... Гэта самае незразумелае, чым больш шчыруеш, каб дабрацца, дакапацца да сваёй чалавечай сутнасці, тым хутчэй апынешся на краю прадоння, страшнага прадоння, другога краю якога не тое што пагляду — думцы не дасягнуць. Нібыта няма яго, другога краю. Ты прыйшоў — і ты знікаеш. І ўсё.

Іншага не дадзена. Іншым бывае толькі канец. Іншым — і яшчэ больш трагічным. Бо хоць і вырвеш у смерці колькі дзён, а то і колькі год — звыш, кошт іх такі, што ні горам, ні адчаем, ні жахам пасля не апраўдацца. Страшны гэта кошт — жыццё чалавека. Не абавязкова чалавека староннягa, чалавека побач, гэта можа быць чалавек у табе — ты сам. Калі, чапляючыся за край прадоння, ты выракаешся лепшага ў сабе, знішчаеш усё, што спакваля, крок за крокам, імгненне за імгненнем ператварыла цябе з неразумнага звера, з жывёліны ў істоту духоўную, надзеленую душой. Выракаешся — і гінеш. Усё роўна гінеш, хоць і не адразу, не раптам, хоць і паспееш узрадавацца: не сёння, не зараз!

Але першае ж адрачэнне стане адрачэннем ад самога

сябе, пацягне за сабой новае, наступнае: шлях адрачэння — гэта шлях падзення. Падзення ўсё ніжэй і ніжэй. Калі памірае сорам, калі астывае сэрца і ні на адзін кліч, ні на адзін крык не адзываецца скамянелы ў ім жаль — адно цёмнае, пакрытае ліпкім потам страху жаданне жыць, каб хоць на міг прадоўжыць сваё непатрэбнае ўжо свету жывёльнае існаванне, змушае чапляцца за ўсё, што трапіць пад руку: за чыйсьці крык, за смех дзіцяці, за цішыню...

Дні, тыдні, гады! Час ідзе так імкліва, што зрэдку нават пахіствае далягляд. Час ідзе, доўжыцца — і ты ўрастаеш у яго. Хто ты? Хто нарадзіўся ў табе? Што пахавана ў табе, што цябе мучае да скону, так і не збудзіўшы, так і не акрыліўшы душу?)

— Хто ён такі, што пачынае дыктаваць мне — мне, рэжысёру, у якога за плячыма пастаноўкі дзесятка фільмаў? Хто ён такі, пытаюся? Мастак-недавучка? Грамацей ад мастацтва, сяк-так навучаны скроіць прыстойны сцэнарый? С... інтэлігент, якому хочацца выбіцца ў героі? Хто?!

— Місь! Місь, ну, чаго ты разышоўся? На, выпі валакардзін...— хадзіла следам, баючыся ўздыхнуць лішні раз, спалоханая, зніякавелая Майка, якая, выскачыўшы з ванны, паспела адно накінуць пеньюар і цяпер штоміг рызыкавала наступіць на пасак і распластацца на падлозе перад разгневаным, злосна ашчэраным на яе і на цэлы свет мужам.— Глыні валакардзін, а?

— К чорту валакардзін!— бушаваў той, раз'юшана кідаючыся па пакоі ад крэсла да крэсла, ад акна да канапы.— К чорту спакой! К чорту ўсіх — і ў першую чаргу спакойненькіх і правільна-праведных! Праведнікі знайшліся, падла! Ім, бачыш, асэнсаваць гісторыю свайго народа спатрэбілася... Ды якую гісторыю? Скрозь — скрозь!— ішла і ідзе барацьба за ўладу, за

цяплейшае месца пад сонцам. А то мы сёння глоткі адзін аднаму не перагрызаем за гэта: сёння — за крэсла, тады — за прэстол, за стол... Адна халера! Вось і пакажы гэту грызню. У любога часу — свой злодзей, свая ахвяра, вось і звядзі злодзея і ахвяру — тым больш, што пры выпадку яны лёгка мяняюцца месцамі. Дык не! Гісторыя... Народ... Які народ? Адкуль народ, пытаюся? Ад веку былі тыя, хто ад цямна да цямна гнуў спіну, і тыя, хто еў, піў і баб за цыцкі тузаў, на іншых, згорбленых працай, пакрыкваючы. Ад веку — і да веку, было і будзе!

— Місь!

— Што — Місь? Што ты мяне супакойваеш? Гэта ж мая ідэя — гістарычны фільм, мая! Паляванне на зубра, чары з мёдам, паненачкі... С... я хацеў на тое, якое стагоддзе браць, дзе ў ім героі, а дзе не героі: ты мне даўніну давай, ты мне страсці так скруці-закруці, каб глядач разяўленага рота не закрываў да канца фільма! Ты мне сечу намалюй і кулуарную інтрыгу запляці, каб і ў мяне і ў любога пад лыжачкай засмактала ад цікаўнасці! Народ... Каго сёння цікавіць народ — розныя Марусі і Іванушкі? Нікога, ніводнага дурня не купіш, соты раз пераказваючы абрыдлую казачку пра белага бычка,— няма дурняў, выveліся. Каго ні вазьмі — прыгожага жыцця шукае, а ўжо ўхопіць што — сваёй выгоды не ўпусціць, сваёй удачай не падзеліцца. Не! Я... Я даў работу гэтаму новаяўленаму праведніку некалі, носам, як цуціка, тыцкаючы ў памылкі, выпраўляючы іх за яго, а ён — бач ты на яго! Асэнсаваць гісторыю свайго народа! Ды с... я хацеў на яго асэнсаванне: фільм, трох- чатырохсерыйны фільм мог бы быць — мой фільм!

Стомленая Майка прысела на канапу і адно галаву паварочвала на кожны рух, на кожны круг Міся па пакоі: яна няшмат зразумела з бязладных, гнеўных воклічаў — напэўна, на калегіі штосьці адбылося,

штосьці, што зачапіла яго. Ну, дык зачапіла і адпусціць: Кіцына ведалі, Кіцын не навічок.

— Кіцына ведаюць. Кіцын — не навічок. Я да Масквы дайду, калі трэба,— і там сябры знойдуцца. Хто ён такі, Суляціч, што супраць мяне — мяне, рэжысёра з саюзным імем, пайшоў? Ды трох гэткіх, як ён, не хопіць, каб мяне маёй дарогі спіхнуць. Перадушу, як прусакоў.

Ён душыў ужо ўяўленых ім прусакоў падэшваю — сціскаў кулакі і ўціскваў, удаўліваў у тоўсты дыван туфлем з літой падэшвай штосьці, бачнае аднаму яму, і Майка, сцяўшыся, быццам ёй пагражала быць вось гэтак жа раздушанай, разгнечанай яго туфлем, не магла адарваць пагляду ад прыкамечанага, запэцканага ворса. Яна ўжо не абзывалася: цяпер трэба было адно — не трапіць яму пад руку, не ўгнявіць яшчэ больш, бо вынік, як заўсёды ў такім выпадку, будзе сумны, цяпер трэба было маўчаць і слухаць ці рабіць выгляд, што слухае,— пакуль Місь не зможацца, не абваліцца ў крэсла, пачынаючы астываць.

— Ведама ж, нацыянальны герой, падла! — з перакошаным тварам усё лятаў ён па пакоі, то сціскаючы кулакі і малоцячы імі па паветры, то нервова паціраючы сябе далонямі па ляжках.— Лацвей разважаць за спіною ў каго дурнейшага! Ды не там дурняў шукае: Кіцын — не навічок у кінематографе — ведае, па чым фунт ліха. Калі адзін смаркаты геній зрабіў фільм, які прабіць не зможа, то другога хай пашукаюць: мяне на тую сцежку з дарогі ніхто не спіхне. А то я не ўцямлю, што можна, што няможна, што пахне барышом, а што — катышом. Ды на аднаго такога героя — дзесяць цэрбераў знойдзецца! Што ж, самому с... падставіць, каб парвалі? На-род! Народ пляскае ў ладкі таму, хто асветлены пражэктарамі, пра каго гавораць і пішуць, а не таму, хто змагаецца. За і-дэ-ю, бачыце! Ці во яшчэ — за праўду! Ды праўда, калі ён хоча ведаць — усюды.

Ва ўсім. Усякі б мог гэткую праўду засабачыць, што паўсвета заплюшчылася б. Толькі навошта? Каму гэта трэба? Каму гэткая праўда патрэбна, пытаюся? Нікому! Бо ад таго, што ў вочы прэ, і так няма куды дзецца. Гісторыя... народ... праўда... Спакусілі, як жа! Ды я сам з народа, сам! — а назад, у народ, не пабягу, не кінуся. І не таму, што там людзей няма, — ёсць, чаму ж. Не таму, што там сваю долю цяжэй атрымаць: хто не дурань, усюды свае ўрве. Не, не таму. Там я — проста рабсіла, хто б на мяне, на Кіцына, зірнуў інакш? А я дамогся, што інакш, інакш глядзяць! Адвеку свет падзелены на тых, хто ад цямна да цямна спіну гне, і на тых, хто есць, п'е і ў столь паплёўвае. Хто мне можа забараніць у столь паплёўваць? Хто ён такі, каб поперак дарогі станавіцца?

— Плюнь ты, Місь, — уставіла сваё Майка, адчуваючы, што ён стаміўся і пераключыцца на яе ў яго ўжо не хопіць імпэту. — Хто ён, і хто ты! Плюнь, і ўсё.

— І плюну. Плюнуў ужо. К чорту праведнікаў, — бухнуўся той у крэсла, цяжка дыхаючы.

— Правільна. Правільна, мілы. Не ён табе, ты яму спатрэбішся — сам прыбяжыць. На, глыні, — тут жа падбегла яна, схілілася, падала шклянку. — Прыбяжыць, куды дзенецца. Усе да цябе бягуць.

— Прасіў жа: не лезь у бутэльку, стары, усё будзе ў ажуры, — ужо хутчэй скардзіўся ён, чым абураўся. — Прасіў жа як чалавека. Дык не! А тут яшчэ Ляховіч сёння накруціўся.

— Што яшчэ за Ляховіч? З камітэта хто?

Адчувалася: Майка, пераканаўшыся, што небяспека мінула і Місь ужо не ўскінецца, не забушуе, расслабілася, адключылася да гаворкі, — яна стаяла спіной да акна, перабірала канцы нейлонавага паска і пазірала на мужа, як пазіраюць на старую, даволі абрыдлую цацку, таямніца якой даўно, да апошняга вінціка, разгадана, і была б яе воля, здэцца, — адвярнулася б і

адышлася, ніводнага разу не азірнуўшыся. Хоць гэта толькі так здаецца: была б яе воля...

Місь, адкінуўшыся на спінку крэсла і выцягнуўшы ногі, расказваў штосьці пра Ляховіча, што — Майка не дужа ўслухвалася, бо той быў не з яе акружэння: спыталася, бо слых за незнаёмае прозвішча зачапіўся. Адно, калі пачула, што Ляховіч — пісьменнік, здзіўлена прыўзняла брыво і тут жа супакоілася: пэўна, хтосьці з тутэйшых, на каго і ўвагу звяртаць не варта было.

— Ты сёння ўжо нікуды не пойдзеш?— падышла, выгнулася і абхапіла Міся рукой за шыю, прыпала шчакой да яго шчакі.

— Думаю,— прыжмурыўся ён на гэты рух, крануўся яе гнуткага стану, пацепваючы пальцамі, але калі Майка прыгарнулася шчытней і схацела сесці на ручку крэсла, рэзка адхінуўся.— Не, не! Не да лізання зараз. Мне б што перахапіць і — пабег, пабег я!

Казаў і пацягваўся, расслабляючыся, заўважыў, што ў туфлях, і незадаволена ссунуў бровы.

— Ах, чорт! І разувацца позна,— азірнуўся на Майку, што так і стаяла ў яго за спіной, і раптам зноў зазлаваў.— Чаго стаіш? Аслупянела? На кухню, на кухню! Не бачыш: спяшаюся.

Майка матлянулася паўз яго на кухню, пачула, што зазваніў тэлефон, і нават не азірнулася: зрабіць пару бутэрбродаў, наліць чаю з вялікага кітайскага тэрмаса — справа колькіх мінут, а потым... званіць маглі і не ёй.

— Вера?— пачула яна праз двое адчыненых дзвярэй.— Верачка Данілаўна! Цалую ручкі, цалую ручкі. Майка? Яна на кухні, мінута-другая — і абернецца, а ты... Ты са мной можаш пагаманіць. Мы з Майкай цябе толькі што згадвалі, да-да-да! Не заходзяць, казалі, забыліся на нас, казалі... Ні Верачкі, ні Якава даўно не было, ка-за-лі... Як ён? Як ты пры ім? Не тое

што засумавалі... Даўно не відаць вас, а мы ж сябры, сябры, Верачка! І работка ў мяне для Якава ёсць адна невялікая. Скажы яму пры выпадку. У нас? У нас усё ладкі-ладушкі. Ага. Во і Майка зараз пацвердзіць: думалі... згадвалі... цалую ручкі...

— У-у-у,— застагнаў ён, прыкрыўшы трубку даланёй.— Няма ад вас паратунку. Да цябе дайшло, што мне Якаў патрэбен? Я-каў! Я пабег, гадзіны праз дзве буду.

— А бутэрброды?— узяла яна ў яго трубку.

— Кіну ў рот і бутэрброды!

— Вера?— цмок-цмок-цмок!— пабуськалася Майка з сяброўкай, спіной слухаючы крокіМіся, гукі, якія даляталі з кухні.— Адкуль ты? Чаму доўга не ўзнікала? Спадзяюся, нічога не здарылася? Як сын? Як Якаў? Па-ранейшаму адорвае цябе? Па-ранейшаму — мілашачка?

Адчувалася, што ёй не патрэбны адказы,— пыталася, каб спытацца, і будзь Вера ў спакайнейшым стане, яна адказала б у гэткім жа стылі. Нешта, накшталт кіцынскага «ладкі-ладушкі». Але спакою ў яе на душы не было, і таму, абмінуўшы ўсе пытанні, адазвалася на адно, на самае балючае:

— Валодзік сумуе па бацьку.

— Які Валодзік? А! Прабач, зайка. Не дайшло. Я ж пра іншае...

— Уяўляеш, агарошыў учора: «Чым цябе папа пакрыўдзіў?»

— Крыўдаваць на мужыка — дарагавата абыдзецца! У мяне спытай — я табе скажу. Лепш прылашчыцца, шчакой пацерціся, усмешку да выпадку падабраўшы.

— Што ты кажаш, Майка? Якую ўсмешку? Я разышлася з Барысам, ты ж ведаеш! Перш Барыс, а зараз Валодзік... Як сама сябе пакарала.

— Глупства, зайка! Сама сябе, сама сябе... Гэта

ілюзія. Наіўная ілюзія! Нас выбіраюць, за нас вырашаюць — нам нічога іншага не застаецца, як любіць іх.

— Каго? Я ж табе пра сына.

— Нам нічога іншага не застаецца, як любіць тых, хто нас выбірае, і я б не сказала, што гэта нязручна. Урэшце, самой пражыць можна — ужо ж у пасцель каго-небудзь пакладзеш на ноч-другую, але ж тады самой трэба і мітусіцца скрозь, варыянты розныя прадумваць, вылічваць: казырны кароль не заўсёды трапляецца, ты ж разумееш.

— Я не разумею, пры чым тут кароль,— пакрыўдзілася Вера на Майчыны павучанні: тая нават выслухаць не хацела — папросту не чула ні яе слоў, ні яе трывогі.— Мо я не ў час пазваніла?

— Вярунь, зайка, і воўка накарміць і авечку ўберагчы яшчэ нікому не ўдалося. У адным выйграеш — у другім страчваеш. Гэта ж ісціна з самых простых!

— А Валодзік?

— Які Валодзік? Цьфу ты! Прабач, але ж я табе пра сутнасць нашу бабіную кажу. Ад яе, ад гэтай сутнасці, не адмовішся,— усміхалася ў трубку паспакайнелая, адмяклая пасля нядаўняга напружанага чакання сустрэчкі з раз'юшаным Місем Майка.— Ды і нашто адмаўляцца? Пакуль маладыя, пакуль ёсць жаданне прымаць рэальнае за жаданне, то чаго ж! Адзін, другі, трэці... Гэта не мае значэння. Мае значэнне толькі адно: як ты ацэнена, у якой валюце.

— Ты не чуеш мяне, Майка.

— Хіба? Я ж слухаю, слухаю! Спадзяюся, нічога не здарылася?

— Я не магу пазбавіцца трывогі. Усё яшчэ вызначыць не магу, адкуль яна, гэта трывога, а любая радасць не ў радасць, сон не ідзе — гадзінамі ўзіраюся ў цемнату. Заплюшчуся, а ўсё роўна трывожную цемнату гэту бачу: пагойдваецца нада мною, як цёмны, чорны

воблак... На маму неяк накрычала. Сынавага позірку баюся. Усяго баюся!

— Гэта нервы,— спакойна ўдакладніла Майка.— Што, Якаў доўга не прыходзіў? Дык мо ў камандзіроўцы. Мо падтаяў і да якой грудастай (мужыкі гэта любяць зрэдчас!) прыхінуўся на дзень-другі. Гэткай бяды! Да такой, як ты, вяртаюцца, Вярунь. Павер мне!

— Ты не зразумела, Майка,— уздыхнула тая, хаваючы раптоўную раздражнёнасць.— Ты не зразумела.

— Толькі не трэба думаць, што ад цябе штосьці залежыць,— засмяялася тая.— Табе не дваццаць, зайка. Сёе-тое трэба прымаць такім, якое ўжо ёсць.

У трубцы запікала: Вера паклала трубку.

Майка недаўменна зіркнула на апарат, падзьмула ў трубку і, адчуваючы, як распаўзаецца ў душы — глыбока ў грудзях недзе — незразумелая стома, паклала яе і пацерла пальцамі гарачыя скроні: штосьці яна ўпусціла, штосьці не сказала!

Ужо адмахнуўшыся ад гаворкі (колькі іх яшчэ будзе!), ужо адышоўшыся, вярнулася — прыгадала папярэджанне Міся: яму патрэбен быў Якаў! Набрала нумар, спакойна, усмешліва гукнула Веры:

— Нас перапынілі, Вярунь, я тут не дагаварыла...

## XXII

Як нельга спыніць бег Дзвіны паўнаводнай, так нельга спыніць людскі паток, падхоплены віхурай гневу вялікага, гневу супраць самаўпраўства князя, супраць жорсткасці прызначанага ім ціўна і разгулу княжай дружыны. Бо хоць і правіў князь Рагвалод, пасаджаны на стол бацькі свайго Барыса і дзеда свайго Усяслава, ды выбірала яго і ставіла над народам веча. Вечавым жа сходам і адмяніць выбар льга было, калі і сільныя чэсныя мужы горада — баяры, і купцы, і рамеснікі,

і іншыя служаніны і халопы ў адзін голас памысляць: не быць Рагвалоду князем-валадаром, не валодаць Полацкам і землямі вакол яго.

Ужо ж, і цівун і мытнікі княжыя справу сваю знали, але ж і люд, даведзены да галечы і адчаю,— сіла. Гэткая сіла, што не тое што мытнікаў, якім зносілі даніну,— дружыну княжую з дарогі змяце, калі выступіць дружына супраць народу, гневу яго не збаяўшыся.

Багата князю і яго дружыннікам трэба, каб жыць у сытасці і раскошы, але ж ненасытнае чэрава не накорміш, нездаволенае сэрца не ўзрадуеш, хоць бы цэлыя сем'і вакол павымiралі з галадухі, аддаўшы апошняе і пяючы славу князю і яго харобрым воям. Харобрасць вояў у бітвах з ворагам, а не ў корчмах правяралася, слава княжая славе народа яго роўна — гэта і вярхоўныя мужы — баяры ведалі і простыя людзіны помнілі. Таму, ледзь перавышаў князь уладу, палачанамі яму дадзеную, тут і надыходзіў канец яго ўладзе: ледзь загараўся дзень за гарадскою брамаю, ішлі людзіны, грамадою пасланыя, да вярхоўных мужоў, а тыя пасланнікаў сваіх да біскупа ў Верхні Замак накіроўвалі, каб уладай таго загаварыў вялікі вечавы звон Сафійскі, будзячы званы ўсіх храмаў стольнага горада і яго аселіц, каб словам біскупа, звернутым да бога і да люду полацкага, выбар паў на князя, імі, баярамі, выбранага.

Неаднойчы было так, неаднойчы будзе, пакуль сонца вызалочвае купалы Сафіі, пакуль вада дзвінская бяжыць следам за сонцам, поячы бары і лугавіны прырэчныя.

Ад халопа да рамесніка, ад рамесніка да купца, ад купца да баярына, ад баярскага пасланніка да біскупа слова было пушчана — і вось ужо гучала яно на дзядзінцы ў Верхнім Замку:

— Чалом б'ём табе, біскуп, усявышняга малітвай памянуўшы неаднойчы, але павінен ты ведаць, што

ўзбунтаваўся народ праціву Рагвалода, князя-валадара, і калі не ўдарыць у звон вечавы, не ўважыць народ, склікаўшы палачан на веча і даўшы яму мажлівасць выбар наш замацаваць воляю сваёю,— не будзе волі нашай, не палічыцца люд з ёю і справіць сваю волю.

— Ды будзе воля господня сцвердзіць, як памыслілі рабы яго, і ўдастоіць ён іх ласкавага абсуду. Ды ніколі не будзе памысленне гэтае ў суд ці засуджэнне. Амін.

І схілілася, апярэджваючы пасланнікаў, у малітве да самага долу ігумення Ефрасіння, што сваім і манастырскім клопатам патурбавала зрання біскупа — дамовілася ж ужо была на дапамогу пры будаўніцтве новага храма божага, сабора Спаса-збавіцеля, лічы, атрымала бласлаўленне біскупа на думы і на работу вялікую, а тут — пасланнікі баярскія волю люду полацкага прынеслі, і трэба было біскупу новы клопат правіць, новага князя-валадара на стол полацкі благаслаўляць...

— Ды ніколі не будзе памысленне гэтае ў суд ці засуджэнне, ды будзе воля господня над усім, што рука наша вершыць,— паўтарыла Ефрасіння словы біскупа, амаль слова ў слова паўтарыла, памаліўшыся з усім жарам душы сваёй, і ўстала, як толькі пачула: «Амін», і рушыла следам за біскупам паперадзе пасланнікаў баярскіх дзядзінцам да Святой Сафіі.

І забомкаў вялікі сафійскі звон, склікаючы люд, які вірыў ужо на ўсіх вулачках горада і насмельваўся — хто з мечам, хто з рагачом — рушыць у бок княжага двара: траха не паўдня мінула з таго часу, як пасланнікі палачан пайшлі сказаць волю іх мужам вярхоўным, не паспяшаліся, відаць, тыя своечасова да біскупа. А не паспяшаліся, дык і не патрапілі. І не асуд нікому было, што грамадою наважыліся яны сваю волю правіць, і справілі б — ды азваўся, забомкаў звон, склікаю-

чы іх на веча, і азваліся яму адусюль галасы храмаў шматлікіх і галасы людзінаў:

— Ужо ж, паспяшайся мы...

— Час прамінуў, каб паспяшацца. Няхай веча збіраецца — усе разам памыслім.

— Збяромся ўсе разам, а памыслім тое, на што баяры намерваюцца. А то не ясна!

— Вышэй баярына не станеш...

— Сваю волю трэба правіць!

Званы сваё вядуць, галасы — сваё. А грамчэй ад усіх галасоў гучыць голас маладога каваля Злата з рамесніцкай слабады: зрэбная кашуля, падперазаная пяньковым шнуром, з-пад якой выпірала грудзіна магута, ды гэткі ж пяньковы шнурок укруга галавы, які сцягваў, не даваў рассыпацца па плячах густым светлым валасам яго,— вось і ўсё ўбранства каваля, калі не лічыць маладосці яго і сілы, што адчувалася не адно ў кожным руху імклівым, а і ва ўсмешцы, якая раз-пораз жорстка выблісквала на непакорным, прапаленым гарачымі вугельчыкамі цёмна-карых воч твары і ў рашучым, ярка акрэсленым выгіне вуснаў на кожнае вымаўленае слова.

— Сваю волю трэба правіць! — прамаўляў ён у натоўп, што акружыў яго, і то падтрымліваў водгаласамі: «Пэўна!», «Мы вольныя сваё правіць!», то адгукаўся абыякавым, звыклым: «Веча скажа!»,— прамаўляў голасна, страсна, бы на нязгоду іх падбухторваў.— Сваю волю трэба правіць! Не баяры нас кормяць, а мы іх, не князь нас абараняе, а мы яго. Чаму ж палёгкі нам няма ніякай? Чаму ж паклоны не адно князю ды баярыну, а і вою княжаму і служаніну баярскаму біць павінны? Чаму сясцёр сваіх на здзек вернікам аддаем?

— Дагаворышся, Злат, што цівуну перакажуць! — буркнуў пад руку яму, пад паху некуды, маларослы Яська-шавец, які, адцерты з насцілу ў гразь, усё імкнуў-

ся ўшыцца куды бліжэй.— І слабадскія ўсякія ёсць, Злат...

— Што за піск камарыны? — ухапіў яго за каршэнь Злат і, прыўзняўшы, угледзеўся, пазнаў і адмяк трохі, нават паставіў побач.— Каго напалохаўся, Яська?

— Бойся вушэй цівуновых, Злат: усюды яны, гэтыя вушы, за намі ходзяць.

Разрагатаўся той, маладосцю сваёю цешачыся.

— Вушы, кажаш? Але ж у аднаго — вушы, а ў другога — рукі, а? Пойдзем! Веча скажа, якою воля наша будзе.

— Веча скажа!

— Веча збіраецца! — загулі вакол масцеравыя, падтрымліваючы словы Злата, і рогат яго, і імэт, з якім павярнуў ён у бок саборнай плошчы.— Веча!

Гулі, спявалі званы Полацка. Услухваўся ў іх гул, у іх трывожны спеў, працісківаючыся з усіх вулічак на плошчу перад Сафіяю, люд полацкі. Услухваўся ў іх гул, у іх трывожны спеў Рагвалод са сваёю дружынаю, пакідаючы пасад княжы. Надоўга пакідаючы. Але гэтага ён яшчэ не ведаў...

— Вольны люд полацкі! — схіліў голаў перад біскупам і з гэтымі словамі ступіў наперад баярын Георгій, міг-другі памарудзіў, перачакаў, пакуль аціхне гул тут, у першых шэрагах, і працягваў.— Слава твая ад мора Бурштынава да стэпаў, заселеных няверніками, вядома, воля твая горадам правіць. І нягожа любому, хоць бы і князю-валадару, забываць гэта.

— Нягожа! — калыхнуўся натоўп, задаволена загудзеў: згодна з іх словамі баярын казаць пачаў.

— І нягожа любому, хоць бы і князю-валадару, суд несправядлівы чыніць над меншым братам сваім воляю цівуна альбо дружыны сваёй.

— Нягожа!

— Докуль?

— Веча скажа! — зазвінелі галасы над узрослым гулам, які хвалямі накочваўся знізу.

— Нам,— узвысіў голас і баярын,— мужам горада, вядома стала воля твая, люд полацкі, і сышліся мы, і думу думалі, і з малітваю на вуснах прасілі біскупа Святой Сафіі благаславіць гэту думу. Калі будзе на тое воля сходу вечавага, памыслілі мы ўсе разам прасіць князя-валадара Рагвалода Барысавіча пакінуць са сваёю дружынаю Полацк дзеля спакою горада...

— Гнаць Рагвалода!

— У асуд яго і дружыну глумлівую!

— Гнаць! — услед за Златам і іншыя закрычалі.— У асуд!

Баярын Георгій разгубіўся. Гэтага ён не чакаў. Пахла бунтам — недарэмна ж у сяго-таго з рамеснікаў зброя мелася: хто таіўся, а хто і не таіўся ў сваёй незадаволенасці. Варта было аднаму выгукнуць — усе падхапілі:

— Гнаць!

Азірнуўся на біскупа баярын: той стаяў, спакойна ўзіраючыся ў разгарачаных сваімі воклічамі палачан, зрэдку, быццам захліснуты чарговай хваляй хвалявання і нязгоды іх, кранаўся рукой пляча маладой і ўладнай ужо ігумені, быццам шукаў і знаходзіў у ёй падтрымку думкам сваім. Калі ж заўважыў разгубленасць баярына, злавіў позірк яго ўстрывожаны, то ледзь прыкметна нахмурыўся і кіўнуў галавою — даваў згоду сваю на тое, каб стварыць волю люда, волю схода вечавага: хто-хто, а ён разумеў, што не ён, біскуп, і не баярская дума сёння вырашала, а людзіны, узброеныя сваёй нязгодаю і нецярплівасцю.

І зноў баярын загаварыў да народа. Да біскупа ж, не зводзячы вачэй з натоўпу і даўно вылучыўшы ў ім ільновалосага магута-каваля, вакол якога цясніліся рамесныя людзі, загаварыла Ефрасіння:

— Не слухаюць князі волю нашу... Манастыры трэ-

ба множыць, да кніг святых душы людскія прывязваць, а паганства выкараняць: у душах, чыстаю верай крану-тых, і пакоры і цярплівасці больш.

Прамаўчаў у адказ біскуп, вуснаў не расшчапіўшы, адно ранейшым, амаль незаўважным, лёгкім рухам крануўся яе пляча.

— Згоды няма між князёў, веруюць слаба ў слова госпада нашага, таму і лішаюцца стала і Полацка, і земляў полацкіх,— уздыхнула тая, падносячы руку да лба і ўслухваючыся ў голас баярына, які ледзь узвы-шаўся, ледзь чуцен быў у пагрозлівым гуле натоўпу.

Пасланнік баяр, адзін з нашчадкаў магутнага баяр-скага роду, ён па традыцыі і патрабаванню веча колькі раз паўтарыў думку, раней выказаную, каб загучалі словы так, як грамада памысліла: воляю веча высылаў-ся князь Рагвалод Барысавіч з дружынаю з Полацка, у асуд ішоў, у Менску павінен быў знаходзіцца і не ў раскошы жыць, а пра асуд палачан штоміг помнячы.

— Лішаецца нас! — загула плошча, сцвярджаючы сваю волю.

«На тое ідзе, што разрабуюць людзі двор княжы і двары дружыннікаў ягоных»,— хаваючы ўздых і дум-ку, што мільганула, перахрысцілася Ефрасіння, але і крыжом сябе асяняла — бачыла сотні вачэй на яе скіра-ваных. Насцярожаных, недаверлівых, а то і насмешлі-вых, як у магута-каваля, вачэй. І няўтульна было Ефра-сінні пад іх позіркамі. Няўтульна і — упершыню, хоць і на працягу ўсяго некалькіх імгненняў,— страшна: ну, як не здолее яна збудзіць у гэтых вачах, у душах людзі-наў любові да ўсявышняга, любові і страху перад ім, усясільным? Ну, як не знойдуць водгуку ні яе словы, ні яе справы?

— Моўлена! — падняў руку баярын Георгій.— Лішаецца нас князь Рагвалод Барысавіч і ў асуд ідзе разам з дружынаю сваёю. Веча ж полацкае, замаца-ваўшы пасланне пячаткаю біскупа Святой Сафіі, звер-

нецца да менскага князя Расціслава Глебавіча з просьбаю заняць стол полацкі і правіць уладу ў згодзе з воляю горада нашага, у дагаворы па сім запісанаю.

— Лішаецца!

— Расціслаў хай княжыць! — несліся адусюль воклічы.

— З князем чарнігаўскім змовіцца трэба, каб мець яго за бацьку, і хадзіць у пакоры яму, і на тым крыж цалаваці,— скарыстаўшы момант, мовіў хтосьці з купкі баяр, і Георгій перасмыкнуў плячамі, незадаволенасць выказваючы, перш чым азірнуўся і пачуў яшчэ і яшчэ галасы: — І на тым крыж цалаваці!

— Згоды няма сярод баяр, а тое не бачаць, што бунт наспявае ў людзе, і не сёння заўтра выплеснецца гнеў іх, і ліхам абернецца, і цяжка будзе пакору вяргнуць,— выказала сваю трывогу Ефрасіння, апусціўшы позірк на малітоўна складзеныя — сцятыя — рукі.

— Мала моляцца ў манастырах за ўратаванне душаў людскіх,— азваўся біскуп і, змякчаючы сказанае, дадаў: — Не ў папрок табе, ігуменне: мала молімся мы...

— Малітва тады сілу мае, калі яна вуснамі многіх — усіх! — моўлена. Трэба, каб люд да нас прыйшоў, да амбона і нязгоду і пакорнасць прынёс, тады і нязгоду і пакорнасць гэтыя на богаўгодную справу скарыстаць ільга будзе,— бліснула сінімі вачыма яна.— Цаною жыцця свайго хачу прывесці нявернікаў да госпада, да слова яго, вернікаў жа да ўчынкаў у славу яго: не асуду нашага люд чакае, а разумення і прыкладу нашага...

— Я ўдзячны вам за разуменне і падтрымку, Міхась Пятровіч,— таропка ўзняўся насустрач Ляховічу, усхваляваны і гаворкаю, якая адбылася, і сваёю рашучасцю ў гэтай гаворцы, Глеб.— Я... Вы... Я чытаў усе вашы кнігі!

— Значыцца, мы даўно знаёмы,— усміхнуўся ён.— Пойдзем, а то тут такая духмень, што думкі напаліпаюць адна на адну. Вы мяне праводзіце, ці... ці я вас праводжу, як?

І, не чакаючы адказу, рушыў з пакоя. На хаду падаў руку Міканору, які чакаў ля дзвярэй, па-сяброўску кіўнуў Цеслюку.

На вуліцы дыхаць стала лягчэй: слабы ветрык кратаў зялёнае вецце ліп, абдзімаў твары, то прыгладжваў, то, быццам забаўляючыся, рассыпаў валасы — і дотыкі яго былі прыемнымі, прыемна-халаджавымі. Нават тое, што непадалёку, за якіх тры-чатыры крокі, ляцелі легкавікі ці, загароджваючы сабою паўвуліцы, каціліся аўтобусы і аўтобусы на павадку (Глебу чамусьці прыгадалася гэта колішняе матчына вызначэнне), не ўспрымалася, як звычайна, шумным, абрыдлым фонам — у самім гэтым бясконцым руху была тая лёгкасць, тая імклівасць, якіх прагла зараз душа.

Глеб чакаў, што Ляховіч загаворыць, але той, быццам забыўся на яго, які ўжо час ішоў моўчкі, не хаваючы сваёй задуменнасці,— позірк ягоны слізгаў па зялёным ліпавым вецці невідушча, крокі доўжылі ледзь чутнае сваё водгулле спакойна, размерана. Хада ўцягвала яго (і разам з ім Глеба) у рэчышча праспекта — у рэчышча часу: ні праспект, ні час не ўспрымаліся паасобку, раптам зліўшыся, утварыўшы адно цэлае, і Глеб міжволі дзівіўся гэтаму пераўтварэнню ў сабе, бо гэта ж у ім, здавалася, зліваліся рух і час, горад і прастора над ім, усё, чаго кранаўся пагляд, і нябачнае бязмежжа...

— Не асуду нашага люд чакае, а разумення і прыкладу нашага,— загаварыў да яго Ляховіч, калі Глеб ужо і не чакаў (яны якраз міналі парк Чалюскінцаў).— Прыкладу! Бо калі і я, і вы, і трэці-чацвёрты не зробім таго, што маглі і абавязаны былі зрабіць, словы стануць бяссілымі і ні на крок, ні на міг не зрушаць спра-

вы. А трэба ж не міг — стагоддзі зрушыць! Трэба ж, каб праз стагоддзі нашчадак нам азваўся — згадаў нас і схацеў прадоўжыць нашу справу. І мы ж не так сабе далёкую гісторыю роду свайго згадваем, а?

У голасе яго чуўся прыхаваны выклік: як, маўляў, на гэткае адкажаш?

— Сябе хочацца прасачыць... у мінулым...— няўпэўнена, нават запінаючыся злёгку, што не было яму ўласціва, выціснуў з сябе Глеб і спалохаўся відочнай, нягледзячы на ўсю няўпэўненасць, смеласці слоў.— Я хацеў сказаць: род, памяць яго!

— Не, не, «сябе прасачыць» — гэта вы добра заўважылі. Менавіта сябе! Толькі...— Ен спыніўся і з усмешкай, ледзь прыкметнай на яго падабрэлым, пацяплелым твары, углядаўся ў крануты лёгкім ірдзенем Глебаў твар.— Толькі чаму вы не пайшлі глыбей дванаццатага стагоддзя? Чаму не ўзялі — ну, хоць бы Усяслава?

— Не знаю,— змусіў сябе пераадолець няўпэўненасць і адказаць Глеб.— Мне здалося, што ва Усяславе было яшчэ шмат стыхійнага. Язычніцкага нават.

— Я-зычніцкага? А Сафія?

— Мне бачыцца: тым, што ён хацеў збудаваць і збудаваў сабор, роўны вялікім храмавым спарудам таго часу, Усяслаў хацеў асіліць ў сабе язычніка. І асіліў.

— Але ж гэта зусім новае тлумачэнне гісторыі, а? — усміхаўся задаволены Ляховіч.— Не баіцеся паспрачацца з гісторыкамі?

— Паспрачацца? Ды я ніколі не асмелюся тлумачыць гісторыю, Міхась Пятровіч,— пасмялеў ён ад гэтай усмешкі.— Тут бы хоць штосьці зразумець. Хай на сваім узроўні, а зразумець.

— На сваім узроўні, кажаце? Дык жа іншых узроўняў у мастацтве не бывае. Вось яно, браце, як выходзіць. І ўсе іншыя сцвярджэнні — няйначай, ад нячысціка, бо як высока ні забірай, а ўсё хлуснёй будзе

папахваць. Таму і ўзрадаваўся на пачутае: «сябе прасачыць». Менавіта сябе! З таго і зыходзьце, з таго і ідзіце. Самы беспамылковы шлях — шлях ад сябе, праз сябе, паверце старому галерніку, Глеб. І чым глыбей ад свайго здолееце зачэрпнуць, тым шчытней наблізіцеся да ісціны, тым больш патрэбнай будзе гэта ісціна для ўсіх.

— Баюся, што не для ўсіх... Хто я — для ўсіх? — сказаў, як уголас падумаў, Глеб і сумеўся.

А Міхась Пятровіч, як чакаў гэтых слоў, спыніўся, Глеба прытрымаў за плячо і, так і не адняўшы рукі, усхвалявана забасіў:

— Не «я» тут важнае, а род чалавечы, выяўлены праз гэтае «я», не асоба, хоць бы і чыя, сама па сабе, а час: канкрэтны час у гэтай асобе, у яе «я» ўвасоблены! Думаю, вы разумееце гэта, падсвядома разумееце, бо як жа інакш? Інакш і пачынаць не варта. Інакш — адно мёртвыя ілюстрацыі з-пад пяра выйдуць. Вось яно як, браце.

Яны, не вельмі ўдала, запыніліся насупраць тралейбуснага прыпынку — іх раз-пораз абміналі тыя, хто спяшаўся ўскочыць у тралейбус ці выходзіў з яго, але ні адзін, ні другі не заўважалі гэтага.

— Я хацеў бы... Гэтак, як вы... як у вас, Міхась Пятровіч, мне не здолець,— адгукнуўся Глеб і, адчуваючы, што не тое гаворыць, паспяшаўся дадаць: — Я разумею, вы не падумайце!

— Падумаю! Абавязкова падумаю, калі адмовіцеся ад працы,— засмяяўся ён на Глебаву збянтэжанасць і тут жа зноў пасур'ёзнеў, звёў лёгкія бровы.— Цікавая задумка. Вартая ўвасаблення. Ні часу, ні высілкаў не шкадуйце, Глеб,— паспрабуйце! Галоўнае, стагоддзі паміж сабой не разрывайце: падзел на прамежкі часу заўсёды ўмоўны — рух ідзе не з дня ў дзень, не са стагоддзя ў стагоддзе, а з лёсу ў лёс, з пакалення ў пакаленне. Гэта памятайце.

Ен памаўчаў, злёгку абдымаючы Глеба за плечы і пільна ўзіраючыся ў яго.

— Я ведаю вашага брата. Яго парады неаднойчы дапамагалі мне лепш арыентавацца ў самых далёкіх эпохах. Думаю, дапамогуць і вам,— адняў руку, заканчваючы гаворку.— Ну, а калі я чым змагу... Знайсці мяне лёгка: смела выходзьце на акадэмічны часопіс. Згода?

— Дзякуй! Я не ведаю, як...

— Вашага за вас ніхто не зробіць. Ні я, ні хто іншы!

Толькі калі крануўся тралейбус, якім, развітаўшыся, паехаў у раён Зялёнага Лугу Ляховіч, Глеб заўважыў, што дзень усё-ткі меў межы, дакладна пазначаныя стрэлкамі гадзінніка. Гадзіннік, праўда, паказваў неверагодны зараз час — Глеб адно плячамі перасмыкнуў, зірнуўшы, і не стаў удакладняць. У падобныя хвіліны гэта не мела значэння.

## XXIII

— Горшая, лепшая работа — гэта не мае значэння, мама. Важна, як чалавек за кошт яе жыве,— моршчыла напудраны носік Ева, незадаволеная не столькі мяккім матчыным папрокам, колькі цікаўнымі позіркамі сустрэчных,— ёй уяўлялася, якая гэта была карціна: невялічкага росточку вясковая жанчына ў ядавітазялёнай шарсцяной кофце паверх спадніцы з грубага сукна і ў белай паркалёўцы пад падбародак, і дзве гарадскія модніцы побач, з чорт ведае якімі вандзэлкамі.— Важна, як чалавек жыве, разумееш? Ведама, шчасце — аптэкарка! А што вучылася, дык вучылася і перавучылася. Нядоўга па сённяшнім часе.

— Дак я ж нічога не кажу, дачушка. Не сярдуй, не ў папрок бо,— зазірала ёй у твар маці, перасыпаючы нагамі, каб быць трошкі наперадзе.— Я ж таго, што, як даўней, дак аптэкарка — прафесія дужа ўсюды паважаная. На вёсцы дак як дакторка, няйначай. Не меней.

— Даўней — не цяпер. У мяне сваё жыцце.

— Дак я ж нічога не кажу, Ева. Я ж нічога...

— Чаго ты апраўдваешся, мама? Сказала і сказала. Каму і сказаць што, як не табе? — перакінула цяжкую сумку ў другую руку Святлана, скоса зіркнуўшы на сястру, на яе вёрткі (нікога позіркам не мінала) профіль.— Мы ж ужо прыйшлі. Зараз пасядзіш на лавачцы ў скверыку, а я збегаю куплю білет. У нас яшчэ як не гадзіна часу.

— У мяне ні хвіліны, Свет!

— Як ні хвіліны? Ты ж не збіралася...

— Дак хай бяжыць, як трэба,— заўважыла незадаволенае пакручванне носам старэйшай і запыніла Святлану маці.— Ведама, пані знайшлі — матку, каб гуртом праводзіць! Бяжы, бяжы, дачушка. Як трэба, то чаго ж. Мы ж ужо на месцы. Аддыхаюся і да цягніка падамся. Каб не напакавалі гэтак сумку, дак і білет бы сама ўзяла. А так ужо Святланка...

— Во і добра. А я... Прыехаць не збяруся, відаць. Нявыкрутка, сама бачыш. А ты, як што, ма, заязджай. Напішы толькі перш, каб дома мяне застаць. Дома я рэдка бываю.

Ева паставіла ўвязаныя пакункі на асфальт, ледзь чутна, больш для віду, кранулася шчакой матчынай шчакі і, крутануўшыся на тонкім абцасіку, пакрочыла назад, цераз Прывакзальную плошчу, на той бок яе, і не павярнула галавы, не азірнулася, хоць і маці і Святлана — адна са шкадаваннем, другая з абурэннем — колькі хвілін пазіралі ёй услед.

— Давай во сюды, мама. Цэлая лаўка вольная,— падхапіла рэчы Святлана і рушыла лявей, у засень ліпы.— Ты пасядзіш, аддыхаешся, а я хуценька. Мы яшчэ з табой нагамонімся, пакуль цягнік пададуць!

Сказала і адбеглася, балазе, касы білетныя былі тут жа, непадалёку. А Волька звыклым рухам прыціснула рукі да грудзей, уздыхнула, міг-другі пастаяла нерухо-

ма, супакойваючы сэрца, і пачала ўладкоўвацца на лаўцы. Перш падсунула бліжэй рэчы, пасастаўляла ўсё побач, адной купкай, потым агладзіла даланёю спадніцу і села сама. Агледзела набітую прадуктамі сумку, прыкрытую старой, ужо крыху прыжоўклай газетай, папраўіла паслабленыя за дарогу шпагат, якім былі сцягнуты ў адзін вандзэлак розныя пакупкі: гумавыя боты гаспадару, мяккія, абабітыя штучным футрам шлэпкі (летам у іх зручней, як у туфлях), колькі метраў прыгожай крамніны на новыя фіранкі, два вялікаваценькія (гэткіх дома не купіла б) кубкі з кветкамі па белым полі, хімія на мух, бліскучая начная сарочка, ніяк для яе не зручная і халодная (а як адмовішся, калі даччыны падарунак?), палатно на ручнікі... Зашмат усяго набралася, але ж раз на год выбраўшыся ў Мінск, то адно нагледзіш, то другое. Данясе неяк. Звыклая. Не гэта турбавала, пра іншае — пра дачок — думалася: не ад хады, ад думак сэрца ўсхадзілася...

— Мама, ты плачаш? — спалохана гукнула яе Святлана, апускаючыся перад ёй як не наўколенцы.

— Што ты, што ты! — схамянулася тая, хуткім рухам прамакнуўшы куточкі воч ражкамі паркалёўкі.— Чаго б гэта я ўздумалася плакаць? Жывыя, здаровыя ўсе, дзякаваць богу. Жывяце ў згодзе, на бацькоў не забываецеся... Грэх было б крыўдаваць!

— Я ж бачу...

— Дак то ж я на бліскучае лісце заглядзелася: сонца так і ўзбрыквае, крануўшыся якога лісціка.

— Узбрыквае? — паспрабавала схаваць сваю трывогу Святлана, падымаючыся, і таму задрала галаву і да самой макаўкі абгледзела ліпу, і таму ўсміхнулася: — Яно што, аляня — сонца?

— Ат, ты скажаш! — ад яе ўсмешкі прасвятлела тварам і Волька.— Якое ўжо там аляня? На ферме век таўкуся, цяпер во ў цялятніку, дык і згледзела на лісці сляды залачоных капыткоў. Згледзела, дак і мовіла.

А табе — насмешка. Няйначай, дзіця малое. Ей-бо.

Гэтак весела-бурклiва скардзілася маці, што Святлана засмяялася, лашчачыся.

— То і дзіця, мама! Тваё меньшанькае дзіця,— апусцілася Святлана на лаву побач і, абдымаючы маці за плечы, прыхінулася, прытулілася шчакою.— І ты ў мяне зусім не старая і доўга-доўга яшчэ не будзеш старой. Вось я прыеду праз тыдні два і сшыю табе квяцістую кофту з фальбонамі і модную спадніцу з прарэхаю — ніхто не пазнае!

— Ну, калі ўжо кофту з фальбонамі ды спадніцу з прарэхаю, то пэўна ж... Не адно бабы вясковыя, а і цяляты языкі высалапяць на гэтакае. Вось толькі б бацька за дзягу не ўзяўся, га?

Адсмяяліся — адна ціханька, прыкрываючы рот ражком хусткі, другая весела, не хаваючыся. Памаўчалі адна ля аднае, сцішаныя, шчаслівыя сваёй роднасцю. Адначасова згадалі пра цягнік — Волька зіркнула на састаўленыя збоку рэчы, Святлана — на гадзіннік.

— Яшчэ рана, мама.

— То і няхай. Пасядзім, пагамонім,— адазвалася тая і, крыху пасунуўшыся, павярнулася да дачкі.— За мітуснёю і пагаманіць не было часу. Ведама, горад!

— І ў горадзе па-рознаму жывуць.

— Дак не скажы, Святланка. На каго ні зірнеш — твар чужы, абыякавы, як ні павернешся — або каму на нагу ўшчэмішся, або табе ногі адгнятуць. Бягуць, бягуць усе. Гэтулькі, здэцца, люду — у позірку не сабраць. А неяк жа нанач расціскваюцца па хатах: хто ў сваю, хто ў чужую, во, як ты, няйначай, у інтэрнат...

— Ну, з інтэрната мяне хутка выселяць,— не ўсміхнулася на матчыны словы Святлана.— Правы, дадзеныя на пражыванне ў горадзе, заканчваюцца, апошнія экзамены — і ўсё! На сваім хлебе буду. У жніўні павінна выехаць па накіраванню.

— Хай бы ты дамоў прасілася,— церабіла даччыны рукаў Волька.

— Прасілася, мама. Сказалі: там штаты скамплектаваныя, а ў Сінчы, куды мяне пасылаюць, дзеці другі год без настаўніцы.

— Гэта дзе ж тая вёска? А?

— Недзе ў нашым баку. За Пухавічамі. Я яшчэ не цікавілася. Перад тым як дадому ехаць, з'езджу, зірну.

— З'ездзі. Зірні. Яно, пэўне, трэба слухацца: вучылі цябе на настаўніцу пяць гадоў, ужо ж ім відней. Толькі бачу: нам з бацькам самім да старасці дабірацца, адно ў адным апоры шукаючы.

Яна змоўкла на хвіліну, сцялася, быццам яшчэ падрабнеўшы, і толькі пальцы гэтак жа неспакойна церабілі тонкую бязь рукава светла-бежавай даччынай блузкі.

— Пагадавалі, павывучвалі вас, і добра! — супакойваючы сябе і дачку, мовіла.— А што адны, самі, на старым гняздзе засталіся, дак, дасць бог, дажывём, агораем гады свае!

Святлана не знайшлася, што сказаць у адказ: горыч віны і разуменне свайго абавязку, шкадаванне і смутак, згадкі маленства і непакой за маці, якая, канечне, пастарэла і змянілася (вось жа і тое, што не заўважаючы гэтага, нетаропка церабіла пальцамі яе рукаў, было незнаёма Святлане) — усё разам паднялося ў душы, гасячы недарэчныя зараз словы віны ці суцяшэння. Бо і віна, калі дакопвацца да сутнасці, была не столькі віною, колькі разгубленасцю перад часам, перад яго хуткаплыннасцю і незваротнасцю: на памяці ж яшчэ — залітая сонцам лугавіна і два яркія банты ў косах, за якімі, як за матылямі, ганяліся з ёю, Святланаю, навыперадкі белалобыя цяляты, на памяці — два сонцы, на якіх, як на двух колах, новенькі бліскучы веласіпед каціў яе з горкі насустрач далягляду, паўз сіняе поле лёну і перапоўнены птушынымі песнямі

бярэзнік, а ўжо і лугавіну тую даўно разаралі пад калгасны агарод, і бярэзнік той высеклі, калі цягнулі лінію электраперадачы, і на веласіпед, пагнуты і паржавелы, даўно памяняўшы ў ім колы, садзіўся бацька, адно калі ўзнікала патрэба ад'ехацца на рыбалку. А толькі азірнецца: як урос далягляд у згадкі — куды б ні ехала Святлана, колькі б ні ўзіралася ўдалеч, ззаду паміж ёю і бацькамі ляжала залітая сонцам лугавіна і два сляпучыя сонцы веласіпеднымі коламі зматвалі ў два клубкі дарогу, пакідаючы пагляду сіняе поле лёну і белы, бела-зялёны бярэзнік. Паміж ёю і бацькоўскай хатаю...

З першага самастойнага кроку ад ганка, ад парога шырэў, ушыркі і ўдоўж рассоўваўся, шырэючы, свет — мянялася, расло разам з ёю, Святланаю, уяўленне дома. Спярша домам была хата і падворак, потым да бацькоўскага падворка далучыліся край вёскі, выган, а праз год-другі і школа з абсаджаным таполямі дваром, у якім сыходзіліся сцежкі з усяе ваколіцы. А ўжо як пачалася вучоба ў школе — з класа ў клас, з году ў год нястрымна адступаў перад ёю далягляд, вабячы думкі, фарбуючы ў самыя яркія колеры мары: ваколіцы вёскі, неаднойчы сходжаныя і з'езджаныя, паступова змяншаліся і зменшыліся да адной невялікай рыскі на карце Падняпроўя, Падняпроўе лёгка, адным сказам укладвалася ў межы Беларусі, любы сэрцу і вачам край беларускі афіцыйна і неафіцыйна параўноўваўся з адной з галінак на вечным дрэве Айчыны, вялікая магутная Айчына агульнавядома складала адну шостую зямлі, Зямля павінна была адшукаць і шукала гэткую ж, як сама, планету, заселеную разумнымі істотамі... Неаспрэчныя школьныя ісціны!

Ды вось дзіўна, чым больш неаспрэчнымі яны рабіліся, тым часцей разгублена азіралася Святлана назад: ану, як зарастуць, утравеюць знаёмыя сцежкі, ну,

як, разарваўшы ланцуг часу, не згадае яна аднойчы свой першы крок, родны ганак, матчыну песню?

— Свет вялікі, усім месца знойдзецца,— быццам адказваючы на яе думкі, зноў загаварыла маці.— Хоць кожны лепшага месца шукае, а ўсе дажывуць да думкі, што лепшае месца на зямлі — сваё. Тое, што за табой значыцца. Гэтак скрозь бацька, дзед твой, казаў, а зараз і я яго словы паўтараю. Дажыла, мусібыць, да іх. Ён, дзед твой, стаптаў свой век там, дзе нарадзіўся, і мы ад старога гнязда не паразляталіся — там дажывем, дзе жывем. А ў вас, няйчай, вецер усяліўся...

— Час, відаць, гэткі, мама.

— Дык я і кажу: вецер!

(Вецер тут, у адвячоркавым горадзе, дакладна разлінееным вуліцамі, плошчамі і гмахамі будынкаў, старанна расквечаным сонцам, стракатым адзеннем свайго і прыезджага люду і зелянінаю на адзін прабор падстрыжаных ліп, амаль не адчуваўся. Зрэдку, калі якую з галін пераважаў сонечны водсвет, з лёгкім шапаценнем пакалыхвалася і тут жа аціхала, супакойвалася лісце над галавою. Яшчэ радзей, зачэпленае трамвайным вагонам або чыёйсьці задужа таропкаю, парывістаю хадою, лена варушылася, расцякаючыся па алеях сквера, цёплае, цяжкое ад машыннага гулу і рэха людскіх галасоў і крокаў паветра. І ўсё.

Звычайны летні адвячорак на пачатку чэрвеня. Вецер слабы, месцамі незаўважны.

Трэба было доўга, добра ўслухвацца, каб, спалучыўшы ў адно вецер і весткі адусюль, з усяго свету, якія разносілі па горадзе газеты, пачуць, як вецер, наляцелы з боку акіяна, каторы раз спрабуе раптовым ліўнем змыць чорныя сляды напалму вакол в'етнамскіх селішчаў, як, на сотні кіламетраў далей, выплёсквае ён з берагоў мутную, жоўтую ваду Тыгра і потым доўга студзіць людскія крыкі, расцягнутыя, параскіданыя па-

вадкам, як шалёным смерчам падымае ён у паветра гарачыя пяскі пустыннага ўзбярэжжа Лівана і ўсё ж і страшным свістам сваім не можа заглушыць водгулле стрэлаў і выбухаў, што разрываюць, раздзіраюць на кавалкі яго пакутную зямлю. А прастора ж шырыцца, расце, адзін за адным уцягвае патокі ветра ў свой рух.

Вецер. Сусветны вецер! Каб пачуць яго, трэба здолець на колькі хвілін адасобіцца ад сваіх думак і клопатаў, ад ціхага адвячорка і тлумнага ў сваёй шматлюднай мітусні горада. Гэта ж не кожнаму і пад сілу, а калі і пад сілу, то далёка не кожны хоча мяняць спакой на неспакой, спадзяванні на чужую горыч, адасобленасць на шлях, прадзьмуты скразнякамі. Далёка не кожны. І таму ўсе (кожны паасобку) — самі па сабе, а вецер... Вецер то пагладжвае лісце дрэў, то зрывае стрэхі з хат, а то і цэлыя селішчы падымае ў паветра. Неўтаймоўная, непадуладная чалавеку стыхія...)

— Спакуса сёння вялікая як не ў любога. Чаго ж хацець? — папраўіла маці хустку, раз і другі раз паслабіўшы вузел пад падбародкам, быццам ёй не хапала паветра.— Дзе ж гэта б мы некалі вучыцца ўсе, як адзін, кінуліся, калі і сем класаў скончыць было няпроста: і дня на навуку не хапала, бо ўпоравень з дарослымі рабіць даводзілася, і думка далей раённай крамы не забягала. Мо таму, што прыкрыць тую думку ад дажджу ды холаду не было асабліва чым: ужо ж як на паліто, прыгадваецца, хто ўзаб'ецца, то носіць, пакуль носіцца — з плеч і ў печ. Не сённяшнім днём.

— Я знаю, мы ўсе вінаватыя...

— Што ты, што ты, Святлана! І не думай, і не вінавацься. Пра вас наш з бацькам клопат: як вам лепей, так і нам добра. Мы і таму радуемся, што вы вучоныя ўсе. А што ў горадзе, не дома, дак што ж вінавацíцца? Спакуса занадта вялікая. Жыццё мо лягчэйшае. Дак хай так і будзе. Вам, дачушка, добра, і нам з таго спакайней. Мы ўжо неяк самі... па-свойму...

Святлана моўчкі, сілячыся зглынуць камяк, які раптоўна падступіў да горла, прыпала да матчынага пляча, схавала твар, вінаваты і расчулены.

Не абзывалася колькі часу і маці. Сядзела побач з дачкой, склаўшы рукі на каленях, і думала штосьці сваё — а мо і не сваё, а іхняе, маладое і не вельмі каб зразумелае ёй, бо, калі пяшчотна варухнулася ля пляча Святлана, уздыхнула і зноў паправіла на галаве хустку.

— Ева казала, што замуж збіраецца.

— Замуж?! — уздрыгнула і, не паспеўшы схаваць здзіўлення, перамешанага як не са страхам, занадта рэзка выпрасталася Святлана.— Яна казала: замуж?!

Маці пазірала дапытліва і не хавала трывогі.

— Мо хіба змяніла? А, Святлана?

— Я... я не ведаю, мама. Мы не гаварылі з ёй.

— А я ўзяла ды спыталася, ці думае яна, ці намерваецца замуж пайсці. Намерваецца, сказала. За мастака... Як жа яго? Глебам, ага, Глебам яго назвала.

— Нам час ісці, мама,— змусіла сябе падняцца з лаўкі і адказаць Святлана.

— Во! А мы сядзім, бытта цягнік чакаць будзе,— падхапілася тая і, заняўшы рукі (узяла, перш чым Святлана наважылася, самыя нязручныя з пакункаў), рушыла ў бок вакзала.— Мы ўжо спазніліся? А?

Пыталася, не чакаючы адказу.

— Ды не, мама, не спазніліся. Яшчэ мінут дзесяць ёсць... Чакай, я дапамагу!

Яна кінулася следам за маці, спрабавала перахапіць у яе з рук цяжкую сумку з прадуктамі, але тая толькі галавой пахітала і крокаў не сцішыла.

У вагоне, уладкаваўшыся сама і ўладкаваўшы рэчы — што побач, на лаўцы, што на падлозе, ля ног, падняла вочы на дачку і, быццам і не перапынялася іх размова, ціха сказала:

— Еве як не цяпер замуж пайсці, то ніколі ўжо, му-

сібыць... Няшмат бачылі вочы мае, а і таго, што бачылі, даволі... А ты прыязджай, Святланка! Заканчвай тут і прыязджай. Мы чакаць будзем з бацькам. Помні: мы чакаем...

## XXIV

Ефрасіння нічога з таго, што казала Еўдакія, сястра яе, не чула. Слухала — і не чула: голас сястры заглушалі ўласныя думкі яе, якія каторы ўжо дзень то ўсцешвалі гордае сэрца, то балюча вярэдзілі новым, здавалася, гэткім жа верагодным і блізкім, як і спраўджанае, спадзяваннем.

Блізкім... Больш як паўгода мінула з таго дня, калі адправіла Ефрасіння пасланне сваё ў Візантыю з просьбаю на дазвол валодаць ёй, ігуменні манастыра Усядзержца Спаса, валодаць Полацку, стольнаму гораду княства магутнага, адною з трох сусветна славутых ікон багародзіцы — Эфескаю, ці, як яшчэ яе называлі з даўніх часоў,— Корсуньскаю. Невядома, калі і кім была сарвана асабістая віслая пячатка Ефрасінні, зробленая па тыпу візантыйскіх: з аднаго боку — евангельскі сюжэт з выяваю Хрыста ў цэнтры і апосталамі Іллёй і Маісеем з бакоў і Іакавам, Іаанам і Пётрам унізе, ля ног гасподніх, а з другога боку — выява святой з надпісам «Іефрасіння» і доўгім надпісам, зробленым кірыліцай: «Госпадзі, памажы рабе сваёй, Ефрасінняй нарачонай». Але пасланне дайшло, пячатка была сарвана, і сведчаннем таго, што яе, полацкую ігуменню Ефрасінню, ведаў і прызнаваў Іерусалім, быў адказ, які яна атрымала: просьбу яе ўважылі, ікона багародзіцы з Эфесу, што ў Малой Азіі, перадавалася ў Полацк, у манастыр Святога Спаса.

Усцешана гордае сэрца Ефрасінні. Ненадоўга, а ўсцешана. І калі б не заўсёдныя неспакойныя думкі яе, калі б не заўсёдныя шматлікія клопаты, льга было б

даць сабе роздых, тыдзень-другі не выходзіць з келлі, пабыць сярод кніг, сам-насам з імі. Але ж і да пабудовы манастырскага храма галоўнага яшчэ не прыступіла яна, а сцежку ў сэрца шукае жаданне закласці на высокім беразе Дзвіны мужаскі манастыр — Барысаглебскі, а ў думках — знайсці майстра, які зрабіў бы непаўторна-адметны, адмысловы Чэсны крыж мукі гасподняй для манастыра, у славу яго, у славу горада і ўсёй зямлі полацкай...

Зрэдку ўскідвала яна позірк, узіраючыся ў сястру і не бачачы яе, зрэдку лёгенька сціскала і зноў распрамляла пальцы складзеных на каленях рук, не заўважаючы таго. Доўжыліся хвіліны. Цішэў, а то і згасаў раз-пораз голас Еўдакіі. Ці то адчула яна, што не дасягалі словы слыху Ефрасінні, ці то заканчваліся ўжо словы, бо колькі таго дакладу назбіралася за дзень: будні манастырскія былі строга падобныя, расклад іх быў распісаны не сённяшнім днём і строга захоўваўся, работа па перапісцы кніг і пісанняў вялася згодна малітвам штодзённым. Адно што Звеніслава, князёўна Барысаўна, прымеркавала сваё ўступленне ў манастыр да гэтага дня, і дары яе манастыру — кошту вялікага: увесь залаты посуд на патрэбы манастырскія перадала, усе ўборы свае і ўпрыгожанні дарагія... Але пра гэта ведала і Ефрасіння — яе, Ефрасінні, настойлівымі намаганнямі здзейсніла Звеніслава свой намер: наважвацца і раней наважвалася, а прыйшла толькі сёння.

Што яшчэ? Новую песню Баяна сівы гусляр Лот здалёк прынёс, песню пра магута Славена і сына яго Волхва, ад якіх плямёны і крывічоў, і палян, і драўлян пайшлі...

— Ты штосьці мовіла пра казанне Баянава? — сінімі агеньчыкамі ўспыхнула ў вачах Ефрасінні цікаўнасць.— Хто прынёс? Адкуль?

— Стары Лот, кажуць, ізноў у Полацку. Гады тры думалі, што загінуў, згінуў недзе ў дарозе, ажно не,

з'явіўся. І новую песню Баянаву палачанам кажа, пераказвае. Ды гэтак пераказвае, што ўсмешкі на тварах пад голас ягоных гусляў ледзянеюць.

— Лот гэта ўмеў,— задумліва азвалася Ефрасіння.

— Голас слабейшы стаў, а валодае ім гэтак жа ўмела, як і калісь — ні гуку не губляецца.

— Ды ты ніяк слухала яго, сястра? Слухала і мне нічога не сказала, ведаючы...

— Людзі слухалі, Ефрасіння. А калі хто з палачан чуў, то як жа да нас чуткі не дайшлі б? Пераказалі. З таго і ведаю. Самі ж пачуць схочам — і для нас Лот паўторыць песню Баянаву.

— Пакрыўдзіла цябе мая крыўда? — прытулілася плячом да яе пляча тая, усяго на адзін кароткі міг прытулілася, а і таго было даволі, каб адмякла, засаромелася сваіх залішне таропкіх слоў Еўдакія.

— Не, не,— са шкадаваннем азвалася яна на гэты сястрын рух.— Мне здалося, ты не чуеш мяне. Не слухаеш.

— Калі чыстае жыццё манастыра, моцныя і муры яго. Любая гразь змусіць камень палопацца, сястра. І таму дзень і ноч мы павінны і словам сваім і прыкладам сваім дамагацца таго, каб праменілася святло ў людскія душы адсюль, з прыстанку гасподняга. Знаю, і твае гэта мыслі, Еўдакія, і скажу: няма ў мяне лепшай памочніцы ў справах маіх і дзеяннях і намерах — неаднойчы ў малітве імя тваё паўтараю з удзячнасцю.

— Не ўзгневайся, Ефрасіння, калі моўлю што не да душы табе,— мовіла на гэта Еўдакія.— Трывожуся я: зашмат часу, сну свайго не шкадуючы, праводзіш ты ў малітве, яшчэ больш — у клопатах вялікіх і малых, якія не адно час твой з'ядаюць, але і сілу. Не пад сілу аднаму, хоць бы і самім господам абранаму,— тое, на што намерваешся. Дух жа наш у целе трымаецца.

Вялікае здзіўленне завалодала Ефрасінняю: незаўважна вырасла побач Гардзіслава — і голас стаў цвяр-

дзейшым, і душа ўзмужала, і разважае не пра сумненні, а пра сілу. Вось толькі што сілу здароўем вымярае...

— Не ўзгневайся, Ефрасіння. Бачыць бог, што любоў вуснамі маімі мовіць, вялікая любоў да цябе і да справы тваёй.

— Да богу ўгоднай справы, сястра,— мякка перапыніла яе Ефрасіння.— Разам мы вершым гэту справу, аднолькава чыстыя перад богам — за люд грэшны молімся, яго славы хочам, яго любоўю благаславёныя ўсявышнім будзем.

— Любоўю, Ефрасіння? — не ўтаіла Еўдакія рапатоўнага смутку.— На шляхах жыцця, жыцця духу нашага, любоў людская нямнога заважвае. Ненадзейная гэта мерка. Што ні людзін, то свая карысць: не за слова божае працуюць тут, у манастыры, а за плату, з якой жывуць, не любоўю да бога і да нас, служак яго, прываблены, а нястачамі ды нягодамі сваімі прыгнаныя. Сілу чуюць — сіле скараюцца. Што ж да любові, то не толькі любові, а і веры ў іх душах мала — веры ва ўсясільнага госпада нашага, у суд яго справядлівы.

— Хрыстос вучыў: вера без справы мёртвая. Шлях жа да бога, да міласці ягонай, розны ёсць. Самы доўгі шлях — шлях ведаў, карацейшы і больш прыдатны для ўсіх — шлях веры, самы кароткі — шлях дзеяння. Ступіўшы на самы доўгі і цяжкі шлях, сястра, не асуджаць мы іншых павінны ў гардыні сваёй, а спадзявацца на тое, што з цягам часу ў кожнай душы збудзіцца вера, а потым — і прага ведаў. Спадзявацца і ўсё рабіць, каб спадзяванні гэтыя спраўдзіліся. Не сёння спраўдзіліся — цераз гады, не цераз гады — цераз стагоддзі.

— Ты так далёка зазіраеш?

— Далёка? На гады, усявышнім кожнаму адпушчаныя, жыццё плоці нашай разлічана, жыццё ж духу — вечнае. Бо ў ім, у духу, сутнасць чалавечая, і сутнасцю гэтай люд выжыве і жыць будзе.

— З усім згодна, як цябе, сястра, слухаю,— апус-

ціла голаў Еўдакія, склаўшы рукі на грудзях.— З кожным словам згодна. А як зірну на работнікаў, манастыром нанятых, на спіны іх сагнутыя, усё думаю, што і душы ў іх прыгнечаныя і сляпыя, нездарма ж Пярун, якому яны моляцца,— бог суцемкаў паўночных. Дагэтуль шмат паганых сярод люду полацкага, і ні ў кім, ні ў адным са смертных не стане гэтулькі сілы, каб разагнуць іх спіны, каб злячыць іх душы.

— Ні ў кім, Еўдакія? А бог наш, Хрыстос усемагутны? — схітрыла з пытаннем пра бога Ефрасіння, каб прадоўжыць гаворку: цікавасць яе ўзрасла непамерна — і пазнавала і не пазнавала сястру сваю ў строгай манахіні ва ўладзе смутку, ва ўладзе думак сваіх супярэчлівых, што стаяла перад ёю ў пакорнай позе меншай па ўзросту і па званню.— Хіба сумняваешся ты ў тым, што схоча асвяціць і асвеціць усявышні словам сваім некалі і гэтыя душы?

Падняла вочы на сястру Еўдакія — смутак скалыхнуўся ў іх і зноў застыў, змежыўшы вейкі.

— Хрыстос воляю сваёю нас для гэтага прызваў у манастыр. І ты казала, што і служкі мы богавы і пастыры яго: словам божым вучыць люд праведна жыць павінны. А як навучыш, калі ён слова таго не чуе? Калі аднаго шукае — насыціць утробу і, адагрэўшыся ля агню, цешыць плоць сваю, каб прадоўжыўся род яго ў дзіцяці народжаным.

— Нешта я не разумею ў смутку тваім, сястра,— кранулася яе пляча занепакоеная глыбокім смуткам Еўдакіі Ефрасіння.— Слабая плоць чалавечая, так. Не сілаю сытая, а хлебам — і гэта праўда. Але род чалавечы па волі ўсявышняга павінен доўжыцца і доўжыцца. На што ж наракаць? Ды і нягожа нам, Еўдакія, забыць, што рукамі людзінаў гоні засяваюцца і муры ўзводзяцца, што ў цесных дымных майстэрнях вырабляюцца рэчы, у якіх хараство, святло душэўнае навекі застанецца — у вырабах новых майстроў, у песнях і кні-

гах новых адродзіцца. І слова, моўленае душою, і цяпло рук, у зробленым, здзейсненым, наступнікам перададзенае, аднаго кошту будуць, бо ні сказаць, ні здзейсніць нічога нельга, калі аслепне, згорбіцца душа пад цяжарам мукі ці незадаволенасці.

— Ты верыш, што няма сярод люду тых, у каго сляпая, цёмная душа? — не падняла галавы Еўдакія.— Ты напраўду верыш у гэта?

— Я веру, што ў кожнай, нават самай цёмнай душы няверніка ёсць зярнятка святла, усявышнім дараванае, і каб прарасло яно, каб асвяціла жыццё, смяротнае і несмяротнае, шмат часу мінуць павінна. І не адчайвацца нам трэба, сястра, а спадзявацца — на час спадзявацца, і на чалавека, які пераможа час і сябе самога пераможа.

— А як не? Як не схоча ці не здолее?! — апякла яе паглядам тая, падымаючы голаў і на крок адступаючы ад слоў, ад руху Ефрасінні.

— Не пераможа, так, не здолее, калі не будзе побач, на вачах яго праведнікаў,— пачуліся ў голасе Ефрасінні неспакойныя, жорсткія ноткі, і тут жа яна, счапіўшы пальцы рук, змагла гэтыя ноткі, схавала.— Слабая плоць чалавека: не сілаю, а хлебам насычаецца. Ды ні віны, ні граху ў тым няма: дзень і ноч катораму рабіць трэба, каб пракарміцца і дзяцей сваіх накарміць. Бог яго за гэта не асуджае, і мы не павінны. Большая віна, большы грэх, сястра, на тым, хто не хоча да душы спакутаванай дагукацца, хто не прагне святлом душы саёй з ім, прыгнечаным нястачамі і нягодамі, падзяліцца.

— Ты ўзгневалася, Ефрасіння... Я не хацела...

— Няма гневу ва мне, сястра,— яшчэ больш змякчыла сэрца сваё Ефрасіння.— Няма, бо і сама я калісьці думала над тым, што ёсць грэх і як многа магу я зрабіць для ўслаўлення роду свайго, для ўзвышэння роду чалавечага. Ведаю, плоць сваё патрабуе і бярэ — возьме! — ад жыцця, і ёю, плоццю жывою, жывая істота

божая. І ўсё ж у духу сутнасць чалавечая, і сутнасцю гэтаю люд выжыве. Чалавек плоць сваю насычае і цешыць, каб выжыць, людства ж — дух свой павінна мацаваць, каб людствам у вяках застацца. І няма ў тым супярэчнасці, як здаецца напачатку.

Ефрасіння задумалася, задумліва павяла паглядам па келлі сваёй, збоку б здалося, што доўга ўзіралася ў ікону, у твар Святога Спаса, цьмяна асветлены лампадаю, але не бачыла яна ў тую хвіліну ні дрогкага агеньчыку лампады, ні іконы за ім, ні Святога Спаса на іконе і ў душы сваёй. Душа яе ў тую хвіліну ўзнялася вышэй бачнага, звыклага і прызнанага ўсімі, куды ні позірку, ні тым больш слову было не дацягнуцца.

Бязгучна малілася, не зводзячы вачэй з яе дзівосна асветленага зараз твару Еўдакія, памаліўшыся, бязгучна пакінула яна келлю — Ефрасіння не зварухнулася, па-ранейшаму пазірала ў адну кропку — праз ікону Спаса-збавіцеля, і ніхто, нават сама яна, не сказаў бы ў гэтую хвіліну, дзе, у якой прасторы лунала яе душа. Абрыўкі думкі, кароткія, абпаленыя няўцямным, неадольным рухам яе, то знікалі, чэзлі, не закранаючы свядомасці, то раптам выблісквалі і балючым, колкім ззяннем сваім ранілі свядомасць — і тады Ефрасіння адчувала пякучы боль у грудзях, там, дзе павінна была быць душа яе, і тады жыва ўяўляўся ёй на міг, на адзін кароткі міг, той доўгі, пакутны шлях духу, які, як ні пярэчыла гэта спазнанаму ёю з кніг і пісанняў, як ні дзівіла, павінен быў ваісціну быць пройдзены нагамі чалавечымі...

— Ігумення! Ігумення!

Усмешка скрывіла вусны Ефрасінні, калі яна згледзела ля ног сваіх Еўку: тая, укленчыўшы, церабіла падол яе, ціхенька тузала за сутану, быццам гукала некуды,— і такім жывым, такім непрывабным было відовішча, што ні зазлаваць і адагнаць Еўку, ні прыняць яе кліч і пайсці за ёю нават не памысліла. Сцерла ледзь

заўважным, упартым рухам галавы ўсмешку з твару, падабраўшы падол, крутанулася і ступіла крок, другі да іконы: прыйшоў час малітвы.

— Там!.. Там!..— захліпнулася словам Еўка, і столькі было ў яе ўсхліпе трывогі і нецярплівасці, што Ефрасіння, паднёсшы ўжо руку да лба, азірнулася цераз плячо і тут жа, па твары шаляніцы, па вачах яе выпучаных, зразумела: штосьці здарылася — штосьці, што ўсхвалявала хворую душу яе.

— Што — там? — спакойна, дзіравячы Еўку халодным позіркам, спытала.— Госць, якога не жадалі і не чакалі? Сабака шалёны? Пажар раптоўны? Што?

Але на ўсе яе пытанні Еўка адно мармытала сваё: «Там... там...» — і тузалася на падлозе, усім тулавам сваім, не толькі тварам, выказваючы страх і трывогу.

Тройчы перахрысцілася Ефрасіння, тройчы пакланілася Спасу-збавіцелю, перш чым рушыла да дзвярэй з намерам высветліць прычыну трывогі шаляніцы Еўкі, якая чуццём, няйначай, угадала намер яе, рух яе і ўскочыла з падлогі, і вышмыгнула ў дзверы паперадзе, бокам — неяк збоку — азіраючыся на яе. «Як зацкаваны звярок»,— варухнулася ў душы Ефрасінні няпрошанае шкадаванне, і яна не адагнала яго. Гаворка з сястрою была таму прычынаю ці згадка пра горкі лёс Еўчын, так дзіўна і незразумела ўплецены ў сны яе, якія адганяла і адагнала, але шкадаванне, варухнуўшыся ў душы, не знікла: ідучы следам за Еўкаю — перш калідорам і крытай галерэяй, потым дваром манастырскім — праз суцемкі ўзіралася яна ў яе згорбленыя вострыя плечыкі, у закафэлыя, ад таго, што хадзіла ледзь не ўвесь год босай, ногі, у нервовыя, сутаргавыя ўздрыгі тулава, якія заканчваліся ўсплёскамі рук. Не ўзмахамі, а менавіта ўсплёскамі...

— Куды гэта мы ідзём, нанач гледзячы? — запыніла Еўку, заўважыўшы, што ідзе за ёй ад манастыра,

і не ў бок горада, а ў бок, супрацьлеглы ад яго.— Куды вядзеш?

Падбегла Еўка, яшчэ больш угнулася, зіркнула з-пад локця.

— Там!.. Там!.. Агонь вялікі! У-у-у...

«Капішча!» — мільганула здагадка, і першым жаданнем было павярнуць назад, у манастыр: змрок вось-вось усё паглыне, а яны і паходні не ўзялі з сабою...

— Агонь вялікі! У-у-у! — угнуўшыся, хадзіла ўкруг Еўка.

«Ну, што, не вяртацца ж зараз назад! — падумала.— Кепска, што не сказала нікому, ды бог літасцівы і мяне не пакіне». Павяла рукою, паказваючы Еўцы, каб ішла, паказвала дарогу, і рушыла следам — азірнулася на манастырскія вароты, перахрысцілася і ступіла насустрач вечару, у суцемкі, што згушчаліся хутка, як перад навальніцаю.

— Бог літасцівы і мяне не пакіне! — шапнула сама сабе, быццам падбадзёрыла...

— Ева?! — здзівіўся, адчыняючы дзверы, Глеб.— Так позна?

— Няўжо так позна? — пакпіла тая з'едліва, перш чым пераступіць парог: яна ўсміхалася, і хоць усмешка была напалову робленай, усё ж у ёй чыталася неўласцівая Еве разгубленасць.— Мо ты ўжо спаць уклаўся?

— Яшчэ не, але ўжо,— паспрабаваў адказаць ёй у тон Глеб і адчуў, што не атрымліваецца: у адносінах паміж імі знікла ранейшая, звыклая для абаіх, лёгкасць, і словы, хоць бы і знаёмыя, з усмешкай моўленыя, сталі цяжкімі і няўклюднымі.— Не чакаў, як бачыш, гасцей.

Ягонае «як бачыш» азначала, што яны прайшлі ў пакой, колькі дзён ужо не прыбіраны: усюды, куды ні зірнуць, ляжалі кнігі — невялікімі стосамі, па некалькі тамоў, па адной. Здавалася, яны пакінулі паліцы адно

для таго, каб загрувасціць, зрабіць непралазнай і без таго цесную прастору: на падваконні, на канапе, на століку, на крэслах, на падлозе — альбомы, тамы энцыклапедыі, гістарычныя раманы, даследаванні археолагаў, фальклорныя зборнікі, падшыўкі старых часопісаў!

Ева агледзелася, падышла, пакратала пальчыкам альбомы на століку, зморшчыла носік.

— Па ўсім відаць: збег у далёкую мінуўшчыну.

— Збег,— коратка пацвердзіў ён, вызваляючы для госці крэсла.— Ты прысядзеш?

— Мы што, чужыя, Глеб? — не павярнулася Ева: пашукала і ўсё не магла знайсці патрэбныя зараз, у падобнай сітуацыі, словы, і ад таго злавала — і на Глеба, і на сябе.

— Ты заўсёды дамагалася гэтага і цяпер здзіўляешся?

— Да-ма-галася? Але ж я...

— Што?

Павольна, быццам прыціскаў яе да падлогі нябачны, упершыню выразна і балюча адчуты цяжар дзён, месяцаў, гадоў, пражытых лёгка, усмешліва, ад спаткання да спаткання, перасільваючы сябе, павярнулася на Глебава пытанне, усмешка яшчэ чаплялася за яе з густам падмаляваныя вусны, але была гэта ўсмешка якаясь згаслая, вымучаная і толькі падкрэслівала яе няўпэўненасць у сабе.

— Ты ж кахаў мяне, Глеб.

— Сама ж смяялася з маіх слоў!

— Ты хацеў жаніцца і...

— І нявеста своечасова падлічыла ўсе выгоды і нягоды.

— Глеб!

— Я — Глеб.

— Ты ніколі не размаўляў са мной такім чынам...

такім тонам. Я што-небудзь не так сказала? Ці мо што здарылася?

— Толькі не трэба іграць ролю пакрыўджанай, Ева. Кожны застаецца пры тым, што выбірае. Ты выбрала лягчэйшае, і гэта тваё права. Мне хочацца большага.

Яны стаялі адно супраць аднаго, і тыя два-тры крокі, якія падзялялі іх, здаваліся неадольнаю безданню. Быццам не стосы кніг ляжалі на століку і на падлозе каля ног, а дні, месяцы, гады, пражытыя кожным з іх паасобку,— і, каб вярнуць разуменне, каб вярнуць калісьці неабходную ім абоім блізкасць, трэба было вярнуцца назад, далёка назад, у тыя дні, калі ўсё вырашалі не словы, а адзіны позірк, дотык, пацалунак... Але вярнуцца назад было немагчыма. Не тое што гады павярнуць, хвіліны не ўтрымаць, нават гэтыя — зараз, пабач — хвіліны!

— Мінулае — гэта акно ў будучыню,— не сказаў, падумаў уголас Глеб і тут жа спахапіўся, нават злёгку пачырванеў.— Ты не хочаш прысесці?

— Я хачу сказаць, што ў будучыню праз акно не ўлезеш.

Адпіхнуўшы нагою кнігі, быццам яны засцілі ёй дарогу, і не зірнуўшы на вінавата спахмурнелага Глеба, Ева перакінула сумачку, якую круціла ў руках, цераз плячо і ступіла да дзвярэй. Ля дзвярэй на адзін кароткі міг затрымалася (мо проста паправіла сумачку) і шчоўкнула замком.

— Я праводжу,— ступіў за ёй Глеб.— Ужо позна.

— Дзякуй, абыдуся! Унізе мяне чакае машына.

— А-а-а!

Бразнулі дзверы. Ні гука не данеслася з-за дзвярэй. Гучна, аглушальна, як яму здалося, адлічваў імгненні з ночы забыты на падлозе ля канапы будзільнік. Імгненні, якія павінны былі б прынесці і не прынеслі палёгкі: штосьці ён зрабіў ці сказаў не так. Што?

## XXV

Што б хто ні казаў, а пакуль жывы чалавек, датуль сэнсу жыцця шукае: адзін — у думках няспынных, другі — у дзеянні, часам здасца, што і бяздумным у сваёй будзённай клапотнасці, але спаконвечным, ад дзядоў пераняты і звыкла неабходным. І спрачайся не спрачайся з сабою ці з цэлым светам наконт важнасці для сябе і для ўсіх таго ці другога, ні без слова, ні без учынку чалавека няма. Бо як адно са слоў і думак ніводнага дня не выбудаваць, так і ва ўчынках, не асветленых мараю або мэтаю, мала сэнсу. І не варта было б ёй, Ефрасінні, на старасці год да гэтай ісціны прыглядацца ды прымервацца, бо колькі ні прыглядайся, колькі ні прымервайся, а ўсё роўна нічога не выгадае яна, не вытлумачыць. Але ж гэта даўмецца лёгка, што не варта, а думак пасля не менее, не.

Вось і назад азірнуцца, наколькі відаць: дзед Ігнацій ад свайго дзеда ўменне набраўся дрэва па-майстэрску абрабляць, людзям, дарогам іхнім сваімі «святымі» маліцца. Бацька салдатам дарогі гэтыя прайшоў і загінуў, каб фашысцкая погань іх не таптала. Сыны мерацца іх надтачыць, да вытокаў, да пачатку адной з іх, самай старой, дапяць — няйначай, каб што якое ў далечы, у новых гадах разгледзець. А яна? Што яна, Ефрасіння, сваім жыццём сцвердзіць? Няўжо толькі часовасць яго і пакуту? Няўжо толькі пакуту ад сваёй бяссіласці? Вучылася некалі, у кнігах сілу шукала — вайна не дала давучыцца. Кахала, з гэткім палам, які дасюль у сэрцы не згасае,— выйшла, што жыццё дужэйшае, як каханне. Дужэйшае, а не дужае: яно, жыццё, смерці паднявольнае...

Згадаўшы Івана, пацягнулася ражком паркалёўкі да вачэй; слёз не было — не было, а пяклі. І яна выцірала куточкі вачэй, злёгку пахітваючыся, быццам адганяючы думкі. А думкі не адступаліся, вярэдзілі душу. Ды і

тое: Івана няма, і дзяцей гадавала, песціла, што магла, аддавала ім і аддае, а не ля іх, між чужых людзей памрэ... Значыць, у тым і сэнс быў? Значыць, і жыла, жыць павінна была адно каб іскарку жыцця ад дзеда і бацькі сынам і ўнукам перадаць?

Вялікая шарсцяная хустка, якую накінула на плечы, выходзячы з дому, з двара, на вуліцу, каб пасядзець, падыхаць вечаровым халадком на лаўцы каля весніц, не грэла, быццам увесь час мерзла Ефрасіння, быццам не магла адагрэцца ад сваіх думак — ні там, у пустой, гулкай ад цішыні хаце, ні тут, пад высокім, ужо сям-там расквечаным зоркамі небам, у засені галінастай вішні. І так штораз, ледзь запалоніць яе раптоўная задуменнасць гэта, і забываецца яна і на непаробленыя справы, і на дзённыя клопаты свае, пакутна спрабуючы сцежкаю сваёю, усімі пражытымі гадамі сцягнуць, счапіць колішнія і сённяшнія развагі і зразумець, чаму няма спакою ў яе душы, чаму пасля смерці Івана думае яна гэту бясконцую, бясконца горкую думу і не знаходзіць ні вытлумачэння якога, ні падмацунку надалей, на далейшае жыццё. Вучылася некалі, кахала, каханнем злячыўшы пасля вайны, пасля нянавісці вялікай сэрца сваё, дзяцей нарадзіла і выгадавала, працавала... І гэта ўсё? І паміраць?

Не смерць палохала, не сама смерць: колькі смярцей змалку, з вайны бачыла, колькіх аплакала, быццам над сабой плакала, але тады, раней — заўжды — сэрцам плакала і ў слязах палёгку знаходзіла, зараз жа, вось ужо каторы дзень, душа ад болю, ад пакутнага бяссілля заходзіцца — і што рабіць з ёю, з душою растузанаю, як яе супакоіць, Ефрасіння не ведала. Слёзы не дапамагалі. Ды і не было болей слёз. Як высушылі іх, слёзы, пасля смерці Іванавай думкі яе.

Не смерць палохала, не. Хутчэй якаясь незавершанасць жыцця: нешта яна, Ефрасіння, павінна была ўразумець, перш чым памерці, нешта важнае, што,

магчыма, і складала сэнс усяго. Бо вось жа не загінула, не згінула яна тады, калі гінулі ў пекле вайны тысячы, мільёны людзей. І ў іншыя гады, у пасляваенныя, шмат каго, і Івана свайго, перажыла. І мусіць жа, не адно тое, што лёс ёй гэткі выпаў, таму прычына. Мусібыць, не адно тое...

«...Ты адно губамі варушы, за мной словы малітвы паўтарай, дачушка. Чуеш? Апамятайся... Мяне заб'юць — нічога. Я пажыла, нічога... А ты ж яшчэ толькі ў сваю пару ўбіраешся. Адно губамі варушы, чуеш?»

Матчын голас, прыгаданы раптоўна і, здавалася, недарэчы, усяго на кароткі міг вярнуў даўні боль — тут жа выразная, не размытая гадамі згадка змянілася іншай і не менш балючай: зноў, каторы раз ужо, выплыў з памяці спакойны (ні страху, ні болю на ім) тварык мёртвага дзіцяці на пяску ўзбоч шляху...

— А то перарабіла ўсё, а?

«На пяску і следу не засталося, пясок і пясок, бы не ён, а душа мая тую лужынку крыві дзіцячай прыняла... Асудзяць Галаса — другі хто, мо гэткі ж, як ён, п'яніца, за трактар сядзе, дзіця ж Сінчы не вярнуць!»

— А то перарабіла ўсё, пытаюся, што сядзіш, рукі склаўшы, а, Ефрасіння?

— Ты, Наста,— пазнала суседку.

— А то хто ж. Вакно не свеціцца, дай, думаю, збегаю зірну, ці не спаць суседка дужа зрання ўклалася.

— І кладуся — не сплю. Не спіцца,— сказала-паскардзілася, пасунуўшыся, каб вызваліць месца для яе, Ефрасіння.— Вайна прыгадваецца. Гора ў вачах людзей. Калі тое было, здаецца, а ўсё памятаю: не было страху ў вачах — адно гора. А сёння — ні страху, ні гора... Пустыя вочы.

— Чаго ты, Ефрасіння, дальбог? Чаго душу сабе рвеш? — села ўпобачкі і заёрзала на лаўцы тая.— Пустыя вочы... Ведама, п'юць усе, з самёханькаю ахвотаю, балазе, у краму гарэлку спраўна завозяць. Дак не

станеш жа ў парозе. А і станеш — абкладзе мацюкамі каторы, не пастыдаецца ўсіх да пятага калена бабак памянуць. Што з яго, каторага, возьмеш? Кожан пан над сабою...

Ефрасіння маўчала. Узіралася ў суцемкі і маўчала.

— Сёння іначай усё, Ефрасіння. Горш, лепш, а іначай. Чужымі адзін аднаму людзі зрабіліся. Дальбог, чужымі. Адну работу робім, адным клопатам жывём, а кожан — паасобку, кожан свайго розуму пытае і слухае. І ці ж мы з табою што зменім, а?

Маўчала тая ў адказ. Узіралася ў суцемкі, у шлях, які пераразаў вёску на два шнуры двароў і хат, што ўсе, як адна, хоць і адсунутыя трохі ўглыб палісаднікамі, па завядзёнцы былі павернуты да яго, і не абзывалася. Слухала старую сяброўку, у душы і пагаджалася, і не пагаджалася з ёй і маўчала.

— Маўчыш. Не згодна? А я так табе скажу, Ефрасіння: гады што путы — жылы парвеш, а не скінеш: кожан, якім выпаў, гэткім і ўрос у нас. Як павалачы... Было ўсім мірам думаць, і не сёння, а раней, даўно. А то ўперад адзін прыгожа скажа, потым другі — і таго прыгажэй, а мы і цешымся: яшчэ трошкі ўгнуцца, паднатужыцца — авось і выцягнем воз са сваім шчаслівым жыццём. Ажно, бачыш, пакуль не выцягнулі. З усёхенькаю ахвотаю, не выцягнем, як так пойдзе. Паспіваюцца ўсе чыста: мужыкі ж — не бабы, ім у сядле муляе быць, а не ў хамуце...

«Гаваркая нешта Наста сёння»,— зачапіла Ефрасінню думка, зачапіла і змусіла павярнуцца да суседкі, зрабіць нават рух да яе, але тая зразумела гэта пасвойму, заспяшалася:

— Чакай, паслухай, як выйшла праміж нас такая гаворка. Сама ж век падбухторваеш казаць табе...

— Кажы, Наста.

— Я тое, што хоць так, хоць гэтак развраж, а выйдзе: вайну, ліха яе, мы перажылі. Так? Насілу ад галаду-

хі выбавіліся, але ж выбавіліся? Так? Дзяцей пагадавалі, павывучвалі. Усіх мёртвых у камені ўваскрасілі, помнікаў настаўляўшы. Так? А чаго не зрабілі, а? Чаго? Вось жа з усёхенькаю ахвотаю жывём, а мусібыць, не так, што душа балець пачынае. Хіба каб кожан гэту больку ў душы насіў... І думаць жа не мыслілася, што на свае вочы ўбачу, як зямелька не каму збоку, а дзецям, сынам нашым непатрэбнаю зробіцца,— грэх і падумаць было, а зараз хоць у голас крычы, ніхто не чуе.

— Ніхто не чуе,— рэхам азвалася Ефрасіння.

— З чаго б там ні ўзялося, а ўзялося: не гаспадары людзі на сваёй зямельцы. Хоць калгасны палетак бяры, хоць кліны прысядзібныя — не гаспадары. Бо і туды ж: кожан на вярхі азіраецца, а гною пад нагамі не бачым, кожан начальства блізкае і далёкае лае, а сваіх гультаёў і п'яніц рабіць упрошваем. Упрошваем жа, Ефрасіння, а? Прывязвалі б, здэцца, да руля трактара, каб льга, каб даўся каторы. Замест папругі — упросы, заместа фічкі — грошыкі, каб чаркі паўнейшыя кулялі...— з горыччу прамаўляла Наста тое, што колькі дзён таму выгаворвала праўленню пры раённым начальстве Ефрасіння.— Усё страшым сябе: гэткіх пагонім — хто рабіць будзе, хто трактары ў полі павыводзіць? А зараз што? Загарадкі ад гэтых трактароў на вуліцы стаўляць? Не, няма каму на зямлі сёння рабіць, а і робяць — вочы не глядзелі б. Самі на сябе ліха напусцілі. Дальбог, самі. Вось і смерць гэтая...

— Дзве смерці,— зглынула ўздых і падалася спіной да плота, быццам шукаючы апору і звыклай стоме сваёй і нязвыклым думкам, Ефрасіння.— Дзве, Наста.

Адкінулася, абаперлася аб плот і Наста, адно што ашчаперыла сябе рукамі па даўняй і нязменнай звычцы. Вярнуліся згадкі пра Вульчынага хлопца ўскрай шасейкі, адкінутага туды колам трактара, пра Вульку, якая крычала над сынам як не суткі, пакуль не аціхла,

не абсунулася на падлогу побач з сынавай труною,— дваіх іх, дваіх у адной магіле, хавала Сінча пад слёзы і ціхія праклёны баб, у якіх паміналіся і сляпыя машыны, і дурное вужынае семя, што напладзіла гаспадароў іх, і ўся чыста, да астатняй кроплі, гарэлка. А ўсё больш — вайна. Вайну праклīналі — і адсюль, з адлегласці больш як у тры дзесяткі год, паміналі.

— Што дзіця бязвіннае, што Вульку-гаротніцу шкада. Так шкада, і сказаць не магу,— зноў ціха азвалася, памаўчаўшы, Наста.— Жыла як не ўпобачкі, праз пяць двароў, на пальцах, пальцамі пра сваё лацвей расказаць магла за каго языкастага, а згадаць — адно крык яе перадсмяротны згадваецца. Колькі жыву, крыку гэткага не чула. І ў вайну не чула.

— Крычалі і тады. Што нядоўга...

— А ўжо ж. У немца не пакрычыш. Як не куляй, дак штыхом крык назад у горла запхне.

— Добры вечар! — павіталіся са шляху з імі дзяўчаткі, і ні Наста, ні Ефрасіння не прызналі іх, мо што сцёмнілася ўжо (як толькі і заўважылі іх у засені вішні?), мо што і не ўзіраліся дужа: пра іншае, пра далёкае, думалі — пра сваё дзявоцтва, вайной абарванае.

— Матка Вульчына — ты не ведаеш! — першаю на ўсю воласць красуняю была. Хлопцы пазіраць баяліся. Што стан, што твар, што каса круга галавы. Ідзе вуліцай — кожан любуецца, а яна яшчэ то плячом павядзе, то спадніцаю як неўзнарок матляне... Не, нікога пад пару ёй у нас не было. Смерць пад пару аказалася.

— Я чула: свой, сінецкі, яе загубіў,— падтрымала гаворку Ефрасіння.

— Загубілі немцы. Але Марылю ў рукі ім свой, сінецкі, аддаў. Не пашкадаваў, паганец, ні яе, ні сябе. Ды гэта доўгая гісторыя.

— А ты што, бегчы ўжо хочаш? Пасядзі, пагамані.

— І то праўда: куды спяшацца? — учула, няйначай, у голасе сяброўкі прыхаваную просьбу Наста.—

Пагамонім. Усіх, хто варты таго, памянём: не ім, мёртвым, дак нам палегчае.

— Усіх не памянеш, Наста. Іх, мёртвых, больш, чым нас.

— Але, але,— пагадзілася яна.— Я ж пра Марылю пачала казаць.

І змоўкла. Задумалася. Пасля тузанулася, адхінулася ад плота і, хаваючы ўздых, закашлялася (а мо і не ўздых, а згадка якаясь перасела ў горле).

— Пэўна ж, і мой Міша заглядваўся на Марылю — хто ні заглядваўся? Ды адно пазіраць, другое — жонку пад пару сабе ўзяць. Ужо на што Васіль Анэлін (ты Анэлю не памятаеш: яшчэ ў вайну памерла) быў ладны і брываты, а і на таго ніколі не зірнула Марыля ласкавей. Няйначай, каго з самога Мінску чакала,— растлумачыла і тут жа сумелася.— Ат, усе мы добрага чакалі, а вайна ўсчалася — куды што дзелася! Гарнізону ў Сінчы немцы не стаўлялі: наляцяць, забяруць усё, чаго схаваць не паспеем, пакрычаць каторы па-свойму, тыцкаючы пальцам у грудзі пярэдняму ў сагнаным натоўпе,— было з паўгадзіны крычыць, а Анэлін гэны (ён у паліцаі запісаўся) вужам ля яго, вужам: «Чулі? — носа круціў.— Каб парадак быў!» І ўсё ўдовую Грыпіну, матку Марыліну, паглядам чапляў, грудзі выпінаючы. Цьфу, згадваць гадка! Гэта ж ліхой часінай, відаць, кожан нутра свайго ўтаіць не можа: як г... там, дак і папрэ смурод.

Наста зноў закашлялася, і цяпер было чуваць, што кашаль нядобры, застудзілася, пэўна, хоць і лета. Ефрасіння памкнулася ўжо сказаць што, парадзіць што, але губы толькі бязгучна варухнуліся, сцінаючыся і быццам камянеючы.

— Я часцей у лес уцякала, там адседжвалася, колькі раз усяго і стаяла перад імі. Марылю ж і ніхто не бачыў: хавала яе маці. Дзе ўжо хавала, а хавала, каб на вочы насільнікам не трапіла: за што іншае, а за

характва гэткае любы пагляд зачапіўся б. І месяц, і два, і восень мінула. Усё думалася: адыдзе навала, адкоціцца, перачакаем — і адыдзе. Хто перш пра гэткую кроў і гэтулькі папялішчаў думаў, якімі вайна абярнулася?

— Абярнулася,— адазвалася Ефрасіння і міжволі падсунулася бліжэй на Насты, падалася да яе пляча.

— Гэта ж і кажу. Увесь страх, усё гора ўпярод не зазнаеш. Дажыць трэба. Хто дажыў, а хто і не. А першай тут, у нас, Марылю аплаквалі. Жывою яшчэ аплаквалі. Бо Анэлін гэты не схацеў адступіцца. Не схацеў ці не змог, ліха яго знае. А ўсачыў-такі, з самёханькаю ахвотаю. Высачыў, дзе яе матка хавала. Ужо ўзімку высачыў і, прычакаўшы начы, калі выходзіла яна небу падзівіцца, ветрам надыхацца, згроб у абдымак — і ну цалаваць ды горы залатыя абяцаць, як пойдзе за яго і любіць будзе. А тая не адно красуняю, а і ганарлівкаю была: скрозь жа і брывом не павяла ў яго бок, а тут... Разадрала таму твар кіпцюрамі, адбіваючыся, і — вось ужо праўду кажуць: у гневе розум не дарадчык! — Анэлін павалок яе ў двор да старасты, дзе стаялі немцы, балазе, тыя якраз па дню накруціліся.

— Сам...

— Ды ўжо ж, бугай здаровы быў, у дзвярах скрозь угінаўся. Уваліўся ў хату, паперадзе Марылю ўпхнуўшы, і пад рогат прыблудных гаспадароў сваіх — пасля, як садралі яны з дзяўчыны кажух і сталі папіхаць з рук у рукі, пакручваючы і прыцмокваючы языкамі, уцяміў, што нарабіў: сам, сваімі рукамі красуню, да якой заляцаўся, аддаў... Бухнуўся на калені, папоўз да бота бліскучага: «Паночак, мая яна... Кахаю яе, паночак!» А «паночак» грэбліва адпіхнуў яго ботам: прэч! І раз адпіхнуў, і другі раз, а потым загадаў гнаць яго з хаты: служака-сабака, чаго, маўляў, з ім цырымоны разводзіць. І пагналі. А самі... Згвалтаваную, растуза-

ную, паўжывую, кінулі раніцою ўаднюсенькай сарочцы ў хлеў Марылю.

— Нелюдзі... Нелюдзі яны, Наста! Ужо ж і я нагледзелася на зверствы іх, а паўсюль жа лютавалі.

— Паўсюль. І не сказіліся былі!

— І згадваць страшна — і згадваецца.

— А ўжо ж. Цераз тры дні толькі, як з'ехалі немцы, прыйшоў да ўчарнелай ад гора маткі і буркнуў: «Ідзі забяры. У старасты ў хлеўчуку Марыля». Кінулася тая з галашэннямі, ды не вуліцаю, а напрасткі, гародамі, ледзь не па грудзі ў снег правальваючыся, да рудвара, да хлеўчука таго — назад вуліцай вяла, на руках, лічы, несла дачку, у плюшаўку са свайго пляча хутаючы. Нічыёй помачы не прыняла — на ўсіх воўкам пазірала. Як толькі сэрца ў яе не разарвалася: чорны, як пабіты воспай, твар стаў у Марылі, пальцы на руках і на нагах паадмярзалі (маразы ж стаялі ў тую зіму такія, якіх і самыя старыя людзі не помнілі) — матка галасіла, енкам захліпалася, а ў яе каб гук з горла: як знямела. Мо і знямела, гэткае перажыўшы, бо вось жа дачка, Вулька значыць, нямой нарадзілася на вясень. Што ўжо Грыпіна ні рабіла, чым ні лячыла, а не злячыла, і ад дзіцяці не выбавіла. Вулькаю яе пасля людзі назвалі. З таго, што Марыля зрэдку, схіляючыся над малой, спрабавала сказаць што якое і не магла: адно ў горле булькне штосьці — і ўвесь сказ.

— Але ж Вулька ў дзіцячым доме расла!

— У сорак шостым Марылю пахавалі. Знайшлі на дарозе мёртвую, і дзіця ля яе, Вулька. Ведама ж, год галодны: хто слабейшы ці калека, як яна, у старцы падаліся.

— У старцы...— Ефрасінні не хапіла паветра скончыць фразу, і яна міг-другі перачакала, супакойваючы дыханне.— Ей жа і дваццаці не мінула, так? А паліцай той? Судзілі, мабыць, потым?

— Сівая, ссівелая нейк ураз, Грыпіна ўвесну яго за

дачку, за Марылю сваю, судзіла. Вілы ў жывот усадзіла, перш чым той пра рэвальвер свой успомніў. Пасля таго, як дзіця ў дачкі пад сэрцам заварушылася, і спомсціла. А як у Сінчы дальш нельга было заставацца, сышла, Марылю за руку ўзяўшы. Так і не пабачыла больш ні вёскі, ні хаты сваёй: тыфус гаротніцу спаліў. За дзве ночы, казалі, спаліў. А мо і не тыфус, а гора невыноснае.

— І дачка не нашмат перажыла, калі ў сорак шостым...

— У сорак шостым. Жабравала яна з дзіцем, каб неяк карміцца, з вёскі ў вёску, ад папялішча, акружанага зямлянкамі, да папялішча з торбачкаю хадзіла. Дак што, як гады такія: і шкадавалі людзі, а што дасі? З усёхенькаю ахвотаю пакарміў бы каторы, а дзе ўзяць? Слязінку малака ўплюснеш дзіцяці, вочы ўтрэш, услед гледзючы, а на большае не выходзіць. Насілу самі перабіваліся. А то не ведаеш!

— Ведаю,— тужэй нацягнула хустку на грудзях, пацепваючы плячыма, Ефрасіння.— Помню, як жа забыць!

— Тое і яно, што помніцца. І памром, мусібыць, з памяццю гэтаю.

— Памром. Але ўпярод душа збаліцца, на чорны вугаль згарыць: няхай тады, у вайну, а, Наста? — з нелюдзямі ж упобачкі жыць давялося, ад іх рук гінулі. А сёння? Як жа сёння жыццё не шкадаваць? Як сёння дзіця бязвіннае не ўберагчы? Га? Не вайна ж.

— Не вайна.

Наста шчытней прыхінулся плечуком да Ефрасінні, і так, плячо ў плячо, моўчкі, яны сядзелі доўга, як не з паўгадзіны. Вечар на вачах саступаў ночы: гусцела цішыня — не чуваць даўно было ні парыпвання асвера, ні крокаў, ні галасоў, гаслі адно за адным улева і ўправа ўздоўж шляху акенцы, і ад таго святлела над імі ўсімі сваімі зоркамі неба. Чым больш гусцела цішыня, тым больш святлела неба. І здаецца, каб па ўсёй зямлі,

з краю ў край, як тут, у Сінчы, аціхлі зараз усе гулы, гукі і словы, пагляду б адкрыліся такія далячыні, такія глыбіні сусвету, перад якімі сцялася б у страху і захапленні душа. Чалавечая душа. Зямная душа, ветрам часу ўдыхнутая ў чалавека.

## XXVI

— Ду-ша?! Глупства, Яша. Хто ўсур'ёз будзе разважаць пра душу сёння, калі вось-вось хто-небудзь з тых, каму абрыдла ўся гэта сусветная гамана пра чалавека і будучыню, якая яго чакае, падпаліць бікфордаў шнур — той канец яго, за якім — канец свету.

— Вы верыце ў канец свету? Вось ужо не падумаў бы, што вы ў што-небудзь верыце, апроч...

Клаўдзія Віктараўна, прытрымліваючы крысо свайго бліскучага, гафтаванага аксамітнымі кветкамі халата, які адно што не кранаўся падлогі, паднялася з крэсла, цяжкім дотыкам рукі ўсадзіла Якава, гатовага пашкадаваць аб сваёй дзёрзкасці, ускочыць, як таго патрабавала сітуацыя, следам, і прайшла да прысценнай шафы з чырвонага дрэва, няйначай, робленага на адной з замежных фірм. Шчоўкнулі і адвіхнуліся дзверцы, у люстраной глыбіні бара сярод зіхоткага крышталю застракацелі наклейкі на мудрагелістых бутэльках усіх колераў, і, толькі пырснуўшы ў доўгія вузкія чаркі з адной з іх нечага пахкага, цёмна-залацістага, гаспадыня павярнулася і цвёрда, робячы націск на кожным слове, адказала:

— Я веру ў верных людзей. Прашу!

Ён сарваўся з месца залішне таропка, нават столік зачапіў («Добра, ваза, цяжкая і, пэўна ж, дарагая, не варухнулася!») і міжволі счырванеў.

— Прашу. Французскі! — не зводзіла з яго пагляду Клаўдзія Віктараўна і, калі Якаў узяў чарку, скрывіла вусны, самыя куточкі вуснаў, што, відаць, павінна

было азначаць усмешку, і прыўзняла сваю.— За вернасць, якая цэніцца не гэтак танна, як нашы прыхільнасці або непрыхільнасці.

Якаў не адказаў. Каньяк чамусьці перасеў у горле.

— Што ж да душы, міленькі... Думаю, не душэўныя мукі, а страх — так, так, боязь, што раёк яго можа разваліцца,— адвярнула твайго прыяцеля ад справы, якая ўсім нам — усім, падкрэсліваю! — прынесла б дватры гады спакойнага жыцця.

— У Міся ж фільм.

— У яго не будзе фільма. Год, два, тры гады не будзе... Ніводнага, ні-вод-нага фільма! — няспешна, па кроплі, напаўняла Клаўдзія Віктараўна кілішкі.— Спадзяюся: гэта ён зразумее хутка.

Мурашы пабеглі ў Якава па спіне ад яе абыякавага, абыякава-халоднага спакою: не тое каб толькі зараз, упершыню, адчуў, у якое сіло трапіў,— упершыню выразна адчуў, што з гэтага сіла яму дабром не выбрацца. Ніколі ўжо не выбрацца.

— За вернасць! — падняла кілішак гаспадыня.

— Вы хочаце, каб я...

Яна прыгубіла каньяк, смакуючы, маленькімі глыткамі дапіла налітае, цераз крышталь, пакручваючы кілішак перад самым носам, зірнула на зніякавелага Якава.

— Яшчэ не надумала. Гаворка ж не пра адну машыну — пра цэлую партыю. А Кіцын — рэжысёр, нашым стараннем — вядомы рэжысёр, і камандзіроўку ў Грузію арганізаваць яму было прасцей простага, і кола патрэбных нам людзей у яго шырэйшае. Ну, ды гэта пытанне на сённяшні дзень закрытае.

— Місь не зразумеў. Вы не зразумелі яго, Клаўдзія Віктараўна. Тут нейкае непаразуменне, яй-богу,— таптаўся, так і не асмеліўшыся ўзяць прапанаваны кілішак, Якаў, як па словах сваіх таптаўся: — Не зразумеў... Непаразуменне нейкае...

— Ён — зразумее! — зноў скрывіла вусны тая.— А ты... ты дапівай каньяк, Яша. Мо не спадабаўся?

— З вашых рук, Клаўдзія Віктараўна! — паспяшаўся ён дапіць каньяк, не адчуваючы ні яго смаку, ні яго моцы.— Божая раса — з вашых рук!

— Ну, ну, не перабольшвайце... Вячаслаў! — загукала ў бок сынавага пакоя.— Вячаслаў, звоняць!

У дзверы настойліва званілі, і яна, кіўнуўшы: «Хвілінку, Яша!» — змушана была ісці ў прыхожую. Хутка Якаў пачуў яе здзіўленае: «Настаўнік?» і пераШчоўкі замкоў, стомлена пацягнуўся і перастаў услухвацца. Расслабіўся, наколькі мог, ступіў да крэсла і разваліўся на яго мяккіх падушках. Уздыхнуў. Раз і другі раз. І змусіў сябе перабраць у думках усю папярэднюю гаворку. Перабраў, абазваў сябе ёлупам цара нябеснага («Міся ўздумаў выгароджваць!»), памянуў, у сувязі з гаспадыняю дома, вужачча адроддзе, праўда, асцярожна памянуў, і ўрэшце лёгка пераканаў сябе, што рыпацца зараз не варта, што трэба перачакаць, яшчэ раз перачакаць, каб здолець дамагчыся свайго меншай, як кажуць у такіх выпадках, крывёй («Верачка зразумее!»): няма нічога прасцей, як пераканаць сябе ў неабходнасці бяздзейнасці.

А ў холе прыхожай (гэта быў менавіта хол — з гнутымі крэсламі і мудрагелістымі падсвечнікамі ўкруг копіі работы моднага ў пэўных колах Сальвадора Далі, асветленай люстрай з чэшскага шкла) незадаволеная і ад таго пакрыўджаная і яшчэ больш, чым звычайна, суровая Клаўдзія Віктараўна разглядвала Глеба (Глеба Іванавіча Суляціча, як ён ёй адразу адрэкамендаваўся), адкрыта непрыязна і насцярожана.

— Чым абавязаны... Глеб Іванавіч? Я, папраўдзе, не чакала, што вы вось так... без папярэдняга званка...

— Прабачце,— сумеўся той.— Канешне, мне трэба было перш пазваніць. Я, прызнацца, не падумаў.

— А ў чым, уласна, справа?

Яна не запрашала яго прайсці, не прапанавала крэсла — стаяла перад Глебам ва ўсёй сваёй маналітнай нязрушнасці, ці, яшчэ больш дакладна, непадступнасці, і пагарда, прыхаваная пагарда да яго, да яго несамавітай куртачкі, зараз пакамечанай, заціснутай у руцэ, да яго просценькай спартыўнай кашулі з расшпіленым каўняром і закасанымі па локаць рукавамі, чыталася ў яе халодных, бляклa-зялёных вачах.

— У чым, уласна, справа? Што-небудзь здарылася?

— Слава на працягу двух тыдняў не наведвае мастацкую студыю.

— Ну і што? — ускінула бровы яна.— Што вы хочаце гэтым сказаць? Мой сын мае права наведваць або не наведваць любую студыю. Я правільна разумею?

— Я не думаў адбіраць у яго гэта права,— усміхнуўся Глеб, перамогшы сваю першапачатковую разгубленасць.— Але Слава — вельмі здольны і мог бы...

— Дазвольце нам самім меркаваць, што мог бы і зможа наш сын,— холадна перапыніла Глеба, ці не адкрытай яго ўсмешкай абражаная, Клаўдзія Віктараўна і падабрала крысо халата, сабраўшыся развітацца з няпрошаным госцем.— Мне нічога не застаецца, як...

— Як паказаць на дзверы? — заўсміхаўся ён, яўна ігнаруючы яе незадаволенасць і яе пагарду.— Мне здалося...

— Вам здалося, малады чалавек.

— Мама!

Яны абое павярнуліся на вокліч: Глеб — лёгкім узмахам галавы, Клаўдзія Віктараўна — усім магутным тулавам.

— Як ты можаш, мама? Як ты можаш?! — разгневана паўтараў хлопчык з парога свайго пакоя — рукі, якія ён раскінуў, упіраючыся ў вушакі, злёгку уздрыгвалі, твар палаў: відаць, чуў усю гаворку.— Праходзьце, Глеб Іванавіч. Да мяне!

Глеб, які наважваўся яшчэ імгненне таму ісці, за-

трыманы дзіцячым крыкам — менавіта крыкам, а не словамі, шукаў у думках прыстойнае выйсце: і пайсці, стукнуўшы дзвярыма, на вачах у свайго вучня не мог, і таптацца ў зялёнай расцы пазірку яго матулі не хацеў.

А Слава, ці то адчуўшы яго ваганне, ці то перахапіўшы позірк матчын, нават у разгубленасці сваёй суровы, ступіў да іх — да маці.

— Што ж ты не запрашаеш Глеба Іванавіча, мама? Хіба не можа быць у доме гасцей, апроч тваіх... апроч тваіх выжлаў?

— Слава!

— Вячаслаў! — адначасова з Глебам, у воклічы якога чуўся папрок, паспрабавала спыніць сына Клаўдзія Віктараўна і, калі натыкнулася на яго палкі, поўны абурэння позірк, адступіла, не згадаўшы ў гэты момант, што трэба падтрымліваць цяжкое крысо халата.

— Што ж гэта ты, а? — паклаў ён руку Славу на плячо, па-хлапечы вузкае і вострае.— Ты хоць ведаеш, што такое выжла?

— Штосьці слізкае і гідкае...— апусціў Слава вочы, і тут жа падаўся ўвесь да яго, папрасіў: — А вы праходзьце, Глеб Іванавіч, а? Не зважайце на яе... на маму, і праходзьце. Да мяне. У мой пакой. Я вам малюнкі свае пакажу!

— Вось што мы з табой, Слава, зробім,— падбіраючы словы, каб не выказаць неўзнарок пякучы жаль, які раптам ахапіў яго (здольны ж малы, і душа ў яго жывая, чуйная!), пагладжваў Глеб хлопчыка па плячы.— Ты аддасі мне папку з малюнкамі і заўтра прыйдзеш на заняткі ў студыю. Там, у студыі, як двое дарослых людзей, і пагаворым. Згода? Як?

Той памаўчаў, узіраючыся ў настаўніка. Потым апусціў вочы і кіўнуў. І, крутануўшыся, не пайшоў, а пабег у пакой.

— Я зараз! — гукнуў ужо адтуль і сапраўды праз

колькі імгненняў падаў яму даволі вялікую, як не самаробную, з картону, папку.— Тут не ўсё. Толькі тое, што мне падабаецца.

— Дзякуй.

— А заўтра я прыйду. Абавязкова прыйду! — павысіў ён голас, учуўшы, відаць, як прачыніліся дзверы ў яго за спіной.

Толькі мінуўшы прыгожы, прыгожа выгнуты ўздоўж вуліцы дом («долар» — як называлі яго мінчане), Глеб адчуў палёгку: вось жа і паводзіў сябе з годнасцю, нават усміхаўся, у прасторным, падкрэслена модным холе чужой прыхожай, а быццам задыхаўся — паветра не хапала. Мёртвае якоесь там паветра. Мёртвае не ў нерухомасці сваёй, а ў зіхоткасці, занадта яркай і штучнай, робленай. Гэта, хутчэй за ўсё, падсвядома і дапамагло адолець сваю разгубленасць перад манументальна-халоднай гаспадыняй: ні павагі, ні тым больш прыніжанасці перад іх уладальнікамі, грошы, ці набытае за грошы, у Глеба ніколі не выклікалі, а там, у Капчыхі (усміхнуўся, што так удала прыляпілася да яе — вясковае Капчыха), адно вучня свайго стала шкада — задыхнецца ў гэтым доме.

Задыхнецца... Трывога, узнікшы, муляла. Глеб нават крокі запаволіў, нібыта збіраўся павярнуць назад, вярнуцца ў выштукаваную бярозай прыхожую і... Ну, не, вяртацца яму зараз і ў галаву не прыйшло б: ужо лепш ён пры выпадку ў Дзяржплан, саноўнікубацьку пазвоніць!

Зморшчыўшыся на «саноўніка» (захапіўся гульнёю ў вобразныя мянушкі!), пагладзіў пальцамі шурпатую папку: раптам захацелася зірнуць на Славіны малюнкі — іх жа і было, відаць, не шмат, бо папка здавалася зусім бязважкаю. Жаданне, праўда, асабліва калі ўлічыць, што ён выйшаў на Куйбышава, да аўтобуснага прыпынку, было недарэчнае, але, угледзеўшы, што лаў-

ка пуставала, Глеб сеў (ён жа, урэшце, нікуды не спяшаўся) і развязаў тасёмкі. У папцы — вялікі, на ўвесь памер яе — ляжаў адзін аркуш. Толькі адзін. Акварэль.

Глеб заплюшчыўся і зноў адкрыў вочы: у вогненна-попельным небе, якое было разліта па аркушы, кружыўся на шырока распасцёртых крылах аграмадны птах, белы з вогненна-попельнымі водсветамі на белым пер'і, і крылы... Шырока распасцёртыя крылы яго былі спрэс утыканы стрэламі, што здаваліся чорнымі на гэтым яркім фоне...

Клубіліся то вышэй, то ніжэй хмары. Нават у суцемках, якія незаўважна гусцелі, было відаць, як цяжка варочаліся яны ўгары, то раптам падсвечаныя аднекуль знутры халодным святлом нябачнага месяца і тады брудна-жоўтыя, то цёмна-шэрыя, да чорнага, з крыху святлейшымі і таму заўважнымі прагаламі паміж імі, якія рухаліся і перамешваліся, зацягваліся і зноў святлелі, ірвучы (зрэдчас нават зорачка выблісквала на нейкі момант) хмарнае месіва,— гэта і нагадвала кіпенне, гэта і стварала ўражанне, што кіпела, клубілася неба.

«Трэба б вярнуцца ў манастыр!» — муляла ёй неспакойная думка, але, падуладная якойсь магутнай сіле, вытлумачыць якую лягчэй за ўсё было воляю госпада ці воляю лёсу, што выбраў гэты час, гэты вечар, каб выпрабаваць яе, яе сілу, Ефрасіння не цішыла крокаў, ніводнага разу больш не азірнуўшыся на манастыр, на горад. Ды і што б яна зараз, у яшчэ пагусцелым паўзмроку згледзела! Еўка за колькі крокаў і тая, калі апярэджвала яе, быццам раствtriаралася, зліваючыся з ценямі кустоў алешніку і разгалістых вербаў: вечар саступаў ночы, і знізу, ад Палаты, уздоўж якой яны кружлялі следам за сцежкай, а потым і без сцежкі, адной Еўцы бачнымі пераходамі, цягнула халадком і волкасцю. Зрэдку іх крокі, лёгкае, ледзь чутнае водгул-

ле іх, упляталіся ў салаўіны пошчак, і зноў надоўга (ажно дух займала) разлягалася вакол цішыня — і тады Ефрасіння баялася падняць вочы ўгору: кіпенне хмар здавалася пагрозліва-страшным, дзікунскім (калі б асмелілася яна гэтак падумаць), і міжволі сціналася сэрца...

А то здавалася раптам, што яна чуе далёкія глухія ўдары — чуе нагамі, тулавам, бо ішлі штуршкі ад зямлі, з зямной тоўшчы, так, быццам біўся хто аграмадны аб цвердзь яе адсюль, з ночы, ці адтуль, з глыбіні, з нетраў, і раскочваўся ўпарта-аднастайны гук далёка наўкол. Але здавалася і здавалася! — не вельмі ігуменняўслухвалася ў свае адчуванні. Трэба было сачыць за бязважкім у змроку Еўчыным ценем, каб не згубіць яе ў гэтым гушчары зараснікаў, прыняўшы за Еўку цёмны абрыс дрэва ці куста, трэба было не зачапіцца неўзнарок за якую галіну або за корч доўгаю сваёю сутанаю — хоць і выбірала Еўка шлях лягчэйшы (быццам бачыла зараз гэтак жа, як па дню), а ўсё-такі шлях, чым далей, тым больш, здаваўся ўжо амаль неадольным, здаваўся бясконцым як у часе, так і ў прасторы.

— Ігуменне! Ігуменне! — пагукала яе (трэба было ўзяць лявей і ўгару, між бярозак) з пагорка Еўка.

Запаволіўшы крокі, каб выраўняць распаленае хадой дыханне, Ефрасіння пачала падымацца і міжволі дзівілася таму, што з кожным крокам яе святлела ўперадзе неба — не святлела, асвятлялася знізу, з зямлі, і водсветы брудна-жоўтага агню клубіліся разам з хмарамі. «Капішча! — варухнулася здагадка.— Значыцца, прыйшлі...»

Прыйшлі. Тое, што адкрылася пагляду з пагорка, хоць і ўяўлялася Ефрасінні амаль дакладна гэтак, уразіла незвычайна: адна справа — карціна ўяўленая, другая справа — жывая карціна, настолькі жывая, што зямныя штуршкі, якія выплёсквалі агонь з кастроў высока ўгору, да самых хмар, перадаліся адразу і ёй

і Еўцы (тая нават пагойдвацца, пахітвацца з боку на бок пачала ў іх рытме), і Ефрасіння, не адводзячы пагляду ад д'ябальскага кола з васьмі вогнішчаў, хрысцілася, палка шаптала малітву, а ўсё чула гэтыя штуршкі ў сабе, ў крыві сваёй. Зноў хрысцілася. Зноў шаптала малітву, забыўшыся на нейкі час пра Еўку, якая ўплішчылася паміж ёю і дрогкім яе ценем, зусім побач, і, пахітваючыся, уздрыгвала на шэпт, на рухі, на няўцямныя ўздыхі ў паўзе паміж словамі...

Унізе, за якіх сто метраў, а мо і таго меней, ад іх і падножжа пагорка, на вялізнай паляне, што хутчэй нагадвала няроўны клін поля, восем вогнішчаў, восем вялікіх кастроў утваралі своеасаблівае падвоенае кола, у якім, снуючы паміж імі, клубіліся (лепшага слова не падбярэш), рытмічна, бы ў танцы, рухаліся вакол валуна людзі, шмат людзей,— тыя, каго паганская вера іх нявoліла, змушала крадком выбірацца з горада сюды, да старога капішча, каб агнём і словам, спевамі і танцамі сваімі ўславіць, залагодзіць золатабародага Перуна. Прыгледзеўшыся больш пільна, Ефрасіння ўбачыла, што не так ужо шмат — два-тры дзесяткі — людзінаў там, на капішчы, і гэта падвоеныя, патроеныя святлом іх цені, напаўзаючы адзін на аднаго, скачучы і то раптам знікаючы, то вырастаючы зноў, утвараюць страшную, асабліва ў першыя імгненні, карціну дзікага, д'ябальскага шабашу.

— Ты была тут раней, Еўка? — успомніла пра шаляніцу, якая прывяла яе сюды, ігуменне.— Была і зараз мяне прывяла зірнуць?

Тая адступіла ад Ефрасінні, ад яе пагляду, і, угнуўшыся, схаваўшы галаву ў плечы, маўчала.

— А спусціцца да капішча не збаішся? Пойдзеш?

Еўка адышлася яшчэ далей, мармычучы штосьці сабе пад нос — спярша было падобна на тое, што яна моліцца, але словы, улоўленыя, учутыя Ефрасінняю, былі бязладныя і незразумелыя: «Морак-цямніца, мара-

начніца, воўк-сірамаха, вечар-труніца...» Мо які сэнс гэта мармытанне для хворай і мела, але гадаць які, было не да часу: ішлі, прыйшлі — трэба было божаю памачу паспрабаваць уразуміць нявернікаў. Не вяртацца ж, калі гасподзь не запыніў яе, ігуменню, на пачатку дарогі, а даў убачыць, як зневажаюцца вера яго і слова яго паганскім родам,— знак ёй у тым, няйначай. І ці ж адмоліць яна потым грэх адступніцтва, як збаіцца, не зможа выканаць волю яго і адступіцца зараз?

Відаць, Ефрасіння ўголас падумала, прамовіла гэта, бо захітала, затрэсла галавою Еўка, закрываючы твар рукамі.

— Будзем спускацца, Еўка. Гасподзь прывёў мяне — гасподзь ад мяне не адступіцца.

— Там... там... Агонь! — спалохана зіркала праз растапыраныя пальцы тая.— Не хадзі! У-уу!

Не даслухала. Падабраўшы падол, пачала спускацца з пагорка, і, на міг не ўяўляючы, што зробіць, што скажа, калі наблізіцца да капішча, калі ўвойдзе ў д'ябальскае кола з васьмі кастроў і ад яе, ад сутаны, адхіснуцца з жахам і гневам, абражаныя яе з'яўленнем, нявернікі,— вера Ефрасінню вяла, палкая вера ў бога і ў чалавека, вартага яго, божага, благаслаўлення.

Ішла, услухвалася ў Перунова ігрышча там, на паляне, і боль спеў у душы яе, перамагаючы страх і гнеў: павінна было прагучаць слова божае з вуснаў праведніка ў час, у міг, падобны гэтаму,— нават калі слову суджана памерці ў яго на вуснах. Нават калі суджана ўмерці... Еўцы гэтага не зразумець. Злякалася — ідзе следам, рашучасцю яе перакананая. А мо і не перакананая, а так, з пакоры ёй, ігуменні, ідзе. Ну, ды гэта зараз было не важна.

Штуршкі ў крыві сталі больш частымі: гарачымі хвалямі накочваліся раз-пораз, каб адхлынуць і зноў расці, падкочвацца да сэрца — трыццаць, дваццаць кро-

каў заставалася да ярка асветленай паляны. Водсветы агнёў, дрогкія бліскі іх ужо дасягалі яе, прабіваючыся праз парадзелы бярэзнік, і Ефрасінні руціла ўвесь час засланіцца далонямі, сцерці пякучы жар са шчок, хоць кранiся яна зараз сваёй шчакі, адчула б, што тая халодная, як ледзяная, палкая рашучасць змянілася спакоем, спакой студзіў, ледзяніў сэрца...

Рука ўпілася ў нагрудны крыж — Ефрасіння не заўважала, падол зачапіўся за паваленую лясіну, і затрашчала, разрываючыся, палатно — не чула: гарачае святло калыхалася ўжо вакол, уцягваючы яе ў круг — у рух, размераны тупатам босых ног і языкамі полымя, гучаннем адных і тых жа, хутчэй за ўсё заклінальных слоў і зваў, зваў не мноства целаў, а аднаго аграмаднага цела людскога скопішча. Не натоўпу, а менавіта скопішча, бо людзіны не тоўпіліся, а рухаліся ў строга зададзенай, абрадавай паслядоўнасці: на тварах, якія выхопліваў раптоўна Ефрасіннін позірк, скакалі чырвона-жоўтыя водсветы, дзіўным, хмельным агнём свяціліся вочы. Ва ўладзе руху, танца, заклінальна-малітоўных слоў яны яе не заўважалі — не бачылі.

— Огнь вялікі, огнь магутны,
дрэва ночы вырастае,
засвяці, раздзьмі над краем
Сонца новым дням,
наступным,
Огнь вялікі, Огнь магутны!

— Спыніцеся! — парушыла, перапыніла Ефрасіння спеў іх, ступіўшы да валуна і падымаючы крыж.— Воляю ўсявышняга прыйшла я да вас з малітваю; ачысціце душы вашы, наблізьцеся да госпада, да крыжа мукі ягонай, прынятай за вас, і ўкленчыце! Усявышні даруе вам і прыме вас!

— Мнішка!

— Чарніца з манастыра!

— Сама ігумення... Ефрасіння! — праз гул галасоў пачулася з натоўпу — цяпер ужо гэта быў натоўп, які на міг адхлынуў ад яе крыку, ад яе звароту, і тут жа пачаў сцінацца, сціскацца вакол яе, пагражаючы паглынуць, разгнесці чужаніцу, што насмелілася прыйсці сюды, парушыць іх таінства, іх абрадавы танец з агнём.

— Спыніцеся! Услухайцеся ў душы вашы, дзе гатова прарасці зярнятка з жытніцы божай, зярнятка святла ачышчальнага і ды будзе неба літасцівае да вас,— сілілася Ефрасіння рашучасцю, малітоўнымі ўзлётамі крыжа, заціснутага ў пальцах, словамі сваімі змагчы, спыніць імгненні, якія з гулам, трэскам, енкам (гула, здавалася, сама незадаволенасць людзінаў — трашчалі ў вогнішчах сухастоіны — енчыў, качаючыся па зямлі і тушачы адзежу, што ўспыхнула на ім ад неасцярожнага руху, стары), падступалі, насоўваліся на яе.— Да вас звяртаюся я, ігумення манастыра святога Спаса-збавіцеля, сястра ваша, апамятайцеся, пакайцеся, і гнеў божы не ўпадзе на галовы вашы!

Імклівы цень мільгануў перад ёй, перад яе паглядам — Ефрасіння і павекі міжволі прымружыла. Калі ж зразумела, што адбылося ў гэта кароткае імгненне, адчула, як вянуць у каленях ногі: стралу, якую хтосьці ў злосці пусціў у бок яе, у грудзі яе, за крок, за паўкроку ад Ефрасінні, сабою яе засланіўшы, перастрэла шаляніца-Еўка. Без стогну, без слова адзінага ўзмахнула рукамі, раскінуўшы — выплеснуўшы іх у чырвона-жоўтае ад вогнішчаў паветра, і так, з раскінутымі рукамі і стралой у грудзях, пачала хіліцца, асядаць на дол.

Ціха-ціха стала вакол: ніхто з натоўпу не варухнуўся, ніводзін гук, ніводзін уздых не разарваў раптоўнай нематы, ніводзін касцёр не патрэскваў, быццам і на агонь перакінулася агульнае здранцвенне. І тут, разбіваючы цішыню, загрымеў, раскаціўся над іх галовамі

першы ўдар грому і ўбаку, ускрай лесу, ашчэрылася маланкаю хмара.

— А-а-а! — заенчыў, заекатаў абсмалены стары, і енк ягоны жахам палаенуў па сэрцы кожнага з прысутных, нават Ефрасіння пахіснулася над распасцёртым каля ног целам Еўкі і, шукаючы апірышча, прыціснула да грудзей нагрудны крыж свой.

А неба азвалася грамчэй. Яшчэ і яшчэ, і людзіны, якія пачулі ў тым гнеў Перуна, кінуліся прэч ад капішча — уроссып, хто куды, з крыкам і галашэннямі, моўчкі і з заклінаннямі, звернутымі да ўсемагутнага паганскага бога, да неба, што абрынулася ім на галовы: перш — гнеўным раскацістым гулам, потым, праз колькі імгненняў — раптоўным ліўнем. Патокі вады, шыпенне агню, прыбітага да зямлі, енк, крыкі і — над усім, заглушаючы ўсё, страшны, пагрозлівы гул навальнічнага неба, які нагадваў то рогат, то бязладна-злоснае мармытанне. Хвіліна, другая, трэцяя. Яны скавалі б душу Ефрасінні ледзяным жахам, смяротным холадам, каб не адгарадзілася душа ад таго, што адбывалася, тупой, ахоўнай абыякавасцю — успрымалася ўсё толькі адной гранню свядомасці, а то і зусім не ўспрымалася: прыціскаючы да грудзей крыж, няўцямна пазірала Ефрасіння не ўдалеч, не ў змрок, дзе, за сцяною ліўня, раставалі, гаслі крыкі і тупат ног, а на згаслыя кастры, на чорныя падцёкі іх скрозь па пляцоўцы. Адразу ж да ніткі прамоклая, яна не заўважала гэтага — сілілася ўспомніць штосьці важнае, штосьці вельмі важнае, што затрымлівала яе тут, побач з вялікім, у два яе росты, валуном... Еўка!

Позірк асцярожна вяртаўся да таго месца, дзе заспела яе навальніца, дзе, ля ног яе, раскінуўшы рукі, ляжала шаляніца-Еўка са стралою ў грудзях. Ляжала. Тварам угору. І твар быў спакойны, прыгожы ў сваім спакоі, у вечнай сваёй сцішанасці, быццам перш смерць, потым лівень змылі з яго сляды яе пакут, сляды хва-

робы і адкрылі ўсё тое чыстае, юнае, што было пахавана, схавана ад людскіх позіркаў у душы яе. Глыбока ўражаная і гэтым спакоем і гэтым харастве́м забітай, замест яе, Ефрасінні, забітай Еўкі, укленчыла яна ля яе з малітваю ў сэрцы — у сэрцы, бо губы яе прыстылі адна да аднае і расцяць іх, расшчапіць не было сілы.

— Пойдзем, ігумення! — крануўся хтосьці яе пляча, але яна і галавы не павярнула на незнаёмы голас: малілася за супакой Еўчынай душы, без слоў малілася...

— Ей ужо нічым не дапамагчы, князёўна, а ў цябе пачынаецца гарачка. Пойдзем!

Голас упарта дамагаўся яе ўвагі, будзячы волю, будзячы свядомасць: лівень, не па-летняму халодны, не аціхаў, а яна даўно ўжо стаяла на каленях у лужыне, якая расла, шырэла, каламуцілася ад размытага попелу і вуголля. На міг Ефрасіння ўбачыла гэта зусім цвяроза, у яе нават мільганула думка, што трэба б перанесці мёртвую на сушэйшае. Але сілы не было. Мабыць, яна і ўстаць, падняцца з зямлі без дапамогі зараз не здолела б...

— Трымайся, князёўна! Твой бог ўратаваў цябе ад вернай пагібелі, знайдзі ў сабе сілу вынесці ягоны дар з гэтага ліўня.

«З гэтага пекла»,— роспачна перахрысцілася Ефрасіння на словы, якія ўчула гэты раз выразна: голас здаўся ёй нават знаёмым, чутым раней. Мо таму не працівілася і дужым рукам, што дапамаглі ёй падняцца,— паднялася, адчуваючы непрыемна-ліпкі цяжар мокрай, набраклае граззю сутаны, пахіснулася і ўсё ж устаяла на нагах. Падняла да нябачнага за сцяной вады неба твар, памарудзіла, быццам студзіла яго імклівымі струменямі, потым, зірнуўшы на невыразную мужчынскую постаць за крок ад сябе, паспрабавала разгледзець, пазнаць таго, хто не кінуўся наўцёк разам з астатнімі, а застаўся (ці вярнуўся?), каб прапанаваць ёй сваю дапамогу. Але той схіліўся над мёртвай Еўкаю,

лёгка падняў яе і з гэтаю ношкаю ступіў у лівень, праз адзін-два крокі аддаліўшыся, растварыўшыся ў ліўні.

— Вынесу куды вышэй, пакуль прыйдуць па яе твае пасланцы,— не азірнуўшыся, крыкнуў ён Ефрасінні, і яна ледзь расчула яго словы за шумам вады.

Колькі імгненняў, колькі хвілін ці мо цэлая вечнасць мінула з таго часу, Ефрасіння не ведала. Яе пачаў біць калатун — малітва, якую шаптала несвядома, перапынялася дрыжаннем вуснаў і клацаннем зубоў. Трэба было ісці, трэба было мусова ісці, рухацца, але яна і ўявіць не магла, дзе, у якім кірунку, у якім баку ад яе знаходзіўся манастыр, і таму стаяла нерухома, заплюшчыўшыся і прыціскаючы рукі да грудзей. Адно падумала, што і яе цяпер, у гэтым месіве зямлі і неба, знайсці, згледзець немагчыма. Ужо і ногі вянуць пачалі, як пачула, што гукае знаёмы голас:

— Князёўна! Князёўна!

Хацела адказаць, адазвацца — не слухаліся вусны. А юнак ужо быў зусім побач, яшчэ крок-другі, і не адно ягоная магутная постаць, а і твар з шырока адкрытымі вачыма стаў бачны, і Ефрасіння пазнала Злата, каваля з рамесніцкай слабады.

— Калі б ты адышлася ад таго месца, дзе я пакінуў цябе, князёўна, наўрад ці знайшоў бы,— твар у твар сказаў Злат і адразу заспяшаўся.— Пойдзем, а то нас змые тут. Можаш ісці? Трымайся за мяне, і ўсё будзе добра. Усё будзе добра, князёўна.

Ён прыгаворваў, дапамагаючы ёй ісці — ісці ж было цяжка, амаль немагчыма: калатун не цішэў, разарваны ў бярэзніку падол сутаны, мокры і аблеплены гряззю, чапляўся за ногі і цягнуў уніз, ды і сцежка, на якую Злат вывеў яе, была слізкая, размяклая.

Спыніліся. Устрывожаны Злат углядаўся ў яе спалатнелы твар. Заўважыўшы, што край сутаны валокся па гразі і хутчэй за ўсё перашкаджаў ёй, схіліўся, ірвануў яго, другой рукой падтрымліваючы Ефрасін-

ню,— і яна не абурылася яго ўчынкам, адчуўшы хоць і невялікую, а палёгку. Пайшлі далей. Павольна, крок за крокам адольвалі пагорак. Злат, які бачыў, чаго каштаваў Ефрасінні кожны гэты крок, ужо абедзвюма рукамі падтрымліваў яе, абдымаючы за плечы,— Ефрасіння ўсё больш слабела, усё менш магла стрымліваць жудасны калатун і вось-вось, здавалася, самлее ў яго-ных руках.

— Прабач, князёўна, але я змушаны...— рашуча нахіліўся той і падхапіў яе на рукі.— Інакш мы не дойдзем.

Ні пратэставаць, ні тым больш вырывацца Ефрасіння ўжо не магла: яна губляла прытомнасць ад непасільнага напружання, ад бясконцага непасільнага змагання са слабасцю: ні часу, ні шляху, ні нават ліўню ўжо не адчувала. Не чула, не адчувала і рук Злата — таго, як асцярожна, з якою сарамліваю (дзіўнаю ў гэтым асілку) пяшчотаю туліў ён яе да сваёй магутнай грудзіны, адварочваючы, захінаючы схіленымі плячыма сваімі ад ліўня, што толькі праз чвэрць гадзіны стаў павалі ціхшэць...

— Цікавыя асацыяцыі ўзнікаюць, калі ўглядацца ў гэтую птушачку. Ці не так?

Глеб няспешна закрыў папку і азірнуўся цераз плячо на таго, хто прамовіў гэта ў яго за спіной, яўна пасміхаючыся: крывячы ва ўсмешцы губы, спружыніста пагойдваўся ўзад-уперад, з наска на абцас сваіх элегантных імпартных туфляў, Якаў.

— Гэтая, як вы кажаце, птушачка, не з тых, што прадаюцца. Нават здольным пераплаціць...

— Плаціць за спакусу мець тое, што можна патрымаць у руках,— нехаця праглынуў ён усмешку, адчуўшы, што Глеб ведае больш, чым яму, Якаву, здавалася.

— Яе — не патрымаеш,— рыўком падняўся з лаўкі

Глеб і ступіў да адвіхнутых дзверцаў аўтобуса, які тармазнуў якраз насупраць. Павярнуўся ўжо з прыступкі.— На смак любая спакуса горкая: чым глыбей ухопіш, тым больш гарчыць.

## XXVII

Горыч няўдачы крыху засмуціла: канечне, адна чацвёрка на дзяржаўных экзаменах за курс універсітэта — не бог ведае якая няўдача, і ўсё ж чырвоны дыплом — гэта чырвоны дыплом. Тым больш што былі ўсе падставы яго атрымаць. Былі, і няма... «І няма чаго душу тузаць!» — як не пяты раз пачынала Святлана даводзіць сябе, як не пяты раз за апошнія паўгадзіны ўгаворвала сябе пакінуць нарэшце даўно апусцелую аўдыторыю, праз акно якой цікавала за Глебам па той бок вуліцы (ён яўна чакаў яе!), і ісці, пайсці — насустрач Глебу ці паўз яго: можна ж было мінуць, абмінуць яго — падкрэслена абыякава, як чужога. Ён і быў чужы. «Чужы, чужы, чужы!» — знарок вышуквала яна драбязінкі незнаёмага, чужога ў яго постаці, у яго нецярплівых паваротах галавы штораз, калі адчыняліся ўваходныя дзверы, а пяшчота, горыч, разгубленасць, яшчэ якіясь невызначальныя пачуцці, якія і назваць Святлана не здолела б, не саступалі адчужэнню і абыякавасці.

Хруснуў, раструшчыўся ў пальцах кавалачак крэйды (адкуль раптам узялася крэйда?), і яна рашуча адвяла ад акна позірк: «Даволі! Досыць вагацца! Вольная ж зрабіць так, як хачу...»

Атрэсла раструшчаную крэйду, выцерла насоўкаю запэцканую далонь і, падхапіўшы сумачку і не азірнуўшыся на акно, пайшла з пакоя. Ногі не вельмі каб слухаліся, але ж не ногі вялі яе, а воля — і калідор пакорна паварочваў да лесвіцы, і прыступкі пакорна спускаліся ўніз, да выхада. Святлана нават пачала

лічыць іх, лічыць свае крокі, але хутка збілася, бо і тут — праз зашклёныя дзверы — льга было ўгледзець, якраз насупраць, Глеба: чакаў, нецярпліва таптаўся ўскрай тратуара і чакаў.

Ужо ў фае, перад самымі дзвярыма, зноў запынілася. Не магла штурхануць дзверы і выйсці, сустрэцца з ім позіркам. І ўзрадавалася, калі ўбачыла, што Глеб пераходзіць вуліцу, кіруючыся сюды: цяпер з ім льга было размінуцца — трэба было ступіць колькі крокаў у бок ад дзвярэй, да выступу калоны, і стаіцца, змоўчаць...

«Ён чужы! Чужы, чужы!» — падганяла сябе, спускаючыся крутой выгінастай вулачкаю да Свіслачы: варта было пахадзіць па алеях сквера, пасядзець у засені ліп, пагаманіць з чаіцамі ў затоцы — і боль адпусціць, адыдзе. Не можа ж ён доўжыцца ўсё жыццё. І з дня ў дзень не можа... Вось паходзіць яна па скверы, паслухае маўчанне лісця і травы — што якое і ў душы сваёй учуе: ціха-ціха там — да самага донца, здэцца, анямела кожная тканка яе, кожная жылка.

Кожная жылка... Гэта толькі так гаворыцца, што душа чалавека ляціць над ім, за ім, то — у шчаслівыя хвіліны ці ў хвіліны радасці — узмываючы высока ўгору, то — у хвіліны смутку ці гора — апускаючыся і ўгінаючы, ламаючы плечы. Гэта так толькі гаворыцца. Душу не вырваць з цела, жывую, пакуль жыве яно — болем або радасцю, чаканнем або тугой аб страчаным: не думкі ж, урэшце, баляць!

Балелі якраз думкі, перамешаныя з прыемнымі і непрыемнымі згадкамі, з матчынымі словамі і нецярплівым пастукваннем Евіных абцасікаў, з малюнкамі даўніны, пра якую расказваў Глеб, і музычнымі фразамі з канцэрта Шастаковіча, з усплёскамі раптоўных спадзяванняў і сумнымі шкадаваннямі, з трывогай за гэты і новы дзень, з пытаннямі экзаменатараў — ды ці мала яшчэ з чым! Адзін міг жыцця ўмяшчаў, здавалася, увесь аграмадны свет, абжыты аблокамі і

птушкамі, дрэвамі і кветкамі, кветкамі і людзьмі... З людзьмі, праўда, усё крыху складаней. Вось хоць бы і яе, Святлану, узяць: светлыя, радасныя пачуцці — любоў і каханне! — а яна паміж імі, як паміж гнётамі. З аднаго боку — нельга любіць сястру і не жадаць яе адшчасця, з другога боку — нельга стаць шчаслівай, адмовіўшыся ад кахання. «Ад кахання? Не, не, гэтага я не казала...»

Ступіўшы на драўляны масток цераз Свіслач, разгублена спынілася. Азірнулася не адразу — чакала, пакуль супакоіцца дыханне, і, калі зразумела, што няроўна, нервовымі глыткамі ўдыхае паветра не ад хуткай хады, а ад хвалявання, ад хвалявання і страху (раптам Глеб заўважыў яе ўцёкі!), імкліва павярнула галаву. Ззаду нікога не было. Нікога — азначала, напэўна, Глеба: непадалёку ад мастка стаяла купка сувораўцаў, а з вулачкі, па якой толькі што яна збегла ўніз, выходзіла старая з вялікай, не па росту, сумкаю ў руцэ.

Супакоеная і расчараваная аднačасова, Святлана ўздыхнула і рушыла далей. Потым, быццам шкадуючы ўжо пра свае недарэчныя страхі, сцішыла крокі, абаперлася, а пасля і перахілілася цераз драўляныя парэнчы, узіраючыся ў неглыбокую і, калі б не густыя водарасці, якія рухаліся, выгіналіся, змяіліся ўслед за плыткаю вадою, амаль незаўважную плынь. Узіралася ў раку, нібыта ў сябе.

І вось ужо не водарасці за празрыста-цёмным шклом вады выгіналіся, змяіліся, падхопленыя плынню, а лотаць, высокая, у пояс, моцным подыхам ветру калыхнулася насустрач, пацякла пад ногі — і ад краю да краю зямлі коціцца яе звонкае, радасна-нястрымнае: «Э-ге-гей! Травы і кветкі, аблокі і жаўранкі, далячыні і ўсе, усе вятры, гэта — я! Гэта я з вамі цяпер і назаўсёды! Гэта я, чуеце? Э-ге-гей!» — бяжыць насустрач, путаючы ёй ногі, лотаць, і хістаецца, завальваецца некуды ўгару, за пухнатую аблачынку неба, і, пад-

камечаныя пры падзенні, сцябліны і кветкі праломваюцца, прарастаюць, здаецца, праз яе, малую, тры вяршкі ад зямлі, і вялікую — аграмадную, як гэты высокі дзень над ёю і над зямлёю...

І вось ужо хіліцца дзень да гладкай конскай шыі, на якой падрыгвае на кожны рух Орліка аброць, і ёй, дзесяцігадовай, трэба помніць, што галоўнае — гэтыя павадкі, галоўнае — уменне трымацца за іх што ёсць сілы: здолее — і памчыць з ёй прастора лугам, уздоўж Пцічы, уздоўж яркай палоскі неба там, дзе яно кранаецца высокай сцяны лесу.

«Што гэта ты, Іван? Уздумаў дзіця злякаць? Яшчэ ўпадзе, божа збаў...» — бурчыць на бацьку мама, а той, усміхаючыся, падстаўляе складзеныя далоні: «Ну! Смялей, Света!»

Яна ступае на прыступку, утвораную яго далонямі, і ўжо на спіне Орліка, з павадкамі, заціснутымі ў руках, аберуч, адчувае, што вось-вось заплача. Не ад страху, не! — ад захаплення, ад таго, што босымі нагамі чуе жывыя дрогкія бакі каня, чуе такое ж, як сваё, нецярпенне яго, і зараз, толькі прыцісне пяткі да цёплых бакоў гэтых, памчыцца хутчэй як вецер...

І вось ужо вецер разганяе начную смугу — і золак, у які яна, Святлана, спускаецца з пагорка, зараслага рэдкім маладым бярэзнікам, патанае ў тумане. У тумане, што сям-там, чуючы блізкае сонца, клубіцца лёгкімі воблачкамі, і ў расе. Наскрозь прамоклая ледзь не да пояса сукенка скоўвае рухі і непрыемна халодзіць, і Святлана сцягвае яе, не дайшоўшы да вады: выкупацца можна і ў расе, у срэбных яе кроплях, што рассыпаючыся, агаляюць сонныя яшчэ рамонкі, што студзяць і адначасова распаляюць юнае яе цела. Халодны, нястрымна-пякучы агонь кранае грудзі, плечы і шыю — і яна ціхенька, шчасліва смяецца, заграбаючы далонямі высокія сцябліны і пырскаючы на сябе расой: адзежа засталася ззаду, на сцежцы, якую яна пакідае за са-

бою.— і навошта ёй зараз адзежа! Пагорак, бярэзнік засланяюць яе ад поля і вёскі ўскрай поля, зараснікі чаромхі — ад ракі. А яшчэ ж можна лёгка ахінуцца шматком туману, схаваўшыся і ад пагорка, і ад ракі, і ад сонца, што, нябачнае яшчэ, вызалочвае струмені паветра крыху вышэй, над палянай, над рачною абалоннюю: туман разыходзіцца павольна, і шматкі яго падоўгу вісяць побач — адно руку выпрастаць...

Яна выпроствае, цягне руку — і застывае: зусім побач, за крок ад яе, між чаромхавых галінак, пад адной з іх — завісла птушына, менавіта завісла, п'ючы расу, сабраную за ноч кветачкамі. Святлана не адразу пазнае ў птушыне салоўку, а пазнае — дзівіцца з яшчэ большым захапленнем. І не рукою — тварам, вуснамі кранаецца цяжкой чаромхавай квецені, не зводзячы позірку з салаўя. А той, відаць, учуў ці ўгледзеў яе, бо страпянуўся, узмахнуў крылцамі і знік — аднекуль справа, з другога куста, пачулася яго нягучнае цёхканне. І яна — у адказ — узмахвае рукамі і асыпае сябе росным дажджом і смяецца. Смяецца, радуючыся і гэтаму дажджу, і салаўінай песні, і першым сонечным промням, з-за якіх — праз якія! — праступае, набываючы выразнасць, выразлівасць, чыйсьці ўсмешлівы твар... Глеб!

Вырываючыся са згадкі («Адкуль там Глеб? Я і не ведала яго тады...»), Святлана не адразу ўсведамляе, адкуль чуецца малады звонкі смех. Калі ж паварочвае галаву, бачыць, што амаль побач з ёй, гэтак жа, як яна, абапіраючыся на парэнчы, смяюцца суворaўцы.

— У вас гэта здорава атрымліваецца! — адказаў на крыху недаўменны яе позірк адзін з іх, з фотаапаратам на плячы.

— Што — атрымліваецца?

— Імітацыя палёту.

«І-мі-тацыя?..» — перасмыкнула яна плячыма і, рэзка адштурхнуўшыся ад парэнчаў, пайшла ў бок

сквера. Спіной пачула злёгку пакрыўджанае: «Але ж і ўзапраўду здорава: узмахі рук — як узмахі крылаў!» — і не павярнулася.

Збегла па каменных прыступках уніз, на закутую ў бетон набярэжную і скіравалася не ў засень ліп, на ўтаптаную сцежку, як намервалася колькі хвілін таму, а ўздоўж берага, да невялікай плаціны, штоперагароджвала Свіслач, трымаючы ўзровень вады ў шырокай затоцы за праспектам, і далей, да варот і на плошчу Перамогі, дзе можна было сесці на тралейбус. Настрой рэзка змяніўся. Яна ўжо дакарала сябе за недарэчны ўчынак свой: Глеб жа напэўна прыходзіў растлумачыць усё. Растлумачыць ці развітацца. І адно і другое было варта іншых яе адносін: выслухаць жа яна яго магла!

Думкі згасалі і, згасаючы, апустошвалі Святлану: ні думкі, ні згадкі, падсвечаныя промнямі колішняга, маладога сонца, не вярталіся, і гэта было балюча. Спярша — балюча. Бо ўжо праз паўгадзіны, калі яна стаяла перад Евінымі дзвярыма, не было ў ёй і болю. Штосьці зрэдку ўздрыгвала ў душы і тут жа аціхала, і зноў аграмадным цяжарам ціснула на плечы нязвыклая, незразумела чым выкліканая стома. Праз сілу павярнула ключ у замку. Дзверы — не адчыняліся. Святлана паторгала ключ, паспрабавала крутануць другі раз і ўспомніла пра ўнутраную засаўку на дзвярах: сама ж настойвала на тым, каб яе паставіць.

Відаць, госць быў у хаце: Ева ж засаўкай звычайна не карысталася, і Святлана змусіла сябе прыкінуць, куды зараз падацца, дзе перачакаць. Ісці, папраўдзе, не было куды: рэчы з інтэрната яна даўно, з вясны, перавезла да Евы (думала ж прапісвацца!), сяброўкі зараз хто з кім (дзяржаўныя ж экзамены ззаду!). Рогаў... Толькі Рогава ёй зараз і не хапала!

Нават зазлаваўшы на нечаканую бездапаможнасць (і пайсці не было куды ў выпадку чаго!), рашуча націснула на званок: у Евы, напэўна ж, Глеб — справіўся!

дамчаў! «І няхай! Што мне Глеб? Прыйшоў і прыйшоў. Ажэніцца і ажэніцца. Не век жа мне ад яго бегаць. Маглі б і пачакаць, пакуль я з'еду! Заўтра ж з'еду! Маглі б не зачыняцца сярод белага дня — ведама ж, маладзяты! Маглі б...»

— Ты што, ашалела? — адкрыла дзверы і, убачыўшы Святлану, якая ўсёціснула на кнопку званка, устрывожана спытала Ева. Калі ж тая не адазвалася, адно перастала званіць, пахітала галавою і адступіла ўбок.— Унутраны замок зашчоўкнуўся, а я... Мы збіраліся ўжо ісці. Чаго стаіш? Праходзь.

Сказала і адышлася. І адвярнулася да вялікага люстэрка ў прыхожай, зашпільваючы гафтаваную льняную кофтачку.

— Міканор, гэта Святлана! З радасці, што яшчэ адну пяцёрку ўхапіла,— гукнула ў пакой свайму госцю, і павольна, быццам дзівілася раптоўнай здагадцы, не ведаючы, як з ёй абысціся, павярнулася да дзвярэй.— Мо што здарылася, Свет? А? Як экзамен?

— Чатыры балы,— нарэшце зачыніла яна за сабою дзверы, зачыніла і прывалілася да іх спіной, адчуваючы, як млеюць ногі: «Мі-ка-нор? Дык у Евы — не Глеб, а Міканор? Усяго толькі Міканор?!»

— Ффу-у! — з палёгкай выдыхнула Ева і зноў павярнулася да люстэрка.— А я было падумала... Знайшла з чаго хвалявацца! Усё роўна ў сяло ўпяклі, і тым у прыклад іншым, разумнейшым, паставіўшы. З мінскай прапіскай — у сяло!

— Я сама...

— Сама-сама! Ты ў нас усё сама! — кончыкамі пальцаў уціраючы крэм у скуру ўкруг вачэй і на шчоках, паднялася Ева і кіўнула, кіўком паказала на сваё месца.— Зірні. На табе ж твару няма.

Святлана чула і не чула яе. Чула, бо, павесіўшы сумачку і скінуўшы туфлі, гэтак, босаю, і прысела на пуфік перад люстэркам. І ўсё ж не чула, бо ніводнае

слова сястры не зачапіла, апроч таго, ранейшага: Міканор... Худы, даўгалыгі Міканор быў у сястры ў гасцях, і гэта азначала... Што гэта азначала? Што Ева, збіраючыся замуж, працягвае зносіны з былым сваім... з адным з былых сваіх... хахаляў? Так, так, з хахалем! — дома, у вёсцы, гэтак падобных гасцей называлі і называюць, і няма чаго выбіраць якое мякчэйшае слова: збірацца замуж, маці, свету назваць жаніха свайго — і прымаць, прыняць у хаце (мо і ў пасцелі?) другога, у сто разоў горшага, проста-такі нікчэмнага старога прайдзісвета, ці ж льга гэткае даравацъ, хоць бы і сваёй сястры? Ці ж льга гэткае ўразумецъ?

Побач, пад рукой, зазваніў тэлефон — пакасілася на апарат, але трубку, пачуўшы, што Ева з пакоя гукнула: «Паслухай, Свет! Калі што, мяне ўжо няма...», зняла.

— Вас слухаюць,— буркнула ў трубку і тут жа ледзь не ўпусціла яе на стол: з трубкі радасна загучаў голас Глеба: «Святлана! Нарэшце! Святлана, гэта я!» Узяўшы сябе ў рукі, як мага больш абыякава адказала: — Вы памыліліся. Тут такая не пражывае.

З люстэрка спалохана зірнула на яе збялелая на палатно дзяўчына — імгненне-другое Святлана не пазнавала сябе: расплеценая з канца каса, як прылепленая ветрам да шаўковай блузкі, пацямнелыя, запалыя вочы, балючы злом моцна сцятых вуснаў...

— Мы пайшлі!

— Маё шанаванне новаспечанаму дыпламаванаму спецыялісту!

Святлана паспрабавала ўсміхнуцца. Усміхнулася.

— Спускайся, Міканор. Я зараз,— мякка выпіхнула Ева свайго госця з прыхожай і вярнулася: штосьці запыніла яе, як не гэта Святланіна ўсмешка, чужая, адчужаная, як ніколі.— Ты штосьці хацела сказаць мне? А, Свет?

— Як ты можаш... з ім, з гэтым? — не стрывала

тая яе пагляду, занадта пільнага, каб адмахнуцца.— Ты ж выходзіш замуж!

— Я? Замуж? — углядалася ў яе, быццам шукала якуюсь разгадку яе паводзін, яе пытання Ева.— Гэта табе мама сказала?

— Мама.

— Ці не за Міканора часам выходжу? А? Дык ён жа жанаты.

— За Глеба, казала...

— А-а-а! — ненатуральна, роблена засмяялася яна.— За Глеба, казала. За Глеба я пайшла б, сястрычка. Угу! Сёння — пайшла б. Толькі сёння ён мяне не возьме... Не бя-рэ. Вось яно як! А мама... Маме гэтага не зразумець. Ты ж... Я забыла цябе павіншаваць, Святлана, не крыўдуй. Вярнуся з пляшкаю віна. Абавязкова. Ты толькі не вешай носа. Падумаеш, чатыры балы!

Яна чмокнула Святлану ў шчаку і выпырхнула за дзверы. За дзвярыма яшчэ нейкі час дробненька выстуквалі на каменных прыступках яе абцасы, потым усё сціхла. Стала так ціха, што Святлана чула, як няроўна, няроўнымі штуршкамі б'ецца ў яе на скроні жылка — няйначай, матылёк трапечацца пад чуйнымі пальцамі. Матылёк гэты, прамільгнуўшы ў думцы, пацягнуў да скроні руку, быццам яна і ўзапраўду намерылася крануцца яго — паверыла ў яго сапраўднасць і наважылася калі не злавіць, не сцяць у пальцах, то сагнаць. Кранулася гарачай дрогкай скроні, бязгучна, шчасліва засмяялася: дзіцячы сад, дый годзе! — з годнасцю вытрымала экзамен на настаўніцу, днямі, заўтра едзе зірнуць на сваю школу, а ў галаве матылі...

— Несур'ёзна, Святлана Іванаўна!

Гэта яна той, у люстэрку, сказала. І тут жа сарвалася з месца, закружылася па цеснай прыхожай, мармычучы якуюсь несуразную мелодыю,— падол спадніцы за-

цiснуты ў адстаўленай руцэ, босыя пяткі паблісківаюць, мільгаюць у паветры ўсё хутчэй...

Званок у дзверы здаўся занадта нецярплівым — відаць, Ева штосьці забыла! — і, разгарачаная танцам, яна імкліва запынілася і адшчоўкнула замок, не пытаючыся. У дзвярах стаяў Глеб.

— Я ледзьве дачакаўся, калі ад'едзе машына Мікалора!

Хаваючы шчаслівыя вочы, Святлана апусціла галаву, зрабіла тыя паўкроку, што іх падзялялі, і апынулася ў абдымку, ледзь адчувальным, пяшчотным, ахінутым, захінутым ад лесвічнай пляцоўкі, ад суседкі з вывіхнутай цікавасцю шыяй, ад яе, Святланіных, сумненняў дзесьці там, на набярэжнай Свіслачы, яго голасам, яго шэптам:

— Ты не магла не адчуць, што я пакахаў цябе, я знаю. Аднаго баяўся ўвесь час — таго, што было, што пужала цябе, чыстую маю... Баяўся, што ты не зробіш, што ты ніколі не зробіш гэтага кроку, гэтага руху насустрач...

## XXVIII

(Калі ўжо мільгануў наўскос старонкі яркі бесклапотны матылёк, варта запыніцца і паспрабаваць прыціснуць яго да яе няроўнай, непразрыстай паверхні даланёй, а то і проста дыханнем, які ні бесклапотны матыль наш, а жывы і ўпарта чапляецца за прастору. Менавіта за прастору, адкрытую зроку, адкрытую для вольнага палёту. Праўда, такім, як ён, часцей толькі здаецца, што адкрытую, бо тыцніся матыль у блакітны шматок вышыні — шматок той абавязкова акажацца шклінкай, тоўстым або тонкім шклом. Усемагутная рэальнасць!

Хоць і абвінавачваць рэальнасць неяк не выпадае: навошта былі б усе памкненні, усе высілкі і крушэнні

або перамогі, калі б не было паміж імі і радасцю палёту, радасцю вышыні,— гэтых шклінак? А? Тым больш што не кожнаму карціць падняцца вышэй. Асабліва там, дзе побач, скрозь як вокам кінуць, стракацяць краскі, вабячы і яркасцю і мядовым пахам. Асабліва там.

Тут, у горадзе, луг, канечне, не раскінеш. Ды і на клумбах усё больш выштанцоныя, здалёку завезеныя кветкі стаяць. Шчытна. Адна да аднае. Як нежывыя. Ні ветрык іх не кране, ні дзіцячая рука не пагладзіць, ні матыль... Матыля зрэдку ўбачыш, хутчэй дзе ў зацішку, у скверы, ды і то якогась цяжкога, нявёрткага: наблізішся — на крок-другі адляціць, ступіш за ім — узляціць і тут жа зноў складзе крылцы. Быццам бяссілыя яны ў яго. Быццам і лётае ён адно таму, што хадзіць не можа. Што такому вышыня? Што такому неба? Ён хутчэй на агонь, на кволы агеньчык кінецца, бо той, хай ярка, хай цьмяна, а зіхціць — як крылцы адразу не абсмаліць, то і пакруціцца ўкруг яго, як укруг сонца, льга. Неба ж... Неба ўладна ўцягвае ў сваю глыбіню — у вышыню! Уцягвае, не даючы спачыну — дакуль стае сілы, дакуль стае дыхання. Гэта — не для матылька.

Лёгкі, бесклапотны, бесклапотна-прыгожы, той створаны, каб на яго дзівіліся, зайздросцячы і гэтай лёгкасці, і гэтай вечнай бесклапотнасці. І — чаго там! — дзівімся. Не перастаем здзіўляцца яркай прывабнасці ўзору на слабых крылцах, матавым пералівам напыленых на іх фарбаў, вытанчанай рухомай форме... Здзіўляемся, прагнучы хоць на некалькі імгненняў прысвоіць усё гэта. Прысвоіць і замацаваць права на валоданне ім у білеце члена таварыства аховы прыроды. І вось ужо лёгкі, бесклапотны, бесклапотна-прыгожы матылёк наколаты на іголку, прышпілены на чысты аркуш паперы, адгароджаны ад усяго і ўсіх тонкай шкляной сценкай скрынкі, а шчаслівы ўладальнік яго

горача даводзіць сабе і ўсім, што зрабіў добрую справу: матыля ж мог здзьмухнуць у раку вецер, мог абсмаліць, а то і спаліць сваім дыханнем неасцярожны сонечны промень, мог, урэшце, пераехаць аўтамабіль... Слушныя, увогуле, словы!)

— Гэта ўсё словы, Барыс... Іванавіч! Прыгожыя словы, якія, прабачце, слухаць не пераслухаць. А Верачка...

— Мама!

— А Верачка,— спакойна, адно акуляры зняла і асцярожна паклала на столік перад сабою, працягвала Лідзія Самсонаўна, не павярнуўшыся на Верын вокліч, у якім выразна чуўся пратэст,— Верачка маладая, прыгожая — вы ж не адмовіце ёй у гэтым! Ей жыць трэба — жыць, пакуль маладосць ды прыгажосць у люстэрка пазычаць не даводзіцца.

— Жыць, па-вашаму, гэта мець магчымасць тройчы на дзень пыл з дарагой мэблі сціраць і перад гасцямі ў новым плацці штораз выстаўляцца, каб усе, шчырыя і няшчырыя, ухваленні і ўсмешкі сабраць? — зазлаваў Барыс, хоць дагэтуль, як мог, стрымліваўся; прыйшоў жа да сына, а не да цешчы.

— Пабойся бога, мілай, мэбляю, не пры табе купленаю, папікаць: ужо ж пыл з яе выціраць прыемней, як з чарапкоў розных непатрэбных, якімі дом быў завалены.

— Мама! Я прашу цябе.

Вера, адвярнуўшыся да акна, нервова пацепвала плячыма — як ні сціскала пальцы зведзеных непасільным напружаннем рук, як ні сціналася пад паглядам Барыса (той пазіраў толькі на яе — у спіну ёй), а суняць гэта пацепванне не магла.

— А што я сказала? Што я такога сказала, каб перапыняць мяне? — пакрыўджана прагугніла, надзяваючы акуляры, тая, і тут жа, быццам ёй дадалося

ад гэтага руху сілы, зрабіла новы выпад супраць няпрошанага і яўна непрыемнага ёй госця.— Вось ты ўсё пра народ, пра духоўны скарб яго пячэшся — гэта калі ад слоў тваіх танцаваць, а я — я пажыла, дзякуй богу, на свеце! — так думаю, мілай: каб і ўзапраўду гэта твая гісторыя была скарбам, пра яе чарэпкі і камяні парушаныя дзяржава паклапацілася б. Ужо ж у дзяржавы знайшліся б грошы на розныя чурбакі і прасніцы, калі б яны ўяўлялі сабою хоць нейкую каштоўнасць.

— Дзяржава плаціць тысячам навуковых супрацоўнікаў, Лідзія Самсонаўна!

— Ах, плаціць! — зноў зняла акуляры тая і з'едліва ўсміхнулася.— Няўжо для таго толькі плаціць, каб яны скуплялі па вёсках прапахлую мышамі і цвіллю старызну?

— Мама, Барыс сабраў унікальную калекцыю старажытнабеларускай драўлянай скульптуры,— павярнулася да яе, абмінуўшы паглядам Барыса, Вера.— І прыйшоў не для таго, каб даказваць сваё на гэта права.

— Не для таго? Ужо ж не для таго! Пра сына, бачыце, успомніў. Сына яму на лета аддайце гонар свой бацькоўскі пацешыць!

— Я прасіў бы вас, Лідзія Самсонаўна, не ўмешвацца ў мае адносіны з Валодзем, не прымешваць да іх свайго злоснага непрымання ўсяго, што выходзіць за рамкі вашага... вашага хатняга свету.

— Ха... хат-няга?! Майго ха... хатняга свету?! — рыўком начапіла тая акуляры, ускочыла, зноў плюхнулася ў крэсла і ўтаропілася ў збялелага ад ледзь стрыманага гневу Барыса.— Вера, мяне зневажаюць! Ты чуеш? Мяне папракаюць тым, што я гадавала і гадую твайго сына. Мяркую, цяпер ты пакажаш Барысу Іванавічу на дзверы? Ен... Ен паспеў...

Вера зіркнула на Барыса, і аднаго гэтага кароткага зірку было дастаткова, каб зразумець, што той ледзьве стрымліваецца — сутаргава трэ, быццам хоча ўцерці ў

бакі, спатнелыя, няйначай, далоні, раз-пораз пакусвае губы ці словы на губах, якія вось-вось сарвуцца.

— Мама, ты ідзі. Ідзі і супакойся. Мы тут самі з усім разбяромся. Добра? Ты ж у мяне разумніца,— матлянуўшыся да маці, дапамагала ёй падняцца з крэсла Вера.— Ты ў мяне разумніца і не станеш на мяне крыўдавацаь.

— Што ты мяне ўгаворваеш? — рэзка выпрасталася Лідзія Самсонаўна, атросшы Верыны рукі.— Калі я непатрэбная, што ж...

Словы ўпалі на столік разам са стукам, з якім яна паклала, кінула акуляры, сарваўшы іх з носа з відам раз'ятранай ад незаслужанай крыўды тыгрыцы. Слоў у яе не засталося — крыўда падштурхвала, і яна няспешна і з высока ўскінутаю галавою пакінула пакой: калі яна непатрэбная ўжо, то што ж... Яна і з другога пакоя ўсё, што ёй трэба пачуць, пачуе, а калі будзе вымагаць таго хвіліна,— лёгка умяшаецца ў гаворку і настоіць на сваім: маці ўсё ж, і розум у яе яшчэ не ссівеў...

Гаворка, перапыненая яе дэманстратыўна запаволеным адступленнем (часовым, па ўсім было відаць), не аднаўлялася. Вера і Барыс стаялі адно супраць аднаго і маўчалі, і гэта было не тое маўчанне, якое збліжае людзей, часам нават незнаёмых; кожны нібыта адгароджваўся сваім маўчаннем і ад таго, што толькі што казалася і адбывалася, і ад таго, што магло прагучаць і, прагучаўшы, адасобіць іх яшчэ больш. Лягчэй было перачакаць гэтыя імгненні, перамаўчаць. І Вера задумліва церабіла верхні ў стосе кніг на століку том у яркай, ярка-малінавай, вокладцы, і толькі па тым, як зрэдку ледзь прыкметна ўздрыгвалі яе пальцы, было відаць, што яна ўслухвалася і ў маўчанне, якое, здавалася, затапіла пакой, і ў пабразгванне, парыпванне за сцяною, дзе як не ёй, то ні ў чым не павінным рэчам выказвала маці сваю незадаволенасць. Гэтыя нервовыя

ўздрыгі тонкіх, чуйных Верыных пальцаў у тым, мінулым, жыцці помніліся Барысу так выразна, што ў яго — быццам шчакой, вуснамі слухаў, адчуваў іх — закружылася галава.

— Мо ты ўсё-такі запросіш мяне сесці?

Пытанне прагучала залішне гучна, калі не груба, і Верына рука застыла на міг і тут жа ўзляцела ўгору, да лба, звыклым, знаёмым рухам адкідваючы непаслухмяны локан.

— Да, канешне. Чаго ж мы стаім?

Селі. Кожны ў тое крэсла, якое стаяла бліжэй. Адлеглсць, што падзяляла іх, скарацілася, але чыста вонкава: Вера па-ранейшаму хавала вочы, і Барыс, хоць і намерваўся штораз, хоць і, як і кожнае імгненне пасля свайго прыходу, не зводзіў з яе шчаслівага і сумнага пагляду, не мог разбіць ці хоць бы скалыхнуць гэта глыбокае (і крыху вінаватае, як часам ён быў схільны думаць) яе адчужэнне. І таму маўчаў. І, заўважыўшы першыя лёгкія зморшчынкі ў самых куточках адзіна любых полымна-зялёных вачэй, думаў пра няўмольнасць часу. І пра няўмольнасць лёсу, што развёў іх, некалі шчаслівых сваёй блізкасцю, сваёй роднасцю. Мо хіба не было роднасці. Вось жа не цікавілі яе гісторыя, знаходкі археолагаў...

Не, Вера слухала яго расказы, не пярэчыла, калі ён прывозіў дадому пыльную (і сапраўды часам прапахлую мышамі або цвіллю) скульптуру і потым начамі праседжваў над ёю, счышчаючы, асцярожна сціраючы сляды неахайных адносін да яе людзей і гадоў. Гэта праўда. Не пярэчыла. Але і не выказвала захаплення, ці хоць бы цікавасці. Вера... Веру, дачку не столькі сваёй маці, колькі сваёй эпохі, цікавіла ўсё, што тычылася жывога, існага жыцця: святочнасць музыкі і лёгкасць жартаў, хараство прыроды і прыгожа падкрэсленая ўсмешкай маладая бестурботнасць сяброў, вымудры моды і вяршкі салоннай дасведчанасці, рэстараныя

застоллі і тэатральныя прэм'еры... Словам, усё, што магла прапанаваць ёй, жанчыне, рэчаіснасць і не прапаноўваў ён, Барыс, занадта прыкуты да сваёй справы і далёкіх, амаль што не вывучаных да яго стагоддзяў.

Усё, што магла прапанаваць ёй, жанчыне, рэчаіснасць... Прыгожая, знешне правільная фраза азначала роўна столькі, колькі азначае любая падобная фраза. Рэчаіснасць жа — гэта не адно цудоўныя куточкі прыроды, абжытыя рэкламай турызму, не адно рэстараны, музыка і вымудры моды, гэта (і найперш!) — паўтарыдзве гадзіны штодзённай штурханіны ў транспарце і ў магазінах, гэта кіламетровыя, калі браць агулам, паліцы пыльных, зачытаных або нікім не чытаных кніг, якія трэба з дня ў дзень перабіраць, перастаўляць, апрацоўваць, класіфікаваць, выдаваць, запаўняючы фармуляры. Гэта, урэшце, мізэрная, калі арыентавацца на прапановы рэчаіснасці, зарплата бібліятэкаркі, зарплата, якой практычна не хапала ні на што. Так што... Праўда, пра гэта Барыс не думаў. Ні раней, ні цяпер. Тым больш цяпер, калі Вера сядзела за крок ад яго, стараючыся высака (нават шыю ад напружання зводзіла) трымаць ахопленую агнём залаціста-рыжых валасоў галаву.

— Як ты жывеш, Вера?

— Жыву.

На міг сышліся яе лёгкія бровы і, быццам рассечаныя неглыбокай зморшчынкаю, здзіўлена застылі над звернутым да Барыса паглядам. Пагляд быў злёгку разгублены. Як і тады, калі яна адкрыла яму дзверы.

— Да, да,— чамусьці заспяшаўся Барыс.— Усе мы жывём, пакуль жывём, па сутнасці не ведаючы — часта да самай смерці! — як і навошта. Ты скажаш: лухта — лухта хоць бы таму, што не ўсё, а то і нічога ад нас не залежыць. Але ж залежыць, Вера, яшчэ як залежыць! Невялікі выбар у чалавека, так. Але ж ёсць, ёсць вы-

бар — сёння, заўтра, штодня! І важна сваё ўзяць — не памыліцца. Мне здаецца, што ты... што мы...

Ен запнуўся на слове, на думцы і ці ад таго, што ледзьве стрымаў папрок, гатовы ўжо сарвацца, ці то ад таго, што Вера, не хаваючы больш вачэй, спакойна, твар у твар з ім маўчала, хоць, магчыма, і дадумала тое, чаго ён не дагаварыў,— нечакана зачырванеўся: папрокамі ён нічога не зменіць — позна, ды і не тое, не тое хацеў Веры сказаць!

— Я не тое хацеў сказаць,— імкліва сцяў ён у кулакі растапыраныя пальцы, нібы камячыў, скамячыў раптоўна ўзніклую, непрыемную паўзу.— Выбіраюць справу, шлях. Часам нават лёс. Каханне... каханую не выбіраюць. Гэта ад бога. Ад таго, каго — ці чаго — і ў прыродзе няма, не існуе.

Зноў сышліся, зляцеліся на міг светлыя Верыны бровы, і Барыс міжволі зноў заспяшаўся:

— Я ведаў гэта. Заўсёды. Але адчуў, адарваны ад цябе, ад Валодзі...

— Вера! — прачыніліся дзверы ў пакой.— Цябе — да тэлефона. Якаў Януаравіч.

— Скажы...— прыўзнялася яна ў крэсле, адвёўшы ад балюча зведзенага ўсмешкаю Барысавага твару вочы, і тут жа імкліва паднялася і выйшла.

— Не тузайце Верачку, Барыс... Іванавіч! — азвалася, праслізгнуўшы ў пакой, Лідзія Самсонаўна.— Калі вам бракуе нават простага такту, калі табе няўцям...

Барыс не стаў слухаць цешчыны павучанні: думка зачапілася за пачутае імя, шукаючы прычыну раптоўнай няўцямнай трывогі. Якаў Януаравіч... Якаў Януаравіч... Барыс ведаў, зусім нядаўна страчаў чалавека з гэтым імем... «Журналіст! Журналіст, які прыходзіў да мяне з гаворкаю пра работы па гісторыі!» — прыгадаўся высокі, іранічны ў сваім непрыняцці чужой думкі наведвальнік, якога ён, Барыс, палічыў за дылетанта

не толькі ў гісторыі, але і ў рэпарцёрскай справе. Ён пачаў пільна ўслухвацца ў ледзь чутны за цешчыным гугненнем Верын голас. Вера адказвала коратка: «Да... Яшчэ не ведаю... Не... Нічога не змянілася... Да... Прабач, у мяне госці...»,— і яму стала лягчэй. На адзін міг. Бо ўжо ў наступны міг уварваўся, закрануўшы свядомасць, непрыемны цешчын голас:

— Аліменты ты плаціш не Верачцы, а сыну, мілай, і Верачка — не поп, каб выслухоўваць гадзінамі выспавяданні. Яна, можа, новую сям'ю...

— Мама! — перапыніла Вера яе і — Барыса, які павольна падымаўся з крэсла, аглушаны і зніякавелы.— Я прасіла не ўмешвацца ў мае справы. Няўжо просьбу трэба паўтараць сто раз?

— Я не разумею твайго тону, Вера. Табе звоніць Якаў Януаравіч, а ты кідаеш трубку і бяжыш абараняць таго, каго і на парог пускаць не хацела?

— Ма-ма!!

— Вы... Вы, Лідзія Самсонаўна...

— Ма, гэта я! — гукнуў з прыхожай Валодзя, і ў мёртвай цішыні, што раптам нібыта абвалілася на ўсіх, хто быў у пакоі, было чуваць, як той скінуў, адкінуў туфлі, мармычучы штосьці пад нос, крутануўся перад люстэркам і тузануў дзверы.— Ма, ты дома?

Спярша, убачыўшы бацьку, убачыўшы іх траіх у трохі недарэчных, скаваных перш гневам, потым здранцвеннем позах, хлапчук разгубіўся, але ўжо праз момант, хутчэй адчуўшы, чым зразумеўшы сітуацыю, тым жа, што ў маці, рухам звёў бровы і ступіў ад дзвярэй у бацькаў бок — да яго.

— Ты вярнуўся, папа, і цябе не прымаюць?

— Ула-дзімір! — вярнулася мова да Лідзіі Самсонаўны.

— Папа прыйшоў, каб прапанаваць табе паездку ў Полацк, на Дзвіну, дзе на працягу ўсяго лета будуць весціся археалагічныя раскопкі,— аграмадным нама-

ганнем змусіла свой голас прагучаць амаль спакойна Вера, і толькі лёгкія ўздрыгі пальцаў, якія нібыта апякліся аб дотыкі паветра, выдавалі яе хваляванне.

— Праўда, папа? Я магу паехаць з табой на ўсе канікулы?

Барыс, не ў сілах зглынуць камяк, пераселы ў горле, і адказаць, толькі кіўнуў, потым, абняўшы сына за плечы, лёгенька прыхінуў да свайго пляча.

Фыркнула і, пакрыўджана падцяўшы сухія губы, прайшла паўз іх Лідзія Самсонаўна, але ні яе злосныя зіркі, ні занадта гучны стук дзвярэй не парушылі незразумелай, дзіўнай (пасля ўсіх тых слоў, што, здавалася, яшчэ не адгучалі ў пакоі) святочнасці гэтай хвіліны.

— Мама,— учапіўшыся ў бацькавы дужыя пальцы, ступіў да маці, крануўся другой рукой яе рукі, напружанай і бязвольнай адначасова, Валодзя.— Мама, ты дазваляеш мне паездку? Ты дазволіш?

Вера маўчала. Моўчкі пазірала на сына і — праз яго, па мастку яго рук — на шчаслівага гэтай хвілінаю Барыса.

## XXIX

Хвіліна... Што такое хвіліна? Лісток, сарваны ветрам з галінкі дня? А што тады дзень? Ці год? Азірнуцца ж назад — далёка назад ці ў толькі што перабытае, перажытае — з яркіх, ці больш цьмяных, ці зусім цёмных, размытых адлегласцю або, як яшчэ прынята казаць, размытых змрокам забыцця, плямін і карцін памяці пагляд не вылучае ніводнага выразнага прамежку часу: ці то час не мае пэўнага значэння там, у былым жыцці, ці то папросту жыццё ўрастае ў час, у вецер, які адносіць яго ўсё далей і далей. Адно згадваецца з прыемнасцю, другое з сумам, трэцяе... Здараецца і та-

кое, што хочацца забыць. Забыць як мага хутчэй і намёртва. І след засыпаць. Засыпаць, заваліць любою трухою, што пад руку трапіць.

Хочацца — і забываеш! — і следу няма! І толькі трымценне ў душы, якое нагадвае трывогу — няўцямны страх перад ёю, перад гэтаю трывогаю, зрэдчас змушае ацінацца. Сцяцца — і чакаць. Чаго? Так звычайна чакаюць удару...

Хвіліна... Паласа такая паскудная. Чорная. Што там удар, як удары могуць пасыпацца зараз адзін за адным — гэта ж ён, Кіцын, разумее! Не хлопчык. Не першы раз замужам. Артыкул, зварганены нейкім Золатавым, не так сабе зварганены і з'явіўся ў цэнтральнай газеце менавіта сёння, менавіта цяпер, калі ні ён, ні хто іншы гэтага не чакаў: дагэтуль жа, і крытыкай і начальствам аблашчанаму, яму, Кіцыну, поперак дарогі ніхто не станавіўся — і ў дурным сне нікому б гэткае ў галаву не ўцямяшылася: хто б гэта калі ўздумаўся з ім цягацца? Ветраў, уся слава якога трымалася на адным-адзіным больш-менш вартым увагі фільме? Якубоўскі з яго залатушнай прымадонай, над якой пацяшаецца ўвесь кіношны люд? Цяслюк? Цяслюк... Гэтаму, урэшце, яшчэ трэба малако з губ выцерці!

Міс пакусваў губы, прыкідваючы ў думках, у каго шукаць падтрымку, да каго першага звярнуцца, з крыўдаю ці з абурэннем — гэта ўжо ў залежнасці ад таго, да каго звернецца. Да каго? Гартаў блакнот — з тэлефонамі на ўсе выпадкі, як кажуць, памінаючы нядобрым словам і газету і газетчыкаў. Там жа, у аддзеле культуры працавала даўняя знаёмая, якая, каб паманіў ён яе...

Не, справа яўна не ў Зіне, хоць і ёй можна было пазваніць — анекдот новы пераказаць, пра тое, як ваўку зубы лячылі. Але гэта так, больш для нервовай разрадкі. Важней знайсці каго зубастага, пажадана з вяртуш-

кай у кабінеце, каб мог высокае начальства патурбаваць.

— Салют, Місь. Я прысяду?

— Валі,— кіўнуў ён, а потым ужо нехаця тыцнуў далонь зацягнутай шырокім скураным рэменем Еве.— Спадзяюся, не пачнеш кудахтаць?

— Наконт аплявухі, залепленай табе публічна? — на ўсе зубы ўсміхнулася на зведзеныя яго бровы і гэта абыякавае вітанне Ева, падсаджваючыся да століка са сваім коктэйлем.— Уся навізна яе ў тым, што ўсе ведаюць Кіцына і ніхто не ўяўляе, адкуль узяўся Золатаў. Астатняе — знаёма.

— Што астатняе?

— Добры вечар, Валёк. Я заўтра зазірну. Угу? Салют, хлопчыкі! — адказала Ева на вітанні знаёмых, памешваючы свой коктэйль.

— Мне паўтарыць пытанне? Ці мо адысціся?

— А ты нервуешся, Місь. Не прывык да такога абыходжання, а? Салют, Коля!

— Як у кадры: ён — сур'ёзны, яна — сама ўсмешка, паміж імі — саламяныя стрэлы, апушчаныя ў бакалы з паскудным, амаль штучным коктэйлем і паклоны паклоннікаў,— паспрабаваў ён зачапіць яе жартам, праўда, сумнаватым даволі, але яна адгукнулася.

— Брава, Місь. Удалая рэжысёрская знаходка.

— Дык усё-такі, што астатняе? А, Ева? Па старой дружбе...

— Я не хацела цябе завесці. Павер,— адпіла тая коктэйль, пасур'ёзнеўшы.— Але ж ясней яснага: вось так адкрыта, нахабна зачапіць цябе можа толькі нехта дужэйшы. Нашмат дужэйшы. Ніводзін з тых, хто баяўся і баіцца цябе, не палез бы: на памяці ва ўсіх тое, як лёгка ты расправіўся ў свой час з Ветравым.

— Гэта...

— Гэта не мае словы, Місь. Міканор казаў. А ён

занепакоены не менш твайго, і нічога, пакуль што нічога не разумее.

— А я хацеў зайсці да яго.

— Не варта. Ты ж знаеш Міканора: пакуль не разнюхае прычыны і тое, што за імі стаіць, ні пазіцыю сваю не вызначыць, ні пальцам не кіўне, каб дапамагчы.

— Знаю.

— Усё, што я магу сказаць: ён званіў у міністэрства, там не ў курсе. Па крайняй меры, так адказалі.

— Дзякуй, малая. Яшчэ кактэйль?

— Ты намерваешся піць? — пытаннем на пытанне адказала Ева, углядаючыся ў нязвыкла прыціхлага, зацятага ў сваёй задуменнасці Кіцына.

— Проста мне трэба ісці, Ева.

— Ідзі, як трэба. Галоўнае — трымай хвост пісталетам. Ты ж не абы-хто, ты Кіцын, што б за гэтым ні стаяла.

Што б за гэтым ні стаяла... А што — стаяла? Фільмы, што выйшлі на шырокі экран, два-тры кінакрытыкі, якіх ён, што называецца, пасвіў, свае людзі ў міністэрстве і крыху вышэй, пастаянныя галасы ў Камітэце... Стоп! Фільмы — справа мінулая, яны па ўсіх рангах аплачаны і сваё адыгралі. Кінакрытыкі? Іх, напэўна, можна выкарыстаць, падключыўшы, але гэта песня доўгая і — што казаць! — добра-такі ўсім прыелася. Міністэрства? Яно пакуль што ўбаку і, хутчэй за ўсё, там і застанецца, чакаючы, калі на авансцэну выйдуць новыя, пажадана — высокія дзеючыя асобы. Пастаянныя галасы ў Камітэце кінематаграфіі? Але ж у свеце няма нічога пастаяннага, адно апошнюю калегію прыгадаць...

Місь мераў праспект крокамі: супакойваў сябе і няспешнай, размеранай хадой, і абыякавым памахваннем брылём, заціснутым у руцэ, і згадкамі, якімі ха-

цеў перабіць трывожныя думкі — думкі думкамі (непрыемны ва ўсіх адносінах пасквіль у газеце — яшчэ не прысуд грамадскасці), было ж у ягоным жыцці нямала яркіх — на ўсе сто юпітэраў — момантаў. Хоць дзяўчатак з кветкамі, што акружалі яго пасля прэм'еры любога фільма, прыгадай, хоць ацэнкі трох усесаюзных кінафестываляў. Прызоў ягоныя фільмы не атрымлівалі, хай так, але ж блізка-блізка былі да прызоў. У кулуарах пра яго фільмы гаварылі! — хто з захапленнем, хто з зайздрасцю, але ўсе адзначалі пошук, рэжысёрскі, мастакоўскі пошук. Рэжысёрскі, мастакоўскі пошук — чаго ж яшчэ? Пошук на працягу амаль двух дзесяткаў год — гэта нямала. Асабліва пасля таго, як вырвеш Дзяржаўную...

Не, куды і як ні паварочвай, цяпер, калі ён, Кіцын, другі год практычна нічога не здымае — толькі намерваецца, толькі падступаецца да новай, гістарычнай, тэмы, з'яўленне артыкула, у якім нейкі Золатаў (хто б гэта мог быць?) распраўляецца з яго двума апошнімі фільмамі, можа азначаць адно: незразумелую, пакуль што не зразумелую перамену ветру. І выпадак, выпадковасць тут ні пры чым: у выпадковыя перамены ветру Місь не верыў. Так адкрыта, так нахабна мог зачапіць яго, Кіцына, толькі нехта дужэйшы за яго, Евіна праўда. І ён, Кіцын (сам не аднойчы гуляў у падобныя гульні), не такі наіўны, каб думаць, што гэты «нехта» — Золатаў. Золатаў — гэта так, падстаўная фігура. Мажліва, нават псеўданім. За ім — той, хто паставіў фігуру на дошку і намерваецца дзейнічаць. І ўгадаць зараз праціўніка — угадаць наступны яго выпад.

— Перапрашаю,— буркнуў Місь, падымаючы ад тратуара вочы: наляцеў неўзнарок на юнака з дзяўчынай, што ішлі, абняўшыся.

Тыя не парупіліся і галовы павярнуць, а Місь, прыпыніўшыся, міг-другі пазіраў ім услед. Потым нер-

вова ляснуў колькі раз па калене скамечаным у руцэ брылём, расправіў яго і начапіў на галаву, насунуўшы на самыя бровы. «Губляю час»,— мільганула ў думках, і ён адразу заспяшаўся — дома, па тэлефоне, сеё-тое высветліцца: што ад Зіны, што ад Доўгіна з міністэрства, што ад Якава...

Мо таму, што ледзь падумаў, і тут жа, наперадзе, крокаў за пятнаццаць, убачыў Якава, Місь напачатку вачам не паверыў: намерыўся ж кіравацца да аўтобуснага прыпынку, і скіраваўся, і ўжо выглядваў аўтобус, азіраючыся, а тут — знаёмы твар!

— На лаўца і звер...— узрадаваўся, нават руку прывітальным жэстам узняў ён, прыспешваючы крокі.

Адлегласць паміж імі скарачалася, і — не мог ён памыліцца: Якаў заўважыў яго! — здарылася нечаканае: той знік. Юркнуў у дзверы гастранома, быццам пазбягаючы з ім, Кіцыным, сустрэчы, і знік. Місь і ў вокны-вітрыны узіраўся, і ў магазін зайшоў следам за ім — Якава не было. Як выпарыўся!

Памянуўшы ў думках нячысціка і ўсіх яго дзесяць бабак, устрывожыўся не на жарт: тое, што Якаў выкінуў гэты фінт, абы не сутыкнуцца з ім, было сур'ёзней, чым сённяшні артыкул у газеце. Яго або не яго работа — гэты артыкул, а пэўна ж ведае, дзе сабака закапаны, калі матлянуўся ўбок — ад вачэй і ад пытанняў. Выходзіла: загадвалі — хваліў, загадалі...

— А, ч-чорт! — прыкрыў міжволі сцятым кулаком рот Місь: дрэнь была яго справа, калі усё сыдзецца на Клаўдзіі Віктараўне!

Ён нецярпліва паглядваў назад, чакаючы аўтобус, і ледзь толькі мільгануў здалёк, з-за павароту, зялёны агеньчык таксі, выбег на праезджую частку. «Волга» тармазнула — рвануў дзверцы і ўплішчыўся на пярэдняе сядзенне.

— Паркавая магістраль, шэф.

— Цераз Весялоўку?

— Давай.

Праспект рвануўся, папёр насустрач усімі сваімі аўтамабілямі, каменнымі гмахамі і ліпамі, каб ужо на другім светафоры адціснуць, адцясніць іх управа, да павароту, і з усёй сваёй сталічнай прадстаўнічасцю застацца ззаду. «Волгу» ўцягвалі вуліцы і вулачкі, якія спускаліся да Свіслачы, да Камсамольскага возера ў яе затоцы, каб потым адна з іх, безыменная, вывела да кальца, адкуль пачыналася Паркавая магістраль, як не самая шырокая ў Мінску...

— Майка! — з дзвярэй гукнуў Місь раз, і другі раз, і, калі яна не абазвалася, зглынуў колькі злосна-салёных слоў, не прамаўляючы, і нечакана адчуў палёгку: баба з возу... Ведама ж, карысці з Майкі! — пазірала б на яго глухімі вачыма і мітусілася на кожнае яго слова.

Скінуў туфлі, шпурнуў на крэсла зашмальцаваную джынсавую куртку і брыль, расшпіліў сарочку. Падумаў што някепска прыняць халодны душ, але лена адмахнуўся ад гэтай думкі: як-небудзь потым! Прайшоў у пакой, разваліўся на кушэтцы, падцягнуўшы да сябе тэлефон.

— Зінаіда Раманаўна? Што ж ты, Зінок, а? Сваіх б'еш... Місь, хто ж яшчэ! Сваіх б'еш, пытаюся?.. Ах, ты не ў курсе! Можа, ты ў курсе, хто — у курсе? Не? Праз рэдактара... Аднекуль зверху... Адкуль, не чула? А гэты Золатаў, ён хто? Няма такога сярод журналістаў? Я так і думаў. Я так і думаў, кажу. Сярод газетчыкаў якія размовы? Не кампанія? Разведай, Зінок, а? Век буду ўдзячны. Ты ж мяне знаеш!

«Зі-нок... Бройлерная курыца! — зазлаваў Місь, націснуўшы на рычажок і потым, адразу ж, пачаў набіраць новы нумар.— Не ў курсе, не чула, не ведае... А якога чорта лысага, запытацца, сядзіць там? Напладзілася г... дыпламаванага! У якой цывілізаванай краі-

не трымалі б газетчыка пасля падобнага адказу?»

— Вераніка Паўлаўна? Добры вечар. Рэжысёр Кіцын вас патурбаваў. Да, да! Як — Сам? Есць? У мяне на дзве-тры хвіліны гаворка да Самсона Барысавіча... Нарада? А калі закончыцца? Што вы кажаце! Не тое каб тэрміновая — важная... Важная справа, Вераніка Паўлаўна! Шкада, шкада... Можна, я вас заўтра зранку патурбую? Дзякуй. Шчыра дзякую, Вераніка Паўлаўна. Усяго добрага!

Кінутая трубка жаласна дзынькнула, і тут жа пачуўся званок — званілі сюды.

— Алё. Алё! Фу ты, чорт!

— Чорта памінаюць не к дабру, Міхаіл Барысавіч.

— З кім я гавару? — насцярожыўся ён, косячыся на прыціснутую да вуха трубку.

— Гэта не мае значэння, назавіся я самім госпадам богам...

— Ну, знаеце!

Ледзь толькі Місь намацаў у кішэні пачак цыгарэт і запальнічку (курыў ён рэдка, толькі тады, калі нерваваўся), тэлефон зноў зазваніў.

— Да!

— Я толькі хацеў параіць уважліва, як мага больш уважліва перачытаць артыкул: пры ўсім тым, што ён запазніўся на добры дзесятак год, у ім, хоць і ў выглядзе горкай пілюлі,— праўда.

— Гэта цікава,— пастукваў даланёю па століку Місь, гэты раз не спяшаючыся перапыніць гаворку з невядомым «добразычліўцам», голасу якога ён не ведаў — прынамсі, не пазнаваў.

— Вы некалі някепска пачыналі. Я добра памятаю ваш фільм-дэбют «Зварот да надзеі», не дагабляваны сям-там, але на добрым узроўні мыслення,— яго справядліва хвалілі. Але занадта доўга хвалілі, і ў тым ужо быў свой разлік, на які вы і клюнулі.

— Чый разлік?

— Чый?! Тых, хто сёння імкнецца памяняць карту...

— Кар-ту?! Якую яшчэ карту? Гульню, ты хочаш сказаць? — не здолеў Місь схаваць ні свайго хваляваня, ні сваёй раздражнёнасці.

— Хто сёння,— працягваў той, як і не чуў яго хвалявання,— імкнецца памяняць карту. Я ўсё сказаў.

У трубцы запікала, і Місь, хутчэй па звычцы, памянуў сяго-таго са сваякоў незнаёмца, злосці ў ім не было, нічога не было — як вымелі ўсё з душы чужыя, спакойныя (залішне спакойныя!) словы. Спакойныя — і жорсткія. Бо вось жа атрымлівалася, што ён, Місь Кіцын, нагадваў некаму паветраны шарык, які можна было надзімаць, пакуль надзімаўся, а потым і дух з яго выпусціць...

«Дух выпусціць? Ну, не! Хрэна я вам дамся, панове! Ні фільмы і ўсе хвалебныя рэцэнзіі на іх, ні ўзнагароды і прэміі ў мяне ўжо не адабраць: хрэна! Ход назад, ход наперад — шанцы ўраўняліся. Я ж і той і той ход зраблю. Не прамаруджу!»

Місь нервова зацягнуўся дымам, улагоджваючы думкі. І рукі, якія хадуном хадзілі, тручы, цярэбячы адна адну, узлятаючы і падаючы то на столік, то на калені, пакуль ён не сашчапіў іх на грудзях, скамячыўшы цыгарэту.

Мінула хвіліна, другая. Знайшоў у блакноце патрэбны нумар, пачаў набіраць. За трэцім разам у трубцы пачулася халоднае: «Вас слухаюць. Гаварыце!» Прыўстаў і зноў павольна апусціўся ў крэсла.

— Клаўдзія Віктараўна! Цалую ручкі. Кіцын гэта...

## XXX

«Плоць і дух... У іх процістаянні, у іх змаганні сіла чалавека. Сама сутнасць яго існавання. І роўна як ад плоці сваёй кволай у гэтым змаганні нельга яму адступацца, бо смерць яе зможа, тлену аддаўшы, так

і ад духу,— думала Ефрасіння.— Зможаны дух гіне. Гіне, ніяк сваёй гібелі не пазначаючы,— не адразу ж стане відаць, што позірк глыбіню страціў, што пачуццё голаду ў чалавеку разрастацца пачало і датуль разрастацца будзе, пакуль у звера, у драпежніка, таго не аберне. А вылезе, выявіцца ў ім драпежнік — нават волю самога госпада нічога не зменіш, былы яго воблік яму не вернеш: позна. Голад — чалавека не адпусціць: так і будзе смяротны адно насычаць утробу сваю, і дом свой, і час свой, абгарадзіўшыся прагнасцю, і калі прыйдзе па яго смерць, то знойдзе не чалавека, а тлусты кавалак прыпсаванага знутры цела ягонага. І гэта можа прадбачыць, гэтаму можа процістаяць толькі дух, Душа. Душа ж064 вераю дужая, і чым большая вера, чым чысцейшая, тым лягчэй дух перамагае грахоўнае, звярынае, тым часцей і люцей уступае ў гэтую адвечную барацьбу ў чалавеку. У чалавеку і за яго.

У чалавеку — і за яго! Ён, чалавек, належыць не адно зямлі, а і небу — неба глядзіцца ў душу яго».

— Неба... неба глядзіцца ў душу маю, а я... Я адно за сябе ўсявышняга прасіла... Грэшная, грэшная, божа, не адштурхні! На мне грэх. Адно за сябе прасіла... На мне смерць...

— Ефрасіння, сястра! Гэта хвароба, гэта гарачка цябе мучыць. Бог пачуе мае малітвы і не пакіне цябе. І не пакіне нас, у малітве схіленых! — воклічам гэтым змогшы слёзы свае, не даўшы ім выліцца, зноў палка, горка моліцца Еўдакія, укленчыўшы паміж ложкам, на якім кідаецца ў гарачцы сястры, і абразом Спасазбавіцеля.

— Вогненныя стрэлы ў зямлю ўпіваюцца, крыж абмінуўшы... Куды ты вядзеш, Еўка? Агонь міну, смерць не міну... Вогненныя стрэлы... Не дай зямлі ўспыхнуць, госпадзі! Не дай агню паглынуць яе! Вярні мне малітву і ёю ўратуй неразумных дзяцей тваіх ад лютасці іх і неразумення... Страла ў грудзях! На мне

грэх... Вырві з грудзей стралу вогненную! За сябе прасіла, а песня... На мне смерць, на мне! Не дай агню...

— Злітуйся, госпадзі! Злітуйся над рабой тваёй Ефрасінняй, над намі ўсімі! За сястру прашу, божа, за служку тваю самую верную і сястру сваю: збаў яе ад хваробы, а нас ад трывогі, злітуйся, госпадзі, уратуй!

Не аціхала ў келлі малітва і ўноч, і ўдзень, і на другую ноч, і на другі дзень... Мяняліся тыя, хто студзіў лоб і трызненні Ефрасінні, хто мяняў пасцель яе, а Еўдакія не паднялася з каленяў, не дакранулася ні да вады, ні да ежы, не адгукалася ні на адзін вокліч. Хрысціліся, калі пакідалі келлю, на яе гледзячы, мнішкі: як пакліча Ефрасінню да сябе гасподзь — і гэта за ёю пойдзе... Еўдакія ж і вокам услед не вяла: ці не бачыла, ці бачыла і не ўсведамляла, што бачыць,— перад вачамі стаяў спалатнелы твар непрытомнай сястры. Спакутаваны твар, які то пакрываўся кропелькамі поту — і тады Ефрасіння кідалася на пасцелі і з перасохлых, абсыпаных вогнікам губ яе зрываліся бязладныя словы, то, быццам абпалены балючым ірдзенем, застываў на падушцы — і тады адно павекі яе напружана ўздрыгвалі і з-пад іх, з-пад злепленых вейкаў, разбягаліся па твары ледзь бачныя зморшчынкі сутаргі, сутаргавага жадання Ефрасінні вырвацца з жару, з непрытомнасці. Часам здавалася, што яна нават вырывалася на некалькі імгненняў: павольна падымаліся, перамогшы дрыжанне, павекі, выбліскваў глыбокі, да чарнаты, пагляд яе і раз-другі спрабаваў зачапіцца за столь, за сцяну, што тут жа пачынала пахіствацца і хілілася ўсё ніжэй, узлятала насустрач сцяне рука і...

— Пі-іць...— выціскваўся, вырастаў са стогну яе шэпт, паўтараўся, і тушыў пагляд, і тушыў сам сябе, бо зноў пачыналася трызненне і гарачыя засмяглыя вусны адштурхвалі змочаны ў вадзе край ручніка.

Трэцяя ноч дагарала ў ёй, трэцяя — з той, наваль-

нічнай, адкуль вынес яе на руках каваль-магут, і ці то змогся нарэшце жар, ці то адступаўся — радзей кідалася Ефрасіння на пасцелі, перастала трызніць, яшчэ зрэдчас ранейшая, ледзь заўважная сутарга маршчыніла твар яе, а потым і твар аціх, разгладзіўся. Адно хваравіты ірдзень не пакідаў шчок і дыханне, хоць і не такое цяжкое, як раней, было гарачым. Змогшыся ад бяссоннага малення, услухвалася ў яе гарачае дыханне Еўдакія: пачуў усявышні яе малітвы! — па ўсім відаць, што палегчала сястры.

— Ідзі прыляж, сястра Еўдакія! — мовіла да яе маладая мнішка (не адразу сястру Маланню яна ў ёй прызнала).— Ідзі, я пасяджу каля хворай. Маліцца буду. Не засну...

— Не, не,— як спалохалася тая.— Я тут... Усявышні пачуў мае малітвы! Ідзі. Скажаш сястры Еўпраксіі, што сама набажэнства правіць буду перад трапезай.

Пакланілася тая нізка, у пояс, пайшла, нячутна дзверы за сабою прычыніла, хоць Еўдакія ў той жа момант, як адпусціла яе, забыла пра яе: не падымаючыся, дацягнулася да свечкі, узяла і, наблізіўшы да ложка, стала ўзірацца ў Ефрасінню. Тая дыхала раўней, і гэта крыху супакоіла. Паставіла падсвечнік. Пасунулася, не ўстаючы, бліжэй. Абаперлася на ложак і не заўважыла, не чула ўжо, як схілілася да ложка, да пасцілкі, цяжкая ад бяссоння галава...

Расплывалася, расплылося святло свечкі — растварылася, знікла ў ім сцяна, і не на сцяне, а ў самім паветры, іскрыстым, падсвечаным аднекуль знізу («А! Гэта ж я свечку на падлогу паставіла!»), вісеў абраз, і твар Святога Спаса быў не такі халодны і строгі, як звычайна. Які? Калі б Еўдакія не баялася тым узяць грэх на душу, падумала б, што твар яго падобны... Не, не! Ніхто са смяротных не мог прасачыць святога заступніка ні тварам, ні паставаю:

тут і думаць не было чаго! Схіліла галаў, малітоўным рухам паднесла руку да лба. Калі ж зноў падняла на абраз вочы — Спас-збавіцель, святы заступнік манастыра, усміхаўся. Ён усміхаўся! Ён усміхаўся ёй з абраза! — яна бачыла гэта так выразна, што магла б паклясціся ў тым імем ягоным. Магла — і не расшчапляла вуснаў, знямелая, здранцвелая.

— Дзе ж Прадслава, сястра твая? — мякка прагучаў глухі, трошкі раскацісты голас, хоць і ў яго, Спаса, вусны не варухнуліся.

«Імя Прадславы — Ефрасіння, ты ж не можаш не ведаць гэтага, святы заступнік. Яна — ігумення твайго манастыра»,— падумала, памкнулася адказаць Еўдакія, але адказ яе спазніўся, стаў непатрэбным: ні святога ў срэбным акладзе абраза, ні самога акладу нідзе не было. Паветра іскрыла ад мноства зорак, якія ляцелі, адусюль зляталіся да яе, Еўдакіі,— яна міжволі нават твар рукою, локцем прыкрыла ад іх халоднага бляску, і тут, з-за локця, убачыла, што зоркі — гэта не зоркі, а анёлы, мноства анёлаў, што кружыліся вакол, павольна набліжаючыся, усё шчытней акружаючы яе.

«Гэта — па мяне»,— чула яна, як пахаладзеў, халадзее лоб яе, прыкрыты нагалоўнікам, і ўсё ўзіралася, да рэзі ў вачах узіралася ў крылатыя постаці нябесных пасланцоў: сярод іх знаходзіўся той, што прыляцеў па яе...

— Дзе ж Прадслава, сястра твая? — перапыніў пошум крылаў той жа, што і раней, глухі, трошкі раскацісты голас.

— Я замест Прадславы! Я,— адгукнулася, выгукнула яму ўслед Еўдакія, раптам, тут жа, прыгадаўшы заліты жарам, спакутаваны твар сястры і зразумеўшы, што не абароніць, не заслоніць яе ад гэтага клічу, ад пошуму лёгкіх белых крылаў, ад халоднага іскрыстага ззяння, якое сыходзіла ад іх.— Я пайду за ёю — з ёю! — да канца, да цябе, госпадзі!

— Пайшлі! пайшлі! пайшлі! — зашапацела, пакацілася слова ад анёла да анёла, па крузе, і Еўдакія ступіла за ім. І тут жа згледзела наперадзе Ефрасінню: чорная сутана яе на вачах у Еўдакіі лiняла (пад ногі, кудысці ў прадонне, бо ступала сястра па самім паветры, сцякалі брудныя, цёмныя ручайкі фарбы), ліняла і станавілася белай, чыста-белай, як хітоны анёлаў. І ледзь толькі гэта адбылося, кола анёлаў распалася, рассыпалася, знікла — і блізка, рукой льга было дацягнуцца, і далей, дакуль пагляд дацягваўся, мігцелі зоркі, выцягваючыся ў ледзь заўважную зіхоткую сцежку.

— Што ж ты, Гардзіслава? Смялей! — азірнулася Ефрасіння з усмешкаю.

Усмешка яе нагадвала Еўдакіі тую, ранейшую, з абраза Спаса-збавіцеля. Яна, глыбока ўражаная, ужо збіралася сказаць Ефрасінні гэта, як заўважыла, што яны — не адны, што за два-тры крокі ад іх чакае... Праважаты, няйначай. Анёл. Адзін з тых і гэткі ж, як тыя, што разляцеліся, гэткі — і не гэткі: са звязанымі за спіною крыламі і з завязанымі вачыма.

— Што ж ты, Гардзіслава? Сказала, што пойдзеш за сястрою да канца, і злякалася?

— Еўдакія я, у манастыры,— нерашуча запярэчыла тая, хоць каму запярэчыла, не сказала б: пытаўся нібыта гэты, з завязанымі вачыма (бо вось жа і голаў злёгку павярнуў), а вусны яго, між тым, былі моцна сцяты, як склееныя.

— Тут жа — не манастыр з яго цёмнымі сырымі скляпеннямі, куды вы, як мышы...

— Як мышы?..— тузанулася счырванелая ад крыўды Еўдакія, але мякка ўтрымала яе абурэнне, і яе рух, Ефрасінніна рука. Перш — рука, потым — шэпт:

— Не адказвай: гэта выпрабаванне... Што б ні пачулі, што б ні ўбачылі пад нагамі, трэба маўчаць, трэба

моўчкі ісці за ім, калі мы хочам пастукацца ў браму гасподнюю.

— Куды вы, як мышы ў норы, пазашываліся,— працягваў той ужо на хаду, прапусціўшы паўз вушы іх перамовы.— Пазашываліся, а самі нябось толькі і думаеце пра тое, ад чаго адмовіліся: спакусу гасподзь кожнаму пакідае, балазе, ім не пакора, а пакута цэніцца. Пакорнаму — душа без патрэбы! У пакоры і ў спакоі заўсёдным душа хутка тлушчам зарастае, а чалавек грэшным створаны — для пакуты і каяння: саграшы — і пакайся, ушчыкні ад спакусы — і пакутуй, пакутамі душу ачышчай, адно тым і любы госпаду будзеш. Вось вы, я чуў, разважалі пра жыццё праведнае, якое адно толькі і здольнае стаць прыкладам, збудзіць у душах прагу ачышчэння, а хіба жыццё Хрыста — не такі прыклад? Хіба Хрыстос не вучыў і не вучыць кожнага ачышчацца вераю сваёю? А зірніце ўніз!

З жахам, які ледзяніў душу, зірнула пад ногі Еўдакія і як прырасла да ўбачанага. Спярша здалося, што перад вачыма — аграмадны кавалак крывёй акропленага мяса: гэты крывавы, крывава-чорны камяк варушыўся, дыхаў, жыў, і калі яна пачала ўглядацца больш пільна, то стала заўважаць у гэтым камяку, у гэтым жывым клубку, звітым з чарвякоў і гадаў, і хвалістыя азёры ў выпучаных зрэнках вялізных яшчарак, ці яшчураў, і падобных на быкоў жывёлін-волатаў з гняздоўямі дзіўных, ніколі не бачаных птушак у густой поўсці, і перавітыя жывымі вяроўкамі і паваленымі лясінамі зараснікі, у якіх хавалася звяр'ё, і падобныя на мурашнікі, сыпкія ўзлобкі, дзе кожная малая пясчынка была ці то мошкай, ці то мухай, ці то матылём... У гэтым месіве не было месца чалавеку. Пэўна ж, не было. Ды і не мог той, каму гасподзь дараваў свой воблік і слова сваё, у каго з душой удыхнуў спадзяванне на новыя часы, асветленыя яго, чалавечым, розумам, нароўні з гадамі і звярамі, мурашамі і пта-

хамі рвацца, вырывацца з крывавага клубка, топчучы, нішчачы адзін аднаго, не мог!

А вачам адкрывалася новае відовішча: страшнае месіва, не распадаючыся — мяняючыся і шырэючы, расло, раздавалася ўшыркі, і хутка ў цэнтры клубка сталі відаць пячоры, хаткі, збудаванні — людскія гняздоўі, прылепленыя то да гары, то да лесу, то да рачнога берага, і сярод іх ручаіліся, то сплятаючыся ў адзін вялізны натоўп, то распадаючыся на меншыя купкі, людзі.

— Усявышні стварыў зямлю і ўсё жывое на ёй, каб тыя, каго ён назваў на зямлі людзьмі, стваралі і стварылі бога ў сабе. Няхай нават кожны свайго ўласнага бога, але — у сабе і для сябе. Каб не зжыць сябе, упадобіўшыся чарвяку і гаду, зверу ці драпежнай птушцы. Каб не забыць пра жывую душу сваю. Што ж да веры, да розных вераванняў і вучэнняў,— яны, як вядома, узнікаюць і знікаюць. Але застаюцца храмы, абразы, кнігі, створаныя, адухоўленыя верай, вучэннямі і вераваннямі. Але шырэюць прасцягі чалавечай душы і доўжыцца шлях веры. І тым ужо апраўданы будуць перад усявышнім усе памылкі і памылковыя погляды. Гэта ж,— анёл (мо гэта быў не анёл?) павёў галавою ўніз, быццам і з-за навязу на вачах бачыў там, пад нагамі, усё, што і яна, Еўдакія,— тое, што вы называеце пеклам, а я — жыццём. Бо няма такой нары, у якой звер не пабываў, няма такога дрэва, на якое птушка не садзілася. І першы чалавек граху не мінуў, і апошні яго не пазбудзецца.

«Што ён гэткае мовіць?! Куды вядзе, гэткімі словамі шлях над прадоннем мосцячы?» — выцірала лоб Еўдакія, марна спрабуючы пераадолець ледзяны жах свой і не адстаць ад Ефрасінні, якая лёгка, з палкаю верай у правільнасць, у праведнасць шляху ішла за гаваркім праважатым, за яго бунтоўнымі словамі, ішла і не азіралася, не азірнулася на яе больш ніводнага разу.

Пазіраць на ўсё, што адкрывалася вачам яе з новым кожным крокам, сілы ў Еўдакіі не было. Не ставала... Яна, адстаючы ўсё больш, хацела гукнуць, пагукаць Ефрасінню — гукала! — а губы як прыстылі адна да аднае.

— Вось вы служэнне богу выбралі, а таго не адчуваеце, што богу не служыць трэба, трэба ў богу жыць, стварыўшы, штодня ствараючы яго ў сабе, у душы сваёй. У тым і віна ваша.

— Якая віна?! — выціснула, выпіхнула яна з горла крык і тут жа заўважыла, што засталася далёка ззаду, быццам адкінутая, адпіхнутая назад гэтым крыкам сваім, гэтым пытаннем,— назад і ўніз, бо калі зірнула пад ногі, то ўбачыла, што крывавы, крывава-чорны клубок пад нагамі расце, набліжаецца, уцягвае яе...

— Спакусу гасподзь кожнаму пакідае, балазе ім не пакора цэніцца, а пакута,— засмяяўся словамі голас аднекуль здалёк, і голас гэты нагадаў голас Ефрасінні.

— Ефрасіння! — загукала, чапляючыся за яго, за смех гэты жудасны, Еўдакія.— Сяс-тра-а!

Ефрасіння пазірала на яе, зляканую тым, што звідзілася ёй у сне, у страшным сне гэтым,— пазірала з непрыхаваным жалем, і Еўдакіі на міг, спрасоння, здалося, што яна, Ефрасіння, напраўду была там, у сне,— прысутнічала, што мо і не сон то быў, не прывід... Перахрысцілася, змежыўшы павекі. Уздыхнула, падымаючыся.

— Ідзі, Еўдакія,— нячутна мовіла да яе Ефрасіння.— Сама пабыць хачу. Сама, адна з госпадам гаварыць буду.

— Адзін?

— Ты кагосьці шукаеш? — прапусціў Барыса ў калідор і, зачыніўшы дзверы, падаў яму руку Глеб.— Апроч сябе, ашалелага ад вучоных вымудраў і далей-

шых даследаванняў іх, нікога прапанаваць не магу. Так што...

Засмяяліся. Хутчэй ад палёгкі, так, як звычайна ўздыхаюць. Цеоануліся адзін аб аднаго плячом. Зазірнулі адзін аднаму ў вочы.

— Мо што здарылася, Барыс? — мільганула і знікла трывога: Барыс усміхаўся.— Трымаю цябе ў парозе...

— О-о-о! Гэта ўжо штосьці з нашай оперы,— ступіў у пакой, завалены кнігамі, паперамі, планшэтамі, нацягнутымі паперай і там-сям змаляванымі вугалем ці тушшу.— Ты, я бачу, узяўся за работу сур'ёзна.

— Ды не ўзяўся. Толькі падступаюся, пакуль што адно ваюю з прывідамі.

— З прывідамі? — перабіраў паглядам планшэты, малюнкі на іх Барыс, потым, зацікаўлены, ступіў бліжэй да іх і, як забыўшыся на брата, стаў узірацца больш пільна і ў кожны асобны малюнак. Падоўгу. Часам браў планшэт у рукі.

Глеб цікаваў за ім збоку — засунуўшы рукі ў кішэні, злёгку абапіраўся плечуком аб кніжную паліцу і чакаў. Спачатку нават спрабаваў па рухах таго як не зразумець, то ўгадаць думкі яго, але хутка адмовіўся ад свайго намеру: Барыс аднолькава ўважліва разглядаў і ўзноўлены па кніжных апісаннях манастырскі двор, і некалькі варыянтаў паганскага шабашу, гульбішча, закручанага, скручанага ў жывы, рухомы жгут васьмі вогнішчаў, і цень Сафійскага сабора на пляцу, у які ўціскалася маленькая, скурчаная постаць шалёніцы Еўкі ў брудных рызманах, і дзесяткі крыжоў і крыжыкаў, насценных і нагрудных, і сцяну мнішак, чарніц, на цёмным фоне якой вылучаўся тонкі, адухоўлены твар ігуменні. Партрэтаў Ефрасінні, самых розных — ад аднаго твару да броў закрытага чорным нагалоўнікам і цьмяна асветленага свечкай, на якім жылі толькі аграмадныя, жарам кранутыя вочы, да постаці яе, быц-

цам выбітай, выціснутай на гарадской бярвенчатай сцяне — было шмат, часам пяць-шэсць на адным аркушы, на адным планшэце. Аловак, ці вугаль, калі Глеб спрабаваў уявіць далёкія падзеі, далёкія часы, пакідаў на паперы воблікі самыя розныя, мажліва, падобныя толькі ў адным, у адным і галоўным: за кожным з іх угадваўся моцны, горды характар, нязломны ў сваёй гордасці.

— Гэта цікава, Глеб,— пайшоў за другім разам паўз планшэты Барыс.— Я нават не думаў...

— Не думаў, што можна ўхапіць якія-ніякія рысы, рыскі мінулага графічнай мовай? Яшчэ як можна! Не атрымліваецца, праўда, пакуль што. Гэта ўсё так — эскізнае, на ўзроўні спробы, крэмзанне.

Глеб адштурхнуўся плечуком ад паліцы і ступіў да століка, закладзенага кнігамі і скрэмзанымі тушшу аркушамі ватману. Згарнуў аркушы ў стос, апусціўся ў крэсла.

— Сядай,— прапанаваў і, заўважыўшы, што Барыс зноў надоўга прыліп да малюнкаў, паўтарыў больш настойліва і нецярпліва.— Сядай, сядай! Гэта ўсё не тое. Не зусім тое. Больш па звычцы маляваў: скрозь жа — ледзь пачынаю разважаць, думаць — рука сама цягнецца да алоўка ці вугалю і штосьці там крэмзае, штрыхуе... Калі што атрымаецца ў выніку — пакажу!

— Атрымаецца, Глеб. Ты ведаеш, атрымаецца! — азіраючыся на планшэты ля сцяны, уладкоўваўся ў крэсле насупраць Барыс.— Штосьці вельмі важнае ты ўжо зачапіў. Мне цяжка вызначыць што, але гэта і мяне, гісторыка, чапляе. Чапляе, ведаеш! Настрой... Ці мо разлітая ў чорным — чорным па чорным! — напружаная цішыня. Быццам яны, тыя, моўчкі ўзіраюцца ў нас сённяшніх.

— Перабольшваеш, Барыс, пэўна ж, перабольшваеш. Хоць я рады, што ты не застаўся абыякавым, але пра зваротную сувязь гаварыць рана: шукаць і шу-

каць мне яшчэ, пакуль знайду, пакуль здолею перадаць іх твары, іх галасы.

— Канечне, канечне! Тут чыста інтуітыўнае, Глеб. Так часам бывае, калі я ўпершыню трымаю ў руках археалагічную знаходку, яшчэ нікім не апісаную, яшчэ не датаваную, але хвалююча далёкую, далёкасцю, старажытнасцю каштоўную: раптам жыва ўяўляю таго, хто валодаў рэччу, хто яе вырабляў. Рысы невыразныя, размытыя і расплываюцца, але эфект прысутнасці — поўны. Ага...

Перабіраючы змаляваныя аркушы, Барыс гаварыў усё павольней і ўрэшце канчаткова змоўк. Маўчаў нейкі час і Глеб, крануты не столькі словамі яго, колькі ўвагаю да малюнкаў, эскізных замалёвак яго, да пошуку, які нагадваў хутчэй зацятую барацьбу — барацьбу з сабою і сваімі звыклымі ўяўленнямі пра даўніну як пра штосьці калі і неперабытае кімсьці, дык такое далёкае, што і дачынення да яго, сённешняга мастака, не мела.

— Анёл? А чаму з завязанымі вачамі? — падняў позірк Барыс. Зручней, каб льга было бачыць усе чатыры, раскладваючы апошнія, ніжнія ў стосе малюнкі.— І крылы звязаны... Анёл смерці? Але ж я ведаю зусім іншую легенду.

— Якую? — адразу ж насцярожыўся Глеб.

— Даволі вядомую. Па гэтай легендзе анёл смерці якраз мае не адну пару вачэй — вочы ў яго па ўсім целе! І калі, пасланы па чыюсьці душу, ён спазняецца: ці то заглядзіцца на што па дарозе, ці то, шкадуючы якога гаротніка, асуджанага на доўгія мукі, крылом астудзіць чало яго, ці то, трапіўшы на зямлю, не адразу знойдзе таго, хто быў ягоным па праву. Спазніўшыся ж, права гэта губляў — і чалавек заставаўся жыць, і жыў з мецінаю. З мецінаю, якую пакідаў на ім анёл.

— З мецінаю смяротніка?

— Ну-у, Глеб! Якая меціна смяротніка ў нашым смяротным свеце? Усе мы смяротнікі... Не, знак, які пакідаў анёл смерці ў выпадку сваёй няўдачы, па словах легенды, чароўны: яшчэ адна пара вачэй — нябачныя звонку вочы, што адразу мяняюць чалавека.

— Ён становіцца ўсевідушчым.

— Слова «усевідушчы» легенда не скарыстоўвае,— усміхаўся на ўзрушанасць брата Барыс.— Але чалавек, мечаны гэтаю параю вачэй, імкнецца бачыць і бачыць патаемнае, схаванае ад звычайнага позірка.

— І гэта можа быць мастак.

— І гэта абавязкова мастак,— прыкрыў далонямі малюнкі Барыс.— Як я цябе?

— Як? — зіркаў то на яго далоні і тое, што льга было ўгледзець на змаляваных аркушах праз шырока растапыраныя пальцы, то на адзін з планшэтаў з выяваю Ефрасінні Глеб.— А гэта ў мяне — не анёл смерці. Наогул, не анёл!

— Хто ж гэта? Сама смерць? Каханне? Ці мо гісторыя?

— Лёс.

— Лёс? Так проста? — Барыс яшчэ раз па адным перабраў малюнкі, прыгаворваючы штораз: «Канечне! канечне!», потым рашуча адклаў іх убок.— Лёс можа пацягацца з самою смерцю, а?

— Я думаў якраз пра гэта.

— Слухай, Глебка, а пра кнігу ты не думаў?

— Пра кнігу? Пра чыю?

— Пра сваю, дзівак. Сцэнарый, яно мо і грашавіцей, але ж кніга...

— Не думаў, Барыс! — перапыніў ён ужо захопленага ідэяю брата і, заўважыўшы, што той нават злёгку пакрыўдзіўся, крануўся яго рукі. І як мага мякчэй, быццам перапрашаў за рэзкасць, дадаў: — Я яшчэ свайго месца ва ўсім гэтым не бачу. Не знаходзіцца...

— Месца? Чаму абавязкова трэба шукаць месца?

Можа, ты папросту мечаны, Глебка? Прызваны! Вось і рабі тое, да чаго прызваны.

— Кі-ім прызваны? Кім, Барыс?

— Ну, не ведаю, як ён сёння называецца, каторы богам зваўся...

— Лёс?

Засмяяліся абодва разам. Раптоўна знікла напружанасць, якая ўзнікае заўсёды, і паміж самымі блізкімі людзьмі, калі паміж імі ўстае штосьці раней незнаёмае ў адным з іх — на хвіліну-другую, пакуль не знаходзіцца вытлумачэнне, пакуль не з'яўляецца адчуванне, што і гэта, новае, незнаёмае, караніцца ў звыклым, знаёмым, льга толькі было больш уважліва прыгледзецца.

— Сумненняў багата, рвуць яны мяне на часткі, Барыс, часам пачынаю думаць, што зарана ўзяўся за такую працу.

— Рана — нічога, горш, калі позна душа спахопіцца,— пасур'ёзнеў той.— Цікава ж працуеш, калі меркаваць па замалёўках!

— Усё думаецца, што не над тым працую... Разумееш, хацелася ж — хочацца! — далёкі час наблізіць, свае карэньчыкі ў тым часе намацаць. А бяруся будаваць, хапаюся за аловак — атрымліваецца ўсё не так, не тое. Знікае гістарычны фон. Чалавек, характар яго, і лёс яго паглынаюць усё, а і чалавек жа, і характар яго, і лёс яго — уяўленыя, мной уяўленыя! Разумееш?

— Не так, каб вельмі, Глеб: калі зірнуць на малюнкі...

— А пачынаю жыць страсцямі сваіх герояў, ці не... Не, не так! Сваё — свае страсці ўдыхаю ў іх, далёкіх, у іх — вялікіх, нягледзячы на стагоддзі, якія прамінулі. Турбавала і турбуе адно, а ўяўленне малюе другое.

— Чакай, чакай Глеб! — не даў яму адмахнуцца ад гаворкі Барыс.— Давай паспрабуем разабрацца. Я разумею: мне, вучонаму, каб зрабіць навуковае абгрун-

таванне гістарычнага перыяду ці асобнай падзеі ў гісторыі, патрэбны абсалютна дакладныя факты, абсалютна дакладныя доказы. Мастаку ж, якога лаціняне называлі ажывіцелем (дакладны пераклад слова, дарэчы!), патрэбныя душэўная, духоўная сіла і ўяўленне, каб ажывіць мёртвае, вярнуць рух даўно скамянеламу, агучыць словам ці пачуццём застылае, скаванае шматвекавой нематой. Мо я штосьці не так разумею?

— Усё так, Барыс. Толькі...

— Што толькі?

— Толькі я баюся, што не той ход выбраў, не ў тым кірунку іду. Думалася увесь час, што важна, важней ад усяго капануць як мага глыбей і знайсці глебу, з якой рос, расце дзень сённяшні, знайсці карані яго там, у мінулым. Ну, не карані, дык хоць бы сляды повязі, повязі між гэтым днём і тым, далёкім, між сабой і мінулым. А яны — тыя, хто імкнецца стаць маімі героямі,— не хочуць быць проста знакамі, сімваламі, хоць бы і часу. Больш таго — не хочуць быць проста папярэднікамі, разумееш? Не хочуць — і працівяцца. І пачынаюць жыць, рухацца па сваёй волі, умешвацца ў тое, што малюе маё ўяўленне, дыктаваць. Так, так, дыктаваць! Часам я адчуваю іх гнёт, іх дыктат і недаўменна азіраюся на сябе... Падобна на тое, што захварэў, а?

— Падобна на тое, што ты знайшоў сваё прызванне,— не прыняў Барыс жарт, за якім Глеб паспрабаваў схаваць усё толькі што сказанае.— Я не памыліўся, калі памянуў кнігу.

— Не, ну што ты,— адмахнуўся той.— Пасля гістарычных раманаў Ляховіча...

— Марна думаеш, што Ляховіча не тузаюць сумненні: было і ён скардзіўся. Угу. Не так гэта лёгка, аддаць сваю душу ў іншага, мёртвага ўдыхнуць.

— У мёртвага? Ну якая ж мёртвая — Ефрасіння Полацкая?!

— Во, во, во! — заўсміхаўся Барыс, згледзеўшы, як ён счырванеў.— А яшчэ пярэчыш, калі старэйшыя гавораць, яшчэ адбіваешся.

— Ты не зразумеў, Барыс.

— Я зразумеў адно: ты адкрыў у сабе здольнасць ажыўляць — не рэплікі табе або рэжысёру патрэбныя па ходу прыдумваць, а ажыўляць герояў — і злякаўся. І дарэмна, Глеб. Павер мне, брату твайму, які сёння перад тваімі малюнкамі табе пазайздросціў, што зусім дарэмна. Радавацца трэба!

Барыс падхапіўся з крэсла, пацягнуў Глеба за руку.

— Ды ты зірні! Паспрабуй зірнуць на свае малюнкі маімі вачыма! Мяне ж і зачапіла тое, што яны — жывыя.

Паслухмяна пераступаючы з нагі на нагу, рухаўся Глеб следам за братам паўз расстаўленыя ўздоўж сцяны планшэты і хоць пазіраў на малюнкі, бачыў, уяўляў зусім іншае — залатую візантыйскую смальту цэнтральнай мазаікі Сафійскага сабора ў Кіеве, гэтага цуду старажытнасці, створанага рукамі продкаў. Быццам не па прыступках памяці, а па каменных плітах Сафіі ступаў, разглядваючы бягі на іпадроме, скокі скамарохаў пад ігру дудароў, сцэны кулачнага бою і барацьбы са зверам — маляўнічы летапіс святочных відовішчаў, разгорнуты на сценах стромых вежавых лесвіц, якія вядуць на хоры славутага сабора...

— Табе не здаецца, што ў маёй Ефрасінні Полацкай мамін твар?

## XXXI

Ефрасіння не магла ўжо абысціся без гэтых самотных хвілін ва ўладзе цішыні, балюча-жывой, буйназялёнай цішыні тут, над апошнім людскім прыстанішчам, куды штораніцы вяла яе цераз поле пакручастая сцежка. Сцежка памяці. Памяці не адно пра Івана,

хоць да яго, да яго, да ягонай магілы, спяшался яна, ледзьве ўправіцца па дому,— памяці пра ўсіх, хто тут пахаваны, пры ёй ці задоўга да яе, пра ўсіх, хто некалі жыў, шчыруючы, як і яна, Ефрасіння, ля сваёй справы, у сваім лёсе. Тут, у Сінчы, жыў, ці недзе далей, паўночней — на Полаччыне, дзе ўвесь род яе спачывае ў зямлі, там, куды каго раскідала вайна, смерць...

Кажуць, чалавек жыве, пакуль жыве па ім памяць, і згадваючы словы, што гучалі, як запаведзь, Ефрасіння заўсёды згодна ківала галавою: жывы, пакуль памяць жывая. І тут жа думала, што пагаджаецца адно ў пошуку суцяшэння. Бо і ёй жа паміраць. Бо і ёй жа спадзявацца няма на што — адно на памяць дзяцей, сыноў сваіх.

Тут, над Іванавай магілаю, яшчэ не парослай травою і таму падобнай на незагоеную, прысыпаную талькам вечнасці рану, зямную рану, якая крываточыла ў жаночым сэрцы, Ефрасіння згадвала сыноў рэдка: ім, маладым, гаманіць з мёртвымі было б нядобра. Рана. Тая апошняя далячынь, якая паглынае ўсіх, якая і іх некалі паглыне, ім, як ёй, маці іхняй, яшчэ не ўбачыцца, а без гэтага і спакой на душу не сыдзе, і страх перад невядомым, замежавым, не адступіцца. Без душэўнага ж спакою, у страху перад вечнаю цішынёю, якая ўсё пératворыць, ператварае ў прах, ні згадка, ні слова ў чалавеку не зварухнуцца: патопчацца ён ля магіл, кранецца, а то і не кранецца рукою цёплага грудка — і ўжо спяшаецца прэч, у жыццё, у тлум жыццёвы, напужаны і цішынёю і страхам.

Папраўліла магілу, край яе, які абсыпаўся, ледзь ступіла, задумаўшыся, крыху бліжэй, шчытней. Разгінаючыся, зачапілася паглядам за часова пастаўлены помнік — драўляную, бронзай пафарбаваную пірамідку, міжволі падумала, што драўляны крыж спакон веку ўспрымаўся як сімвал веры, як сімвал мукі Хрыстовай. Мо таму, што большыя мукі паўсюдна зведалі

людзі з таго часу, а мо і не таму. Бо вось жа дакопваецца, няйначай, Барыска яе, да бог ведама якіх стагоддзяў і не адно тлен там знаходзіць, а і сляды чалавека, жыцця ягонага. Бо вось жа лётаюць ужо бог ведае ў якія вышыні, узіраючыся адтуль у зямлю, як у гняздоўе поўным-паўнюткае: то канца свету не было, а то цэлы свет адным маленькім гняздоўем убачыўся... А ўжо ж, далячынь усё набліжае.

Прыгадалася раптам, як Іван, абняўшы яе за плечы, расказваў пра зоркі. Пра адну з іх, нябачную, якая хадзіла за ёй, Ефрасінняю, нарадзіўшыся ў адзін дзень з ёю, узышоўшы над калыскаю яе, над лёсам яе. Казка, вядома, а прыгожая казка! І расказваў Іван гэту казку заўсёды ціха, ледзь не шэптам, скараючыся яе таямнічасці,— Ефрасіння і верыла і не верыла. Любавалася тварам Іванавым, паслухмяна адводзіла вочы і ўглядвалася ў зрашэчанае зоркамі неба, нібыта і ўзапраўду шукала сярод іх тую, сваю, і чула, як спявае штосьці ў грудзях: сэрца — не сэрца, радасць, не радасць... Пэўна ж, не зорка была прычынаю, а словы Івана, рукі яго, што лашчылі, сагравалі плечы, а і зорцы, нябачнай, мо і не запаленай ніколі, была яна, Ефрасіння, удзячна за тыя хвіліны шчырасці.

Шчасліваю пражыла за Іванам — і цяпер яна гэтак думала і заўсёды. Што б ні здарылася. Што б там хто ні казаў. Бо не ў тым шчасце, што гора абміне, а ў тым, што гора свету белага не засціць. У кожнага за жыццё і горкіх хвілін нямала набярэцца і святлейшых, светлых,— гэта ўжо хто што бачыць, хто што помніць. Яна, Ефрасіння, і ў самыя горкія хвіліны помніла іншыя — асветленыя Іванаваю ўсмешкаю, Іванавым каханнем: што заўгодна ён мог вытварыць, вымудрыць, дзе заўгодна збочыць на кліч прыгожых жаночых вачэй, а кахаў — яе, да яе нёс павінную галаву, каб тут жа, ледзь павініўшыся, адарыць. І казкаю і ласкаю адорыць, так, як ніхто, як толькі ён,

Іван, умеў. Было, слёзы глытала, а да яго душою цягнулася. Дзе сёння тыя слёзы? А на душы і ад згадкі святлее...

Хтосьці крануў яе за плячо. Абярнулася, не здзівіўшыся: у светлым парусінавым брылі, які чапляўся адно за макаўку, і ў гэткім жа парусінавым пінжаку паверх цёмнай кашулі побач стаяў Пятровіч. Стаяў і смешна жмурыўся на кожны ўздых ветрыка, што прыўздымаў, зрушваў галіны пасаджанай Глебам бярозы, прыўздымаў зыркімі сонечнымі промнямі, каб асляпіць яго і яе, Ефрасінню. І асляпляў. На міг-другі. Змусіўшы іх адвярнуцца.

— Гукнуў здалёк — ты не пачула. Вось і падышоў.

— Да сваіх прыходзіў?

— Да сваіх.

Словы не ішлі. Гаворка згасла, не пачаўшыся. Стала чуваць, як шэпчацца маладое лісцейка на бярозе. «Быццам пясок перасыпаецца, бруіцца ў былое, у перажытае»,— мільганула раптам, і Ефрасіння злякалася гэтай надарэчнай думкі, заспяшалася.

— Пойдзем, Пятровіч. Не тут гаманіць, не ў такую хвіліну.

Азірнулася на грудок, быццам развіталася, і пайшла паперадзе вінавата прымоўклага Пятровіча да брамы, насустрач усходу сонца, насустрач раніцы, якая чакала яе. Здэцца, і нетаропка ішла, а ён (з вайны цягнуў правую нагу) адставаў, адстаў, і Ефрасіння, ужо добра адышоўшыся ад могільніка, запынілася. Стала ўслухвацца ў цяжкія мужчынскія крокі ззаду, а чула, як чыста, радасна ўздымаецца над ёю, над раніцай, цішыня і недзе ў самай вышыні, у дрогкім блакіце, звініць жаўрук.

— Чуеш? — спытала, не паварочваючыся.

Ён не адказаў. Спыніўся. Слухаў.

— Як званочак!

— У вайну, помню, самалёт загарэўся — падбілі

над лініяй фронту,— азваўся Пятровіч,— выскокваць трэба: не дацягнуў. А я ўсё змагчы сябе, здранцвенне сваё не магу: самы ж раз на галаву немцам апусцішся... Скончыў. Стрэлаў з-за шалёных удараў сэрца не чую. Чмякнуўся аб зямлю — жывы. І ціха-ціха вакол, ажно не верыцца. Мо аглушыла, думаю, мо не помню сябе. І тут — жаўрук, песня ягоная... Зусім як цяпер, над самай галавою...

— Як званочак! — паўтарыла Ефрасіння, змушаючы і не змусіўшы сябе азірнуцца ў гэты момант на Пятровіча.

— Ды ўжо ж! — уздыхнуў ён.— Пачуў я яго тады і — не паверыш, Ефрасіння! — пра несмяротнасць падумаў. Пра несмяротнасць жывога. І мяне і любога забіць, умярцвіць льга было, а жыццё — не. Дудкі! Нават тады, у пекле тым, ні гусеніцамі танкаў яго было не раздушыць, ні бомбамі не засыпаць, ні з хатамі, а то і з цэлымі вёскамі разам не спаліць... Часта потым гэта думка вярталася. Мо таму, што лягчэй было, думаючы пра жывое, смерці ў вочы глядзець, а?

— Пойдзем паціху, Пятровіч.

— Да, да!

— Тое, далёкае, згадваць цяжка,— тут жа павінілася ў тым, што не адказала, і прапусціла яго наперад Ефрасіння, калі ж ён не адышоўся, пайшоў поруч, упобачкі, падкамечваючы росную траву, ледзь заўважна нахмурылася: да сваіх прыходзіў, а, пэўна ж, прасачыў яе, Ефрасінніну, сцежку, што ў гэткую рань неспадзявана сустрэўся.— Усяго ў вайну было. Ды каб жа адно ў вайну! І блізкае згадаеш — душа як сама не свая. Добра, што жаўрука не адганяе...

— Ты гэта... Ты, Ефрасіння...

Яна насцярожылася. Нават убок падалася міжволі.

— Ты прабач, што змаўчаў на праўленні. Каторы дзень грызу сябе. Франтавік, сукін кот, а выйшла, што тылавой крысы злякаўся, асцярогі паслухаўся.

— А, бо! — адмахнулася яна ад яго слоў, узрадаваная, што памылілася, чакаючы іншага, непрыемнага павароту гаворкі.— А то скажы ты што тады ў падтрымку, адразу памянялася б нешта.

— Памяняцца мо б і не памянялася, але ж і змаўчаць — не ўчынак.

— Маўчалі задоўга. Звыкліся.

Колькі часу ішлі моўчкі. Ефрасіння, прынараўліваючыся да ягонай хады, ступала няспешна, касілася зрэдчас на сонца, што гэтак жа няспешна ўставала з-за лесу і здавалася няяркім, заспаным, і думала пра Пятровіча, пра яго няскладнае жыццё. Вось жа і жонку меў красуню, а не склалася нешта, відаць: піла яго Волька, да самага смяротнага часу ад чаркі не адвярнулася. І сын (адзінага сына і нажылі!) пайшоў за ёю, і трыццаці год не дабраўшы: непрыкаяным, адасобленым нейкім быў, і ад бацькі і ад аднавяскоўцаў адасоблены. І загінуў не ў вёсцы, пад цягнік на станцыі трапіўшы. Як ужо Пятровіч ні трымаўся, а здаваць пасля на вачах пачаў. Ссівеў. Плечы апусціліся. Нагу, быццам ношаю непасільнаю прыгнечаны, мацней цягнуў.

— Не чуеш, Ефрасіння, а я кажу: мяняць усё трэба, твая праўда. Хоць і тое, відаць, праўда, што не мы з табой мяняць будзем. А?

— Не мы? А хто, Пятровіч?

— Хто маладзейшы.

— Ой, баюся, як бы наша на нас не скончылася!

— Ты гэта... Ты, Ефрасіння...

— Ды ідзі ты па сцежцы, што ты блытаешся ў мокрай траве? Вунь ужо калашыны да каленяў мокрыя,— раптам засердзілася Ефрасіння і на яго і на сябе — усе скрозь усё разумеюць, а як да гаворкі ці, не кажучы, да справы дойдзе, топчуцца на адным: вы, мы, яны...— Само жыццё не памяняецца, Пятровіч. Ні цяпер, ні пасля. Вось што ніхто ўразумець не хоча. І высыхаюць,

рвуцца якіясь карэньчыкі, не адно дзяцей нашых карэньчыкі, а і нашы.

Згорблены, ці то ад слоў, ці то ад думак, пацяжэлых, балючых, цяжка ступаў паперадзе старшыня, паслухмяна перайшоўшы на сцежку, і Ефрасінні стала шкада яго: ціха, непрыкметна састарэў Пятровіч ля сваіх болек, а быў жа некалі — гвардзеец, волат! І ля яе, Ефрасінні, пахаджваў — грудзіна як жорны хадзіла...

«Во прыгадала!» — засаромелася згадкі і, каб адагнаць яе, зноў пакасілася на аграмадны шар сонца, правей, цераз поле, як сама, дык ужо дабегла б, сонца абагнаўшы...

— Прасіцца хачу з пасады.

Яна не зразумела. Падумала, што не дачула чаго і перапытала:

— Ты нешта казаў, Пятровіч?

— Кажу, прасіцца хачу з пасады. Будзе!

— Што — будзе? — дагнала яго і цяпер сама ступала па мокрай траве Ефрасіння.— Што гэта будзе, як мы ўсе схочам напрацаванае за гэтулькі год разам атрымаць і на спакой, да спакойнай жыткі падацца? І нам жа ўжо гады: Насці, мне, Марфе, Галене... Ці мо думаеш, нам лягчэй?

— Гарачая ты дужа, Ефрасіння. Скрозь аб цябе апякаўся, і зараз во...— спыніўся і рэзка, зачапіўшы яе плячом, павярнуўся Пятровіч і тут жа, вочы ў вочы ахалануў, астыў і дадаў цішэй: — Ды зразумей ты, што назад ужо нічога не вернеш. Не павярнуць мне. На старое не выйдзе. Не пойдзе. Трэба карэнным чынам адносіны да калгасаў, да калгасніка мяняць, каб моладзь тут, на зямлі бацькоў, справу сабе знайшла і па ёй, па справе, пашану. Тут сродкі трэба новыя, і рашэнні новыя.

— А людзі? Людзі тыя ж застануцца. Іншых ніадкуль не возьмеш.

— Ну, дык і людзі, калі будуць новыя рашэнні...

— Калі будуць! Агаворваешся, а не дагаворваеш. Дык слухай, што я табе, старшыня, скажу! Колькі жывём, столькі рашэнняў нейкіх чакаем, добрых, кепскіх — абы не самім галавой раскінуць. А калі што без патрэбы чалавеку, дык нашто яно яму? Ужо не адно рабіць, як чорны вол, а і разважаць па-гаспадарску, падумаць, як, ці так жывём, ні малой, ні вялікай ахвоты няма. Гады, дзесяцігоддзі на гэта пайшлі... Адно рашэннямі, хай і надта разумнымі, цяпер чалавека не зменіш. Гэткае маё разуменне. Ты ж... ты павінен ведаць гэта лепш за мяне.

— Не майго гэта розуму справа. Думаць думаю, а нічога не мыслю. Не будзе новых рашэнняў, то і...

— Цьфу ты, госпадзі! Франтавік, мужык, які гадамі, што валунамі, варочаць мог, а туды ж — запапугаіўся, далдоніш адно і тое,— зазлавала Ефрасіння і, шмаргануўшы на галаве паркалёўку, быццам яна перашкаджала ёй, рашуча пайшла ў бок вёскі.

— Быў конь, да з'ездзіўся,— дагнала яе ўжо са спіны, і яна не азірнулася, не запаволіла крокаў: пагаманілі! нагаманіліся!

Няроўнымі штуршкамі білася ў грудзях сэрца, і Ефрасінні здавалася, што гэтыя штуршкі ідуць ад зямлі, аднекуль з глыбіні яе, цёмнай і таямнічай, з глыбіні, якая ўцягвала, уцягвае, і спатыкніся Ефрасіння зараз ненарокам — упадзе не на сцежку, не на росны пырнік, а ў гэтую глыбокую, таямнічую чарнату. Каб не спатыкнуцца, не ўпасці, яна чаплялася паглядам за блізкія гароды і дымок над комінам крайняй, Марфінай, хаты, за палоску неба над вёскай, яркую і шырокую, на ўвесь пагляд, за сонца, што ледзь не ўпобачкі з ёю спяшалася ў раніцу.

## XXXII

Раніца — сонца ў паўнеба! — зазірнула ў акно бессаромна рана: змучаная бяссонніцаю, распатланая Вера ўціскалася тварам у падушку і адчувала, скурай чула, як палаюць вакол галавы падпаленыя сонцам валасы. «Рана! рана! рана!» — білася ў ёй адно і тое ж слова, і яго няўцямная двухсэнсовасць гняла яе, не давала расплюшчыць вочы, адсоўваючы тую хвіліну, калі вернецца, падымецца ў душы горыч і зноў яна будзе захлынацца ёю, зноў і зноў захлынацца...

— Верачка! Ты не захварэла? — рыпнулі, матчыным голасам азваліся дзверы ў спальню, і Вера яшчэ глыбей уціснулася ў падушку, у скамечаную, растузаную пасцель: ці то баялася, што канчаткова прачнецца і трэба будзе падымацца, рухацца, штосьці гаварыць, штосьці рабіць, ці то шукала ў дрымоце сховішча, забыццё, якое б усё адмяніла, змяніла, вярнуўшы яснасць думкам і гэтаму новаму, чорнаму — нягледзячы на сонца ў паўнеба — дню.

Яснасці не было. Дзень, які займаўся так шырока, так сонечна, быў сам па сабе, а яна, Вера... Не, яна была нават не сама па сабе, яе папросту не было: у гэтым дні месца для яе не значылася. Не бачылася. І было б лепей зусім не прачынацца. Яна адчувала, што абуджэнне блізка, што яна ўжо прачынаецца,— і чаплялася за апошнія хвіліны сну амаль свядома. «Я сплю, сплю!» — угаворвала сябе, і раніцу, і чыесьці хуткія, нервовыя крокі за дзвярамі, і яна сапраўды спала, не адпусціўшы, не адпускаючы сон...

(Чалавек насіў за сабою, сцяну. Часам сцяна была цаглянаю — і тады ўсе ведалі, што чалавек замыкаўся ў доме, у тым куточку яго, дзе ўсё (ён быў цвёрда пераконаны) належала яму — цалкам яму, толькі яму, дзе ён ствараў і стварыў свой асаблівы, асобны ад усіх свет

і ні ад каго не залежаў: не хаваўся за выпакутаваную ўсмешку ці ёю, усмешкаю, афарбаваныя словы, не азіраўся кожную хвіліну па баках, чакаючы як не ўдару, дык падману кагосьці аднаго ці цэлага натоўпу, які рваўся абысці яго, абагнаць. Хоць калі б ён азірнуўся і больш пільна зірнуў з-за сцяны ці праз сцяну (як зручней), то ўбачыў бы, як падобная, не цагляная, дык бетонная, не бетонная, дык драўляная сцяна была ў кожнага і ні аднаго не бараніла, не захінала: сцены — гэта такая гульня ў хованкі, калі для таго, каб схавацца, трэба адно заплюшчыцца.

Ну, ды гэта не пра чалавека сказана. Склаўшы, выпрацаваўшы зручныя правілы, ён, чалавек, жыў згодна іх непахісных установак: насіў за сабой сцяну. Калі сцяна была цагляная, ці бетонная або драўляная — гэта не мае прынцыповага значэння, усе ведалі, што ён замыкаўся, адасабляўся ў сваім доме. Калі сцяна была з металаканструкцый ці з папер, пападшываных нават не па значнасці (якая значнасць у папер?), а па фармату ці яшчэ па велічыні пячаткі, якая іх вянчала, усе разумелі, што ён на службе. Калі ж сцяна была шкляная...

Тут, па ўсіх правілах лірычнага адступлення, трэба зрабіць паўзу. Хоць бы для таго, каб згадаць, што шкло празрыстае, і таму ўмоўнасць яшчэ ўзрастае. Узрастае, адчуваеце?

Дык вось калі сцяна была шкляная, для ўсіх гэта азначала, што сцяны няма, што чалавек выйшаў за яе межы — у людскую сумятню, насустрач словам і гэткім жа, як і ў яго, навешаным на твар усмешкам, насустрач скаргам заціснутых у бетон і падстрыжаных на адзін манер ліп, ці каштанаў, ці таполяў, чые скаргі, хоць і павінны былі ўяўляць сабою гімн чалавеку і яго магутнасці, былі толькі скаргамі і танулі ў гуле машын і выхлапах газу,— маўляў, выйшаў і выйшаў, правіламі гэта агаворана. І верхам нетактоўнасці было б яго

ў нечым западозрыць: шкляная сцяна азначала, што сцяны няма.

Чалавек, безумоўна, ведаў, помніў, што яна ёсць (недарэмна ён так катастрафічна баіцца цеснаты, штурханіны, грубага замаху: шкло ж — неасцярожны дотык і рассыплецца!), але помніў, а віду не паказваў. Выскаліцца на каго, хто ненарокам зачэпіць, штурхане яго — і тут жа ўсміхаецца: нічога, маўляў, здараецца,— вы ж бачыце, што я такі, які ёсць, безабаронна адкрыты, шчыры ў сваёй адкрытасці. Усміхаецца амаль што шчыра, бо гэты раз абышлося — крохкае шкло не лопнула, не рассыпалася, правілы захаваны, і патрэбны тон знаходзіцца сам сабой. Узаемнае шкадаванне на нейкі момант нават збліжае яго з тым, неасцярожным, неабачлівым. Але толькі на момант. Збліжэнне было б чыста ўмоўным: зноў, хоць і мякчэй, натыкнецца на шкляную сцяну.

Не, не, жыць трэба было па правілах. Нельга ж, урэшце, забываць пра іншыя, непрыемныя, выпадкі, калі штуршок, ці дакладна разлічаны ўдар, прабіваў шкло, змушаў сцінацца, хай часова, а саступаць сваё месца і надоўга хавацца за сцяною больш надзейнаю. І чалавек усё радзей згадваў, што можна паспрабаваць жыць інакш,— і сцяна прыставала да сцяны, і ён урастаў у іх. Думаючы, што ўрастае ў жыццё, урастаў ва ўласныя сцены: тут галоўнае — спакой, спакойная разважлівасць, спакойнае следаванне правілам гульні...)

— Верачка, я пазваніла ў бібліятэку і сказала, што ты захварэла.

Голас прагучаў так выразна і з такой знаёмай матчынай інтанацыяй, што Вера зразумела, што не спіць, што як бы ні прыкідвалася, з якой бы сілай ні ўціскалася, заплюшчыўшыся, у падушку, даўно не спіць і мусіць падымацца. Ці хоць бы адгукнуцца.

— Мо выклікаць ўрача? Так і так цяпер давядзецца да яго звяртацца...

Вера шумна павярнулася на спіну.

— Мо ты думаеш, што я зацяжарыла?

— Свят, свят, свят!

— А чаму б і не? Табе не здаецца, што гэта было б толькі натуральна? Хараство, маладосць, каханне... Як не паддацца, як не згубіць галаву? І навошта яна, галава, калі любяць цела, калі лашчаць цела, цела, цела!

— Што ты нясеш, Вера? У цябе жар.

— Жар?! Ну, канечне, жар! Ты павінна была ўчуць гэта яшчэ за дзвярыма. Учула і прыбегла на пах палёнага?

— Я прынясу кампрэс. Табе трэба выпіць аспірын.

— Аспірын... Да, да. Мне зараз не хапае толькі аспірыну. Да, мне самой было не дадумацца: нічога іншага, апроч аспірыну. Кажуць, аспірын забівае бацылы радасці,— яна гаварыла ўсё хутчэй і грамчэй, яна, кідаючыся па пасцелі, амаль крычала.— Ты столькі часу маўчала пра аспірын — я не ўспомніла, я забыла, што ёсць лекі, што ад усяго ёсць лекі. Павінны быць! Глынуў — і ўсё прайшло! Як проста: ас-пі-рын!

Крык яе пастунова перайшоў у смех. Смех спачатку ціхі, кароткімі ўсплёскамі, якія размывалі сказанае, потым грамчэйшы і больш рэзкі. Лідзія Самсонаўна, знямеўшы і як прыросшы да падлогі, сутаргава паводзіла плячамі, і на кожны рух нервова, знізу ўверх (збоку б здалося, што яна нават падзужвае, пад'ялдыквае Веру), ускідвала галаву. Позірк яе пры гэтым быў разгневаны: яна ўсё яшчэ верыла, што Вера яе разыгрывае. Толькі калі смех стаў перапыняцца нервовымі ўсхліпамі і змяшаўся з плачам, са слязьмі, Лідзія Самсонаўна спалохалася, на якое імгненне ўсяго спалохалася, але і гэтага імгнення хапіла для таго, каб да яе

вярнулася заўсёдная яе сіла і рашучасць, само сабою — і мова.

— Вера, гэта істэрыка, чуеш? Што-небудзь здарылася? Што здарылася?

Адказам быў новы выбух слёз і смеху.

Яна марудзіла нядоўга. Рванулася да ложка, да Веры, якая сцікалася ў балючы камячок, то ўціскваючыся ў пасцель, то пагойдваючыся і быццам засланяючыся гэтымі слязьмі і гэтым смехам ад слоў, ад пытанняў, ад усяго, што было раніцай, што было жыццём. Падбегла, схапіла Веру за плечы, тузанула, сцяла, спрабуючы суцішыць, суняць яе балючае пагойдванне. Не зважаючы на пратэст яе, не адпускала. Апусцілася на краёк ложка, прыўзняла за плечы, з усёй сілай, на якую была здатна, прыхінула, хінула да сябе, да грудзей сваіх яе галаву.

— Што ты, што ты, Вера? Супакойся. Нельга ж так... Цішэй, цішэй! Нельга ж так...

Слухаючы гэтыя суцяшэнні, прымаючы і не прымаючы суровую матчыну пяшчоту, Вера працягвала вырывацца, але і рухі яе, і слёзы, аглушаныя істэрычным і не адразу аслаблым смехам, мякчэлі, цішыліся. Здавалася, яна супакойваецца: не ўздрыгвалі так адчайна плечы, не біліся так няўцямна рукі.

У той момант, калі Лідзія Самсонаўна гатова была пацалаваць яе ў валасы і ўздыхнуць з палёгкаю, Вера нечакана спружыніста ўзвілася:

— Пусці-і!! Адпусці мяне!

Ад слоў патыхнула такою непрыхаванаю нянавісцю, што Лідзія Самсонаўна адхіснулася. Рэзка адняла рукі і адхіснулася, хоць Вера ўжо саскочыла па той бок ложка і, апынуўшыся перад вялікім, у паўсцяны, люстэркам, гэтак жа нечакана аціхла, знерухомела: палаў твар, палалі абведзеныя цёмнымі кругамі бяссонніцы вочы, палалі бязладна раскіданыя па плячах, зблытаныя валасы — не жанчына, а касцёр! Пра касцёр

падумалася міжволі. Мо таму, што ў спальні раптам стала так ціха, што, здавалася, цішыня пахруствае, патрэсквае.

Лідзія Самсонаўна не паварочвалася. Пакрыўджаная (ад крыўды ажно ў горле перасела), не ўслухвалася ні ў цішыню за спіною, ні ў свае думкі, раптам звялыя і абыякавыя. Не, яна разумела, што чалавеку, які істэрычна смяецца і б'ецца ў гэтым смеху, як у сіле, пэўны час не да этыкету: ведама ж, калі сам не ў сабе. І ўсё ж... За Вераю раней падобнае не вадзілася. У Веры істэрыка? Вера, якая істэрычна рагоча і выкрыквае чорт ведае што? Нонсенс, як кажуць паважаныя Лідзіяй Самсонаўнай за свае бездакорныя манеры англасаксы.

— Ты ўжо супакоілася?

Ні гуку ў адказ.

І гэты раз Лідзія Самсонаўна не павярнулася. Пакрыўджаная (то істэрычны рогат, то зняважлівае маўчанне — і гэта Вера!), думала пра няўдзячнасць — не канкрэтна Верыну няўдзячнасць, а так, агулам; людзям уласціва быць няўдзячнымі, і падобная думка заўсёды засмучала.

— Можа, ты ўсё-такі растлумачыш маці, што здарылася?

«Маці» прагучала трошкі ненатуральна (зусім трошкі), і Лідзія Самсонаўна сцепанула плячыма. Але не павярнулася, паўза зацягвалася не па яе віне. Вера, канечне, магла не слухаць, не чуць пытання: не адказаць — за ёй раней гэткага не вадзілася... Хоць сёння ўсё ішло наперакасяк ранейшаму, звыкламу, і яна, Лідзія Самсонаўна, утрымалася ад тлумачэння. Трэба было вычакаць, і яна чакала.

— Ты ніколі не любіла мяне.

— Ш-што?

— Ты ніколі не любіла мяне, мама. І ты гэта ведаеш.

— Не лю-біла? — Лідзія Самсонаўна, хоць і пакі-

нула акуляры ў сваім пакоі, машынальна шукала іх побач, на ложку, і, не знайшоўшы, грузна, усім тулавам павярнулася да дачкі, да люстэрка, з якога Вера, бледная, з ліхаманкавым жарам на шчоках, пазірала на яе сумна і адчужана.

— Ты не любіла мяне, таму што ніколі нікога не любіла. Нават папу, хоць і насіла ўсе гэтыя доўгія гады ў сэрцы жалобу па ім, як па нябожчыку. Як па нябожчыку,— расплятала і зноў заплятала ў касу прычасаныя ўжо валасы Вера.— Ты была калісьці побач з ім, як потым — побач са мною. Жыла побач, таму што заўсёды, як не для сябе, дык для людзей, хтосьці павінен быў быць побач. Перш папа, пакуль ён не стаў задыхацца...

— Ве-ра! — зноў нервова абмацвала ложак, шукаючы пакінутыя ў другім пакоі акуляры, Лідзія Самсонаўна, зніякавелая, здавалася, пастарэлая ў гэту хвіліну.

— Перш папа, ён мог рабіць выгляд, што не заўважае тваёй ледзяной, пагардлівай (буйны інжынер з зарплатай прыбіральшчыцы!) адчужанасці, потым я, вогненнавалосая дачка твая, якая і ў гэтым не цябе, а яго, няўдачніка, прасачыла... Не, спачатку ты пазірала на мяне з надзеяю: марыла пра інстытут міжнародных зносін ці хоць бы, на горшы выпадак, інстытут замежных моў — як потым, пераканаўшыся ў маіх менш чым сярэдніх здольнасцях, марыла пра зяцягенерала ці хоць бы, на горшы выпадак, акадэміка. Не для мяне марыла — для сябе. Калі зніклі спадзяванні на сябе, на сваё замуства, ты пачала вышукваць варыянты для мяне.

— Як ты размаўляеш са мною, Вера? Я...

— Ты выслухаеш мяне, мама, як столькі раз — столькі год! — выслухвала, слухала цябе я,— рашуча працягвала тая, прысланіўшыся да люстэрка спіною, і толькі пальцы, што злёгку ўздрыгвалі, калі яна зноў,

у які ўжо раз, пачынала расплятаць і заплятаць касу, паказвалі неймавернае яе хваляванне.— Ты выслухаеш, бо некалі ж трэба пачуць праўду, якая сцяною устала паміж намі і, неназваная, так і прастаяла б да канца. Так і прастаяла б... А я не хачу — разумееш? Не хачу і не магу ўжо біцца ў гэту вечную сцяну неразумення.

Вера рэзка матлянула галавой, хаваючы слёзы,— валасы рассыпаліся па плячах, і гэты раз яна не стала іх збіраць. Адно адчуўшы, што вяртаецца нервовы калатун, пацягнула са спінкі крэсла цёплы махровы халат і захінулася ў яго, схавала дрогкія рукі.

— Ты... ты ўсё зрабіла, каб зламаць маю волю. Забараняла сустракацца з папам і ледзь не да апошняга часу вымагала ў яго грошы на маё пражыванне ў цябе. Са скрыпам глынуўшы тое, што я бібліятэкарка — бібліятэчны работнік і не больш! — усіх, да забытых школьных сяброvак сваіх, падняла на ногі, каб уладкаваць, упхнуць мяне ў акадэмічную бібліятэку: раптам акадэмік клюне.

— Вера!

— Недалікатна выказваюся? Прабач. Няма з чаго далікатнічаць. І потым ёсць рэчы, якія хоць раз за жыццё трэба назваць сваімі імёнамі. І для цябе, і для сябе самой. Ты ж менавіта ўпхнула мяне ў акадэмічную бібліятэку, з разлікам менавіта на тое, што на мяне, на маладосць маю клюне акадэмік.

Прыціскаючыся спіною да люстэрка, ад якога ішоў, перацякаў у яе холад, Вера баялася аднаго — баялася, што калатун зможа словы (словы ўжо зрэдчас чапляліся за зубы) і яна не дагаворыць, не паспее дагаварыць.

— Ты ставіла гэта сабе ў заслугу. Помніш? Не парушай маіх спадзяванняў, Вера,— казала. Глядзі ва ўсе вочы на таго, у кім больш самавітасці,— вучыла штораніцы. Помніш? А калі я нікога, апроч кандыдата гістарычных навук, не выгледзела, ты тут жа сабрала

ўсе даведкі — малады, перспектыўны, не за гарамі доктарская! — і пачала тузаць, прыспешваць мяне: не праваронь, маўляў, чапляйся!

— Ты гародзіш бог ведае што, Вера. І марна адмовілася ад таблеткі,— Лідзія Самсонаўна ўжо ўзяла сябе ў рукі і даволі ўдала хавала сваю разгубленасць за звыкла ледзяным, павучальным тонам.

— Пачуццё толькі-толькі зараджалася, а ты штурхала, падштурхвала мяне: няма чаго раздумваць, сабраны ўсе даведкі... А потым? Ты помніш, што было потым? Ніводнага дня не перапусціўшы, ты даводзіла адно: патрабуй, хай дамагаецца кватэры, патрабуй грошай, вучы мужа манерам і заваёўвай, заваёўвай увагу — увагу яго сяброў, і яго начальства, і сяброў яго начальства!

— Гэта былі разумныя парады. Шкада, што ты не скарыстала іх.

— Шкада, што я да іх прыслухоўвалася і не зацікавілася тым, чым жыў, чым жыве Барыс. А ён жа не адно маім мужам быў, ён быў і застаецца бацькам майго сына.

— Менавіта застаецца. І ты робіш памылку..,

— Не! — задыхнулася Вера болем, што падняўся, хлынуў з грудзей і разам з крыкам перасеў у горле. Заціснула рот каўняром халата, павольна павярнулася, адвярнулася ад маці і прыціснулася лбом, тварам да халоднага шкла. Боль стаў цішэць, адпускаць, і яна расплюшчыла вочы і — вочы ў вочы з той, у люстэрку,— хвіліну-другую стаяла моўчкі. Потым павярнула галаву і прамовіла, выплеснула балючае, горкае:

— Валодзік не паўторыць мой лёс. Запомні! У Валодзіка ёсць і будзе бацька. Што б ні здарылася ці ні здарыцца.

— Хіба што-небудзь здарылася? — заёрзала Лідзія Самсонаўна, яшчэ з раніцы ўчуўшы нядобрае: не з нічога вырасла гэта Верына злосць!

— Здарылася тое, мама, што ты загубіла некалі сваё жыццё і потым увесь час старалася загубіць маё.

— Апомніся, Вера! Ты пашкадуеш пра свае словы.

— Я шкадую, што не сказала гэтыя словы табе — сабе! — раней: не чула іх у сабе, не знаходзіла. А і чула — вушы затыкала. Іншыя ж, лягчэйшыя, слухаць прыемней: пакуль маладая, пакуль ёсць жаданне прымаць рэальнае за жаданае, то чаго ж! Адзін, другі, трэці... Гэта не мае значэння. Мае значэнне толькі адно: як ты ацэнена, у якой валюце.

— Вера, табе павінны быць сорамна...

— А мне і сорамна! — крутанулася ад сцяны, ад люстэрка тая.— Мне ўпершыню сорамна за сябе, за цела вось гэта, у якім, бы ў клетцы, захлынаецца, калі не захлынулася ўжо, душа.

Яна зноў заплакала. Толькі зараз ціха, без крыку. Слёзы каціліся па шчоках, і яна не выцірала іх. Быццам не заўважала.

— Вось і Якаў... Калі я раз і другі раз адмовілася прыняць яго падарунак, ты знішчала мяне ледзянымі позіркамі і сваім: «Ну, не знаю, не знаю!». Ты падштурхвала мяне да яго, як некалі да Барыса, бо табе і ў галаву не прыйшло б, што я магу яго палюбіць, такога, які ён ёсць. Табе і ў галаву не прыйшло б.

— Якаў што — папаўся? Сеў? — ускочыла з ложка, як уджаленая, Лідзія Самсонаўна.

Вера зміргвала, спрабуючы ўбачыць штосьці, што ўразіла яе ў маці, праз слёзы.

— Ты... адкуль?

— Дзетка,— зусім ужо адкінуўшы звыклую сваю манернасць рушыла тая паўз ложак, паўз яе, зніякавелую і ў слязах, да дзвярэй.— За зарплату жыць з такою раскошаю не будзеш. Думаю, ты не падманьвалася... Іншая справа, што павярнулася ўсё занадта хутка.

Дагаворвала ўжо ў дзвярах. Спяшаючыся. І Вера, якая ўсё вышэй нацягвала, настаўляла каўнер халата,

не магла адвесці пагляд ад яе какетліва прыўзнятых плячэй, ад яе пышна ўзбітай куксы над патыліцай. Нават пасля таго як тая выйшла, бачыла і гэта яе какетлівае пакалыхванне плячмі, і гэту выкладзеную, волас да воласа, куксу: маці нічога не зразумела! яна — чужая!

— Добра, што гэты раз ты паслухала мяне і не ўзяла ў галаву выйсці за Якава,— ужо вярталася яна з кубкам вады і таблеткамі.— Не той гэта замуж, хоць Якаў Януаравіч і паводзіў сябе вышэй усякай пахвалы. Вышэй усякай.

— Ён не прапаноўваў мне выйсці замуж.

— Не той гэта замуж, і ён разумеў...

— Ён не прапаноўваў мне выйсці замуж, мама. А калі б прапанаваў, то я пайшла б,— Вера не заўважала, што ў голасе яе з'явіліся халодныя матчыны ноткі, а Лідзія Самсонаўна насцярожылася.

— Ну, зараз, спадзяюся, ты разумееш, што гэтага нельга было дапусціць. Мне, чалавеку вопытнаму, адразу, напачатку было гэта зразумела, і я не аднойчы гаварыла Якаву Януара...

— Ты? Гаварыла? Якаву? Ты бачыла — і гаварыла?!

— Вера, дзетка, супакойся. Другой істэрыкі я проста не вынесу. Выпі і супакойся.

— Хіба ты не бачыш, што я — спакойная? Больш таго! Мне здаецца, я мёртвая... Так, так, мёртвая! Вера, твая дзетка, мама памерла. Сёння ноччу. Я — не яна, разумееш?

Словы, у якіх не знайшла Лідзія Самсонаўна ні сэнсу, ні розуму, напалохалі б яе, калі б прагучалі больш жыва і выразна,— яны ж былі халодныя, пазбаўленыя і нязначнай эмацыянальнай афарбоўкі. І яна сама адпіла з кубка, кінуўшы ў рот таблетку, і так, з кубкам у руцэ, адышлася, адышла ад акна.

— Мая была праўда, Вера, мая!

— Гэта ты пра тое, што не замуж дачку аддала за другім разам, а ва ўтрыманкі, бо гэта абяцала больш выгод?

— Не смей гаварыць са мной такім тонам,— засіпела, толькі каб не завішчаць, Лідзія Самсонаўна, і на імгненне, не суадносячы Верын тон са сваім, хоць якраз гэта было б натуральна: тон быў той жа, халодны, абыякавы, што і ў яе.— Ты сама, сама прывяла яго ў дом. І потым... Прымаючы ад яго рэчы, ты ведала іх кошт і здагадвалася, як гэта называецца. Ты без мяне гэта ўсё ведала.

— Канечне, канечне! Я не ведала толькі, што цябе гэта так цешыла, мама.

— Це-шыла? Ты называеш гэта: цешыла? Ды мы ўпершыню жыць па-чалавечы пачалі, на рэчы прыгожыя заглядацца сталі. Ды мы яшчэ сто раз пашкадуем...

— Ты — пашкадуеш! Ты, мама. Мы пра рознае шкадуем,— зябка сцепанула плячыма Вера, адварочваючыся.— Прабач, мне трэба апранацца.

— Ах, скажыце, ах скажыце! — паплыла Лідзія Самсонаўна да дзвярэй, пакручваючы ў пальцах кубак, і калі той, зусім нечакана, выслізгнуў з пальцаў і проста пад нагамі разляцеўся ў друзкі, разгублена спынілася. Зіркнуўшы ж цераз плячо на Веру, на яе звялыя плечы, адно махнула рукой: адмахнулася — і ад гэтых друзкоў пад нагамі, і ад гаворкі.

У спальні стала ціха, і Вера ведала: не ад таго толькі, што маці пайшла і разам з водгуллем яе крокаў аціхлі ўсе гукі,— у ёй самой, у грудзях, у душы яе, аціхла ўсё, змярцвела. Нерухома стаяла яна перад люстэркам і абыякава ўзіралася ў пацямнелае раптам шкло: тая, у люстэрку, вылушчвала з цэлафанавай абгорткі ў жменю таблеткі, глынуўшы якія, усе разам, яна забудзе ўсё, забудзе самое жыццё, непрывабнае, ужо непатрэбнае. Павярнуўшыся на ледзь чутны

шолах, падобны на злоснае хіхіканне, убачыла (ці мо ёй звідзілася?) згорбленую постаць ва ўсім белым... З жахам адхіснулася Вера, нібыта смерць згледзела, і зачапіла, паваліла невялікі здымак у літой меднай аправе, што стаяў на століку: са здымка ўзіраўся ў яе, са здымка ўсміхаўся ёй сын, Валодзік...

## XXXIII

Усмешка хлопчыка была злёгку разгубленай, і ён, як адчуваючы гэта, хаваў вочы, апускаў ці адварочваў ад Глеба твар. Садзіўся ён заўсёды адасоблена, збоку, і планшэтам як адгароджваўся ад усіх — так было і гэты раз, але сёння штосьці муляла яму, штосьці, чым ён прагнуў падзяліцца і падзяліцца менавіта з ім, з настаўнікам. Глеб адчуваў гэта. Некалькі разоў падыходзіў, падоўгу ўзіраўся ў хуткія прыгожыя рухі Славы — здавалася, контуры посуду і фруктаў, з якіх быў састаўлены нацюрморт, узнікалі пад яго алоўкам самі сабой, узнікалі ўжо змененыя, і тым не менш папракнуць у недакладнасці яго было нельга. Толькі аднойчы хацеў Глеб умяшацца, заўважыўшы дыспрапорцыю паміж першым і другім планамі, ледзь заўважную дыспрапорцыю, але хапіла і руху рукі, каб Слава зразумеў — убачыў! — і пачаў спакойна, без гумкі, адно штрыхом, выпраўляць.

— Малайчына,— не стрымаўся, пахваліў ён яго, і тут жа змушаны быў зрабіць некалькі заўваг: той-сёй адразу памкнуўся саскочыць з месца і зазірнуць на Славін планшэт — Глебава «малайчына!» было ў студыі самай высокай пахвалой.

— Усіх тычыцца: не забывайце, што прадметы трэба не падвесіць да аркуша, як у многіх даволі часта здараецца, а размясціць на плоскасці — паставіць!

Слава ўсміхаўся. Так, быццам ён пачуў больш таго, што было сказана, і не вельмі ведаў, як ім, пачутым,

распарадзіцца. Нават не азіраючыся на яго, ходзячы ад планшэта да планшэта, ад вучня да вучня (дзе падказваючы, як лепш пабудаваць перспектыву, дзе падпраўляючы), Глеб увесь час бачыў гэту ледзь улоўную Славіну ўсмешку і, што б у той момант ні казаў, дзе б ні знаходзіўся, у думках усё спрабаваў разгадаць яе. Спрабаваў разгадаць — і не мог. Слава вярнуўся ў студыю. Прыйшоў на заняткі. Паводзіў сябе, як паводзіў звычайна. Мо толькі працаваў больш упэўнена... Глебу ж усё здавалася, што хлопчык у нечым змяніўся. Быццам пасталеў. Быццам адчуў у сабе тайную сілу і ўслухваўся не ў тое, што адбывалася вакол яго, у студыі, у рэальнасці, а ў тое, таямнічае, глыбока сваё, што ажыло, ажывала ў ім. Душа прачынаецца, казалі ў такіх выпадках вясковыя жанкі, і згадаўшы гэтыя словы, Глеб упершыню так глыбока падзівіўся іх прастаце і мудрай дакладнасці.

Душа прачынаецца! Ужо ж, гэта яе, душы, першыя зрухі, рухі, яшчэ неўпэўненыя і ўжо ўладныя. Адсюль у Славы і крыху разгубленая ўсмешка і больш выразнае адчуванне тайнай сілы сваёй, і тут, за планшэтам, і потым, у жыцці, якое можна будзе выбраць, выбудаваць для сябе самастойна. Ні памылак, ні горкіх крыўд, ні незваротных страт з вышыні яго дванаццаці год убачыць, канечне, нельга (Глеб сябе прыгадваў!), а першая магчымасць выбару, першае захапленне перад прыадкрытаю, яшчэ толькі прыадкрытаю, далячынню паланілі ўжо душу яго...

Злавіўшы сябе на тым, што ўсміхаецца, гэтак жа, як Слава, разгублена ўсміхаецца сваім думкам, Глеб адышоўся да стала, стаў пераглядваць работы другой, учарашняй, групы. Пераглядваў, перакладваў спакойна. Усяго аднойчы і затрымаў пагляд — хутчэй для таго, каб тут жа падняць голаў і агледзець студыю. Перабраўшы малюнкі і склаўшы іх у папку ў ранейшым парадку, падняўся, паклаў іх у шафу і зноў стаў

хадзіць ад планшэта да планшэта, ад вучня да вучня: каму падказваў, як лепш выявіць плоскасць і прадметы, расстаўленыя на ёй, каму, падсеўшы да планшэта, адной-дзвюма лініямі папраўляў будову прасторы ліста. Заняткі заканчваліся...

— Ты хацеў аб нечым запытаць? — запыніў Глеб Славу, які, хоць ужо і развітаўся, яўна марудзіў і, расцягваючы імгненні, таптаўся ў дзвярах студыі.— Калі пачакаеш — я толькі запіс зраблю ў журнале! — то адзін-два прыпынкі пройдзем разам. Як?

— Я пачакаю ўнізе,— адразу вышмыгнуў той з пакоя.

Унізе — ні ў пустым зараз фае, ні на шырокім каменным ганку — Славы не было. Глеб пакратаў плячыма, азірнуўся на ўваход і, не разумеючы, чаму ўсё ж хлопчык не дачакаўся яго, стаў спускацца па прыступках, насустрач адвячорку і людскому тлуму па той бок плошчы, дзе ледзь ад'язджаў адзін аўтобус ці тралейбус, як тут жа пад'язджаў другі, гэткі ж неразваротлівы і перапоўнены, як папярэдні: завадскі раён. Колькі прыпынкаў можна было, як і думалася, прайсці пешкі — не шчаміцца ж у аўтобус!

Яшчэ раз агледзеўся і, не заўважыўшы хлопчыка, адвярнуўся і рашуча скіраваўся цераз плошчу. Ужо добра адышоўшыся, быццам раптоўна змушаны кім, азірнуўся назад і — згледзеў Славу. Непадалёку. У засені ліп.

— Што ж ты? — замахаў.— Я падумаў быў...

Той моўчкі наблізіўся. Моўчкі пайшоў побач, зрэдчас пазіраючы кудысьці ўбок: ці то на асветленыя сонцам і таму вясёла-шэрыя будыніны, ці то на рухомыя, разныя цені ліп узбоч тратуару. Не абзываўся нейкі час і Глеб, адчуваючы, што недакладна знойдзеныя, не тыя, якія чакае ад яго Слава, словы парушаць узніклы ў душы хлопчыка давер.

— Мастак — гэта бесперспектыўна? — голас прагучаў глуха, але не ўздрыгнуў.

— Ну-у, Слава,— пакасіўся на яго вастраносы профіль Глеб,— з такім адчуваннем перспектывы ў малюнку, як у цябе, трэба б ведаць, што без перспектывы...

— Я пра іншае.

— Разумею. Пабудаваць жыццё — не малюнак пабудаваць, улічваючы прастору ліста. І ўсё ж, калі задумацца, паралель ёсць, і паралель блізкая: жыццё гэтак жа абмежавана рамкамі, гэтак жа штосьці вылучае, штосьці зацяняе — і ўсё, амаль усё ў ім залежыць ад нас саміх. Не згодны?

Слава не адказаў, і ён не стаў настойваць. Па-ранейшаму спакойна і нягучна працягваў:

— Перспектыва ўзнікае тады, калі чалавек яе бачыць. Бачыць не абавязкова вокам, навобмацак — ёсць жа душа! ёсць жа думка, урэшце! А душу, думку, мару ці нават простае спадзяванне — карысцю сваёю, ды і грамадскаю таксама, не вымераеш. Не вымераць. Хоць сёй-той і вымярае, прымаючы за перспектыву плошчу кватэры, ці кола карысных знаёмстваў, ці зону свайго ўплыву,— і далей, канечне ж, нічога ўжо не бачыць, не заўважае. Мастакі ж, Слава, не толькі зазіраюць далей і глыбей, яны імкнуцца паказаць — змусціць і іншых убачыць! — гэтыя далячыні, гэтыя глыбіні, бачныя ім. Хіба гэта бесперспектыўна?

— Я пытаўся пра іншае.

— Ты пытаўся пра вагу, пра значымасць мастака ў сённяшнім грамадстве? — Глеб, не запыняючыся, больш уважліва прыгледзеўся да скаванага, зацятага ў сваёй разгубленасці хлопчыка.— Вага і значымасць яго толькі вонкава, відавочна не вялікая — не вучоныатамшчык, не касманаўт, маўляў, нават не дыпламат... Але ж ніводную рукатворную рэч — ад рэактара і касмічнага карабля — не ўявіць, не стварыць без удзелу мастака. Мастака, які жыве ў вучоным, у канструк-

тары, у рабочым. Ты можаш зноў запярэчыць, звужаючы пытанне да пытання аб прафесіі, але мастак — не прафесія, а прызванне — прызванасць. Адчуць сябе прызваным — прызваным дапамагчы некаму ўбачыць хараство свету, ці рэчы, ці з'явы — шчасце, Слава! На жаль, нічым не магу даказаць табе сказанае: гэта шчасце не ўзважыць ні на далоні, ні на шалях.

— Усе не разумеюць, таму што нельга даказаць?

— Не разумеюць, таму што перш адчуць трэба, а не зразумець.

— Хіба не важней — зразумець? — зіркнуў Слава з-пад ілба.

— У мастацтве — не! — запаволіў крокі Глеб.— Ды і ў жыцці... Нават у жыцці не ўсё на адным разуменні трымаецца. Шмат хто кажа «не разумею» тады, калі не адчувае, калі душа маўчыць, не адгукаецца — ні слязою, ні ўсмешкаю не адгукаецца. Сказаць «не разумею» — як адгарадзіцца. Вось і адгароджваюцца. Бо так прасцей. Лягчэй.

Словы гучалі суха — Глеб сам гэта адчуваў, але, як ні стараўся, не мог, не мог змусіць сябе выйсці на прамую гаворку са Славам пра маці яго, пра ўплыў на яго яе і акружэння — уплыў кепскі, варты адно шкадавання...

— Вы гаворыце пра маму?

Глеб, які не чакаў *такога* пытання, спатыкнуўся. І спыніўся. І, крануўшы Славу за плячо, спыніў яго, павярнуў тварам.

— Я — пра цябе, Слава. Пра прызванне тваё, якому ты здрадзіш, калі будзеш шукаць лягчэйшага шляху, калі будзеш узважаць думкі, мары свае чужымі думкамі, чужымі словамі, чые б яны ні былі. Маці — святое, для кожнага чалавека — святое, але, слухаючы маці, прыслухвайся і да сваёй душы. Не проста да жаданняў — жаданні ўзнікаюць і знікаюць! — а да непрыемнага, а то часам і балючага паколвання ў душы: гэта

паколванне і ёсць яе голас... Мне думаецца, ты ўжо чуеш яго, чуеш і спрабуеш разабраць, што ён, гэты голас, табе гаворыць. Бо вось жа і кампазіцыя твая з птушкаю... Гэта — мара?

— Не. Мэта.

Слава адхінуўся ад яго рукі, крутануўся і пабег да тралейбуса, які якраз прытармажваў, набліжаючыся да прыпынку. Пабег, забыўшы, ці не схацеўшы, развітацца, і ўсё ж Глебу здалося, што для яго, для Славы, гаворка адбылася. Такая, якую ён чакаў, альбо не такая, але адбылася.

Птушка з распасцёртымі крыламі, прабітымі мноствам пушчаных з зямлі стрэл,— мэта... Мэта, а не мара. Тут было над чым падумаць.

— Мэта ў нас адна, князь Расціслаў: мір на зямлі полацкай — і на межах яе, адкрытых для варожых нападаў, і тут, у стольным горадзе,— хмурыць бровы Ефрасіння на нецярплівы жэст князя.— Не адзін таму прыклад, што калі адвяргаў правіцель волю люду, люд адвяргаў яго, пазбаўляючы ўлады і стала полацкага.

— Палохаеш, ігуменне,— апусціў той вочы, хаваючы халодны, нядобры бляск.— А я падтрымкі тваёй шукаў.

— Мая падтрымка на баку таго, хто богу ўгодную і люду карысную справу робіць. Ты ж, князь, адмаўляючы манастыру ў дапамозе, у сродках, неабходных на пабудову храма Святога Спаса-збавіцеля, павялічваеш расходы на ўтрыманне дружыны сваёй. І чакаеш падтрымкі царквы і біскупа, правялебнага Козмы, у тым?

— Воляю люду і продкаў, вялікіх князёў полацкіх, дружына — на маім утрыманні.

— Не адно для дружыны ты князь, Расціслаў, а і для зямлі полацкай. А на ёй раны ад бясконцых бітваў

за межы княства не зацягваюцца, не загойваюцца, і люд бясконцаю разрухаю, бясконцымі спусташэннямі незадаволены. Тое і глядзі, што зноў бунт успыхне.

Спакойна моўленыя словы яе нічым не паказвалі, што гневаецца Ефрасіння. Толькі пацямнела сінеча вачэй яе, пацямнела і глыбейшай стала: горда стаяў перад ёй Расціслаў, сын Глеба Мінскага, а і ёй, унучцы Усяслава, гордасці было не пазычаць — і галавы не павярнула б да неразумнага ў гардыні сваёй валадара, калі б сан яе не змушаў, калі б справа не патрабавала.

— Ці ж даўно людзіны, уварваўшыся сюды, у княжы пасад, пасля таго як волю сваю ўчынілі і князя Рагвалода ў асуд аддалі, рабавалі пакоі гэтыя? — працягвала.— Бунт, падобна хвалі нястрымнай, ламае, зносіць усё, што на шляху трапляецца, і дапусціць новае хваляванне...

— Але ж за душы людскія царква ў адказе! — тузануўся, ускідваючы галаву, Расціслаў.— І табе, ігуменння, трэба б не мне, князю, горкія словы мовіць, а натоўпу людзінаў.

— Дапусціць новае хваляванне — яшчэ больш паслабіць і царкоўную і княжую ўладу,— пазірала не на князя, а на фрэскавы роспіс за ім, на сцяне, і па-ранейшаму спакойна, не мяняючы тону, гаварыла Ефрасіння.— І люд свой, хто б ні быў сярод яго, натоўпам называць нягожа, князь: хто княства і стольны горад яго ад ворага бароніць, як патрэба ў тым узнікае, хто ўзводзіць храмы і сцены яго, хто ў поце працуе і над простаю, для ўжытку, рэччу і над дарагою, выкштанцонаю, на паказ купцам з-за мораў, варты волі сваёй і павагі нашае. А што здольны за сябе пастаяць пры выпадку, не аднойчы таму сведкамі былі сцены гэтыя. І твой гонар, князь,— неразумны гонар, бо ўсявышнім для ўсіх моўлена: любі бліжняга свайго... Як не да мяне, да мудрасці госпада нашага павінен ты прыслухоўвацца.

— Не разумею папроку, ігумення. Дачка князя, унучка вялікага Усяслава, ты абараняеш перада мною людзінаў, іх волю і іх працу?

Твар у твар, вочы ў вочы стаялі яны зараз адно перад адным: глыбока абураны і ў абурэнні сваім без меры гарачы і ўпарты Расціслаў і спакойная, халодная і непадступная ў сваім спакоі, Ефрасіння. Пагляд адштурхваў пагляд, словы чапляліся за словы — гаворка завяршалася тым, чым і пачалася: неразуменнем.

— Працаю і воляю тых, кім ты пагарджаеш, князь Расціслаў, зямля полацкая стаіць, і не перад табою я абараняю людзінаў, а перад госпадам, заступнікам нашым. Да цябе ж звярнулася, бо валадаром зямлі гэтае ты прызнаны вечам і думай княжай, і клопат за яе — на табе. Мусіць быць на табе.

— Не разумею, чым бы я мог дагадзіць табе і манастыру: у казне княжай пуста, і мытнікі мае марна рышчуць па апусцелых весях,— як апёкся холадам слоў яе, пагляду яе Расціслаў і адвёў вочы.— Таму і новы паход задумаў.

— Новы паход — новыя спусташэнні. Люд стаміўся ад міжусобных сечаў: не жытам, касцьмі каторы год зямля засяваецца.

— Не мною заведзена, ігумення. Яшчэ Усяслаў...

— Пры Усяславе Сафійскі сабор быў узведзены — у славу Полацку і ўсяму люду праваслаўнаму, і гэтая слава непарушнай застанецца. З тым і пакіну цябе, князь.

У рэзкіх, падкрэсленых паваротам галавы словах яе пачулася Расціславу непрыхаванае ўжо асуджэнне, і ён памкнуўся быў следам за Ефрасінняй, але, натыкнуўшыся паглядам на спіну яе, стрымаўся. Стрымаў сябе. Адно сцяў у кулакі пальцы і звёў шырокія густыя бровы.

Тая ж не азірнулася, шкадуючы, што змарнавала час і словы, бо не да князя, да княжай думы трэба было

звяртацца: ні роду яе, ні сану яе Расціслаў не ўважыў — малады, пыхлівы, а таго не разумее, што ўлада яго абмежаваная і ў любы дзень можа застацца ён не пры стале княжым, а адно пры дружыне сваёй. Царкве ўздумаў папікаць за душы людзінаў непакорных, а сам не перахрысціўся на моўленае Ефрасінняй імя божае.

Словы малітвы загучалі ў душы яе. Перахрысцілася. Адагнала і шкадаванне і самую згадку пра валадара (і яго, як яго папярэднікаў, не прызнае ні люд, ні час) — пайшла, хоць і няспешна, хутчэй. Да пераправы было недалёка, там чакаў яе вазок...

— Ты адыходзілася, сястра Малання, не спытаўшы майго дазволу на тое? — сурова звярнулася да задыханай ад хуткай хады мнішкі, якая дагнала яе толькі там, дзе пачыналіся прысады, Ефрасіння, хоць і думаць не думала пра яе ні міг назад, ні гадзіну назад.

— Я чакала, дзе моўлена было,— не падняла тая вачэй, баючыся гневу ігуменні, але Ефрасіння ўжо забыла і пра сваё пытанне, і пра мнішку, якая суправаджала яе.

Да пераправы ад Бельчыц, ад княжага пасада і Бельчыцкага манастыра было недалёка, але і дарога, і пераправа цераз Дзвіну, і спуск да Палаты, уздоўж якой, мінуючы Сафію і дзядзінец, дзе ў былым княжым пасадзе быў пасад біскупа полацкага, прыедзе яна ў Сяльцо, да манастырскага двору, зоймуць нямала часу: шмат што паспее абдумаць, перадумаць за гэты час. Гаворка з Расціславам толькі пацвердзіла даўняе перакананне Ефрасінні: у барацьбе за стол княжы не шкадавалі князі зямлі спадчыннай — ні славы яе, ні люду яе не шкадавалі. Ад адной жорсткай сечы да другой дзеці не паспявалі падняцца, падрасці, ад бунту да новага бунту ўсёю княжаю ўладаю князі імя сваё сцвердзіць не паспявалі — адно ў летапісе гісторыі зямлі полацкай іх імёны заставаліся. Барыс Усяславіч,

Ізяслаў, сын Мсціслава, Святаполк, Васілька, Рагвалод, Расціслаў... На працягу двух дзесяцігоддзяў не адно князі — княжыя дынастыі мяняліся, а зямля пусцела, запускалася, а багацце драбнела, меншала. І ніводзін, ніводзін новы храм не тое што не ўзведзены — закладзены не быў. Не пра бога і душу сваю, не пра люд свой і славу яго, а пра ўцехі і бясслаўныя паходы свае князі дбалі. І кожны ад яе, Ефрасінні, падтрымкі чакаў — як не ў справе, дык у славе: у манастыры ж, у Сяльцы, летапіс зямлі полацкай пісаўся, і нярэдка яе, Ефрасінні, слова пяру дыктавала.

Думкі гневалі сэрца, і яна нават не спрабавала адагнаць іх. Было, і паходамі слава здабывалася, але ж не паходамі на землі суседняга князя, суседняга княства, адно каб багатаю здабычаю дома пахваліцца. Здабыча, яна і ёсць здабыча: сёння ты ўрваў кусман, заўтра — у ні ў чым не павінных ратаяў зямлі тваёй апошні кавалак хлеба адбяруць, а то, абабраўшы, і жыцця не пакінуць. Не, песні ў славу князя і дружыны ягонай складаліся не тады, калі яны багатую здабычу на шчытах прывозілі, а тады, калі яны зямлю сваю, волю яе баранілі, адстойвалі. Хоць і Усяслава прыгадаць. Не Усяслава-заваёўніка, а Усяслава-абаронцу, князя, пры якім княства полацкае квітнела і люд яго ні перад кім галавы не гнуў, Баян апяваў і апеў. І люду і богу слугаваў Усяслаў, тым над усімі князямі рускімі ў свой час узвышаючыся. Нездарма ж чарадзеем слыў і ў паданнях застаўся не адно на сваіх землях. Сыны ж і ўнукі яго... І двух дзесяцігоддзяў хапіла, каб парушылася родавая повязь князёў полацкіх з дапамогаю баяр і то кіеўскаму, то чарнігаўскаму князю адбіваць паклоны давялося, заступніцтва просячы...

Думкі гневалі сэрца, і Ефрасіння, услухваючыся не ў думкі, а ў гукі раніцы, якая ўсё вышэла над ёю і над прастораю наддзвінскаю, чула не птушыныя пераэовы, што было б натуральна, бо пошум крыл і звонкія

птушыныя перазовы, здавалася, засланялі неба,— чула галасы, мноства людскіх галасоў. Яны, гэтыя галасы, не зліваліся ў гул і гучалі так выразна, быццам гучалі з-за пляча. Мінулае, блізкае і даўняе — адразу за плячыма?

Міжволі азірнулася. Раз і другі раз. Ад пагляду яе, ад таямнiча-халоднага бляску яго матлянулася ўбок сястра Маланння, але Ефрасіння папросту не бачыла спадарожніцу — не ўбачыла б, нават уткніся яна зараз паглядам ў збянтэжаны твар яе: думкі ігуменні былі далёка, галасы, якія яна чула, належалі не гэтае раніцы.

— Сафійскі звон не адну бяду страчаў і аплакваў!

— Хоць і вешчая душа ў яго харобрым целе...

— Сыноў Усяслава заложнікамі стала кіеўскага ў Візантыю сашлюць, памяці не збаяўшыся, не адно княжае імя з імем Усяслава звяжа.

— Грахі княжыя люд замольвае!

— І па жываце маім даянне маё не будзе аспрэчана...

— У Полацку званы гавораць — да голасу іх кіеўская Сафія прыслухоўваецца.

— Прыслухоўвалася...

— Морак і імжу агонь перамагае, а і з агню не кожан жывым выходзіць.

— Сонцам, што на шчыце, зямлю не сагрэеш.

— Грахі княжыя люд замольвае, ні лбоў, ні спін не шкадуючы, а ім — што малітва, што стогны нашыя!

— Далёка разышліся пісанні Кірылы Тураўскага, а і яму летапісцы славу не пяюць: князям славы не хапае...

— Храмы, у славу усявышняга ўзведзеныя, чалавека славяць!

— Пра сябе твой клопат, ігуменне. Азірніся на шлях свой...

Азірнулася. З-за высокіх соснаў, у прагале між

магутных галін іх, быў відаць толькі яркі краёк неба. Ні замчышча, ні манастырскіх сцен адсюль, ад ракі, было ўжо не ўбачыць, ды і не іх яна шукала невідушчым паглядам: галасы гучалі за плячыма, гады, перабытыя і не перабытыю ёю, гукалі да яе, і яна, Ефрасіння, то пазнавала, то не пазнавала іх, узіраючыся ў сцяну сасновага бору. Зноў і зноў чапляўся пагляд за яркі краёк неба, змушаючы яе азірацца. Быццам на кліч, на покліч чый.

Пamaліцца б за ўсіх, ад каго гасподзь і ў самыя горкія часіны не адступаецца, с в а ё й верай іх над бяссіласцю бязвер'я ўздымаючы. Так, так, памаліцца! За ўсіх. Як і належыць ёй, Ефрасінні, ігумені волю божаю...

Затрыманая гэтай думкаю, Ефрасіння кранула пальцамі нагрудны крыж свой — і як апяклася: пальцы ўздрыгнулі, успырхнулі і бездапаможна застылі ў паветры, перш чым упала рука,— ніводным словам ні на адзін, ні на другі рух не азвалася душа. Пуста было ў душы, ці мо не чула яна душу, ачышчальныя словы малітвы яе тут, над Дзвіною, адасобленая цёмнаю дзвінскаю вадою ад горада і Сафійскага сабора, што, здавалася, лунаў над сценамі яго,— вызначаць было не час. Чакаў перавоз. Чакалі на тым беразе коні. Чакалі манастырскія справы.

Рашуча ступіла да сходаў. Не крануўшыся пададзенай, падстаўленай для помачы рукі сястры Маланні, што неадступна следавала за ёю і не-не дый узіралася ўстрывожана ў яе крануты лёгкім ірдзенем твар, саскочыла на драўляны насціл. Пагляд ужо прывязваў, прыкоўваў яе да правабярэжжа, пагляд ужо імкнуўся апярэдзіць рух — ні разу не павярнула болей Ефрасіння галавы, ні разу не прыгадала князя і мэту свайго прыезду ў княжы пасад. Шлях, на які ўступіла яна некалі дзяўчынкаю, не ўпершыню натыкаўся на неразуменне, на душэўную глухату надзеленых княжаю ўладаю

мужоў і ўсё ж доўжыўся, вёў, гукаў яе: валадары з дружынамі сваімі харобрымі адыходзілі, воляю баяр і веча полацкага мяняліся (каторы ўжо князь-валадар на яе вяку!), а воля божая заставалася, і ёю, воляю гэтаю, вяршыла Ефрасіння справы даверанага ёй манастыра. І не толькі манастыра... Усе, хто ў славу Полацка і зямлі яго верыў, на яе, на славу гэту працуючы, знаходзілі ў Ефрасінні заступніцу — і раслі, багацелі кніжныя сховішчы манастырскія, і развіваліся (ні ўхвалы, ні платы не шкадавала яна за дасканалую працу), набывалі ўсё большы рынак рамёствы, і з'язджаліся адусюль у Полацк прываблены распачатымі ёю работамі майстры. Мір зямлі яе і ёй, Ефрасінні, быў запатрэбен, каб завяршыць справы і здзейсніць усе задумы. Дзеля гэтага і шчыравала, гордасці сваёй не саступаючы. Дзеля гэтага.

«Ты ўжо не памятаеш, як сястры сваёй Гардзіславе казала, што, калі б нарадзілася мужам і стала князем, іншага шляху пашукала б — каб памерацца сілаю з Яраславічамі, каб славу былую Айчыне вярнуць? Пэўна ж, ужо не памятаеш. Але ж — казала»,— з'едліва важкнуўся ў душы чыйсьці надломлены, з металічнымі ноткамі за наўмыснаю мяккасцю голас. Голасу Ефрасіння не пазнала, і ніяк на моўленае не адказала: чаго па маладосці не скажаш! Сілаю сілу льга змагчы, але і сваю сілу пры гэтым згубіш: падвернецца хто трэці — і зноў у васалах хадзі... Памяць не падкажа, дык летапіс скажа: аднойчы на ўсе гады наперад не перамагчы— ніхто не перамагаў і не перамог. Колькі хто ні паіў зямлю крывёю, а каб жыта на ёй расло, не меч, а саха ёй патрэбна. Здаўна. Адкуль яна, зямля, у неба глядзіцца.

«Ты ўжо не памятаеш...» Яна памятала. Яна даўно замаліла гэтыя грахоўныя словы, моўленыя ў хвіліну ўзрушэння маладога. Не гэтыя словы, а тыя, што ачышчаюць, узвышаюць душу чалавека, у душы яе ўзышлі,

сілу ёй, Ефрасінні, даўшы, і ў тым рука, воля госпада была. І ўсё, што слугуючы яму, адзінаму і вечнаму валадару, яна задумвала і вяршыла, павінна было звяршыцца, збыцца яе воляю. Цяпер ужо — яе воляю, яе ўладаю, богам і людзьмі ёй дадзенаю. І марна не падумаў пра гэта князь Расціслаў. Ёй жа, Ефрасінні, пра іншае — пра вечнае думаць. Зараз і да скону дзён сваіх.

Яе не будзе, а зробленае ёю — застанецца, і стаяць будзе, і ў памяць, як у вечнасць, урастаць будзе. З веку ў век. Мала, многа гэта, каб славу па смерці заслужыць, а ўжо ж не пашкадуе ні сябе, ні таго, хто на дарозе ўстане, каб задуманае здзейсніць. Яе, Ефрасінні, не будзе, а зробленае ёю — будзе!

— Манастырская брама наросцеж...

Ефрасіння здзіўлена зірнула на маладую мнішку: не да яе мовіла — як уголас разважала тая, забыўшы пра месца, ёй належнае ў прысутнасці ігуменні, і ўжо наважылася паўшчуваць строга яе, і як мага стражэй, за тое, што думкі яе перапыніла, што спакой яе парушыла. Але ў гэты момант сэнс сказанага сястрой Маланняй, вернуты ёй, Ефрасінні, збуджанай свядомасцю, змусіў павярнуцца ў бок манастыра, да якога яны набліжаліся: брама расчынена насцеж, у двары тлум... Ссунуліся, сышліся над пераноссем бровы. Пацямнелі вочы.

— Нездарма ж мы некалькі падвод, гружаных каменем, абагналі,— нецярпліва прыўзнялася ў вазку мнішка і тут жа села, выпрамілася, счырванела пад гнеўным позіркам ігуменні.

— Што гэта ты, сястра Маланння? Як словы на языку не ўседзяць, трэба язык зубамі своечасова прышчаміць і калі не малітву, дык манастырскую запаведзь згадаць.

Яны пад'язджалі. Ужо льга было пэўна сказаць, што ў двары манастыра, на вольным ад будынін пра-

межку яго адразу за брамаю, ішлі работы, даўно і дакладна спланаваныя ёю, Ефрасінняй,— не гэтым днём, дык іншым пачалася б завозка каменю для храма, і не гэта здзівіла яе, не гэта зацікавіла, прыкаваўшы пагляд. Камень згружаўся з дзвюх падвод і складваўся ўбаку, на такой адлегласці ад пляца, якую толькі дазваляла манастырская забудова, у цэнтры ж, на пазначанай загнанымі ў зямлю калкамі пляцоўцы, адшчыравалі над нечым трое ў манашым адзенні. У адным з іх Ефрасіння пазнала Іаана. Перш угадала, потым пазнала. Бо вось жа ён ужо няспешна павярнуўся да брамы, вось ужо, высокі, дужы і сваёю сілаю і годнасцю, ішоў насустрач Ефрасінні, якая саскочыла з вазка і вокам гаспадыні аглядала двор, ні на міг не выпускаючы з пагляду постаць манаха.

— Прымі мой паклон, ігумення,— схіліўся той за некалькі крокаў ад яе.— А як будзе жаданне... як будзе воля твая выслухаць мяне, пакладу да ног тваіх выяву храма, выбудаваны, вывераны абрыс яго ў лініях і разліках.

— Абрыс? — міжволі пашукала яна вачыма паабяцаны, нябачны абрыс.

Іаан усміхнуўся. Ці мо з самага пачатку гаворкі ўсміхаўся, не тоячыся, не тоячы толькі злёгку прыхаванай, прыглушанай словамі радаснай усмешкі.

— Што ж ты не паказваеш? — пастражэў голас і твар Ефрасінні.— І дзе сястра Еўдакія?

Апошняе яна спытала, злёгку павярнуўшы галаў да юнай сваёй спадарожніцы, якая ва ўсе вочы дзівілася на ўсё, што адбывалася ў двары, і тая са спалоханым: «я зараз!» матлянулася ў бок трапезнай. Спатыкнулася, не галаву, здавалася, а нервовы смяшок уцягнула ў плечы і знікла за дзвярыма.

— Адсюль, дзе мы стаім, ігуменння, добра відаць агароджаная калкамі пляцоўка,— павярнуўся, жэстам запрашаючы Ефрасінню зірнуць, Іаан.— Яна, як бачна,

невялікая і добра ўпісваецца ў даволі цесную прастору свабоднага ад забудоў двара.

— Пляцоўка — яшчэ не храм, Іаан.

— Але яна акрэслівае падмурак храма. Тут жа... Ануфрый, прылады! Жвавей!

Невысокі, згорбленаю, выгнутаю спіною сваёю падобны на гарбуна, манах з глюгаватым носам і шырока пасаджанымі кругленькімі вочкамі, якія, здавалася (кожнае — паасобку), пучыліся, вылазілі з-пад каротkіх, нябачных, як вышчыпаных вейкаў, не падбег, а неяк бачком, смешна перабіраючы нагамі, наблізіўся, і так, сагнуты ці то паклонам нізкім, ці то зніякавеласцю сваёй, і застыў перад ім. Перад Іаанам, які спакойна ўзяў у яго з рук ліповую, добра адваксаваную дошку і плошку з вугалем і гэтак жа спакойна, звыкла ўладкаваў, размясціў іх на загадзя падстаўленай спіне памочніка.

На момант-другі Ефрасіння, спрабуючы вызначыць узрост і паходжанне гэтага Ануфрыя, манаха з Бельчыцкага, як і сам Іаан, манастыра, нават забыла пра мэту гаворкі, калі ж падняла пагляд на Іаана, той ўжо рэзкімі, дакладнымі рухамі — роўнымі, выверанымі лініямі, якія пакідаў на дошцы вугаль, маляваў лёгкі, лёткі абрыс сабора, што ўстане тут, на пляцы, дзе яны зараз стаялі. Спярша гэта быў абрыс карабка, пастаўленага даўжэйшым бокам з захаду на ўсход, потым, калі над карабком, над апсідамі сцен узняўся хвалісты дах і з даху, цераз крыху ссунуты бліжэй да ўваходу цэнтр яго, пачаў вырастаць шалом купала, увянчаны спічастым крыжам, абрыс карабка ўвачавідкі стаў ператварацца ў абрыс невялікага, зграбнага ў сваім памкненні ўгору сабора.

А Іаан, ледзь завяршыўшы адзін малюнак, тут жа, побач, распачаў другі. Як бы знутры храма. Агалячы нутро.

І вось ужо не лініі, не контуры сцен бачыла Ефра-

сіння, а сабор, унутраную будову яго, якая нагадвала высечаны ў камені крыж,— чатыры масіўныя слупы-калоны падтрымлівалі аркі купала, яшчэ два такія ж слупы падпіралі каменныя, высунутыя ледзь не на сярэдзіну храма хоры, дзе хавалася, ціснучыся да вузкага ўсходняга акенца, келля. І ўсё гэта, разам, доўжылася, імкнулася ўгору — туды, дзе, амаль у зеніце, ззяла, ліло навакол сваё спакойнае ззянне неба.

Абое, і Ефрасіння і Іаан, які міжволі прасачыў яе позірк, узіраліся ў яркае не па-асенняму неба. І чым больш узіраліся, тым больш цямнелі іх прыкрытыя ад ззяння вейкамі вочы. Быццам не светлыя скляпенні небакраю сышліся над імі, а цёмныя, пачарнелыя ад часу скляпенні храма, якія танулі ў такой вышыні, у такім густым змроку, што сэрцы сціналіся ад адчування якойсь таямніцы, ці то закладзенай у самім будынку, ці то занесенай у яго пазней...

Глеб заўважыў, што стаіць пасярод тратуара, задраўшы галаву ўгору, да зацягнутага сонечнаю смугою неба, толькі тады, калі хтосьці ў спешцы наляцеў на яго і памянуў ці то чорта, ці то сябе, разяватага, ці то яго, Глеба, застыла-нерухомага і чужога не адно адвячоркавай гарадской мітусні, а і самому, далёка не завершанаму летняму дню. Зіркнуў услед мармытанню, якое хутка патанула ў гуле крокаў. Адышоўся бліжэй да краю тратуара. Агледзеўся.

Тралейбусны прыпынак быў непадалёку, і хоць на прыпынку люду не нашмат паменела, пік, першы вал яго, па ўсім было відаць, адкочваўся. Дзесяць-пятнаццаць хвілін — і льга будзе ехаць свабадней. Значыцца, трэба прайсці яшчэ квартал-другі, да наступнага прыпынку, і садзіцца там...

Згадаў Славу — і як папікнуў сябе згадкаю: нічога не растлумачыў хлопцу, не здолеў растлумачыць, а ў ім, у душы ягонай, што толькі прачынаецца, прарастае

зярнятка — у новыя дні, у новы век прарастае, і мо і ад яго, Глеба, залежыць, ці адужае парастак гэту цвердзь, і гэту адлегласць. Ці адужае... Бо вось жа і птах з распасцёртымі крыламі ў спякотным, расплаўленым сонцам небе ў Славы — не мара, а мэта. Чаму? Таму што мара недасягальная для стрэл, а мэту — любую мэту! — стрэлы даганяюць? Таму што мэты без страт не дасягнуць? Чаму?

## XXXIV

Запрошаны ў пакой і з выбачэннямі пакінуты ў ім на некалькі хвілін, Кіцын з цікавасцю агледзеўся: у вядомага ж пісьменніка ў гасцях. Вядомага, праўда, толькі знаўцам літаратуры і гісторыкам (бо якая ж гэта вядомасць, як у Маскве, не кажучы, чуць пра такога не чулі?), але ж ладныя томікі ягоных кніг і ён на свае вочы бачыў, не адно ў кнігарні, а і на паліцах шмат у каго. Скарбу з іх Ляховіч, пэўна ж, не нажыў: тое, што жыў не з сучасным размахам, беднавата, Місь заўважыў, як кажуць, яшчэ ад вешака. Вышмальцаваная, пацёртая дывановая дырожка адным сваім канцом упіралася ў колькі пар яўна не новага абутку, другім — прыкрывала расхістаныя, пачарнелыя ад часу шчэрбіны паркету. На сцяне — кручкі вешака, рэпрадукцыя рэпінскіх бурлакоў на чэрвеньскай старонцы перакіднога календара, цёмная драўляная фігурка пакутніка са святых ці апосталаў з адламанай рукою, знойдзеная, няйначай, дзе-небудзь на сметніку разбуранай цэркаўкі. Тут, у пакоі — сцены кніг. Нічога, апроч гэтых сцен-паліц, застаўленых, закладзеных кнігамі, часопісамі, пузатымі (пад завязку) папкамі, і пісьмовага стала ля акна, да якога прымасціліся два просценькія крэслы, не было. Ды і тое, што было (нават кнігі),— было старое, пад колер пылу.

Сцепануўшы плячыма (дзівак гэты Ляховіч, ці мо

проста няўдачнік!), Місь страціў цікавасць да жытла і нецярпліва таптаўся ля адной з паліц — чакаў гаспадара.

— Яшчэ раз перапрашаю,— з'явіўся той ужо без піжамнай курткі, у хатнім пуловеры, і жэстам запрасіў Міся прысесці.— Запрацаваўся і не зірнуў на гадзіннік. Здараецца. Вы мяне зразумееце.

— Ды пра што гаворка, Міхась Пятровіч! Гэта я напрасіўся недарэчы зусім... Вы дазволілі прыйсці — і я прыйшоў. І я вельмі ўдзячны вам за гэту магчымасць.

— Ну, вось, усе свецкія словы згаданы, знешняя прыстойнасць захавана — можна і да больш істотнага вападступацца,— Ляховіч смяяўся, смяяўся аднымі вачыма, дзе скакалі ў гэта імгненне вясёлыя чорцікі, і пільна сачыў за госцем, які пачуваў сябе яўна няўтульна, хоць сядзеў у свабоднай раскаванай позе і шырока ўсміхаўся на пачутае.— Чым магу, як кажуць?

— Я не ведаю,— сарвалася ў Міся, і ён незадаволена прыкусіў губу, спахмурнеў, уздыхам сцершы робленую ўсмешку.— У мяне забіраюць фільм.

— Забіраюць? Які фільм?

Другі раз за сённяшні дзень абазваўшы сябе ёлупам (чаго, запытацца, прыпёрся?), Місь прываліўся да спінкі крэсла і паспрабаваў узяць сябе ў рукі: ішоў жа з гаворкаю — мо не да таго, да каго трэба, ды не ўцякаць жа, ледзь прыйшоўшы. Карысці вялікай, па першых словах відаць, чакаць няма чаго, але ж сёе-тое ўразумець цераз гэтага «абаронцу гісторыі нацыі» (нездарма ж, мусіць, яго так называюць) не зашкодзіць.

— Пра які фільм гаворка?

— Пра той, які я столькі часу адстойваў ва ўсіх інстанцыях. Пра гістарычную стужку часоў Ефрасінні Полацкай, калі вы памятаеце тое неправедзенае абмеркаванне ў студыі.

— «Спа-ку-са», так здаецца?

— Гэта папярэдняя назва. Мелася на ўвазе спакуса чалавека страсцю ці каханнем, калі па-сучаснаму. Мной — мелася на ўвазе. Цяпер жа, калі фільм, па сутнасці, забралі...

— Але ж, наколькі мне вядома, пра карціну і гаворкі яшчэ не было. Як жа і хто можа забраць тое, што толькі ў планах значыцца як фільм? Нешта вы тут, прабачце за міжвольны папрок, блытаеце.

— Ды не блытаю, Міхась Пятровіч, не блытаю! — тузануўся ў крэсле Місь і тут жа, супакойваючы сябе, упіўся рукамі ў парэнчы, ажно прыўзняўся крыху на руках.— І я не прыйшоў бы да вас, калі б у дырэкцыі не сказалі, што рашаючай была ваша — ваша, Міхась Пятровіч, нязгода з маім падыходам да гісторыі, да будучага фільма, да ўсяго таго, што адзін чорт ведае направду.

— Нічога не разумею.

— Хіба вы не казалі Міканору... Дубцу, гэта значыць, што вы супраць таго, каб я, Кіцын, здымаў гістарычны фільм? Што ў мяне, Кіцына, няма нацыянальнай самасвядомасці?

— Прабачце, таварыш Кіцын,— падняўся з крэсла Ляховіч,— але ў мяне занадта мала вольнага часу, каб выслухоўваць усё, што нехта недзе за мяне і ад майго імя казаў ці мог сказаць. Тое, што я меўся выказаць, ні сцэнарыя, ні рэжысёрскага плана, як вы ведаеце, у вочы не бачыўшы, я выказаў на пасяджэнні рэдакцыйнай калегіі пры кінастудыі. У вашай прысутнасці. І гэта ўсё.

— Але ж я... Мне даводзілі...— як урос той у крэсла, марна сілячыся падняцца, адарваць ад парэнчаў здранцвелыя раптам рукі.

— Калі вы пазванілі, я падумаў, што вам — для работы! — патрэбна мая парада. Ну, калі не парада, то проста згода ці нязгода з вашай канцэпцыяй будучага фільма, выверанай папярэднім глыбокім вывучэннем

праблемы і тых матэрыялаў, якія ёсць у наяўнасці. У разблытванні ж студыйных інтрыг і плётак нічым дапамагчы не магу. Рашуча не магу.

Ляховіч злёгку абапіраўся на стол і пазіраў паўз свайго госця, які, змушаны суровымі словамі, падняўся гэтаксама і, не ведаючы, куды дзець зацёклыя, здранцвелыя ад напружання рукі, чырванеў — пачынаючы ад шыі, паступова, усё вышэй, да самай плешыны, наліваўся густой чырванню.

— Стала звыклым шмат гаварыць, яшчэ больш мітусіцца, прыстройваючы свае словы і справы бліжэй да цяплейшага, сытнейшага месца,— на мой вялікі жаль, і сярод людзей мастацтва таксама, не ў меншай ступені, а мажліва, і ў большай. А трэба — працаваць. Кожнаму — працаваць над тым, да чаго пагукала душа, да чаго абавязвае прызванасць. Перапрашаю за тое, што выказваю школьныя ісціны, але гэта тычыцца мяне гэтак жа, як вас.

Словы прагучалі холадна, адчужана. І, здавалася, Місю нічога лепшага не заставалася, як гэтак жа холадна падзякаваць і адкланяцца. Але, пакрыўджаны, больш таго — раззлаваны чарговай сваёю няўдачаю і немагчымасцю, як ён зразумеў, ніколі ў будучым звярнуцца да Ляховіча з просьбаю ці гаворкаю (тон Ляховіча гаварыў сам за сябе), ён быў ужо не здольны разважаць і разважаць спакойна, як таго патрабавала хвіліна. Таму, наважыўшыся ісці (нават зрабіў ужо крок-другі), спыніўся. Усім тулавам павярнуўся да Ляховіча і, наструнішыся, набычыўшыся, калі дакладней, пазіраў ва ўпор, са злосным асуджэннем. Міг. І другі. Быццам чакаў якогась руху насустрач. Калі ж не толькі руху, а і позірку Ляховіча, засяроджанага на чымсьці сваім, далёкім, не перахапіў (нібы не было яго, Міся, ужо ў пакоі), зазлаваў.

— Я разумею, што прыйшоў не да сантэхніка, але ж і я не папуас ці нейкая там калякіношная мошка,

на якую можна зважаць або не зважаць, а заслужаны работнік культуры, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі і тэдэ, і тэпэ. Як няма вашай віны ў тым, што фільм мой перададзены іншаму рэжысёру, так і скажыце: мне, Кіцыну, не ласка ваша, а яснасць патрэбна. Для таго і ішоў. Прызванасць, праца, ісціна... Гуляць можна ў што заўгодна, і тое, што гэтыя словы чысцейшыя, чым іншыя, яшчэ не гарантуе чысціні намераў. І слова — як прыхаваная да часу ігральная карта...

— Прабачце, прызванасць, праца, ісціна для вас — словы толькі?

— А для вас, Міхась Пятровіч? — нахабна, ужо забыўшыся на сваё нядаўняе здранцвенне, усміхнуўся Місь.— Толькі не трэба лекцый з курса лікбеза! Не навічок, дзякуй богу, у мастацтве, ведаю, хто чым бярэ, прыгожыя словы агладжваючы і так і гэтак. Хто — словы, а хто, не пакрыўдуйце, не пра вас сказана,— азадкі начальнічкаў ці іх сакратарак. І я — асабіста я, Кіцын, нічога заганнага ў тым заведама не бачу. Не намі заведзена, не нам, як кажуць, у распыл пускаць. Знаходзяцца сяды-тады праведнікі, не без таго,— вось і вы на мяне, як на гразь пад нагамі, дзівіцеся! — толькі праведнікі прыходзяць і адыходзяць, а свет такі, які быў, і будзе, нягледзячы на ўсе запаведзі і запаветы, і кожны, хто жыве,— мусіць жыць у ім. Мусіць жыць па яго законах: не ты — дык табе, не наступіш — дык адступішся... Я, Кіцын, адступаюся рэдка.

— Гэта адчуваецца,— лёгкім рухам адкінуў з ілба валасы Ляховіч, і ў гэтым руху, як і ў словах яго, Місь угледзеў непрыхаваную пагарду.

— Не бачу патрэбы хаваць,— шкрабануў ён растапыранымі пальцамі паветра.— Спакуслівa — застацца ў чыёйсьці памяці праведнікам, нічога не скажу: спакуслівa. Сам перахварэў... Дасюль прыгадваюцца спадзяванні, больш падобныя да маніфестаў, па-юнацку наіўных і, як тады здавалася, непарушных. Але мані-

фест на плечы не ўсцягнеш: не тая фактура, як кажуць, і непарушнага ў жыцці мала, а то і, калі прыгледзецца, зусім няма. Жывы ж — значыцца, мусіш жыць. І жыць лепей, вальней — даражэй, чорт вазьмі! — за іншых, гэтаксама спакусліва. Той, хто аспрэчвае гэта — хлусіць. Будзьце ўпэўнены: хлусіць, і найперш сабе. Бо і ён жа жыве не з манны нябеснай.

— І пры чым тут гістарычны фільм, дазвольце пацікавіцца? — задумліва пакусваючы вусны, холадна ўглядаўся ў свайго госця Ляховіч.

Той на момант сумеўся. Але толькі на момант, бо тут жа гучна пляснуў сябе па баках далонямі і адазваўся:

— Але ж і вы, Міхась Пятровіч, аднаўляеце княжыя міжусобіцы і гульбішчы, а не ўсхліпы затузанай работай даяркі. Ці не так? І не трэба, не трэба пра нацыянальную самасвядомасць, пра гісторыю народа і абсечаныя карані — чуў! Хто ведае, што на тых каранях расло, а вось жа, з кнігі ў кнігу, з фільма ў фільм,— і прэстолы хістаюцца, і браты адзін аднаго губяць, і каханкі іх раны залізваюць. Усё, няйначай, як і сёння, на згубных чалавечых страсцях трымаецца. Толькі былое (і чым глыбей, тым лепей) страсці гэтыя асвяціць могуць, а сённяшняе, сённяшнюю рэчаіснасць — ні-ні! Бо якая ж даярка, ці, тым больш, інтэлігентка, раны каханаму залізваць будзе? А і будзе, дык сказаць пра такое не пасмееш, бо тут жа ў маральнай нечыстаплотнасці абвінавацяць, цынізмам папікнуць.

— Які́м малым, які́м бяздухоўным вы — вы, рэжысёр,— уяўляеце чалавека,— спахмурнеў Ляховіч, міжволі змерыўшы позіркам цяжкую, зацiснутую ў джынсавы касцюм постаць суразмоўніка.— І, што самае горшае, нават не разумееце прычыны.

— Можа, вы растлумачыце? — на ўсе зубы ўсміхнуўся Місь, хоць чарвячок сумнення (не той, не той тон з Ляховічам!) ужо тачыў растузаную, аглухлую душу.

— Мерка, якой звычайна мераеш чалавека,— у табе самім. Ты сам. Такі, якім стаў свядома ці несвядома.

Місь не адразу зразумеў, бо па-ранейшаму, на ўсе зубы, усміхаўся, агладжваючы бакі рукамі. І нават тады, калі словы ўрэшце азваліся ў ім і ў позірку мільгануў злосны бліск непрыняцця, адчужэння, рот яго, выскаляючыся двума залатымі зубамі, не закрыўся. Не закрываўся.

— Мне застаецца толькі развітацца з вамі,— абмінуў яго перш позіркам, потым рашучымі крокамі Ляховіч і шырока расчыніў дзверы ў прыхожую.— Прашу...

(Вядомае старое выслоўе: «Час — гэта вужака, якая кусае свой уласны хвост», не можа не выклікаць, хай сабе і зрэдку, рашучага пратэсту. Бо як жа так? Жывое змяістае колца, у якім рух перацякае ў сябе самога цераз боль укусу, атрутны і небяспечны, увасабляе вечны, адно гэтым рухам падзелены на ўмоўныя прамежкі, што тут жа распадаюцца і знікаюць у змроку мінулага, час? Адкуль жа тады наша святая ўпэўненаць, што мы рухаем час наперад, што мы доўжым яго сваімі цярплівымі высілкамі і неўміручым спадзяваннем на лепшае — на лепшыя дні, на лепшую долю? Адкуль — на кладзішчы гэтулькіх стагоддзяў?

Пытанні не новыя. Праўда, і не будзённыя — штодня не ўсплываюць. Але ж, і не новыя і не будзённыя, яны напаўняюць душу смуткам. Смуткам па нечым таямніча-невядомым, нікім, ніводным з нас, жывых і мёртвых, не вытлумачаным. Мо гэта смутак па сабе саміх, іншых. Пякнейшых. Ці дабрэйшых. Ці дужэйшых. Ці проста багацейшых — на здароўе, на грошы, на шчасце... Адным словам, іншых. І калі б ільга было сцежку адпаведную падабраць, глядзіш, і высветлілася б якіх. Толькі скрозь атрымліваецца: варыянтаў мноства — сцежкі ні адной.

Вужака, якая кусае свой уласны хвост... Што гэта — Млечны Шлях? Проста — рух па крузе? Ці кароткая формула той філасофіі, якая тлумачыць рух жыцця, рух гісторыі рухам па спіралі?

Славутая ў вучоным свеце спіраль гэтая мае, канечне, перавагу. Хоць бы ў тым, што больш дакладна нагадвае тую вужаку. Бо хто гэта прыгадае вужаку, скручаную ў адно толькі колца! — чым большая, чым даўжэйшая яна, тым больш колцаў, адно ў адным, скручаны ў ледзь заўважны, хвалісты рух. Незаўважна, пругкімі хвалямі сціскаюцца гэтыя жывыя колцы ўкруг таго, што трапіць усярэдзіну,— не так набліжэнне канца, як рух гэты страшыць жывога, скоўвае яго смяротным жахам.

Помню даўні выпадак. Даўнюю смерць, якую ўсвядоміла як смерць не тады, на вачах (і чатырох год мне тады не мінула!), а пазней, значна пазней, з гаворак і згадак дарослых. А было гэта так. Дом наш стаяў паблізу ад насыпанай з жарствы шасейкі, на пясчаным пагорку, які паціху асыпаўся, апаўзаў, агаляючы няроўныя камяні падмурка. Вось у гэтых камянях, мусібыць, і жылі вужакі, цэлае сямейства іх, як потым высветлілася.

Той дзень, які я згадваю, быў пагодлівы. Сонца, перакаціўшыся цераз высокую страху, вісела над самаю выспаю, і дробны, сыпкі пясок угрэўся так, што зверху, некрануты, спачатку, па першым слядку, нават абпякаў босыя мае ступакі. Гуляцца з ім, перасыпаць з месца на месца, а то і з адной кішэнькі ў другую, было прыемна: пясок уяўляўся жывым, рухомым — чым мацней заціскала ў жмені, тым хутчэй ён высыпаўся, выцякаў цераз сціснутыя пальцы, і дзівілася я на гэта доўга, толькі зрэдку падымаючы позірк на Доцю (Доця — гэта баба Аўдоцця, маці следчага, які жыў у суседняй кватэры), што драмала, прысеўшы на прызбу і выпра-

стаўшы на гарачы пясок ногі. Яна драмала, я гулялася. Пакуль мне не надакучыла.

— До-ця! До-ця! — загукала, караскаючыся па пяску ўгору, бліжэй да старой.

Яна лыпнула вачыма, абаперлася дзвюма рукамі на прызбу і памкнулася падняцца. І як здранцвела раптам — з растапыранымі локцямі і як прыраслымі да каменю далонямі знерухомела. Бязгучна адкрыўся і закрыўся колькі разоў яе бяззубы рот, яшчэ глыбей, так, што ўжо і не ўгледзець было іх бляску, праваліліся некуды вочы...

І тут увагу маю прыцягнула іншае. Мабыць, і ў мяне, як у старой, колькі разоў адкрыўся і закрыўся рот: гэткага я яшчэ не бачыла. За два крокі, за тры, як не за два, якраз на ўзроўні пагляду (стаяла ж крыху ніжэй), там, дзе цёмныя, парэпаныя ад старасці ці ад таго, што ад снегу да снегу хадзіла басанож, адно даўгою спадніцай іх прыкрываючы, тырчалі з пяску ногі бабы Доці, варушыліся, тугімі хвалямі пераліваліся адно ў адно жывыя бліскучыя колцы — толькі таму, што ў гэтым руху не патаналі, не хаваліся сплюснутыя бабіны пальцы з цёмнымі пагнутымі пазногцямі, ільга было здагадацца, вакол чаго закруціліся, завіліся гэтыя колцы: вакол ног Доціных!

Зацікаўленая, зачараваная гэтым жывым бляскам, гэтым незвычайным, ніколі раней не бачаным рухам, палезла, спатыкаючыся і глыбока ўзворваючы пясок, вышэй. Зноў памкнулася загаварыць да Доці і падняла пагляд. Ля самых ног яе амаль. За міг да свайго руху ў бок вужакі. Зірнула — і не пазнала старой: у бледны, выцягнуты твар, бледны нават у застрэшку завязанай пад бараду паркалёўкі, глыбока ўразаўся балючы выгін сухіх, скрыўленых вуснаў яе, цёмныя вачніцы здаліся б пустымі, мёртвымі, каб не сутаргавы, наўскос, рух зморшчын, якія быццам выцякалі адтуль, знутры, з цёмных прагалаў, выцякалі і, тузануўшыся, выгіналі,

крывілі вусны. Яшчэ і яшчэ. Усё больш запаволена і рэзка.

Я, пэўна ж, не ведала (адкуль мне тады было ведаць?), што гэта сутаргі страху — перадсмяротныя сутаргі, а закрычала. Быццам хтосьці ўва мне, малой, хтосьці, хто ведаў, хто прадбачыў гэта, закрычаў што ёсць моцы. Закрычаў і крычаў, цягнуў сваё «А-а-а-а!», пакуль з суда — цераз двор — не прыбег бацька, не падхапіў мяне на рукі, мякка заціскаючы даланёй скрыўлены крыкам рот.

Баба Доця была ўжо ў той момант мёртвая. Яе час закончыўся. Закончыўся страшна. І — незразумела. Бо ўжо ж ёй, старой, было вядома, што вужакі ўвогуле бяскрыўдныя істоты і ўкус іх не смяротны.

Згадваючы гэты даўні выпадак, даўнюю, першую ўбачаную мною смерць, спрабую зразумець, адкуль мне было *вядома, чаму я закрычала*.)

Мерка любога чалавека у табе самім, ты сам... Прарок, быч, знайшоўся! Ву-чы-цель! Жыве горш, няйначай, як грузчык, а туды ж — вучыць! — каўтаў Місь злосныя думкі, ледзь не носам уплішчыўшыся ў акно, у шырокую аўтобусную шыбіну.

Меркі, меркі... Усёй меркі, што талерка — або ў цябе, або ў каго іншага пад носам, і лічы не лічы, а вегетарыянцаў сярод людзей няшмат набярэцца — любому кус мяса падавай. Ды яшчэ каб тлусцейшы. Ды яшчэ каб з кроўю. А як жа. Не дадуць — выдзера!

У яго, Кіцына, дзякаваць богу, выдраць не так лёгка. Што ўхапіў у свой час — ягонае, і сваім, хай не чакае сёй-той, ён не падавіцца, не. Пісьмо ў Маскву адпаведнае адпраўлена, і Міканор, нідзе не дзеўся, падпісаў, і не адзін Міканор — так што, чыя возьме, яшчэ невядома. А што Ляховіча саюзнікам не зволеў зрабіць... Дык пляваць яму на Ляховіча: прарок, бач, знайшоўся!

— Дзядзя, вас нехта пакрыўдзіў?

Уздрыгнуўшы, Місь падняў вочы: з пярэдняга сядзення, з-за матчынага пляча аднекуль, пазіраў на яго белагаловы хлапчук (гады чатыры было маламу, не болей) — пазіраў з разуменнем, нават, як здалося яму, са шкадаваннем.

— Што?! — пытанне вырвалася міжволі, і ў ім чулася разгубленасць, мо і часовая, а разгубленасць.

— Вось, вазьміце! — высунулася, узнялася вышэй тварыку, пакрытага вясёлым рабаціннем, рука, ў якой была заціснута цукерка ў прыгожай яркай абгортцы.— Мне не шкада. Ніколечкі. У мамы яшчэ ёсць...

## XXXV

Ёсць, выпадаюць такія дні ўлетку, калі пагляду не ўгнацца за небам. То пабягуць аблачыны, каб распачаць сваю спрадвечную гульню, і, з дапамогай ветру, яўна дужэйшага, больш вёрткага там, угары, доўга перакідваць, перахоўваць, у самім руху, здаецца, перахоўваць штоміг сонца. То раптам як расплавяцца яны ў сонечным ззянні і адплывуць за далягляд, а ў белаблакітных промнях яркага святла знікае не толькі гарачае сонца — сама вышыня. То роўнымі, шырокімі хвалямі накоціцца, папаўзе нізка над галовамі смуга і патыхне аднекуль з-за смугі вільгаццю і зусім не летнім халадком. То пачне раскручвацца і, набліжаючыся, расці цёмная, ледзь прыкметная напачатку пляміна недзе на захадзе, і вось ужо наплывае, гасіць святло хмара, каб тут жа праліцца на зямлю кароткім раптоўным дождджыкам і растаць, зноў аддаючы прастору сонцу і ветру.

Якія там гадзіны! Колькі хвілін міне — і новае асвятленне, колькі разоў падымеш угору вочы — і новае, новымі фарбамі расквечанае неба!

Не сказаць, каб занадта часта ўглядалася ўвысь Ефрасіння, але не-не і падымала вочы ад зямлі, ад ня-

роўнага (дзе густа, дзе пуста) радка маладога бурачніку, які вяла, прарэджваючы, парасткі, з канца ў канец доўгага, зацвярдзелага без добрага дажджу поля. Без дажджу... Ужо ж, тым, што сыпане хмара жменю-другую дробных бліскучых кропель, поля не напоіш.

— Што выглядаеш, сяброўка? — гукнула, азірнуўшыся на яе, Наста.— Дождж? Не паказвае на дождж, не-а. Вецер задужа высока ўзняўся, любую хмару адгоніць, не паспеўшы выдаіць.

Ефрасіння моўчкі кіўнула і зноў сагнулася над усходамі буракоў, над рукамі, якія шчыравалі, завіхаліся ля парасткаў, не перашкаджаючы думкам. Неба небам — не ў яе волі было абярнуць яго дажджавою хмараю, а праца працаю. Не дагледзець поля зараз — гэта не ўзяць з яго нічога ўвосень. Думкі ж... Думкі, неспакой іх нагадваў гэты дзень з яго ветраным, зменлівым небам: яны то адгукаліся ў душы цяплом — і тады ярка ўспыхвалі даўно, здавалася, мёртвыя спадзяванні яе на нейкія шчаслівыя змены і для яе, Ефрасінні, і для пастарэлай, старой вёскі, то раптам цьмянелі, набракалі халоднаю церпкаю тугою — і тады сціскалася сэрца ад збуджанага наноў недаверу.

Вось прыйшоў ліст ад Глеба. Радавацца ж таму, што ён піша, ці не радавацца, а счакаць, прычакаць новай весткі і новых, абяцаных сынам падзей, не адразу і ўцяміла. Дагэтуль усё мяркуе і разважае. Не, спачатку яна ўзрадавалася: другую нявестку, дасць бог, зайдзе! — потым жа ўстрывожылася: і словам Глеб не памінаў яе раней, дома быў нядаўна, а пра Святлану сваю і не азваўся. Ужо ж, гадай не гадай цяпер яна, Ефрасіння,— прычыны не ўгадае. Хоць і тое, што хацелася ёй верыць, паверыць і ў прыезд новай настаўніцы, Святланы гэтай, і ў сынава вяртанне, і ў хуткае вяселле яго, пасля якога льга будзе і нагаварыцца і надзівіцца на іх, на маладое іх шчаслівае жыццё, само за сябе сведчыла. І ліст жа быў, у лісце ж гэтак і напісана.

Ефрасіння дасюль і Насці не абмовілася. Трэцяга дня ліст паштарка прынесла — Наста і пыталася ўжо, што і як там, у Глебкі, а ў Ефрасінні штораз як мову адымала: раптам скажа — і сурочыць неўзнарок? Раптам пахваліцца — і спадзяванні пустымі словамі абернуцца?

Разагнулася, павяла плячыма, каб паслабіць, зняць напружанне ў здранцвелай ад адной і той жа працы спіне, павяла позіркам, каб у сонечным мроіве ўгледзець папалам перагнутыя постаці жанок, і зноў схілілася, памкнулася, услед за рукамі, уздоўж няроўнага зялёнага радка злёгку прывялых на сонцы парасткаў.

Пагорак няспешна, амаль незаўважна ў гэтай сваёй няспешнасці спаўзаў да лесу. Да густога кустоўя алешніку ўскрай поля і ўскрай лесу. Далёка правей падпірала небакрай глухое, трывожнае маўчанне старога кладзішча, злева і бліжэй, у лугавіне, калі спыніцца і ўслухацца, ціха пагойдваў спелы свой шолах мурожнік. Угары цененька звінеў жаўранак... Знаёмыя, чутыя і перачутыя хвіліны!

Чутыя і перачутыя. А вось жа зноў і зноў слухала іх Ефрасіння. То свядома — і тады выразна, трапятліва-гучна адбіваўся ў душы кожны гук, то несвядома, безуважна — і тады гэтыя хвіліны самім сонечным святлом, здаецца,рухам, здаецца, перацякалі ў яе, перапаўняючы будзённаю і ў гэтай сваёй будзённасці зусім някідкаю радасцю — радасцю ад таго, што доўжылася жыццё, і ўзыходзіла над ім неба, і саграваала неба і зямлю сонца, радасцю, якая адна і была суцяшэннем і ўзнагародаю, усведамляла Ефрасіння гэта або не.

Не, ёй, Ефрасінні, як і большасці людзей, і ў галаву не прыйшло б — не прыходзіла ніколі! — неяк пазначыць, неяк выказаць гэтую сваю радасць. І ў галаву не прыйшло б. Мо таму, што думкі скрозь, колькі помніць, былі трывожныя, вярэдлівыя — не заўсёды магла і ацерабіцца, мо таму, што не ў іх, не ў думках, шукала

і знаходзіла адхланне. Спытайся хто, у чым, як не ў думках,— пэўна, не знайшла б, што адказаць. У працы! Ужо ж, без працы яна, Ефрасіння, і дня не пражыла. У любві да дзяцей сваіх? Ужо ж, найперш у іх, у дзецях, раслі парасткі яе пяшчоты, яе веры. У песні? І ў песні, калі яна пачынала гучаць, калі гукала. Усё так. Але ж было і яшчэ нешта. Што?

Дзед яе, Ігнацій Смык, звычайна казаў: шчасліваму шчасце. І ўсе пагаджаліся.Ківалі. Але, але. Шчасце даецца таму, хто шчаслівым уродзіцца. Старыя што марна не казалі. Шчасліваму шчасце, лепей не разважыць. Было і будзе. Неаднойчы жыццём пацверджана.

Слухаючы, дзед Ігнацій хітравата, у вусы, усміхаўся. Але, але. Лепей не развражыш. А ледзь толькі заставаўся адзін, сам-насам з сабой і сваёй работаю, тут жа пачынаў развражаць. Уголас. То весела мармычучы словы пад нос, то звычна звяртаючыся да чурбака, з якога выразаў чарговага людскога заступніка:

— Ты думаеш, святы ўгоднік, што людзі ведаюць, чаго прагне душа іх? Не ведаюць, не. Бо не чуюць. Ні ў табе, ні ў сабе душы не чуюць. Дзе ж яе ўчуць, як плоці сваёй век дагаджай — не дагодзіш? Ды і тое... Світка на плячах распаўзецца — кожнаму відаць, нутро вынетрае, на церуху сатрэцца — аднаму богу ўгледзець. Гэтак каторы развражае, па сабе, па розуму свайму словы падбіраючы. А таго не ўкеміць, гарапашнік, што плечы хоць і абы-чым укрыць ільга — не світкаю, дык ношкаю сагрэешся. Душа ж абносіцца, на церуху ператрэцца — адно і застанецца ад чалавека, што ўтроба — мяшок з касцьмі, кішкамі знутры перавіты.

Слабы чалавек? А чаму слабы, скажы? Ці не таму, што скрозь за ўсё ўзнагароды чакае? Поле потам сваім палівае, пакуль корміцца з яго, а зманіць хто збоку лягчэйшым кавалкам хлеба — кіне поле: хай пустазеллем зарастае, у пустку ператвараецца. І зарастае. І зарасце! — не адно пустазеллем, лесам зарасце, пакуль азір-

нецца чалавек, укеміўшы, што камяністы пагорак той — пагорак долі ягонай, што трава парасла і лес падняўся — там, дзе будучыня яго, гарапашніка, пахавана, ім жа самім пахавана.

Ты думаеш, святы ўгоднік, што не казаў, не кажу я людзям гэта? Казаў. Ды што словы — хоць мае, хоць гасподнія — тым, хто не чуе, кожны свой кус жуючы? Слухаюць. Ківаюць. Выцершы пальцы аб нагавіцы, да лба цягнуцца, каб па даўняй звычцы перахрысціцца на згаданае імя гасподнherа. А адвернуцца — зноў увесь клопат пра жывот... Не асуджаю я іх за гэта, не. Адвеку так ідзе. І не ў асуд людзям кажу — шкадуючы. За глухату, за слепату іх шкадуючы.

Вечная прымаўка мая: шчасліваму шчасце. Таму вечная, святы ўгоднік, што шчасце спакусы ўсялякай пазбягае: не ў свірнах, не ў скрынях нашых жыве, а ў душах.

— Ты з кім размаўляеш, дзеда? — запытала яна, дзяўчынка, неўпрыкмет і са здзіўленнем выслухаўшы аднойчы разважанні старога.

— А з ім і размаўляю,— павярнуў ён да яе чурбак, з верхняга канца ўмела апрацаваны: пахіленая набок галава ўгодніка ўжо добра вырысоўвалася.

— Ен жа нежывы! Ен жа калодка!

— Хіба?! — пакруціў дзед чурбак так і гэтак, знарок пільна ўзіраючыся ў яго і хаваючы ў пышных вусах усмешку.— Ану, хадзі бліжэй, унука, разам падзівімся.

— Новую казку раскажаш? — узрадавалася Ефрасіння і падбегла, і прыхінулася да дзедавага пляча, і пацерлася шчакой аб яго шурпатую шчаку, лашчачыся.

— Казку? Хай сабе і казку. Толькі ж усе казкі, унука, праўду кажуць.

— І самы-самы цуд у іх узапраўдашні?

— І самы-самы цуд. Казка ж, якую ні вазьмі, чала-

векам складзена, ага? А ў чалавеку ўсяго намешана. І цуд ёсць. У табе, ува мне... Не ў руцэ, не! — марна на руку дзівішся, марна ў жменю зазіраеш, унука. Не там трэба шукаць.

— А дзе?

— Дзе? — павярнуўся ён разам з зэдлікам да Ефрасінні.— У душы. Хіба я не казаў?

— А настаўніца казала, што ніякай душы няма, а бог — гэта... гэта... Вопіум для народа, вось хто твой бог!

— Які яшчэ вопьюм?

Дзед пакрыўдзіўся. Перастаў пагладжваць вусы і пазіраў, зіркаў на яе спадылба нязвыкла сурова. Потым незадаволена крэкнуў, рашуча адсунуўся і, павярнуўшыся да распачатай работы, быццам і не было яе, Ефрасінні, тут, пад паветкаю, загаварыў да чурбака:

— Бачыш, святы ўгоднік, як складна сёння ўсіх неразумных і разумнікаў вучаць: і душы няма, і цябе, значыць, няма, і мяне, старога, няма чаго слухаць, мы з табою даўно ўжо нікому не ўказ і не навука, а калоды бяздушныя — хоць у печ кідай, хоць у дол закопвай.

— Касьяна Янаўна пра цябе не казала, дзед,— ледзь магстрымлівала слёзы, што пяклі ўжо вочы і вось-вось маглі пакаціцца па шчоках, Ефрасіння,— толькі пра бога твайго.

Дзед і плячом не павёў на яе словы. Як не чуў. Узяў долата, раз-другі павярнуў управа-ўлева чурбак і пачаў адколваць, агладжваць лязом дрэва, вызваляючы з яго толькі яму бачную лінію.

Хвіліна мінула, другая, трэцяя, а ён шчыраваў, захоплены працаю ці тым, што бачыў, угадваў за кожным сваім дакладна разлічаным рухам, і, здавалася, помніць не помніў больш ні пра гаворку, ні пра крыўду сваю, ні пра яе, Ефрасінню, разгубленую, і на міг не здольную засумнявацца ў праўдзе Касьяны Янаўны, у якой вучылася ўжо чацвёрты год. Разгубленую ад

таго, што верачы, безумоўна, настаўніцы, не магла адпіхнуць і дзедаву якуюсь праўду. Якую, не разумела. Але ж, пэўна, была яна, гэтая яго праўда, калі гэтак пакрыўдзіўся дзед за яе.

Слёзы, не праліўшыся, адступілі — і ўсё вакол зноў бачылася Ефрасінні не ў бела-чорных плямінах, а выразна і акрэслена. Як раней. А маўчала, бо ў горле перасела. І відаць, надоўга. Ці то слязінка, так і не зглынутая, ці то слова якое не прамоўленае гарчыла: ужо і памкнецца яна гукнуць да дзеда, прабачыцца, а гарчынка тая, перасела ў горле, не дае, перапыняе.

— Зірні сюды, унука,— адхінуўся ад работы, развінуў плечы дзед Ігнацій (усё ён бачыў, усё разумеў!).— Хоць адтуль, дзе стаіш, зірні, хоць з-за пляча майго. Чурбак і чурбак перад табою, ага? І нежывым здаецца, колькі ні пазірай на яго. Але ж ён, чурбак гэты, яшчэ пазалетась, пакуль не нагледзеў і не спілаваў я ліпу, быў камлём яе, часткаю жывога дрэва, якое шмат гадоў піло зямную сілу, увесну апраналася ў зялёнае лісце, у ліпені цвіло духмянымі мядовымі кветкамі, збіраючы пчол з усяго наваколля. Дрэвам, у дрэве жыў, ага? Сваё ў яго жыццё было, на тваё ці маё не падобнае, але ж жыццё. І спілаваўшы яго, выбраўшы з камля яго найбольш прыдатны, найбольш жывы кавалак, не смерці я дрэву хацеў. Не смерці, унука. Хацеў, хачу ў яго другое — іншае жыццё ўдыхнуць, і як змагу, як хопіць сілы і дзён, будзе доўга жыць ён у вобліку і божым і чалавечым.

— Я пыталася...— апусціла галаў Ефрасіння: любоў да дзеда змагалася ў ёй з бязмежнаю libераю ў кнігу і ў тое, што там пісалася, і не магла адолець яе.— Гэта ску... скульптурай называецца. Касьяна Янаўна нам кнігу паказвала, і ў ёй — твае ўгоднікі. Трохі іншыя...

— Кнігу, кажаш? Мо Біблію? — зноў пачаў пагладжваць, пакручваць вусы той і, убачыўшы, як хуценька і рашуча закруціла яна ў адказ галавой, насупіўся і

зглынуў гатовую ўжо засвяціцца ўсмешку.— Ужо ж, Біблію ў школу настаўніца не панясе: па-сённяшняму вучоная, ага?

— Ага,— пагадзілася Ефрасіння.

— Як ты сказала, называецца?

— Скульптура. З дрэва, з каменя, з железа — усё скульптура. І мно-ога карцінак у кнізе!

Дзед Ігнацій задумліва пазіраў на работу рук сваіх, колькі раз нават крануўся чурбака пальцамі, змахваючы нябачныя стружкі ці пылінкі. Потым, быццам знайшоў раптам важкае тлумачэнне новага, нячутага слова і тым задаволіўся, азірнуўся на малую, і ўсміхнуўся, і весела затрос галавою («Ага! Ага!»), і памкнуўся ўстаць, але, згледзеўшы, што ўсё яшчэ трымае ў руцэ долата, перш чым падняцца з зэдліка, асцярожна, беражна паклаў яго на разасланую збоку анучку, дзе ляжалі іншыя, добра дагледжаныя прылады.

— Так ці іначай называецца, унука, не ў назве сакрэт, ага? Няма ў прыродзе ні мёртвага дрэва, ні мёртвага каменю, ні мёртвага металу. Няма і не будзе, пакуль ільга ўдыхнуць у іх жыццё — богу льга ці чалавеку — таму, хто чуе ў сабе душу, чуе боль ейны за ўсё і ўсіх. Шчасліваму шчасце, унука.

Прамаўляў ён словы спакойна, няспешна, і адно мітуслівыя рухі яго, адно таптанне яго перад Ефрасінняю і хуткія зіркі ўбок, у той куток, дзе былі складзены, састаўлены нарыхтаваныя ім чурбакі, калоды і калодкі, казалі за тое, што яму карцела нешта, муляла. І ледзь толькі Ефрасіння зрабіла нецярплівы рух да яго, ступіла крок і другі — матлянуўся да сховы («Пакажу, ага?»), адставіў, пераставіў колькі калодак, і вачам дзяўчынкі адкрылася дзіўная, зусім не падобная на ранейшых дзедавых угоднікаў постаць. Не з крыжа сходзіў, а з жывога камля, аднекуль знутры, з тоўшчы яго, выломваў крылы, выходзіў, ступаў насустрач ім (гэтак здавалася!) хтосьці, хто калі прыгледзецца, на-

гадваў самога дзеда Ігнація: быў гэткі ж высокі, жылісты, даўгатвары, з гэткім жа рэдкім вяночкам кудзерак круга галавы. Галава была злёгку, як і ў іншых дзедавых святых, пахілена набок, але рукі... Рукі не ўкрыжоўвалі пакуту, а прымалі — апушчаныя ўздоўж тулава, былі напружаныя і звялыя, пакорныя адначасна...

— Ефрасіння, чуеш? Глянь, якая птушка паблізу садзіцца! Ужо ж, відаць, начальства высокае зірнуць на нас, баб, з самёханькаю ахвотаю выбралася. А? Чуеш?

Ефрасіння чула. Але на голас Насцін не павярнулася. Стаяла, атрэсвала запэцканыя рукі, сяды-тады тручы іх адна аб адну, і пакуль яшчэ бяздумна (думкі былі ў далёкім, даваенным часе) пазірала ў бок лужка, на які садзіўся верталёт. Пазірала спакойна, хоць і не змагла б зараз растлумачыць, чаму не чула яго прапелераў, а голас Насцін чула.

Бабы ўжо сыходзіліся. Час быў палуднаваць, ды і лятак гэты з прапелерам, хай сабе і не дзіва дзіўнае па сённяшніх часах, усё ж зацікавіў: на іх памяці вось так, побач, за трыццаць — сорак крокаў не садзіўся.

— А што, Ефрасіння, мо гэта жаніхі нашыя па нас прыляцелі?

— Пэўне ж. Хаты падчэпяць сваімі вужоўкамі і — напрасткі да ўсявышняга: прымай, маўляў, рассяляй, стары, як не хочаш гембелю.

— Во-во! Тваю хату, Марфа, прыўзняць — і рассыплецца: усім калгасам потым па бярвенцу не збяром.

— Хата што! Абы костачкі не рассеяць.

— Гледзечы хто сеяць будзе. Як гожы хто, дык чаму ж, хай бы сеяў з самёханькаю ахвотаю: ужо ж, мо не гора ўзышло б. А? А то што ні сеем — то сонцам выпаліць, то дажджом павымывае.

— За тое ж і палёгку кожны старшынька абяцае, на вярхі азіраючыся.

— Вярхі зверху, дзе ж ім згледзець адтуль, што на зямельцы расце. Вось лічбы і растуць. З самёханькаю ахвотаю.

— Чаго гэта вы разышліся? — перабіла, атрэпваючы ад пяску рукі, Ефрасіння.— Бы ўзапраўду жаніхоў чакаеце. А тут, відаць, начальства з самога Мінску...

— А хоць і з Масквы, а, бабы? У нас наша ніхто адбіраць дужа не спяшаецца: як была спіна крукам, так крукам і будзе, пакуль смерць нас не папрыбірае,— крыху гундосіла ў нос Марфа.— Ведама, работы век не перарабіць, а гэным што: як не на бліскучым легкавіку, дак на летаку дамчыць да камуны спланаванай. Я вось толькі ўсё думаю, хто ў камуне гной будзе расцягваць, растрэсваць штовосень, га? Дзеўкі нашыя ў міні гэтых з разрэзам да пупа не будуць, не-е. Мы перамром, а яны не будуць.

— Давяла, няма чаго казаць!

— Цыць-це! Ідуць...

— А хай ідуць. А то яны таго не знаюць, што з гною ўсё расце, што і камунізма без гною ды рук, якія ў ім калупацца звыклыя, стаяць не будзе. Гэта Ефрасіння, бо ў звеннявых ходзіць, няхай словы далікатнейшыя вышуквае, выбірае, а мне і так гожа, як думаю. Так і скажу, як слухаць схочуць.

— Марфа, якая муха цябе ўкусіла? — ціха, прыцішыўшы голас, з дакорам зірнула Ефрасіння на яе, разгарачаную словамі: трое мужчын у аднолькава шэрых касцюмах набліжаліся, і ў адным з іх, высокім. хударлявым, яна, больш чуццём, чым па згадках пра фотаздымкі ў газетах, пазнавала і баялася пазнаць Машарына, самога Мірона Карпавіча Машарына, кіраўніка рэспублікі (чула, што ён ў парадныя дзверы не ходзіць, а вось так, з двара, з поля, людзей не мінаючы,

і гаспадаркамі знаёміцца, але ж чуць — адно, а твар у твар з ім апынуцца — зусім іншае).

А той ужо ўсміхаўся («Дзень добры, жанчынкі!»), а той ужо руку ёй, Ефрасінні, падаў, і Ефрасіння сумелася, схавала рукі за спадніцу, зашморгала далонямі па сукне.

— Рукі ж у пяску. Выбачайце.

— За рабочыя рукі грэх выбачацца,— чакаў ён і потым шчыра цiснуў ёй руку.— Зямля ж бруднай не бывае, хоць у ёй не адно свая, а і наша, людская, кроў. Як? Правільна разумею?

— А хто вы будзеце? — не стрывала Марфа, пакасіўшыся на Ефрасінню.— Начальства ў нас рэдка гасцюе.

— Дык і я ж не ў госці! — засмяяўся той, злёгку адкінуўшы галаву, ад чаго раптам рассыпаліся круга русыя валасы яго.— Хутчэй ужо зірнуць, хто ў полі шчыруе, а хто ў канторы паперу марнуе. Добры дзень, добры дзень!

Ён пацiскаў жанчынам рукі, усмешліва зазіраў у твары, жартаваў, і жанчыны пацiху адмякалі: знікла некуды насцярога, пацяплелі вочы, з'явіліся ўсмешкі. Нават прысутнасць яго спадарожнікаў, мітуслівых і не падобных да яго, нават тое, што ён, назваўшыся, аказаўся з начальства такога высокага, што, здэцца, галаву задзяры — паглядам не дацягнешся, не парушылі ўзніклага даверу. Нібыта і не расказвалі нічога, а незаўважна ўсё пра свае клопаты расказалі.

— Усё на бяду, на вайну дасюль ківаем,— нечакана для ўсіх завяршыла гаворку пра калгасныя справы Наста.— А не ўсё мо і на яе, праклятую, спісаць трэба.

— Не ўсё,— лёгкі цень слізгануў па твары Машарына,— толькі ж раны, ёю нанесеныя, нам яшчэ доўга смылець будуць. На даваенную колькасць жыхароў за сорак гадоў не выйшлі... Вінавата вайна перад усімі, а мы, мы — перад вамі, што ўсё вам палёгкі ніякай няма.

Спахмурнелы і нібыта пастарэлы раптоўна, Мірон Карпавіч змоўк, азірнуўся на сваіх спадарожнікаў, якія адышліся і чакалі яго, і пачаў развітвацца. З кожнай жанчынай асобна. Моўчкі. Неяк беражна, аберуч націскаючы спрацаваныя іх рукі. І калі пайшоў назад, да летака свайго, асцярожна переступаючы цераз зялёныя радкі буракоў, яны, незвычайна кранутыя, узрушаныя (ад чаго нібы саромеліся адна адной), праводзілі яго позіркамі, пасвятлелымі, поўнымі старога непазбыўнага смутку вачыма.

## XXXVI

Смутак быў разліты ў паветры. У самой прыродзе. Нябачна ўздрыгваючы, сплывала некуды ўгору чыстае, без аніводнай хмурынкі неба — і ў яго глыбіні танулі малітвы ўсіх былых і ўсіх будучых дзён. Люструючы раўнадушнае ззянне высокага неба, цякло, сплывала вадою Палаты ў Дзвіну і далей на поўнач наўколле — і на хвалях, размытыя імі, нячутна гайдаліся, трымцелі светлыя адбіткі, таямніча-незнаёмыя воблікі цішыні. Кожнаю галінаю, кожным парасткам, самім дыханнем сваім, здаецца, цішыня будзіла вецер, а ў ветры, з руху яго, ужо вырасталі маладыя лясы — вырасталі ў будучыню, якую ёй, Ефрасінні, не ўведаць, не ўбачыць. Не ёй адной, але і ёй.

Мо няўцямнае яе шкадаванне гэтых хуткаплынных імгненняў жыцця, мо нязвыкла вострае адчуванне поўнага ачужэння прыроды, якое змушала яе да адзінотнага, да адзінокага блукання між сваіх думак, тут, над Палатою, было прычынаю, але ні спелае буянне муроўніку пад нагамі, ні зялёнае калыханне вербаў і — вышэй, на строме,— бярозак, ні бруістая чысціня ручаінак не закраналі Ефрасінню. Так, бы таямнічае, не падуладнае ёй жыццё прыроды раптам адпрэчыла яе і, няхай на вачах, няхай зусім побач, святкавала летняе раўна-

дзенства, не зважаючы на яе, не заўважаючы ні яе захаплення, ні яе смутку.

Чым больш пільна ўзіралася Ефрасіння ў воблік ранку, тым больш аддаляўся той, мяняючыся, зліваючыся з імгненнямі, што цяклі міма, міма... Ужо ж, прырода ведаць пра яе не ведала: адпрэчваючы яе, Ефрасінню, яе жыццё, яе спадзяванні, жыла, дзейнічала з тою велічнаю ўрачыстасцю і абыякавасцю, што былі б крыўднымі, калі б тычыліся яе адной. Ніводзін са смертных не мог пахваліцца тым, што прырода падзяляла ягоны боль, адгукнулася на ягоную радасць: імгненні, вечныя і такія кароткія, цяклі міма і міма...

Вось яна, дзевяцігадовая, з маці і сястрою сваёю Гардзіславаю, сярод баяр у высокіх шапках, атарочаных сабалінаю ірхою,— паўз іх, паўз маўклівы насцярожаны натоўп рамеснікаў і смердаў, што сабраліся з усіх гарадскіх пасадаў, ідуць асуджаныя на далёкае выгнанне князі полацкія, усе нашчадкі вялікага Усяслава... Вось яна перад біскупам і мужамі вярхоўнымі са сваёй, ёю, князёўнаю, пісанай кнігі чытае і, заўважыўшы недавер на тварах, успыхвае і просіць назваць любога прарока з вядомых ім, каб яна магла ад імя яго мовіць і тым пераканаць... Вось азваўся бомкнуў, загуў вялікі Сафійскі звон над галавою, і яна, мнішка, пастрыжаная з імем Ефрасінні і тут, у Святой Сафіі, прывечаная з ласкі біскупа, з высокай званіцы дзівіцца на зямлю полацкую, на захад і на ўсход, на поўнач і на поўдзень адсюль, колькі льга ўвабраць поглядам у душу... Міг — і ўкленчвае разам з бацькам, князем Георгіем, і братам яго, князем Барысам, перад біскупам, воляю якога не мнішка яна ўжо, а ігумення, ігумення Спаскага манастыра... Міг — і, уладная, гордая, справамі сваімі ў славу госпада, у славу зямлі полацкай, няспешна ступае ўздоўж шырокага дубовага стала, аберуч яго, а над сталом схіляюцца белыя і русыя галоўкі дзяўчынак, малых сірацінак, якіх манахіні

вучаць грамаце і пісьму... Міг — і ўзлятае, калышацца пры яе набліжэнні агеньчык свечкі, пастаўленай перад іконаю Корсуньскаю, перададзенай манастыру воляю імператара Візантыі, і словы малітвы, звернутыя да багародзіцы, гучаць строга і ўзвышана... Імгненні, згадкі, бліскі іх — міма! міма!

Міжволі азірнулася Ефрасіння ад Палаты на манастыр свой, на верх новага храма, над якім мудраваў зараз Іаан з памочнікамі сваімі. «Завершаць! Цяпер ужо завершаць работы да дня Святога Спаса»,— мільганула ў думках, і крыху пацяплела на душы: за трыццаць тыдняў, як хацела, устане сабор, каб стаяць не адно стагоддзе, каб стаяць там, дзе стаяла яна, смертная...

— Хутка да палудніцы будуць званіць. Я шукаю цябе, Ефрасіння.

— Ты заўважыла, сястра, якая абыякавая да нашых бедаў і радасцяў, да нашых клопатаў прырода?

— Абыякавая? — разгублена азірнулася тая і, нічога новага, падазронага ні ў рэдкім пералеску, ні ў далячынях за ёю не ўгледзеўшы, і трывогаю зірнула на Ефрасінню: сцішаная, спакойная, як заўжды, а на твары водсветы якіясь — ці то самога неба, ці то адлюстравання яго ў вадзе Палаты.

— Хоць ты, хоць я для яе — мураха малая, меншая за мураху, і калі ўявіць на міг, што яна, прырода, не адно твар зямлі нашай, а і твар таго, хто стварыў...

— Што ты, што ты, сястра! — злякалася Еўдакія, злякана перахрысцілася раз і другі раз.— Адзінасутны воблік Хрыстовы, нам дарованы, і не было б яго перад намі, загінуў бы род чалавечы, заблудзіўшыся ў сумненнях сваіх.

— Угледзела ў словах сумненне? Не сумненне гэта, сястра, а жаданне зразумець, спасцігнуць маласць сваю і веліч сваю перад тварам усявышняга. Не ў свеце высокім і горнім, куды мкнуцца душы нашы і думкі

нашы, жывём мы, а на зямлі, між магутных лясоў яе, не берагах рэк і азёр яе ўскрай узаранага поля, ускрай неба, а голасу зямлі (ні ўхвалы, ні асуду ў голасе яе) не чуем. Як і яна нас — бедаў нашых і радасцяў нашых — не чуе. Адным жыццём жывём, адно сонца кругa сябе бачым, адным зярняткам вечнасці насычаемся, а — чужыя. Чужыя ж — значыць, будзе, прыйдзе дзень, век, калі ворагамі можам стаць і гэтаю варожасцю паміж намі ўсё жывое знішчым. Вось пра што я.

— Воляю ўсявышняга жыццё пасеяна, вольны ўсявышні і забраць яго за грахі нашы, усё жывое знішчыўшы. Гэтак у пісанні моўлена.

— Гэтак і я моўлю душы сваёй, малітваю грахі людскія замольваючы. Толькі ж, мяркую, розум нам усявышнім не адно для таго дадзены, каб маліцца і грахі замольваць: і навукам розным слугуючы — богу чалавек слугуе, і рамяству карыснаму навучаны — тым да бога, да божае справы далучаны. І тое, што не проста між сабе падобных мы жывём, а на зямлі — між магутных лясоў яе, на берагах чыстых рэк і азёр яе ўскрай поля і ўскрай неба, змушае, змусіць нас зразумець, спасцігнуць яе прыроду, яе мову. Іначай...

— Што іначай, Ефрасіння?

— Сон мне звідзеўся. Сон, не сон — прывід. Страшны, калі прарочым палічыць, прывід вогненны. Быццам сабор Святога Спаса, які ўзняўся над пасадамі манастырскімі, проста спаруда-знак на мяжы часоў. Межавы знак жыцця. Не нашага, а зямнога жыцця, бо няма, не было ўжо нас у ім — ні ў старым часе, ні ў новым.

— Госпадзі, памілуй!

— Не памінай госпада, сястра. Перш паслухай. Здаецца мне, не голас госпада нашага, а голас дзеда нашага, Усяслава, пільнаваўся прывіду майго дзіўнага. Спярша быццам прыпамін даўні, дзіцячы яшчэ, вярнуўся, вяртаючы мяне ў былое, у мінуўшчыну, дзе на гарадскіх вуліцах у цемрадзі, начной ці пякельнай,

чуліся стогны жудасныя, іржанне конскае і пошчак вострых капытоў — і хаваліся людзі, і ў сховах сваіх паміралі, а войска гэта, д'ябальскае, а не чужынскае, усё скакала, топчучы, вытоптваючы зямлю нашу. Калі ж аддаліўся і аціх пошчак, чорная, згарэлая на вугаль зямля ляжала мёртвая. У мяне на грудзях ляжала — ні зварухнуцца, ні ўздыхнуць я не магла.

На імгненне перарваўся аповяд Ефрасінні. Уздыхнула яна цяжка. Павяла рукою няўцямна, быццам пляча сястрынае шукала, а ледзь знайшла, тут жа, сле-па крануўшыся яго, адхінулася, адступіла на крок.

— Голас жа гучаў, голас наказваў: «Пазірай, не адводзь вачэй, Прадслава!» Менавіта Прадслава: «Пазірай, не адводзь вачэй, Прадслава!» І я пазірала. Знізу і зверху адначасова. Бо бачыла і сябе, прыціснутую, уціснутую ў змрок узваленаю на мяне зямлёю, і ўсё, што адбывалася побач, нада мною.

— Гасподзь літасцівы! — хіснулася і, утрыманая палкім, няўцямным позіркам Ефрасінні, бяссіла прыхінулася да бярэзіны Еўдакія.— Я б памерла, не раўняючы...

— А нада мной — з грудзей маіх! — прарасталі, раслі, вышэлі травы і дрэвы, усе вядомыя зямлі травы і дрэвы. І ўсюды гнездаваліся птушкі, і бруіліся ручаінкі, і спелі кветкі і плады іх. І ўсюды віліся, сутыкаючыся і разыходзячыся, сцежкі, сцяжынкі, шляхі. Я не чула болю. Сцiналася ў чаканні яго, але болю не было. Нават тады не забалела, калі з грудзей пачаў выломвацца, вырастаць каменны храм — той, які паўстане ва ўсім харастве сваім, калі завершыць Іаан яго верх крыжам святым. Нават тады.

Малітва перасядала ў горле, гарчыла, і Еўдакія, слухаючы сястру, з жахам думала, што гасподзь адступіўся ад яе ў гэту хвіліну, як адступіўся ад Ефрасінні ўначы, не адагнаўшы страшны прывід, не аблегчыўшы страшную муку яе, цяжкую, пякучую дагэ-

туль. Бо вось жа і зараз збялелы як палатно твар Ефрасінні жыў толькі трывожнымі, балючымі бліскамі воч яе, бо вось жа і зараз з цяжкасцю прамаўляла яна, ледзь расшчапляючы сухія гарачыя вусны. Мукай, вялікай душэўнай мукай аплачана перажытае ўначы, а і казаць жа, распавядаць пра ўбачанае нялёгка: словы камянямі падалі пад ногі...

— Падняўся сабор — нібыта я балясамі яго, сценамі яго паднялася, саборам гэтым стала. А ўсё бачу: і лясы, і рэкі, і азёры, і шляхі, коньмі, конскімі капытамі бітыя. Толькі раптам зямля расколвацца пачала, што леваруч, што праваруч ад мяне. Ад сабора, што на грудзях маіх, як на грудзе зямным, стаяў, не пахіснуўся. Дрэвы хісталіся і падалі, шляхі наўстрач уставалі, скукожваліся, азёры з берагоў сваіх, як з чараў, у вецер выплёскваліся, а ён — стаяў. Адно падножжа яго сям-там мохам пабралася, адно тынкоўка сям-так сівым пылком абляцела, асыпалася.

— Знаць, перажыве гэты храм усе іншыя,— з жахам (і з захапленнем!) прашаптала Еўдакія, прасачыўшы пагляд Ефрасінні.

— Ледзь толькі радасць ува мне зварухнулася, як тут жа боль душу працяў, вярнуўшы слабасць. Ці страх... Не то зямля раскалолася, не то часы распаліся, леваруч, шырокай дугой аблягалі груд кастры высокія, капішчы паганскія — і ў водбліскаах полымных звіваліся, скакалі, раслі жудасна аграмадныя цені, што толькі аддалена нагадвалі людскія; праваруч, колькі льга было згледзець, калыхаліся выраслыя з самога змроку, здаецца, крыжы дубовыя — лес крыжоў. Быццам праралі імі ўсе колішнія і будучыя магільныя курганы і магілы.

— Гасподзь літасцівы, што ж гэта?

— І гэта не ўсё, сястра, і гэта не самае страшнае,— прыхінулася плячыма да той жа бярэзіны, што і Еўдакія, знясіленая аповядам, прыпамінам сваім Ефрасіння

(ствол, цела бярозы падзяляла і спалучала іх, чарна-
рызніц, сясцёр з гордага роду князёў полацкіх); пагляд
жа, па-ранейшаму моцна і непахісна прыкоўвае яе да
яшчэ не завершанага храма Спаса-збавіцеля.— Кла-
дзішча — мо гадоў, мо стагоддзяў кладзішча? — ажы-
ло раптоўна. Перш цені, невыразныя і размытыя
змрокам, рухацца пачалі — з усходу і з захаду ад-
начасова, потым жа стала відаць, што не цені гэта,
а верхнікі ў вогненных плашчах. Агонь сцякаў з плячэй
іхніх, сцякаў на зямлю, перакідваўся на крыжы дубо-
выя, і на месцы кожнага ■ іх заставалася жменька
попелу ды чорная пляміна, якая распаўзалася, злі-
ваючыся з іншымі, гэткімі ж чорнымі і рухомымі,—
з двух бакоў, з захаду і ўсходу, па слядах верхнікаў.
Верхнікі ж (сцяна на сцяну!) сыходзіліся, вогнен-
ныя плашчы іх, усё шчытней адзін да аднаго, утваралі
вогненныя лавіны, якія павінны былі схліснуцца і ці
то пагасіць адна адну і даць затапіць усё вакол змроку,
ці то змяшацца, успыхнуць яшчэ ярчэй, яшчэ вышэй
і паглынуць усё ў полымі.

— Канец свету... Гэта быў канец свету, Ефрасін-
ня? —учапілася за рукаў, за руку Ефрасінні Еўдакія,
і жах чуўся ў непаслухмяна дрогкіх словах яе, і жах
стаяў у поўных слёз вачах.

— Не ведаю,— упершыню зірнула тая на зляканую
яе расказам Еўдакію, і горкая ўсмешка скрывіла ку-
точкі вуснаў яе.— Не ведаю. Агонь схліснуўся і выплес-
нуўся з пагляду, і полымныя языкі яго паглынулі
ўсё вакол... Але ж храм стаяў.

— Ста-яў? У самім полымі і некрануты ім?!

— У самім полымі і некрануты ім. Гэта апошняе,
што звідзілася.

— Няйначай, гасподзь сам быў сведкам...

Не даўшы дагаварыць, рашуча прыкрыла Ефрасін-
ня пальцамі рот яе: калі гасподзь сам будзе сведкам
таго і не спыніць, не вырве агонь з рук неразумных

дзяцей сваіх, то... Дадумаць не здолела. Збаялася. Не гневу божага, не кары ягонай — пустаты душэўнай збаялася. І тут жа палка пачала маліцца. На храм, які воляй яе падымаўся і падымецца да дня Спасава, на прастору ранку, што адступала, адбягала ўслед за паглядам ад сцен яго, краем лесу сыходзячыся з небам, на далеч падзей і гадоў далёкіх, што адкрывалася не пагляду, а душы яе, малілася не палкая прарочыца, якою была колькі хвілін таму Ефрасіння, а ўладная ігуменя, якою застацца ёй у памяці сястры, у памяці ўсіх, хто схоча, хто здолее знайсці карані сваёй веры ў гэтай малітве. Малілася, і малітва яе была шчыраю, вера ў сілу малітвы — гаючаю: астывала, спакайнела сінь у вачах Ефрасінні, цішэлі, мякчэлі словы, пераходзячы ў шэпт. Перш у шэпт, потым і ў маўчанне, якое, скалыхнуўшыся, застыла і тут жа пачало расці — расло ўшыркі і ўгору, абдымаючы, ахінаючы і Ефрасінню, і сястру яе, і бярэзнік, дзе яны стаялі на самай строме Палаты, і лагчыну яе за ракою, і пацеркі азёр далей, за лесам, і курганы скрозь на мяжы гадоў.

Маўчала Ефрасіння. Маўчала зямля. Маўчала неба над імі. І калі раскалоў маўчанне глухі, быццам прыглушаны адлегласцю голас, нельга было вызначыць, ні чый ён, ні адкуль ідзе — з былога ці з будучыні.

— Чаго чалавек не зможа, то і бог не паможа.

Голас прагучаў — таямніца яго з'яўлення знікла разам з ім.

— Аглух ты, стары? Званіў, званіў... Тузануў дзверы — адчыніліся. Так што без запрашэння, выходзіць.

Кіцын, не вітаючыся і не чакаючы запрашэння, прайшоў у пакой, да століка, з-за якога падняўся крыху збянтэжаны раптоўным яго з'яўленнем Глеб, колькі разоў узмахнуў рукою, быццам дазваляў гаспадару сесці, і цяжка гэпнуўся ў крэсла сам: цяжкое, няроўнае дыханне яго, мітуслівы позірк, які ніяк не мог зача-

піцца за што рэальнае, прадметнае, узмакрэлая, абсыпаная дробнымі кропелькамі поту лысіна, не прыкрытая, як звычайна, джынсавым брылём,— усё казала за тое, што Міся прывяло нецярпенне і нешта, напэўна ж, здарылася. Але з тлумачэннямі ён яўна не спяшаўся. Паёрзваў у крэсле і ўсё не пачынаў гаворкі, мо таму, што не абзываўся, спадцішка разглядваючы яго, Глеб.

— Ты, пэўна ж, у курсе? — мармытнуў ён нарэшце, утрымаўшы на языку колькі больш эмацыянальных слоў, і закашляўся, быццам тыя, нявымаўленыя, словы пераселі ў горле.

— У курсе — чаго?

— Толькі чэсна, стары! Не вешаючы лапшу на вушы. Спадзяюся, ты не будзеш пераконваць мяне, што не чытаў газеты, не сустракаўся з Ляховічам, не прапаноўваў сцэнарый Місюку...

— Не чытаў. Не сустракаўся. Не прапаноўваў,— спакойна, чамусьці нават не здзівіўшыся кірунку гаворкі, перапыніў Міся Глеб.— Пры чым тут лапша? Што здарылася?

Уздыхнуў, з палёгкай адкінуўся на спінку крэсла Кіцын. Напружанасць, якая, здавалася, вызвоньвала ў ім, у кожным руху яго, не знікла, але твар памякчэў, позірк набыў большую ўстойлівасць, а рухі — большую пэўнасць: агладзіў на ўсе верхнія гузікі расшпіленую кашулю, падкасаў, агаляючы валасатыя рукі, рукавы, выцягнуў скамечаную насоўку і доўга, старанна выціраў твар, шыю, лысіну.

— Што здарылася? Калі коратка, стары,— ты ж нашу кухню ведаеш! — то сяму-таму здалося, што мяне льга спіхнуць з дарогі, спісаць. Маўляў, сваё ўзяў Кіцын. Маўляў, здох даўно творча — перажоўвае тое, што даўно зжавана і выплюнута... Артыкульчыкі адпаведныя з'явіліся. Адзін. Цяпер вось другі. А як жа! Трэба ж грамадскасць падключыць, грамадскую думку сфармаваць. С... я, Кіцын (прабач за грубасць), хацеў

на грамадскую думку, але ж на газеты і начальства азіраецца: паверыць мо і не паверыць, а перастрахуецца,— вяла, неяк злосна тлумачыў Місь, зіркаючы зрэдчас на задумліва спакойнага Глеба.— На студыі ідуць гаворкі, што здымаць гістарычны фільм будзе Місюк.

— Які гістарычны...

— Твой, твой, стары. Па тваім сцэнарыі,— паляпаў даланёй па стосе паперы той.— У абход усіх маіх старанняў.

— Нічога не разумею!

— «Думаць над гісторыяй свайго роду, свайго народа і знайсці сваё месца ў ёй, у гісторыі...» Памятаеш? Твае словы, стары. Ці як там яшчэ: «Я, чалавек, хачу ўбачыць, пазнаць чалавека, брата свайго, на далёкіх скрыжалях гісторыі...» — неяк злосна пасміхаўся Глебу ў твар Місь.— Дык вось пагалоска пайшла, што ты — чалавек, што Місюк — чалавек, а я, Кіцын, нібыта і не чалавек, бо нічога, апроч герояў фільма, на далёкіх скрыжалях гісторыі ўбачыць не хачу.

— А ты хіба хочаш? — не зазлаваў, не пакрыўдзіўся, толькі спахмурнеў Глеб, адчуўшы, што — дадуць ці не дадуць Місю здымаць фільм — ён, Глеб, працаваць з ім не будзе, цяпер ужо не будзе.

— Я працую не з ідэяй, а са сцэнарыем.

— Сцэнарый, як і любая работа, у якой аўтар не адстойвае ніякай пазіцыі, ніякай ідэі,— слоўны, ці які яшчэ там, пылок. І калі ты...

— Стоп, стоп, стоп! — замахаў той рукамі.— Вернемся да ідэі, да таго, што ты называеш ідэяй і што, па сутнасці, набор прыгожых слоў, не болей.

— Калі для цябе...— памкнуўся абарваць гаворку Глеб, але Місь, быццам адчуваючы гэта, перапыніць сябе на даў.

— Гаворка не пра мяне. Пагалоскі пагалоскамі, а я такі ж чалавек, стары, як і ты, толькі больш вопытны і сёе-тое, не ў крыўду табе кажучы, за жыццё

сваё ўсё ж зрабіў. Зрабіў. І бачу — ведаю! — што чалавек стаміўся ад высокіх слоў, ад заклікаў і эмацыянальных усплёскаў, ад розных вымудраў і даследаванняў. Ён хоча проста жыць.

— Проста есці, піць, спаць...— з'едліва прадоўжыў Глеб.

— Так, калі хочаш. Есці. Піць. Спаць. Пажадана сытна есці, не адно ваду піць і не толькі [illegible] жонкаю спаць. І ты гэта ведаеш не горш за мяне. Нішто чалавечае, як кажуць...

— Чалавечае? А годнасць, гордасць за сябе і род свой — гэта што? А боль нязбытных спадзяванняў і згаслых памкненняў? А адказнасць за духоўную спадчыну? За будучыню? А зямля — яе рэкі, лясы, азёры, повязь з якімі і ёсць наша повязь з жыццём?

— Гэта ўсё словы, стары. Словы, якімі мы забаўляемся, цешачы сваё самалюбства. Ці — сваю гордасць, калі па-твойму. У жыцці ж і ты — і ты, да, да! — заўважыў гнеўны бліск у позірку Глеба і паспяшаўся ўдакладніць Місь,— ясі, п'еш і спіш. І працуеш — каб есці, піць, спаць. І аспрэчваць гэта — аспрэчваць саму аснову жыцця, закладзеную ў падмурак любой здаровай філасофіі.

— Ты хочаш так і праляжаць у гэтым падмурку? — стрымаў сябе Глеб, ужо гатовы ўскочыць з крэсла, стрымаў, стрымліваў з цяжкасцю, упіваючыся пабялелымі пальцамі ў край століка.— Ты да гэтага мяне — а то мо і ўсё людства? — заклікаеш?

— Род, народ, людства! — зморшчыўся той.— Павер мне, стары, ты хутка вырасцеш з гэтай апраткі.

— Не смей! — сарваўся Глеб з крэсла і, каб хоць неяк суцішыць, астудзіць свой гнеў, не даць яму выліцца ў абразу, у лаянку, адбег да акна, адвярнуўся, павярнуўся да святла. Колькі часу маўчаў (не абзываўся з-за спіны і Місь), і, толькі пабароўшы сябе, сваё абурэнне, спакайней, цішэй — і больш рашуча, быццам

кропкі расстаўляў,— мовіў: — Ты не смееш гаварыць пра народ, калі ў сэрцы тваім няма ні гонару, ні болю за яго. Па крайняй меры, са мной.

Кіцын палагаднеў. У яго планы, відаць, не ўваходзіла рассварыцца з Глебам сёння, зараз; яшчэ ж не ўсё, на яго думку, было прайграна. Таму ён пашчоўкваў пальцамі, падшукваў у думках мякчэйшыя, больш індыферэнтныя словы і ў іх, у словах, шляхі адступлення. Прымірэння. Няхай часовага, а ўсё ж прымірэння (устаць бразнуць дзвярыма і пашукаць менш ідэйнага сцэнарыста ён, Кіцын, заўсёды паспеў бы).

— Урэшце, калі я не заўсёды разумеў твой максімалізм — хоць бы і на калегіі,— то ўсё ж і пошуку твайму не перашкаджаў. Працуеш над сцэнарыем? Працуй. Мы маглі б працаваць разам...

Голас яго перарываўся, раз і другі раз, у раптоўным жа маўчанні пачулася недаўменне. Калі ж маўчанне парушыла хуткае, нервовае шархаценне паперы, Глеб, здаецца, спіной, убачыў разгублены, разгублена-злосны твар Кіцына: на століку ляжаў стосік чыстых, апроч самых першых дзвюх старонак, незапісаных аркушаў — сцэнарыя, ці хоць бы накідаў да яго, не было.

— Дык, значыць, Місюк пабываў у цябе?!

Глеб павярнуўся. Спакойна, нават усмешліва, зірнуў на разгневанага і ў гневе ўзмакрэлага адразу да самай лысіны Кіцына.

— З чаго ты ўзяў?

— Сцэнарый!

— Ён — перад табой.

— Гэ... гэта? — круціў перад носам лісткі, спісаныя ўбарыстым Глебавым почыркам, Кіцын.— Ты гэта... не таго? А?

— Гэта ўсё, што я пакуль што зрабіў.

— У-сё?! «Калі яшчэ раз выблісквае ў разрыве хмары месяц і якраз у гэты момант вецер расхінае, вырываючы з моцна сашчэпленых рук, цёмнае карзно,

падобнае на сутану з нагалоўнікам, загадка перастае быць загадкай: гэта — маладая князёўна, дванаццацігадовая дачка князя Георгія Усяславіча Прадслава...» — і вось гэта ўсё?! — падняў Місь на яго разгневаны позірк, і раптам, быццам толькі ў гэты міг зразумеў усю недарэчнасць і гаворкі, і свайго гневу, і свайго нядаўняга, афарбаванага апошнімі няўдачамі нецярпення, рагатнуў, а потым і зарагатаў — гучна, раскацaverage, раз-пораз захлёбваючыся і выціраючы вочы.— У-сё, га-га-га! Гэта ўсё, з-за чаго сыр-бор...

Твар яго наліўся чырванню і, раз-пораз перакошваючыся, уздрыгнуў ад рогату, рукі (у адной ён трымаў прыкамечаныя ўжо з краю лісткі, у другой — насоўку) боўталіся ў паветры, паміж тварам і столікам, тулава пахіствалася з боку на бок і, здавалася, расло ў памерах. Пазіраць на яго Глебу было непрыемна. Нават гідка. І ён, павярнуўшыся, адвярнуўшыся, з усё больш пільнай увагай — так што хутка ўжо не слухаў, не чуў рогату Кіцына, быццам таго не было ў пакоі,— пачаў узірацца ў свае малюнкі, у планшэты, расстаўленыя ўздоўж сцяны і кніжных паліц.

Час пацёк наўстырч. Назад. Закручвалася, скручвалася ў жывы, рухомы жгут васьмі вогнішчаў паганскае капішча. Рос, распаўзаўся на заінелым драўляным насціле цень Сафійскага сабора, у які ўціскалася скурчаная постаць шаляніцы Еўкі ў брудных рызманах. Уставала побач, адцясняючы, засланяючы гаротніцу, сцяна мнішак, чарнарызніц, і на цёмным фоне іх успыхваў, свяціўся тонкі, адухоўлены твар уладнай ігуменні, гордай Ефрасінні. Ступаў ад яе — за крок ад яе — над прадоннем, паміж двух прадонняў, анёлак са звязанымі крыламі і завязанымі вачыма, і недзе, леваруч ці праваруч ад яе, таіўся ў змроку невядомага нябачны, так і не прыручаны чалавекам агонь. Агонь, які мог вырвацца і затапіць, захліснуць усё вакол...

Глеб памятаў — і ў гэту хвіліну памятаў, што шлях, якім увайшла Ефрасіння ў гісторыю,— шлях асветніцтва: няхай нельга пагартаць летапіс, пісаны ёю і страчаны ў віхуры стагоддзяў, але ўсе гэтыя стагоддзі спасылаюцца на яго, тым самым пераконваючы ў яго існаванні, няхай нельга дакладна апісаць школы, адкрытыя ёю пры манастырах, але доказам таго, што яны, школы, былі,— росквіт культуры ў тагачасным полацкім княстве, нягледзячы на ўсе княжыя міжусобіцы...

Прадслава, дачка князя Георгія Усяславіча,— гордая, уладная ігуменне манастыра Спаса — святая, якая паломнічала ў Іерусалім і там памерла,— Ефрасіння Полацкая, асветніца перыяду Кіеўскай Русі... Кожны год яе кароткага жыцця ўмураваны ў будынак гісторыі, кожны ўзлёт яе палкай душы занатаваны на гэтых мурах — яе, Ефрасіннінай, воляю ўставалі і цягнуліся сваімі залатымі крыжамі да неба саборы, яе воляю ўпрыгожвалі іх сцены фрэскавыя роспісы, яе воляю ствараліся рэчы, непераўзыдзенае хараство якіх дагэтуль вабіць уяўленне мастакоў.

Усё так. Усё іменна так. І ўсё ж, не меней важна было зразумець яе, Ефрасінніну, трывогу. Трывогу душы, сэрца, якую не цішылі малітвы, не рабілі лягчэйшаю паломніцкія сцежкі.

Але роздум пра гэта быў яшчэ наперадзе...

**Литературно-художественное издание**

**БОНДАРЬ Таиса Николаевна**

**ИСКУШЕНИЕ**

**Роман**

Для старшего школьного возраста
Минск, издательство «Юнацтва»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

**БОНДАР Таіса Мікалаеўна**

**СПАКУСА**

**Раман**

*Для старэйшага школьнага ўзросту*

Загадчык рэдакцыі *В. М. Новік.* Рэдактары *У. Б. Ідэльсон, Я. І. Хвалей.* Малодшы рэдактар *Г. Д. Зінчанка.* Мастацкі рэдактар *В. І. Кліменка.* Тэхнічны рэдактар *З. Г. Сень.* Карэктар *А. К. Юшына.*

**ІБ № 1192**

Здадзена ў набор 11.08.88. Падпісана да друку 08.06.89. АТ 04190. Фармат $70 \times 108^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура Школьная. Высокі друк з ФПФ. Ум. друк. арк. 17,5 + 0,79 укл. Ум. фарб.-адб. 20,0. Ул.-выд. арк. 18,30 + 0,66 укл. Тыраж 30 000 экз. Зак. 1713. Цана 1 р.

Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Бондар Т.**

Б81 Спакуса: Раман: Для ст. шк. узросту/ Маст. А. М. Кашкурэвіч.— Мн.: Юнацтва, 1989.—398 с., [9] л. іл.

ISBN 5-7880-0177-3.

Бондарь Т. Искушение: Роман.

Адзін з герояў новага рамана пісьменніцы Таісы Бондар спрабуе стварыць партрэт асветніцы XII стагоддзя Ефрасінні Полацкай. У рамане паступова разгортваецца карціна складанага, поўнага драматызму жыцця далёкага XII стагоддзя, падзеі якога дзякуючы ўпадабанаму аўтарам прыёму рэтраспекцыі пэўным чынам зліваюцца з роздумамі, пачуццямі і справамі нашых сучаснікаў.

Б $\frac{4803120201-112}{М\ 307(03)-89}$ 47—89

ББК 84 Бел 7